Пасляслоўе А. А. Марціновіча

Новую книгу народного писателя Белоруссии Ивана Шамякина составили повести «Жертвы», «Драма» и пьеса «Стратегия». «Жертвы» — повествует о трагической судьбе подпольщика Шабовича, попавшего в руки сталинского энкавэдиста. «Драма» — о сложностях перестройки, о ломке психологии людей в условиях демократии и гласности. В центре «Стратегии» — революционные события в Петрограде в канун победы Октября.

# АХВЯРЫ

АПОВЕСЦЬ

## *1*

У зямлянцы было цёмна. Ніколі раней буржуйка, добрае вынаходства, цяпер ужо, здавалася, далёкіх часоў грамадзянскай вайны, не дыміла, звычайна наганяла лазневую цеплыню хутка, і ў такі вячэрні час нярэдка адчынялі дзверы, каб выветрыць сухую духату. Цяпер жа цеплыню выдзьмула за адну хвіліну, як толькі адчынілі дзверы.

На дварэ гуляла ранняя завіруха, злосная, як сама вайна, як нечаканае варожае нашэсце. Лес не шумеў — стагнаў многагалоса, то гудзеў трубна, то выў параненым воўкам, то плакаў мноствам дзіцячых галасоў. Вецер не прабіваў сцяну дрэў, а гнеўна кідаўся на зямлю з неба, праз вершаліны, слабеў у галлі, але асобныя яго струмені прарываліся ў «вокны» — у прагаліны ад паваленых для будаўніцтва лагера сосен, і ўзвіхрывалі калючы снег. Час ад часу такі ветраны абвал абрушваўся на зямлянку, на комін, і тады печ пыхкала полымем і дымам праз усе шчыліны.

Хворыя грудзі начальніка штаба Брагінскага раздзіраў пакутлівы кашаль. Капітан споўз са свайго драўлянага вузкага тапчана на падлогу, на яловыя лапкі, накрытыя нямецкай плашч-палаткай. Такім быў «ложак» самага маладога жыхара зямлянкі камісара Ігара Кіпеня: чацвёрты тапчан не змяшчаўся; калі будавалі зямлянку, у каманднай групе было трое.

Камандзір атрада Аляксей Іванавіч Ман сядзеў за сталом пад ліхтаром «лятучая мыш», язычок агню якога таксама хліпаў ад ветру ці дрэннай газы, і займаўся незвычайнай працай — выразаў з асінавай плашкі... міску. Атрымоўвалася гэта ў яго вельмі ладна. На стале апетытна бялелі ажно тры такія міскі — прадукцыя апошніх дзён. У атрадзе вастрасловы кпілі, што камандзір гандлюе міскамі і лыжкамі. Аляксей Іванавіч пасміхаўся ў сваю рыжую бараду. Было. Усё было. Вывозіў ён разы два свае міскі ў райцэнтр на рынак — хацеў уласнымі вачамі паглядзець на прадстаўнікоў новай улады — на немцаў, паліцаяў. Прадаваў свае вырабы камандзіру суседняга атрада даўняму сябру Цімоху Дзядзюлю. Толькі нікому не казаў пра цану: лыжка — абойма патронаў. Дзядзюля лаяў яго па-сяброўску: «Жмот ты! Гандляр! Шпекулянт!»

Але не прызнаваўся, што лыжкі і міскі гэтыя памагаюць яму ў выглядзе лапцюжнага селяніна прабірацца ў Мінск і там куды больш выгадна вымяньваць іх на рэчы не менш патрэбныя, чым патроны.

Ман слухаў кашаль таварыша, і ў яго па-бацькоўску балела сэрца. На шырокай яго лысіне выступілі буйныя кроплі поту, не столькі, пэўна, ад натугі пры рабоце разцом, колькі ад жалю і спачування. Між іншым, лысіна яго здзіўляла і захапляла маладых — Брагінскага і Кіпеня: у сорак два гады такі «аэрадром для мух», як ён сам жартаваў. А яшчэ больш, бадай, усіх у атрадзе здзіўляла барада: пры такім «голым полі» на галаве густы зараснік у ніжняй яе частцы. «Ад чаго гэта так?» — спытаў нехта з цікаўных партызан. Аляксей Іванавіч сам адказаў: «У гэтай каробцы што знаходзіцца? Апарат, які думае. А там, дзе кустарнік? Сківіцы. Яны жуюць. Робяць зарадку. Ад таго і расце на іх».

Брагінскі зноў зайшоўся ў кашлі, уткнуўшыся тварам у яшчарна-зялёную пляму плашч-палаткі.

Аляксей Іванавіч перасмыкнуўся, як ад уласнага болю.

— Лезь, Навум, на сваё ложа. Я выветру дым.

Калі капітан лёг на канапу, падышоў і памацаў лоб.

— Гарыш ты, брат. Ад раны ці ад прастуды?

— Ад раны.

— Усё ж лета маўчала.

— Маўчала. Я маўчаў. А яна крычала.

— Добра замерзне возера, прыляціць самалёт — адашлём цябе на Вялікую зямлю. Палечышся ў шпіталі.

— Не палячу. Хочаце пазбавіцца?
Не крыўдзі мяне, хлопча.

— Прабачце, Аляксей Іванавіч.

З адкрытых дзвярэй шуганула снежным зарадам, а з печкі — дымам.

— А, чорт! Во круціць!

— Комін у нас нізкі.

— Нізкі. Куплю ў Дзядзюлі бляху — скляплю трубы. Такія самавары паставім!

— Вы ўсё ўмееце.

Ман зачыніў дзверы і зноў вярнуўся да хворага, зноў памацаў яго галаву.

— Усё не ўсё, але што-нішто ўмею. Рабіў я і бляхаром. Вадасцёкавыя трубы кляпаў. Во стары жмот, Дзядзюля. Тэрмометр не прадаў. Папросіць ён у мяне...

— У вас гэта сур'ёзна? Ці гульня?

— Што?

— Купля-прадажа.

— Сур'ёзна.

— Вы і мяне купілі?

Ман засмяяўся.

— Во гумарыст! Цябе Дзядзюля аддаў за так.

— Каб пазбавіцца?

— Зноў ты, Навум, гародзіш храновіну. Цябе я сам папрасіў. Гэта ж скарб — мець такога адукаванага вайскоўца.

— Каб здаровага.

— Хто ведае так зброю. І сваю. І — што важна — нямецкую. І тактыку.

— Ніхто нас не вучыў партызанскай тактыцы. А дарэмна. Ніхто не думаў, што прыйдзецца ваяваць на сваёй зямлі.

— Мы з табой нядрэнна ўжо яе асвоілі, нашу тактыку. І стратэгію адужаем. Усё адужаем. Не хварэй толькі.

Брагінскага раніла ў пачатку вайны, пры абароне Мінска, калі фашысцкія танкі абыходзілі горад з поўначы. Раніла цяжка. Куля прабіла грудзі, правае лёгкае навылет. Армейскія медыкі вынеслі прысуд: не транспартабельны. Але знайшлася добрая душа — калгаснік з Раўбіч, адвёз у Мінск у бальніцу ўжо тады, калі ў горадзе гаспадарылі немцы, але не СД яшчэ — армейцы, якія пакуль што паблажліва, нават з пэўнай вайсковай гуманнасцю, той, што засталася ад першай сусветнай вайны, адносіліся да раненых, да хворых. Форму капітана селянін схаваў у сваім хляве, а дакументы прывёз і перадаў доктарцы, якая вельмі ж заклапочана прыняла раненага чырвонаармейца. Не адна яна — бадай усе дактары; сівы прафесар адразу закамандаваў: «У аперацыйную».

Жыццё Брагінскаму ўратавалі. Але далячыць не здолелі: гітлераўцы пачалі выяўляць у бальніцах камандзіраў, паліт-работнікаў, яўрэяў. Капітана яшчэ з месяц далечвала ў сябе дома санітарка. Але і там стала небяспечна. І яго зноў адвезлі ў вёску, а пасля паўгода перадавалі з вёскі ў вёску, усё далей і далей ад горада, ажно пакуль не перадалі ў партызанскі атрад. І што асабліва дзіўна: увесь час захоўвалі яго партбілет і камандзірскае пасведчанне. Дзядзюля пасля

казаў, у жарт ці сур'ёзна, зразумець яго заўсёды нялёгка, што цяжка было вывезці з горада не чалавека — дакументы яго. А для маладога камандзіра захаванне партбілета было, можа, даражэй за

ўратаванне жыцця. Ён, напэўна, маліўся б, каб верыў у бога. Ніколі не быў здатны да тэатральных жэстаў, але перад людзьмі тымі падаў на калені, калі пакідаў іх хаты.

Былы загадчык райза Дзядзюля толькі вясной ужо даведаўся, што за зіму ў другім кутку раёна добры знаёмы яго Машок (скарочанае яго прозвішча не прызнаваў, лічыў піжонствам, бо добра ведаў вёску, дзе палавіна Манюкоў) арганізаваў свой атрад. Меншы, безумоўна, колькасна, але даволі баявы. Дзядзюля ажно прыраўнаваў: хто мог падумаць, што былы дырэктар спіртзавода такі арганізатар! Чаго добрага, абскача па баявых дзеяннях, бо бліжэй да шашы, да чыгункі. Загарэўся зуб у камандзіра, які лічыў сябе вышэйшым прадстаўніком савецкай улады ў раёне, далучыць атрад Манюка да свайго. Але ўжо дзейнічаў падпольны райком, і ён развражаў інакш: чым больш атрадаў, тым лепш, шырэй партызанскі фронт.

У Дзядзюлі — трэць атрада абкружэнцы. А ў Мана — ніводнага, усе мясцовыя хлопцы, некаторыя служылі ў арміі, але толькі двое ці трое дараслі да камандзіраў аддзяленняў, не вышэй. Сам ён, праўда, камандаваў узводам у кавалерыі. Але калі тое было — дваццаць гадоў назад! Аляксей Іванавіч зайздросціў суседу, вайсковаму ладу ў яго атрадзе, там нават размовы вяліся на іншай мове — па-руску, па-армейску, з веданнем статутаў. А ў яго — што на калгасным сходзе: кожны — стратэг. Вось чаму, калі пазнаёміўся з баявым капітанам, адразу ж вырашыў: пераманіць. Але Дзядзюля вуха трымаў востра. Дружба дружбай, а тытун паасобку. Прыйшлося пайсці адкрыта:

«Уступі мне, Цімох, Брагінскага. У цябе паўатрада камандзіраў, а ў мяне ніводнага. У мяне ён будзе начальнікам штаба, а ў цябе патроны набівае».

Навум Барысавіч загадваў у Дзядзюлі аружэйнай майстэрняй.

Але не за так аддаў Дзядзюля камандзіра. Гандаль быў ганебны. Нельга сказаць, што запрасіў камандзір ужо праслаўленага атрада, камуніст за чалавека — абразліва было б для Брагінскага, ганебна і для яго, Мана, хоць за лыжкі-міскі свае патрончыкі ён браў без пакут сумлення. Але ж гэта — праца рук яго. А Дзядзюля за чалавека запрасіў... сала тры пуды. Ганьба! І таргаваўся, можа, гадзіну. Сышліся на двух пудах. Сала, канешне, не было. Дзе яго ўзяць! Аддаў чортаў гандляр, як кажуць, напавер. Але пра даўжок не забывае, каторы месяц напамінае, пры сустрэчах і нават у баявых пасланнях робіць вучоную прыпіску PS:

«А даўжок калі аддасі?» Ці яшчэ горш: «Сумленныя людзі з даўгамі разлічваюцца».

Аляксей Іванавіч успомніў гэтую анекдатычную гісторыю, пра якую ён раскажа пасля вайны, і адказаў сябру ў думцы:

«Во ты ў мяне, Цімашок, палучыш»,— і, паклаўшы на стол разец, паказаў «лятучай мышы» дулю. Прысутнасць капітана яго не бянтэжыла.

Брагінскі, як заўсёды, з цікавасцю сачыў за блуканнем думак у вачах камандзіра, здавалася, што яны прасвечваюцца і на лысіне яго, дзе блішчэлі кроплі поту, і нават варушацца ў зарасніку барады. Гэта была яго любімая забаўка з школьных гадоў: па твары адгадваць, пра што чалавек думае; у батарэі сваёй неаднойчы ашаламляў байцоў такімі адгадкамі, нампаліт дывізіёна так і называў яго: фізіянаміст.

Аляксея Іванавіча ні разу не ашаламіў. Той спакойна адказваў: «Правільна, адгадаў. Пра што яшчэ думаць у такой сітуацыі?» А часцей пасміхаўся: «Пацэліў ты, Навуме, у белы свет як у капеечку».

У той вечар Брагінскі асабліва сачыў за камандзіравым тварам. Такая ўвага адцягвала думкі ад болю ў грудзях і сцішала кашаль.

— Аляксей Іванавіч, мне здалося, вы паказалі камусь фігу. Не мне?

Ман засмяяўся.

— Не, мой дарагі начальнік штаба. Не табе. Злосную — Гітлеру. Ласкавую — Дзядзюлю.

— Вясёлая ў вас дружба.

— Вясёлая. Не здзіўляйся. У мяне прывычка. Я ім, раённым работнікам, часта паказваў фігу, калі яны прыязджалі па спірт. Толькі энкавэдэшніку не адмаўляў. Каністры наліваў...

— Баяліся?

— Дрэнна ты думаеш пра свайго камандзіра. Але адкажу табе шчыра. Баяўся. Дзеянні гэтых саўработнікаў немагчыма было ў той час ні прадказаць, ні прадбачыць.

— У які час?

— Калі мяне з наркамата, палячыўшы ў санаторыі, паслалі на спіртзавод. Некаторыя зайздросцілі: пусцілі шчупака ў раку. Але які я шчупак! Нават не акунёк. Плотачка.

Брагінскі ведаў, што больш года, другая палавіна трыццаць сёмага і першая трыццаць восьмага, як бы выпадала з біяграфіі Аляксея Іванавіча. Маўчаў ён пра гэты год. І малады ідэаліст не

адразу нават сцяміў, што здарылася. Дзіўна. Чытаў жа пра суды над маршаламі, камандзірамі, ведаў пра арышт камандзіра іх палка, пра самагубства камдзіва. Верыў, што яны завербаваныя фашысцкай разведкай. Верыў да самай вайны. А калі ляжаў ранены ў бальніцы і яму адкрыта, адзін доктар — са злараднасцю, перадаваў пра трыумфальнае наступленне немцаў на Маскву, вера яго ў вышэйшую справядлівасць, у мудрасць правадыра пахіснулася. І тады яму не хацелася жыць. Добра, што Ванда хутка забрала яго ў сваю хату на Старажоўцы. Яе незвычайны аптымізм, а яшчэ больш перакананасці, яе маці, работніцы хлебазавода, што нашы ўсё роўна пераможуць, вярнулі яму жаданне жыць і змагацца. А ў атрадах прага жыцця вырасла да таго, што думка пра смерць — не ў баі — ад старой раны аблівала потам. Не кашляў, сціхаў боль — і гэта ўжо было шчасцем. Больш за ўсё баяўся быць абузай для таварышаў.

Брагінскі з замілаваннем любаваўся ўмелымі рукамі разьбяра, з'яўленнем на місачцы адмысловага ўзору — як бы галінкі з гронкамі вінаграду.

— Для каго такая прыгажосць?

— О, брат! — камандзір падняў на растапыраных пальцах бялюткую місачку над галавой, да ліхтара, нібы яна прасвечвалася, як шкляная,— Не пытай. Ёсць у мяне любоў. Сяброўка. Лідачка з Загайкі. Чатыры гадочкі. Ёй місачка. Толькі не выдавай маю любоў. Я — прымхлівы.

Начштаба засмяяўся — ад шчасця, праява пяшчоты да дзіцяці асабліва кранула, свае двое недзе чакаюць яго. Дзе? Але зноў печка пыхнула дымам. І зноў ён закашляўся, праўда, на гэты раз не так пакутліва і працягла.

— Ведаю адну бабулю. Травамі лечыць. Сціхне завіруха — паеду прывязу табе поўны набор траў. Да таго часу хлопцы лазню збудуюць. Выганім тваю хваробу, не бядуй. Пабачыш, якую я бочку зраблю для лазні. Жалеза на абручы дасталі. Каваль свой...

— Молат не падніму.

— Была б накавальня. А малатабойца мы табе дамо. Асілка.

— Каваль з мяне... хіба ў тэорыі. Бацька так і казаў: галава ў цябе варыць, а рукі не для молата. Кавалям хацеў з мяне зрабіць, але на сучасным узроўні — інжынера-металурга. А я адзін год павучыўся ў Днепрапятроўску і ў ваеннае падаўся. Прызнацца вам? Пасля шкадаваў. Вучыўся я выдатна і камандаваў, здаецца, нішто, але душа, як кажуць, не прынімала. Парадкі ваенныя. Можаце паверыць? За паўгода да вайны мяне камандзірам палка

хацелі зрабіць...Дык як я спалохаўся! Нічога так не палохаўся. Начальнік штаба дывізіі зняважліва заключыў, калі я замахаў рукамі і нагамі: слізняк. Вы так не думаеце?

— Ды не, што ты! Проста мы з табой цывільныя людзі.

— Былі. Цяпер я стаў ваенным. Цяпер я рвуся ў бой. Калі абстралялі грузавікі на шашы і скасілі фрыцаў дзесятак, мяне ажно калаціла ад нейкай проста шалёнай радасці. Нядобра гэта? Загубіць людзей — і радавацца...

— Добра. Гэта наша нянавісць. Без яе такога ворага не адужаць.

— Так, нянавісць,— Брагінскі задумліва памаўчаў.— І любоў... Каб была нянавісць, павінна быць любоў. Як думаеце, Аляксей Іванавіч, эвакуіраваліся мае?..

— З Оўруча? Адтуль нельга было не выехаць. Калі Гітлер сунуўся на Палессе? Там у ліпені рэкі разліліся больш, чым у вясновы паводак...

— Залішне мы спадзяваліся на водныя рубяжы.

Пэўна, і гэта іх збліжала — лёс сем'яў. Праўда, у камандзіра ўпэўненасці, што яго сям'я на Урале ці яшчэ далей, было больш: ён сваіх паспеў адвезці ў Барысаў і пасадзіць на поезд. Жонку і дзвюх дачок, немаленькіх ужо, малодшай дванаццаць. Больш балела сэрца па сыне, той служыў у арміі, на Поўначы. Які яго лёс напаткаў у карэльскіх лясах? Аднак дзіўна: пра дачок ён ахвотна расказваў таварышам, Брагінскаму, можа, больш, чым каму,— разумеў, што ў бяссонныя ночы думаюць яны аб адным і тым жа. Пра сына амаль не гаварыў, як бы прымхліва баяўся, што бацькоўскі боль і смутак дойдуць да хлопца ў хвіліну смяртэльнай небяспекі і адцягнуць яго ўвагу ў баі. Верыў у тэлепатыю, у прыкметы, такім выхавалі ў маленстве. Да вайны смяяўся з гэтых бабскіх прымхаў, са сноў, хоць яны нярэдка спраўджваліся. А цяпер ставіўся да ўсіх гэтых «дзівосаў» з сур'ёзнасцю, якой, аднак, саромеўся; даведаюцца — смяяцца будуць: член партыі, а верыць у чартаўшчыну ўсялякую. Здзіўляўся супярэчлівасці сваёй натуры і баяўся яе. Раней быў больш цэльны, да трыццаць сёмага. А пасля раздвоіўся і растроіўся. Праўда, пасля арганізацыі атрада пачалі зрастацца гэтыя палавінкі. А потым зноў трэскалі. Пасля з'яўлення Золатава. Вось і цяпер. Працуе разцом, нажамі, размаўляе з Брагінскім, а сам пазірае на дзверы і ўпотай думае: няхай бы Золатаў затрымаўся каля рацыі надаўжэй. Не можа ён пры ім лыжкі скабліць. І размаўляць так не можа — пра сям'ю, пра

дзяцей, пра міскі, стравы, пра перажыванні свае, не камандзірскія — чалавечыя.

І вось, калі ласка, яшчэ адна чартаўшчына з таго рада: толькі паспеў падумаць, а ён тут як тут — Золатаў.

У адчыненыя дзверы шугануў вецер, абдаў лысую галаву халодным шротам, сняжынкі ажно зашыпелі на шкле ліхтара.

Золатаў уваліўся ў вузкі праём дзвярэй галавой уперад, апрануты ў белы кажух і ў цывільную шапку са шкуры беляка. «Першы перайшоў на зімовую форму»,— падумаў Ман.

Ігар Кіпень, камісар атрада, малы, вяртлявы, усунуўся нагамі ўперад, што хлапчук на коўзанцы, затармазіў, схапіўшыся за верхні касяк дзвярэй, а то мог бы штурхнуць маёра каленямі ў зад, на стол наляцелі б, як было такое тры дні назад, калі ўсходцы абледзянелі.

— Ну, надымілі! — фыркнуў Золатаў.— Не зачыняй дзвярэй, камісар.

— У Навума — жар,— сказаў Аляксей Іванавіч.

— Зноў жар? — спытаў Золатаў. Скінуў кажух, накрыў ім начальніка штаба. Але, адзначыў пільны камандзір, без тае ўвагі і клопату, які звычайна праяўляў да хворага капітана. Праяўляў настолькі падкрэслена, галосна, што бянтэжыў гэтым Брагінскага, здзіўляў Кіпеня і рабіў тую нядобрую раздвоенасць у камандзіра. Можа, не раздвоенасць, а нейкую няпэўнасць думак, пачуццяў, стаўлення. У Аляксея Іванавіча заўсёды была пэўнасць у адносінах да людзей, ва ўсялякім разе памыляўся ён рэдка ў ацэнках сваіх.

Зусім простая і натуральная з'ява: чалавек любіць другога чалавека больш, чым іншых, што акружаюць яго, жывуць побач, разам працуюць ці ваююць. Ён разумеў адносіны Золатава, старэйшага гадоў на дванаццаць, да Брагінскага. Так ён, Ман, любіць равесніка свайго сына, рамантыка і фантазёра Ігара Кіпеня, любіць больш сардэчна, чым іншых у атрадзе, можна сказаць, па-бацькоўску. Гэтак жа палюбіў і Навума. На вайне, можа, і не да такой сентыментальнасці, але чалавек ёсць чалавек. А Золатаў любіць Брагінскага неяк не так. Аляксей Іванавіч адчуваў гэта сэрцам, а вытлумачыць розніцу не мог.

Непадкрэслены, бадай, няўважлівы клопат Золатава аб Брагінскім — накінуў кажух, і ўсё — вытлумачыць лёгка. Золатаў чалавек аднаго настрою, спалучаць гаму пачуццяў не ўмеў, але настрой свой, няхай і цэльны, скрываць умеў. Пасля сеансаў радыёсувязі ён не першы раз з'яўляўся ў такім стане — усё роўна што морфій сабе ўкалоў.

Золатаў, напэўна, выдаў бы сваю ўзбуджанасць тым, што крочыў бы па пакоі, каб знаходзіўся ў прасторным кабінеце. Але ў зямлянцы дзе пройдзеш? Клетка. Абышоў вакол печкі, накрыў Брагінскага кажухом, сеў з другога боку століка на лаўку, укапаную ў зямлю.

Ман рэдка майстраваў лыжкі-міскі ў прысутнасці Золатава. Маёра гэта крыўдзіла, аднойчы ён раздражнёна спытаў:

«Ты чаму хаваешся ад мяне?»

Камандзір схаваў місачку пад стол, у кош.

Золатаў узяў са стала вялікую міску, грубай работы — ці то негатовую яшчэ, ці то прызначаную для атраднай кухні, для самай празаічнай патрэбы,— пакруціў у руках, потым, здавалася, і нямоцна стукнуў ёй па калене і... пераламаў папалам.

На міг, на вельмі кароткі міг, усталявалася нядобрая цішыня, якую называюць узрыўной. Брагінскі стаіў хворае дыханне. Але такая цішыня ў гэтай зямлянцы ўзнікала і раней. Узарвалася яна толькі аднойчы. Аляксей Іванавіч проста сказаў:

— Брак. Сучок.

Узяў палавінкі з рук Золатава, адчыніў дзверку буржуйкі і кінуў асінавыя «чарапкі» ў жаркае полымя. Паплява́ў на апечаныя пальцы. Ігар як бы раптам успомніў, што яму трэба рабіць. Пачаў грэць над печкай рукі, весела паціраючы іх, быццам пачуў штось вельмі прыемнае.

— Што перадае Масква? — спытаў камандзір.

— Нічога не перадавала Масква,— роўна і спакойна адказаў Золатаў.

— Мы не слухалі Саўінфармбюро,— вытлумачыў Ігар словы начальніка асобага аддзела. Даўгахвалевы прыёмнік не слухалі ўжо тыдні тры — захоўвалі батарэі для рацыі. Але кожны раз у час сеанса сувязі прынімалі адкрытым тэкстам кароткі пераказ зводкі з франтоў — выпрошваў ён, камісар. Золатаў чытаў шыфроўкі камандаванню атрада. Разы два-тры сказаў: «Тут я прапускаю, гэта — спецыяльна для мяне». І менавіта тым, што не прачытаў, заваяваў поўны давер начальніка штаба.

Ман усумніўся ледзьве не з першага разу, па адной, здавалася б, маленькай дэталі, хутка праверыў праз радыста групы, што чытае Золатаў не ўсё ці хутчэй не тое, што перадае Масква, нават тады, калі ўстанавілі сувязь з Беларускім партызанскім штабам: радыёграмы адтуль адрасоўваліся камандзіру атрада. Спачатку Аляксей Іванавіч абурыўся, але, верны свайму характару і лініі паводзін, абурэння не выказаў, а пасля, атрымоўваючы ад

радыста поўны тэкст шыфровак, трохі забаўляўся: паглядзім, хто з нас лепшы разведчык.

На гэты раз Золатаў нават не перадаў змест сваіх перагавораў з Масквой. Напэўна, добрую праборку атрымаў ад начальства.

Ман пасміхнуўся, але тут жа тузануў сябе: не ўніжайся да зларадаснасці.

Складаныя былі іх адносіны. Праўда, спакойны і цвярозы былы дырэктар спіртзавода не лічыў іх складанымі. Ускладняў іх для сябе аператыўны работнік. Ды з баязлівай насцярогай сачыў за іх адносінамі Брагінскі.

Золатаў з'явіўся ў атрадзе тры месяцы назад, у канцы жніўня. «Зваліўся з неба на нашу галаву»,— змрочна пажартаваў Кіпень Аляксею Іванавічу пасля адной непрыемнай размовы.

Групу НКУС, сем чалавек, выкінулі на парашутах. Мяркуючы па тым, на які атрад група павінна была выйсці, пілот спусціў іх не там, дзе трэба. Пра гэта сведчыла і трохвёрстка ў планшэце камандзіра групы. Пакуль энкавэдысты блукалі па Лагойшчыне, ніхто карту не прачытаў — абмежаваны раён. Прачытаў толькі Ман: Чэрвеньскія лясы. Ды і задача ў Золатава была — не ў атрад ісці (атрад на выпадак незвычайных абставін), а пранікнуць у Мінск, каб весці разведку, рабіць дыверсіі. Канешне, пайсці туды ўсёй групай Золатаў не рызыкнуў галоўным чынам з-за рацыі. І пайсці нельга, і пакінуць радыста аднаго ў лесе баяўся. Маёр, мінчанін, добра ведаў горад, але не ведаў яго наваколле, і — што асабліва дзіўна — сам ён і групы слаба ведалі акупацыйны рэжым — размяшчэнне пастоў, прапускную сістэму, хутка пераканаліся, што дакументы, якія ў Маскве здаваліся бездакорнымі, па сутнасці ліпавыя, першы паставы выкрые іх фальшывасць. Гэта была агульная бяда. Групы НКУС, значная частка іх, інструктаваліся так (не адкрытым тэкстам, у падтэксце), што галоўная сіла ў тыле ворага павінна быць не ў Панамарэнка, а ў Берыі, і яны не павінны аддаваць і крупінкі славы мясцовым партызанам, ім належыць дзейнічаць самастойна, а партызан браць пад свой кантроль, каб не забываліся, што існуюць органы дзяржбяспекі.

Так пачаў дзейнічаць Золатаў, напачатку залішне ўпэўнена. Паслаў у Мінск разведчыка. Той не вярнуўся, тыдзень чакалі. Толькі пасля гэтага ўстанавілі сувязь з сялянамі, пачалі звяраць свае тэарэтычныя веды з рэальнай абстаноўкай. Зверка дала сумныя вынікі. Настрой упаў да нулявой адзнакі. Другі разведчык, мінчанін, напрасіўся сам пайсці ў горад і таксама не вярнуўся. Гэта нагнала амаль паніку на адважнага маёра, ён упэўніў сябе,

што калі не абодва, то другі разведчык здрадзіў свядома. Золатаў пачаў падазрона адносіцца амаль да кожнага са сваіх людзей. Каго яму падабралі? Усе беларусы, ва ўсіх тут, у акупацыі, сваякі. Пачаў адступаць ад Мінска. Адыходзіў на паўночны ўсход, можа, інстынктыўна бліжэй да фронту, хоць добра разумеў, што, не выканаўшы заданне, выходзіць не мае права, нават адзін, палажыўшы ўсю групу, бо доказаў сваёй карыснай дзейнасці не прынясе, а без гэтага яму не даруюць. І так лічыў, што генерал мае на яго зуб, таму і паслаў сюды, дзе ён актыўна працаваў у гады «вялікай чысткі», хоць і дурню бачна, што для дыверсійнай работы ў горадзе ён падыходзіць менш, чым хто.

Групе пашанцавала ўрэшце: зусім выпадкова яны сустрэліся з манаўскім атрадам. А ў атрадзе ў сваю чаргу ўзрадаваліся: вопытныя людзі, амаль усе, акрамя радыста, камандзіры, сярэднія ці малодшыя, а галоўнае — рацыя, пра якую марылі даўно і ўпотай лаялі падпольны райком, які дзяліў такія «пасылкі» з Вялікай зямлі паміж атрадамі; іх абыходзілі, ільвіная доля заставалася штабу брыгады, а з асобных атрадаў — Дзядзюлю.

Але хутка, раней чым хто, Аляксей Іванавіч зразумеў, што набытак іх не з радасных. Золатаў, спачатку ўпотай, але з лісінай хітрасцю, пачаў дзейнічаць з мэтай заняць месца камандзіра атрада. Гэта было так. Золатаў адразу сцяміў, што яму сапраўды такі пашанцавала — што трапілі яны ў невялікі атрад. Стаць камандзірам — яго ратунак. Толькі гэтым апраўдае ён невыкананне задання — нявыхад групы на Мінск. Цэлы атрад арганізаваў! А Мана спалохала не тое, што ў яго забяруць атаманскую булаву (Ігар жартаўліва і ласкава называў яго «бацька атаман»). Пасля напружанага роздуму нечакана ўспомніў, дзе ён бачыў Золатава раней. Во таемная сіла асацыяцыі! Як толькі ў атрад заглянуў ад Дзядзюлі былы начальнік аддзела НКУС суседняга раёна — уміг як высвятліла. Там! Там ён бачыў Золатава — дзе яго пратрымалі без малога год. Нават сустрэча ўспомнілася да дэталяў: позна ўначы ў даўгім і цёмным калідоры новага, але змрочнага будынка па Савецкай вуліцы. І ён амаль спалохаўся. Мець такога чалавека побач ды яшчэ з яго жаданнем «выхапіць булаву»... Чаму сам Золатаў адразу не прызнаўся, што ён тутэйшы, мінскі? Пакуль не прагаварыўся адзін з яго байцоў. Ігару сказаў. І той па прастаце сваёй ляпнуў, як кажуць, у лоб:

«Якаў Міхайлавіч! А да нас дайшлі чуткі, што вы мінчанін».

Золатаў натапырыўся, як загнаны ў куток кот.

«Хто гэта прыносіць такія чуткі?» — хоць адразу сцяміў, што выдаў яго хтосьці са сваіх, і моцна абурыўся. Хто? Дамаўляліся, што ў любой сітуацыі, ні ворагам, ні сваім, не выдаваць, хто ёсць хто, кожны з іх меў па два фальшывыя прозвішчы. Праўда, у атрадзе назвалі сапраўдныя.І,відаць, дарэмна, падумаў маёр. Нікому,выходзіць,нельга верыць, усе вакол — шпіёны.

«Хто вам прыносіць такія звесткі?» — паўтарыў сурова.

«Бачыў вас адзін наш партызан. Дзе вы працавалі — у абласным ці гарадскім упраўленні?»

«Я камандаваў ротай Белпалка,— і растлумачыў, чаму не сказаў пра гэта адразу: — Мне ісці ў Мінск».

Тлумачэнне такое Ігару і Брагінскаму здалося зусім натуральным: пры такой канспірацыі лепш, каб ніхто не ведаў, што ў горадзе ёсць людзі, якія могуць пазнаць разведчыка, можа, у яго найвышэйшае заданне — пранікнуць у штаб ці ў рэзідэнцыю гаўляйтара. Золатаў нават вырас у іх вачах. Сам камандзір групы збіраецца ў Мінск. Здавалася, што і Мана гэта магло б супакоіць: камандзіра палка, пастаянна дыслацыраванага ў сталіцы, мог сустрэць у любым месцы. Але не супакоіла. Наадварот: насцярожыла, калі ўспомніў, дзе ўпершыню ўбачыў Золатава.

Аляксей Іванавіч пайшоў на бяскрыўдную хітрасць: сплавіць групу Золатава Дзядзюлю. Сказаў, што суседні атрад мае сувязь з Мінскам, што ў Дзядзюлі ў горадзе добрая агентура, таму калі групе трэба ў Мінск, то лепш мець справу з Цімохам.

Золатаў нічога не адказаў, але згадзіўся наведацца да суседа. У паездку ўзяў усіх сваіх, нават радыста,— застрахаваўся. Але каб ён і згадзіўся перайсці, гэтага мала — трэба яшчэ згода вялікага хітруна Дзядзюлі.

Калі засталіся ўдвух, Ман у той жа гуллівай форме, як усталявалася ў іх адносінах яшчэ да вайны і набыло новыя фарбы пры «ваеннай камерцыі», сказаў:

«Цімох, хачу зрабіць табе падарунак. Ад жывога адрываю. Але для добрага сябра нічога не шкадую. Канешне, парачку скрынак патронаў ты не пашкадуеш. Не як плату. Як удзячнасць. Пакідаю табе групу Золатава. Арлы! Рвуцца ў Мінск. Выведзі іх на падпольшчыкаў».

Дзядзюля прыжмурыў хітрыя вочкі пад чорнымі кашлатымі брывамі. І раптам без усмешкі паказаў кукіш.

«На, адкусі хвосцік. Цалуй сам сваё золата».

«Кулак ты, Цімох».

«Чаму гэта я кулак? Кулак грабе пад сябе».

«Але раздае дулі».

«Во няпраўда! Гэта ганарысты бядняк круціць фігі ва ўсе бакі. А добры кулак і дулю пакідае ў сваёй гаспадарцы, на запас».

Сарвалася акцыя. Любоў не загарэлася і з другога боку. У дарозе Аляксей Іванавіч спытаў у Золатава: «Не дамовіліся з Цімохам перайсці да яго?» — «А нам і ў вас добра».

Мабыць, пераканаўшыся, што партызаны не прымуць адстаўкі таго, хто арганізаваў атрад, нават і тады, калі будзе такі загад з Масквы (Золатаў ламаў галаву, як атрымаць такі загад), маёр пайшоў у «лабавую атаку». Аднойчы за вячэрай, добра выпіўшы, катэгарычна абвясціў:

«Я старэйшы па званні. Маёр! І камандаваць атрадам павінен я! З Масквой дамоўлена. Цябе, Аляксей Іванавіч, назначаю начальнікам штаба. Навума — камандзірам вучэбнага ўзвода...»

Ашаломлены Ігар падскочыў да столі зямлянкі. Абурыўся. Закрычаў:

«Не маеце права! Гэта узурпатарства! Ні з кім вы не дамаўляліся. Такія справы вырашае не НКУС, а падпольны райком. Як камісар я пратэстую. І зараз жа еду ў райком...»

Брагінскі, таксама ашаломлены, моцна закашляўся. Душачыся кашлем, пачаў умольваць Золатава:

«Якаў Міхайлавіч, вы не падумалі... Не падумалі. Вы новы чалавек. А Ман... ён ужо год камандуе атрадам. А атрад... ці зразумелі вы за такі кароткі час?, гэта не толькі тыя людзі, што тут, у лесе, гэта і тыя, што ў вёсках. Яны кормяць нас, адзяюць, вядуць разведку... Аляксей
Іванавіч — тутэйшы чалавек. Усіх ведае ён, усе ведаюць яго. А вас ніхто не ведае... прыйдзіце вы ў вёску... Хто вас ведае, Якаў Міхайлавіч?..»

А сам камандзір маўчаў. Твар застыў, зледзянелі вочы, не выпраменьвалі ні цяпла, ні іроніі, ні ўдзячнасці сваім маладым сябрам. Толькі, магчыма, у вуснах, што непрыгожа скрывіліся, хацела з'явіцца ўсмешка, але не нарадзілася, амярцвела.

Холад мараўскіх вачэй спалохаў Золатава: усё-такі за Манам семдзесят чалавек, а ў яго, Золатава, чацвёра засталося. Брагінскі і той не падтрымаў яго. Але адступаць ён не ўмеў, задумы заўсёды даводзіў да лагічнага, як яму здавалася, завяршэння. Адказаў Брагінскаму:

«Вось і добра. Начальнік штаба і будзе займацца забеспячэннем атрада. А чым жа яшчэ яму займацца? — і хмыкнуў: — Планіраваць аперацыі? Наступленне на фронце?»

Ціха, але з гневам пагразіў Кіпеню:

«У райком ты можаш ехаць. Але з такім камісарам ваяваць я не буду».

Аляксей Іванавіч падняўся з лаўкі, пацягнуўся ўгору, дастаў рукамі столь, скалупнуў наплыў смалы, панюхаў, задаволены ахнуў.

«Які пах! — і спакойна сказаў: — А навошта шумець? Давайце збяром партыйную групу, і яна скажа, каму камандаваць...»

Ігар засмяяўся: як проста! Мудрэц атаман! Золатаў папярхнуўся салам. Абдало яго халодным ліўнем. Зразумеў, што партызаны — не НКУС. Супраць партыйнай групы тут не выступіш. Як ён не падумаў?

Больш да гэтай тэмы не вярталіся. Але пазней дыпламат і міратворца Ігар аформіў рашэнне райкома аб назначэнні Золатава начальнікам асобага аддзела двух суседніх атрадаў.

Знешне ўсё ішло сваёй чаргой, але ўнутраную напружанасць кожны з чатырох адчуваў. Брагінскаму ўжо не рабіла асаблівай радасці апека Золатава, хоць ён па-ранейшаму быў уважлівы і ласкавы. А Ігар... Цяпер ён не адступаў ад Золатава не ад захопленасці вопытным чэкістам, а таму што з чэкісцкай пільнасцю сачыў за кожным крокам і не скрываў гэтага, нават адважыўся вымавіць за сеансы сувязі без яго. І Золатаў пракаўтнуў вымову ад хлапчука.

Толькі Аляксей Іванавіч ніводным, як кажуць, рухам, ніводным уздыхам не выдаваў свой душэўны стан.

...«Сучок. Брак»,— і ўсё. Хамства Золатава — знішчэнне плода яго руплівай працы,— безумоўна, абурыла, але Аляксей Іванавіч і брывом не павёў. Спытаў пра галоўнае, пра тое, што аб'ядноўвае заўсёды:

«А што на франтах?»

Ігара засмуціла, што радыст не сказаў і пяці слоў аб становішчы ў Сталінградзе. Новы радыст, ці што? Але камандзір ведаў, чым жывуць людзі — Сталінградам.

— Давайце пагуляем у стратэгію. Няхай кожны з нас на нейкі момант уявіць сябе Галоўнакамандуючым. Што ён зрабіў бы? Дзе нанёс бы ўдар? У самым Сталінградзе? На Каўказе?

— Галоўнакамандуючы не гуляе, ён думае. Не кожнаму дадзена гэта — думаць так, як таварыш Сталін.

— Так думаць — безумоўна, не кожнаму. Але ў арміі ёсць паняцце: ваенная гульня. Мы яшчэ ў дваццатыя гады гулялі. Усе. Ад камбрыга да камандзіра ўзвода. На карце ствараліся сітуацыі,

якія мелі месца на вайне. Брусілаўскі прарыў, абарона Царыцына, марш Тухачэўскага...

— Каго? — Золатаў зрабіў выгляд, што не пачуў.

— Паход на Варшаву ў дваццатым,— спакойна растлумачыў Ман.— Іншыя аперацыі. Мы ведалі іх вынік, але стратэгічнае, тактычнае рашэнне задачы — хто з нас, бязвусых камандуючых, ведаў? Аднак некаторыя, у тым ліку і я — верыце? — давалі такія нечаканыя рашэнні, што камбрыг наш здзіўляўся. Мне гадзіннік падарыў. Во гэты! — дастаў з кішэні «цыбуліну» «Павел Бурэ», шчоўкнуў крышкай.— Во рэч! Дагэтуль ідзе.

— Стратэгі,— зняважліва хмыкнуў Золатаў. А Брагінскі ахвотна падхапіў гульню:

— Я ўдарыў бы тут, перад намі, на заходнім. Гітлер аслабіў тут сваю групу, кінуўшы сілы на поўдзень.

— Правільна, Навум! А мы ў дапамогу рэйкавы канцэрт арганізавалі б. І бог за нас, дорыць раннюю зіму,— задаволена, быццам наступленне пачалося ўжо, пацёр над печкай рукі Ігар.

— Ранняй зімы не будзе. Гэтая кругаверць ненадоўга.

— У бацькі атамана кажуха няма,— засмяяўся Ігар.— Улетку згарэла камандзірская зямлянка, і ў ёй пагарэла зімовае адзенне.

Золатаў узяў яшчэ адну міску, не новую, з якой елі ўжо.

Брагінскі сцяўся: калі ён зломіць і гэтую, што сказаць яму? На словы асуджэння — не хопіць адвагі. Але змаўчаць — здрадзіць другому чалавеку, камандзіру, якога паважаў больш.

Не, на гэты раз маёр узяў місачку па-ўзбекску, на пальцы, прымерыўся, як бы выпіў з яе.

— Налі, камандзір,— і, можа, упершыню прызнаўся ў сваім настроі: — Засмягла ў душы.

— А ў мяне ў горле перасохла,— падтрымаў Ігар весела, бесклапотна.

— Налівайце, мне што...— не па-камандзірску дазволіў Ман.

Выпіўка ў атрадзе забаранялася, такім быў, бадай, першы пісьмовы загад камандзіра, якога ніхто не назначаў — выбралі самі партызаны, тады іх было ўсяго семнаццаць. Употай загад, канешне, парушалі, але адкрыта, на вачах у камандзіра, парушыў яго толькі Золатаў у першы ж дзень, адзначыў радасную падзею — сустрэчу з партызанамі.

Тады Ман папрасіў:

— Скажыце сваім байцам, каб не рабілі гэтага — у нас сухі закон.

Золатаў здзівіўся такому парадку ў партызан; на фронце п'юць, «наркомаўскія» сто грамаў выдаюць; настроіўся супраць камандзіра: баптыст нейкі.

Ігар, Золатаў, не тоячы задаволенасці, пачалі збіраць на стол.

Камісар пабег на кухню па вячэру. Золатаў дастаў з-пад тапчана бурдзюк і цадзіў з яго ў снарадную гільзу мутную вадкасць. Бурдзюк гэты быў прадметам здзіўлення і кпінаў. Дзядзюля прыязджаў, каб паглядзець на такое дзіва. Навошта ў экіпіроўку спецатрада ўключылі такі прадмет — у Беларусь, у асенні час! Хто будзе несці ваду з сабой? Тут не знаеш, як ратавацца ад яе,— ад балотаў і дажджоў. Але Дзядзюлю рэч падабалася, для якога прымянення — не сказаў. Адразу пачаў таргавацца: «Што возьмеш, маёр?»

Ман засмяяўся:

«Не прадавай, Якаў Міхайлавіч, гэты вялікі камерсант абавязкова ашукае. Хочаш, падковы прадам? Не хочаш? Прыйдзе зіма — тады патанцуеш перад намі. Кланяцца будзеш».

З таго часу бурдзюком ганарыліся гэтак жа, як вайсковай кухняй. У каго яшчэ ёсць кухня? Нават у Дзядзюлі няма. Асабліва значэнне бурдзюка вырасла пасля таго, калі група байцоў, што хадзіла на нарыхтоўку харчу, вярнулася, напоўніўшы гэты скураны мяшок «гаручым»,— пужнулі паліцаяў, якія гналі самагонку; бутлю не данеслі б, разбілі б, а бурдзюк — адменная рэч; партызаны жартавалі: смачна булькае і спіну ад кулі закрывае, любая куля ў такой вадкасці захлынецца.

Выпілі ўтрох. Камандзір, як кажуць, «на сухую» чэрпаў драўлянай лыжкай капусту, апетытна хрумстаў. Яму не падабалася, што ахвотна, бадай прагна, выпівае ранены капітан, тлумачыць, што яму робіцца лягчэй. Звычайна, калі Золатаў падбіваў на такую вячэру, Аляксей Іванавіч выходзіў з зямлянкі. Але куды пойдзеш у такую непагадзь? І ён сядзеў панура-нахмураны. А памочнікі весялелі і рабіліся залішне гаваркімі, без падагрэву часта маўчалі — усё перагаварылі, бавілі час тым, што расказвалі сюжэты прачытаных кніг, але займаліся гэтым маладыя — Ігар і Навум.

— Аляксей Іванавіч, ты і тады не піў, калі цябе ставілі дырэктарам спіртзавода?

— Ніколі не піў.

— Як жа цябе паставілі?

— Таму і паставілі, што не піў.

Золатаў незвычайна развесялеў.

— Во дзіва! Першы раз бачу цвярозага начальніка.

— А што, у вашай канторы ўсе п'юць?

Ігаравы пытанні бываюць па-дзіцячаму наіўныя і нечаканыя. Золатаў не любіў іх. Неаднойчы ўзрываўся. І тут уміг пазмрачнеў.

— Не падабаюцца мне, камісар, твае кіўкі ў наш бок.

— У чый бок?

— Ведаеш — у чый. Мы ахоўваем дзяржаву ад ворагаў. І незалежна ад таго, хто з нас колькі п'е, «кантора», як ты называеш, наша,— моцна націснуў на слова «наша»,— заўсёды цвярозая.

— Аднак у вачах у вас часам двaіцца,— «лез у бутэльку» п'янаваты хлопец.

— Ігар! — па-бацькоўску ўшчувальна спыніў свайго камісара камандзір.

— Усё, Аляксей Іванавіч! Нямею. А пакуль я нем, то п'ю і ем,— маладосці ўсё-такі хацелася блазнаваць.— Налівайце, таварыш маёр.

— Нацадзі.

Ігар падняў ужо зморшчаны ў верхняй частцы бурдзюк, пабоўтаў.

— Ёсць газа! — і зноў да маёра: — Якаў Міхайлавіч!
Прадайце бурдзюк. Не мне. Атраду. Не пойдзеце ж вы з ім у Мінск.

Напамінак пра Мінск быў для Золатава асабліва непрыемны, бо задачу начальства не адмяняла, пацвердзіла і ў сённяшняй радыёграме.

Камандзір спецгрупы не адну ноч ламаў галаву — каго яшчэ паслаць, трэцяга. І самае страшнае было, што ён не верыў сваім, усім, пецярым. А вось гэтаму бязвусаму балбатуну, які на падпіцці бывае зусім несур'ёзным, верыў і апошнім часам выношваў думку паслаць да рэзідэнта Кіпеня. Самога Ігара ўгаварыць лёгка, ахвотна пойдзе. Але ці адпусціць Ман? Дрыжыць, як за сына. Памацаць?

— Слухай, Ігар, ты казаў — у цябе нявеста ў Мінску.

— Была.

— Пашукаць не хочаш?

— Ветру ў полі? — адразу адбіў Ман.— Яна ж не мінчанка. Што яе магло затрымаць? Хто добра абжыўся, і тыя разбягаюцца па вёсках — бліжэй да зямлі, там хоць бульбіна вырасце.

Не, гэты корч не вывернеш — як ні пацей. Але які калун трэба, каб расхалоць яго? Быў такі «калун» у Золатава — ашаламіць чалавека нечаканым пытаннем.

— Аляксей Іванавіч, адкуль у цябе прозвішча такое — нямецкае?

— А ў мяне дзед — латышскі барон,— не міргнуўшы вокам, на поўным сур'ёзе адказаў Ман.

У Золатава п'яна ашклянелі вочы. Брагінскі насцярожана сцяўся, быццам на яго замахнуліся. Не разумеў капітан, навошта спатрэбілася камандзіру такая хлусня, небяскрыўдная гэта гульня на вайне ды яшчэ перад чалавекам, які прыляцеў са спецзаданнем і якому сам ён, камандзір, вызначыў абавязкі — начальнік асобага аддзела. Асобага! Вельмі добра кадравы камандзір ведаў, што такое асобы аддзел. Некалі ён таксама спытаў пра паходжанне камандзіравага прозвішча, палахліва, бадай, сарамліва. І Аляксей Іванавіч не без смяшкоў, аднак сур'ёзна расказаў. Прозвішча яго Машок. Але калі служыў у пачатку дваццатых гадоў у Чырвонай Арміі і неяк, у адказ на чыёсьці пытанне, растлумачыў сэнс слова «манюк», камісар, латыш, інтэрнацыяналіст, аматар нямецкай літаратуры, у арыгінале чытаў, параіў скараціць немілагучнае беларускае слова, зрабіць з яго мілагучнае нямецкае, са значным сэнсам. Так і запісалі, у той час армія з'яўлялася заканадаўцам, партбілет выпісалі на Мана.

«У іх паўвёскі Манюкоў»,— пацвердзіў Ігар.

Той праўдзівы расказ развесяліў Брагінскага: якіх дзівос не бывае! А гэтая вясёлая мана спалохала. Навошта такія дзіцячыя забаўкі? Навошта дражніць гусей?

А п'яны Ігар рагатаў з нечаканага жарту камандзіра.

— Дык ты, значыцца, з баронаў? Аляксей Іванавіч! Таварыш барон! А што! Гучыць! Напішам немцам ультыматум і падпішам: «Барон Ман». Няхай ламаюць галаву, адкуль у бальшавікоў барон.

Жарт камандзіра (расказалі і яму гісторыю гэтага прозвішча), Ігараў смех абразілі Золатава.

«За дурня лічыце? Пажывём — пабачым, хто з нас дурань».

## 2

«Замялі» іх у доме паліцэйскага Чурсіка. Яны гулялі ў карты, пакуль гаспадыня, надзіва маўклівая жанчына, смажыла на кухні сала. Гулялі весела, кідалі прымаўкі, пацягваючы прастуджанымі насамі — трое вугнявілі — апетытную духмянасць блізкай закускі. Найспраўнейшым майстрам на анекдоты і прымаўкі быў швагер Чурсіка — Мікола Хацяновіч. Уласна з-за гэтага электрыка ён, Стась Шабовіч, нямала прайграў тут марак, часам столькі, што

пасля галададаў. Ад самога паліцэйскага павароту не чакаў, ведаў яго яшчэ да вайны — гад, з такім кашы не зварыш. Не, Мар'ян Чурсік таксама патрэбны кадр — з-за свайго доўгага языка; карысць можна атрымаць і з пены, калі з розумам сабраць яе. З-за гэтага Шабовіч яшчэ з мінулай зімы наведваўся ў яго дом, спачатку рэдка, а потым часцей і часцей. Спадабалася яму Хрысціна, жонка Чурсіка. Не, не як жанчына. Спадабалася маўклівасцю і тым, што разоў колькі ў яе вырывалася асуджэнне Мар'яну, што той пайшоў у паліцыю. А ў разумнай сястры і брат не павінен быць дурнем. На брата, як кажуць, «загарэўся зуб», калі Хацяновіч прызнаўся, што электрычнасць ён наладжвае не толькі ў гарадской управе, але і ў іншых установах, у тым ліку і ў нямецкіх.

«Знаходка! — адразу ўхваліў Піліп Станулін, камандзір групы.— Падбівай клінні».

Але не так гэта проста было нават раскусіць гаваркога электрыка. Сыпаў прымаўкі, але ўсе яны — сухія, без «навару», не тое што пахвальба паліцэйскага: той, каб сцвердзіць, што ён шышка, выдае такія звестачкі, за якія падпольшчыкі дзякуюць. Напрыклад, вераснёўская татальная аблава. Шкада, што позна паліцай выбалбатаў, не ўсіх людзей удалося папярэдзіць. Але яго, Шабовіча, справа не толькі самародкі адкопваць, але збіраць і драбнюткія пясчынкі інфармацыі, і ён гэта ўмеў, яго Станулін нават перастаў браць на дыверсіі — каб захаваць для разведкі.

Нарэшце Хацяновіч, здаецца, скрануўся, як цяжкая крыга. Тыдні два назад, вяртаючыся ад Чурсіка, Стась пагаварыў з ім адкрытым тэкстам: у пошуках аднадумцаў ва ўмовах падполля заўсёды ёсць рызыка, без яе нікога не знойдзеш. Хацяновіч сказаў:

«Не цямні. Я даўно здагадаўся, што зяцю нашаму ты кампаньён толькі ў карты і што цікаўлю цябе я. Дзякую за добрую думку пра мяне. Калі выжывем, то нам жа доўга яшчэ жыць у сваёй краіне. А там падрахуюць, што ты зрабіў для перамогі».

Стась верыў людзям, якія думаюць пра будучае жыццё, а не толькі пра тое, каб сёння набіць чэрава. А сур'ёзныя думкі пра будучыню выводзяць чалавека на правільную дарогу.

Камандзір групы, здавалася Шыбовічу, нярэдка спяшаўся, ва ўсялякім разе цярплівасці яму не хапала. А тут ён не паспяшаўся. Вырашыў звязаць Хацяновіча з правераным членам групы байцом батальёна самааховы, які і ўправу ахоўваў,— Іванам Ткачуком.

Логіка разважанняў Станіліна была, як кажуць, жалезная. Па-першае, лічыў ён, гэтыя два чалавекі не могуць не знаць адзін

аднаго — электрык, які па дваццаць разоў на дні ўваходзіць і выходзіць з памяшкання, і стралок аховы, які нярэдка стаіць ля дзвярэй на варце. Па-другое, Ткачуку, як нікому, проста будзе звязвацца з Хацяновічам: гавары колькі хочаш, не хаваючыся, не азіраючыся. Нарэшце, сяброўства яго, Шабовіча, з такім жа нямецкім служкам, як і сам Чурсік, здыме ў паліцая ўсялякую падазронасць, і ён можа зусім развязаць язык.

Так яны апынуліся з Іванам у доме паліцая. Праўда, Ткачук меў сур'ёзны недахоп — быў нікуды не вартым карцёжнікам. Сваякі са спрытам шулераў ачышчалі іх кішэні ад марак. На Шабовіча ажно сверб напаў, ён сур'ёзна перажываў. Лаяў напарніка: недарэка, а яшчэ напрасіўся пайграць, навучыся спачатку. Ды табе што, цябе кормяць, а мне, бальнічнаму брату, хоць зубы на паліцу кладзі, хоць у хворых прасі, жабруй.

Задаволены Чурсік рагатаў на ўвесь дом. Можа, з-за яго шумнай радасці і не пачулі, як пад'ехала машына. Пачулі, як яны пастукалі. Таксама ціха, нязвыкла, без нахабнасці акупантаў — далікатна, як добрыя суседзі.

Хрысціна адчыніла ім і, прытуліўшыся да касяка, збялелая, моўчкі прастаяла на адным месцы.

Іх было чацвёра, трое ў форме СД, чацвёрты паліцэйскі — перакладчык. Ён, бадай, ветліва закамандаваў:

«Рукі, панове».

«Штурмфюрэры» абмацалі іх кішэні. Ні гарачыя тлумачэнні, хто яны ёсць, ні дакументы, якія кожны з іх спешліва прад'явіў,— пасведчанне паліцэйскага, рабочага ўправы, малодшага камандзіра самааховы, вячэрні аўсвайс фельчара,— ніяк не ўздзейнічалі. Афіцэр уважліва вывучыў іх і сунуў у сваю кішэню. Вобыск зрабілі кароткі, беглы, у бялізне не корпаліся, у грубку не заглядвалі.

«Прашу, панове, у машыну»,— са здзеклівай ветлівасцю запрасіў перакладчык. Але калі яны паспрабавалі апрануцца, іх груба выштурхнулі на двор. «Шнель! Шнель!» Чамусьці аднаму Ткачуку дазволілі ўзяць шынель. А на двары лістапад, халодны дождж.

Уціснулі ў закрытую машыну, дзе сядзелі на падлозе іншыя арыштаваныя, чалавек пяць, на іх свяцілі ліхтарыкам з кабіны, адтуль праз акенца з кратамі тырчэла дула аўтамата. Афіцэры СД, відаць, селі ў «опель», што стаяў наперадзе гэтай спецыяльнай загатаванай машыны.

Незразумелы арышт, падумаў Шабовіч. Арыштавальнікаў нямнога, і большасць афіцэры, невядома, хто сядзіць у кабіне, за рулём і з аўтаматам, кукарда фуражкі і вочы свецяцца паверх праменя ліхтара, пагонаў не відаць. А што, калі паспрабаваць вырваць аўтамат? На дзевяць арыштаваных адзін вартавы, у нязручнай позе, відаць, стаіць на сядзенні на каленях. Застрэліць ён можа аднаго, двух, не больш. Не, відаць, ёсць нейкая страхоўка, ды і «опель», безумоўна, ідзе ўпрытык.

Дзіўны арышт. Загадкавы. Чаму ім такі гонар? Калі не лічыць цывільнага, акцыю праводзілі афіцэры СД, адзін з іх у званні роўным маёру. Дакументам не паверылі, хоць ва ўсіх іх пасведчанні сапраўдныя, без усялякай ліпы. Хто ж з іх у такой «пашане»? Не падобна, што ён, Шабовіч. І гаспадару нямнога аддавалі ўвагі. Больш — Хацяновічу. Чаму? Фігура ў падполлі? Па розуме і па рабоце падобна. Стась усміхнуўся думцы, што ён, магчыма, вербаваў аднаго з кіраўнікоў падполля. Але нельга выключаць і другі варыянт: Хацяновіч — агент СД, правакатар, даволі Шабовічу было адкрыта пагаварыць аб яго дапамозе нашым — і вось, калі ласка, маеш. Пры такой сітуацыі трэба сачыняць асаблівую легенду. Але наліха тады ім хапаць гэтак неадзетага гаспадара дома? Няхай Хацяновіч тайны агент і яго трэба скрыць, напусціць туману. А Чурсік жа служыць адкрыта, верна служыць, выслужваецца перад акупантамі — хлопцы выведалі, як ён паводзіць сябе ў паліцыі.

Пакуль машына кулялася па разбітых старажоўскіх вуліцах, Шабовіч «пракруціў» самыя «верагодныя» варыянты. Але ні адзін не заставаўся без пытанняў, не ўкладваўся ў схему, якую група выпрацавала. Яны сур'ёзна прадумалі, на чым кожны з іх можа засыпацца, як яго могуць арыштаваць, паводзіны і ў часе арышту, і на допыце. Станулін да занудлівасці ўнікліва прымушаў кожнага з іх сачыніць не адзін-два — дзесяткі варыянтаў; на кожных занятках разам з прыёмамі японскай барацьбы, разведкі, закладкі мін, азбукі Морзе, здавалі экзамены на «допыт» — на ўменне адказаць дасціпна, лёгка на любыя, самыя мудрагелістыя правакацыйныя пытанні. Ён, Шабовіч, спецыялізаваўся на прастачка, на дурня, тут ён ішоў на «выдатна», таму, маўляў, і стаў брат міласэрнай сястрой, што на мужчынскую ролю розуму не хапае.

Тыя, раней арыштаваныя, селі на падлогу самі — цяплей. Па баках меліся лаўкі, ды там жа — вокны, загатаваныя, але незашклёныя, праз іх урываўся злосны скразняк.

Лягчэй за іншых быў адзеты гаспадар, па-хатняму, у вязанай безрукаўцы, пінжак маглі б дазволіць надзець, але, пэўна, са страху ён забыўся пра яго, і Хрысціна не падала ніякай напраткі. Таксама са страху, відаць.

Шабовіч прыгадаў, што, пакуль яны скідаліся ў «ачко», яна на кароткі час, на паўгадзіны, выходзіла да суседзяў, так і сказала мужу: «Я да Камарковых». Хто яны, гэтыя Камарковы? Спытаць у Чурсіка? Не. У паліцая сапраўды такі падазронасць, ён староніцца кожнага з іх, разоў колькі паўтарыў: «Падвялі вы мяне, ох, падвялі. Хто толькі?» Не, ён, Шабовіч, не можа паддавацца пачуццю падазронасці. Выхад гаспадыні не вяжацца з налётам СД. Скажы, калі ласка, які агент старажоўская баба! Ды тут тэлефона за вярсту не знойдзеш. Ды і навошта ім такая гульня? Калі кагось з іх ці ўсіх трох трэба было ўзяць, дык узялі б з бальніцы, з управы, з батальёна. Ніхто ж не хаваўся, усе легальныя, прозвішчы сапраўдныя, адзнакі маюць у пашпартах аб рэгістрацыі. Аднак чаму гэтак «замялі»? Во задача з трыма невядомымі. Калі гэта не «агульная чыстка», татальная, рашыць такую задачу будзе вельмі няпроста. Што з арганізацыяй? Ці ўцалеюць хлопцы? Шкада, калі вобыскам напалохаюць яго гаспадыню. Добрая бабуля пані Ярэна, польская арыстакратка, інтэрнацыяналістка. Міцкевіча чытае па-польску, Пушкіна па-руску, Гётэ па- нямецку, Купалу па-беларуску і захапляецца іх мудрасцю і мудрасцю народаў, што нарадзілі геніяў. Аднак жыла ў ілюзорным свеце — як на небе, а не на акрываўленай зямлі. Вайну ўяўляла такой, якой яна была тады, калі пані ў пятнаццатым уцякла ад немцаў з Беластока ў Мінск, дзе жыла сястра яе, а ў дваццатым вярталася назад пад сцягі адроджанай Польшчы, каб у трыццаць дзевятым зноў прашпацыраваць пехатою чатырыста кіламетраў. Але быў налёт нейкай дзіўнай рамантыкі ў яе расказах пра сваё бежанства. І ўсе салдаты былі добрыя — і рускія, і польскія, і нямецкія. Рыцары. Ажно пакуль з месяц назад ён, Шабовіч, не прынёс газету паліцаяў «Беларусь», і ў ёй заклік, «шапка» над старонкай: «Забі жыда і ляха!» Пані не адразу нават паверыла, што такое маглі надрукаваць у сапраўднай газеце. «І гэта не адзін экземпляр? Тысячы?! І людзі чытаюць гэта? І маладыя хлопцы ў шынялях будуць ажыццяўляць гэта? Пан Станіслаў! Пан Станіслаў! Што ж гэта такое? Што ж гэта робіцца? Дзе бог? Дзе Езус?»

З вялікім страхам у душы жыве пасля гэтага пані Ярэна. Калі жандары СД наляцяць у яе дом і перавернуць камоды і пярыны,

загоняць бабулю ў магілу заўчасна. «Пройдзе ўсё добра — выберуся з гэтай кватэры. Нельга старога чалавека ставіць пад удар»,— падумаў Стась. Пройдзе... Пройдзе, але куды. На добрае спадзяванняў мала, вельмі мала.

Машына грукала па бруку.

Шабовіч глянуў у акенца. У начным змроку праплывалі невысокія будынкі, да іх — рукой падаць. Цесная вуліца. Няміга. Вязуць у турму? Не. Хутчэй — у СД, гэта амаль побач з турмой, у будынку медінстытута. Пра гэта, відаць, падумаў і Хацяновіч, бо на стогны зяця сказаў:

— Запасайся цярпеннем. Хутка нас патрашыць пачнуць.

— Каго? Я пры чым тут! Я ні пры чым! Я — лепшы паліцэйскі,— заскуголіў Чурсік.

— Не вый, пёс,— зняважліва кінуў нехта з чужых.

«Свае хлопцы»,— падумаў Шабовіч адначасова са смуткам і задавальненнем: той, што ахрысціў так паліцая, не папаўзе на каленях, побач з такімі і на смерць лягчэй ісці.

Не, прывезлі іх у турму. Высадзілі ў турэмным двары.

На глухой сцяне будынка пад казыркамі гарэлі сінія лямпачкі. Цьмяна свяцілі. Але ў фантастычным святле гэтым Шабовіч разгледзеў постаці людзей, што стаялі тварам да сцяны, уткнуўшыся ў яе лбамі. Калі іх вялі сюды, машына, разварочваючыся, чырканула яркім промнем фар па гэтай сцяне. Людзей было нямнога, чалавек трыццаць. На татальную аблаву не падобна. Але, магчыма, гэта пачатак — група стаяла шчыльна, адзін паўз адзін, мімаволі падумалася, што месца каля сцяны эканомяць для іншых.

Амаль усе арыштаваныя былі адзеты гэтак жа лёгка, як і яны,— у адных пінжаках, нават у сарочках. І гэта, бадай, пры нулявой тэмпературы.

Іх паставілі ў канцы сцяны, воддаль ад тых, каго прывезлі раней. Нешта новае ў метадзе акупантаў. Па расказах тых, хто апынуўся ў турме і каму ўдалося вырвацца ці перадаць вестку на волю, немцы пачынаюць з допытаў, і допыты гэтыя розныя і па сутнасці і па форме — ад захавання, знешне, працэсуальных норм да грубых бесчалавечных катаванняў. Рэжысёр падпольнай дзейнасці Станулін спрабаваў і допыты інсцэніраваць, катаванні ўмоўна, лічыў, што падпольшчыкі павінны рыхтаваць сябе і на подзвіг і на смерць. Але да гэтага ён не дадумаўся — да выпрабавання холадам.

Так, людзей катавалі холадам. Страшнае катаванне. Шабовіч спачатку не падумаў пра гэта, можа, таму, што адзеты быў цяплей за іншых — пад пінжаком меў світэр. Але праз чвэрць гадзіны адчуў, што карчанее. На моцным марозе чалавек дубее хутка і траціць адчуванне, а такі золкі холад даконвае павольна: доўга нарастае боль у галаве, у грудзях, у нагах, потым пачынае здавацца, што ў цябе застывае кроў, гэта страшна. Паралізуецца воля. Разумееш, што, каб сагрэцца, жыць, трэба рухацца, але не можаш, як бы баішся страціць апошнія калорыі энергіі. А тут паскараюць гэты працэс, бо рухацца не даюць, нават памахаць рукамі не даюць, хіба можаш пацёпаць плячамі. Чурсік паспрабаваў махаць і тут жа зарабіў прыклада ў спіну.

Шабовіч разумеў, як паліцэйскі пакутуе,— ад страху, ад холаду. Яго спробы даказаць сваю вернасць акупантам прысякаліся грубейшым чынам. Падпольшчыка гэта і цешыла і насцярожвала.

Чурсік павярнуўся, заскуголіў, закрычаў:

— Я — паліцэйскі! Я — паліцэйскі! Адпусціце мяне! Дайце вашага начальніка! Ён зразумее...

Яму «далі начальніка» — вартавы сунуў дулам аўтамата ў рот, выбіў зуб ды яшчэ і дадаў да гэтага выспятка ў жывот.

— Паварочвайся і маўчы,— ціха параіў Чурсіку швагер,— а то заробіш кулю.

І ўсё-такі гэта татальная аблава, заключыў Шабовіч, бо хоць і нячаста, але прыходзілі машыны з новымі арыштаванымі. Праўда, у верасні везлі на грузавіках, гналі калонамі, рабочых хлебазавода забралі ўсіх начыста. А тут — невялікія групы і толькі на закрытых машынах. Чаму? Каб хоць можна было паглядзець на гэтых людзей, па іх здагадаўся б, каго падбіраюць, а можа, і знаёмых убачыў бы, думаў Шабовіч. Нельга перакінуцца словамі,— урэшце падпольшчыкі ўмеюць нямала сказаць і вачамі, позіркамі. Але ўбачыць новых нельга не толькі з-за асвятлення, але і таму, што не даюць павярнуцца. Людзей гоняць за тваёй спіной, а ты глядзі ў сцяну, не смей нават вачэй скасіць.

Шабовіч не даваў холаду замарозіць свой розум, волю — увесь час нябачна рухаўся і праз гадзіны дзве-тры пераканаў сябе, што чалавек можа вытрымаць і такія выпрабаванні, хоць, як фельчар, добра разумеў, што большасць гэтых людзей атрымае крупознае запаленне лёгкіх, калі іх не вызваляць, а загоняць у гэты каменны мяшок з круглымі вежамі, збудаваны царызмам, ці яшчэ горш — пагоняць у Трасцянец, у халодныя баракі, гэта — смерць. Так памерці не хацелася. Трэба змагацца! З холадам. З фашыстамі. Калі

паміраць, дык, чорт вазьмі, з музыкай, такі зарок ён даў сабе, уступаючы ў барацьбу. Але як у такіх вось умовах наладзіць тую «музыку»? Патрымаюць гэтак паўсутак, а вецер робіцца ўсё больш калючы, працінае наскрозь і ў зацішку,— і здубееш, загусцее кроў, і спыніцца «матор». Крыўдна ўвогуле. Крыўдна — дзе схапілі. Не на заданні. За картамі. У паліцая ў доме. Можа, памагчы яму вызваліцца? Ён, Шабовіч, трохі валодае нямецкай. Такім крокам можна заваяваць поўны давер паліцая — на будучае. А магчыма, і зараз палегчыць лёс свой, Іванаў, Хацяновіча: калі паверыць наконт Чурсіка, то іх, напэўна, павядуць на допыт, у цёплы пакой. Але нейкі вышэйшы чалавечы прынцып, гонар не дазволіў зрабіць гэта — ратаваць паліцая і ратавацца праз яго.

Недзе, можа, пад раніцу ў турэмны двор увайшлі цяжкія машыны і асвяцілі фарамі сцяну і людзей каля яе. І адразу пачулася зычная каманда:

— Кру-гом!

Але, мабыць, не ўсе арыштаваныя сцямілі, што каманда гэтая для іх, бо праз шум матораў прагучэла бадай лагоднае:

— Усім павярнуцца ад сцяны да мяне.

Фары асляпілі вочы, але праз хвіліну-другую, адаптаваўшыся да святла, Шабовіч убачыў паўзвода салдат з аўтаматамі на грудзях і асобна ўбаку, з краю строю арыштаваных, групу афіцэраў СД. Але зацікавілі не афіцэры — чалавек у даўгім цывільным паліто і... з чорным, накшталт куклуксклanаўскага, капюшонам на галаве; у тканіне прарэзаны шырокія дзіркі для вачэй.

— Правакатар,— уголас сказаў Хацяновіч, як бы жадаючы папярэдзіць усіх, хто мог яго пачуць.

Але так замаскавацца мог толькі той, хто ведае многіх падпольшчыкаў і хто, пазнаўшы арыштаваных, намераны прадаўжаць сваю чорную справу па выяўленні патрыётаў- змагароў. Следам за правакатарам ішоў чалавек у скураным паліто і цывільнай фуражцы.

— Начальнік следчага аддзела паліцыі Сысоеў,— паведаміў пра яго Іван.

У акалелага Шабовіча стала гарачай спіна, застукала ў скронях. Як выкрыць шпіка? Сарваць капюшон? Але хто яго ведае? А калі і пазнае, то хто здолее вырвацца адгэтуль, каб папярэдзіць таварышаў? А між тым правакатар павольна ішоў паўз строй здубянелых людзей і пільна ўзіраўся ў ярка асветленыя твары. І раптам спыніўся і тыцкнуў рукой у чорнай пальчатцы ў грудзі

арыштаванаму. Тут жа да яго падскочылі двое ў чорных шынялях, схапілі пад рукі і адвялі бліжэй да аўтаматчыкаў, пасадзілі на зямлю. Салдаты ўзялі аўтаматы напагатоў.

Чорная рука тыцкнула ў другога, трэцяга... Потым адразу ў траіх, што стаялі побач.

Іван Ткачук сціснуў Стасеву руку, прашаптаў:

— Двое — нашы.

Безумоўна, не з батальёна,— адзеты ў цывільнае, з падпольнай групы, якой Іван перадае заданні цэнтра. Вось і яго, Шабовіча, знаёмы — урач трэцяй бальніцы Ананыч; Стась не ведаў, што ён падпольшчык. Але арышт гэтага чалавека разануў сэрца страхам. Не за сябе. За Аксану. Рызыкоўную сувязную з партызанскімі атрадамі не маглі не высачыць. І маглі ўзяць. Калі яна яшчэ не ўзята — папярэдзіць! Але якім чынам? Ці адпусцяць тых, каго не апазналі? Ці адпусцяць Чурсіка? Каб адпусцілі, папрасіць яго перадаць Аксане, дзе ён, і сказаць ёй, напрыклад: «Сходзі да дзядзькі і дзеда». Зразумее: «Ідзі да Дзядзюлі».

Правакатар набліжаўся.

Аднаго з арыштаваных следчы ўдарыў па твары, і таго адвялі ўбок, але не да тых, каго садзілі перад аўтаматчыкамі, паставілі асобна.

Іван зноў сціснуў Стасеву руку, але так — як развітваюцца. Шабовіч не хацеў развітвацца не толькі з таварышам па барацьбе, але і з гэтай злавеснай маскай.

А «капюшон» падышоў і спачатку як бы мінуў іх — Івана і Стася. Але да Чурсіка ступіў следчы і з ходу, з размахам, «адвесіў ляшча», у паліцая ажно матлянулася галава, і ён стукнуўся патыліцай аб сцяну. Турэмшчыкі падхапілі яго пад рукі і адвялі да таго, першага, але, здалося Шабовічу, зрабілі не так груба, як адводзілі тых, што апынуліся пад дуламі аўтаматаў. Аднак не да Чурсіка было. Правакатар ступіў назад і ўгледзеўся спачатку ў Ткачука, потым у яго, Шабовіча. Пільна ўгледзеўся, зацянёныя вочы свяціліся з глыбіні капюшона, як у ката.

Рукой не тыцкнуў ні ў аднаго з іх, ніякага руху, здаецца, не зрабіў, ніякага знаку не падаў, толькі пастаяў даўжэй, чым перад іншымі, даўжэй, чым нават перад тымі, у каго тыцкаў сціснутым кулаком.

Але калі таемны агент адступіў, месца яго заняў афіцэр СД. Ён таксама ўгледзеўся ў іх, як бы запамінаючы твары, і ў вачах яго — ці, можа, Шабовічу здалося? — бліснула радасна азартная ўсмешка, як у паляўнічага, які ўбачыў дзіка.

Калі і эсэсавец пайшоў далей, Іван прашаптаў:

— Я пазнаў яго. У яго няма на правай руцэ вялікага пальца. Заўважыў?

Шабовіч скалануўся. Месяцы тры назад, улетку, у лесе пад Ждановічамі, групе падпольшчыкаў інтэлігентна апрануты чалавек расказваў аб афармленні дакументаў, аб памылках, праліках у гэтай рабоце, аб метадах выкрыцця гэтых памылак акупацыйнымі органамі. Расказваў з веданнем справы, цікава. Аднак сама ідэя сабраць разам пятнаццаць чалавек, многія з якіх не былі знаёмыя, Шабовічу не спадабалася, і ён не ўзяў на пікнік Аксану, нягледзячы на рэкамендацыю Стануліна. Яны былі з Іванам, і той першы заўважыў, што ў інструктара няма пальца. Драбяза. Ці мала ў вайну людзей без пальцаў? Але ім з Іванам гэта чамусьці не спадабалася. Сказалі камандзіру. Той назваў іх спалоханымі варонамі, якія баяцца куста. І вельмі хваліў Клюшава. Вучоны, юрыст, крыміналіст, спецыяліст па падробках, служачы пашпартнага аддзела. Знаходка. Найважнейшыя дакументы ідуць ад яго ці праз яго.

Вось табе і знаходка!

— Помніш? — прашаптаў Іван.

— Помню.

— Вучоны!

Абодва яны думалі пра адно і тое: такі крыміналіст не мог не пазнаць іх. Але чаму прайшоў міма? Магчыма, арыштавалі яго і гвалтам прымушаюць пазнаваць тых, каму ён падрабляў дакументы. Але калі гвалтам, калі на волю яго не выпусцяць, то навошта такі маскарад? Арыштаванага вадзілі б з адкрытым тварам. А вось правакатара, які ўдзень зноў пойдзе ў пашпартны аддзел і даверлівыя зноў паляцяць да яго, што матылі на агонь,— такога варта скрываць.

Як папярэдзіць сваіх? Як папярэдзіць?

Група з тых, у каго «капюшон» тыцкнуў кулаком з пустым пальцам пальчаткі і каго садзілі перад аўтаматчыкамі (чаму садзілі на зямлю?), расла, набралася дзесяткі два.

Шабовіч разумеў — гэта смяротнікі, Іванава і яго месца сярод іх, аднак не парадаваўся, што пранесла, не верыў, што лёс злітаваўся з іх. Няпэўнасць трывожыла больш, чым яўная небяспека. Што зробяць з тымі, хто застаўся ў страі? Знялі яны выпадкі, калі людзі вызваляліся з турмы, нават некаторым падпольшчыкам удалося. Але каб фашысты вызвалілі добрую сотню людзей, пераважна маладых мужчын,— такога не было. І не

будзе. Пасля вераснёўскай аблавы ўсе тыя, каго не расстралялі, апынуліся ў Германіі, на катарзе; пра гэта ў падполлі дакладна ведалі. Шабовічу страшэнна не хацелася апынуцца там. Баяўся не пакут, пужала магчымасць апынуцца ў такіх умовах, дзе ніякага змагання весці нельга будзе.

Пагаслі фары. Засталіся адны сінія лямпачкі. Святло іх на міг як бы прыглушыла трывожнае чаканне бяды. У Шабовіча ў прыватнасці. Але тут жа прагучэла зычная каманда па-руску:

— На-пра-во!

Для іх, безумоўна, для той большасці, што заставаліся стаяць каля сцяны. Па-салдацку хутка і дакладна павярнуўся Іван, ён, Стась, за ім. Дзіўна, але наперадзе ў іх некаторыя павярнуліся налева і гэтак няўцямна — дзе права, дзе лева — стаялі, можа, таму, што там, куды яны павярнуліся, былі вароты, выйсце.

Павялі іх у глыбіню турэмнага двара, за вугал будынка, каля якога стаялі. Павялі — не тое слова. Рабілі пяць- сем крокаў і спыняліся. За вуглом Шабовіч убачыў — чаму: невялікімі групамі ўпускалі ў будынак; акалелыя да непрытомнасці, людзі паспешліва, можа, нават з радасцю ныралі ў светлы — унутры свяціла лямпачка — праём дзвярэй.

Чарговую групу, значна меншую, чым папярэднія, адсеклі перад Іванам. А іх упусцілі двух, Стась паспеў аглянуцца. І не павялі па калідоры, адкуль чуліся гулкія крокі тых, хто ўвайшоў раней.

Турэмшчык загарадзіў ім дарогу і гасцінна адчыніў дзверы — не ў камеру — у службовы пакой: там стаялі заляпаныя чарнілам сталы, за адным сядзеў паліцэйскі чын. А ў куце ціснуліся адзін да аднаго шэсць чалавек такіх жа арыштаваных, гэтак жа лёгка адзетых.

Шабовіч не ўгледзеўся ў сяброў па няшчасці, бо ўсё заслаліла імгненнае шчасце: гарачая хваля цеплыні ўдарыла ў твар, у рукі, адразу прабіла вопратку, улівалася ў цела. Яно забалела і засвярбела. Але непрыемныя адчуванні былі імгненныя. А потым цеплыня дзейнічала, што моцнае віно. Закружылася галава, наступіла асалодная млявасць. Нічога не хацелася бачыць, ні пра што няздольны быў думаць. Захацелася спаць, непераадольна. Упасці на брудную падлогу і заснуць.

Відаць, зараз пачнецца допыт: у пакой увайшлі афіцэры СД, перад якімі турэмшчык-паліцай пачціва выцягнуўся. Але мабілізаваць сілы на допыт не здолеў. Спаць! Спаць! Праціснуўся праз арыштаваных, прытуліўся спіной да сцяны і... заснуў.

Напэўна, заснуў. Бо не чуў, што гаварылі іншыя, нават Іван. Аднак запомніў, што сам адказваў на пытанні: прозвішча, імя, па бацьку, месца працы, адрас пражывання. Праўдзіва адказваў, бо помніў, што пры арышце ў яго забралі начны пропуск і пасведчанне — кніжачку з чырвоным крыжам на зялёнай вокладцы.

Ды дрымотнае забыццё, правал у цеплыню цягнуліся нядоўга, магчыма, пакуль ішоў фармальны допыт-перапіс. Але як толькі ляснулі, што стрэлы, нямецкія словы, сон адразу адляцеў, мозг напружыўся, як і цела. Словы Шабовіч зразумеў без перакладу, хоць мову ведаў яшчэ слаба — для пабытовага ўжытку.

Іх варожая нямецкай арміі і ўладам бандыцкая дзейнасць добра вядома органам аховы парадку, і па законах ваеннага часу усе яны заслугоўваюць расстрэлу — без суда. Але ім могуць дараваць жыццё, калі яны... Што зробяць?

Пачакаў перакладу.

Ім даруюць жыццё, калі яны назавуць сваіх кіраўнікоў, сваіх саўдзельнікаў, іх прозвішчы, адрасы.

Ніхто не адказваў.

— Ну-у? — па-руску спытаў эсэсавец.

Ступіў крок уперад Іван Ткачук.

— Пан афіцэр, я баец батальёна самааховы. Я верна служу новаму парадку.

Афіцэр скрывіўся ва ўсмешцы.

— Як ты служыш, мы табе раскажам. Дзе явачная кватэра, на якой вы сустракаецеся? Куды перабраўся пісар? — і ўсё гэта па-руску, хоць і ломана. Шабовіч напружыўся яшчэ больш: «Пісар» — падпольная клічка Піліпа Станулiна. Але, выходзіць, не ўзялі яго, калі пытаюць, куды перабраўся.

— А хто ён, пісар? — наіўна пацiснуў плячамі Іван.— Першы раз чую.

Афіцэр сарваўся да крыку.

— У карцэр! Няхай праветрыць мазгі! Успомніць! — крычаў па-нямецку, следам гэтак жа злосна крычаў перакладчык.

Але Івана не вывелі, каб тут жа пасадзіць у карцэр.

Наперад высунуўся нізкарослы чалавек, сярэдніх гадоў, у непаголенай барадзе прабівалася сівізна. Звярнуўся не да афіцэра — да перакладчыка:

— Скажы, браток, што я не помню адрасоў, але тры дамы на Камароўцы, куды нас прыводзіў Анціпка, брыгадзір наш, я магу паказаць.

Выслухаўшы, афіцэр пахваліў:

— Гут,— і звярнуўся да іншых: — У каго адагрэўся розум? — тыцкнуў пальцам у грудзі Шабовічу.— Ты?

— Я фельчар бальніцы. Бываю ў многіх кватэрах. Але пры чым тут хворыя? Не разумею.

— І ты не разумееш? Ха! Што ж, праветрымся.

— Выходзь!

У калідоры вартавыя наставілі на арыштаваных аўтаматы. Іх пасадзілі ў пакалечаную зісаўскую палутарку, адзінаццаці чалавекам у кузаве было цесна сядзець. Ззаду за грузавічком ішоў чорны закрыты фургон, такі, у якім іх везлі сюды.

Рабілася нешта загадкавае, незразумелае, ніколі яны, падпольшчыкі, не толькі не прагаворвалі паміж сабой падобныя дзеянні СД, паліцыі, але ніхто, напэўна, і не падумаў, што можа здарыцца такое. Навошта ажно восем незакутых чалавек вязуць на глухія начныя вуліцы, дзе адзін здраднік пакажа явачныя кватэры? І ахова невялікая — тры аўтаматчыкі. Праўда, невядома, колькі варты ў фургоне.

Нібыта прыйшло тлумачэнне незразумелым паводзінам СД, калі на Камароўцы фургон загруз. Дзіўна, слабенькі «зісік» прайшоў, а хвалёная нямецкая машына села. Залішне цяжкая, бранявая, ці што? Ці трэба было, каб яна села?

Яны піхалі яе. Ахвотна, каб сагрэцца, бо на скорасці вецер пранізваў да касцей, ад холаду зноў застывала не толькі цела, але і мозг, душа.

Работа ажывіла. У кузаве яны ціснуліся адзін да аднаго, але адчужана маўчалі. А тут як бы раптам зблізіліся — загаманілі, піхалі машыну і штурхалі адзін аднаго — каб пагрэцца. Нехта нават «ціснуў» смехам. І ў Стася бліснула думка: калі яшчэ раз загрузне — уцякаць. Вартавыя, хоць і не памагаюць піхаць машыну, але ўвага іх аслаблена. А двары — вось яны, за тры крокі, і платы такія, што можна пераскочыць.

Калі лезлі ў кузаў, ускочыў першы, падаў Івану руку, прыняў яго ў абдымкі, як дзяўчыну, сказаў, не таячыся:

— Рабі, як я.

Іван зразумеў і пацвердзіў гэта поціскам рукі.

Здраднік дрэнна ведаў камароўскія вуліцы, блукаў. Завёў у завулак-тупік, з якога ледзь выбраліся заднім ходам. Зноў піхалі машыны, абедзве. Але месца для ўцёкаў не лепшае — платы новыя, высокія. Не пераскочыш. Нэпаўскія платы. Ён, Шабовіч, яшчэ да вайны заўважыў на Камароўцы, на Старажоўцы гэтую

асаблівасць: вуліцы тут, як вёскі, ёсць бедныя, струхлелыя, а ёсць багатыя, падноўленыя.

Урэшце здраднік знайшоў дом, у які «вадзіў іх Анціпка». Прозвішча знаёмае, але дзе чуў яго — Стась успомніць не мог. Брыгадзір? Які брыгадзір? У некаторых падпольных групах кіраўніка для канспірацыі таксама называлі брыгадзірам. Але насцярожыла іншае, калі ўгледзеўся: прыгадаў, што ён таксама некалі наведваўся ў гэты ладны дом, да вайны, тут жыў урач іх бальніцы Фрайман. Але ўрач з сям'ёй эвакуіраваўся з Мінска на трэці дзень вайны, бальнічны конюх Атрох падвозіў яго і яшчэ дзве сям'і з дзецьмі малымі ажно да Чэрвеня.

Хто ж заняў гэты пакінуты дом? Вельмі можа быць, што Фрэйман перадаў яго на захаванне некаму са сваіх калег — урачоў ці сясцёр, нямала іх жыло на прыватных кватэрах. Можа, толькі ў вайну Стась адчуў, як нечакана і загадкава пераплятаюцца лёсы людзей. Вельмі можа быць, што тут жыве яго аднакурсніца Марына Яська, яна, здаецца, казала, што перабралася на новую кватэру. Калі гэта было? Падпольная дзейнасць адцягнула яго ўвагу ад побыту саслужыўцаў, ды і ўвогуле вайна ўскладніла ўспрыняцце часу і падзей: з памяці знікае тое, што непатрэбна для дзейнасці.

У дом пайшлі здраднік, афіцэр, чатыры аўтаматчыкі. Усё-такі іх многа ў фургоне. Было. Наўрад ці засталося яшчэ столькі. Адзін-два, не больш. А тут трое, усяго трое. Двух можна выбіць — яны стаяць блізка, каля бакавых бартоў.

Тузануў Івана за крысо шыняля: «Рабі, як я!» І што ёсць сілы піхнуў у грудзі канваіра з правага борта. Той мяшком чмякнуўся за борт, у гразь. Шабовіч скочыў на яго, ударыў ботамі ў цвёрдае, не ўбачыў, не адчуў у што — ці ў галаву, ці ў грудзі, ці ніжэй. Немец зароў. Стась прытаіўся пад кузавам, побач з канваірам, які стагнаў і драпаў рукою кола. Дзіўна, чаму не страляюць? Разгубіліся? Куды кінуцца? Наперад па ходу машыны? Але шафёр, напэўна, уключыць фары, і тады ён стане мішэнню і для таго аўтаматчыка, што застаўся ў кузаве, і для тых, якія, вельмі можа быць, стаіліся ў фургоне. Перапоўз пад машынай на другі бок, куды павінен быў скочыць Іван? Ці скочыў? Нарэшце паласнула аўтаматнай чаргой з кузава, але туды, у той бок, трушчыла паркан, праз які ён намерваўся пераскочыць. Разумна ён перапоўз. У гэты бок не страляюць. Кулі могуць пацэліць у дом, куды пайшоў афіцэр з аўтаматчыкамі. Але ж дом гэты і для яго

лепшы ратунак, калі ён паспее ўскочыць у двор раней, чым тыя выскачаць на стрэлы.

Паспеў. Ускочыў у весніцы. Вільнуў убок і ўпёрся рукамі ў дровы. Паветка з дровамі! Прысеў там у той міг, калі шыбы задрыжэлі ад грукату дзвярэй — немцы стрымгалоў вылятаЛі з дома, у калідорах грымелі вёдры, гырготна трашчала лаянка.

Праз міг да двух аўтаматаў — засталося двое ў кузаве ці былі ў фургоне? — далучыліся яшчэ чатыры. І пісталетныя стрэлы. Колькі пісталетаў? У афіцэра, у шафёра... А, здаецца, страляюць больш. І ўсе паляць у той бок, куды ён намерваўся бегчы, куды, па логіцы праследавацеляў, ён павінен быў пабегчы. Чаму ніякай увагі сюды? Іван павінен быў скочыць на гэты бок. Няўжо не скочыў? Няўжо не спіхнуў аўтаматчыка?

Страляюць злосна, азвярэла. Дзынкаюць шыбы. Па вокнах паляць. Заб'юць людзей, сволачы. Людзей тут і так добра патрасуць, калі яго не зловяць, не заб'юць. Ашалеюць ад злосці, што так недарэчна выпусцілі здабычу. Напэўна, расстраляюць яго таварышаў па няшчасці. Але тым, што вернецца, ён не ўратуе ні сябе, ні іх. Вораг бязлітасны.

Стрэлы аддаляліся. Прачэсваюць гароды на тым баку. Паляць у белы свет як у капеечку. Могуць вярнуцца і на гэты бок. Што лепш для яго — сядзець тут ці аддаляцца, пакуль .не позна? Так блізка яны не дадумаюцца шукаць яго. Але могуць шукаць кагосьці іншага ці штосьці ў таго, за кім сюды прыехалі. Нарэшце, на такую страляніну па трывозе напэўна прыбудуць начныя патрулі; калі з сабакамі-сышчыкамі, то тады не схаваешся і ў цемры асенняй ночы.

Аднак чаму так ціха каля машыны — ніводнага голасу? Куды падзеліся яго таварышы па няшчасці? Расстралялі іх? А свайго вартавога? Ён добра такі стукнуў яго ботамі, і той енчыў да таго, пакуль на стрэлы не выскачылі з дома афіцэр і аўтаматчыкі. Чаму змоўк ранены? Але не высунешся ж, каб паглядзець.

Холад тут горшы, чым у турэмным двары. Там ён не дрыжэў, а тут калаціла так, што ляскаў зубамі. Моцна ляскаў — можна пачуць па той бок варот. Падумаў, што гэта не ад холаду — ад страху, і стала брыдка. Здаецца ж, даўно прывучыў сябе да любой небяспекі, звыкся з думкай аб смерці. Дык чаго баяцца тут?

Далёка аддаліліся стрэлы. За кім яны гоняцца? За Іванам? За тымі, што сiганулі ў цемру следам за імі, аглушыўшы апошняга вартавога? Дзіўна, у доме гарыць святло, але ў незакрытым аканіцамі акне ніводнага чалавечага ценю. Мільганула нават

думка: зайсці ў дом і схапіць хоць якую напратку. Але думкі-маланкі асвятлялі на міг і гаслі: цвярозая развага наступала ў цемры і цішыні. А калі там застаўся вартавы? Напэўна, застаўся. Не палічыў ён, колькі іх выскачыла на стрэлы. А па хуткасці, паспешлівасці, з якой яны кінуліся на вуліцу, па цішыні каля машын можна заключыць, што арыштаванага не вывелі. А калі ў доме нават адны дзеці — вартавога, напэўна, пакінулі, бо вобыску за такі кароткі час — колькі хвілін — зрабіць не маглі.

Нарэшце стрэлы сціхлі, і недзе там, на тым баку, на гародах ці на паралельнай вуліцы пачуліся галасы. Нямецкая ці руская гаворка — разабраць цяжка. Здалося, што руская. Але адкуль там столькі рускіх? Не вадзілі ж немцы за сабой арыштаваных. Аднак і каля машыны не чуваць — сапраўды там загадкавая цішыня.

Трэба адыходзіць! Чым далей, тым лепш. Урэшце, на такім балоце і сабакі не возьмуць след.

Каля хлеўчука, туды падала святло з задняга, пэўна, кухоннага акенца, Шабовіч намацаў драўляную кладку. Сцежка ў прыбіральню. Ступіў на яе — заскрыпела. Саступіў. І ўгруз ледзьве не па калені, добра што ў ботах, чаравікі засмактала б. Дрыгва. Багна. Ведаў ён добра асеннюю Камароўку. На гародах і вуліцах тут — меліярацыйныя канавы на выпадак мокрага лета. Але затое ў сухое лета жыхары завальвалі рынак гароднінай.

Ішоў па гародах. Лёгка пералазіў нізкія платы. Сабак няма, немцы знішчылі іх. Але ад такога шуму прачнулася, напэўна, уся Камароўка, і, безумоўна, не адзін гаспадар вылез са сваёй нары ў двор — паслухаць, што адбываецца. І невядома, на каго трапіш. Глядзі, улезеш у абдымкі паліцаю. Ды і мешчанін можа сустрэцца такі, які захоча выслужыцца перад новай уладай. А здагадаецца і дзіця, хто хаваецца за хлявамі пасля такой страляніны. Не, адзін чалавек не стане яго браць, пабаіцца. Ды і не дасца ён у рукі аднаму. Няхай паспрабуе. Разгледзець яго можна крокаў за пяць, не бліжэй: цемра што дзёгаць. І зямля такая ж чорная. І неба. Здрадліва чвякае багна пад нагамі. Такое чвяканне ў начной цішыні далёка чуваць. Стараўся ступаць як можна цішэй.

Аднак неба на ўсходзе святлее. Да раніцы яму трэба выбрацца з гэтых балоцістых гародаў. А куды выбрацца? Куды ён можа пайсці? Дадому не пойдзеш — там засада. І да Аксаны... Думкі пра Аксану кідалі застылае цела ў жар. За сябе, распранутага, па сутнасці бездапаможнага, не баяўся — за яе баяўся. Калі яе і не ўзялі, то засаду, напэўна, зрабілі. Пайсці да яе — загубіць і сябе і яе. Дзесьці трэба ўзяць напратку, інакш акалееш. Ды і з'явіцца

ўдзень на людзі ў адным пінжаку немагчыма: не толькі любы «штурмфюрэр», салдат, паліцай западозрыць, але і кожны хлапчук, кожная баба зверне ўвагу і запомніць. Напратку трэба дастаць да світання! Але як? Зайсці ў першы ж дом і папрасіць. Адмовяць — прыстрашыць. Чым? Трымаць руку ў пустой кішэні? Такое неспадзяванае ўварванне ашаломіць любога, самага смелага, і чалавек дасць якое-небудзь старое паліто — абы хутчэй адчапіцца ад такога госця. Зайсці зараз жа? Спакуслівa. Але пакуль так блізка стаяць машыны з жандарамі, заходзіць рызыкоўна.

Прытуліўся да хлеўчука. Аднак як застыла спіна! Абмытае лістападаўскімі дажджамі дрэва здалося цёплым. І адразу, як у турме, пацягнула на сон. Міг — і праваліўся ў салодкую бяздумнасць. Але тут жа пачуў рохканне свінні. Сасніў? Пакруціў галавой, працёр вочы. Не, сапраўды свіння. За сцяной і як бы ў падзямеллі. Безумоўна, у склепе. Хто цяпер стане трымаць свінню так, каб рохканне яе, а тым больш віск чулі ўсе суседзі. Такую свінню не адкорміш — украдуць тут жа, народ галадае. Ды і ўлады... Цікава, якая існуе пастанова наконт жывёлы. Дарэмна не пацікавіўся. На акраінах, на татарскіх гародах трапляліся адзіночныя каровы. Значыцца, жывёлу трымаць можна. Але ў дом гэты лепш не заходзіць: свінню трымае безумоўна мужчына, гаспадар пільны; калі не мае стрэльбы,— зброю абавязалі здаць пад пагрозай смяротнай кары яшчэ ў мінулым годзе, у пачатку вайны,— то вострая сякера, напэўна, ляжыць каля дзвярэй. І такі раскроіць табе чэрап не задумваючыся.

Не, за напраткай трэба заходзіць у бяднейшы дом, не ў такі, дзе хляўчук пахне смалой і трымае цеплыню лесу.

І... зноў праваліўся ў сон. Разбудзіў шум матораў. Нарэшце. Ад'язджаюць. Машыны ішлі на падфарніках за дамамі. Ды раптам зусім блізка павярнулі налева — на яго, пэўна, у перавулак, да якога ён трохі не дайшоў. Машыны ўключылі дальняе святло і лёгка маглі выхапіць яго постаць на фоне сцяны. Ён плюхнуўся ў гразь, што пахла свіным гноем. Стала брыдка. Не ад гною — ад таго, што моцна спалохаўся, як, бадай, нідзе за гэтую незвычайную ноч.

Машыны прайшлі міма, недалёка загрукалі па бруку, набіраючы хуткасць.

І тут абпякла страшэнная думка: яму памаглі ўцекчы. Памагло СД. Ён уключаны ў злавесную правакацыю, галоўная фігура якой — той, бяспалы юрыст.

Але навошта СД ён, Шабовіч? Як яны могуць уключыць яго ў сваю аперацыю? З якой мэтай? Безумоўна, ведаюць, што ён не пешка ў падполлі, што ён ведае многіх людзей, каналы сувязі, яўкі. СД не сумняваецца: першае, што ён стане рабіць, апынуўшыся на волі,— папярэджваць сваіх людзей. Але як яны намераны сачыць за ім, пакінуўшы аднаго ўначы на камароўскіх гародах? Ці ўжо сочаць? Якім чынам? Ніводнага гуку, ніводнага чаўкання ботаў. Ачапілі раён? У такой цемры гэта немагчыма. Ведаюць, што тут побач явачная кватэра — «Шушкета», і спадзяюцца, што ён пойдзе на гэтую кватэру? Хлопчыкі ў фуражках з бліскучымі казыркамі былі б дурнямі, каб так лічылі — прымітыўна. А ён не лічыць іх дурнямі. О не, гэта вельмі спрактыкаваныя сышчыкі! Але ж і яны з сябрамі не лыкам шытыя. Неаднойчы разгадвалі іх планы, адшуквалі і абясшкоджвалі пасткі, настаўленыя на падпольшчыкаў. А тут абсалютна ніякай здагадкі, што ж СД надумала на гэты раз? Хіба толькі зразумела іх ідэя: пасля вераснёўскай чысткі падполле дзейнічае, змяніла хіба формы работы, сувязі. Трэба раскрыць іх. Але як яны могуць выканаць гэтую задачу з яго дапамогай? Прастачка для такой мэты не сталі б выбіраць. А калі ведаюць, што ён не прастачок, то павінны ведаць, што нічога такога, што ім вядома і на што яны разлічваюць, ён не зробіць. Але што ім вядома? І што ён не зробіць? А што можна зрабіць? У галаве — ніводнай вартай увагі думкі. У галаве пуста. І шуміць, як у бетоннай трубе. А можа, усе яго жахі не што іншае, як хворае трызненне? Сапраўды, на што ён здатны? Нюхаць свіны гной.

Шабовіч падняўся. Абцёр гразь. Трэба падцягнуцца, засяродзіцца. Трэба настроіцца на блізкае і вельмі хітрае нападзенне ворага — тады ўміг з'явіцца мноства прыёмаў самаабароны.

Не, гэта не хворыя фантазіі разгарачанага ад холаду, безвыходнасці і страху мозга. Прыгадалася імгненнае першае ўражанне ад гэтых шасці арыштаваных, калі ён убачыў іх у турэмным пакоі. Бліснула тады, што яны не здаюцца акалелымі да паўсмерці, у Івана быў зусім іншы выгляд, хоць ён і ў шынялі — ліловы нос, сінія вушы, няўпэўненая хада — як бы кульгавасць на дзве нагі.

Пэўна, гэткі ж выгляд меў і сам ён, на сябе не мог глянуць. Можа, у розных людзей розны выгляд ад доўгага прабывання на холадзе: адны чырванеюць, другія сінеюць, трэція бялеюць. Але ўсё роўна адрозніваюцца гэтыя людзі ад тых, хто знаходзіўся ўвесь час у цеплыні. У апошніх аднолькава «цёплы» выгляд. Такімі,

падобнымі адзін на аднаго, і здаліся шасцёра. Але там імгненная думка не сфармавалася ў падазронасць. Урэшце, людзі маглі быць у турме, ці з двара іх прывялі раней. Падазронасці не ўзнікла і тады, калі ў кузаве пры рэзкім тармажэнні яго, Шабовіча, кінула на аднаго з «сяброў па няшчасці», і ён адчуў мяккасць яго напраткі. Мала як чалавек мог быць адзеты перад арыштам.

А цяпер усё гэта набывае іншы сэнс. Далучыліся сюды і пісталетныя стрэлы, што ляскалі паміж аўтаматнымі чэргамі. Мнагавата іх было для аднаго афіцэра. Выходзіць, «арыштаваныя» — дадатковая ахова. Безумоўна, трох аўтаматчыкаў на восем чалавек мала, каб ездзіць у адкрытым кузаве ў цемры па глухіх вуліцах. Але разам з тым, навошта столькі аховы, калі ўся аперацыя праводзілася, каб даць яму ўцячы? Ахоўвалі Івана? А можа, наадварот, уцёкі арганізавалі яму, Івану, а вартавалі яго, Шабовіча? Каго ж лавілі, што нарабілі столькі страляніны? Што з Іванам? Удалося яму ўцячы?

Ні ў адной аперацыі — а падпольшчыкі правялі іх нямала, складаных, хітрых,— не прыходзілася рашаць столькі задач адначасова. Разгадаць намер ворага немагчыма — як ні ламай застылую галаву. Перахітрыць можна хіба адным: невытлумачальным, непаўтаральным, хітрым дзеяннем камбінатараў з СД супрацьпаставіць гэткія ж свае дзеянні — такія, каб не ўкладваліся ў логіку майстроў вышуку, аблаў, правакацый.

І першы яго ход...

## 3

Развіднела, калі дабраўся да дома, з якога ўвечары іх узялі,— да паліцая Чурсіка.

Весніцы былі зачынены. Пераскочыў цераз плот, патрабавальна і пагрозліва забарабаніў у акно, так маглі стукаць толькі немцы ці паліцаі. Край коўдры, якой было занавешана акно, падняла гаспадыня. Пазнала яго і... не сцяміла, з якой мэтай мог з'явіцца такі госць, пэўна, падумала, што і Стася адпусцілі, як яе Васіля, і чалавек прыйшоў па сваё паліто.

Хрысціна паспешліва адчыніла дзверы.

Шабовіч адразу ўбачыў, што гаспадар дома: на касяку дзвярэй на цвіку вісела кабура, незашпіленая, тырчэла ручка пісталета. Там жа яна вісела і тады, калі яны гулялі ў карты. Стась прыгадаў, што ўвечары ў яго, не першы раз, з'ўлялася спакуса на развітанне

прыхапіць гэты пісталет. Не, разумеў, безумоўна, што нельга, але за карцёжнай гульнёй чаму не павесяліць сябе гарэзлівай думкай: кабура была ўвесь час перад вачамі.

Афіцэр СД перш-наперш зняў з цвіка кабуру; бадай, гэта была адзіная рэч, якую забралі пры арышце.

Закрыўшы кабуру сабой, непрыкметна сунуў пісталет у кішэню пінжака.

— Васіль дома?

— Пад раніцу вярнуўся. Ні жывы ні мёртвы. Перакалеў дужа. Гэта ж і ты, Стасік, у адным пінжачку. Грэйся. Я грубку напаліла. Самагонкі даць? Васіль пакуль не выпіў ды на гарачы чарон не лёг, сагрэцца ніяк не мог, калаціла яго, як пры трасцы. Дурныя нейкія, гестапа гэтае,— сваіх хапаюць. Дакументы хоць паглядзелі б. У магілу маглі чалавека загнаць. Як шчэ абыдзецца... Каб запаленне не схапіў...

— Адагрэеш.

І тут азваўся гаспадар, сонна праскрыпеў:

— Хто там?

Пасля перажыванняў, астуджанасці, сугрэву добрай порцыяй самагонкі і гарачым чараном не адразу прачнуўся, не адразу прыйшоў да памяці.

— Я, Васіль. Я. Шабовіч.

Уміг паліцай выскачыў з-за перагародкі. Быў ён у світэры — грэў прастуджаныя грудзі, у брудных споднiках.

— Ты? Ты?! Як ты?

— Як і ты.

— Цябе адпусцілі?

— Я ўцёк.

— З турмы?

— З турмы.

— Ой, Стасік! — пляснула далонямі Хрысціна.

— Ста-а-сік! — перадражняючы, загаласіў Чурсік.— Пацалуйся са сваім Стасікам. Каго ўпускаеш, разява! — і кінуўся да дзвярэй, сарваў з цвіка кабуру, але, па вазе адчуўшы, што яна пустая, шпурнуў пад стол і сам сагнуўся, быццам яго ўдарылі ў жывот, заенчыў.

— Не галасі. Пісталет твой у мяне. Сядай, пагаворым.

Чурсік паслухмяна і панура сеў на крэсла каля стала.

Хрысціна сунулася ў спальню.

— Ты куды?

— Штаны Васю дам. І валёнкі.

— Штаны дай. Без штаноў — якая ўлада!

Чурсік узняў галаву, здзіўлена паглядзеў на Шабовіча. А той глядзеў у акно: па вуліцы ішлі людзі, спяшаліся на працу, парадак у немцаў строгі.

— Ты яшчэ жартуеш?

— А чаму мне не жартаваць? Прыйшоў у госці...

— У госці...

— Ты не лічыш мяне госцем? Дарэмна.

Хрысціна прынесла штаны і валёнкі, але Чурсік штаны не надзеў, толькі сунуў ногі ў валёнкі, падлога халодная, вярталася нутраное адчуванне холаду, ад якога пачынала калаціць. А ён не хацеў, каб закалаціла так, як у першыя хвіліны, калі ён вярнуўся дадому, не хацеў, каб гэты нахабнік Шабовіч падумаў, што яго трасе ад страху.

Стась абышоў вакол стала і спыніўся перад ім.

— Цябе нябось у легкавушцы везлі? З прабачэннямі. Памыліліся ці сыгралі спектакль?

— Які спектакль? — шчыра не зразумеў Чурсік.

— Ты нас выдаў? Прызнавайся!

Паліцай падхапіўся з крэсла, закрычаў:

— Не выдаваў я! Адкуль я знаў, хто вы! Чорт вас ведае! Думаў — свае людзі.

— Не крычы, дзіця разбудзіш,— знарок шэптам, пагрозлівым шэптам загадаў Стась.— А мы і ёсць свае. Мы — свае! Разумееш?

Да Хрысціны дайшло ўрэшце, з якім намерам мог прыйсці «госць», які ўцёк з турмы. Яна прыляпіла сябе да сцяны, ажно стукнулася патыліцай аб рамку з фатаграфіямі. Твар яе спалатнеў. Жанчына і без таго жыла пад страхам і неаднойчы ўгаворвала Васіля кінуць паліцыю, пайсці на завод. Лічыла, што муж яе добры чалавек, крыўды людзям не робіць, але на такой службе ўцягнуць яго ў крывавую справу. А ён якраз тым і адбіваўся, што, маўляў, трэба ж некаму служыць і такому, хто'можа абараніць сваіх людзей, не адным жа кулакам, угалоўнікам, выradкам, якія гатовы распяць на крыжы кожнага, хто сумленна працаваў пры бальшавіках. Таму і падбіраліся да Чурсіка падпольшчыкі, бо ведалі, што рукі яго не запэцканы яшчэ крывёю. Іван, калега па службе, адважваўся рабіць яму намёкі. Але паліцай хітра прыкідваўся, што не разумее. Станулін загадаў спыніць «вярбоўку». Пагадзіліся на тым, што лепш мець у яго асобе прыкрыцце — сябруюць з паліцаем! А ў доме — зручнае месца для сустрэч, адкрытую яўку. Туды аднойчы і сам Станулін заглянуў.

Шабовіч не думаў, што Чурсік выдаў іх — ні тады, калі арыштавалі, ні нават тады, калі следчы ўзнагародзіў паліцая аплявухай і таго вывелі з агульнай шарэнгі пад сцяной. Толькі нечаканая, проста-такі ашаламляючая думка, што ўцёк ён у выніку нейкага злавеснага плана карнікаў, «раскручванне» гэтай думкі, каб дайсці да вытоку, да высновы, да разгадкі ўсяго нерата — як пляцецца, куды заводзіцца, упляла ў гэты нерат і Чурсіка: ён таксама можа быць нейкім звяном, няхай і не галоўным. У адным не сумняваўся: пра тое, што ён можа вярнуцца на месца арышту, ніхто не падумае, а гэта моцна зблытае разлікі іх. Але не толькі праз гэта пайшоў на такую рызыку. І не з тым, каб пакараць паліцая. З іншай мэтай.

Спадзяванні яго апраўдваюцца. Чурсік моцна спалохаўся. І жонка яго. Гэта добра. Гэта тое, што трэба! Больш нагнаць на іх страху!

Зашаптала жанчына, ацяміўшыся ад шоку.

— Стасік, родненькі... ды Вася... ён жа куранятка не пакрыўдзіў, не тое каб сваіх выдаваць...

— Ды ўжо ж, міласэрнасцю займаецца ў паліцыі, балячкі лечыць, як я ў бальніцы. Сляпцы вы! Пра дзіця сваё хоць падумалі? Што ёй людзі скажуць пасля вайны? Дочка здрадніка! Думаеце, так проста? Напаскудзіць і схавацца? Не, не выйдзе! Спісы на паліцэйскую сволач даўно перададзены ў Маскву. Не думайце, што мы дрэмлем. Усяму роду вашаму ў сёмым калене прыгадаюць, дзе ваяваў іх бацька, дзядзька, дзед...

Хрысціна ўсхліпнула:

— Ды кіне Вася гэтую праклятую паліцыю. Я даўно кажу яму.

— Цяпер не кідаць трэба. А памагчы адтуль нашым.

Сказаў лішняе. Знайшоў каго агітаваць! Такая прапанова расслабляе ўстрашэнне. А яго трэба нагнятаць — страх.

Чурсік панура буркнуў:

— Ідзі памажы.

— Я памагаю. З самага пачатку вайны памагаю Чырвонай Арміі.

— Даўно я здагадваўся, што ты памагаеш. І каб я быў гадам, то даўно загрымеў бы ты... можа, на той свет.

— Здагадка — не доказ. А не выдаў ты мяне, бо хацеў глыбей закінуць свой нерат. Бачылі мы твае хітрыкі. Шкура ў цябе авечая, ды клыкі воўчыя.

— Стасік, не думай так пра Васю. Не думай.

— Не буду думаць, калі пераканаюся, што ён чалавек, а не гад паўзучы.

— Пераканаешся, Стасік, пераканаешся.

— Чым такіх пераканаеш? — усумніўся Чурсік і ўпікнуў жонку: — Куды ты мяне штурхаеш? У пятлю?

— Нямецкай пятлі ты баішся? Партызанскай не баішся?

— Аднолькавая яна, пятля. Якая розніца, хто яе накіне на тваю шыю. Вунь на Гаманкава накінулі.

— М-да... выкапень ты першабытны. А ты, Хрысціна, кажаш, што ён чалавек. А пятля неаднолькавая, Васіль! Не! Для дачкі тваёй неаднолькавая. Для маці. Для бацькі. Дзе яны ў цябе? Пра іх думаеш? Ці толькі пра свой трыбух? Не-е, бачу, гаварыць з табой няма пра што. Я, дурань, уніжаюся да размовы з такім...

Дастаў з кішэні пісталет, не да канца адцягнуў дула для баявога ўзводу, адпусціў, шчоўкнуўшы. Дзьмухнуў у дула, як рабілі гэта героі даваенных фільмаў — махноўцы.

Чурсік падхапіўся, выставіў перад сабой рукі, быццам хацеў імі закрыцца. Крыкнуў у роспачы:

— Не выдаваў я!

А Хрысціна кінулася паміж імі, закрыла сабой мужа.

— Не страляй. Стасічак, не страляй!

Шабовіч сунуў пісталет у кішэню. Адступіў да акна, глянуў на вуліцу, не столькі для таго, каб пераканацца, што там пуста і ціха, колькі для таго, каб даць ім апамятацца.

— Добра, даю магчымасць даказаць вам, што вы людзі.

Яны стаялі побач, узяліся за рукі, як пад вянцом. Шабовіча нават кранула, што жанчына гатова ахвяраваць сваім жыццём, каб ратаваць мужа, хоць, гуляючы ў карты, чуў неаднойчы, як яна з жаночай уедлівай дасціпнасцю ўпікала Васіля за тое, што ён зазіраецца на чужых баб.

Надзея на ратунак пераўтварыла іх, яны напружыліся і схіліліся ў пачцівай паставе. А ён вытрымліваў паўзу, быццам яшчэ думаў, якую магчымасць ім даць і ці даваць увогуле.

Хрысціна не вытрымала:

— Стасік, не мучай ты нас.

— Я вас мучаю? Ха! Скажыце дзякуй.

— Мы табе паклонімся ў ножкі. У нас жа дзіця.

Такое рабскае прыніжэнне не спадабалася. І ўласныя дзеянні асудзіў: не да твару яму цешыцца ўладай над людзьмі ды і час цягнуць неразумна.

— Ну, вось што... калі ў вас засталося штосьці чалавечае, то слухайце... Зараз ты,— кіўнуў гаспадыні,— пабяжыш у першую бальніцу. Знойдзеш там сястру Каваленку Аксану і скажаш ёй... сама разумееш, як трэба сказаць. Ёй адной! Словы простыя. Але запомні. Не наблытай... «Град. Варыянт трэці. Страла».

— «Град. Варыянт трэці. Страла»,— прашаптала Хрысціна і здзіўлена спытала: — І ўсё?

— І ўсё.

— А калі пра цябе спытае? Дзе ты? Што з табой?

На міг Шабовіч задумаўся.

— Не спытае. А калі спытае, скажы, хто ты. І скажы: ніякай самадзейнасці. І сама... Ніякай самадзейнасці! Цяміш?

— Што я — дурная?!

— Гэта твая каханка? — спытаў Чурсік.

— Гэта мой таварыш па барацьбе з чумой.

— Рызыканты вы.

— А ты жывеш без рызыкі?

— Цяпер дайшло, колькі яе ў мяне, рызыкі. Ратунку няма нікому.

— Ратунак, пан Чурсік, ёсць.

— Які я пан! Пан-жупан!..

— Будзе ў нас час пагаварыць пра тваё панства, пакуль вернецца гаспадыня.

Хрысціна, нырнуўшы ў бакоўку, неверагодна хутка, праз якія дзве-тры мінуты, выскачыла адтуль у сукенцы, у ботах, у цёплай хустцы. Паліто вісела ў прыхожым пакоі, дзе звычайна распраналіся і яны, карцёжнікі. З гэткай жа ўвішнасцю яна апранулася. Стала ў дзвярах.

— Ну, я пайшла,— і яшчэ раз наказала мужу: — Накармі чалавека.

Гэтая яе ўвішнасць і выгляд — быццам узрадавалася, што выходзіць з дому,— не спадабалася Шабовічу. І ён спыніў яе:

— Стоп! Разбудзі дачку і завядзі да суседзяў.

— Навошта? — у вачах яе бліснуў спалох.

— Не хачу мець у заложніках дзіця. Хопіць з мяне паліцая. Цяміш?

Паслухмяна, але ўжо без увішнасці, з нейкай як бы стомленай запаволенасцю жанчына падалася ў спальню.

— А мы з табой схаваемся. Каб яна не бачыла нас. Куды? На кухню?

На цеснай кухні яны апынуліся бліжэй адзін да аднаго, чым у прасторным пакоі. А на пліце, на стале, на паліцах, на падаконніку было нямала цяжкіх прадметаў — скавародак, чыгункоў, ступак, мясарубак. Пліту нядаўна прапалілі. Патыхнула незвычайнай цеплынёй і вельмі апетытнай смажанінай.

— Дранікаў з салам хочаш?

Чурсік падняў крышку каструлі.

— Да прадметаў не дакранайся. Цяміш? Пісталет у мяне на баявым узводзе.

— За каго ты мяне лічыш? У нагу сабе не выстралі.

— Не клапаціся.

— Дзе ж мне стаць, каб далей ад прадметаў?

— Там, за плітай і стань. А я тут, каля дзвярэй. Так яно зручней і табе, і мне. Слухай. Адкуль у цябе столькі барахла? Нацягаў ад людзей? Аброцямі і лейцамі не пагрэбаваў. Лейцы табе навошта?

— У мяне брат у Мінску жыў. На Балотнай станцыі рабіў, на конях. Вайна пачалася — у сяло вярнуўся. Збрую прыпас, каб зямлю засяваць. Ды, відаць, на каня не ўзаб'ецца. Нас з роднага сяла ў трыццатым вывезлі з музыкай- галашэннем...

— А-а, дык ты з кулакоў? Усё зразумела. А я хацеў запытаць, што цябе ў паліцыю прывяло. Злосць на Савецкую ўладу?

— Няма ў мяне тае злосці, пра якую ты думаеш. Бачу я злосных. Ты хіба не бачыш іх?

Аднак зямелькі шкада?

І зямелькі не шкада. Я даўно пралетарый.

Ухты-юхты! Пралетарый!

Колькі той зямлі было! Дзевяць дзесяцін. Каменне. Два кані. Дзве каровы. Ды я, калі на Балотнай станцыі рабіў, брыгадзірам, у пяць разоў лепей жыў. Дом, бачыш, пабудаваў, калі пашпарт атрымаў.

— Табе пашпарт далі. Свабодным чалавекам зрабілі. А ты ўсё роўна кулаком застаўся. Ворагам нашым лютым пайшоў служыць...

— Ты таксама пайшоў...

Прыраўняў кіёк да ёк.

— Параўняць нельга, гэта я цямлю, як ты кажаш. Але куды каго судзьба завяла.

— Філосаф ты! Што ж яна ўсіх іншых павяла на фронт, у партызаны, у падполле. А толькі такіх, як ты, да фашыстаў.. на паклон да іх. Супраць народа свайго. Пралетарый! Дык я табе скажу, «пралетарый». Кулак — не коні і нават не зямля... у майго

бацькі было столькі ж зямлі... Кулак — нутро... нутро ворага свайго народа... Ад сквапнасці да зладзейства — адзін крок. Як у цябе. Ты лейцы збіраў, не маючы каня, каб людзей на іх вешаць.

— Ты што! — спалохана сцяўся Чурсік.— Нікога я не хацеў вешаць.

— Каб загадалі — вешаў бы.

Чурсік раптам ашчэрыўся, павысіў голас.

— А можа, я падаўся туды ад таго, што такія, як ты, ніколі не мелі літасці да мяне. Ты дзіця маё не пашкадуеш.

Дзяўчынка плакала за сцяной.

Шабовічу не спадабалася, што ўвішная гаспадыня залішне доўга валэндаецца з малой. Выходзіла ў прыхожую, брынчэла посудам. Корміць, напэўна, хоць на кухню, дзе смачна пахне смажаным, не прыйшла. Як даць ёй знаць, каб паспяшалася? Малая не павінна бачыць ні яго, ні бацькі. Пастукаць у сцяну? Напалохаеш малую. Не, дзіця ён шкадаваў. Таму і загадаў адвесці яе. І нават стукам не можа спалохаць.

— Не хоча яна ісці да суседзяў.

— А ты знаеш, чаго яна не хоча? Надзька сама сказала, калі мы ў карты гулялі. Бобікам яе дражняць дзеці. Трапна народ ахрысціў вас — бо-бі-кі. Хоць мне здаецца: сабакі павінны пакрыўдзіцца. Сабака — верны звер, не здраджвае. Разумнага пса мясам не пераманіць. А вас за зацірку купілі. А дзіця тваё я шкадую. Ты сам яе не шкадуеш. Ты што думаеш? Ёй і праз дваццаць гадоў прыпомняць, што яна з роду бобікаў.

— Лайся, лайся, пакуль твой верх.

— А ты яшчэ не кідаеш надзеі падмяць мяне?

— Судзьба — яна што вецер. Не знаеш, у які бок паверне.

— Ах, ты думаеш пра паварот? Дык засячы на носе: толькі ты не ў той бок павернешся — і гэта будзе твой апошні паварот. Ды і не толькі ты. Калі Хрысціна зробіць глупства — не туды паверне, то будзе купляць свечкі. Здаецца, я папярэджваў яе, яна баба разумная.

Нарэшце ляпнулі дзверы, і галасы гаспадыні і малой пачуліся зусім блізка — за няшчыльна зачыненымі дзвярамі кухні.

— Мамачка! — выгукнула малая.— Татка дома?

— Дзе ты яго бачыш?

— Во шынелька яго вісіць!

— Ды ён другую апрануў. Новую. Сёння ў іх праверка. Галоўны начальнік будзе правяраць.

— Гітлер?

— Гітлер.

— Усё роўна не хачу да Казлоў. Віцька кусаецца.

Ляпнулі дзверы. Шабовіч напружыўся: ці не зачыняе іх Хрысціна на замок? Дарэмна не папярэдзіў: не зачыняць! Хоць што лепш — каб дом быў зачынены ці адчынены? Які ў іх замок — унутраны ці вісячы? Як ён не звярнуў увагі на гэта? Пайшла яна, здаецца, без затрымкі. Але секунда трэба, каб павярнуць ключ унутранага замка. Не ўсё можна прадбачыць.

— Дзіця ведае, хто ваш галоўны начальнік. Змагары за «вольную» Беларусь!

Чурсік не адказаў.

Дзіўна. Засталіся адзін на адзін у доме — і як бы вытхнуліся. Абодва. Шабовічу таксама не хацелася працягваць размову. Знайшоў з кім спрачацца аб лёсе! Воўк застаецца ваўком, і за ім трэба пільна сачыць, а не ўшчуваць, не агітаваць.

Чурсік падняў крышку каструлі. У нос ударыла такім пахам, што закружылася галава.

— Я табе што сказаў?

— А што?

— Не дакранайся да прадметаў.

— Крышкі ад каструлі баішся! Ге-эрой! Мне загадана накарміць цябе.

— Сам вазьму.

— Дык бяры. За стол, бачу, не сядзем.

Кінуўшы крышку на канфорку пліты, гаспадар запусціў руку ў каструлю, выцягнуў ажно два насаленыя дранікі, укінуў іх у рот, не жуючы, праглынуў, ажно напяўся кадык і калыхнуўся пад сарочкай жывот.

У Шабовіча рот напоўніўся слінай, сплюнуць яе было няёмка, а пракаўтнуць — сябе выдаць. Есці хацелася. Але была адна прычына, якая прымусіла вагацца. Там, на камароўскіх гародах, яго прапаносіла. Ад страху? Ад холаду? Не дзіва, калі і ад страху, цэлую ноч дрыжэў, рыхтаваўся да смерці. Чые нервы вытрымалі б! А ў яго не нервы — жывот схапіла. Калі-небудзь пасля вайны з гэтага можна пасмяяцца, пацешыць сяброў. Але цяпер не да смеху. Сілы падтрымаць варта. Дзе яшчэ і калі ён дабярэцца хоць да сухой скарынкі хлеба? Але ж калі ад дранікаў з салам пагоніць — куды дзявацца ў такой сітуацыі? А яшчэ горш, калі цябе схопяць. Гэтак асароміцца перад сябрамі і то брыдка, а перад ворагамі... будуць іржаць, падлюгі, з такой ганьбы партызана, чаго добрага, у газеце прапішуць. А сволач паліцэйская як знарок

дражніць — аплятае дранікі, ажно сала цячэ па барадзе і па руках. Глядзі, умалоціць усю каструлю, абжора. Выходзіць, не перажывае таго страху, калі чалавеку не да пітва і харчу. Ат, чорт з ім! Чурсіка саромецца няма чаго: можна на памыйнае вядро сесці, а там — што будзе, тое будзе. А энергію такія дранікі дадуць на добрыя суткі. Сіла яму спатрэбіцца, калі Хрысціна сумленна выканае заданне і трэба будзе выходзіць з Аксанай. Сіла трэба ў любой сітуацыі.

— Каструлю не з'еш.

— Не турбуйся.

— Які наказ табе дала Хрысціна?

— То еш. Хопіць тут на чацвярых.

— Паеў — адступай у кут.

Чурсік сквапна аблізаў пальцы, але потым зноў выхапіў з каструлі два дранікі і тады адступіў ад пліты да акна.

— Не засланяй акно. І не дэманструй суседзям, што ты дома. Стань у куток!

— Ты і без таго загнаў мяне ў куток. Дружок!

— Я цябе заганю дзе Макар цялят не пасвіў.

— А дзе ён не пасвіў?

— Там пабачыш.

Шабовіч дацягнуўся рукой да каструлі, узяў дранік, адкусіў кавалачак, і надзвычайная смаката растала ў роце.

Чурсік не запіхнуў больш два дранікі ў зяпу, еў гэтак жа павольна, як і яго вартаўнік.

Яны як бы спаборнічалі, хто лепш умее смакаваць і такім чынам вышэй ацэніць кулінарнае майстэрства гаспадыні. Калі Чурсік з'еў свае дранікі, Шабовіч дастаў аладку з каструлі і кінуў гаспадару:

— Лаві.

І той злавіў. Адразу, відаць, не падумаў, але потым дайшло: кідае, як сабаку ў яго доме. І стала паліцаю крыўдна, ён злосна пляснуў дранік аб сцяну, пасадзіўшы на шпалеры масляную пляму, і... заплакаў натуральным чынам; не адвярнуўся, не хаваўся, не выціраў слёз. Шабовіч ажно разгубіўся. Усяго чакаў, але што паліцай заплача — ніколі не думаў. Зразумеў Чурсікаў стан і па-чалавечаму пашкадаваў, паспачуваў. Але тут жа злосна тузануў сябе за такую слабасць: рассопліўся! Каб пазбегчы якіх бы ні было слоў з гэтай нагоды, злосна загадаў:

— Ану, тупай у залу!

Высокім словам «зала» называлі той галоўны пакой, дзе прынімалі гасцей, гулялі ў карты; жыў былы селянін па-гарадскому.

Увайшоўшы туды, пасаромлены ўласнымі слязамі і ўзлаваны за іх, за ўніжэнне, гаспадар уедліва спытаў:

— І што загадаеш мне рабіць тут? Гаўкаць? Лізаць табе боты?

— Сядай да стала і не вякай! Распусціў нюні! Наплачашся яшчэ, не спяшайся.

— Наплачамся ўсе. Судзьба... яна...

— Заткніся са сваёй судзьбой.

— Во, і ты яе баішся.

Стол, учора голы, калі гулялі ў карты, быў накрыты адмыслова вытканым палатняным абрусам, але на ім па-ранейшаму стаяла бляшаначка для акуркаў і ляжала калода карт.

Чурсік нейкі час сядзеў, закрыўшы твар далонямі, збіраў свае раскіданыя думкі. Потым апусціў рукі, убачыў карты і як бы ўзрадаваўся, што ёсць занятак. Колькі разоўператасаваў калоду, потым пачаў задумліва раскладваць пасьянс.

Шабовіч хадзіў па пакоі, заглядваючы ў вокны, аднак не набліжаўся да іх. Мацней, чым упачатку, занепакоіла думка: што зрабіла Хрысціна — зачыніла дом ці пакінула адчыненым! І што лепш у яго становішчы — знаходзіцца пад замком ці мець свабоднае выйсце? Але марны занятак ламаць галаву над тым, што лепш, што горш, не ведаючы, што маеш.

Пайсці праверыць? А калі ў гэтага тыпа ёсць другі пісталет і іншая зброя?

Дзеці назіральныя, і малая, напэўна, звярнула б увагу, што маці, пакідаючы дом, не зачыніла яго. А такой замінкі не чуваць было — здзіўленага голасу Надзечкі. Выходзіць, зачыніла. Па логіцы павінна зачыніць, каб ніхто не ўвайшоў, ніхто не ўбачыў тут яго, Шабовіча: разумная ж жанчына. Ды ад такой нечаканасці любы разумны стане дурнем.

Думкі вірыліся, але ўсё роўна адчуваў страшэнную зморанасць. Ад сытых дранікаў, ці што? Нясцерпна хацелася сесці ці хаця б прытуліцца да вушака, да сцяны. Але ведаў: сядзе — засне. А заснуць нельга ні ў якім разе, нават на секунду. Паліцай сочыць за ім, хоць і заняты картамі. Верыць яму нельга. Дарэмна яны з Іванам ставілі мэту — уцягнуць яго ў сваю арганізацыю. Памыляліся. Не той чалавек. Глядзі, што, можа, наадварот: ён меў заданне прасачыць за імі, таму і пайшоў ахвотна на карцёжную дружбу.

Спыніўся перад сталом.

— Варожыш?

— Хочаш, і табе паваражу? Скажу, чым кончыцца твая авантура?

— Якая авантура?

— Ды гэтая...

— Ну, і гад ты! Ну, і гад! А я лічыў, што ты чалавек. Думалі, паможаш нашым. Ведай жа... Калі ў тваім дурным кацялку сядзіць авантурнае, то раю выкінуць... Нашы ведаюць, да каго я пайшоў.

— Навошта ж ты Хрысціну паслаў?

— Іван ведае. А яму нельга паказвацца ў бальніцы. Цяміш?

— Іван таксама на волі? Як гэта вам удалося ўцячы?

— Ты дрэнна ведаеш нашы магчымасці.

— Ды дрэнна. Не верыў я, што ў вас такая арганізацыя.

— Пераканаўся? Вось таму і не паглядвай на маю кішэню,— паляпаў па пісталеце.— Выканае Хрысціна заданне маё — гарантую жыццё і спакой. Пры ўмове, канешне.

— Пры якой?

— Што развітаешся з паліцыяй. Будзеш служыць ды яшчэ калі прадасі нашых ці ў карнай акцыі паўдзельнічаеш — літасці не чакай. Цябе, дурня, не шкада. Надзю шкада. Яна невінаватая!

Чурсік згроб раскладзеныя карты, твар яго збялеў, ён утаропіўся ў стол.

Шабовіч павярнуўся да акна, аглядзеў вуліцу. Пуста і ціха.

— Замок у цябе ўнутраны ці вісячы?

Чурсік неяк адразу павесялеў, нават зларадна ашчэрыўся.

— Баішся, што зачыніла цябе Хрысціна, а сама ў паліцыю пабегла? Тут немцы побач.

— Хрысціна не такая дурная, як ты.

І зноў ён сцяўся, змізарнеў, палонны ва ўласным доме.

«Бач, гад, пра замок змаўчаў. Хоча нагнаць страх,— падумаў Шабовіч.— А небяспека, можа, якраз у тым і схавана, што Хрысціна недурная».

Даўно заўважыў, што цяжэй за ўсё прадбачыць учынкі жанчыны, вельмі ж нечаканыя яны бываюць, іх думкі, іх дзеянні.

А сон, змора ціснулі непасільным цяжарам на галаву, на плечы, на вейкі, гнулі да долу, заплюшчваліся вочы. Ажно галюцынацыі пачаліся: ложкі, многа ложкаў, белыя падушкі, горы падушак. Во ў чым найбольшая пагроза — заснуць так, што яго абяззброяць, звяжуць. А яму ж трэба пратрымацца да вечара. Заставацца тут і тады, калі вернецца Хрысціна, забярэ дачку. Хоць тады, бадай,

бяспекі будзе больш. Калі яна не выдасць яго цяпер, то тады яе можна не баяцца, а пры ёй і Чурсік глупства не зробіць.

Ён прыйшоў сюды таму, што не было іншага выйсця, што трэба было заблытаць СД, зрабіць неверагодны ход, пра які не мог падумаць самы вопытны сышчык. Ён верыў Хрысціне. Праўда, там, на Камароўскім, больш, чым цяпер. Не верыць і цяпер, бо добра прыгледзеўся ў часе карцёжнай гульні да гаспадыні, у размове і справах яна выяўляла народны розум. А разумныя не выдаюць сваіх. Чурсік больш прымітыўная істота: баязлівец. Але на гэта ён, Шабовіч, і спадзяваўся. І на тое, што не вылазіў з яго пераконаны вораг. Выглядваў прыстасаванец. Хітры, але неразумны. Кулацкім паходжаннем ён ніколі не пахваліўся, скрываў яго і ў акупацыі, ва ўсялякім разе ад карцёжных сяброў, а пра сваё ўменне жыць казаў неаднойчы. Часам так пачынаў хваліцца, што жонка абрывала яго.

Аднак як пакутліва хадзіць ад сцяны да сцяны! Ногі наліваюцца свінцом, дзеравянеюць, не гнуцца ў каленях. Пратаптаў ужо прыкметную сцежку: гразь на ботах падсохла і асыпаецца на фарбаваную падлогу. Падумаў, як вылае яго гаспадыня: «Во натаптаў, няўклюда». Думкі накшталт гэтай — дробныя, ірваныя, як матузы, зблытаныя. Варта выцягнуць у Чурсіка якія-ніякія звесткі, можа, ведае што пра аблаву. Наўрад ці скажа. Але не таму не хацелася гаварыць з паліцэйскім, што той мала што можа паведаміць, а таму, што здавалася: сур'ёзная размова зусім знясіліць. Сталіліся не толькі ногі. Стамілася галава. Ад думак. Урэшце ўся нагрузка была на яе, на галаву,— ад гульні ў карты да... гульні ў «кошкі-мышкі» з тым жа ўчарашнім карцёжным праціўнікам.

Карты!.. Можа, яны скароцяць час?

Глянуў у акно. Надзіва ціхая вулічка. На працу прайшлі — як вымерла. А куды, уласна кажучы, хадзіць людзям? Кожны стараецца менш трапляць на вочы акупантам.

— Згуляем у падкіднога? Скідай.

Чурсік паглядзеў недаверліва, потым, бадай, узрадавана працягнуў калоду карт на далоні — каб зрэзаў.

Шабовіч на момант завагаўся, прыкідваючы, што паліцай можа зрабіць. Схапіць за руку? Зрэзаў левай, сунуўшы правую ў кішэню — бліжэй да пісталета. Перакуліць стол і саб'е яго з ног? Адступіў на рог стала — на адну ножку перакуліць няпроста.

Спачатку гулялі сур'ёзна і маўкліва. А пасля ўвайшлі ў той жа вясёлы азарт, што і ўчора ўвечары.

— Ах, ты так? А вось гэтага не хапае?

— Дзесятачка? Чыхалі мы на тваю дзесятку, маючы караля. Паспрабуй пабі.

— Кароль, ды не той. Без улады твой кароль. Яго б'е вось гэты яснавокі афіцэрык. Валет казырны! А што — з'еў?

— Ладна. Адбіўся.

— Не адбіўся. А пабіў.

— Набірай.

— Ух ты, якая шалуха лезе!

— А да нас ідуць казыры. Самі просяцца.

І забыўся Шабовіч на стомленасць. Як добра паспаў. Але забыўся і на небяспеку. Здаваў карты дзвюма рукамі. І на рагу не стаяў, а перад сталом — напроці працаўніка, тварам у твар. Той сапраўды мог бы збіць яго сталом. Але што гэта яму дасць? Стрэліць можна і лежачы пад сталом. Пераканаў сябе, што нападаць Чурсік не стане — не той храбрэц! Ды і ўвогуле: калі ты прыйшоў да чалавека — старайся паверыць яму нават і ў такой незвычайнай сітуацыі. Да поўнага гада не павяла б ніякая хітрасць збіць немцаў з панталыку.

Выйграў адну партыю, другую. Узрадаваўся, што галава не атупела зусім — варушацца шарыкі. Чурсік — карцёжнік са стажам, у пульку яго мала хто абыграваў. І ў ачко.

Выйгрыш даваў імпэт, настройваў на вясёлы лад.

— Вось табе і судзьба, пан дурань.

А Чурсік змрачнеў ад таго, што і ў карцёжнай ігры заставаўся ў дурнях. Хапіла б таго, што яго арыштавалі разам з падпольшчыкамі. А цяпер адзін з іх зваліўся на яго галаву, завалодаў пісталетам і гаспадарыць у доме. Чым гэта яшчэ скончыцца?

Але ўдача — што здрадлівая жонка, і мужа лашчыць, і любоўніка. Карцёжная ўдача перайшла да Чурсіка, у добрых ігракоў часта так здараецца.

— А што не казаў я — судзьба што вецер. Пасля пятай партыі палезеш пад стол. І кукарэкаць будзеш.

— Я закукарэкаю, а ты свіннёй завішчыш... той, што ўшчамілася ў плоце.

— Палайся больш — туман напусціш, карт це ўбачыш. Што гэта за ход? Што за ход? Мая Надзька разумней ходзіць. Навошта ты трымаеш шасцёркі?

— На пагоны табе. Начаплю фельдмаршальскія. Хто там у Гітлера ў фельдзіках? Бош — Вош? Гомель — Фомель? Воўчая

зграя! Што ты азіраешся? Баішся, што слухаюць твае гаспадары? А чаму гэта ў цябе партрэта Гітлера няма? Прыпішуць табе непавагу...

— У карты глядзі, а не на сцены. Часта міргаеш, пан партызан.

— Глядзі! А ты здагадлівы! Доўга думаў?

— Дадумаўся, як бачыш.

— Думай, думай, можа, паразумнееш. А то заплылі твае мазгі... Знаеш, чым яны заплылі ў цябе?

— На, пабі! — Чурсік кінуў карту злосна, размахнуўшыся.— А што, з'еў? Забірай і гэты мех. Ты ў мяне яшчэ хапнеш гарачага! Пагоны ён хоча навесіць! Соплі вытры!

І Шабовіч не абураўся, бо прыкладна такімі ж словамі яны перакідваліся і ўчора і кожны раз, карты сціралі ўсе межы, развязвалі языкі. Не абыходзілі і палітыку, але так, што размежаванасці не было — хто ёсць хто, Іван Ткачук мог уплесці ў сваю пустабрахню Сталіна, а Чурсік праехацца па Гітлеру, за што яго лаяла Хрысціна.

«Ну, і язык у цябе! Глядзі, падрэжуць».— «Не бойся, Хрысця, тут жа ўсе свае».

Не здагадваўся паліцай, каго называў сваімі.

Цяпер Чурсік ведаў, хто перад ім. Але паводзіў сябе паўчарашняму, калі лічыў гэтых хлопцаў сваімі. Такая незалежнасць падбадзёрвала ці ва ўсялякім разе нібыта пацвярджала, што ён не ўніжаецца перад сваім узброеным канваірам, а паводзіць сябе, як гаспадар. Урэшце яшчэ невядома, хто ў каго ў палоне, невядома, да каго павернецца ўдача. Тут сапраўды такі лёс, у які ён слепа верыў. Але якой «судзьбы» чакаў? Чаго яму больш хацелася — каб Хрысціна прывяла немцаў? Ці каб выканала даручэнне гэтага нахабніка і ён употай пакінуў бы яго дом?

Пасля роздуму яшчэ да гульні, нават пасля абразы эпізодам з дранікамі, пасля абурэння нахабствам Шабовіча, калі закіпела смяртэльная злосць на яго,— нават пасля ўсяго гэтага перацягвала «мірная» бяскроўная шаля. Дакараў сябе за мяккацеласць, бяззубасць. Аднак разуменне таго, што ў ціхім варыянце больш шанцаў на ўласнае выратаванне, на бяспеку сям'і, пераважвала. Пасля папярэджвання Шабовіча падумаў і пра тое, што якраз і нядрэнна зрабіць паслугу партызанам. Закінуць на будучае. Шабовіч, выходзіць, не апошняя шышка там у іх. Няхай жа ведаюць, што і ён, Чурсік, не прадаў душы за сярэбранікі. Дык чаму не паблазнаваць, не паказаць хоць гэтак сваю смеласць? Маўляў, а мне трын-трава. Але Шабовіч разумеў інакш: балбоча Чурсік ад

страху. Бо і самога бяздумнае, звыклае крыўлянне як бы адводзіла ад прорвы, у якую, калі моўчкі мераў крокамі пакой, мімаволі заглядваў. Няхай балбоча, чорт з ім. Ён таксама не адстае, не сароміцца на эпітэты, пажаданні, прароцтвы. Яны больш бязлітасныя, пагрозлівыя — і Чурсік агрызаецца на іх з аглядкай, не абуджае ў ім злосці.

Захапіла гульня. Захапіла слоўная перастрэлка. Цешыла, што адступіла зморанасць і санлівасць. Аднак схамянуўся ў той міг, калі рука пацягнулася да крэсла, што стаяла збоку, каб падсунуць яго і сесці. Гэта ўжо зусім недазволеная раскоша. Не губляй, Станіслаў, пільнасці! Кінуўшы чарговую карту, павярнуўся да акна: што там, на вуліцы? І ледзьве не скачком кінуўся да прасценка паміж вокнамі.

Да дома ішлі паліцэйскія. Двое.

За ім? Не, непадобна. Мірна, па накіданых цаглінах, кавалках дошак фарсіруюць гразкую вуліцу, перабіраючыся з таго боку на гэты. Выставілі сябе што напаказ. Кураць. Так не ловяць нават дылетанты. Не за ім. Але няма сумнення, што ідуць да Чурсіка. Праведаць? Лагічна — паліцай не з'явіўся на службу. Не стане ж СД дакладваць паліцыі, дзе цэлую ноч пратрымала іх чалавека.

Не за ім. Але калі Хрысціна не зачыніла дзвярэй...

— Што ты там прыліп да сцяны? Засвярбела, чым сядзела? Твой ход.

— Васіль, да цябе госці.

Чурсік падскочыў. Карты з рук яго паляцелі пад стол.

— Не выстаўляйся ў акно! Цяміш? — цыкнуў на яго Шабовіч.— Калі Хрысціна зачыніла нас, не абзывайся. Нікога няма. Ідуць сябры твае, здаецца, мірна,— Шабовіч дастаў з кішэні пісталет. Калі ж не зачыніла нас, вырашай сам, як прыняць гасцей. Але не забывайся, што я табе сказаў. Жывым я не дамся. І нашы спытаюць у цябе...— павярнуў рычажок ахоўніка, цяпер даволі націснуць на спускавы кручок «Вальтэра» — і сем куль паляцяць у цэль. Толькі сем. Мала! — Дзе абоймы?

— Запасная ў пінжаку ў кішэні. У спальні на кручку вісіць.

— Цяміш, што да чаго?

— Цямлю.

Скрыпнулі весніцы. Вось яны на ганку — аббіваюць з ботаў гразь. Культурныя.

Зачынена? Адчынена? Здаецца, дзынкнула клямка. Зачынена! Пранесла? Але яны могуць заглянуць у вокны.

— За камод! Прысядай!

Шабовіч прысеў побач з Чурсікам — як хлапчукі, што гуляюць у схованкі.

Не, не пранесла. Выразна ляпнулі дзверы ў сенцы.

— Сустракай гасцей. Спакойна! Што ў цябе рукі калоцяцца? Курэй краў, ці што? Пастарайся завесці іх на кухню. А я падрамлю ў спальні, пакуль вы пагаворыце. Цяміш?

Аканіцы ў спальні Хрысціна не адчыняла — спалі муж і дачка. Са святла тым было цёмна.

Шабовіч наскочыў на табурэт, той перакуліўся, загрымеў. Але гэта не спалохала. Увогуле ён не адчуваў страху, не адчуваў сябе загнаным зверам. Хутчэй меў адчуванне азартнага паляўнічага на таго звера, калі ідзе гульня са смерцю — хто каго.

У спальні не так цёмна: перагародка не прыставала да грубкі, там была шчыліна, праз яе цэдзіцца святло. Урэшце, страляць яму не ў цемры, страляць у постаць у светлым праёме дзвярэй — найлепшая мішэнь.

А вось і госці, у доме ўжо.

Залішне мітусліва вітаецца з імі гаспадар. Дурань! Выдае сябе. Куды павядзе іх! На кухню. Дарэмна ён параіў кухню. Неразумна. Адтуль галасы ледзьве чуваць, малую, напрыклад, ён чуў, а Хрысцінін голас зліваўся ў суцэльнае бу-бу. І там яны могуць змовіцца, выпрацаваць тактыку, як узяць яго.

Не, увайшлі ў залу.

— Сядайце, хлопцы. Прабачце, не паспелі прыбраць.

— Ты што, гуляў у карты?

— З кім? Гэта звечара не прыбралі.

І — во дурань! — ад страху, ад мітуслівасці піхнуў задам дзверы ў спальню. Адзін міг — і Шабовіч усадзіў бы яму кулю ў спіну. Каб насупраць дзвярэй апынуўся госць ці Чурсік адчыніў бы дзверы крыху шырэй. Невядома, што стрымала палец на спуску.

Чурсік цераз плячо кінуў у спальню нейкае адзенне, жончына ці дзіцячае. Яно ўпала Шабовічу на галаву, такая нечаканасць, магчыма, і дала выратавальную для ўсіх секунду.

Чурсік са стукам шчыльна зачыніў дзверы.

— Ты чаму не ў форме? Захварэў?

— Якое там захварэў! А цяпер і захварэў — прастудзіўся, ажно дыхаць заняло. А перад тым была тут гісторыя. Учора ўвечары гулялі мы ў карты. Усе свае. І нас змялі...

— Немцы?

— Ды няўжо ж! Да світання трымалі ў турэмным двары, пакуль не разабраліся. Шынель не далі апрануць. Акалеў да касцей. Думаў, дуба дам.

— Дзя-лы,— працягнуў паліцэйскі-госць.

— Была, брат, варфаламееўская ноч,— сказаў другі.— Аблава, якой і ў верасні не было. Хапалі, хто трапляў пад руку.

— Потым многіх выпусцілі.

— Каго выпусцілі, каму далі ўцячы.

— СД дало ўцячы? — здзівіўся Чурсік.

— То ж і дзіва! Дзесь накладачка выйшла. А цяпер зноў паднялі ўвесь горад. Усе сілы жандармерыі, вайскоўцаў. І нашых усіх. Асабліва трох шукаюць. Кіраўнікі падполля! Фатаграфіі іх размножылі. Во глядзі. Усе выхады з горада перакрылі.

— О-о! То гэта ж мой знаёмы — Іван Ткачук. Наш. З аховы ўправы. Учора ён за гэтым сталом у карты рэзаўся.

— Добрая ў цябе кампанія!

— А хіба ўнюхаеш, чым ён дыхае! Свой жа, з паліцыі. Да вайны знаёмыя. Зямляк. Таксама з раскулачаных. Як і я. Каму верыць?

— То праўда — каму верыць! Цяпер і нам веры не будзе. Зноў чысціць пачнуць, як у маі чысцілі. Загрыміш у Рур на шахты. Сабачае жыццё! Немцаў баішся, партызан баішся. Не ўгледзіш, што кулю зловіш.

— Не ный. Не падабаецца — у падмяталы ідзі.

— Куды? А новы парадак хто ахоўваць будзе?

— Знойдуцца.

— Не вельмі знаходзяцца, калі літоўцаў і ўкраінцаў на дапамогу паклікалі.

— Разважанні ў цябе — з партызанскіх пракламацый. Мая табе, маладому, парада: трымай язык за зубамі.

— Я таксама яму раіў,— азваўся Чурсік.— А то калі да Цёмнага дойдзе... Знаем, як яму хочацца выслужыцца перад Корфам?

— Даносу на мяне ён не паверыць. Знае: глыбока я завяз, дарогі мне назад няма — рукі ў крыві. Гэта во чысценькі Чурсік можа служыць і вашым і нашым.

— Ну, што ты, Федзя! Крыўдна слухаць.

— Ткач гэты за печкай у цябе не сядзіць?

Чурсік нервова засмяяўся.

— Сядзіць. На ляжанцы ляжыць, грэецца. Самагонкі сцёбнулі і грэемся. Хочаце па чарцы? Ёсць старадарожская. Лепшай ва ўсёй Беларутэніі няма.

— Яно б і не пашкодзіла горла прамачыць.

— Цёмны ўнюхае, дык ён цябе прамочыць. Не любіць ён выпівохаў. Во начальнік! Можа, адзін такі на ўсё наша наёмнае войска. У людзей начальнікі як людзі. Глушаць гэтую самагонку вёдрамі.

— З чаго яе гоняць, калі хлеба ў людзей няма?

— Хто гоніць — у таго ёсць. Самагонку Навойчыку не паказвай, а то не адцягнеш яго. А хлеба — і што там у цябе ёсць? — дай. Я не снедаў. Дзяжурыў, а нас па трывозе паднялі. Пад раніцу прачосвалі Камароўку. А каго лавіць нам, Цёмны не ведаў. Выцягвалі людзей з пасцелі. Загналі ў двор завода «Ударнік». Цяпер іх сарціруюць там — каго куды. Во некаторыя з тых пабачаць Рур.

— Пайшлі на кухню. Там дранікі засталіся.

— З салам?

— З салам.

— Жывеш, як пан. Спальня, кухня. Сала жарэш.

Яны выйшлі, грукаючы ботамі.

Шабовіч пералажыў пісталет у левую руку, далоня правай была не проста мокрая, брыдка ліпучая, быццам выступаў не пот — кроў. А па спіне сцякалі халодныя струмені. Такога ганебна-брыдкага адчування не было ні ў часе арышту, ні ў турэмным двары, ні ў машыне, ні тады, калі сядзеў на Камароўцы за нечай прыбіральняй, па калена ўгрузнуўшы ў ванючую багну. Выходзіць, тут ён спалохаўся больш, чым там. Чаму? У яго зручная пазіцыя. Але тут магла рушыцца апошняя надзея на выратаванне — сябе і Аксаны. Галоўнае — Аксаны. Такі прыход паліцэйскіх сведчыў, што Хрысціна пайшла не да немцаў, не ў паліцыю, а ў бальніцу.

Маці некалі і Аксана пасля, незалежна ад маці, казалі, што ён у сарочцы нарадзіўся. Сапраўды — у сарочцы: за паўсутак колькі разоў судзьба адводзіла ад яго смерць.

«Пранесла яшчэ раз... Няўжо пранесла? Няўжо Чурсік змаўчыць і там, на кухні? Няўжо пад чорным шынялём у яго чалавечае сэрца? Калі вырвуся, трэба перадаць Стануліну, каб паспрабавалі працаваць з імі, з Васілём і Хрысцінай. Але ці ацалеў сам Станулін пасля такой варфаламееўскай ночы?»

Падобна, пранесла. Адчуўшы здрадлівую слабасць у нагах, ён сеў на падлогу ў кутку паміж шырокім шыкоўным шыфанерам — трафеем паліцая — і сцяной.

Сціхлі галасы, ляпнулі дзверы — і ён тут жа праваліўся ў сон, паслаблены, супакоены.

Прачнуўся ад слоў:

— Ты глядзі — дрыхне.

Чурсік стаяў перад ім, здзіўлены.

— Ну, нервы ў чалавека! Можа, табе здалося, што ты ў бранявым бліндажы?

— Можа, і здалося,— Шабовіч соладка пацягнуўся, ускінуўшы ўгору рукі.

— Ну, што — з'еў? — пераможна спытаў Чурсік.

— Што з'еў?

— А тое самае. Ты пісталет каля майго вуха трымаў. А я... Каб я быў такі, як ты думаеш, то залажыў бы цябе адным кіўком галавы.

— Ты навошта дзверы адчыняў? Каб не кінуў тыя транты — я цябе залажыў бы. Дабіраўся б ты ўжо да д'ябла ў пекла. Куды сабе дарогу працерабіў.

Чурсік толькі цяпер уявіў, як блізка ён быў да смерці пры тым неасцярожным — ад разгубленасці — кроку: адчыніць дзверы ў спальню ў прысутнасці паліцэйскіх. Сцяўся і пазелянеў ад такога ўяўлення.

— Пабаяўся б ты стрэліць.

— А што мне заставалася б рабіць, каб ты выдаваў мяне?

— А на другой фатаграфіі быў ты,— раптам паведаміў Чурсік пераможна і ўедліва.

— Чаму ж ты не сказаў ім? Пра Ткача сказаў.

— Чаму я не сказаў? Чорт яго ведае. Язык не паварушыўся назваць тваё прозвішча. Як заваражыў ты... Калі яны даведаюцца толькі пра гэта, што ў карты гуляў і ты, мала мне не будзе. Навойчык — сволач, ён бацьку роднага ўтопіць, каб выслужыцца. Але хрэн з ім — кулі не мінуеш, не ад немцаў, дык ад вашых. Ты хоць сваім скажы, што я памог.

— Скажу.

— Усім не скажаш,— сумна заключыў Чурсік.

— Гэта праўда, усім не скажаш,— згадзіўся Шабовіч, ён нарэшце паверыў, што паліцай не намераны выдаваць яго, і змяніў тон размовы — з гулліва-харобрага на паважліва-сур'ёзны.— А што я табе параіў? Забыўся? Кідай паліцыю.

— Лёгка табе сказаць — кідай.

— Колькі б табе заплацілі за мяне?

— Адкуль я знаю.

— А хіба няма таксы? Дрэнна вас стымулююць.

— Хопіць табе сцёбаць мяне па вачах.

— Хопіць дык хопіць. Ідзі пагуляй у карты з самім сабой, а я пасплю.

— Кладзіся на ложак, толькі боты скінь, наляпіў гразішчы.

Не, боты Шабовіч не зняў і на ложак не лёг. Зноў сеў на падлогу, прытуліўшыся плячамі да дзвярэй, хто захоча зайсці — штурхне яго. Але сам адляцеў. Доўга думаў пра тое, што ў СД ёсць іх фатаграфіі. Выходзіць, іх засеклі даўно. Толькі іх з Ткачуком? Ці ўсю групу? Дзе? Калі? На чым? І чаму не адразу ўзялі? Радаваўся, што Іван таксама ўцёк, раз шукаюць яго.

Пачуў голас Хрысціны. Услухаўся.

— Ну, што ён? — амаль шэптам спытала за дзвярамі гаспадыня.

— Ды маўчы ты — была тут гісторыя. Двое нашых заваліліся: чаму я на службу не з'явіўся?

— Гэтага я і баялася.

— Толькі пасля іх ён, здаецца, паверыў, што я не думаю яго выдаваць.

— Раніцай ты нядобры... кідаўся... пісталет шукаў...

— Кінешся. Даведаюцца, дзе ён хаваўся,— верная шыбеніца.

— Ой, Вася! Цішэй ты.

— Спіць ён.

— Спіць?

— А чаму ты здзіўляешся? Такую ноч перажыў. На холадзе. Забраўся ў куток... і хоць голымі рукамі бяры яго.

— І гэтага я баялася — што ты захочаш узяць яго.

— Ды ну яго к чорту. Не чапай ліха, пакуль ціха.

— К чорту ты мяне не пасылай,— Шабовіч ціха адчыніў дзверы.— Я твой госць.

— Даў бог госця.

— Толькі бог і мог даць такога госця,— і засмяяўся, пасля нецярпліва да Хрысціны: — Ну, што там? Перадала?

— Перадала.

— Што Аксана?

— Пакінула бальніцу. Са мной да Горкага ішла.

Шабовіч зноў засмяяўся. Стала яму лёгка-лёгка, так бывае ад вялікага шчасця. А хіба не шчасце? Аксана на волі. Атрымала яго сігнал. А што трэба яшчэ? Дачакацца ночы — і ў лес.

— Пыталася, дзе я бачыў цябе?

— Не. Толькі сказала: на працу не з'явіліся Голіч, Войтаў, Сяргеева.

Ясна: іх арыштавалі, двух урачоў і сястру. Але з гэтымі ён не быў звязаны.

— Ты не сказала, дзе я?

— Буду я ставіць пад тапор сваю сям'ю! Узялі б яе...

— Аксана — не той чалавек, каб выдаць.

— Божа! Што вы робіце з намі? Навошта вы нас уцягваеце? Няма ў вас літасці.

— А ў каго яна ёсць? У фашыстаў? — узлаваўся Шабовіч.—Мы робім! Мы пачалі вайну? Хочаш адсядзецца за спіной у паліцэйскага? А вось яна не хоча сядзець ні за чыёй спіной! Яна раней за ўсіх нас пачала барацьбу. У першыя ж дні акупацыі ратавала чырвонаармейцаў.

Хрысціну спалохала яго злосць.

— Хіба я procіў яе сказала? Не мы, бабы, пачыналі войны, а ўсё гора на нашы галовы, на нашы плечы. Не вылазь ты хоць да вокнаў. Пасядзі ў спальні. А я абед прыгатую. Можа, ніякага чорта больш не прынясе!

— У спальні я не буду сядзець. Дай мне кажух.

— Ты хочаш пайсці? — вырвалася аднachасова ў абаіх адкрыта здзіўленае і стоена ўзрадаванае пытанне.

— Ты забыўся, што твае дружкі казалі? Не, удзень мне высоўвацца нельга. Забяруся на гарышча і пасплю. Каб малая не бачыла.

— Во гэта праўда. Во гэта праўда,— радасна замітусіўся Чурсік.— Дык і кажух там, у каморы. Адтуль і лесвіца на гарышча.

— Не ўздумайце жартаваць,— папярэдзіў перш-наперш гаспадыню,— бо тады я і праўда стану бязлітасны.

Хрысціна балюча перасмыкнулася.

— Стасік, пабойся бога! Хіба ж мы не людзі?

Дзіўна, загарнуўшы сябе ў доўгі кажух, накрыўшы ногі старымі лахманамі — боты разуў, бо мокрыя,— уладзіўшыся так, што толькі спі, заснуць ён вельмі доўга не мог.

Калі раней усе думкі былі скіраваны на тое, як уратаваць Аксану і разам з ёй выйсці з горада,— яна ведае дарогу да партызан,— то цяпер ён думаў пра ўсю сваю групу. Безумоўна, разгром арганізацыі татальны, калі нават дзейнасць Івана ім вядома, Іван выконваў ролю сувязнога паміж рознымі групамі, гэтулькі сувязяў меў хіба толькі Станулін. Івана не знойдзеш. І Станулiна таксама. У яго, Шабовіча, не засталося і ніткі, каб выйсці на адказнага чалавека з гарадской арганізацыі, каб інфармаваць яго пра арышты, пра бяспалага, і атрымаць указанні, як дзейнічаць далей. Можа, кагосьці трэба ліквідаваць, таго ж бяспалага. Але адзін ён не воін у такі час. А Аксану абавязкова трэба вывесці з-пад удару. Яе не маглі не выявіць. Гэта

Станулiну здавалася, што яна выконвае толькі адно — сувязь з атрадам. Не ўнікаў ён, чым яна займалася ў бальніцы, колькі падрыхтавала камандзіраў і чырвонаармейцаў да змагання ў падполлі, у партызанах. Але не ён выведзе Аксану, яна выведзе яго. І толькі адтуль, з атрада Дзядзюлі ён зможа выйсці на іншыя яўкі, на іншых людзей.

Падпольшчык павінен умець дзейнічаць адзін, самастойна, самадзейна. Але ў сітуацыі, калі СД размножыла яго фатаграфію, самае правільнае — знікнуць з горада на пэўны час. Гэта не ўцёкі — тактычнае адступленне, каб перагрупавацца.

Урэшце, калі ён робіць гэта дзеля Аксаны, то таксама мае апраўданне. Уратаваць ад смерці жонку, будучую маці — першы чалавечы абавязак.

Дзіўна, чаму ў медтэхнікуме ён не звяртаў на яе ўвагу? Выходзіць, трэба было заглянуць у вочы смерці, каб разгледзець адно аднаго. Душэўнае збліжэнне іх адбывалася паступова. Можа, нейкім унутраным чуццём зразумелі, што робяць адну вельмі небяспечную справу, толькі кіраўнікі ў іх розныя: у яе свой — доктар Голіч, у яго — інжынер завода Станулін, якога ў групе ласкава называлі Станулік. Ён, Шабовіч, першы сказаў Аксане, што ведае пра яе справы, і прызнаўся, што сам вядзе такую ж барацьбу, толькі не ў бальніцы. І яна паверыла яму і прызналася, што ў бальніцы яе адхіляюць ад небяспечных спраў, у яе ёсць больш тайнае заданне — сувязь з партызанскім атрадам. Тады ён звёў яе са Станулікам, разумеючы, што ў падпольнай арганізацыі гэта фігура больш значная, чым Голіч ці Сяргеева, дзейнасць якіх ён таксама «расшыфраваў». А пасля — сорамна прызнацца — прыраўнаваў да Голіча, калі аднойчы захапіў яго на кватэры ў Аксаны позна ўвечары. Але гэтае ганебнае пачуццё, якое ён адганяў, трымалася нядоўга.

Ім належала выканаць прысуд здрадніку — следчаму паліцэйскай управы Струкачу, былому работніку НКУС. Многа ён ведаў, меў залішне тонкі нюх, следчы талент і на допытах арыштаваных прымяняў такія катаванні, якіх і СД не рабіла.

Акцыя была небяспечная. Ішлі, можна лічыць, на смерць. Таму па ўзаемнай згодзе адкрыліся Аксане — каб у выпадку і ўдачы, трагічнай для іх, і няўдачы з такім жа фіналам яна перадала партызанам. Не дзеля іх славы — дзеля той інфармацыі, якая можа натхніць іншых на такія ж самаахвярныя ўчынкі.

Здалося яму, Шабовічу, што Аксана спалохалася.

«Хлопчыкі, ці ўсё вы прадумалі? Раскажыце пра свой план».

Але пра план Станулік не стаў расказваць, толькі даў адрас і пароль, каму тут, у горадзе, перадаць аб поспеху ці правале іх акцыі, калі самі яны не вернуцца; ён быў бязлітасна спакойны да магчымай смерці сваёй.

Яны выйшлі ў сенцы, калі Аксана вярнула яго:

«Стась, на хвілiначку».

Прывяла ў пакой, дзе гарэла лямпа, узяла за рукі, пільна ўгледзелася ў вочы і сказала проста і шчыра:

«Стасік, голубе мой, ведай: я люблю цябе. Акрамя маці, больш дарагога чалавека ў мяне няма. Як я люблю цябе! Помні пра гэта, помні!»

Узяла ў далоні яго галаву і тройчы пацалавала ў вусны, без страсці закаханай — з матчынай ласкавасцю.

Гэта было мінулай вясной. Улетку яны сталі мужам і жонкай. У акупацыйны загс не пайшлі. Але калегам сваім, урачам, сёстрам, сказалі. Сябры наладзілі імправізаванае вяселле — у бальніцы, пасля работы. Галоўурач спірту трохі выдаў з такой нагоды. А на другі дзень, у нядзелю, да іх прыйшоў Піліп Станулін і прынёс — дзе мог узяць? — ладны цялячы кумпяк. І Аксана з гаспадыняй, у якой кватаравала, насмажылі такой смакаты, ад успаміну пра якую заўсёды цяклі слінкі пасля галоднага пайка. Але той жа добры Станулін — не параіў — загадаў ім жыць паасобна, у розных канцах горада. Цяпер толькі Стась зразумеў, як гэта прадбачліва. Гэта ратавала Аксану.

Заснуў непрыкметна. Спаў неспакойна, з кашмарнымі снамі: увесь час за ім гналіся фашысты ў абліччы нелюдзяў. Але ён адпомсціў: ва ўпор стрэліў у гаўляйтара Кубэ. Здзейсніў план, які выношвалі. Ад стрэлаў прачнуўся. Стралялі недалёка. Падхапіўся, паглядзеў у акенца франтона з аднаго боку, з другога. Нічога не відаць. Пуста, на вуліцах ні душы. Ды і стрэлы сціхлі. Можа, склаў галаву яшчэ адзін змагар. А можа, забаўляліся нейкія паліцаі, набралі хлапчукоў, і яны часта ўшчынаюць страляніну. Немцы без прычыны не страляюць — народ ашчадны і акуратны. О, якія яны акуратныя, заваёўнікі!

Дзіўна, што ў мінулую ноч наладзілі такі вэрхал. Тварылася штосьці незразумелае, што пярэчыць іх педантычнасці. «Некаторым памаглі ўцекчы»,— сказаў паліцай. Дзіўная дапамога.

Хутка сцямнела.

Вырашыў: выходзіць трэба цяпер, у ранні вечар, калі многія вяртаюцца з працы і патрулі не чапляюцца да кожнага прахожага.

Спусціўшыся з гарышча, у сенцах паслухаў, ці няма чужога ў хаце. Не, толькі голас дзяўчынкі. Малая спявала «Кацюшу». «Расцветали яблони и груши...» Дзіўна, што ў гэтым доме спявалі такую песню; па сваім узросце дзіця не магло помніць яе з даваеннага часу: дзяўчынцы годзікі чатыры, пяты. Пэўна, спявае маці. А што яшчэ яна можа спяваць?

Незвычайна, ледзь не да слёз расчуліў дзіцячы галасок і сама песня — такая родная, наша, савецкая.

Голас Хрысціны. Яна перапыніла спеў і, здаецца, прагнала ад сябе малую. Тая пратупала ў прыхожай каля самых дзвярэй босымі ножкамі, пабегла ў залу. Не, староннiх не чуваць.

Шабовіч ціха адчыніў дзверы і прашмыгнуў на кухню.

Хрысціна мыла дзіцячую бялізну. Спалохалася, ажно войкнула, быццам не ведала, што ён у доме.

— Чаму палохаешся?

— Не знаю. Я цяпер усяго баюся. Кошка з ляжанкі скочыла — дык я чуць не самлела. А цябе не чула, як ты спускаўся, лесвіца ж наша скрыпіць. Умееш, як кот, нячутна.

— Умею. Умею. Усё ўмею.

— А з выгляду — прастачок. А ты — артыст!

— Жыццё ўсяму навучыць. Накармі мяне.

— Я табе сала насмажу.

— Ого! Шчодрая ты.

— А хіба такому госцю шкада?

Хрысціна ўскочыла на лаўку, занавесіла акно саматканай дзяругай, хоць акно гэтае выходзіла ў двор, на хляўчук. Спадабалася яе асцярожнасць.

— Ладна. Не высвятляю, які я госць.

— А я табе скажу — які. Пра якога думаюць: хутчэй бы ён, чарцяка, выбраўся.

— У шчырасці табе не адмовіш.

— А што мне — дзяцей з табой хрысціць?

— Не заракайся, можа, станеш кумой.

— Ты ж нежанаты.

— А хіба гэта доўга, маючы жанілку?

У гэты момант, мабыць, пачуўшы іх галасы, увайшоў гаспадар. Выглядаў ён нейкім ажно счарнелым — такім, што жартаваць пры ім, ды яшчэ з жонкай яго, знікла ўсялякая ахвота.

Прысядаючы да кухоннага стала, сказаў сур'ёзна і сурова:

— Не бойцеся. Зараз я пакіну вас. Сала смажыць не трэба, сырое з'ем,— і да Чурсіка: — Выведзеш мяне на Даўгінаўскі.

І тады — во, нечаканасць! — гаварлівая і, здавалася, незалежная Хрысціна раптам упала перад ім на калені.

— Стасік, родненькі, пашкадуй ты нас, не губі, у нас дзіця малое. Мы табе зрабілі ўсё, што маглі. Невядома, чым гэта скончыцца для нас. Усё бяры. Але яго не вядзі. Гэта ж на верную смерць вядзеш.

У адчыненых дзвярах з'явілася Надзька і здзіўлена, шырока расплюшчанымі вачамі глядзела на маці: што адбываецца тут? адкуль з'явіўся дзядзька Стась у іх кажуху? Казка, дый годзе!

— Устань! — узлаваўся Шабовіч.—Наладзіла спектакль перад дзіцем! Што ты растлумачыш ёй? — і малой: — Мамка не пускае татку ў карты гуляць.

— Не ідзі, татачка,— прыціснулася дзяўчынка да бацькавай нагі.

— Чорт з вамі! — падняўся Шабовіч з табурэта і да Чурсіка — загадна: — Шынель дасі і фуражку.

— Не дам! — скрыгатнуў зубамі паліцэйскі, дзіўна ён змяніўся ў адзін міг, як быццам раптам адчуў сваю сілу.

— Табе дарагі так гэты шынель? — сціснуўшы кулакі, Шабовіч ступіў да паліцая.— Не можаш расстацца?

Хрысціна стала між імі.

— Стасічак! Дык пазнаюць жа па шынялі — чый ён. Пазнаюць. Я табе братава паліто дам. І капялюш. Будзеш што пан.

— Чорт з вамі,— ужо лагодна сказаў Шабовіч.— Давай тваё паліто.

Хрысціна кінулася ў спальню, малая за ёй.

Шабовіч скінуў кажух і дастаў з кішэні пісталет, правяраючы, у якой ён гатоўнасці.

— А я думаў — ты чалавек, а ты... гаўно фашысцкае.

— Мала я для цябе зрабіў? Мала?

— Ладна. Чорт з табой. Пасля палічымся. Але не забывайся пра той рахунак, які будзе падбіты. Не забывайся. Як чалавеку кажу.

На парозе спыніўся, хацеў павярнуцца, паглядзець, якімі вачамі яны, трое, праводзяць яго. Але не спыніўся. Дзвярамі ў хату ляпнуў. У цёмных сенцах апрануў паліто, цеснаватае ў плячах. Дзверы ў сенцы адчыніў і зачыніў за сабой ціха. Пастаяў на ганку.

Распагодзілася. Бралася на мароз. Высыпалі зоркі. Далёка на станцыі трывожна крычалі паравозы.

Золатаў не палюбіў Дзядзюлю з першай сустрэчы: скамарох. Асабліва не спадабаўся камандзір базавага атрада, калі прыязджаў сюды да Мана. Блазнаваў, што прыехаў па цэбры, таргаваўся за кожную лыжку, надзялялі адзін аднаго, ён і Ман, адменнымі эпітэтамі: «кулак», «лейба», «скупярдзяй». А пасля гадзіны дзве хадзілі па лесе і, здалёк відаць было, вельмі дружалюбна шапталіся. Пра што? Што за сакрэты ў іх ад яго, прадстаўніка дзяржбяспекі, ад камісара, нарэшце? Падазрона. Але яшчэ больш непрыемна зачапіла за жывое, як Дзядзюля гаварыў з ім: неяк як бы несур'ёзна, як з малым. Абуральна. Хто ён такі? Радавы. Інжынер-тарфянік. А ніякай павагі да прадстаўніка органаў. Партызаншчыны ў іх многа ў абодвух — і ў Дзядзюлі і ў Мана. Хто з іх толькі больш складаны? Хто ка каго ўплывае?

«Але пачакайце, разбяруся і дам зразумець, хто я, а хто вы».

У руках Золатава была зброя, на якую ён занадта спадзяваўся,— рацыя і свой радыст. Толькі б мець факты. А там ён дасць такую інфармацыю, якая дойдзе да самога Лаўрэнція Паўлавіча, а ў таго даволі ўлады, каб прымусіць Папамарэнку навесці ў атрадах парадак і лічыцца з прадстаўнікамі НКУС.

Але бяда ў тым, што ніякіх асаблівых фактаў не было і прыдумаць іх тут нялёгка. Ды і не пра дзеянні атрадаў, іх камандзіраў патрабаваў інфармацыі Цэнтр. Настойліва патрабавалі звестак пра становішча ў Мінску. Выказвалі незадавальненне, што ён сядзіць у лесе, а не ідзе ў Мінск. А як пойдзеш? На верную смерць? Сваю «камандзіроўку» сюды лічыў прошукамі ворагаў. Абскакалі яго дружкі, нікому з іх не хацелася ляцець у нямецкі тыл, хоць усе гаварылі высокія словы. Ёсць у наркамаце цэлае вялізнае ўпраўленне, якое спецыяльна рыхтуе людзей для працы ў лагеры ворага, мову вывучаюць. Чым яны займаюцца? Такі горад, як Мінск, з усімі цэнтральнымі акупацыйнымі органамі яўна іх аб'ект. Дык не ж, паслалі яго, работніка, які ўвесь час займаўся ўнутранымі справамі, контрразведкай, паслалі толькі таму, што ён мінчанін. Дык гэта ж толькі ўскладняе яго задачу, бо нехта можа пазнаць яго, чаго добрага, з тых, чые справы ён вёў, многіх з іх вызвалілі пад націскам таго ж Панамарэнка а іншыя маглі вызваліцца самі ў першыя дні вайны, калі іх эвакуіравалі з Мінска. Мінкіна расстралялі за тое, што група, якую ён вёў на Магілёў, узбунтавалася на начлезе, абяззброіла канваіраў і рассеялася ў лесе ля Бярэзіны. Мінкін прасіў вайскоўцаў наладзіць аблаву, але тыя адмахнуліся: знайшоў чым займацца.

Вайскоўцы ніколі не разумелі іх, вартавых дзяржаўнай бяспекі, больш таго, не любілі. Ён сам чуў пры адступленні з Магілёва, як крычаў збіты наш лётчык-капітан: «Сволачы! Знішчылі камандаванне... Блюхера, Тухачэўскага, Рычагова. А цяпер хто намі камандуе? Які я да д'ябла камандзір палка?»

Хто камандуе? Таварыш Сталін камандуе. Так ён, Золатаў, і адказаў таму лётчыку і спытаў яго прозвішча. Але прозвішча яму не сказалі, а капітана таго схавалі. І не якія-небудзь радавыя. Камандзіры штаба дывізіі. Ён у рапарце далажыў пра гэты факт, назваў прозвішча начальніка штаба, які пры гэтай сутычцы прысутнічаў.

Але чыста папрацавалі яго ворагі. Адабраных камандзіраў разведвальна-дыверсійных груп прыняў сам Берыя. Паспрабаваў бы ён сказаць наркому, што ляцець у Мінск не можа — «паляцеў» бы ў лепшым выпадку радавым на фронт.

А цяпер вымагаюць разведдадзеных. Другое ўпраўленне, другое начальства, а тактыка тая ж: кінуць яго, як сухое палена, у паравозную топку. Прыходзіцца сачыняць дадзеныя. Але ж гэта не менш рызыкоўна. Аднойчы ён адвярнуўся ад шыфравальшчыка, і радыёграму прачытаў Кіпень і — што падазрона — змаўчаў, ні слова не сказаў, а Ману, безумоўна, перадаў, таму той уедліва пасміхаецца. А Кіпень ходзіць у яго па пятах. Выказвае дружбу, захапленне, а што ў думках — хутчэй за ўсё аднаму Ману вядома. Дзікая сітуацыя: сярод сваіх адчуваеш сябе, як сярод ворагаў. А яго людзі, якіх ён накіроўвае ў Мінск, не вяртаюцца. Трэці не вярнуўся. Як у прорву. А яшчэ хочуць, каб ён сам пайшоў.

Прымусіў сябе звярнуцца за дапамогай да Мана: трэба інфармацыя Цэнтру пра становішча ў Мінску, а яму няма ўжо каго пасылаць (пакінуў ён пры сабе самых верных — для ўласнай аховы, і засталося іх усяго двое, калі не лічыць радыста, якому ён не вельмі верыў — чужы чалавек, з таго ўпраўлення, якое цяпер камандуе ім, Золатавым, чорт ведае што ён там шыфруе, можа, адсябяціну). Ці не можа ён, Ман, паслаць сваіх людзей, яны лепш ведаюць хады і выхады?

— О, не! Мае не спецыялісты па Мінску. Гэта ў Дзядзюлі ёсць спецыялісты. Давай з'ездзім да яго.

Нібыта сварацца, падумаў Золатаў, а жыць адзін без аднаго не могуць. Абы зачэпка, каб з'ездзіць да Дзядзюлі. Але чорт з ім! Дзядзюля дык Дзядзюля. Калі іншай крыніцы няма, да чорта ў балота палезеш, не толькі да паяца і нахабніка Дзядзюлі.

...На гэты раз Дзядзюля яму спадабаўся. Калі размова пайшла пра справы ў Мінску — пераўтварыўся чалавек: зрабіўся сур'ёзны як ніколі, засмучаны — калі пачаў расказваць пра падзеі апошніх двух месяцаў, ажно голас задрыжэў.

— Трагедыя там у іх. У канцы верасня арыштавалі па сутнасці ўсё падпольнае кіраўніцтва,—і пачаў пералічваць прозвішчы людзей, і пра кожнага гаварыў так, быццам ведаў асабіста. Але не мог жа ведаць усіх. З болем гаварыў, назваў больш дзесяці чалавек.— Геройскія людзі!

— Вы ведалі каго-небудзь з кіраўнікоў?

— Аднаго ведаў, пра іншых даведаўся пасля іх арышту, на шчасце, група, з якой я звязаны, уцалела, і людзі з гэтай групы паведамляюць мне час ад часу аб тым, што там творыцца. Дваццаць восем чалавек павешаны. А колькі расстралялі — ніхто не ведае.

— А хто кіруе вашай групай?

Дзядзюля прыжмурыўся і да крыўднага скептычна агледзеў маёра.

— Наіўнае пытанне для чэкіста.

— Чаму наіўнае? — зусім шчыра пакрыўдзіўся Золатаў.— Вы не давяраеце мне?

— Чаму не? Веру. Такому чалавеку не верыць? — гэта было сказана са здзекам, тым, дзядзюлеўскім, блазнаватым.

Золатаў не толькі адчуў гэта па яго тоне, але і ўбачыў хітрую ўсмешку маўклівага Мана-Манюка.

Але Дзядзюля, угледзеўшы крыўду Золатава, раптам пасур'ёзнеў:

— Можаш паверыць, таварыш маёр, што сам не ведаю яго сапраўднага прозвішча, такі закон канспірацыі. А падпольная клічка яго — для мяне і маіх людзей — Жук. Жук — сорак ножак — сорак рук. Вось такі гэта Жук,— і Дзядзюля засмяяўся не то задаволены жартам, не то чалавекам, які выконвае небяспечнае заданне.

— А ў чым прычына такога масавага правалу?

Для Золатава такое пытанне мела істотнае значэнне: адказ на яго мог бы растлумачыць і апраўдаць правал яго людзей. Спасылка на Дзядзюлю дало б яму апраўданне перад начальствам, якое ледзьве не адкрытым тэкстам патрабавала, каб ён асабіста наведаў Мінск і высветліў становішча. Лёгка ім там, седзячы ў Маскве, камандаваць! А тут такі хітры ліс, які адусюль «цягае

курэй», не адважваецца прабірацца ў горад; Дзядзюля самакрытычна прызнаўся ў гэтым на самым пачатку размовы.

Над такім пытаннем камандзір зноў сур'ёзна задумаўся.

— Каб я, браце, ведаў прычыну, то, можа, ратаваў бы многіх нашых людзей. Арышты працягваюцца і цяпер. А чуткі і думкі — яны самыя розныя. Тыдзень назад была ў мяне тут адна маладзічка. Перадала і такое, што адзін з арыштаваных кіраўнікоў падполля,— Кавалёў,— правакатар, выдае сваіх. Ды гарадскія кіраўнікі яе, сувязной нашай, лічаць, што гэта правакацыя эсдэ, каб дэмаралізаваць падпольшчыкаў. Масавыя арышты зусім не азначаюць, што нехта выдае. Змена чалавекам кватэры — ужо падстава для арышту. І я згодзен са сваімі хлопцамі. Не веру, што Іван правакатар. Асабіста ведаю гэтага чалавека, праўда, па даваеннай рабоце. Ён быў сакратаром райкома, блізкага ад Мінска. Гэта сапраўдны бальшавік!

Дзядзюля не верыць, што Кавалёва маглі зламаць фашысты. А ён, Золатаў, адразу паверыў, бо ведаў, як лёгка «расколваліся» такія «бальшавікі» на допытах у іх, а ён шчыра быў перакананы, што асабіста яго допыты былі гуманныя, ва ўсялякім разе з фашысцкімі іх не параўнаць.

Адным словам, інфармацыя пра Кавалёва яго амаль узрадавала. Гэта якраз тое, што трэба, што апраўдвае яго ў вачах начальства,— не хаваецца ён у атрадзе, а дзейнічае асцярожна, прадбачліва, неразумна лезці ў пастку зверу, калі ён так ашчэрыўся, абкружыўся правакатарамі. Многа значылі і прозвішчы Караткевіча, Нікіфарава, іншых, гэта пацвярджэнне грунтоўнасці інфармацыі, можа здарыцца, што ён першы назаве гэтых людзей, добра было б, каб пра іх і Панамарэнка не ведаў, пра дзейнасць якога Лаўрэнцій Паўлавіч адазваўся на інструктажы скептычна, хоць тут жа агаварыўся, што, маўляў, гэта тычыцца разведкі ў Мінску, у іншых гарадах, а не баявых дзеянняў партызанскіх атрадаў. Карцела спытаць, ці перадаў Дзядзюля гэтыя «мінскія чуткі» ў ЦШПР[1]. Але тут жа сцяміў, што можа ў данясенні на Дзядзюлю не спасылацца, лепш сачыніць яго так, каб там, у Цэнтры, лічылі, што звесткі з Мінска прынёс чалавек яго групы. Праўда, такім чынам можна напрасіцца на яшчэ больш складанае заданне, напрыклад, на ўстанаўленне сувязі з тымі кіраўнікамі падполля, якія ўцалелі, але, як кажуць, рызыка — справа высакародная. Там зноў можа выручыць Дзядзюля. З

[1] Цэнтральны штаб партызанскага руху.

гэтым чалавекам варта мець добрыя адносіны, дарэмна ігнараваў яго і нават як бы трохі баяўся — за яго ўедлівую саркастычнасць. Пахваліць яго трэба. Але ўмела, хітра, бо Дзядзюля з тых «іронікаў», калі «пераборам» у іх праслаўленні можна сапсаваць усю гульню.

Золатаў вельмі ўзрадаваўся, калі за абедам, з чаркай, Дзядзюля ўсё ж «клюнуў» на тост аб яго народнай мудрасці, аб яго палкаводскіх якасцях.

— Такія людзі, як вы, Цімох Пятровіч, узначальвалі народныя рэвалюцыі. Як Разін. Як Пугачоў.

Не адбіўся сарказмам, сказаў сур'ёзна, што Разіна ён любіць, а Пугачова не вельмі: хаваючыся тут, у Беларусі, на яго радзіме — у Ветцы, Ямелька нюхаўся з польскай шляхтай.

У найлепшым настроі вяртаўся Золатаў у свой атрад. Атрымаў больш, чым спадзяваўся. Ёсць што перадаць Цэнтру. Ёсць чым апраўдаць сваё прабыванне ў атрадзе, а не ў Мінску.

А Ман чамусьці быў задумлівы, хоць гаварлівасцю ён ніколі не вызначаўся. Але заўсёды быў інтэлігентна ўважлівы да субяседніка. Пра што яны там шапталіся? Не маглі змовіцца падкінуць яму інфармацыю-ману? Не, не падобна. Золатаў ведаў сваю слабасць, якая абумоўлена спецыфікай прафесіі: нікому не давяраць — ні арыштаванаму, ні начальніку, ні сябру, ні жонцы, да ўсяго ставіцца з падазронасцю. Але тут не той выпадак і не тыя людзі. Ён часам радаваўся, што сярод партызан «хвароба» яго прытупілася — не верыць Ману, хоць ён і Манюк, Кіпеню, Брагінскаму нельга, тут яны, жывучы ў адной зямлянцы, выконваючы адну задачу, парадніліся што браты. Праўда, нярэдка ён дакараў сябе за аслабленне пільнасці, за даверлівасць. Такое ён не мае права дазваляць сабе, тут — тым больш. Трымаць вуха трэба востра: ворагі маглі пралезці і ў партызанскія атрады.

Пасля першых, даволі моцных маразоў і снегападаў, калі, здавалася, трывала лягла зіма, наступіла адліга, вярнулася цёплая восень. Снег сагнала. Часта ішлі дажджы. Зямля раскісла. Ехалі чацвёра — два маладыя партызаны, ахова камандзіра, яны заўсёды суправаджалі яго ў атрад Дзядзюлі. Між іншым, нават гэта выклікала ў Золатава падазронасць: чаму на баявыя заданні Ман-Манюк едзе з любымі іншымі партызанамі, а да Дзядзюлі толькі з гэтымі юнакамі, не самымі вопытнымі байцамі. Пашкадаваў, што не мог узяць свайго чалавека, але чалавек яго, Іваноў, па сутнасці адзіны, якому ён верыў, хварэў — фурункулы ўскочылі на такім месцы, што ён не мог сесці ў сядло.

Ад талага снегу і дажджоў распухлі раўчукі, па-вясноваму разлілася рэчка. Туды ехалі — праехалі па грэблі, па мосце. Нікога не сустрэлі, ва ўсялякім разе ён, Золатаў, нікога не ўбачыў, калі не лічыць адзінокай постаці, жаночай, на краі далёкай, за добрую вярсту, вёскі. Але Ман сказаў тады:

— Назад гэтай дарогай не паедзем. Але дзе пераправіцца?

Доўга шукалі яе, пераправу. Ехалі ўздоўж рэчкі. Тут берагі яе былі крутыя, і вада не выйшла з іх. На полі коні грузлі па калені і знясілелі: дваццаць вёрст туды, палавіну дарогі назад.

Перапраўляцца пачалі там, дзе ад рэчкі падыходзіла палявая дарога, на тым баку яна вяла ў лес. Рэчка ў гэтым месцы разлілася і ўстрашала шырынёй. Але Ман ведаў, што там, дзе брод,— мелка і дно цвёрдае. Аднак мелка не было, коні адчувалі глыбіню і баяліся, прыйшлося гучна нокаць. Хлопцы ўзнялі ногі на холы коней, Золатаў чарпнуў халявамі ваду. Конь збочыў з дарогі, як знесла яго вадой, і ён з натугай выбіраўся на абрыў. І тут свіснула куля. Адна. Другая. Конь заржаў, споўз у раку. Золатаў вырваў ногі са страмёнаў і зваліўся ў рэчку. Хуткая плынь панесла яго груваскае цела. Але, магчыма, гэта ратавала яго, бо зноў прагучалі недалёкія стрэлы, і рака праглынула забітага каня.

Плаваў Золатаў нядрэнна, ныраючы, праплыў паўсотню крокаў, схапіўся за паваленую альху, па ёй выбраўся на абрыў, прапоўз колькі крокаў, нюхаючы зямлю,— галаву ўзняць баяўся; куляючыся, скаціўся ў лагчыну, дзе таксама стаяла вада. Але ўгледзеў, што ад куль закрыўся. Абмацаў сябе. Фуражку знесла. Добра, што пісталет ацалеў, хоць кабура была расшпілена. Дзе ж яго баявыя таварышы? Пакінулі аднаго? Пакінулі, сволачы! Хто стане падстаўляць сябе пад кулі? Узаемавыручка ў баі — прыгожыя словы. Ніхто нікога не выручае, кожны думае пра сваю шкуру. Кроў ударыла ў галаву, сэрца распухла да таго, што, здавалася, разарве грудную клетку. Пацямнела ў вачах. Свінцова-шэрае асенняе неба стала жоўтым.

Дзе яны, ворагі? На тым ці на гэтым беразе? Колькі іх? Калі ўгледзелі яго, адным пісталетам не адбіцца. Што ж застаецца? Пусціць кулю сабе ў скроню? Ці ў сэрца? Дзе менш баліць? Ад якой раны хутчэй наступіць смерць? Заскуголіў ад страху, роспачы, безвыходнасці. Так недарэчна скончыць сваё жыццё! Якую радыёграму дасць у Цэнтр Ман? Падлюга Ман! Здраднік! Фашыст! Недарэмна ўзяў сабе нямецкае прозвішча. Безумоўна, пастараецца ачарніць яго, мёртвага. Як? Як прадставіць яго смерць? Ці стане

хоць сумлення перадаць, што загінуў выпадкова — напароўся на засаду?

І раптам збоку фыркнуў конь. Золатаў ажно ўскрыкнуў ад нечаканасці і прыставіў пісталет да грудзей, загадаўшы сабе: «Жывым не здавацца!» Але — о, цуд! — да яго ехалі па лагчыне Ман і баец, адзін.

— Вось ён! — радасна ўсклікнуў хлопец.

Ман саскочыў з сядла.

— Сербануў вады? Ажно пасінеў, нябога. Ехаць можаш? Сядай на майго каня. Скачы па лагчыне. На ўзлессі пад дубамі цябе будзе чакаць Андрэй. А мы з Іванам затрымаем іх. Яны пакуль што на тым баку. На конях. Але па ўсім відаць, намераны перапраўляцца. Вынюхваюць, ці няма атрада ў засадзе, ці не былі мы прыманкай. Няхай кінуцца ў пагоню.

Ман памог Золатаву ўзлезці ў сядло. І тады ён сапраўды зноў адчуў сябе на кані. Страсянуў страх, набыў моц. Прыгнуўся да грывы, дзіка гікнуў каню ў вуха, ударыў абцасамі ў бакі і прымусіў яго з ходу памчаць ускач.

Праз хвіліну ззаду затрашчалі аўтаматы. Аўтаматамі ўзброены Ман і баец Іван Хіла, па іх стралялі з вінтовак. Калі выскачыў з лагчыны на ўзгорак, над галавой неяк аслабела дзынкнула куля. Але і яна спалохала. Якія там дубы? Дзе той Андрэй?

Конь вынес яго да арэшніку, за ім — асіннік, а далей — ельнік. Толькі там, каля ельніку, спешыўся, бо на кані праз гусцеж не прабрацца — выкалеш вочы. Але, ведучы каня ў повадзе, ён усё далей і далей углыбляўся ў лес. Страляніна на лузе сціхла. Але над галавой стракаталі сарокі і таксама палохалі: чаму так трывожна? І чаму ляцяць не ўперад, а назад? Ці не ідуць паліцэйскія па яго слядах?

Баяўся нават разуцца, каб выліць ваду з ботаў.

Лес за дзесятак кіламетраў ад лагера Золатаў не знаў, ды ў такую пагоду, без сонца, і мясцовы чалавек можа пайсці ў лесе не ў той бок. І ён доўга блукаў, выбіраўся на ўзлесак і, як толькі адкрывалася поле ды яшчэ з недалёкімі хатамі вёскі, тут жа спяшаўся ўглыбіцца назад у пушчу, хоць, разумеў, што і там можна наскочыць на ворагаў. Вунь як яно бывае: ехалі спакойна ў далечыні ад вёскі і — на табе. Адкуль чорт прынёс іх, паліцаяў? Падпільнаваць не маглі — назад ехалі зусім па іншай дарозе. Ман умее прадбачыць, але тут і ён спатыкнуўся. Чым там кончылася ў яго? Двое на добры дзесятак. Навошта трэба было ўлазіць у такі бой? Захацеў паказаць свой гераізм?

У думках набліжаўся да таго, каб віну за сваю бяду зваліць на таго ж Мана. А бяда яго заключалася толькі ў тым, што ад мокрага адзення дубянеў. Спрабаваў бегчы побач з канём, але мокрыя анучы націралі ногі.

Урэшце яму пашанцавала: выбіўся на знаёмую просеку. Тут ужо не шкадаваў каня і праз чвэрць гадзіны прымчаў у лагер.

Камісар і начальнік штаба вельмі ўстрывожыліся за камандзіра. Паднялі атрад па трывозе: камандзір у бядзе?

Праз пяць мінут конны ўзвод гатовы быў скакаць на выручку. Дзе застаўся камандзір, растлумачыць Золатаў не мог, але ўспомніў, што Ман сказаў пра паліцыю: «Каменскі гарнізон». Па гэтых словах Ігар здагадаўся, дзе яны маглі пераправіцца праз рэчку.

Канешне, Золатаў памкнуўся паехаць з імі. Але калі пераапрануўся ў сухое, яго пачало ліхаманіць і... ванітаваць. Куды ў такім стане ехаць!

Хворага Брагінскага таксама не ўзялі, і той даглядаў начальніка асобага аддзела з увішнасцю міласэрнай сястры: хутаў у кажух, паіў чаем і самагонкай, паліў буржуйку.

На змярканні ўзвод вярнуўся, але Мана і яго ардынарцаў з імі не было.

Ігар Кіпень панікаваў; прапанаваў тут жа, не чакаючы нават позняй ночы, напасці на каменскі гарнізон. Прыйшлося астуджаць яго:

— Ты што ж, лічыш, што Аляксей Іванавіч мог здацца ім? Не той чалавек.

Але, не той. Аднак:

— Ды іх і мёртвых трэба вызваліць!

— Гародзіш ты, хлопча, глупства. Няўжо думаеш, што іх выставяць у царкве, каб заўтра адслужыць паніхіду? Калі, не дай бог, забілі, то кінулі целы ў рэчку. Але дзе Андрэй? Яго не маглі забіць. Пачакаем Андрэя.

— Не, я так не магу,— не здаваўся Ігар.—Паеду з хлопцамі ў разведку.

Золатаў зразумеў, што трэба браць камандаванне ў свае рукі, інакш ініцыятыву можа захапіць гэты хлапчук. Другога такога выпадку не будзе! Безумоўна, ён па-чалавечаму шкадаваў Мана. Але вайна ёсць вайна. І раскісаць на ёй не дазволена, асабліва яму, чэкісту, камандзіру спецгрупы. Пакуль што не таіў нават ад сябе, што праз няшчасце яму ўсміхнулася ўдача: збываецца яго мара. Падняўся з-за стала, падперазаў папругу і ўладна сказаў:

— Да звароту Манюка (чамусьці не Мана — Манюка) атрадам камандую я! Аперацыю адмяняю! Разведку пашлём, але не цяпер, на ноч гледзячы. Пашлём раніцою.

Кіпень, добры, мяккі хлопец, мусіў згадзіцца, але пачаў апранацца.

— Ты куды?

— Пагавару з людзьмі. Байцы ўсхваляваліся.

— З людзьмі пагавару я сам. Пайшлі разам.

Выйшлі з ліхтаром, без яго і па пратаптаных сцежках не прайсці, ноч — вока выкалі. Узняўся вецер. Ажно свістаў у вершалінах сосен. Шум бору гараджаніна Золатава па-ранейшаму і зачароўваў і палохаў: у такім шуме і вартавыя нічога не пачуюць, пра гэта ён неаднойчы думаў у ветраныя ночы.

Спыніліся каля зямлянкі разведчыкаў, бо адтуль гучаў смех. Вясёлы смех. Гэта як пацвярджала яго, Золатава, думку пра людзей: вось яны якія, а Ман так верыў у іх адданасць.

Цікава, чаму ім так весела?

Адчыніў дзверы і... аслупянеў. Перад буржуйкай на калодзе сядзеў Аляксей Іванавіч у сухім адзенні. Вясёлы. Смяшыў байцоў. Чым? Ці не расказам пра тое, як ён, Золатаў, прыняў халодную ванну? Уявіў, як Ман мог расказваць, і ажно перасмыкнула яго. Не адразу нават выказаў радасць, што бачыць камандзіра жывога і здаровага.

— Ты тут?

— А вы думалі, я плыву ў Бярэзіну у абдымку са шчупаком?

Разведчыкі засмяяліся.

— Я нічога не думаў.

— Чаму вы мінулі Андрэя?

— Чорт яго знойдзе, вашага Андрэя. Лес вялікі.

— А ён вас бачыў. І мы вас дацямна шукалі.

Злосць Золатава на Мана закіпела: навошта яму трэба высвятляць такія дэталі тут, у прысутнасці байцоў? Каб зняважыць яго? І яшчэ адно выводзіла яго з раўнавагі — упартае нежаданне камандзіра перайсці з ім на ты. Усім кажа ты, не толькі маладым Кіпеню, Брагінскаму, байцам, але і старэйшаму за сябе камандзіру дыверсійнай групы чыгуначніку Каралеву, кухарцы цётцы Баслычысе. Цётка гэтая не саромеецца на людзях прабраць камандзіра за атрадную гаспадарку, і Ман толькі пасміхаецца з яе крытыкі. Да ўсіх ён — народнік, а да яго, Золатава,— інтэлігент. І ніяк Золатаў не можа зразумець, што гэта — павага да яго звання, падкрэсленае захоўванне вайсковай субардынацыі ці хітры здзек,

насмешка. Якаў Міхайлавіч ненавідзеў псіхалагічныя тонкасці, людзей ненавідзеў, якіх цяжка «раскусіць», расшчапіць на клеткі. А ён жа таксама лічыў сябе псіхолагам. Выходзіць, ёсць розныя ўзроўні псіхалагічных здольнасцей. Злавала і тое, што яго ўласны настрой, найтанчэйшыя хістанні настрою Ман лавіў, як добры сейсмограф.

Вось і тут: адразу пачуў, што ён, Золатаў, кіпіць. А Ман сапраўды адчуў гэта і без усялякай задняй думкі шчыра пашкадаваў начальніка асобага аддзела. Упершыню, відаць, трапіў чалавек у такі пераплёт, таму не дзіва, што пасля ўсяго перажытага завёўся ад лёгкага папроку: чаму мінуў Андрэя? Забыцца на тое, што яны шукалі яго, хваляваліся, узяць віну на сябе:

— А мы ў лесніка абсушыліся. А паліцаяў, двух, мы ўсё ж ссеклі. Лапухі. Усім атрадам, гуртам, пачалі перапраўляцца праз рэчку на тым жа бродзе. О, пабачылі б вы, як астатнія крутнулі назад! І на сяброў сваіх, што вываліліся з сядла пасярод рэчкі, забыліся. Не падумалі: а можа, хто ранены, не забіты? Адзін грэбаўся на абрыў, ды Іван...— і не скончыў, што зрабіў Іван, «закрыў» тэму, непрыемна было ўспамінаць пра жорсткасць вайны, пераключыўся на іншае: — Што перадала Масква?

— Мы яшчэ не выходзілі ў эфір.

— А я прывёз апошнія зводкі Саўінфармбюро. Толькі прамокла мая торба. Зводкі — ладна, я іх запомніў. Вось гэтага багацця шкада,— дастаў з вайсковай сумкі мокрую кнігу: — «Каралева Марго». Чытаў хто? Эх вы, прафесары! Высушу — дам пачытаць. Спаць пяць начэй не будзеце. Хто мне дакладваў, што ў Каменцы ўсяго пяць паліцэйскіх? Атрох! Заўтра зрабі вылазку туды. Што людзі будуць гаварыць пра сённяшнюю падзею? Каго мы адаслалі туды,— кіўнуў угору,— ворагаў ці дурняў? Шкада, калі на нашу кулю наскочыў дурны сынок добрай маці.

Золатаў засек і гэта ў сваёй памяці: паліцэйскіх пашкадаваў. Неяк у размове раскулачаных шкадаваў: маўляў, у тых, каго везлі ў Сібір, дзеці ў вагонах мерзлі. Вось такі добры дзядзька камандзір атрада — усіх шкадуе.

«Слаба цябе гартавалі, Аляксей Іванавіч, у бальшавіцкім горане,— падумаў Золатаў.— Слаба».

Толькі сябе лічыў ён чалавекам ва ўсіх адносінах загартаваным — фізічна і маральна.

Ці не вынікам загартоўкі такой было і тое, што не дурань выпіць, Золатаў ніколі не выпіваў перад тым, як выходзіць на

сувязь з Цэнтрам, быццам начальства магло ўнюхаць радыёхвалі. Не ён жа ключом працаваў — радыст, у таго павінна быць цвёрдая рука, каб не змяніўся почырк, што там, у Маскве, магло насцярожыць. З некаторымі тайнамі разведкі ён па сутнасці пазнаёміўся толькі перад адлётам, тыдні два іх вучылі, не больш. Але пра тое, што радыст павінен быць у адным, спакойным і цвярозым, стане, каб почырк не паламаўся,—пра гэтую, вядомую дапытліваму школьніку тайну ведаў даўно. Іншай, не менш адказнай, работай прыйшлося яму займацца ў органах; у яго рабоце рацыі пакуль што не прымяняліся. Ён меў справу з пісьмовымі данясеннямі.

Ман толькі аднойчы, і то як бы між іншым, у гутарцы, спытаў, што ён перадае ў Маскву. А тут, калі ішлі ад разведчыкаў да камандзірскай зямлянкі, спытаў, бадай, з камандзірскай патрабавальнасцю:

— Што данясеш сёння?

— Пра становішча ў Мінску.

— Пра Кавалёва не передазайце.

— Чаму?

— Праверыць трэба. Нічога не ведаем, адны чуткі, адна баба сказала, а кінем на чалавека цень. Паставім кляймо... Хто адмые на мёртвым?

«Ах, добранькі, ах, добранькі».

І без гэтага папярэджання ён не перадаў бы пра Кавалёва, не таму, што спадзяваўся на больш дакладную інфармацыю, а таму, што хацеў расцягнуць Дзядзюлевы навіны надаўжэй, каб даць тым, што сядзяць у маскоўскіх кабінетах, зразумець: не спіць ён тут у шапку, наладзіў разведку так, што ўвесь час атрымоўвае свежыя дадзеныя. Няхай адчэпяцца з Мінскам. Каму так хочацца паслаць яго на верную смерць? Ёсць зайздроснікі. Хіба яму трэба было ляцець у тыл, а тым больш лезці ў фашысцкае логавішча!

«Добранькі — цень кінуць баішся. Бойся, каб яна не ўпала на цябе».

І з'явілася ў начальніка асобага аддзела нядобрае, зларадаснае нейкае пачуццё да чалавека, які гадзін колькі назад ратаваў яго ад смерці. Тут жа склаўся ў галаве новы тэкст радыёграмы. Менавіта з Кавалёва трэба пачаць — фігура, сакратар гаркома! Трэба ўдарыць, як кажуць, козырам. Уявіў, як начальнікі прымуць гэтае паведамленне. Яго непасрэдны начальнік палкоўнік Акцябрскі, які спрабаваў не адпусціць яго, узрадуецца, пахваліць. Начальнік разведупраўлення генерал Кротаў, як заўсёды, усумніцца і загадае

камандзірам іншых атрадаў праверыць; двух сваіх дублёраў ён ведае. Няхай праверацъ! Калі чалавек «пакаштаваў кашы» фашысцкай і больш месяца жывы, то можна без праверкі не сумнявацца, што выдае ён сваіх, не ўсіх, безумоўна, адразу, тактыка падследных вядомая, ва ўсіх іх адна псіхалогія, калі пяткі падсмажваюць ці іголкі пад ногці заганяюць: цыркаюць патроху — абы следчы расшчапіў абцугі ў дадзены момант.

— Дзядзюля не падумаў. Што пачуў ад першай сувязной, тое і выдаў на-гара. Так нельга!

«Бач ты, які дабрадзей!»

— Да чаго ты заклікаеш, Аляксей Іванавіч? Не разумею. Каб нам з табой цямнілі, праўды не казалі? Між іншым, я не думаю, што Дзядзюля так усё і вылажыў. Растапырвай кішэню шырэй. Гэтага хітругана і кулака я наскрозь бачу. Як ён за лыжкі з табой таргаваўся! Не сорамна табе лыжкі прадаваць сваім?

— За патроны — не сорамна.

— Адзінае апраўданне.

Між тым Аляксей Іванавіч падумаў:

«Цімоху няма чаго цямніць перада мной. А вось табе дарэмна ён усё вылажыў. Баліць у яго душа за людзей, таму і выгаварыўся. Шчыра Цімох гаварыў, даверліва».

— Пра Кавалёва не перадавайце,— яшчэ раз папрасіў Ман.— Пакуль што. Я, між іншым, таксама ведаю гэтага чалавека.

— Вось як! Усіх ты ведаеш.

— У вобласці ж працаваў.

— Добра, не перадам.

Аднак перадаў з поўнай упэўненасцю, што Кавалёў ведае сваіх, таму, маўляў, і арыштаваў гэтулькі. Не падумаў нават пра законы канспірацыі. Добра ведаў іншае — як умее следчы апарат рабіць ланцуговую рэакцыю: кожны наступны будзе выдаваць новых і новых: Кавалёў — Падковіна, Падковін — Молатава...

Вярнуўся з радыёрубкі вясёлы, радасна ўзбуджаны.

— Камандзір, выстаўляй увесь свой запас! Ёсць прычына выпіць!

— Якая прычына? Што вылезлі сухімі з рэчкі?

«Сцёбаеш па вачах? — падумаў Золатаў.— Пачакай. Я сцёбну не так». Але не месца тут ды і не час драпацца з гэтым «святым». І настрой не той — настрой сапраўды такі ўзняўся пасля сувязі, бо да інфармацыі яго праявілі надзвычайную цікавасць, загадалі праз паўгадзіны зноў выйсці на сувязь. І хоць другі сеанс быў кароткі, а загад сухі і нялёгкі: разведку ў Мінску

актывізаваць,— настрой ад гэтага не пагоршыўся, бо ён здагадваўся, каму была дакожана яго радыёграма.

— І гэтая прычына немалая — што мы высахлі пасля купання. Маглі і не высахнуць. Але ёсць прычына больш важкая. Глабальная. Усенародная. Разграмілі немцаў пад Сталінградам.

Адзначыў, што паведамленне гэтае Ман прыняў спакойна, быццам ведаў ужо радасную навіну. Вельмі ўзрадаваліся Брагінскі і Кіпень. Камісар па-камсамольску выгукнуў «ура». Начальнік штаба, які зусім расхварэўся, рухава падняўся са свайго тапчана, пачаў зашпільваць гузікі гімнасцёркі, рукі дрыжэлі, і яму нялёгка было гэта рабіць, падперазаў папругу — як рыхтаваўся ў баявы строй. Вочы яго набрынялі слязьмі, затуманіліся акуляры, ён праціраў іх, надзяваў і зноў праціраў.

— Во гэта радасць! Якая радасць, таварышы! Во за гэта і я вып'ю. Цяпер мне і паміраць не страшна.

— Капітан! Пачую яшчэ раз ныццё пра смерць...

— Я не ныю, дарагі Аляксей Іванавіч! Я спяваю гімн. І малюся. Не смейцеся. Цяпер я разумею, калі, з якой нагоды ў мамы з'яўлялася жаданне заспяваць песню і сачыніць малітву, малітву падзякі. Так яна моліцца сёння. Я гэта чую. Мая мама! Ах, таварышы мае дарагія! Каб атрымаць яшчэ і гэтую звестку — ад мамы... ад сям'і.

— Якаў Міхайлавіч! Дык што там перадалі? Што? — дапытваўся між тым Ігар, яму карцела хутчэй паведаміць такую навіну байцам атрада.

— Перадалі каротка, вельмі каротка: «Разгром немцаў пад Сталінградам. Слухайце радыё». О, каб была магчымасць, я сказаў бы ім за гэтую параду — «Слухайце радыё!» — пару гарачых слоў. Яны думаюць, у нас тут радыё, як у Маскве,— на кожнай сасне па рупары. Чыноўнікі! Бюракраты! На батарэі дыхнуць баімся — каб хапіла на перадатчык.

— Дзядзюля абяцаў,— сказаў камандзір.

— Дзядзюля абяцаў? — здзівіўся Кіпень.— Што ён у нас запросіць за батарэі?

Аляксей Іванавіч засмяяўся нейкай сваёй думцы.

— Папросім пазычыць. Пасля вайны разлічымся — свае людзі.

А Брагінскі кружыў па цеснай зямлянцы вакол печкі і ўсё гаварыў пра Сталінград і... пра маці — як у гарачцы, як у сне. Але слухаў яго адзін Ман. Радаваўся яго ўзбуджанасці ад такой навіны і адначасова трывожыўся.

Часцей за ўсё Навум успамінаў жонку і сынка, але, адчувалася з бояззю,— а раптам іх няма жывых? А тут раптам згадаў маці і гаворыць пра яе з упэўненасцю, што яна жывая, што яна моліцца за перамогу і за яго, сына. Чаму? Розуму недаступна чалавечая логіка, як праявы у хвіліны радасці і гора, мужнасці і страху. А калі перамешана ўсё разам, як у гэтага нябогі Брагінскага, дык такі чалавек падобны на вар'ята ці на святога.

Трэба ўсё ж угаварыць яго вярнуцца да Дзядзюлі, палячыцца, там два дактары, а ў іх адзін фельчар, а галоўнае, што Дзядзюля, чортаў дставала,— усё можа здабыць, з-пад зямлі, як кажуць. Дастаў бы і лекі патрэбныя. Праўда, лекі ён не шкадуе і сёння шчодра дзяліўся імі, ды яшчэ выказаў народную мудрасць: за лякарствы плату грэх браць.

— Сёння я выпʼю. Адзін раз можна. Выпʼю і буду спяваць песні. Я ж добра спяваў. Вы не чулі, як я спяваў. Гэта — ад мамы. Як спявала мая мама! — высокі Брагінскі паднімаў рукі над галавой і ляпаў далонямі па століі зямлянкі, як бы выбіваючы ўрачысты матыў. Потым усё роўна што спатыкнуўся — спыніўся перад камандзірам, разгублена і няўпэўнена, неяк зусім па-дзіцячаму спытаў: — Можна?

— Выпіць?

— І спяваць.

— Можна,— з бацькоўскай усмешкай дазволіў Аляксей Іванавіч.

— Вы пабачыце — я ачуняю. Ачуняю. Мне ўжо лепш ад вашага лякарства, Аляксей Іванавіч.

— Во гэта голас капітана! — выгукнуў Ман і лёгка ляпнуў Брагінскага па плячы і спалохаўся, пачуўшы яго кастлявае плячо і — як хіснуўся хворы ад дотыку. Дрэнна гэта, калі чалавек хістаецца ад ветру. Але тым больш трэба яму радасць. Тым больш. Толькі радасць можа вылечыць. Няхай спявае, няхай смяецца.

Паклікалі Баслычыху. Яна была паўнаўладнай гаспадыняй прадуктовых запасаў і выконвала загады толькі трох чалавек — камандзіра, камісара і свайго непасрэднага начальніка — намесніка камандзіра па гаспадарчай частцы, былога старшыню райспажыўсаюза Рамана Квіткоўскага. Але Ігара яна неаднойчы ўжо прабірала, што бярэ прадукты звыш нормы, асабліва даставалася яму за спірт: «Малады, а зіркаеш у пляшку. Глядзі, давядзе яна цябе...» — «Цётка Моця, да чаго яна давядзе на вайне? Кончыцца вайна — жанюся, і жонка «завяжа».— «Завяжаш вас, чарцей. Вось мой...» — але ніколі не канчала размову пра грахі

свайго Пятра: на вайне ён, на фронце, а таму прымхліва баялася асудзіць яго.

Баслычыха кабета дзябёлая, працавітая — недарма ордэн заслужыла за лён — і добрая, але язык мела востры. Ордэнам яна ганарылася і, калі яе афіцыйна выклікалі ў камандзірскую зямлянку, амаль заўсёды з'яўлялася ў новай кофтачцы, на якой прычэплены ордэн.

— Матрона Карнееўна, дайце нам па акрайцу хлеба, капусты і... нацадзіце па кроплі...— бадай вінавата папрасіў камандзір.

— І вітаміна цэ — сальцэ,— засмяяўся Ігар.

— І без сальца да дзевак бегаеш.

— Хто гэта вам напляткарыў?

— Увесь раён гудзіць.

— Ну і ну! У вас што — радыё ёсць?

— А можа, і ёсць.

— Сапсаванае яно ў вас. Глупства передае, а вось такой навіны не прынесла — немцаў пад Сталінградам пабілі.

— Праўда? — вочы ў жанчыны радасна загарэліся, яна глядзела на Мана, чакаючы пацвярджэння ад яго.

— Праўда.

— Праўда, праўда. Мне Масква па рацыі перадала,— паспяшаўся засведчыць Золатаў.

— Ой, мужчыны! Дык я ж вам такую вячэру згатоўлю! — і раптам накінулася на Кіпеня: — Чаго ж ты сядзіш тут сіднем? Ідзі людзям раскажы.

— Во, Аляксей Іванавіч, каго трэба ставіць камандзірам аб'яднаных сіл, а вы Дзядзюлю хочаце выбраць...

— Брахуна таго? Не ўздумайце!

Золатаў уздрыгануўся, бо мільганула думка: а што, калі артыст Дзядзюля насачыняў пра Мінск? Во плюхнешся. Не, не можа быць! Гэтым не жартуюць. Ды і звышсур'ёзны Ман адразу раскусіў бы. А Ман вельмі сур'ёзна паставіўся да лёсу Кавалёва. Аднак адчуванне нейкай неасэнсаванай трывогі засталося. Ад пачуцця гэтага — як прыступ хранічнай хваробы, зноў абудзілася падазронасць: нікому з іх тут нельга верыць. Але ад каго тады атрымоўваць інфармацыю? Наколькі прасцей было да вайны: інфармацыю можна было атрымаць тую, якая патрэбна менавіта яму, менавіта сёння, ды і назаўтра заўсёды рабіўся задзел. А тут такога задзелу не зробіш.

У хвіліны трывогі, няпэўнасці, згрызот сумлення яму заўсёды хацелася напіцца. Але чортава цётка праявіла невялікую

шчодрасць, сапраўды толькі нацадзіла, чаму «святы» Ман-Манюк яўна радаваўся. І гэта таксама раздражняла. Зноў Золатаў думаў пра тое, што па сваёй прыналежнасці да работнікаў асобага назначэння ён павінен быць тут поўным уладаром, адзіным камандзірам. Дык не ж, не даюць. Не разумеюць. Дэмакратыю разводзяць, наўгародскае веча.

Ігар спаў ужо. Золатаву не спалася; не памагла і самагонка. Сорак вёрст непрывычнай язды ў сядле, купанне ў рацэ адзываліся такім болем у паясніцы, у нагах, у плячах, што ён не знаходзіў сабе месца, не ведаў, як легчы на цвёрдым сенніку. Раздражнялі кашаль Брагінскага, шастанне па зямлянцы мышы, іх старой знаёмай, якая пасля кожнай вячэры падбірала на падлозе крошкі. Але найбольш усё ж раздражняў Ман сваёй разьбой — дня яму мала, быццам дзяцей карміць з гэтых лыжак. Заснуць перашкаджаў яшчэ і страх, што захварэў, бо таксама кашляў, каротка, суха,— як падражняў капітана. Цела гарэла і свярбела.

Усё жыццё ён жыў з гэтым страхам — захварэць. На вачах у яго, малога, памерлі ў іх шматдзетнай сям'і дзве яго сястрычкі. Ён радаваўся, што тут, у атрадзе, можа, упершыню за жыццё, страх захварэць пакінуў яго. Якая дробязь — захварэць у той час, калі жывеш пад пагрозай смерці без хваробы. Праўда, да сённяшняга дня смерць ні разу не пралятала так блізка, і ён не думаў пра яе. Але так паводзілі сябе амаль усе партызаны — не баяліся смерці і баяліся радыкуліту. Баяўся Брагінскі, але яму ёсць чаго баяцца, яго хвароба смяртэльная. А чаму да яго вярнуўся гэты даўні брыдкі страх? Чамусьці здавалася, што, як толькі ён зляжа, тут жа яго перайграюць, абскачуць. У чым — ён не здолеў бы адказаць. Хто — ведаў пэўна: во гэты рэзчык лыжак, сённяшні яго выратавальнік і заўтрашні...

Золатаў уздрыгнуў, калі дзверы зямлянкі раптоўна адчыніліся і там угары, на паверхні зямлі, нехта кашлянуў зусім інакш, чым кашляў Брагінскі і кашляў ён,— там здаровы кашаль, тытунёвы.

— Можна, Аляксей Іванавіч?

— Давай, давай, Андрэевіч. Толькі не вельмі гудзі, тут некаторыя ўжо спяць.

У зямлянку ўпоўз, шорхаючы брызентавым плашчом, камандзір падрыўнікоў Каралёў. Чалавек гэты як бы ўвасабляў вобраз партызана — такога, якім уяўляў іх Золатаў у Маскве,— дзед згорблены, зарослы. А тут такіх убачыў нямнога, лічы, двух: вось гэтага Каралёва ды Дзядзюлю. Не, Дзядзюля, што загрымаваны артыст: занадта дагледжаная барада, спецыяльна

адрошчаная. Сапраўдная партызанская барада ў Каралёва. Вунь на ёй нават кроплі вады блішчаць. Адкуль? Не чуваць жа дажджу. Напіўся вады?

— Я на агеньчык, Іванавіч. Вярнулася маё войска.

— Без страт?

— Без страт.

— З удачай?

— Без удачы,— уздыхнуў Каралёў.— Дрэнныя нашы справы, Іванавіч. З мінамі. Зноў дала асечку.

— Не ўзарвалася?

— А добры эшалон прагрукаў з танкамі.

— Шкада?

— Табе — шкада. Ты не знаеш, колькі я пашкроб патыліцу. А хлопцы мала не плакалі. А можа, лічы, што і з удачай. Са злосці пеканулі па будцы, дзе іх варта. Колькі ссеклі — не знаю, але аднаго разяваку прыхапілі з сабой.

— Паліцая?

— Немца,

Золатава што выбухам падкінула на канапе. Уміг падхапіўся, адкінуўшы кажух, якім накрываўся, хоць у зямлянцы было душна.

— Вы прывялі немца? Палоннага? Давайце яго сюды!

Золатаў забыўся на ўсе свае болі. Хутка нацягнуў на голыя ногі пакарабачаныя ад сушкі боты.

— Навум? Спіш? Пад'ём! Работа табе! Баявая. А камісару нашаму — хоць з пушкі палі.

— Не бойцеся. Ваш голас мяне заўсёды будзіць,— пазяхаючы, адгукнуўся Ігар.— Ён у вас — як у старшыны майго. Той шэптам казаў: «Пад'ём!» — і ўся казарма прачыналася. Так і вы.

«Сапляк! — абурыўся Золатаў.— Голас ты мой чуеш, бо шпіёніш за мной. Толькі тонкая ў цябе кішка».

— А з якой прычыны пад'ём? — хрыплага ціхага голасу Каралёва Ігар не чуў.

— Андрэевіч палоннага прывёў.

— Ух ты! — Ігар падскочыў з большым спрытам, чым Золатаў. Цяжка падніmaўся Брагінскі: спірт сцішыў яго болі, і ён баяўся патрывожыць іх.

— Вядзі свой трафей, Андрэевіч.

Ман згроб нарыхтоўкі, лыжкі, разцы ў кош, схаваў пад канапу. Нават замёў венікам стружкі ў кут, дзе ляжалі дровы — далей ад буржуйкі. Падперазаў папругу з партупеяй, з пісталетам на баку. Сам пасля пасміхаўся: навошта такі парад? Але першы прывёў

сябе ў вайсковую форму Золатаў, яму, мабыць, падражалі ўсе іншыя. Менш — самы вайсковы сярод іх Брагінскі: не абуўся нават, накрыў ногі шынялём і гімнасцёрку не падперазаў.

Палонны быў варты жалю: нізкарослы худы юнак, толькі рыжыя вусікі адрасціў, але яны брыдка вымаклі ад саплей; шморгаў носам, выціраў рукавом і размазваў соплі па ўсім твары. Глядзеў сабачымі вачыма, просячы літасці, шукаў позіркам старэйшага і, безумоўна, спыніўся на Золатаве, той быў у вайсковай форме і меў паважны выгляд. Ман і Брагінскі адразу па форме вызначылі, што салдат не нямецкі. А якога войска? Ёсць, кажуць, у Полацку фіны, у Мінску — венгры, а недзе на поўдні нават «браты славакі». Назбіраў Гітлер васалаў!

— Ду іст дойч? — у Брагінскага ёсць некаторы запас нямецкіх слоў, але сінтаксіс кульгаў і ў школе, і ў ваенным вучылішчы.

Салдат зразумеў і пакруціў галавой.

— Хто ж ты? Фін? Што ты круціш галавой, як удод? — без злосці, са смяшком спытаў Ігар.

— Мадзяр! — не спытаў, катэгарычна сцвердзіў Болатаў.

Салдат заківаў галавой.

— Мадзьяр, мадзьяр.

— Шпрэхен зі дойч? — спытаў Брагінскі.

Венгр нават гэтага пытання не разумеў, толькі пераключыў увагу з Золатава на Брагінскага.

— Ды ён жа па-нямецку — ні бэ,ні мэ,ні кукарэку,— засмяяўся Ігар, і салдат як узрадаваўся гэтаму смеху, пачаў лісліва ўсміхацца яму, паказваючы маладыя, па-дзявочаму прыгожыя зубы; гэтая чалавечая ўсмешка неяк пераўтварыла яго. Цяпер ён не здаваўся брыдкім: замёрзлы перапалоханы хлапчук. Але ў Золатава была свая ацэнка.

— Гаўно,— заключыў ён.— Нічога вы ад яго не вывудзіце,— і, страціўшы цікавасць, пачаў падкідваць у печку дровы.

Салдат пацягнуўся да цяпла, выставіў сінія адубелыя рукі насустрач полымю.

— Няцёпла ж іх надзяюць.

Мабыць, адчуўшы іх цяжкасць, палонны вырашыў памагчы:

— Славен.

— Славак? Ты — славак?

— Не, не ён, язык яго,— па-дзіцячаму смешна высалапіў свой ярка-чырвоны язык.

— Ах, ты гаворыш па-славацку?

Такому адкрыццю ўзрадаваліся. Гэта ўжо нешта. Кіпень гаворыць па-польску, Брагінскі — па-ўкраінску. Плюс руская і беларуская мовы — ледзьве не поўны славянскі набор.

Але і славацкі ведаў ён, відаць, на ўзроўні дыялекту суседняй задунайскай вёскі.

Камандзіры ўзмакрэлі, будуючы неверагодныя словазлучэнні з пяці моў, якімі калектыўна валодалі ў той ці іншай меры. Аднак выпыталі нямнога. Прозвішча, нумар часці, званні, прозвішчы камандзіраў; род войска так і не ўстанавілі, маглі толькі здагадацца, што нейкая ахоўная часць. Звесткі пра ўмацаванні на чыгунцы, пра колькасць кулямётаў, пра мінныя палі — кожны зразумеў па-свойму, між сабой да згоды не прыйшлі.

Салдат адагрэўся і павесялеў. Адказваў ахвотна, мнагаслоўна, але, жадаючы памагчы, таксама ўжываў такую моўную мешаніну, такую тарабаршчыну, што ніводзін венгерскі ці славацкі прафесар мовы не дайшоў бы да сэнсу. Ігар разумеў гэта і смяяўся. Смех зняў у палоннага страх, і ён хапаў камісара за рукі і рысаваў штосьці на яго далонях.

— Паваражыць хоча, ці што?

— А ў іх там цыганскія звычкі.

— Ды не, то — у румын.

Змарыліся.

Аляксей Іванавіч махнуў рукой.

— Вядзі ты яго, Андрэевіч.

Зморанага Каралёва лінгвістычнымі практыкаваннямі ўвагналі ў сон, ён моцна спаў, седзячы на падлозе. Ледзьве расштурхалі.

— Куды яго?

Сапраўды — куды?

Ман задумаўся.

— Няхай у нашай зямлянцы паспіць,— проста сказаў Каралёў.— Косцік павартуе, мы яго не бралі з сабой, выспаўся.

Золатаў зняважліва пасміхаўся і, працягнуўшы руку, сарваў з цвіка ватнік. Апрануў і тут жа, падняўшы крысо, дастаў з кабуры пісталет, сунуў яго ў кішэню фуфайкі.

— У акоп яго! Дайце ліхтар.

Ад нечаканасці ўсе аслупянелі. Першы сарваўся з месца Ігар — загарадзіў палоннага ад маёра.

— Вы што! Не! Не! Не маеце права!

— А што ты думаеш рабіць з ім? Цалавацца? Сапляк! — ніколі яшчэ Золатаў не гаварыў з камісарам так груба, хоць заўсёды даваў зразумець розніцу ва ўзросце і званнях.

— Расстраляць — не дам! — глуха прагудзеў Каралёў.— Не знаю, што рабіць, але не дам. Застрэліць яго трэба было, калі ён з аўтаматам быў. Дарэмна ўзялі...

— Вядзі, Андрэевіч,— зморана сказаў Ман і, устрапянуўшыся, строга: — Але глядзі... Будзеш мець справу з ім,— кіўнуў на Золатава.

— Вучоны,— буркнуў падрыўнік, узяўшы палоннага за каўнер і павярнуўшы да дзвярэй.— Ідзі, ваяка...

Калі яны выйшлі, Золатаў даў волю сваім пачуццям. Ніколі так не зрываўся, ніколі не быў у такім гневе. Выхапіў пісталет. Стрэліў у сцяну. Спалоханы Брагінскі адняў у яго пісталет, кінуў на тапчан. Хацеў па-добраму абняць.

— Якаў Міхайлавіч, Якаў Міхайлавіч...

Але Золатаў так піхнуў свайго хворага любімца, што той ледзьве не зваліўся на печку, мог бы апякчыся. Такіх слоў ад яго не чулі — самыя прасоленыя мацюкі.

— Гаўнюкі вы, а не партызаны! Бабы! Саплякі! Вам не ваяваць, а курэй мацаць! У бірулькі гуляць! Вам запішуць вашы подзвігі!

Малады гарачы Кіпень абурыўся.

— А што вам не падабаецца? І хто вы такі? Прыблуда!

— Я — прыблуда? Я? Шчанюк саплівы! Нос вытры!

Ман па-камандзірску злосна крыкнуў невядома каму:

— Спыніце, чорт вазьмі! Разышліся! — і да Ігара — памяркоўна, з грубым жартам: — Хадзем адальем. Мача ад галавы адхлыне. І каравулы праверым.

Але і на дварэ Ігар не адразу супакоіўся.

— Мяснік! Сволач!

Ман ціха сказаў:

— Ён хворы чалавек, Ігарок. Бойся яго.

На другі дзень Золатаў пра палоннага ні слова, быццам ягоны лёс начальніка асобага аддзела не датычыўся. Паводзіў сябе так, як бы і не было начной сутычкі.

А венгр уцёк. Праз два дні. Не ад Каралёва, на шчасце. Ад Баслычыхі. Далі ёй палоннага памагчы на кухні, а яна яго, разява, паслала па дровы за стайню і спахапілася, можа, праз паўгадзіны.

Ман падазраваў, што здарылася гэта невыпадкова, і разгневаўся, учыніў жанчыне разнос, прабіраў па-партызанску, не саромеючыся самых салёных слоў. Матрона плакала, кляла венгра: ягня, а спрыту хапіла.

А Золатаў слухаў, маўчаў — ні слова, і пераможна пасміхаўся.

З Матронай ён пагаварыў пасля, дні праз тры.

Камандзір не сумняваўся, што пра эпізод гэты ён радзіруе ў Маскву, і напэўна не ў партызанскі штаб. А ў тым другім штабе нічога не забываюць.

## 5

«Варыянт чатыры» — выхад у лес абаім, разам, з Цнянкі, ад Аксанінага дзядзькі. Быў яшчэ варыянт з сумесным выхадам з Бараўлян, ад Стасевага швагра, гэта ў тым выпадку, калі яна першая пачуе бяду і падасць сігнал, што ніводнаму з іх заставацца ў горадзе нельга. Не, гэта ўжо, бадай, «варыянт пяты», апошні, калі трэба было выходзіць паасобку — як хто здолее. За без малога паўтара года жыцця ў акупацыі, не існавання — барацьбы, яны шмат чаму навучыліся, ведалі ворага, сваіх сяброў, памочнікаў і акрамя агульных правілаў канспірацыі, выпрацавалі свае, на якія спадзяваліся, бадай, больш. Праўда, ідэю сігналаў адзін аднаму — па якім варыянце дзейнічаць — даў Піліп Станулін. Але нават яму яны не адкрылі ўсе свае варыянты. Выхад праз Цнянку Піліп ведаў, праз Бараўляны — не. Дзядзьку ні ў якія іншыя дзеянні не ўцягвалі, добра мець чалавека, на якога не падае і цень падазрэння. Але ў тайну сваю Аксана яго пасвяціла. Горш было з цёткай — хваравіта баязлівая яна была. Да Аксаніных паходаў адносілася насцярожана. Аднак медыкаменты партызаны забіралі ад іх, ад дзядзькі і цёткі.

Аксана ішла ў лес толькі з асобымі данясеннямі ці з людзьмі, якіх тэрмінова патрабавалася пераправіць, але з людзьмі яна да дзядзькі не заходзіла.

Швагру свайму Шабовіч, зрэдку наведваючыся, і знаку не даў, хто ён і чым займаецца, акрамя сваёй фельчарскай работы, толькі Аксану звазіў, пазнаёміў з яго сям'ёй. Але і Стась і Аксана верылі, што ў небяспечную хвіліну гэты з выгляду пануры мнагадзетны чалавек не падвядзе, выручыць з любой бяды. А вера яму ад улад асобая — дарожны майстра. Піліп, між іншым, пачуўшы пра такога швагра, загарэўся жаданнем зрабіць яго разведчыкам: чалавек, які з дня ў дзень на дарозе, нямала бачыць і мае магчымасць прасачыць, падлічыць, хто куды едзе, што павезлі з горада і ў горад. Але Стась катэгарычна адмовіўся ўцягваць бацьку чацвярых дзяцей у небяспечную гульню.

«Варыянт», прынесены Чурсіхай, незвычайнай пасыльной — Аксана ведала яе, вадзіў Стась знаёміцца з «сябрамі»,— не спалохаў, бадай, узрадаваў: жывы Стась, здаровы. Яна зранку

пачула пра начную аблаву, колькі чалавек урачоў і сясцёр не з'явіліся на работу, і ўсю раніцу жыла ў трывозе і напружанасці, невядомасць для яе — самае пакутлівае. Яна любіла яснасць і пэўнасць.

Увогуле Аксана чалавек супярэчлівы. На здзіўленне ўсім, нават бацькам, спакойная, да адчайнасці смелая, з маленства завадатаркай была, але плаксівая. Не ад болю плакала — ад чуллівасці. У маленстве плакала над замерзлай птушкай, над прыдушаным кацянём, рыдала на пахаваннях чужых людзей, магла заплакаць над пакутамі хворага, што доўга перашкаджала ёй стаць хірургічнай сястрой, хоць аперацыйная была яе марай з медтэхнікума. Стась неаднойчы кпіў з яе плаксівасці.

Варыянт радаваў яшчэ і таму, што выйдуць яны са Стасем, не адна, а пасля іх збліжэння, іх жаніцьбы яна неаднойчы ўпотай марыла знайсці бяспечны для ўсіх выпадак перабрацца ў лес, у партызаны.

Цяжкімі былі зборы. Пераважала жаночае: хацелася як можна больш забраць нажытага дабра — бялізны сваёй, кофтачак, спадніц. Але як забраць? Трэба разумная мера; выменьваць ідуць з немалымі мяшкамі, і варта на дарогах да гэтага прывыкла, а на выхадзе з горада па Даўгінаўскім тракце яе ведаюць усе паліцаі. Аднак акрамя адзення нельга не ўзяць лякарства, бінты, якія прыпасла; не з голымі ж рукамі прыйсці ў атрад. Мера, нарэшце, трэба не толькі для аховы, але і для гаспадыні — каб не здагадалася, што кватарантка ўцякае. Гаспадыня — чалавек надзейны, але, калі яе прыціснуць нават у паліцыі, яна, узлаваная, што кватарантка знікла так падманна, можа нагаварыць лішняе — здагадкі свае выкажа пра людзей, якія наведваліся да яе, Аксаны. А многія з гэтых людзей застаюцца ў горадзе, ды некаторыя і да спраў іх падпольных не маюць ніякага дачынення — невінаватыя, а могуць пацярпець.

Бінты, у іх — шпрыцы, таблеткі і лепшае адзенне Аксана накруціла на сваю тонкую талію, ад чаго прыметна папаўнела, а таму мусіла апрануць не цеснаватае паліто, а летні прасторны плашч, урэшце, цяпер гэта нікога не здзіўляе — людзі адзетыя хто ў што, асабліва ў гэты пераходны асенні час,— і ў плашчах і ў кажухах.

Ад таго, што яна мусіць пакрыўдзіць старую добрую жанчыну, Аксана нават паплакала трохі. Чакала, калі гаспадыня адлучыцца некуды, яна не была дамаседкай — збірала навіны, як пчала нектар. Заглянула да яе. І пераканалася, што непаседлівая Ядвіга

Паўлаўна нікуды не збіраецца — у яе забалела паясніца, папрасіла Аксану нацерці яе настойкай наготак.

А час ляцеў, кароткі шэры дзень схіляўся на вечар. А трэба ж не толькі выйсці з горада, пакуль відна, але і дайсці да Цнянкі, зрэдку па дарозе ідуць нямецкія машыны, у цемры могуць спыніць адзінокую жанчыну і, калі хочаш, пацікавіцца і мяшком, як і ёй.

Не ведаючы, як выйсці з дому, Аксана расплакалася перад гаспадыняй зусім шчыра. Напалохала старую.

— Што з табой, Аксаначка, дзіцятка маё? З работы прагналі?

— Не.

— Стась? Арыштавалі?

— Не. За што яго арыштуюць? — калі дала волю слязам, не мела ніякай версіі для апраўдання іх, а тут раптам версія з'явілася, самая праўдападобная: — Дзядзька на міне падарваўся.

І як усё стала проста — і збірацца, надзяваць тры кофтачкі і... развітвацца.

Горад Аксане не спадабаўся: многа паліцыі і немцаў на вуліцах, больш, чым раніцою, і ўсе падазрона аглядваюць кожнага прахожага. Яе спынялі двойчы, правяралі аўсвайс. Але мяшка не трэслі, у горадзе і раней гэта рабілі рэдка, часцей — не тады, калі людзі ішлі на мену, а калі вярталіся з вёсак — тады лезлі ў мяшкі, забіралі «калым», самагонку і сала забіралі падчыстую. Тых, хто выходзіў з горада, абшуквалі на кантрольных пастах.

На пасту яе добра ведалі, там каравулы былі пастаянныя, начальнікаў яна купіла за гасцінцы — за самагонку, спірт; Дзядзюля ніколі не адсылаў яе назад з пустымі рукамі, заўсёды несла торбы поўныя, нярэдка пад прадуктамі — міны для групы Станулiна.

Дарога гэта была «нямецкая», паўночныя раёны лічыліся беднымі, асноўны паток мяшочнікаў цягнуўся на багатую Случчыну. Аднойчы начальнік паста ўчыніў ёй допыт: «Чаму ходзіш сюды?»

«Пан начальнік, родныя мясціны, знаёмыя людзі. А свае сваёй больш давяраюць, больш спагадаюць. Ды і не думайце, што тут бядней жывуць. На Случчыне шляхта, яна любіць сваё дабро выстаўляць, а тутэйшыя людзі маюць завядзёнку прыбядняцца».

«Хітрая ты»,

«Жыццё ўсяму навучыць».

Жыццё навучае. Але жыццё можа і правучыць. У такім становішчы любы недарэчны выпадак можа паламаць самыя выверaныя планы. Пра гэта Аксана не забывалася і не столькі спадзявалася на

сваё ўменне, вопыт, колькі на ўдачу,— «ненадзейную сяброўку сваю», так казала Стасю. «Я малюся ёй, удачы, як багамацеры». Пры сваёй адчайнасці яна мела і прымхлівасць — верыла ў прыкметы. Загадала: будзе на пасту знаёмы тоўсты немец — усё абыдзецца добра.

Спынілі яе незнаёмыя паліцаі, злосныя, прыдзірлівыя, гатовыя вытрасці мяшок. Бадай,ні разу яшчэ яка не палохалася гэтак, бо разумела, што яе правал пагражае Стасю. Не пойдзе ён сам у атрад, вернецца назад у горад, каб знайсці яе сляды. А калі ён пайшоў на гэты, апошні, па сутнасці, варыянт, значыцца, пагроза над ім павісла незвычайная. Пашкадавала, што захапіла бінты і лекі. Увогуле гэта самыя ходкія рэчы для абмену — лекі, але за вынас іх караюць. А яе нечаканае знікненне з бальніцы, безумоўна, звяжацца са знікненнем Шабовіча. Калі яго шукаюць, ёй не адгаварыцца ні хворай цёткай, якой яна і раней амаль адкрыта (на пасту паказвала, чым і заваявала давер'е) насіла лекі, ні менай. Але тут — во ўдача! — з буданчыка выйшаў тоўсты немец. Ледзьве не радасна павітаўся:

«Гутан таг, фрэйлін... фрау...»

Пажмурыўся, што сонны кот, і жартаўліва, робячы выгляд, што абыходзіць цэлую гару, абышоў вакол яе, засмяяўся і паляпаў далоняў па яе мяккім жываце.

«Гут!» — і паказаў свой жывот: маўляў, даганяеш.

Аксана спачатку пахаладзела: во ўліпла, усяго ж месяц назад ішла тут што трэсачка, не паўнеюць гэтак за такі кароткі час. А немец ледзьве не сілком сцягнуў з яе плячэй мяшок — Аксана аблілася халодным потам — паважыў яго, вярнуў ёй і сказаў з папрокам:

«Найн гут».

Хоць немец быў немалады, але слабаназіральны — не вельмі помніў, за які час прыкметна паўнеюць цяжарныя, ці, можа, страціў адчуванне часу і здалося яму, што бачыў ён гэтую жанчыну, якую тады лічыў фройлен, не адзін, а тры месяцы назад.

Немец мякка і добра, бадай жа з бацькоўскай клапатлівасцю пачаў гаварыць, што не трэба ёй з такім цяжкім мяшком хадзіць у дальнюю дарогу, ды яшчэ па такой пагодзе; паказаў на яе гумавыя боты — халодныя. Нязвыклыя словы, але Аксана разумела іх і адчувала ўдзячнасць гэтаму чалавеку, хоць тут жа папракала сябе, што раскісла ад чалавечай спагадлівасці — знайшла каму дзякаваць! А малады паліцай, зараза, перакладаў зусім іншае — строгае ўшчуванне: што сёння ён мае ўсе падставы арыштаваць

яе, але адпускае з умовай, што вяртацца яна будзе паслязаўтра, калі яго дзяжурства, і не з пустымі рукамі — з самагонкай.

Паліцаю хацелася паказаць кукіш: во табе, жывадзёр! Але яна пачціва ківала немцу:

— Добра, паночак, добра. Як жывуць панавы дочкі?

Пра дачок сваіх ён расказваў яшчэ ўлетку, калі, вяртаючыся ад цёткі, яны са Стасем частавалі ўвесь пост самагонкай і чарніцамі. Паліцай пераклаў, выходзіць, усё ж ведае мову, не гарадзіў адсябяціну. Немец не адказаў, але праслязіўся: штось нядобра ў яго там. І Аксана ў знак маўклівага спачування таксама ўраніла слязу і... пацалавала яго ў калючую шчаку. Бацька чатырох дачок зусім расчуліўся. Малады паліцай пажартаваў:

— Ты мяне пацалуй, то ўбачыш, як зенітка зрыхтуецца да бою.

Немец цыкнуў на яго.

Аксана радавалася ўдачы, але немец не адпускаў яе: захацелася яму праявіць клопат, пасадзіць яе на машыну спадарожную. А калі яна можа тут прайсці, тая машына? Дарога, лічы, тупіковая, толькі да Паперні гравійная, праўда, недалёка ад Цнянкі стаіць нямецкая часць, але садзіцца на машыну з салдатамі ніякага жадання не было.

Нямецкая дабрыня — горш за бяду, калі хочацца немцу зрабіць ласку — адгаварыцца немагчыма. Аксану ажно ліхаманіць пачало ад нецярпення. Можа, Стась даўно ўжо там, а яна будзе сядзець са старым немцам і маладымі паліцаямі, усміхацца ім, мянташыць языком. О, жах! Памагла яе плаксівасць. Шчыра расплакалася. Збянтэжыла нават паліцаяў. Што такое? Цётка ў яе захварэла, родная цётка, якая вырасціла яе. Не можа яна чакаць, да вёскі ж якая гадзіна хады. Яна на крыллях паляціць туды. Кранула немца такая добрая пляменніца. Яму б такую! Да яго яўна нехта з блізкіх праявіў няўдзячнасць, зрабіў прыкрасць.

Адчапілася-такі ад дабрака. І далей не ішла, а сапраўды ляцела, потам абліваласяпад цяжарам мяшка.

Удача з немцам. І... не тое што няўдача, а бог ведае што з цёткай, з роднай цёткай, якую любіла, якая любіла яе. А тут як звіхнулася жанчына. Было ад чаго — бачыла, як расстрэльвалі яўрэяў, дзяцей, жанчын. Год таму назад бачыла гэтую жудасць і з таго часу ніяк не магла пазбавіцца страху, больш таго, страх разрастаўся.

Дзядзька Ігнат скардзіўся Аксане: начамі не спіць Алена, кожнага шораху баіцца, а калі страляць пачынаюць — немаведама што робіцца з ёй, разоў колькі ў пограб лезла.

Да прыходаў пляменніцы цётка даўно ставілася насцярожана — здагадвалася, чаму тая ўпотай адыходзіць не ў той бок — не на Мінск. Але таму, што Аксана падвяргае сябе смяртэльнай небяспецы, любіла яе яшчэ больш, гадзінамі стаяла над соннай, малілася за яе на каленях перад абразамі, захлыналася ад слёз, калі пляменніца вось так адыходзіла. Развагі хапала, што да падола свайго пляменніцу не прывяжаш, але страх пераважаў над усімі іншымі пачуццямі.

А тут усё іншае заглушыў дзікі страх.

Як толькі Аксана пераступіла парог, цётка адхіснулася ад яе, як ад здані, ад прывіда, глядзела агністымі ад бяссоння вачамі і шаптала так, быццам у хаце быў нехта чужы:

— Прыйшла? Прыйшла! І смерць прывяла? Смерць прывяла! Глянь, яна стаіць за табой! Згінь, згінь!

Аксана ад нечаканасці ажно азірнулася. Але за ёй стаяў дзядзька Ігнат. Цыкнуў на жонку:

— Сціхні, Алёна. Сорам! Які сорам! Лічы, дачка прыйшла ў госці, а ты нясеш — бог ведае што.

Моцна ўразіла Аксану такая сустрэча. І спалохала. Сюды яе прыйдзе Стась. Што цётка можа сказаць яму? Яўна гэта хвароба. Ці валодае яна хоць сваімі пачуццямі? Не дай божа выскачыць на вуліцу і закрычыць.

— Цётачка, што гэта вы! Я ж лякарствы прынесла вам.

— Смерць ты прынесла. Смерць!

— Сціхні, дурная! — узлавана крыкнуў Ігнат.

Утаймавалася Алена неяк адразу. Але страх, як агонь, які тушаць, вырваўся ў новай праяве. Абняла госцю, цалавала яе рукі і рыдала, галасіла, як па нябожчыцы — ажно жудасна зрабілася.

— Аксаначка, дзіцятка маё роднае, што гэта ты робіш? Няхай яны заб'юць мяне, няхай я не дачакаюся з фронту Паўліка свайго. Але ж табе жыць трэба! Што я мамачцы тваёй скажу? Не ўсцерагла. Не ўсцерагла. А як жа цябе ўсцерагчы, калі ты звярам у пашчу лезеш? Не адпушчу я цябе ні туды,— кіўнула ў адзін бок, панізіўшы голас да шэпту, пасля ў другі — ні туды.

— Добра, цётачка, добра,— бачыла, што аспрэчваць няма сэнсу, чалавек у стане бессвядомасці ці, ва ўсялякім разе, хваравітай свядомасці.

Ігнат зняў з Аксаніных плячэй мяшок і непрыкметна вынес з хаты, схаваў у надзейным месцы, бо здагадваўся, што не лекі для цёткі, не падарункі ім — гасцінцы для партызан. Невядома, што можа прыйсці ў галаву хвораму чалавеку, пачне трэсці гэты

мяшок ці захоча спаліць, выкінуць у рэчку, а яна недалёка — за гародамі, выкінула ж нядаўна ў рэчку яго паляўнічую стрэльбу, якую ён хаваў у хляве, уначы выкінула, цішком, не падумаўшы. Улетку стане ў Цне вады па калена, і вылезе стрэльба на вочы невядома каму, вось тады і пачнуць высвятляць — чыя? Але што ты дакажаш хвораму чалавеку? Так і не сказала, у якім месцы выкінула, каб пашукаць, калі спадзе вада.

Але на мяшок Аксаны спачатку не звярнула ўвагі. Баязлівым шэптам, але зусім свядома расказвала пра прычыну свайго страху.

— Аксаначка, што яны робяць, ірады? Што робяць! Дзяцей расстралялі перад праўленнем. Пазаўчора. Васілька, хрэснічка майго, і Косцю. Вінтоўкі ў іх знайшлі. І гранаты. Навошта ім тыя гранаты? Дзеці ж горкія, па чатырнаццаць гадкоў. Кажуць, яны сабралі гэтае аружжа яшчэ летась. Чаму не здалі? Чаму не здалі? А ты ўсё носіш, усё носіш. Не пушчу. Нікуды не пушчу! Дзе твой мяшок? Дзе? Схавалі? Знюхаліся? Аксаначка! На каго ты спадзяешся? На ветрагона гэтага, Ігната? Ды ён жа, можа, і вінаваты ў смерці дзяцей. Па вачах яго зладзейскіх бачу, што знаў пра аружжа тое, на рыбалку ж хадзіў з Васільком і Косцікам. Дзетачкі мае родненькія! Анёлы вы нябесныя! Маліся, Аксанка, маліся за душы іх нявінныя.

У цяжкай незвычайнай сітуацыі апынулася Аксана. Слухала цётку, углыблялася ў яе страх, разумела яго, а думала пра Стася.

Сканаў кароткі асенні дзень. Наступала ноч, чорная і глухая, як вугальная шахта. А Стася няма. Спадзявалася, што ён ужо чакае яе. Калі і як ён выйдзе з Мінска? Ці знойдзе ён у такой цемры хату? Быў жа тут толькі двойчы, улетку, калі пад акном шумелі клёны. Ён звярнуў яе ўвагу, што лёгка знойдзе хату ўначы — па клёнах. У яго надзвычайная здольнасць — на ўсялякі выпадак усё запамінаць: людзей, дарогі, сцежкі, дрэвы. Але цяпер клёны голыя і падобныя на ўсе іншыя дрэвы, у такой цемры наўрад ці можна іх пазнаць. Забрыдзе ў чужую хату. Добра, калі да сумленнага чалавека. А калі да паліцая! Трэба папільнаваць на двары, яна пачуе і пазнае яго крокі і не дасць яму блукаць па вуліцы ці па гародах. Але цётка не адпускала яе ад сябе. Выйшла нібыта па патрэбе — цётка следам, у сенцах стаяла, слухала. То шыпела, што Аксана смерць прывяла, адхрышчвалася, як ад прывіду, то не адступала ні на крок, быццам толькі пляменніца магла засцерагчы яе ад смерці.

Сказала ўпотай дзядзьку, што павінен прыйсці Стась, што ў горадзе яны заставацца не могуць, пойдуць у лес. Зразумеў Ігнат усю

незвычайнасць становішча, трывогу Аксаніну, згадзіўся падкараўуліць, сустрэць чалавека, які будзе чаўкаць па гразі — на вуліцы ці на гародзе.

Сказаў, што хоча схадзіць да суседа. Куды там — слухаць Алена не хацела.

— Нікуды не пойдзеш, сядзі дома!

Аксана пагразіла, што раз цётка так баіцца яе, то не застанецца яна ў іх хаце, лепей у суседзяў пераначуе. Пасля не рада была, што сказала так, бо заліла яе цётка слязамі, абсыпала папрокамі. Каб у дзядзькі больш мужчынскасці было, каб ён умеў па-гаспадарску цыкнуць. Дык і дзядзька разгубіўся, хоць разумеў Аксану, яе трывогу за мужа. Тады Аксана пусціла ў ход тую ж зброю, што і цётка,— слёзы, разрыдалася, ажно захлынулася.

І Алена змяніла гнеў, злосць на мацярынскую ласку.

— Што з табой, Аксаначка? Па кім ты плачаш так?

— Стась...

— Што Стась? Што з ім?

— Стася шукаюць. Ён можа прыйсці сюды. А як ён знойдзе хату? Колькі разоў ён тут быў... улетку...

І зноў паварот, зноў слёзы і праклёны.

— Гэта ён... ён уцягнуў цябе. Ён вядзе цябе на шыбеніцу. Знайшла мужа! Бандыт, галаварэз, антыхрыст! Каб нагі яго не было ў маёй хаце, у маім двары! Згінь, нячыстая сіла!

Абразілася Аксана за мужа свайго. Хворая-хворая цётка, але нельга патураць ёй, помніла лекцыі па псіхіятрыі, што ўтаймаваць такога чалавека можна часам жорсткасцю.

— Ну, калі ён бандыт, то і я бандытка. Ён антыхрыст, дык і я такая ж. Мы неразлучныя, цётка Алёна. І ніхто нас не разлучыць, сам бог, калі ён ёсць. Яго нагі не будзе ў вашай хаце — і маёй не будзе.

Дзіўна: новы прыліў любові да пляменніцы не выплеснуў. Села Алена на ўслон пад абразамі і — як анямела, здранцвела.

Аксана надзела свой плашч і адно толькі пачула ўслед.

— Дзіцятка пашкадуй, бязбожніца,— убачыла цётка яе паўнату, паверыла ў яе цяжарнасць, абнімаючы, не намацала тугіх бінтоў.

Паклікала Аксана дзядзьку, каб паказаў, дзе мяшок схаваў. Блізка — у стажку сена.

— Ашалела баба. Ашалела. Гэта хвароба, Аксаначка, хвароба, даруй ты ёй. Пасля расстрэлу хлопцаў памуціўся яе розум. А чаго ёй баяцца, скажы, калі ласка? Мільёны маладзейшых паміраюць

на фронце, пад бамбёжкамі, ад голаду. Вунь немцы пішуць, што абкружаны імі Ленінград дажывае свае дні, бо людзі ўсе памерлі, войска адно трымаецца, бо воінаў неяк кармілі, з самалётаў харч кідалі. А што ёй? Ну, памрэш ты, то памры, як людзі. Куды ты пойдзеш?

— Пайду ў канец вёскі. Стась будзе ісці з горада.

— Не хадзі. Стань вунь за адрынай у завулку. Там ты будзеш чуць і вуліцу і горад. Бачыш, падмарожвае. Пасвятлела ад зорак. Але да кожнага сустрэчнага не кідайся, а то нарвешся на гада.

— Я крокі яго пазнаю.

— Так здаецца табе. Кажух вынесці?

— Не трэба.

— Лёгка ты апранута.

— На мне тры кофтачкі.

— Пайду, можа, угаманю Алену. Бываюць у яе прасвятленні... Яна ж любіць цябе. Ад любові гэта, Аксанка.

— Я знаю. Але Стась у хату не пойдзе. Што ён падумае, калі яна...

— Растлумач яму.

— Начаваць мы ўсё роўна не будзем. Толькі б сустрэцца нам. Супакойце яе, скажыце, што мы пайшлі.

— Думаеш, ад гэтага ёй будзе лягчэй? Калі чалавек хворы... Але, можа, супакою, валяр'янкай напаю. Каб яна магла заснуць, трэція суткі вачэй не звяла. Я буду выходзіць, кашляць. Ты не бойся.

— Я не баюся. Я аднаго баюся...

— Не бойся, прыйдзе. Стась такі хлопец, што ўсіх іх абвядзе вакол пальца. Тут у гарожы лаз ёсць у завулак. Калі што — у лаз і... у прыбіральню. У хлеў не лезь; козы там, крык узнімуць. Дурная скаціна. Гэта табе не карова.

Скрыпнулі дзверы ў сенцы. Слухала Алена іх шэпт.

— Ідзіце, дзядзька. Дзякую вам.

— Няхай бог беражэ вас. Не быў я набожным чалавекам. Але цяпер часам малюся разам з Алёнай. Будзе мне бяды з ёй. Вылечваецца гэта хоць, Аксаначка?

— Знайдзіце бабку.

— Ты верыш у бабак?

— Я веру ва ўсё тое, што можа памагчы чалавеку.

— Трымайся, дачка.

— За што трымацца?

— За жыццё трымайся. Цяпер толькі б выжыць.

— За жыццё я трымаюся.

— Салдацкі ў цябе лёс будзе.

— І быў. А які ж цяпер яшчэ можа быць, калі трэба бараніць дзяцей, якіх страляюць?

— Прымі маё блаславенне.

— Дзякую. Скажыце цётцы, што пайшла я без крыўды. Не, цяпер не кажыце, пасля.

Асцярожна скрыпнулі і наружныя дзверы.

Ігнат кашлянуў: тут я. Прашаптаў:

— А ты замры пакуль што.

Але ў хуткім часе выйшлі яны абодва, шукалі яе. Цётка прыглушана плакала. Дзядзька ўздыхаў.

— Няма яе. Пайшла наша Аксаначка. На ноч гледзячы. Во да чаго твая дурнота давяла. Во.

Не выдаў яе. Пасля з'явіўся сам.

— Бяда, ды і годзе. Месца не знаходзіць. Карае сябе. Можа, вернешся?

— Не.

— Я пакаравулю за цябе.

— Не. Я сама.

Так Аксана прастаяла паўночы на сваім незвычайным пасту. У ранні вечар праходзілі блізка ці далёка людзі. Шоргалі ботамі па мёрзлай корцы зямлі. І яна да болю ў вушах услухоўвалася ў крокі, каб пазнаць яго. А потым хутка пагаслі бледныя агеньчыкі ў вокнах — газнічкі і лучына на прыпечках. Падалі зоркі. Брахалі два ахрыплыя сабакі, адзін — недзе далёка, другі блізка, у суседнім двары. Падобна, што толькі два іх і засталося на ўсё сяло. Магчыма, першы чуў яе і трывожыўся, сабакі таксама жывуць пад страхам. А можа, блукае па гародах Стась, шукае хаты? Шорхае на сцежках, пратоптаных паўз хаты. А мяккая пасля выбранай бульбы зямля на гародах не вельмі яшчэ зацвярдзела. Ды і хадзіць ён будзе не так, як вяскоўцы,— амаль усе ўподбег, нават стары з кіем прайшоў даволі паспешліва, то гулка, то мякка стукаючы кіем.

Мароз прабіў яе плашч і кофтачкі. Цягнула вярнуцца ў двор і пагрэцца хаця б у стажку. Але разумела, што там засне і... праспіць Стася. Які жах — праспаць роднага чалавека, так маладыя маці прысыпаюць маленькіх дзяцей — прыдушваюць іх у сне.

Упала зорка, блізка, над Мінскам, і нагнала страх: ці не яго гэта зорка, ці не разам з жыццём яго сарвалася ў глыбіні неба?

Ходзіць жа легенда, што кожны чалавек мае сваю зорку, памірае чалавек — памірае зорка. Прымхліва адганяла страшныя думкі.

«Божа, я раблюся падобнай на цётку. У душы маёй пасяляецца страх. Што я буду рабіць, калі Стась не прыйдзе гэтую ноч? Колькі я магу чакаць яго? Дзе? Вярнуся ў Мінск і там буду шукаць яго след. Не, ён не можа загінуць. Не! Адступі, кастлявая! Адступі!»

Яна знала, як лёгка гінуць людзі — на фронце і тут, у акупацыі, у Мінску і ўсюды — у кожным горадзе, у вёсках, у лясах, дзе партызаны. Але яна заўсёды адганяла думкі, што можа загінуць Стась. Уласную смерць дапускала. Але яго!.. Чалавек, якога кахаеш, уяўляецца бессмяротным, вечным, як само жыццё, сама ўсёпераможная любоў.

Верыла Аксана, што Стась прыйдзе. І дачакалася. Пачула яго далёка, на той дарозе, што праз завулак вяла ў поле і далей — у лес. Ён ішоў асцярожна, не грукаючы ботамі, але спешліва — спяшаўся да яе. І яна пайшла яму насустрач. Убачыла, як постаць ступіла ўбок, пад дрэвы, што чарнелі на фоне зорнага неба, і злілася з дрэвамі, з зямлёй, растала ўначы. І спалохала думка, што гэта ёй здалося, ад доўгага ўслухоўвання ў начную цішыню і ўглядання ў беспрасветную ноч пачаліся галюцынацыі; здаралася такое пасля цяжкіх аперацый з лятальным зыходам: не спала і... бачыла чалавека, які памёр на яе вачах, жывога.

Не, яна яўна чула крокі. І былі то яго крокі.

Яна паклікала, спачатку ціха:

— Стась! — потым гучней: — Стась! Гэта я.

І ён азваўся.

— Аксана!

Падняўся з зямлі. Яна кінулася да яго. Цалавала халодныя шчокі, вусны і... плакала. Не магла стрымаць сябе — ад радасці залівалася слязамі.

— Што здарылася, Аксаначка?

— Я перакалацілася за цябе.

— Ды вырваўся я, лічы, з самай пашчы іх клыкастай. Вырваўся. Было дзела пад Палтавай. Я раскажу табе. Ты стаяла на двары? Чаму?

— У цёткі вывіх.

— Вывіх чаго?

— У галаве. Страх у яе. Тут дзяцей расстралялі. У хату не пойдзем, хоць развітацца з дзядзькам... ды і з цёткай... хочацца. Яна ж невінаватая, цётка,— гэта хвароба... ваенны сіндром псіхапатыі, так бы, напэўна, назваў наш Вайтовіч. О, колькі іх,

такіх сіндромаў! А якая галава вытрымае, Стасік? Чалавек жа не машына. Сын на фронце, а побач страляюць дзяцей. Чыя галава вытрымае? Як ты ішоў? Па полі?

— Не пытайся. У горадзе я пералез сто платоў. Тую ноч і гэтую. Гароды, гароды... і поле, поле... грузка. Як стаміўся, каб ты ведала.

— Я знаю, Стасік. Я знаю. Але я баюся яе хваробы. Чалавек не адказвае за свае ўчынкі. Мы пойдзем.

— А я і не збіраўся начаваць тут.

— Я вазьму мяшок. У мяне там мяшок. У двары.

Пакуль яна хадзіла па мяшок, ён заснуў, сеўшы пад старую грушу на другім баку дарогі. Ледзьве знайшла яго. Спалохалася страшэнна: куды знік чалавек? Пакуль не пачула цяжкае дыханне з падсвістам.

Не магла сказаць колькі, але доўга, вельмі доўга стаяла над ім, пільнуючы яго сон. Застылі, ацяклі ногі — села побач, аднак тут жа падхапілася, бо баялася заснуць. Стась захроп, і гэта ўчуў блізкі сабака, спалохана забрахаў, разбудзіўшы свайго адзінага калегу на другім канцы вуліцы.

Трэба ісці! Трэба ісці! Вунь як павярнуўся хвост Мядзведзіцы!

— Стась! Стась! Прачніся, маё стомленае дзіця.

— А-а? — і ў кішэню рукой.— Ах, гэта ты! — і ціха засмяяўся.— Нагнаў я Чурсікам страху — пісталет забраў. А Хрысціна — чалавек. Рызыкаваў я, даручыўшы ёй схадзіць да цябе. Не памыліўся. Хоць, ведаючы, што зброя ў мяне, а не ў яе мужа, здагадвалася, што першай ахвярай будзе ён. Іншага выйсця ў мяне не было б.

— Пайшлі, Стась.

— Ага, пайшлі.

— Рэчку пяройдзем па мосце. Прыйдзецца ісці па вуліцы.

— Думаеш, бобікі каравуляць уначы? Наўрад. Баяцца. Гэта ўдзень яны смелыя.

— Сабака звяглівы... чуе чужых, відаць, паліцэйскі. Я пайду ўперад, разведаю мост.

— Цяпер я цябе не адпушчу. Я буду весці цябе за руку.

— А я — цябе.

— Усю дарогу.

— Усё жыццё.

Стась прыглушана засмяяўся.

— Надоўга ты загадваеш.

— Бог знае якое доўгае яно будзе.

— А вось гэта ты кінь... не думай, не трэба. Я мінулую ноч у турме не думаў. Верыў... адчуваў, ці што?.. што буду жыць, хоць разумеў: калі яны ведаюць хоць дзесятую долю таго, што я зрабіў, ім мала мяне расстраляць.

— Цішэй ты. Дзверы скрыпнулі. Гэта дзядзька. Ён слухае мяне. Я схаджу да яго.

— Не, не трэба. Не хадзі.

Яны доўга слухалі, ці не скрыпнуць дзверы зноў — дзядзька пойдзе ў хату. Не дачакаліся. Цішком прайшлі па завулку міма адрыны. Дзядзька пачуў, пачуў, што іх двое, і бадзёра кашлянуў — пажадаў гэтак шчаслівай дарогі.

## 6

Аксану разбудзіў стук колаў. Яна прачнулася і пачула, што конь фыркае ледзьве не над галавой, зусім побач. Па карэннях і змёрзлай за ноч зямлі колы звычайнай фурманкі тарахцелі што трактарныя. А Стась спаў, не чуў.

Яны ішлі ўсю другую палавіну ночы, арыентуючыся па зорках. У іх не было гадзінніка, час вызначалі па той жа Вялікай Мядзведзіцы, хоць астраномы былі слабыя. Хутчэй час адчувалі іх ногі, іх цела — па зморы. Адчувала Аксана. Стась не адчуваў, спаў на хаду. Аксана зразумела гэта, калі разоў колькі ён не адгукваўся на яе словы. Потым спатыкнуўся, упаў на калені. Аксана падхапіла яго.

— Ты спіш, Стась?

— Я сплю. Ты знаеш, я нават бачу сны. Во зараз — многа людзей. Як бы ў нейкім парку. Святочныя людзі. Радасныя. Калі ты бачыла радасных людзей? І ад таго мне стала лёгка, я фізічна адчуваў, як з цела майго выцякае, як нясвежая кроў, чорная стома. А з паветра, празрыстага, сонечнага, улівалася ва ўсе поры цела нябачная бадзёрасць. Што бальзам. І міг, нейкі міг мне стала вельмі лёгка. А разбудзіла ты — і ногі што чыгунныя.

— Дай, я панясу мяшок.

— На.

І зноў ён спаў ідучы. Аксана падтрымлівала яго пад руку, каб не спатыкнуўся.

— Паспім, Стась.

— Паспім,— згадзіўся ён, хоць раней настойваў, што паспяць яны ўдзень, у надзейным лесе, разведаўшы наваколле.

Але яны ўжо з паўгадзіны ішлі па лесе і пераканаліся, што гэта вялікі лес.

Збочылі з дарогі як можна далей і ляглі пад густой елкай на мяккі мох, падаслалі Аксанін плашч, накрыліся цёплым паліто, якое даў Чурсік, і ўміг заснулі.

Але, выходзіць, дарога падвяла іх, напэўна, яна рабіла круты паварот у той бок, куды яны аддаляліся, а ў сапраўднасці зноў набліжаліся і, не выйшаўшы на яе зноў, ляглі за якія тры дзесяткі крокаў.

Аксана прыпаднялася. Ужо добра развіднела. Але дрэвы расплываліся ў марозным тумане. Дальнія дрэвы. А фурманку яна ўбачыла — да яе рукой падаць. Невялікі, але ладны гняды конь. На возе, у перадку, фурман. Едзе павольна. Хто ён? Ранні селянін па дровы? Ляснік? Аксана не разгледзела добра, але ёй не спадабалася фуражка ездавога. Падобная на паліцэйскую, хоць, магчыма, і леснікоўская.

Чалавек ад'ехаў сотню крокаў, за елкі, тпрукнуў, спыніўся. Конь сыта фыркнуў.

Тады Аксана разбудзіла Стася, разбудзіла па-мацярынску, як будзяць дзіця,— пацалавала ў вусны, зашаптала:

— Прачніся, Стасік. Чуеш, фыркае конь? Міма нас праехаў нехта, на возе.

Ён паступіў не вельмі асцярожна: адразу падхапіўся, схапіў мяшок, паліто:

— Бяжым.

Нізка схіліўшыся, яны пабеглі пад кашлатыя елкі. Але елак адна града, а далей пачынаўся асіннік, рэдкі, голы.

Аксана азірнулася і ўбачыла, як мільганула паміж дрэў форменная фуражка.

— Ён бяжыць за намі.

— Бяры правей, у ельнік. А я спытаю, што яму трэба.

— Стасічак, не страляй, калі ён... Напалохай.

Кінуўшы Аксане мяшок, Шабовіч дастаў з кішэні «Вальтэр», узвёў і лёг паміж купінамі. І ў гэты ж міг грымнуў вінтовачны стрэл. Адзін, праз нейкі час другі. Гухнула што з пушкі, ажно з асін пасыпалася сухое лісце.

Шабовіч сачыў за Аксанай. Яна не ўпала, яна бегла. Схавалася ў елках. Тады ён пераключыў увагу на таго, хто страляў. Паліцэйскі! У знаёмым чорным шынялі, у фуражцы. Ідзе хутка, упэўнена. Кляцнуў затворам — даслаў новы патрон.

«Смелы, падлюга».

Шабовіч узяў яго на мушку. Але пісталет не вінтоўка, для пэўнасці трэба падпусціць бліжэй. Ды паліцай збочыў і прайшоў міма, уся ўвага яго была скіравана ў ельнік, на Аксану.

— Стой!

Паліцай ад нечаканасці ажно спатыкнуўся, але тут жа падхапіўся, крутнуў убок, яўна шукаючы таўсцейшае дрэва. Ды блізка такога дрэва не было. І ён, уціснуўшы галаву ў плечы, застыў на месцы. У яго яўна не хапала вопыту для абароны, ён прывык страляць у няўзброеных, таму так смела праследаваў тых, хто, палічыў, уцякае ад яго.

— Ты ў каго страляеш, падлюга! У жанчыну! Вінтоўку на зямлю! Рукі ўгору!

Паліцай рэзка павярнуўся на голас і, не ўбачыўшы ворага свайго, стрэліў наўгад. Магчыма, сцяміўшы, што такую смелую каманду мог даць толькі ўзброены чалавек і што часу перазарадзіць вінтоўку ў яго няма, ён, што заяц, скочыў убок, прыгнуўся і пабег.

Куля, відаць, пацэліла яму ў паясніцу, бо ён неяк дзіўна асеў назад і, ураніўшы вінтоўку, задрапаў зямлю рукамі, хацеў паўзці і не мог.

Распытаць у яго, раненага, дзе яны знаходзяцца. Калі на знаёмым Аксаніным маршруце, то працей будзе ісці. Але стала нядобра ад думкі, што, пагаварыўшы, паглядзеўшы раненаму ў твар, прыйдзецца расстрэльваць яго ва ўпор — іншага выйсця няма. Падняўшыся і трохі наблізіўшыся, Шабовіч стрэліў яму ў спіну. Паліцай сціх.

Хацеў паглядзець яго дакументы: можа, там сказана, з якой ён вёскі, з якой управы. Але ўбачыў Аксану. Яна ішла з ельніку, ішла неяк дзіўна — няўпэўнена, і твар яе быў бледны.

Кінуўся да яе.

— Што з табой?

— Ён раніў мяне.

— Аксана!

Сарваў з яе плячэй мяшок і ўбачыў, куды ранена: левае плячо светлага плашча заліта крывёю. Лёгка падняў яе і апусціўся з ёй на зямлю, паклаў ніцма на мох. Тады толькі ўспомніў, што ў яго няма нават нажа, каб разрэзаць адзенне. Плашча не разадраць, прыйшлося здымаць. А шарсцяны джэмпер і кофтачку разадраў. Рана — у плячо, яшчэ б на два-тры сантыметры вышэй і куля пайшла б у мякаць шыі, магла б прабіць артэрыю.

— Пінцэт брала?

— Не.
— Скальпель?
— Не. Толькі ёд, бінты і таблеткі. Хірургічнага — нічога. Не адгаварыцеся б хворай цёткай і выменьваннем. Хто выменьвае скальпель?
— Чорт! Як я, дурань, нажа не захапіў ад Чурсіка. Дзе ёд?
— У мяшку.
Падсунуў да сябе мяшок і ўбачыў, што ўратавала яго жонку: куля прайшла праз мяшок, праз напакаваныя рэчы і бінты, таму аслабла яе сіла.
— Глядзі, Аксана! Цябе ратаваў мяшок.
— Хто ён?
— Паліцай.
— Ты — насмерць яго?
— Не знаю. Смерць не канстатаваў.
— Навошта яму было страляць? Палічыў нас за партызан?
— У партызан адзін пабаяўся б страляць. Прывык, сволач, страляць па кожным, хто яму не падабаецца, каго можна адаслаць на той свет беспакарана. Гэтыя людзі страцілі чалавечы воблік. Не думай пра яго.
Стась прамыў рану ёдам. Пачуў пад пальцамі кулю — сядзела ў мышцы.
— Каб было чым, я дастаў бы яе.
— Шпілька... мая шпілька для валасоў.
Працёршы шпільку ёдам, пачаў аперацыю.
У Аксаны з вачэй сыпаліся слёзы, але кароткі стогн вырваўся толькі аднойчы. Яна, хірургічная сястра, давала яму, фельчару-тэрапеўту, парады. І ён выкалупнуў вострую кулю. Але, можа, не трэба было, бо пачалося моцнае кровацячэнне.
Аксана бадзёрылася, спрабавала нават жартаваць: чаму ў яго няўпэўненыя рукі? А яны сапраўды сталі як драўляныя і дрыжэлі. Доўга павазіўся, каб накласці тугую павязку, расходаваў многа дарагіх бінтоў, якія, разумеў, цяпер асабліва трэба эканоміць. Але як не хваляваца, калі бачыў, што дарагі чалавек траціць сілы: зусім спалатнеў твар, пасінелі вусны, праваліліся ў небяспечную глыбіню яе вочы, яе любыя вочы, у якіх незвычайна адбіваўся ўвесь свет, усе пачуцці яе. Але ўпершыню ўбачыў у іх страх, і гэта спалохала больш, чым сама рана.
— Не кідай мяне, Стасік.
— Што ты, Аксана! Зараз пайду, знайду яго каня...

— Ты не зразумеў... я на той выпадак, калі... ім не кідай жывую. Але сам з-за мяне не памірай. Не памірай! Жыві! Табе трэба жыць!

Каня ён не знайшоў, на дарозе яго не было. Пэўна, паліцай ехаў дадому, і конь спакойна пабрыў па знаёмай дарозе, коні, як і людзі, спяшаюцца ў родную стайню. Ці спалохаўся стрэлаў, калі не прывучаны, і павалок воз у невядомы бок, можа, зачапіўся дзе ў лесе і стаіць ці вырваўся з аглобляў. Але шукаць часу няма. Трэба адыходзіць. Калі конь прывалачэцца дадому без гаспадара, яго тут жа кінуцца шукаць. І калі ў сяле гарнізон ці хаця б пост паліцэйскі...

— Можаш ісці?

— Канешне, магу.

— Абапірайся на мяне. Вінтоўку возьмем, лішняя зброя не пашкодзіць. Добра было б накрыць яго хоць ламаччам.

— След...

— Але, след.

На апалых лісцях ляжала начная шэрань, на растаптанай намаразі заставалася ад ног яркая здрадлівая сцежка.

— Трэба прабірацца ў сасоннік, на ігліцы такіх слядоў не застаецца.

Звярнулі ў ельнік, але елкі там маладыя, кашлатыя, трэба нагінацца пад галлём, а Аксана не можа схіляць галаву. Яна старалася ісці ўпэўнена, нібыта і без яго дапамогі, але Стась адчуваў, як цяжэла рука на яго плячы і як хілілася яна, збівала крок. Тады ён прыпадымаў яе і нёс. Аксана пратэставала.

— Не хапай. Так у цябе ненадоўга хопіць сілы. Пакуль я іду сама...

Пакуль... А потым? Ведаў, што неўзабаве яму прыйдзецца несці яе. Але Аксане пра гэта не сказаў.

Заміналі мяшок і вінтоўка, асабліва вінтоўка; ён не служыў у арміі і насіў вінтоўку хіба на ваеннай падрыхтоўцы ў медтэхнікуме, вучэбную, з дзіркай у дуле, без патронаў. Тры абоймы ляжалі ў паліцэйскага ў шынялі. Стась пералажыў іх у сваю кішэню. Хацелася паглядзець пасведчанне. Але не мог павярнуць нябожчыка — лепш не бачыць яго твару, каб не прыдаваўся. Так лягчэй: забіў ворага, не чалавека — як на фронце.

Аксана згадзілася з ім: лепш не бачыць.

— Вечнай памяці яму не будзе. Разумны чалавек праехаў бы міма такіх начлежнікаў. Колькі цяпер блукае па свеце людзей! Дзе

ж ім заначаваць? А ён усвоіў фашысцкую формулу: страляй у кожнага падазронага. Стрэліў...

— А ў яго, напэўна, дзеці. Што іх прымушае ісці на такую службу?

— Ненавідзяць уладу нашу.

— За што? У мяне дзядзьку арыштавалі ў трыццаць восьмым. Помніш, як мяне хацелі выключыць з тэхнікума? Добра, што ён жыў далёка, на Урале, і я толькі малая бачыла яго. Ён муляр, завод будаваў...

— Не гавары многа — траціш сілы.

— Не бойся. Сілы ў мяне хопіць.

А крок збівала часцей і часцей, цяжэй павісала на яго руцэ.

Выйшлі ў бор. Але пад соснамі раслі чарніцы, на іх след заставаўся яшчэ больш выразны — зялёная сцежка.

А потым адкрылася поле. Землі тут камяністыя, бедныя, але краявіды незвычайныя. Нехта назваў мясціны тутэйшыя беларускай Швейцарыяй — вядомая з падручнікаў геаграфіі Беларуска-літоўская града. Поле нешырокае, сотні тры-чатыры крокаў, а далей зноў лес, узбіраўся на круты ўзгорак малады бярэзнік. Але поле засеяна азімінай, і на рунь сеў больш густы іней, чым у лесе. Узышло сонца, і поле ажно іскрылася, зіхацела, сляпіла вочы.

«Божа мой, якое яно, жыццё!» — упершыню з душэўным смуткам падумала Аксана.

— На такім полі сцежка ад слядоў будзе відна вунь з той гары, за дзве вярсты.

Паспрабавалі абысці азіміну і выйшлі на торную дарогу, пясчаную. Небяспечна ісці па ёй, але сляды на пяску хутка растаюць. І Шабовіч рызыкнуў. Падхапіў Аксану падпашкі і ўподбег рушыў па дарозе. Прабеглі так да лесу ў падэшвы ўзгорка і... апусціліся на зямлю.

І — дзіўна — ён дыхаў не так цяжка, як Аксана, быццам не ён нёс яе, а яна яго.

— Цяжка табе ісці?

— Цяжка,— шчыра прызналася яна, вінавата ўсміхаючыся засмяглымі вуснамі.— Ногі млеюць, і галава кружыцца.

— Далей не пойдзем.

У вачах яе адбілася здзіўленне: а што будзем рабіць?

— Удзень правядзём разведку. А ўначы я паспрабую дастаць каня і воз. Па-добраму не дадуць — забяру па законах ваеннага часу.

Яны ўглыбіліся ў лес, ледзьве не на вяршыню ўзгорка. У лесе гэтым трапляліся зялёнкі.

— Глядзі, зялёнкі! Так позна.

— Не падабаецца гэта мне. Могуць з'явіцца грыбнікі.

— Гэта не страшныя людзі — дзеці, кабеты,— сказала Аксана.

— Дзеці раззвоняць на ўсю ваколіцу.

— Тыя дзеці, што ходзяць па грыбы, не раззвоняць. Дзеці цяпер разумныя.

Аксана прагна аблізвала вусны. Паліць яе. А дзе дастаць вады на гэтай гары?

— Пайду пашукаю ваду.

— А ў што?

Сапраўды — у што? Ніякай пасудзіны. У фуражцы не данясеш, а ўсё астатняе тканіна. Адна стограмовая шкляначка з маззю. Мазь можна перакласці ў паперу ад бінтоў. Але колькі ў такой шклянцы тае вады!

Аксана засмяялася, і ў такім стане яна здольная смяяцца, толькі вусны балюча перасмыкаліся.

— У мяшку ёсць галошы. Новыя. Глыбокія. Я ўзяла іх для праўдападобнасці, што іду выменьваць, а ў сапраўднасці хацела прынесці падарунак Алёне. Яе маўклівасць і нейкая дзіўная адчужанасць даўно непакоілі мяне. Я ж ведаю, яна любіць мяне... Але толькі ўчора зразумела — баіцца. Ворагаў баіцца і... мяне... Любіць і баіцца. Во як бывае!

Шабовіч спусціўся з галошамі ў нізіну і знайшоў балацянку; вада ў ёй была рыжая, пахла прэлым лісцем. Але ўсё ж гэта вада. Ён сам напіўся з задавальненнем і, здаецца, ажыў, падужэў. Ды яшчэ знайшоў журавіны, узрадаваўся, набраў іх у кішэню плашча.

Галошы нёс перад сабой, як свяшчэнную каштоўнасць, ступаў асцярожна, каб не расплюскаць ваду. Аксана ажно засмяялася, убачыўшы, як ён нясе. Піла яна прагна. А журавінам узрадавалася, што дзіця, якое ўпершыню ўбачыла дзівосную ягаду.

— Якая я непрактычная. Нічога не ўзяла паесці. Але я спадзявалася на цётку. А калі яна так сустрэла, на ўсё забылася. Дзіўна, што дзядзька не здагадаўся. А я падужэла, Стасік. Я падужэла. Здаецца, ніколі не піла такой смачнай вады. Гумай пахне, як бальнічныя шклянкі лекамі. Дзякую табе. З такім рыцарам можна і ў лесе пражыць.

— Каб можна было распаліць касцёр, я напёк бы зялёнак... запалкі ёсць... Чаго не забыўся ў Чурсіка — запалкі і тытун. А пра нож не падумаў.

Аксана сапраўды як паздаравела. Разгаварылася.

— Баліць табе?

— Баліць, але нямоцна. Я церпялівая.

— Пад вечар перавяжам.

— Не. Лепей да заўтра не чапаць. Сваім хворым мы робім перавязку раз у двое-трое сутак, ты ж знаеш. Эканомім бінты.

І яна заснула. Неяк нечакана, спакойна. Дыхала роўна. І Стась узрадаваўся. І яму варта было б паспаць, прыгрэўшыся на асеннім сонцы. Уначы будзе не да сну. Але заснуць не мог. Думкі варочаліся ў галаве, што цяжкія валуны. Ды і гукі насцярожвалі. То трашчалі недалёка сарокі — ходзіць па лесе нехта, то замукала далёка карова, пратарахцелі колы — там з другога боку ўзгорка. Пайшоў туды і... адкрыў вёску. Яна тулілася ў нізіне паміж узгоркамі, голая, сіратлівая. Але вёсачка ўзрадавала: тое, што трэба,— малая, хат пятнаццаць усяго, у такой не можа быць ні гарнізона, ні паста, самае большае — стараста.

Фурманка праехала ў лес, па той дарозе, што абгінала ўзгорак, на якім яны днявалі. Але на возе было двое мужчын. Такія добраахвотна каня не аддадуць, а браць гвалтоўна, з дапамогай зброі,— неразумна. На такім кані далёка не ад'едзеш.

Добра, што грыбнікі не з'яўляюцца. Позна. Канец лістапада.

Вярнуўся да Аксаны. Яна не спала і была ўстрывожана.

— Ці то я сасніла, ці праўда чула галасы, там, унізе. Я спалохалася, што цябе няма побач.

— Ехала фурманка. Двое мужчын. Але дзіўна, што ты чула галасы і не чула тарахцення воза. Там недалёка вёска, і я падумаў: а ці не схадзіць туды? Пажабраваць. Можа, хто даў бы акраец хлеба ці вараную бульбіну. Трэба падтрымаць твае сілы.

— Не хадзі. Я баюся адна. У горадзе я нічога не баялася. А тут я спакойная, калі ты побач. Вазьмі маю руку, і, пабачыш, я засну зноў.

Сапраўды Аксана зноў скора заснула. Санлівасць яе не падабалася Шабовічу, яўная прыкмета знясіленасці. А што ён хацеў: каб раненне, цяжкія душэўныя перажыванні прыбавілі жанчыне сілы? Сам адчуваў, што траціць яе, уласную сілу. Сядзеў, трымаў Аксаніну руку і нейкія моманты правальваўся ў дзіўны стан, калі не было ні думак, ні адчування навакольнай рэальнасці, свайго цела. Аднак сном гэта назваць нельга, у тым і бяда, што ён не спаў, не мог заснуць. Але самае страшнае было, калі апускаўся яшчэ глыбей у тое падманнае бяздонне, дзе наступала здрадлівая расслабленасць, з якой цяжка было выходзіць; узнімаўся назад, на

зямлю, як з марской глыбіні — з кесоннай хваробай: біла ў галаву да звону ў вушах, сціскала ў грудзях, а ногі... на нагах вісела ўся зямля, увесь яе цяжар. Кажуць, пры кесоннай хваробе кіпіць кроў. Дык вось пры «пад'ёмах» са шчаслівай пустэчы кіпела яго кроў, кіпела так, што, здавалася, парве сасуды. А яшчэ палохала адсутнасць таго рою думак, тае фантазіі, якая была ў турме, на камароўскіх гародах, у доме Чурсіка, там з'яўляліся тысячы варыянтаў уратавання. А там жа было ўсяго адно жыццё — яго, а тут, акрамя свайго — жыццё самага дарагога чалавека. Тут цяжкім каменем лёг у галаве адзін варыянт,— як дапаўненне да іх чацвёртага. І як там, у Мінску, ён нічога не мог змяніць у выхадзе Аксаны з горада, так і тут — іншых варыянтаў не існуе. Не думаў нават над дэталямі, бо ніводную з іх немагчыма прадбачыць.

Каб не правальвацца ў гэтую бяздумную бездань, не садзіўся, хадзіў вакол, як вартавы.

Аксана расплюшчвала вочы, знаходзіла яго, усміхалася ўзрадавана і разоў колькі без слоў засынала зноў. Яе пачала стамляць нават размова, разумеў Шабовіч. Сімптом найгоршы. А калі пад вечар прысеў і ўзяў Аксаніну руку, пачуў, што ў яе пачаўся жар.

Апанаваў страх, якога не перажыў ні ў адной сітуацыі.

«Калі гэта гангрэна, я бездапаможны... Божа мой! Што яго прымусіла страляць?»

Перавязваючы, нюхаў рану. Не, гнілі няма, пах свежай крыві і пах яе цела, яе валасоў, незвычайна заўсёды пахлі яе валасы — спрадвечнай жаночай мацярынскай чысцінёй.

У вячэрнім зроку перанёс, хоць яна і супраціўлялася — сама хацела ісці, Аксану ўніз да дарогі. Калі добра сцямнела, пайшоў здзяйсняць свой адзіны варыянт.

Па вуліцы вёсачкі не пайшоў — па гародах, за хлявамі, зноў браў перашкоды — платы, горш, што тут некаторыя былі частакольныя, калы завостраныя.

«Нямірныя тут суседзі, куркулістыя»,— вывад такі трохі непакоіў. Але іншага варыянта прыдумаць нельга, хоць тыдзень думай. Трэба знайсці, дзе ёсць конь, а там — будзе што будзе.

Пачуў бадзёрае фырканне, хрумстанне сена. Здзівіўся, што на яго ціхі стук у акно, нават не спыталі — хто. Прайшла, бачыў, высокая жанчына ў сенцы і грымнула засовам.

— Можна да вас?

— Добраму чалавеку — можна.

Яна растварылася, што дух, у цемры сенцаў, а Шабовіч ступіў у хату. За сталом сядзеў барадаты стары ў акулярах у жалезнай аправе і чытаў тоўстую старую кнігу, такой кнігай магла быць толькі Біблія. «Трапіў я, аднак. Калі старавер — вады не дасць»,— незадаволена падумаў Шабовіч, ён з недаверам ставіўся да такіх вось набожных старых, бо добра, з маленства, ведаў маскалёў-старавераў.

Дзед глянуў паверх акуляраў, здавалася, без усялякай цікавасці.

— Добры вечар, бацька.

— Вечар добры, сынок.

Увайшла жанчына з сенцаў, прайшла міма яго ў кут да ложка, села, як святая, высокая, худая, пласкагрудая, даць ёй можна было гадоў сорак, такімі мужападобнымі бываюць векавухі, што не выходзілі замуж, не нараджалі. Сказаў ёй:

— Смела вы, аднак, адчыняеце... у наш час.

— Чалавек, які ўваходзіць праз дзверы,— госць.

Шабовіч наблізіўся да стала.

— Біблія?

— Біблія.

— Мудрая кніга,— вырашыў трохі падльсціць, падмазаць.

— Чытаў?

— Каюся. Не чытаў. Ніхто не параіў ды і не даў самую кнігу. Першы раз бачу.

Стары ўздыхнуў.

— Калі вы не пярэчыце, я сяду.

— Сядай. Лаўку не праседзіш.

Шабовіч сеў на ўслон збоку да стала, але, угледзеўшы, што сеў якраз жа напроціў акна, адсунуўся бліжэй да кута, бліжэй да гаспадара, апынуўся тварам у твар.

— Вас там многа? Хтось на мушцы мяне трымае?

— Што вы! Я адзін. Таварыш мой... жонка... у лесе, раненая.

Стары адарваўся ад кнігі, зняў акуляры — зацікавіўся.

— Бацька, я не знаю, хто вы, што вы думаеце, якому богу моліцеся... зямному. Але я прыйшоў да вас, я кланяюся вам у ногі... І я буду гаварыць, як на споведзі, святую праўду. Як перад богам...

— Я такі ж грэшны, сынок,— уздыхнуў стары.

— Мы з жонкай ідзём з Мінска ў партызанскі атрад. Не проста ідзём — уцякаем. Я ўжо быў арыштаваны немцамі. За што — вы здагадваецеся. Цуд, што вырваўся. Другі арышт — і смерць. І мне і

ёй. Дайшлі да вас. А сёння раніцою нейкі сукін сын пальнуў у нас. Раніў Аксану...

— Чакай. Дзе гэта было?

— Ды тут... у лесе, можа, вярсты дзве ў бок Мінска.

— Ён жонку тваю, а ты яго?

Шабовіч угледзеўся ў старога: як той адносіцца да смерці паліцая? Звестка аб смерці Гаўруса абляцела, выходзіць, наваколле, людскі тэлеграф безадказны. Не, у вачах дзеда нічога не адбілася — ні гневу, не спачування, ні ўхвалення. Гэта ўзбадзёрыла. Калі ўжо праўда — то праўда да канца.

— Вайна, дзед, хто — каго.

— З яго ж вінтоўкі?

— Са свайго пісталета.

— Вось як! — стары паглядзеў з большай цікавасцю, нават з затоеным захапленнем, так, прынамсі, здалося Шабовічу, і ён узрадаваўся: пашчаслівіла, выходзіць, натрапіў на свайго. Дзед цяжка ўздыхнуў: — Грахі нашы. Хто нягрэшны? Грэшны быў нябожчык. Крыўдзіў людзей... І бог убачыў. Што ж ты хочаш ад мяне?

— Каня, дзед. Нам трэба дабрацца да атрада... Дзядзюлі. Чуў?

— Не чуў.

— Канешне, прозвішча камандзіра не выдаецца — «Буравеснік» атрад.

— Не чуў. Далёка ён стаіць, атрад той?

— Канкрэтнага месца я не знаю... урочышча ляснога. Дарогу туды Аксана знае. Апошняя вёска на гэтай дарозе — Задвор'е...

— Далёка.

— Аксана пехатой туды хадзіла.

— Цяжка яна раненая?

— Я фельчар. Куля раздрабіла ключыцу...

— Хочаш пасадзіць яе на каня? Утрымаецца?

— Лепш на возе.

— Сам ты хадзіў? Прайсці ўсюды можна, а праехаць з возам... з раненым... Па дарозе ж трэба.

— Можа, лепш у бальніцу,— сказала жанчына.

— У бальніцу ёй нельга.

— У бальніцу нельга,— пацвердзіў стары, задумаўся, запусціўшы пальцы ў сівыя валасы, быццам адтуль хацеў выцягнуць рашэнне.

Шабовіч церпяліва пачакаў. Маўчанне зацягвалася.

— Выручай, бацька.

Зноў думаў стары, можа, цэлую мінуту. Асцярожна памагла яму жанчына:

— Без каня мы памром. Бацька стары, я хворая... Конь нас корміць.

— Я вярну. Каня я вярну!

— Эх, сынок. Табе я веру. Ды там не ты будзеш гаспадар. Ды і даехаць яшчэ трэба. Туды. Назад. Я нядаўна ад дачкі... ад Ганны два дні ехаў, а гэта ўсяго дваццаць вёрст. Часць нейкая ішла, казалі, карнікі. Дык лічнасць маю выяснялі. Мая барада ім не падабалася, шморгалі — ці не прыклееная. Смех і грэх. Як я зразумеў, адзін раіў: да сцяны мяне. А што ім стары, а што ім малы! Забылі бога. А на кожнай пражцы — Танька чытае па-іхняму — напісана: «З намі бог». Куды ж ён глядзіць, бог ваш?

— Не гнявi бога, бацька.

— Ды не гняўлю я, дачка. Малюся. Бачыш, навуку яго спасцігаю,— апусціў руку з галавы, паклаў на Біблію.— Да смысла жыцця і смерці дайсці хачу.

Шабовіч каўзануўся на ўслоне.

«Ты, стары філосаф, да сэнсу даходзіш, а там чалавек пакутуе... дарагі мне чалавек».

Дзед як прачытаў яго думку. Адкінуў галаву да сцяны, абклеенай даваеннымі газетамі, многа дзе з белымі «заплатамі» — лісткамі ў клетачку з вучнёўскага сшытка; няцяжка здагадацца, што залепліваласяя.

Звярнуўшы ўвагу на газеты, Шабовіч яшчэ больш паверыў у старога: чалавек, які акуратна чытаў савецкія газеты, не можа не верыць у нашу перамогу.

Аднак які цяжкадум, як зацягвае адказ на яснае, як божы дзень, пытанне.

Стары адарваў галаву ад сцяны, нахіліўся і глуха, ледзьве не шэптам, сказаў у Біблію:

— Мар'яна, а можа, прытулім яе ў нас, пакуль... як імя тваё?

— Стась.

— ...пакуль Стась да сваіх не сходзіць.

Жанчына пырхнула, што падстрэленая нязграбная птушка,— узмахнула доўгімі рукамі мала не да столі.

— З нашымі суседзямі! Бацька!

— Цішэй ты! — і да Стася, ціха: — Суседзі ў нас паганыя. З горада прыехалі. Злыя яны на нашу ўладу. Але ў паліцыю не ідзе. Памагаты мой — хаты рубім. Будуюцца некаторыя,— і зусім

шэптам, зірнуўшы ў акно: — Шпіён Хаданок. Запомні: Ха-данок. Перадай сваім.

Стары вылез з-за стала, наблізіўся да дачкі.

— Мар'яна, а, Мар'яна! Адвядзі ты іх да Ганны. Там будуць знаць пра атрад. На дваццаць вёрст бліжэй...

— Бацька! Што гэта вы робіце? Дачкі роднай не шкадуеце. Яна са сваімі партызанамі рады не дае, а вы ёй падкінеце праўдных партызан.

— Што будзе — тое будзе! Бог не выдасць — свіння не з'есць. Вязі, Мар'яна. Вязі. Бог залічыць нам за гэта. Ды і людзі... Пашчасціла табе, хлопец. А мог трапіць да яго... праз два двары...

— У яго ёсць конь?

— Каня няма.

— Не трапіў бы. Я спачатку каня знайшоў.

Стары засмяяўся.

— А ты з галавой.

— Пакуль што.

— Ды не, такую галаву трэба берагчы.

Шабовіча здзівіла, што дзед Іван запрагаў не таячыся. Свяціў ліхтаром. Нокаў на каня. Сказаў яму пра гэта, калі выехалі за сяло, седзячы ўсе трое на мяккім і духмяным сене, стары не пашкадаваў сена, каб раненай было мякчэй.

— А я вядомы на ўсё наваколле парубшчык. Сам некалі лесніком быў. А з цяперашнім у жмуркі гуляем — хто каго зловіць. Ён мяне ні разу не злавіў. Следам ходзіць, а злавіць не можа. Пакуль пачухаецца, я ўжо бервяно распіліў і... замачыў... Во так... Праўда, прыходзіцца і яму падносіць. Ты таксама рызыкоўны хлопец — ўваліўся ў хату, як з неба. Ад Бібліі адарваў, грэшнік.

— У мяне не было іншага выйсця.

Аксана, калі Стась апусціўся перад ёй на калені, абшчапіла рукамі яго шыю і расплакалася што дзіця.

— Стасічак, даражэнькі!.. Не любі мяне, не любі. Я баязліўка. Ты не знаеш, якая я. Як я дрыжэла тут... Якія жахі мне ўяўляліся. Чаму гэта? Чаму? Там я нічога не баялася, ты знаеш.

— Аксана, Аксаначка, не плач. Са мной людзі. Нам па-шанцавала. Я знайшоў добрых людзей. У нас ёсць конь, ёсць харч. Зараз ты павячэраеш, і мы паедзем.

— У атрад?

— Не ў атрад, але бліжэй да атрада,— падаў голас дзед Іван, схіліўся і памацаў Аксанін лоб, загадаў, бадай, строга: — Набярыся сілы, дачка. Не вылівай яе слязамі, сілу сваю.

І Аксане стала сорамна. Яна сціхла. Больш таго — сама паднялася, намерылася ісці да воза. Але яе падтрымалі — Стась і Мар'яна. Палажылі на сена. Паілі малаком з сапраўдным жытнёвым хлебам грубага памолу — на ручным млыне, размолатыя зерні хрумсцелі на зубах. Але як пах гэты хлеб! Вярнуў усе радасці, усе пачуцці цяпер ужо далёкага маленства. Вярнуў Аксане. Вярнуў Стасю. Нічога няма смачнейшага за хлеб з малаком. І нішто не дае так хутка галоднаму сілу. Як бальзам жыцця.

Павячэраўшы, Шабовіч прынёс з-пад елкі мяшок і вінтоўку, хацеў сунуць пад сена. Але дзед і ў цемры ўгледзеў, запярэчыў:

— О не, гэтую бярданку пакінь мне. Я надзейна схаваю. Няхай паляжыць. Пугач вазьмі, але схавай далей. А ў мяшку што ў вас?

Запаліў «лятучую мыш»; ліхтаром гэтым свяціў толькі ў хляве, Стась нават не ўбачыў, што дзед прыхапіў яго з сабой. Зрабіў строгую рэвізію мяшка. Загадаў Мар'яне схаваць ёд, бінты ў сваіх і Аксаніных тайніках — пад кофтачкамі, пад спадніцамі.

— Адзення многа для бальніцы. Надзеньце на сябе што можна. Усе. І ты,— загадаў Шабовічу, і той мусіў нацягваць жаночую кофтачку. Што-нішто дзед засунуў у сена. Рукзак забраў з сабой — не вясковая рэч, гарадская.

Нарэшце апошнія павучанні:

— Значыцца, так, Мар'яна, начуеце на хутары. Далей — пры свеце дня божага, праз усе пасты, вязеш пляменніцу з бальніцы, вазіла, знаюць. Але ты, брат Стась, тут ужо збоку. Далёка збоку, за вярсту абыдзеш усе пасты, усе вёскі. І так, што,калі хто і ўгледзіць цябе, каб не падумаў, што вы адна кампанія — ты, Мар'яна, хворая і конь. Во так і сапіце ў насы, кожны ў свой. І да Ганны ты прыйдзеш, калі сцямнее. Пакажаш хату з горкі, Мар'яна. Чакаю цябе паслязаўтра. З богам, дзеці.

— Дзякуй, дзед. Не забуду.

— Не забывай, сынок, не забывай. Нічога не забывай.

Стары перахрысціў іх — напісаў пальцамі крыж на фоне зорнага неба.

Трэці дзень сядзеў Шабовіч на гарышчы. Спусціўся толькі пазаўчора і ўчора позна ўвечары па сігнале юнага гаспадара Міколкі, старэйшага Ганнінага сына. Слых у Шабовіча ад адзіноцтва і ўслухоўвання ва ўсе гукі ў хаце і вакол — ва ўсёй вёсцы, стаў што ў кажана. Але хлопец з'явіўся нечакана. Увечары. Удзень, калі прыносіў абед, лесвіца пад яго нагамі скрыпела і

грымела. А тут — ніводнага гуку, трэба ўмець. І па гарышчы прабіраўся гэтак жа нячутна. Толькі калі дабраўся да сена, на якім Стась спаў, тады ўзняў шум — зашамацеў. Прашаптаў з захапленнем і як бы з зайздрасцю:

«Кліча цябе Аксанка».

Здзівіла, што транаццацігадовы сельскі хлопец, які ў іншым паводзіў сябе ажно занадта па-даросламу і які ў першы вечар, калі ўладзіла яго сюды Мар'яна, сказаў: «Цётка кліча вас».— «Якая цётка?» «Ваша»,— раптам сказаў пра цётку як пра сваю равесніцу. Ажно спалохаў гэтым памяншальным імем — Аксанка: падумалася, што ёй блага, а таму і ласкавасць такая.

Становішча Шабовіча было незразумелае, часам здавалася абразлівым. Баявы здаровы падпольшчык, які выконваў надзвычайныя заданні, сядзіць на гарышчы, што загнаны кот. Гаспадыняй загнаны. У першы ж вечар, з ухваленнем маўклівай Мар'яны.

Прывязвае Аксана, а інакш толькі бачылі б яго.

Дзіўна паводзіць сябе Ганна. Загадкава, супярэчліва. Сустрэла яна іх, у тым ліку і сястру сваю, амаль варожа. Пачуў Стась, як дакарала:

«Ён што там, з глузду з'ехаў, стары багахульнік? Барада сівая, а з агнём гуляе»,— гэта пра бацьку свайго.

А калі ён, Шабовіч, сказаў, што ім трэба ў атрад Дзядзюлі, ці не ведае яна, дзе гэты атрад, Ганна адказала ўзлавана:

— Не знаю я ні дзядзюлі, ні татулі. І знаць не хачу. Са сваімі бандытамі рады не магу даць.

Выходзіць, партызаны для яе бандыты.

Пакутлівай была першая ноч — пасля такой сустрэчы. Праўда, начлег Мікола змасціў добры — сена, падушка, стары кажух з блохамі, якія не давалі заснуць. Супакойвала хіба адна акалічнасць. Ніякай пляменніцы ў Мар'яны не было — дачкі ў Ганны. Аднак жа, як сказаў бацька іх, вазіла яна «пляменніцу», і, па словах яго выходзіла, неаднойчы. Суцэльныя загадкі.

З Ганнай не дамовішся. Пакуль што. Тут ілюзій не павінна быць. Дзякуй, што прытуліла Аксану, палажыла ў бакоўцы на мяккіх падушках, яшчэ вясельных сваіх. Урэшце галоўнае — падняць на ногі Аксану, а там яна сама дарогу ў атрад знойдзе.

Аднак сядзець у няведанні і бяздзейнасці пакутліва. З'яўляецца адзіны інфарматар — Мікола, разы два і малодшы падымаўся дзесяцігадовы Міця. Але чуў, як сурова шыкнула на яго маці,

захапіўшы на лесвіцы. Паспрабаваў загаварыць з малым, але хлопчык паказаў язык — і ўніз.

Увайсці ў давер да дзяцей. Во што! Не, малодшага трэба выключыць з гэтай небяспечнай гульні. А з Міколам можна пагаварыць з сяброўскай шчырасцю. Калі яму маці даверыла такую тайну.

Шапталіся што змоўшчыкі. Расказаў яму пра Мінск, пра падпольшчыкаў, часткова сказаў праўду пра сваю дзейнасць, некаторыя гераічныя ўчынкі сачыніў, каб узняць сваю ролю. У прыцемках гарышча бачыў, як у хлопца гарэлі вочы, закідваў пытаннямі — а як? а што? Ад прагі гераізму размяк падлетак, што воск. Можна ляпіць таго героя, які патрэбны ў даны момант яму, Шабовічу.

— Скажы, Мікола, шчыра, па-сяброўску: знаеш, дзе атрад?

Сцяўся, панурыўся сын чырвонаармейца (што бацька ў Арміі Чырвонай — адкрыта сказаў у самым пачатку).

Знае. Але не скажа. Не баіцца — не мае права.

Дзіўна растлумачыў, чаму не можа сказаць. Падняўся, павярнуўся, ссунуў штаны, паказаў попу. Спачатку Шабовіч «прачытаў»: во, маўляў, табе атрад. Але тут жа і ў прыцемку ўбачыў, што худзенькая попа яго спаласавана сінімі пісягамі.

— Хто гэта табе?

— Хтокала.

— Мамка?

— Мамка і... дамка.

— Якая дамка?

Сямейка, аднак,— слова не выцягнеш. Але цягнуў:

— За атрад?

— За язык.

Красамоўнае сведчанне таго, чым «узнагароджваюць» за доўгі язык, прыкрылі латаныя штаны.

Аднак такая даверлівая размова моцна зблізіла іх. Але, напэўна, яшчэ цясней пасябраваў хлопец з Аксанай, калі вось так: «Аксанка кліча цябе».

А яна ажыла ў той другі вечар. Яе лячыла бабуля. Аблажыла ледзьве не ўсё цела прымочкамі — здымала жар. А Стася запрасілі, каб ён па-доктарску перавязаў, месца для перавязкі нязручнае.

Знахарка Шабовічу спадабалася: адукаваная бабулька, разумна спалучае народную медыцыну з навукай, такой можна верыць. Увогуле падпольшчыка захапляла еднасць вясковых людзей, іх давер'е адзін аднаму — не баіцца Ганна, што нехта выдасць яе,

умеюць людзі гэтыя хаваць тайну, вунь дзяцей як вучаць трымаць язык за зубамі.

Такая ж і бабка Параска. Гаварыла многа, але ўсё прымаўкі, прыслоўі, загадкі і ні слова пра тое, хто яны, адкуль, куды ідуць. Канешне, ёй магла расказаць Ганна тую праўду, якую пачула ад Мар'яны, ды і Аксана не таілася: раз даверылі людзям жыццё сваё, то можна даверыць і справы, няхай ведаюць, каго лечаць. І ўсё ж, такія бабулі бываюць залішне цікаўныя, Параска гэтай слабасці не мела. Зняла прымочкі — і знікла, без слоў, без прыказак, растала што цень. Далікатна пакінула іх адных, няхай мілуюцца галубкі.

— Ну як ты, Аксанка?

— Жар спадае. І не баліць так. А ты?

— Я — што! Сяджу, як кот, на гарышчы, уначы гуляў па двары, задворкі разведаў. Міколка корміць мяне і забаўляе.

— Забаўляе? А са мной ён сур'ёзны. Вершы чытае.

— Ён цябе Аксанкай называе. Як малую.

— Як ты называеш — так і ён.

Нахіліўся, спытаў цішком:

— Знала ты гэтую вёску?

— Не знала.

— А тыя, праз якія хадзіла, далёка адсюль?

— Далёка. Мы адхіліліся ўбок.

— Пра партызан знае Міколка, але не гаворыць, баіцца.

— Ганна сказала: як ачуняю, пакажа нам дарогу. Па-мойму, у іх ёсць свой атрад. Пра Дзядзюляю не чула.

— Мне сядзець навошта? Пагроза ж для сям'і большая. Ды і табе — лепш у атрад хутчэй. Навошта рызыкаваць? Упэўнены, што ў атрадзе ёсць урач. Пагавары з ёй. Да мяне яна не падымаецца. А пры дзецях не пагаворыш.

— Я пагавару. Але злуецца яна чамусьці. Добрая, а злуе. У абед Міколку лыжкай па лбе трэснула. Ён сказаў, што Гітлеру морду набілі. «Зноў бадзяешся, як бяздомны пёс?» Дзе ён бадзяецца? Цэлы ж дзень быў дома, да цябе хіба лазіў.

Пачула іх шэпт гаспадыня — стала ў дзвярах бакоўкі. І вельмі негасцінна патрабавала:

— Ану, кавалер, кыш у сваё зняздо.

— Я не кавалер, я — муж.

— Муж, не туж. Мужам будзеш, калі аховай станеш для сям'і. А які гэта муж, што жонку пад кулі вядзе?

І што ёй адкажаш? Лекцыю пачнеш чытаць пра абавязак кожнага чалавека ў гэты страшны для Радзімы час?

...Трэці дзень ляжання ледзьве перанёс: адчуваў, што чацвёрты-пяты не вытрымае. Натура яго патрабавала дзейнасці. Асабліва невыносна было пасля Міколкавага паведамлення. Спытаў у яго, за што ён лыжкі па лбе дастаў.

— Гэта табе Аксана сказала? — асуджальна свіснуў хлопец.

— Не злуй на яе. Такога нельга не перадаць: ты нібыта сказаў, што Гітлеру морду набілі.

— Дык праўда набілі.

— Дзе? Хто?

— Нашы. У гэтым... у Сталінградзе.

— Хто табе сказаў?

— Хтокала. Людзі гавораць. З атрада перадалі.

— З якога атрада?

Прыкусіў хлопец язык: вырвалася лішняе. Забраў міску і скаціўся па лесвіцы.

Як жа ён можа ляжаць тут, калі там на фронце вунь што робіцца! У Мінску яны наладзілі б феерверк у гонар перамогі. Горача фрыцам стала б. У абед выцягнуў ад Міколы нямнога: гавораць людзі, рот ім не завяжаш, відаць, праўда, калі па дварах навіна лётае. А на змярканні, да вячэры яшчэ, з'явіўся Мікола яшчэ раз, лёг побач і глыбакадумна маўчаў, як стары, толькі на пытанні адказваў. І ў цемры, не бачачы твару яго, Шабовіч адчуваў, што хлопец мае сказаць нешта важнае. Чаму толькі цягне? Наганяе значнасці і сур'ёзнасці? І раптам шэпт у вуха:

— Хочаш, правяду ў атрад?

У Шабовіча перахапіла дыханне.

— У які?

— Там узнаеш — у які.

— Канешне, хачу.

— Пад раніцу выйдзем.

— Не праспіш?

— Я прасплю?! — зусім дзіцячае абурэнне і крыўда: маўляў, я табе такое хачу зрабіць, а ты пра мяне як думаеш!

— Адкуль я ведаю, як ты спіш? Я моцна.

— Бо ты інтэлігент, беларукі.

— Я з такой жа вёскі. І бацька папругі мне не раз даваў.

— Дык то бацька,— ад бацькі хлопец гатовы стрываць усё, матчыны лупцоўкі кранал яго мужчынскую годнасць.

— Пакліч мяне да Аксаны.

— Вочы мокрымі не зробіш ёй? Не люблю бабскіх слёз.

— Не бойся. Аксаніны слёзы дорага каштуюць.

— Што яны каштуюць! Соль адна.

— Соль цяпер дарагая.

Увечары ў сенцах, пасля ў двары загрымеў Ганнін сярдзіты голас. Няцяжка было здагадацца, што зноў ганяе сына.

Да Аксаны яго не паклікалі. Спачатку, здалося яму, у хаце бубніў чужы голас, а потым адразу пагасла газнічка: праз шчыліну ў франтоне ён бачыў гэтую плямку святла ў агароджу. Пайсці сам не адважыўся. Хата, напэўна, зачынена, і Ганна можа паслаць яго... і грубасцю сваёй зробіць балюча Аксане. Не пабаяўся Ганны — пашкадаваў раненую жонку.

Заснуць доўга не ўдавалася. Як можна заснуць, калі заўтра ён дасягне мэты — будзе ў партызанскім атрадзе! Уяўляў сваю сустрэчу з камандзірамі. Падумаў і пра тое, што яму могуць не адразу паверыць. Але калі ён раскажа ўсю сваю эпапею, пра арганізацыю падпольную, пра справы свае і сяброў сваіх... Урэшце, для коннікаў недалёка суседні атрад — Дзядзюлі, дзе так добра знаюць Аксану. Лёгка можна праверыць. Козыр пэўны: спытайце ў Дзядзюлі.

Сніў спакойнае, дзіцячае: знаёмы луг, каровы. Цеплыня. І адна трывога, што разморыць яго сонца і каровы палезуць у патраву.

Разбудзіў яго Міколка.

— Стась, а Стась, прачынайся. Пайшлі.

Не ад начнога холаду — ад хвалявання — прабіралі дрыжыкі, калі ў цемры паспешліва абуваўся.

Спусціліся ціхенька з гарышча, выйшлі ў двор — а перад імі ў перадсвітальнай шэрані што здань — Ганна.

У Шабовіча падкасіліся ногі: усё, правал. Міколку будзе экзекуцыя, яму — грубая вымова, што збівае хлопца з панталыку.

Не. Маці накруціла сыну на шыю шарф і лёгка адпіхнула ад сябе.

— Глядзі ж, не забывай, што я табе сказала.

— У цябе забудзеш,— буркнуў Мікола.

— То-та ж.

Шабовіч ступіў да жанчыны.

— Я хачу пабачыць Аксану.

— Спіць твая Аксана.

— Трэба развітацца.

— Не на фронт ідзеш. У лес. Будзеце давідна вісець на шыі адно у аднаго, а я — стой над вамі. Скора пабачыцеся. Праз тыдзень даставім тваю каралеву,— і зноў сыну: — Дык глядзі ж...

— Гляджу-гляджу...

— Не далей дзялянкі.
— Не далей, не далей. Бліжэй...
— Знаю цябе.
— Дык і я ж цябе, мамачка, знаю.
Ганка хітра хмыкнула і весела праводзіла:
— Ну, папаўзлі, змеі паласатыя, у лес густы.

А Шабовічу стала нявесела. Больш таго, нейкі ж вельмі цяжкі смутак агарнуў яго. Многа разоў развітваўся з Аксанай, ідучы на небяспечныя заданні, і ніколі не адчуваў такога цяжкага пакутлівага смутку. Да яго дадалося як бы ўніжэнне ўласнае, сорам за сваю бязвольнасць: адступіў перад бабай, не мог дамагчыся пабачыць уласную жонку. Недарэмна Іван Ткачук, як узброены баявік, неаднойчы лаяў: «Інтэлігент ты, Стась, недаспелы, размазня».

На поплаве іх ахутаў густы туман. Нават Міколка не ўсюды ішоў упэўнена, спыняўся, нахіляўся да зямлі, як бы нюхаў даўні свой след. І маўчаў, засяроджаны, можа, трохі пасаромлены, што і ён блукае. Але ж у такім тумане не дзіва. Шабовіч сказаў хлопцу пра гэта — каб падбадзёрыць. І той адразу набыў ранейшую жвавасць, сталую ўпэўненасць. А калі перайшлі рэчку па заваленай вярбе і дабраліся да лесу, выйшлі на торную дарогу, Міколка адчуў сябе, як кажуць, на кані. І красамоўнасць яго вярнулася. Ды і настрой Стасеў, яго панурую маўклівасць зразумеў, як дарослы.

— Ты не думай, што наша матка злая.
— Чаму я так магу думаць?
— Да вайны яна вясёлая была. Бацька казаў, што ёй у арцісткі трэба было ісці, а не ў ільнаводкі. Цяпер яна за нас баіцца, за мяне і за Міцю. Я, канешне, свінтух, на мне шкура гарыць. Выдзелае яе матка.

Углыбіліся ў лес. Развіднела. У лесе туман рассеяўся — як парвалі яго дрэвы на дробныя шматкі.

Міколка прысеў на паваленую сасну.
— Давай паснедаем.

Дастаў з-за пазухі акраец хлеба, дзве цыбуліны, разламаў хлеб на дзве палавінкі, большую працягнуў Шабовічу.

— О, не, брат! Табе назад ісці. А мяне ў атрадзе накормяць. Далёка да атрада?
— Недалёка ўжо.

— Ну, во, бачыш, недалёка. А ад вёскі, глядзі, вёрст сем адмахалі, калі не ўсе дзесяць. Еш ты больш. І цыбуліны дзве. Вітаміны. Табе расці трэба.
— Вырасту.
— Ты мне так і не сказаў, як атрад называецца. Цяпер, думаю, можна.
— Алёшы.
— Так і называецца «атрад Алёшы»?
— Камандзір у іх... Аляксей Іванавіч.
— Ты быў у атрадзе?
— Быў. Бачыў ты,— Міколка памацаў ягадзіцу.
— Гэта цябе ў атрадзе так?
— Не ў атрадзе. Аляксей Іванавіч дадому прывёз, у сядле. «На, кажа, Ганна, твой скарб. Для нас ён малы». Ну, матка і нарабіла метак на скарбе. Каб не згубіўся...
Шабовіч першы раз за раніцу засмяяўся. Не за раніцу. За тыдзень. Але тут жа аспрэчыў сябе: не, з Аксанай яны смяяліся і ў першую ноч, і нават тады, калі яе параніла, яна ўмела засмяяцца... І заплакаць, і засмяяцца.
Доўга ішлі па прасецы, зарослай хмызняком, коннай дарогі на ёй не было, не вельмі торная пешаходная сцежка. Уперліся ў завал, у паваленыя на прасеку дрэвы, даўно паваленыя, напэўна, мінулай вясной — на хвойных асыпалася ігліца, пад лісцвянымі не было сухога лісця, тырчэлі засохлыя сукі, лупілася кара, паточаная караедамі.
Мікола спыніўся перад завалам, падцягнуў штаны, быццам рыхтаваўся пераадолець перашкоду скачкамі.
— Ну, усё. Далей я не хадок, а то доўга будзе плакаць мая срачка, калі матка ўзнае.
Шабовічу захацелася абняць хлопца, але ён стрымаўся. Сказаў, як даросламу, скупа, проста:
— Дзякую табе, Мікола.
— Няма за што.
— Ты сапраўдны разведчык.
— Куды мне да цябе... Ідзі па дзялянцы. Убок не зварочвай. Так ходзяць партызаны. Я тут цэлы дзень праляжаў.
— Беражы Аксану.
— Не бойся за яе.
— Дай руку, таварыш.
Так, па-даросламу, развіталіся.

Шабовіч пераступіў адно дрэва, другое... І раптам зноў пачуў, як ударыў у сэрца той ранішні смутак, нядобры. Ён спыніўся, азірнуўся.

Міколка стаяў на месцы. Памахаў яму рукой.

Так ён азіраўся яшчэ колькі разоў і кожны раз бачыў самотную постаць хлопчыка з узнятай, як у салюце, рукой.

Наперадзе недалёка заржаў конь.

Міколка знік.

Жорсткія клюшні смутку аслаблі, адпусцілі сэрца. Стала лёгка і радасна. Вось яна, доўгачаканая мэта!

## 7

Дазволілі сабе паспаць пазней. Была нядзеля. Напярэдадні зрабілі конны рэйд у бок Мінска, у зону, дзе не дыслацыраваліся партызанскія атрады. Паганялі паліцэйскіх у невялікіх гарнізонах. «Каб не спалі,— смяяўся Ігар,— а то салам заплылі». У рэйдзе не ставілі мэту ліквідацыі гарнізона і ў сур'ёзныя баі не ўлазілі, нямецкія базы абыходзілі. Пяцярык толькі здраднікаў адаслалі да прадзедаў. Але панікі нарабілі сярод паліцаяў і старастаў. А добрых людзей падбадзёрвалі: жыве савецкая ўлада не толькі ў далёкіх лясах! Уласна і ставілі такую мэту — прапагандысцкую. Работы больш за ўсё было камісару. Ігар у кожнай вёсцы выступаў. Было пра што сказаць: пра акружэнне фашысцкай арміі пад Сталінградам. Некаторыя жанчыны плакалі ад радасці: свае прыйшлі, сыночкі. Калі мераць па карце, то кіламетраў восемдзесят прайшлі, не лічачы таго, што вакол некаторых вёсак кружылі, пакуль вялі разведку, пятлялі, адступаючы, ішлі па дарогах — праз палі і лясы. Спрыяла пагода — мароз скаваў зямлю, усюды можна прайсці. Вярнуліся ў лагер апоўначы. Ды пакуль пачысціліся, памыліся, павячэралі, абмеркавалі вынікі рэйду. Лічылі яго ўдалым. Камандзіры і байцы былі хораша ўзбуджаныя.

Хворы Брагінскі зайздросціў сваім таварышам. Камандаваў адной «матронай»,— сумна жартаваў ён.

Добра набілі зады. Асабліва Золатаў, непрывычны да верхавой язды. У яго так разбалелася паясніца, што ў лагеры яго ссадзілі з сядла, пад рукі вялі да зямлянкі. Ігар кпіў з яго.

Не любіў начальнік асобага аддзела, каб нехта іранізаваў з яго слоў, дзеянняў, паводзін. Калі гэта рабіў камісар, не скрываў сваёй раздражнёнасці і вымаўляў Кіпеню. А часцей за ўсё насмешачкі

строіў ён, камсамолец; Ман да гэтага не ўніжаўся — сур'ёзны чалавек, а Брагінскі быў далікатна ўлюбёны ў кожнага, хто быў дужэйшы за яго, старэйшы, меў ваенны вопыт і тут, у атрадзе, рабіў на поўную сілу. Да Баслычыхі меў павагу, што да генерала.

Пасля рэйду, нягледзячы на ламату ў паясніцы, Золатаў быў добры і вясёлы, сам падыгрываў Ігаравым кепікам са сваёй панскай хваробы. Настрой у маёра яшчэ да рэйду ўзняўся. Тры дні назад прынялі радыёграму начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху.

«Усім партызанскім брыгадам і атрадам Беларусі.

Нямецкая разведка ў Мінску арганізавала падстаўны цэнтр партызанскага руху з мэтай выяўлення партызанскіх атрадаў, засылкі ў іх ад імя гэтага цэнтра здраднікаў, правакацыйных дырэктыў і ліквідацыі партызанскіх атрадаў. Гэты цэнтр партызанскімі атрадамі Мінскай зоны выкрыты. Маюцца звесткі аб тым, што ў гэтай зоне, у мэтах нямецкай разведкі, створаны другі цэнтр, які таксама рассылае дырэктывы і людзей і імкнецца звязацца з партызанскімі атрадамі.

Загадваю: у мэтах папярэджання пранікнення ў атрады варожай агентуры партызанскім атрадам з прадстаўнікамі якіх бы то ні было арганізацый з Мінска ў сувязь не ўступаць і ніякіх дадзеных аб дыслакацыі, колькасці, узбраенні і дзеяннях атрадаў не даваць. Завербаваных прадстаўнікоў, якія з'яўляюцца, уважліва правяраць, і тых, хто выклікае сумненні, затрымліваць.

Панамарэнка».

Золатаў лічыў, што немалую ролю ў прасвятленні становішча ў Мінску мела яго нядаўняе данясенне. А гэта апраўдвала яго дзейнасць тут, тлумачыла правалы яго разведчыкаў у Мінску, нельга не праваліцца, калі фашысцкае камандаванне стварыла такую правакатарскую сетку. Апраўдвала перад начальствам яго асабіста — што хапіла ў яго розуму не пайсці самому; добрую спажыву мела б варожая контрразведка.

Здзівіла стаўленне камандавання атрада да шыфроўкі, на яго думку, блізарукае стаўленне, апалітычнае. Брагінскі паціснуў плячамі — не прыдаў радыёграме значэння, маўляў, нас гэта мала датычыць, у нас няма непасрэднай сувязі з Мінскам. Камісар пашкроб патыліцу: «Цёмны лес. Ніякай яснасці — што да чаго». А Ман проста асудзіў: «Седзячы ў Маскве, рабіць такія вывады? Не паспешліва. Нямала ж там сумленных байцоў. І яны пастаўлены пад двайны ўдар».

Для Мана не існуе аўтарытэтаў. Для яго сам таварыш Сталін не аўтарытэт. А неяк пры размове пра Берыю дзіўна скрывіўся камандзір, хоць нічога і не выказаў. Золатаў запомніў гэтую «паганенькую ўхмылачку». Канешне, пра ўхмылачкі радзіраваць не будзеш. Але помніць варта, можа, калі-небудзь спатрэбіцца, для вуснага даклада, калі вернецца ў Маскву, характарыстыкі людзям, з якімі тут сустрэўся, ён павінен даць поўныя, усебаковыя. Між іншым, і ў часе рэйду ў яго з'явіўся штрышок у характарыстыку Мана: шкадуе паліцэйскіх, была магчымасць скасіць іх больш. Падумаеш, здабытак на цэлы дзень — пяць чалавек.

Радавала Золатава радыёграма. Радаваў рэйд. Урэшце, пры ўсім тым ён, Золатаў, удзельнічаў у сапраўднай баявой аперацыі і паводзіў сябе смелым байцом, ініцыятыўным камандзірам. Асабліва цешыла, што ўпершыню за тры месяцы выканаў свой непасрэдны прафесійны абавязак, другую баявую задачу групы — знішчэнне здраднікаў: дапытаў двух захопленых паліцэйскіх і аднаго, зацятага, які на допыце мацюкаў і Саветы, і Сталіна, і партызан, асабіста сам вывеў за хлеў і... шлёпнуў з задавальненнем, якога даўно не меў, толькі хіба гады чатыры назад, калі расстрэльваў пісьменніка, які, падлюга, на судзе адмовіўся ад усіх паказанняў і абвінаваціў яго ў недазволеных прыёмах следства; польскага шпіёна гэта не ратавала, але следчаму было прыемна, калі нарком Наседкін кінуў папрок: «Груба, Золатаў, працуеш».

За другога паліцая заступіліся вяскоўцы: трохі мяшком ляпнуты, пяцёра дзяцей, нікога не пакрыўдзіў. Ман адпусціў яго. У гэтым выпадку Золатаў ухваліў дзеянне спагадлівага камандзіра, у такой сітуацыі павінна быць палітыка і прапаганда, не лічыцца з думкай народа нельга, народ павінен верыць у гуманнасць партызан.

Паясніцу Золатаву ўначы расціралі весела, калектыўна — фельчар Гнядкоў, Баслычыха, сам Ман. Малады зубаскал Кіпень рагатаў:

«Вы не ў тую шчыліну яму спірытус ільеце. Не паможа. Спірт трэба ў рот, а пад хвост — шкіпідар».

У любы іншы час маёр не сцярпеў бы такіх смяшкоў з намёкамі, такой знявагі. А тут на жарт адказваў жартам. І выконваў параду: уліваў туды, куды трэба. І гэта, напэўна, памагло. Праўда, доўга не ведаў, як прымасціцца на мулкай канапе, але потым заснуў.

Моцна спалі ўсе, акрамя Брагінскага.

Баслычыха прынесла снеданне, як звычайна. Капітан зашаптаў:

— Дайце ім паспаць. Сёння зробім выхадны. Пастаўце, мы самі падагрэем.

Але кухарка забрала каструлю з густым бульбяным супам назад. Праз гадзіну прынесла зноў і ў гэты раз з парога грымнула:

— Ану, пад'ём! Разаспаліся як паны! Рабочыя людзі абедаюць у такі час.

Золатаў павярнуўся, і яму зноў стрэліла ў паясніцу, але не востра ўжо, і настрой гэта не сапсавала. Упершыню фамільярна прабурчэў:

— Ну, і чортава ж ты баба, Матрона. Няма ад цябе спакою. Як цябе муж цярпеў?

— Мужа я на руках насіла, у люлечку клала.

— Пакладзе такая, як ты,— бакі забаляць.

— Ты, маёр, што наравісты конь — вернеш заўжды ў свой бок... куды табе хочацца.

— Няма ў цябе, камандзір, дысцыпліны ў атрадзе. Паслухай, як яна прабірае старэйшага.

— А табе хочацца, каб усе стаялі перад табой навыцяжку? Немуштраваныя мы. Зямлю араць умеем.

Ігар падхапіўся па камандзе кухаркі, спаў у штанах, і, босы, рабіў гімнастыку каля печкі.

— Ты мне суп не разлі, скакун. Не наскакаўся ўчора?

Ігар смяяўся, яго развесяліла, што Матрона ўрэшце дабралася і да энкавэдыста, скаблянула і яго, раней яна больш праязджалася па ім, маладым, зрэдку даставалася Аляксею Іванавічу, культурна паводзіла сябе толькі з хворым начальнікам штаба, да яго звярталася, як сялянка да настаўніка, паважліва: Навум Барысавіч.

Золатаў пашкадаваў, што зачапіў языкатую бабу, але не пакрыўдзіўся за яе наскок, павярнуў на жарт.

Камандзір спаў у споднім, таму пры жанчыне не вылазіў з-пад кажуха.

Бяскрыўдныя сваркі Баслычыхі з Ігарам, з камандзірамі ўзводаў, з партызанамі і з ім заўсёды забаўлялі; жанчына ўносіла ў іх суровае лясное жыццё нейкую хатнюю атмасферу, па якой, напэўна, кожны сумаваў.

Пасля Ігар і Золатаў галіліся. Свяшчэнная працэдура. Але таксама забаўная. Ігар меў звычайную брытву савецкага вырабу. І

як Аляксей Іванавіч яе ні напраўляў, не брала яна рыжаватай маладой поўсці. Перад галеннем ён часта жартаваў:

«Навум, завязвай мне канец тугім вузлом».

У Золатава брытва была адменная, нямецкая ці шведская. Але нават Брагінскаму не даваў ён сваёй брытвы, груба жартаваў:

«Дзве рэчы нельга давяраць самаму лепшаму сябру — брытвы і жонкі».

Ігар распаліў печку, нагрэў у кацялку вады і першы прымасціўся перад невялічкім люстэркам.

— Іду на галгофу.

— Вазьмі маю,— раптам прапанаваў Золатаў, здзівіўшы і Кіпеня, і Брагінскага, і Мана, які рэдка калі чаму здзіўляўся.

Калі Золатаў пачаў галіцца сам, увайшоў камандзір узвода Мазоўка, дзяжурны па лагеры. Былы калгасны брыгадзір любіў армейскі парадак і заўсёды дакладваў бадзёра, гучна. А тут як бы вінавата пашкроб патыліцу:

— Таварыш камандзір, затрыманы невядомы... у самім лагеры ўжо...

Ман устрапянуўся: у лагер прабраўся чужы чалавек? Чэпэ!

— А паставыя твае што рабілі? Спалі?

— Чорт яго знае, як ён прабраўся. Без дакументаў, але з пісталетам... Во «Вальтэр» бельгійскі...— не без шкадавання перадаў камандзіру пісталет.

— Вясёленькая гісторыя! — выгукнуў Ігар.— Так ён мог і ў нашу зямлянку ўваліцца, пакуль мы спалі.

— Дык і спытаў у Ляўшына... той каля прыбіральні яго сустрэў... Дзе, кажа, ваш камандзір?

Ман мацюкнуўся.

— Начальніка каравула — пад арышт!

— Кажа, з Мінска, падпольшчык...

Золатаў застыў з брытвай.

— Падпольшчык? — і тут жа сцёр са шчакі мыла, склаў брытву, вочы яго загарэліся, што ў лаўца, які пачуў здабычу.— Ну, во ён, не прымусіў сябе доўга чакаць. Хіба не казаў я, што з'явіцца?

Хто з'явіцца? Адкуль з'явіцца? Нічога ён такога не казаў. Праўда, пасля радыёграмы Панамарэнкі гаварылі пра яго людзей: ніводзін з трох не вярнуўся, не перадаў звестку. І хоць Ман аспрэчваў сцвярджэнне штаба, што немцам удалося сапраўднае падполле замяніць правакацыйным, ён мусіў пагадзіцца, што становішча ў горадзе складанае, і згадзіўся на тое, каб правесці разведку сваімі людзьмі — былымі мінчанамі.

— Сюды яго! — грымнуў Золатаў, адчуўшы сябе гаспадаром становішча — прываліла яго непасрэдная справа, знаёмая, любімая, па якой сумаваў.

Хутка надзеў гімнасцёрку, падперазаў партупеяю з кабурой на папрузе. Прайшоўся па зямлянцы як бы ўпрысядку, пацёр калені. Следам за ім паспешліва прывялі сябе ў форму астатнія. Толькі Аляксей Іванавіч не ўзброіўся, яго пісталет, які ён звычайна насіў у кішэні, ляжаў пад падушкай.

— Цікава, што за птушка да нас заляцела? — Золатаў ізноў пацёр калені.— Думаю, не верабей.

Забыліся на галенне, на суп, які пачаў кіпець на буржуйцы. Глядзелі на дзверы. Адчыніліся яны, і па насціле ў зямлянку спусціўся каржакаваты малады чалавек са шчаціністай барадой — колькі дзён не галіўся. Вочы яго ўзбуджана блішчэлі, Ігару здалося — радасна, Золатаву — падазрона, так яны ўпачатку гарэць у кожнага злачынца, бо кожны з іх падрыхтаваўся да лжывых паказанняў і ўпэўнены, што яны неабвяргальныя, вочы ў іх патухаюць тады, калі «прыцiскаеш да сцяны», і тып такі вымушаны даваць праўдзівыя паказанні.

Шабовіч павітаўся гучна і радасна.

— Добры дзень, таварышы камандзіры! — і памкнуўся павітацца за руку, але гэтага жэсту яго не ўбачылі. Адзін барадаты адказаў:

— Добры дзень, калі не жартуеш.

Вядома ж, чаму гэта яны павінны вітацца з ім, не ведаючы, хто ён, адкуль.

— Я — Шабовіч, Станіслаў Антонавіч. З Мінска. Член падпольнай арганізацыі.

Золатаў ажно крактануў ад задавальнення — знаёмы прыём, колькі разоў чуў: «Я — стары бальшавік».

Ману таксама не спадабалася такое самаўпэўненае прадстаўленне — быццам дакументы паклаў на стол. Падпольшчык павінен ведаць, што такое прадстаўленне на вайне, у сітуацыі, у якой ён апынуўся, мала што значыць. І камандзір задаў пытанне, якое, здавалася яму, хоць штосьці магло прасвятліць ці ва ўсялякім разе падказаць гэтаму дзіваку, калі ён наш чалавек, што не з таго трэба пачынаць:

— Як вы знайшлі нас?

— А мяне правёў хлапчук... тутэйшы. Ён тут усе хады знае.

Запунцавеўся і закашляўся Брагінскі: ахова лагера абавязак начальніка штаба.

— А хлопчыка дзе вы знайшлі?

— О, гэта доўгая гісторыя!

— І што вы прынеслі нам? — спытаў Золатаў.

Шабовіч разгубіўся, нават азірнуўся: а што ён павінен быў прынесці?

— Нічога не прынёс. Пісталет. Мяне арыштавала СД. Я ўцёк у першую ж ноч. У горадзе татальная аблава. Заставацца там немагчыма было. І мы пайшлі...

Золатаў зноў кракнуў і рэзка нахіліўся, быццам яго ўдарыла ў жывот. Не, радаснае хваляванне ўдарыла ў балючае месца — у радыкулярнае спляценне, так б'е пры стрэсе. Падумаў:

«Выдае сябе — тэрміналогіяй: татальная!»

— Хто — мы?

— Я і... мая жонка... падпольшчыца Аксана Каваленка. Ды я па парадку раскажу вам, калі маеце час. Гісторыя доўгая.

— Расказваць табе, хлопча, прыйдзецца незалежна ад таго, маем мы час ці не,— заўважыў Ман, падняўшыся са свайго тапчана. Ён зняў з печы каструлю з супам, які весела булькаў і напаўняў зямлянку апетытным пахам падсмажанага з цыбуляй сала. Снеданне адкладвалася.

Шабовіч галодна пракаўтнуў сліну.

— Дык я па парадку раскажу? — спытаў дазволу.

— Само сабою разумеецца, па парадку,— згадзіўся Аляксей Іванавіч.

— Парадак буду вызначаць я! — катэгарычна заявіў Золатаў.

Шабовіч у самым пачатку вырашыў, што камандзір атрада — вось гэты, адзеты ў армейскую форму чалавек, і звяртаўся пераважна да Золатава, хоць душа яго цягнулася да равесніка — да Ігара; здавалася, што гэты бялявы бязвусы хлапчына зразумее яго хутчэй, чым хто.

Які ж парадак прапануе камандзір?

Золатаў сеў да стала, дастаў з планшэткі блакнот, карандаш.

«Як следчы»,— падумаў Шабовіч, хоць ніколі са следчым не сустракаўся, ведаў іх па кнігах, па кіно. Азірнуўся, на што сесці — нылі ногі. Але садзіцца яму не прапаноўвалі. Гэта крыўдзіла. Ён разумеў, як нялёгка яму паверыць, аднак не сумняваўся, што, калі выслухаюць яго шчырую споведзь, не могуць не паверыць. Але сесці прапаноўваюць нават выяўленым злачынцам.

Парадак заключаўся ў тым, што «следчы» сказаў:

— Слухаем вас.

Трохі звязвала, што мусіў расказваць стоячы, пераступаючы з нагі на нагу. Але, можа, гэта дало расказу тэмп, дынамізм, і ён хутка забыўся на сваё становішча. З імпэтам, з гонарам за сяброў расказваў пра сваю падпольную групу, назваў па ходу імёны ўсіх дзевяці чалавек, чыё сапраўднае імя, чыю падпольную клічку. Прозвішчы абыходзіў. Калі прадстаўляўся, назваў сваю ды Аксаніну і кіраўніка свайго, Піліпа Станудіна, назваў поўнасцю. Кіраўнікі Цэнтра ўсе ішлі пад клічкамі, ды акрамя Кулагіна і Клюшава, які аказаўся правакатарам, іншых прозвішчаў ён не ведаў. Ведаў людзей іншых груп, напрыклад, іх, бальнічныя, былі ў трох розных групах, але пра іх паведаміў між іншым, «для фону», без імёнаў, без іх аперацый, хоць некаторыя з гэтых аперацый былі вядомы не толькі яму, падпольшчыку,— усяму насельніцтву. Пра дзейнасць сваёй групы расказваў падрабязна — пра дыверсіі, пра ліквідацыю рэдактара, пра збор характарыстык на служачых управы, чым займаўся Іван, пра збор разведдадзеных аб правозе на фронт нямецкіх часцей.

— І каму перадаваліся гэтыя дадзеныя?

— Піліп быў звязаны з армейскай групай, яна мела рацыю.

— У горадзе? — зацікаўлена ўскінуў галаву Золатаў.

— Не знаю, можа, і ў горадзе.

«З армейскай ці з нашай?» — падумаў Золатаў. Яму не давала спакою група Новікава, яго калегі, маёра ўпраўлення контрразведкі, якую выкінулі з таго ж самалёта, толькі ў другім раёне, на поўдзень ад Мінска, некуды ў пухавіцкія лясы. Якаў Міхайлавіч думаў пра Новікава ўвесь час з бояззю, што Новікаў прабраўся ў горад і вядзе перадачы адтуль. Такая ўдача таварыша, якой па логіцы трэба радавацца, для Золатава была вельмі непажаданай, яна закрэслівала б яго радыёграмы аб немагчымасці прабрацца ў Мінск, аб правале яго разведчыкаў. Тое, што нямецкі агент — а ён не сумняваўся, што Шабовіч агент — так лёгка прайшоў у лагер, Золатаў звязваў з правалам свайго чалавека лейтэнанта Кротава, якога пасылаў адгэтуль. Выдаў лейтэнанцік планы, усе дыслакацыі, усіх людзей. Можа быць, што гэты падасланы з мэтай забіць яго, Золатава. Не, хутчэй за ўсё, каб выдаць атрад. А можа, задума ворага больш хітрая.

Золатаў раскрыў блакнот.

— Прозвішчы членаў вашай арганізацыі.

І тут у Шабовіча як бы адбылося кароткае замыканне. Спачатку расказ цёк без супраціўлення, свабодна; праўда, калі падмяняў прозвішчы клічкамі, адчуваў некаторую няшчырасць перад гэтымі

людзьмі, якім вырашыў расказваць усю праўду, разумеючы, што толькі праўда можа пераканаць іх. І раптам — прозвішчы. Для запісу. А іх ніхто нідзе не запісваў. Усе разам. Была ў іх свая клятва, групавая, яны, канешне, не палілі рукі на агні, не распісваліся крывёю, але па-брацку дамовіліся: ні ворагу, ні маці роднай, ні пад катаваннем, ні на сяброўскай гулянцы не называць прозвішчы сваіх людзей, ва ўсялякім разе так, каб камусьці прыйшло ў галаву: ёсць група, арганізацыя. А чым займаецца тайная арганізацыя ў акупіраваным горадзе — пра гэта дзіця здагадаецца; пра падпольшчыкаў мяшчане шэпчуцца — хто з асуджэннем, хто з захапленнем.

Вопытны следчы адразу злавіў гэтую замінку.

«Цямніць, сволач. Ды я цябе наскрозь бачу».

Мільганула ў Шабовіча жаданне выдумаць прозвішчы сяброў, хоць трэць ён ужо назваў. Але тут жа адкінуў гэты намер. Няпраўда вылазіць, што шыла з мяшка. Пачнеш сачыняць прозвішчы — запнешся і страціш давер. Назваць прозвішчы знаёмых, не звязаных з падполлем? Але ж гэты блакнотны лісток можа стаць калі-небудзь сур'ёзным дакументам.

— Станулін Піліп Іванавіч, Ткачук Іван Рыгоравіч...

— Характарыстыкі. Узрост. Паходжанне. Дзе працуе. Прыкметы. Асаблівасці характару.

— А навошта? Вы будзеце правяраць? Здолееце?

— Трэба будзе — праверым! — голас чалавека, якога Шабовіч палічыў камандзірам, рабіўся ўсё больш суровым, пракурорскім.

Гэта адчуў і Ман, які ведаў падобныя прыёмы. І асудзіў: неразумны метад, хлопец можа замкнуцца і не сказаць усёй праўды. Безумоўна, проста так, па адным самапрадстаўленні, без роспыту, нельга верыць, вораг хітры, падкідваў ужо шпіёнаў. Але вопыт яго жыццёвы і чалавечая ўважлівасць настройвалі ў карысць гэтага маладога чалавека.

Аляксей Іванавіч адкарэкціраваў метад допыту — падаў Шабовічу табурэтку.

— Ты сядай. У нагах праўды няма. Курыш? Дай яму, Ігар, закурыць.— Шабовіч сеў. Закурыць яму страшэнна захацелася — каб суняць хваляванне. А кісет з махоркай, якую раздабыў Міколка, забыў на гарышчы Ганнінай хаты. Прагна глядзеў, як Ігар адарваў шматок газеты, насыпаў махоркі, працягнуў яму:

— На, круці.

— Дзякуй. У мяне такое ўражанне, што я недзе бачыў цябе. Не на з'ездзе камсамола?

— Камсамолец? — спытаў Ман.
— Канешне, камсамолец.
Золатаў скрывіўся.
— Дык што ж цябе прывяло да нас? — накіроўваў допыт Ман.
— Арышт. СД нас арыштавала. Але я па парадку...
— Толькі па парадку,— не параіў — патрабаваў камандзір.
Трое слухалі яго з незвычайнай уважлівасцю, з шчырым жаданнем зразумець, што за чалавек да іх з'явіўся, нечакана, падазроным шляхам. Чацвёрты, Золатаў,— з адзінай мэтай: на чым яго злавіць. Людзі на допыце заўсёды спатыкаюцца, ва ўсялякім разе, маючы вопытнае вока і вуха, можна ўбачыць і пачуць, дзе яны гавораць праўду, а дзе пачынаюць сачыняць, каб выгарадзіць сябе ці кагось блізкага.
...— Чакай. Каго арыштавалі?
Шабовіч сказаў.
Золатаў глянуў у блакнот.
— Хацяновіча і Чурсіка вы не называлі.
— Дык яны ж не падпольшчыкі. Хацяновіча мы хацелі ўцягнуць, электрык управы мог бы і паслухаць што трэба і зрабіць. А Чурсік паліцэйскі. На ім мы паставілі крыж.
— Што значыцца крыж?
— Што нашым чалавекам ён не стане. Але ў яго доўгі язык, гуляючы, мы выцягвалі з яго патрэбныя звесткі. Ад нас ён не скрываў. Баец самааховы — Іван, фельчар бальніцы — я. Лічыў нас сваімі людзьмі.
— Сваімі?
— Ну, як сваімі... у галаву яму не прыходзіла, што мы падпольшчыкі.
— І часта вы гулялі ў гэтага Чурсіка?
— Не часта, але здаралася.
Золатаў хмыкнуў, не стрымаўся ад уедлівай заўвагі:
— Прыемна вы час праводзілі... з паліцэйскімі...
— Таварыш камандзір! Вы не ўяўляеце асаблівасці падпольнай работы. Нам прыходзіцца выкарыстоўваць любыя метады. З ваўкамі жыць...
— Пакуль што я вам не таварыш.
— Я разумею.
«Усё ты, сволач, разумееш, толькі ягнёнкам прыкідваешся»,— падумаў Золатаў. А Ман падумаў не лепшым чынам пра самога Золатава: «Тапорна працуе чэкіст. Не ўлічвае, што іншай

магчымасці праверыць, хто гэты чалавек, у нас няма. Толькі адно — паверыць ці не паверыць у тое, што ён раскажа».

Аляксею Іванавічу хацелася паверыць.

— Прадаўжайце, Шабовіч,— сказаў камандзір, робячы націск на прозвішчы. Калі хлопец недурны, то павінен акрыліцца гэтым — што паверылі ў яго прозвішча. Ман стараўся хоць як падтрымаць яго і знізіць пракурорскі тон начальніка асобага аддзела.

Па турме пытанні ўзнікалі ва ўсіх. У Брагінскага — чаму яўрэяў адбіралі асобна?

— Іх расстралялі ў тую ж ноч. Не сумняваюся.

Капітан, і без таго бледны, пабялеў.

Ман спытаў, колькі ўсяго было арыштаваных.

Шабовіч шчыра прызнаўся, што назваць лічбу не можа, але, напэўна, не менш двухсот.

— Дзеці былі? — спытаў Ігар.

— Дзяцей не было. І жанчын нямнога.

А Золатава зацікавіў адзін чалавек — Бяспалы.

— Вы ўпэўнены, што пазналі ў ім аднаго з кіраўнікоў падполля?

Шабовіч задумаўся, прыгадваючы, як ён сказаў пра Клюшава. Не, не казаў ён, што Клюшаў кіраўнік.

— Станулін сказаў нам, што гэта чалавек з Цэнтра, юрыст.

— І ён вучыў вас рабіць дакументы?

— Вучыў.

— З веданнем справы?

— Прафесійна.

— І вы рабілі дакументы па яго рэцэпце?

— Я дакументамі не займаўся. У мяне быў легальны пашпарт.

— Нямецкі?

— Не, савецкі. З нямецкім штампам. І пропуск начны.

— За што такія прывілеі?

— Я ж фельчар.

Золатаў падумаў: добра фашысты рыхтуюць сваіх агентаў, легенды на іх. А яго групе наркаматаўскія кручкатворы пашпарты выдалі ліпавыя — нямецкія, і легенды ў тых, хто пайшоў у Мінск, ды і ў яго таксама, былі прымітыўныя ў параўнанні з легендай гэтага Шабовіча.

«Праверу, які ён фельчар. У шпіталі. Ці зробіць перавязкі, ці назаве лякарствы?»

Золатаву хацелася аб'яднаць правакатара Клюшава з Кавалёвым, у здраду якога не вераць разяваты Дзядзюля і Ман,

але, мяркуючы па радыёграме, верыць Панамарэнка. Радыёграма, што Кавалёў — Клюшаў — Бяспалы, пацвердзіла б думку ў штабе і ў яго наркамаце аб правакатарскім характары ўсяго падполля. Асабіста яго гэта не здзіўляе. Колькі іх засталося, недабітых ворагаў, ды і многія з тых, каго яны ўзялі, у пачатку вайны выслізнулі. Пры эвакуацыі турмаў сотні ўцякалі. Гэта ў яго хапіла розуму ліквідаваць групу, якую вёў з Мінска ў Магілёў, калі зразумеў, што не давядзе. Ды і навошта даводзіць?

Гэты шпіён хоць і добра падрыхтаваны, але наіўны, не разумее, што сваім блытаным расказам пацвярджае даўнія цвёрдыя перакананні яго, Золатава, наконт усяго падполля; не верыў у яго яшчэ ў Маскве, партызаны — справа іншая, многія атрады сцэментаваны работнікамі НКУС. Вось і ён навёў парадак у гэтага загадкавага маўчуна Мана. Без яго яны разявілі б раты перад такім Шабовічам.

Гестапа добра ведае псіхалогію «падпольшчыкаў»: пасадзілі арыштаваных у машыны і — паказвайце кватэры сваіх, і паказвалі, можна не сумнявацца.

— І многа вы паказалі кватэр сваіх таварышаў?

— Я? Ніводнай.

— Хвала. Хвала.

І прагучала ў гэтым «хвала» такая іронія, што ў Шабовіча ад крыўды заняло дыханне.

Ён абвёў затуманеным позіркам усіх камандзіраў: няўжо ніхто яму не верыць? Не, у старэйшага, барадатага, добрыя спагадлівыя вочы. Не можа ён не верыць! І спакойны добразычлівы загад:

— Прадаўжайце, Шабовіч.

Але калі ён расказаў, як піхнуў з кузава вартавога, скочыў на яго так, што хруснулі косці, і схаваўся ў двары таго дома, куды пайшлі афіцэры, камандзір у форме сарваўся са сваёй канапы і прайшоўся вакол печкі ледзьве не ўпрысядкі, так робяць ад вялікай радасці, але тут жа застагнаў, схваціўся за паясніцу.

Сапраўды Золатаву ўдарыла ў спляценне радасная эмоцыя, выходзіць, радасць б'е, як страх, які ён перажываў намнога часцей; праўда, біла і ў сэрца і ў паясніцу, калі біў ён, страляў, але то была не радасць, таму пачуццю назвы няма, там скачок узвышэння над ахвярай, прага помсты таму, хто прымушаў яго ўніжацца да катавання, змешваўся з брыдкай згрызотай сумлення, з тайным страхам перад магчымасцю самому апынуцца ў становішчы падследнага. А ён добра ведаў, што тады ніводзін з

яго калег не пашкадуе яго, як нікога з былых саслужыўцаў, хто зламаўся, не пашкадаваў ён.

— Вы не верыце ў праўдападобнасць майго вызвалення?

— Пастарайцеся, каб мы паверылі,— зноў іронія.

— Мне самому не верыцца, што ўдалося так... Я яшчэ там падумаў, што, мабыць, СД трэба было, каб нехта з нас уцёк. Можа, мы з Іванам. Яны сачылі за намі. Бо адкуль у іх фатаграфіі? У турме не фатаграфавалі. Я раскажу, як да Чурсіка прыйшлі паліцэйскія і паказалі размножаныя фота. І на іх — Іван і я.

Золатаў устрапянуўся. Тут не да іроніі. Гэта нешта новае. Новы паварот, нечаканы. Падследны сам выдае сябе. Але навошта?

Маёр пашукаў у памяці аналагаў. Усё было: прызнаваліся, каяліся. Але каб у самым пачатку нехта рабіў падобны ход — такога не ўспомнілася. Недаацаніў, выходзіць, ён гэтую залётную птушку. Тып непамерна больш складаны, чым кожны нават з тых, што білі сябе ў грудзі: «Я — стары бальшавік».

Гэты ў грудзі не б'е і нават не збіраецца. Гэты прызнаецца, што яму далі магчымасць уцячы. Але з якой мэтай робіцца такое прызнанне — во задачка, якую яму, чэкісту, належыць рашыць. На дапамогу Мана і нават Брагінскага спадзявацца няма чаго. Развесілі вушы. Верацъ.

— А навошта гестапа трэба было выпускаць вас? Як вы думаеце?

— Чорт іх знае. Як прыманку — прымітыўна. Добра СД ведае, што мы не такія наіўныя. Думаю, што правакацыя замышлялася больш складаная. Але якая?

— Гестапа ўмее,— заўважыў Ігар.

— Між іншым, каб вы ведалі. У Мінску няма гестапа. Немцы з пачатку вайны размежавалі свае службы. Гестапа — тайная палітычная паліцыя — дзейнічае ў самой Германіі. На акупіраваных тэрыторыях гэтую работу выконвае СД — аддзел палітычнай контрразведкі, «вафен СС» — войск СС. Так у іх пераплецена...

Гэтым Шабовіч канчаткова загубіў сябе перад Золатавым.

«Бач, які дасведчаны, падлюга!»

Сам ён быў невысокай адукацыі, рабіў ва ўпраўленні ўнутранай бяспекі. Ім чыталі лекцыі аб структуры нямецкіх органаў, але ён не ўнікаў у яе — здалося залішне складанай і непатрэбнай для практычнай работы. Зацікавіўся ўсім гэтым, калі назначылі камандзірам спецгрупы, але часу на падрыхтоўку заставалася мала, трэба было асвоіць многія практычныя абавязкі,

напрыклад, тыя ж скачкі з парашутам, вывучэнне зброі, сваёй і варожай, прозвішчы мінчан, з якімі можна было б паспрабаваць устанавіць сувязь, метады канспірацыі. Ды мала чаго! Словам, не да тэорыі было, званні афіцэраў СС не ўсе запомніў, «штурмаў» гэтых. Тое, што арыштаваны як бы тыцкнуў яму, разведчыку, яго няведанне таго, што, разумеў, абавязаны быў ведаць, моцна закранула і ўзлавала. Але гэтую ўспышку ён патушыў. Даймала іншае: з якой мэтай шпіён так лёгка прызнаецца ў сваіх ведах? Як усе людзі яго складу, Золатаў быў высокай думкі пра свае разумовыя здольнасці, і яго проста даводзіла да шаленства, што не можа ён разгадаць хітрыя хады гэтага шчанюка, які выдае сябе за радавога падпольшчыка. Малады ж яшчэ, гад, для вопытнага разведчыка. Мусіў, тоячыся ад самога сябе, прызнаць, што немцы рыхтуюць сваіх агентаў лепш, чым рыхтавалі яго, а тым больш радавых яго групы.

«Ашаламіць яго пытаннем — якую школу скончыў? Не, рана. Трэба дaслухаць да канца яго казку для дурняў».

Між тым у Аляксея Іванавіча думка ішла зусім у іншым напрамку: ён пахваліў хлопца за дасведчанасць, за веданне ворага. Скончыцца ўсё добра, стане Шабовіч байцом атрада — няхай перадасць свае веды партызанам, ворага трэба вывучаць.

Магчыма, у занятага «рашэннем задачы» Золатава, парвалася нітка Шабовічавага расказу.

— Стоп! Да каго вы пайшлі?

— Да Чурсіка. Да паліцэйскага. У каторага арыштавалі нас.

Золатаў зноў сарваўся з тапчана і прайшоў вакол печкі, але не прысядаючы, толькі расціраючы паясніцу. З рота яго выбулькнуў кароткі дзіўны гук — не то рогат, не то стогн болю.

Спыніўся перад Шабовічам.

— І што вас павяло туды?

— Разважыў: толькі там, у доме паліцая, мяне не будуць шукаць. І адзецца трэба. Я ж застаўся ў адным пінжачку. Адубеў. А галоўнае — Аксану папярэдзіць. Толькі жонка паліцая магла схадзіць у бальніцу, не выклікаючы падазрэнні...

Золатаў павярнуўся да Мана:

— Глядзі, Аляксей Іванавіч, любуйся: які стратэг і тактык. Геніяльна! Ніколі не прыдумаў бы.

— А што? Лагічна,—сказаў Брагінскі.

— А я што кажу? І я кажу: вельмі лагічна.

Не, не ўхваленне выказваў чалавек, якога Шабовіч лічыў камандзірам,— уедлівы здзек, хоць і прыкрыты знешнім спакоем.

Трэба дурнем быць, каб не зразумець гэтага. Крыўдна да болю. Але Шабовіч захоўваў разважлівасць, якой навучыла падпольнае жыццё.

«А я паверыў бы на іх месцы?» — падумаў ён. Магчыма, і паверыў бы. Здаецца, два маладыя хлопцы вераць. А старэйшыя?.. У іх вопыт. Камандзір крыўдна не верыць, здзеклівa. Барадаты панура маўчыць. Зрэдку, праўда, у яго добра загараюцца вочы. Нялёгка будзе прымусіць гэтых людзей паверыць яму. У нейкі момант іранічна пасміхнуўся над сваім становішчам.

«Хто я такі для іх? Бяспашпартны бадзяга».

Лежачы на гарышчы ў Ганны ў мінулую ноч, ды і ў папярэднія ночы, ён прыкідваў, як трэба расказваць у атрадзе, каб паверылі яму. Меў намер аб прабыванні ў Чурсіка расказаць з гумарам — хто каго трымаў пад арыштам. Сапраўды сітуацыя забаўная. Але пасля ўедлівай заўвагі «следчага», яму раптам здалася ўся гісторыя з Чурсікам больш неправўдападобнай, чым нават уцёкі з машыны ад эсэсаўцаў. Падумаў, што, напэўна, і сам ён прыняў бы падобную прыгоду з недаверам ці ва ўсялякім разе з пытаннямі, на якія, калі яны з'явяцца, няпроста будзе адказаць. Таму прабыванне ў Чурсіка ён «праскочыў» — ні дранікаў, ні карцёжнай гульні. Толькі паліцэйскія, бо меў неасцярожнасць раней сказаць пра фота, прыход Хрысціны і чаканне ночы на гарышчы. Але і гэта выклікала ўедлівую ўсмешку Якава Міхайлавіча, так да яго звярнуўся малады кучаравы вайсковец, і новае ўедлівае пытанне:

— Навошта ж было трымаць яго пад пісталетам? Такі надзейны друг!

— Чаму вы лічыце — надзейны? Паліцай. А паліцай — што сабака, невядома, калі схопіць за лытку.

— Што ж вы з ім так нюхаліся?

— У карты? Гульня. На карысць справе. Я ж казаў: Чурсік многа балбатаў. Напрыклад, ён выдаў нам вераснёўскую акцыю.

— Што за акцыя?

— Гэткая ж татальная аблава.

— І ваша група ўцалела? — спытаў Ман.

Золатаў ухваліў яго пытанне, падміргнуўшы,— крыўдна для Шабовіча.

— Аднаго арыштавалі. Чыгуначніка Масюкевіча. Станулін змяніў кватэру і месца працы. І прозвішча, пашпарт.

І тут раптам Шабовіч спахапіўся:

«А навошта я выдаю такія звесткі?»

Яны не вераць яму — гэта зразумела. Навошта ў такім разе яму выкладваць усё? Ёсць дзейнасць падпольшчыкаў, якую ім, партызанам, зразумець немагчыма. Ім дзіўна. Іх шмат што здзіўляе з таго, што ён расказвае.

На самай справе ўсё было глыбей: недавер да яго патроху размываў поўны давер да іх, ва ўсялякім разе да гэтага, які вядзе допыт, з яго адкрытай падазронасцю, што мае справу з ворагам. Чаму думаць менавіта так, а не інакш — зыходзячы з таго, што перад табой сумленны савецкі чалавек? Безумоўна, ворагаў народа было многа. Колькі іх арыштоўвалі! Але ж вайна паказала, што дзевяноста пяць працэнтаў, калі не больш, шчырыя савецкія патрыёты. «Дык чаму ж ты не даеш мне месца ў гэтай абсалютнай большасці? — думаў Шабовіч.— Табе ж было б лягчэй дайсці да праўды».

Асудзіўшы сябе, што выдаў імёны людзей сваёй групы, Шабовіч вырашыў: больш ніякіх імёнаў, ніякіх адрасоў людзей, што памагалі яму. Асабліва вясковых, недалёкіх, бо могуць пачаць правяраць вось такім метадам, зрабіў чалавек добрую справу, а яго будуць дапытваць з падазронасцю.

Каго гэта пацешыць у ваенны час?

Цётка і дзядзька, як і сама вёска Цнянка, з расказу выпалі, хоць Золатаў чамусьці вельмі зацікавіўся, дзе ж Шабовіч сустрэўся са сваёй жонкай.

— У полі? Пад Паперняй,— мясцовасці Золатаў не ведаў, і назва вёскі яму мала што сказала, але ён лагічна ўсумніўся, што ў цёмную асеннюю ноч можна так лёгка сустрэцца ў полі двум чалавекам, якія не маюць ніякіх сігналаў, нават запалак. Не словамі, а позіркам, у якім была і перасцярога хлопцу, выказаў сумненне і Ман, які добра ведаў, на якой адлегласці Паперня ад Мінска.

Падрабязна, з дэталямі, Шабовіч расказаў, як раніў паліцай Аксану і як ён забіў таго паліцая. Гэта выслухалі ўважліва, без сумніцельных ухмылак, вярнуўшы Шабовічу надзею, што і тут яму паможа Аксана, як памагала неаднойчы ў горадзе,— яе раненне прымусіць камандзіраў паверыць яму.

— Дзе гэта адбылося? — спытаў Ман.

— Не знаю,— адказаў Шабовіч.

Сапраўды ён не знаў, як называлася тое лясное ўрочышча і вёска, адкуль паліцэйскі прыехаў. Але назву вёскі дзеда Івана ён знаў, аднак не сказаў, бо пра яе запытаў Золатаў. Ён жа слушна вымавіў:

— Які ж ты падпольшчык? Бярэш у чалавека каня і не пытаешся, куды яго вярнуць. Так партызаны не паступаюць.

Ахоўваючы дарагіх яму людзей, Шабовіч мяняў ім імёны: дзед Іван — Андрэй, Мар'яна — Ганна, а Ганна — Мар'я, Міколка — Дзімка. І няўцям яму было, што калі не імёнамі, то назвамі вёсак ён шкодзіць сабе, разбурае давер да свайго расказу, не ў Золатава,— у сапраўднага камандзіра — у Мана, які ведаў не толькі свой раён, але ўсю вобласць. Скрыўшы, дзе засталася Аксана,— да таго часу, пакуль не паверацъ яму, не паверыць ён гэтым людзям, што здзівілі і ашаламілі сваёй падазронасцю,— Шабовіч назваў адну з тых вёсак, міма якіх хадзіла Аксана ў атрад Дзядзюлі і міма якіх павінен быў ісці ён, каб ішоў адзін, без Аксаны.

Золатаву гэта нічога не сказала. А Ман адкрыта здзівіўся. Ман спытаў:

— Калі вы выйшлі адтуль?

— На світанні.

— Сёння?

— Так.

— З хлопчыкам?

— Так. З Дзімкам.

— Колькі, вы сказалі, гадоў яму?

— Трынаццаць.

— І ён пайшоў назад?

Камандзір панурыўся і стоена ўздыхнуў, сумна падумаўшы: «Цямніць чалавек. Цямніць, Але навошта — во загадка. Недурны, здаецца, хлопец, а маніць наіўна. Да вёскі той трыццаць вёрст».

А Шабовіч, пачуўшы гэты ўздых, дайшоў да яго сэнсу і зразумеў сваю памылку. Казала ж Аксана, што яны далёка ад Дзядзюлі. Чаму ён не падумаў, не высветліў — як далёка. Але адкрыць сваю ману цяпер — яшчэ мацней заблытацца і тым самым выклікаць большы недавер. Ды і страшна было падумаць, што з такой вось падазронасцю могуць дапытваць раненую Аксану. Няхай яна лепш паляжыць у Ганны. А ён дакажа гэтым людзям. Абавязкова дакажа! Не могуць партызаны не паверыць!

Пераканаўшыся, што не даказаў, хто ён ёсць у сапраўднасці, Шабовіч адчуў знясіленасць, ніколі не адчуваў такой фізічнай і душэўнай слабасці. Калі сутыкаўся тварам у твар са смерцю, наадварот, з'яўлялася энергія, імклівасць, мозг выдаваў думкі, што навальнічная хмара маланкі. А тут як разамлеў, размякчыўся, цела

налілося стомай. Спацеў ад зморы. Хацелася толькі аднаго, каб далі легчы і заснуць.

А Золатаў імкліва падняўся, паправіў папругу, падцягнуўся, па-новаму — на насочках — прайшоўся па зямлянцы. Спыніўся над Шабовічам, агледзеў яго галаву, пабялелую макушку, што прасвечвала праз рыжыя валасы.

— Ну, а цяпер пракруцім яшчэ раз.

— Што пракруцім?

— Расказ ваш цікавы, грамадзянін падпольшчык.

Ігар засмяяўся і замаліўся:

— Якаў Міхайлавіч! Пашкадуйце. Не снедалі. Кішкі марш іграюць.

Шабовіч на зварот «грамадзянін» не звярнуў увагі, А Ман ад яго сцяўся. Ён адзін ведаў, што значыцца «пракруціць»: не даць падследчаму апомніцца, адумацца, адпачыць і вымусіць яго ўсё паўтарыць, а паўтарыць дакладна немагчыма, абавязкова штосьці забудзеш, пераставіш месцамі даты, імёны, і на гэтым цябе ловяць. І Ман таксама запярэчыў з камандзірскай рашучасцю:

— Хопіць! Давайце снедаць. Атрад абедае. Нікуды падпольшчык не дзенецца,— і да Шабовіча: — А ты падумай. А то ты, брат, «даваў пеўня». Ведаеш, як спевакі «даюць пеўня»? Ці як кукарэкае маладзенькі певень. Узляціць на плот, тужыцца...

Золатаў перапыніў яго, незадаволена крэкнуўшы. Але супраць снедання не запярэчыў.

Толькі ў гэты міг да Шабовіча дайшло, хто камандзір атрада, і ён адчуў душэўную палёгку.

Паклікалі дзяжурнага.

— Пасадзі «госця» ў зямлянку падрыўнікоў, толькі паглядзі: на мінах яны не спяць па-ранейшаму? — загадаў Ман.

— Ды пра венгра не забывай,— строга папярэдзіў Золатаў.

— За венгра я не адказваю.

Камандзіры засталіся адны.

Золатаў стаяў пасярод зямлянкі ў позе пераможцы.

— Ну, што скажаце?

Ігар паціснуў плячамі.

— Здаецца, хлопец наш. Але мае ўражанне: нямала сачыняў. Навошта? Не ўсе канцы звязаў.

— Ёсць алагічнасці,— задумліва заўважыў Ман, не сказаўшы, аднак, пра галоўную няпраўду ў расказе падпольшчыка — пра вёску, дзе засталася яго сяброўка.

— А я веру яму,— рашуча выказаўся Брагінскі.— Лагічна ўсё толькі ў пратаколах следчых ды ў раманах.

Золатава абурылі словы капітана, якога ён апякаў пабацькоўску.

«Што ты знаеш аб пратаколах, сапляк?»

А начальнік штаба даводзіў сваё:

— А ў жыцці ўсё алагічна. Каб я расказаў, як людзі перадавалі мяне адзін аднаму — палысеў бы любы асабіст, ламаючы галаву — дзе праўда, а дзе хлусня, сачынёнасць.

— Наіўны ты чалавек, Навум,— пасміхнуўся Золатаў.

— Расказваў Дзядзюля... з'явіўся ў іх вось такі хлапчына... з Маладзечна. Столькі нагаварыў пра свае ўчынкі... Герой! Хоць тут жа вешай яму Залатую Зорку. Праверылі — нямала пацвердзілася: былі такія дыверсіі. А потым шэпча ён Дзядзюлю: «Камандзір, зрабі мне такую міну, каб я змог даехаць з ёй да Берліна. Гахну я гэтага гада Гітлера». Тут Цімоху і цюкнула. Лёгка ўстанавілі, што хлопец хворы, увесь горад яго ведаў. Вайна нарадзіла асобыя тыпы псіхічных захворванняў. Некаторыя з гэтых няшчасных добраахвотна ідуць на смерць. Адны — каб праславіцца, другія — не разумеючы небяспекі, трэція...

Золатаў выслухаў камандзіра са скептычнай усмешкай: загадкавы чалавек Ман — усяму шукае апраўданне, нават паліцэйскім, учора некаторых вывеў з-пад куль, пашкадаваў. Паўтарыў не аднаму Брагінскаму — усім!

— Наіўныя вы людзі. Шчасце ваша, што сярод вас вопытны чэкіст, а то ачмурыў бы вас гэты «казачнік». Няўжо не бачыце, што гэта за птушка! М-да, не кожны на гэта здольны. Тут трэба нюх мець. Нюх! Падрыхтаваны ён грунтоўна. Не дурні рыхтавалі. Вы дрэнна ведаеце прыёмы фашысцкай разведкі.

Наіўны малады камісар гатовы быў паверыць, што сапраўды вопытны чэкіст мае асаблівы нюх. Але Ман ведаў гэты «нюх», выпрабаваў на ўласнай шкуры, і, каб не ўзарвацца ад нахабнай самаўпэўненасці асабіста, сцяўся і старанна сёрбаў з драўлянай міскі халодны суп; цыбуляй ад супу ўжо не пахла — пахла бярозай; усяму атраду ён выразаў асінавыя лыжкі і міскі, сабе — бярозавую, не любіў горкага паху асіны, бяроза пахне хлебам.

— На ноч пасадзім яго ў «радыёрубку», рацыю перанясём сюды,— сказаў Золатаў, здзівіўшы і Мана, і Кіпеня, і Брагінскага. На якія ахвяры ідзе камандзір спецатрада! Над рацыяй ён дрыжэў, як над самай каштоўнай уласнасцю. Рацыя, разумеў, бадай, адзін Ман, была для Золатава той усёмагутнай зброяй, на

якой трымаецца не толькі яго аўтарытэт начальніка асобага аддзела, але і яго ўлада над камандзірам, над камісарам. Свае радыёграмы ён не паказвае. Тыя, што датычацца дзейнасці атрада, адрасаваныя ў партызанскі штаб, яны сачыняюць калектыўна, але невядома, наколькі дакладна яны шыфруюцца, робяць гэта двое — ён, Золатаў, і радыст, і ніхто іх не можа пракантраляваць. Рэдка знаёміць Золатаў іх і з адказамі Цэнтра, яго, Золатаўскага, наркаматаўскага. Для іх прызначаюцца радыёграмы штаба, шыфры якіх перадаў Дзядзюля. Апошняя такая радыёграма «Усім атрадам Мінскай зоны» — аб Мінскім падполлі. Яго, Мана, яна занепакоіла паспешлівай абагуленасцю, а Золатава ўзрадавала, ён гаварыў пра яе так, быццам ведае пра падполле ўсё. А што ён ведае? Роўна нічога. Паслухаў разважанні Дзядзюлі, яго здагадкі, сумненні.

Пад «радыёрубку» Золатаў прымусіў спецыяльна зрубіць хаціну накшталт лазні, бо пад зямлёй не той эфект работы рацыі, ды і сыра ў зямлянцы для такой тонкай і дарагой апаратуры. У доміку гэтым было адзінае акенца, закратаванае, дубовыя дзверы, цагляная печка, і начаваў там радыст, хоць на гэты аб'ект і склад боепрыпасаў ставіўся асобны вартавы — акрамя тых, што ахоўвалі лагер.

— Ну, што — падумаў?

— А што мне думаць? Я расказаў усю праўду.

— Усю ці не ўсю — гэта мы пабачым. Пачнём з таго, як арыштавала вас гестапа,— Золатаў знарок назваў орган, якога не існавала ў Мінску, каб выклікаць арыштаванага на спрэчку — няхай да канца выявіць сваю дасведчанасць у структуры фашысцкіх органаў. Але цяпер Шабовічу было ўсё роўна — гестапа ці СД, якая розніца, яшчэ там, у камандзірскай зямлянцы, ён прыйшоў да думкі, што лепш не ўнікаць у дэталі, не паказваць сваю дасведчанасць, лепш прыкідвацца прастачком.

— Давай характарыстыкі «карцёжнікаў».

Але змораны, галодны Шабовіч расказваў нехаця, «жаваў», прапускаў шмат што з таго, што расказваў у першы раз, ды і прастаком пачаў прыкідвацца. Не пачуўшы эпізодаў, характарыстык, якія запомніліся, Золатаў радаваўся сваёй інтуіцыі: усе адбываецца гэтак жа, як многа разоў у яго багатай практыцы — падследны пачынае выкручвацца і канчаткова заблытваецца. І хоць у адказ на яго пытанні падпольшчык дакладна аднаўляў прапушчанае, гэта ніколькі не ўплывала на перакананні следчага. Па сутнасці, уся ўвага Золатава і была

занята тым, што ён вылаўліваў разыходжанні ў першых паказаннях і цяперашніх, ад пытанняў амаль адмовіўся, разважыўшы, што чым больш арыштаваны наблытае, тым лягчэй яму будзе пераканаць суддзяў — Мана, камісара і нават Брагінскага. Добра працавалася, калі не трэба было пераконваць начальства, наадварот, яно папракала яго за лішнюю гуманнасць. Залаты час быў! Цяпер ён рабіў адно: спыняў падследчага, хоць той і без таго гаварыў, што гуму цягнуў,— каб запісаць яго паказанні, асабліва дакладна загасаць разыходжанні з тым, што чулі «Лапухі». Ён прымусіць яго падпісаць пратакол допыту — няхай пачытаюць.

Кухарка прынесла абед затрыманаму — камандзір загадаў.

Раней Матрона адносілася з павагай да Золатава—маёр! вышэй за капітана. Але пасля гісторыі з венграм страціла гэтую павагу. Вельмі ж нядобра начальнік дапытваў яе — усіх сваякоў да трэцяга калена перабраў. Цяпер жанчына знарок, падкрэслена, прыкідваючыся прастачкай, казала яму ты. Золатава гэта злавала, ніхто не адважваўся казаць яму ты, сам Ман — на вы.

— На, накармі чалавека! А то будзеш пра ўнукаў дапытвацца.

— Ты лічыш яго чалавекам?

— А хто ж я? — наіўна здзівіўся Шабовіч.

— Фашыст.

І знясілены хлопец не стрымаўся:

— Сам ты фашыст!

Але калі пайшла Баслычыха, пасміхнуўшыся з такой сутычкі, Золатаў пахадзіў па зямлянцы, не перадаўшы вязню кацялок з кашай, пасвістаў задумліва, спыніўся над ахвярай сваёй, зноў уважліва разгледзеў яго белую макушку ў развале рыжых валасоў.

— Дык хто я?

— Прабачце, я не хацеў. Нервы. Але ж я не фашыст. Няўжо цяжка паверыць? Я разумею, што праверыць немагчыма. Але я дакажу...

— А як жа — дакажаш!

Золатаў падняў руку над яго галавой і... раптам напрактыкаваным ударам, рабром далоні, як тапаром, секануў па шыі, напятай ад схіленай галавы.

Шабовіч зваліўся з калодкі, на якой сядзеў, што падкошаны, страціў прытомнасць.

Золатаў наском бота паварушыў яго цела. Пастаяў над ім мінут пяць. Нарэшце хлопец расплюшчыў памутнелыя вочы.

— Што ж гэта ты такі слабак? Ад слоў падаеш. Школу якую кончыў?

Шабовіч не адказваў.

— Паднімайся. Абедай. У нас людзі добрыя. Бачыш, як пашкадавала цябе кухарка. Набірайся сіл. І думай. Думай!

Пры другім прыходзе Золатава падпольшчык адмовіўся гаварыць.

— Я буду адказваць толькі ў прысутнасці ўсіх камандзіраў.

— Бач, сволач, унюхаў слабіну! Не, будзеш ты ў мяне гаварыць, калі мне трэба,— і даў кулаком пад дыхавіцу так, што Шабовіч зноў страціў прытомнасць.

Ачуняў — звінела ў галаве, балеў жывот.

Іншы чалавек — змрочны асілак з расплюшчаным, як у баксёра носам перавёў яго з зямлянкі ў прыгожую, утульную хаціну. Там прыемна пахла смалой і цёплай печкай. Застаўшыся адзін, Шабовіч пакутліва асэнсоўваў сітуацыю, у якую трапіў. У зямлянцы прыгадаў расказы пра тое, што немцы ствараюць правакацыйныя атрады з паліцэйскіх, якія тэрарызуюць насельніцтва, каб дыскрэдытаваць партызанскі рух, запалохаць людзей: хто пажадаў бы ўступаць у такія атрады? Праўда, Станулін аспрэчваў такія легенды. Але ці мог інжынер ведаць тайныя планы фашысцкага камандавання? Не бывае дыму без агня. Калі хадзілі чуткі, значыцца, і атрады такія маглі быць.

Дык ці не трапіў ён у правакацыйны атрад? Але Ганніны і Міколкавы адносіны да атрада аспрэчвалі такую сумную здагадку. Хоць... Хто так спаласаваў попу хлопчыку? Не гэты акуратна паголены, з ціхім голасам камандзір, які так дасканала валодае фашысцкімі прыёмамі допыту — так б'е ў жыццёвыя вузлы, што ўміг траціш прытомнасць? Ён, фельчар, колькі вучыў анатомію, хваробы, нідзе не вычытаў, не пачуў ад выкладчыкаў, не бачыў у кіно такіх удараў і быў упэўнены, што ў Савецкім Саюзе прыёмам такім вучаць хіба, мажа, пагранічнікаў, больш нікога, бо нікому яны не патрэбныя. У нас гуманныя следчыя органы, гуманная армія — усё гуманнае.

Аднак калі яго пераводзілі ў дамок, сустрэлася група партызан, з цікавасцю агледзелі, сказалі ўслед:

— Шпіён. У лагер з мінамі прабраўся. Да склада лез.

Так маглі сказаць толькі сапраўдныя партызаны. І яму хацелася закрычаць ім: «Таварышы дарагія! Ніякі я не шпіён! І ніякіх мін у мяне не было! Адзін пісталет». Але крыкнуць не мог — кожны крок аддаваўся ў жываце пакутлівым болем.

Пасля чуў галасы партызан, седзячы ў доме. Нехта мацюкнуў Гітлера, шчыра, пакручаста. Нехта насвістваў «Кацюшу». Успаміналі ўчарашні рэйд — як ганялі паліцаяў.

Не, вельмі падобна, што размовы гэтыя падладжаны спецыяльна для яго; у фальшывым спектаклі прабіўся б і фальшывы голас. Не, атрад сапраўдны, толькі хіба навучаны горкім вопытам — падкідвалі ім шпіёнаў. Гэта зусім натуральна. А калі ён сярод сваіх, то трэба ўсё стрываць, любыя пакуты, але даказаць, хто ён у сапраўднасці. Свае не могуць не паверыць у яго шчырасць, калі ў яго паказаннях не прагучыць і крупінка няпраўды. Праўда праб'ецца!

І Шабовіч акрыяў духам.

Але калі зноў прыйшоў следчы, яго пачало ванітаваць. Слабасць зневажала. А Золатава парадавала такая рэакцыя на яго з'яўленне. Знаёмая рэакцыя, з яе часта пачыналіся патрэбныя паказанні, пачыналася падзенне.

Золатаў перасадзіў падследчага з канапы за трохногі стол, на якім нядаўна стаяла рацыя, паклаў перад ім пакамечаны вучнёўскі сшытак і агрызак карандаша, а сам хадзіў вакол, доўга не задаючы ніякіх пытанняў. Хадзіў, насвістваў мелодыю песні «Броня крепка, и танки наши быстры...».

А Шабовіч чакаў чарговага ўдару, стараўся адгадаць, куды, у якое месца ён будзе нанесены, і пакутаваў, што перажывае жывёльны страх, ніколі такога не перажываў, напружваўся ўвесь, уціскаў галаву.

— Якую школу канчаў?

— Савецкую.

— Слухай... якое табе прозвішча там далі? Шабовіч? Будзеш Шабовіч пакуль... Але давай дамовімся: не будзем прыкідвацца дурнямі, ні ты, ні я. Мы з табой сур'ёзныя людзі. Ты сур'ёзны разведчык, я сур'ёзны контрразведчык. Ты добра знаеш, пра якую школу пытаю. Гульня павінна ісці на роўных.

— Кончыў яшчэ Аршанскі медтэхнікум. Можна праверыць. Недалёка.

— Ты здольны яшчэ здзекавацца з мяне? Недалё-ё-ка! Тваім начальнікам недалёка. Мне пакуль што далёка. Трапіў бы ты мне да вайны — праверыў бы я не толькі Оршу. Добра, дапусцім, я веру, што ты фельчар Шабовіч. Чаму ж ты не ў Чырвонай Арміі? А?

— Мы эвакуіравалі хворых. Адаслалі эшалон, а самі не паспелі. Хто ведаў, што немцы так хутка будуць у Мінску.

— Тысячы людзей пехатой пайшлі. Я да Магілёва ішоў. А ты, значыцца, не паспеў. Дык калі цябе завербавалі? Магу паверыць, што не да вайны. У якую школу накіравалі? У Варшаўскую? У Барысаўскую?

— Клянуся вам: я падпольшчык. Не верыце — звяжыцеся з атрадам Дзядзюлі. Ён ведае Аксану... я ж казаў... Яна хадзіла туды. Адтуль мы з'ездзім па Аксану.

— Адтуль? Вунь як! Не, мы з'ездзім адгэтуль... Адгэтуль! Вось карандаш... напішы. Сачыненне на вольную тэму. Не трэба расказаў, хто куды ішоў, у каго страляў — гэта мы запомнілі. Прозвішчы падпольшчыкаў, адрасы. Назвы вёсак. Дзе Аксана твая засталася. Адкуль дзед з канём... Усек?

Не падумаў Золата ў, што зноў насцярожыў арыштаванага, які было трохі расслабіўся,— патрабаваннем адрасоў падпольшчыкаў, якіх ён назваў. Навошта яму адрасы? Безумоўна, усе яго сябры, хто застаўся на волі, памянялі свае кватэры за гэтыя дні, але ўсё роўна ён не мае права называць старыя адрасы; гэта першы запавет іх клятвы.

— Я хачу пагаварыць з камісарам.

— А па шыі ты яшчэ не хочаш?

Шабовіч прыгнуўся.

— Я тут камісар. Над усімі камісарамі камісар.

«Аднак арэшак. Нічога, раскусвалі не такія. Трашчалі, толькі шкарлупкі ляцелі».

Прыгадаў выпадак чатырохгадовай даўнасці. Доўга біўся з адным пісьменнікам. Упарты быў, усё адмаўляў, усе абвінавачванні. А даў яму паперу: пішы. Напісаў. Сачыніў, што збіраліся яны на кватэры Пятра Глебкі і дамаўляліся, як забіць Варашылава, калі той прыедзе на манеўры. Яўна спадзяваўся, што начальства следчага, яго, Золатава начальства, палічыць гэта абсурдам і зверне ўвагу на метады следства. Наіўны чалавек! Сам падпісаў сабе смяротны прыгавор. За нацдэмаўскую дзейнасць мог бы атрымаць тэрмін, за тэрарыстычную — мера адна, вышэйшая.

Паглядзім, што гэты напіша. Некаторыя на паперы, застаўшыся адзін на адзін, раскрываюцца глыбей, чым на любым допыце. Трэба толькі ўмець чытаць такія паказанні, нават калі ў іх абсалютная лухта ці такое: «Пайшоў ты, яжоўскі пёс!..» Было і такое. Няхай нешта падобнае прачытае Ман, можа, прасвятлеюць яго мазгі. «Народнічак! Паліцэйскіх шкадаваў. За паліцэйскіх у цябе спытаюць, Аляксей Іванавіч. Пасля. А будзеш перашкаджаць

мне выбіваць ісціну з гэтага правакатара — радыёстанцыя ў маіх руках».

Золатава абурыла папярэджанне Мана, каб да падпольшчыка — ніякіх фізічных уздзеянняў. Аляксею Іванавічу сказала Баслычыха, што хлопец звяў, і выказала сваё меркаванне: «Ён б'е яго».

У Золатава свярбела рука, калі ён хадзіў вакол падследнага, колькі разоў прымяраў новы ўдар. Але стрымаўся, мусіў лічыцца з загадам камандзіра.

## *8*

У Мана быў свой план высвятлення асобы падпольшчыка. Атрымаўшы падтрымку камісара, ён за вячэрай выказаў гэты план у звыклай манеры — пра важныя справы паведамляць як бы між іншым.

— Заўтра павязём падпольшчыка да Цімоха. Ён мае сувязь з Мінскам. Хлопец кажа, што жонка яго — сувязная атрада. Дзядзюлі прасцей устанавіць, хто ён.

Золатаў што з ланцуга сарваўся. Падскочыў, пасінеў ажно, закрычаў, чаго не дазваляў сабе раней:

— Ты што — не давяраеш мне? Вопытнаму чэкісту? Я даўно заўважаю! — і сурова пагразіў пальцам.— Распусцілі соплі. Хутка цалавацца з немцамі будзеце. Партызаны, такую вашу!.. Думаеце, на вас няма савецкай улады? Думаеце, калі схаваліся ў лясах, дык органы да вас не дабяруцца?

Хто-хто, а Ман так не думаў, добра ведаў магутнасць і ўсюдыіснасць органаў. Больш таго, не вельмі верыў Золатаву, што група яго выкінута з мэтай пранікнення ў Мінск, лічыў, што ў НКУС — глабальная задача: ва ўсе атрады заслаць сваіх людзей. Інакш работы органаў бяспекі ў ваенны час не ўяўляў.

Таму Аляксей Іванавіч не ўжыў сваю камандзірскую ўладу і не асадзіў асабіста.

У сварку з ім палез Ігар:

— Што вы нас палохаеце? Брыдка слухаць!

— Можа, табе брыдка ад маёй прысутнасці? Атаманчыкамі хочаце быць? Махноўцамі?

— Якраз у вас махноўскія замашкі — ні з кім не лічыцца. Усім камандаваць хочаце. Забываецеся, што партызаны не армія — народны рух.

— Даеш анархію, значыцца? Раскрываешся, камісар! Хоць куды больш! Я даўно раскусіў цябе, малакасоса, што няспелы арэх. Гаўнюк ты, а не камісар! Размазня! Падпявала!

— Таварышы, таварышы, ну з-за чаго вы завяліся? — прасіў міратворца Брагінскі.— Байцы пачуюць — сорамна будзе.

Ман памаўчаў, паназіраў за начальнікам асобага аддзела, як карак у таго наліваўся сінюшнай чырванню. Адчуў, што і ў яго звініць у вушах. Спалохаўся злосці сваёй, бо ведаў, што ў такім стане нястрыманыя людзі хапаюцца за пісталеты. Страшным здалося гэтае жаданне — падняць зброю на свайго. Урэшце, чорт з ім, які ён чалавек, важна, што ён свой, калі ў гэтым няма сумнення, то даваць волю гневу нельга, бо яна можа перарасці ў нянавісць. А ненавідзець ёсць каго — акупантаў, здраднікаў.

Ман спакойна спыніў сварку.

— Не гарачыся, Ігарок. Ды і вы, Якаў Міхайлавіч... З-за чаго сыр-бор? Паедзем самі. З табой, Ігар. Параімся з Цімохам. У яго светлая галава. Калі ён ведае гэтага хлопца, калі праўда Аксана яго сувязная,— сам прыедзе па іх. Сваіх людзей не пакіне.

— Каровам хвасты ўмее круціць ваш Дзядзюля, а не разведку весці, тым больш контрразведку. Прымітыў сялянскі!

Ігар зноў кінуўся ў бой — у абарону праслаўленага камандзіра. Але Ман суняў яго з бацькоўскай строгасцю:

— Май павагу да старэйшых! Не навучыла цябе камсамольская школа!

Золатаў верыў толькі аднаму чалавеку — свайму намесніку па спецгрупе лейтэнанту Іванову, з якім разам працаваў некалькі гадоў. Ператварыў яго ў свайго целаахоўніка, нікуды не адпускаў, не даваў небяспечных заданняў, а самае небяспечнае з іх — паход у Мінск. Трое не вярнуліся. Заставаўся адзін, каго ён мог паслаць,— малаадукаваны і мала навучаны міліцыянер Стралінскі, вучыў яго, але не верыў, што ён здольны выканаць такое адказнае заданне — прынесці дадзеныя аб становішчы ў горадзе. А ў апошняй радыёграме Цэнтр зноў напамінаў, што звестак такіх ад сваёй групы чакае сам Цанава. Зноў прасіў людзей для Мінска ў Мана, але той і слухаць не захацеў: на верную смерць ён людзей не пасылае.

Пойдзе Стралінскі і... не вернецца, як не вярнуліся тыя трое. І застанецца ён з двума — з Івановым і радыстам Башлыковым. Але радыст прыгодны толькі для сваёй справы: студэнцік, мамчын сынок. Такі не заслоніць, не кінецца выручаць свайго камандзіра.

Надзея на Іванова. Але ж і ўсе асобыя заданні можна ўскласці на аднаго Іванова. І Золатаў у той жа вечар даў свайму намесніку такое заданне: раніцою злавіць дзе-небудзь ля бліжэйшай вёскі пацана, падростка гадоў чатырнаццаці.

Іваноў ніколі не задаваў пытанняў: навошта? для якой патрэбы? чаму? Пакорлівае маўклівае падначаленне: «Слухаюся, таварыш маёр». Зрэдку, калі не разумеў, гладзіў свой расплюснуты нос.

— Да выезду камандзіра і камісара ў лагер хлопчыка не прыводзіць.

— Слухаюся, Якаў Міхайлавіч.

Такі трохі фамільярны зварот Іваноў дазваляў сабе ў тых выпадках, калі здагадваўся, што начальнік давярае яму тое, пра што больш не ведае ніводная душа — ні таварышы па рабоце, ні вышэйшае начальства.

Камандзір і камісар з невялікай групай партызан выехалі на світанні.

Уначы пайшоў снег. Густы, сухі, ціхі, ён сыпаўся ўдзень, адзяючы елкі ў белае ўбранне. Лес набываў урачыста-святочны выгляд. І ад таго здаваўся вельмі мірным, прадвызначаным на радасць чалавеку.

За сябе Ман пакінуў начальніка штаба, што ўдарыла па самалюбстве Золатава. Брагінскага яшчэ звечара зноў распаліла. Чалавек не можа падняцца з ложка, і яго — за камандзіра. Не давярае таварыш Ман. Нічога, прыйдзе час — мусіш даверыць. Але на гэты раз на камандзіра была не злосць, хутчэй асуджэнне яго недалёкасці. Радавыя партызаны і тыя разумеюць ролю і значэнне начальніка асобага аддзела — вітаюцца заўсёды больш паважліва, чым са сваім камандзірам, а з бязвусым камісарам увогуле пані-брацтвуюць.

Золатаў хадзіў па апусцелым лагеры. Другая група партызан паехала на санях на раздабыткі харчу. Паслухаў Баслычыху, яе разважанні пра зіму.

— Ох, як я любіла яе! А цяпер не люблю: цяжка нашым хлопчыкам — сляды застаюцца.

Золатава зіма не хвалявала ні хараством, ні праблемамі. Звярнуў увагу хіба на тое, што кухарка стала добрая з ім, а то ваўчыцай глядзела. Пацешыўся міг, што, маўляў, і да яе даходзіць яго роля. Але іншым была занята галава.

Учора даў шыфроўку, што затрымаў агента-правакатара, які выдае сябе за падпольшчыка з Мінска. Вызначыў, што спадзяецца мець больш глыбокую інфармацыю. Дарэмна паспяшаўся, відаць. Як яе выбіць, гэтую інфармацыю?

Наведаў арыштаванага. Напісаў ён больш сцісла, але і больш лагічна тое, што расказваў. Ніводнага новага нюансу. Ні абсурду, ні супярэчнасці. Свярбелі рукі выпрабаваць даўно набытыя прыёмы допыту. Стрымаўся.

Непакоіла адсутнасць Іванова, доўга ён праводзіць такую дробязную аперацыю. Іваноў майстра на тое, чаго ніхто не ўмее. А на такой дробязі можа паслізнуцца, чаго добрага, наскочыць на паліцэйскіх, шныраць тут. Пашкадаваў, што сам не паехаў, каб падстрахаваць намесніка ў далікатнай аперацыі.

Не, Іваноў чалавек надзейны. З'явіўся са звялым, насмерць перапалоханым, пасінелым пацаном, прывёз яго на карку каня, як пакамечаны куль саломы. Скінуў на зямлю, як халодны снег.

— Во, камандзір, шпіёніў каля лагера, падлічваў нашых.

Хлопчык заенчыў:

— Дзядзечка, не шпіёніў я і нічога не бачыў. Я дровы сек у лесе. Каня ў нас няма. У хаце малыя мерзнуць. На сабе насілі з маткай. А тут сняжок выпаў. Можна на самацяжках.

— Кажы: хто цябе паслаў?

— Матка паслала, ды і сам я...

— Шпіёніць хто паслаў?

Малы заліўся слязамі.

— Не шпіёніў я, дзядзечка. Ніхто мяне не пасылаў. Хіба мяне маглі паслаць? Дзядзька Пятро ў партызанах.

— Расстраляем? — наганяў страху Іваноў.

У хлопчыка пачаўся панос, ледзьве паспеў спусціць порткі.

— Не спяшайся. Няхай пасядзіць падумае.

Шабовіч зразумеў, што яму падсадзілі «качку», здзівіўся і абурыўся, што для мэты такой выкарысталі дзіця. І зноў падумаў, што гэта фашысцкі атрад, а ўсе размовы, якія чуў праз сцяну, прызначаліся для яго. Але навошта такая інсцэніроўка? Дзеля чаго столькі людзей імкнуцца даказаць, што ён знаходзіцца сярод савецкіх партызан? За каго яго прымаюць? І што яшчэ ім трэба? Пра падполле ён расказаў усё, што ведаў, у чым цяпер раскайваецца. Той, што дапытвае, учора вельмі цікавіўся Кавалёвым. Але не ведаў ён такога кіраўніка, пачуў гэта прозвішча зусім нядаўна, перад сваім арыштам, сказаў Піліп Станулін, што чалавека, які кіраваў імі, арыштавалі і, можа быць, зламалі, бо

возяць па заводах, і ён нібыта заклікае адмовіцца ад барацьбы, кажа, што абух, маўляў, бізуном не перасячэш. Праўда, Станулін выказаў і сумненні ў здрадзе гэтага чалавека, сказаў, што пра выступленні яго гавораць, але ніхто з нашых не чуў. Адзін з падпольшчыкаў бачыў Кавалёва пад канвоем, счарнелага, у даўгім паліто, мокрым знізу; выказаў меркаванне, што ў таго перабіты мачавы пузыр.

Але нават гэтага Шабовіч не сказаў «грамадзяніну начальніку».

Хлопчыка стала шкада. Адразу ўбачыў, што не па сваёй волі ён трапіў сюды, не атрадны падшыванец, які згадзіўся на ролю «падсаднай качкі». Напалоханы так, што яго праняў панос. Двойчы садзіўся на асінавае вядро, якое на ноч пакідалі для яго, ды ён учора абвясціў галадоўку, так і сказаў свайму следчаму. Той крыва ўсміхнуўся.

— Пагаладай.

Распытаў хлопчыка, хто ён, адкуль, як трапіў сюды. І з расказу яго выцякала, што атрад правакацыйны, што партызаны з гэтага атрада не прыходзяць у іх вёску, а яна ж недалёка; з іншых атрадаў прыходзяць. Таяла Стасева надзея, што ўсё ж высветляць, хто ён, як паабяцаў барадаты камандзір, маўклівы, але з добрымі вачамі, глядзеў на яго спачувальна. Ці не таму «грамадзянін начальнік»,— хто ён тут — прадстаўнік нейкага вышэйшага органа? — рашуча адхіліў яго просьбу, патрабаванне пагаварыць яшчэ раз з камісарам і камандзірам.

Ёсць загадкі. Ёсць сумненні. Не, светлячок надзеі яшчэ свеціцца. Але наступіў стан, калі ён думаў не пра сябе, не пра сваё жыццё — пра Аксану. Як папярэдзіць, каб яна не апынулася тут? Ах, Міколка, Міколка, не той атрад ты адшукаў. Няхай Міколка дзіця яшчэ, як і гэты Адась, ім лёгка затлуміць галаву. Але Ганна... Выходзіць, ачмурылі навакольных людзей. Ох, як трэба і іх папярэдзіць, даверлівых сялян!

Як, што перадаць праз Адася — так, каб гэты не зразумеў, а Ганна і Аксана зразумелі. Нічога не мог прыдумаць. Хлопчык усё ж падсаджаны, напалоханы і клятвы яго, піянерскае слова, што будзе маўчаць, нічога не вартыя.

Прыйшоў Бязносы. На яго, Шабовіча, ніякай увагі: маўляў, справа даўняя і забытая. Сказаў Адасю:

— Шчасце тваё, пацан, разведчыкі ўстанавілі: праўда, што бацька твой у Чырвонай Арміі, а дзядзька партызан. А тады нам сказалі, што ты сын паліцэйскага. Таму і хапануў я цябе. Але засячы на носе: матцы роднай ні гу-гу, дзе быў. Пачакай, пайду

знайду дзяругу, каб завязаць табе вочы. І выведу цябе. Каціся... не на ўсе чатыры... у адзін бок, аўфідэрзейн, як кажа вось гэты,— зняважліва кіўнуў на Шабовіча.

І тут Шабовіч не вытрымаў. Як толькі Бязносы выйшаў, зашаптаў:

— Слухай, Адаська. Ты знаеш Макрыцу?

— Вёску?

— Вёску, вёску.

— Дык блізка яна, вярсты дзве ад нашай...

— Я прашу цябе... павер, што я наш, савецкі... прашу зайдзі да Ганны Прыхач.

— Да Міколкавай маткі? — узрадаваўся малы.— Мы разам каровы пасвім. Мой сябрук.

— Там у іх дзяўчына... Аксана. Скажы ёй... Каб у гэты атрад не ішла. Нядобрыя тут людзі, Адась. Не нашы. Ні ў якім разе каб не ішла. Няхай ідзе туды, куды з ёй ішлі. Перадасі?

— Перадам. Толькі б выбрацца мне адгэтуль.

Хлопцу завязалі вочы. Вывелі ў лес, і недзе ў гушчары, дзе яловыя галіны сцёбалі па твары, яго спыталі:

— Што ён табе сказаў?

— Хто?

— Фашыст, з якім ты сядзеў.

— Нічога.

— Іваноў! Назад яго, брахуна!

— Дзядзечка, родненькі, ён толькі папрасіў... ён папрасіў...

З цікавасцю выслухалі, што Шабовіч папрасіў.

— Не ўздумай жа перадаваць, а то мы цябе знойдзем.

Хлопцу развязалі вочы і далі дубца. Гукнулі:

— Ату яго!

І ён шмыгнуў у гушчар, пад елкі, што спалоханы заяц. Золатаў засмяяўся, але не з хлопца,— ад задавальнення, ухваліўшы сябе, свой розум, свой вопыт.

— Бачыш, Ваня, як яны аблажылі нас. Не сумняваюся, што гэта Аксана з рацыяй. А гуманіст з нямецкім прозвішчам развесіў вушы. Нам з табой яшчэ належыць раскусіць Мана-Манюка. Ад Дзядзюлі яны прывязуць, што ёсць падпольшчык Шабовіч, ёсць сувязная Аксана Каваленка. Былі. Але дзе яны? Вісяць яны, Іваноў, на суках у мінскім скверы. Ці даўно закапаныя. І прыйдзецца траціць порах, каб пераканаць гэтых цывільных дабрадзеяў. Лічаць, што яны тут вышэйшая ўлада. Што работнік органаў для іх нішто. Слаба мы даказвалі, хто мы ў дзяржаве. Не

да ўсіх дайшло. Правільна казаў таварыш Берыя: «Глядзіце, колькі сволачы вылезла на акупіраванай тэрыторыі. Як жа мы работалі?» Трэба папраўляць прамашкі. Трэба ачышчаць.

Золатаў памаўчаў, падумаў.

— Па закону тут не зробіш. Тройка ненадзейная. Пераступім закон, Іваноў. І атрымаем за гэта падзяку... ад народа... калі-небудзь ён зразумее, што не маны яго абаранялі тут, на захопленай ворагам зямлі.

Іваноў слухаў начальніка з асаблівай увагай, ажно вушы пачырванелі; не ўсё той гаварыў адкрытым тэкстам, нярэдка — далёкім намёкам, і намеснік абавязаны быў разумець, здагадвацца, і пакуль што не памыліўся, за што і любіў яго Золатаў.

— Выведзі яго ў прыбіральню, а то праваняў, падла, нашу радыёрубку. Брыдка зайсці.

— Зразумеў, таварыш маёр. Будзе зроблена.

Пасля таго як хлопчыка вывелі, Шабовіча ахапіла незвычайная нервовая ўзбуджанасць. Як мог клюнуць на такую прымітыўную падсадку? Добра ж разумеў, што да чаго, і аднак трапіў на кручок. Увогуле ўзнікла пачуццё безвыходнасці, а дагэтуль усё ж цяплілася вера ў людзей. Не ў «грамадзяніна начальніка» — у тых, што хадзілі міма хаціны, гаварылі пра свае справы, і справы гэтыя натуральныя, чалавечыя, партызанскія. Каб гэта быў спектакль, то, як бы добра ён ні быў пастаўлены, ігра вылезла б хоць у адной рэпліцы, а тут не было ігры, было жыццё. І вязень намерыўся: калі да хаткі наблізіцца колькі чалавек, закрычыць ім, што ён свой, што ён прыйшоў сюды, ратуючыся ад фашыстаў. Памажыце, людзі добрыя! Няхай судзіць увесь атрад, а не адзін!

Але шумна было на досвітку, а пасля лагер як вымер. За загатаваным акенцам сыпаўся снег. Глядзеў на яго, на заснежаныя сосны, і сэрца сціскалася ад смяртэльнай тугі.

Прыйшоў Бязносы.

— Я хачу гаварыць з усімі камандзірамі!

— У прыбіральню ты хочаш,— пацягнуў носам.— Пайшлі ў прыбіральню!

У галаву ўдарыў боль: «Гэта канец. Так ганебна».

— Мне не трэба ў прыбіральню.

— Праваняў увесь дом.

— Гэта малы, у яго панос... ад страху.

«Ва ўсіх у вас панос ад страху»,— пасміхнуўся Іваноў.

— Пайшлі,— вартавы расшпіліў кабуру.

— Пайшлі,— апанавала тая роспачлівая рашучасць, калі ўсё робіцца абыякавым, нават жыццё ўласнае.

Выйшаў без паліто, без фуражкі. Пастаяў. Агляну ўся на заснежаныя зямлянкі, над якімі чарнелі коміны. Над зямлянкай-кухняй уздымаўся празрысты дым — палілася печ, гатаваўся абед. Пабачыць бы тую добрую жанчыну, што ўчора прынесла яму есці. Яна зразумела б. Хіба крыкнуць ёй? Усім іншым. Не, на крык як бы і сілы ўжо няма. Узняў твар, злавіў засмяглымі вуснамі сняжынкі. І як напіўся з жывучай крыніцы. Ажно падужэў.

— Куды ісці?

— Туды,— паказаў рукой Бязносы.

Прыбіральня была воддаль ад жылля, у рове, густа зарослым маладым ельнікам.

Спусціўшыся ў роў, Іваноў горача дыхнуў у патыліцу:

— Уцякай.

Стась спыніўся, не паверыўшы вушам, застыў, напружыўшыся, гатовы сапраўды кінуцца пад елкі.

— Уцякай. Калі хочаш жыць...

Не, не паверыў. Павярнуўся.

— Ты хочаш стрэліць мне ў спіну? Не, не хачу! Страляй у грудзі. У сэрца страляй! Але ведай, партызана страляеш, камсамольца.

Іваноў, разгублены ад нечаканага павароту, узвёў пісталет.

Ды ў гэты міг наперадзе з-за елкі выйшаў Золатаў і выстраліў Стасю ў патыліцу.

Іваноў адскочыў убок, баючыся, што начальнік будзе страляць яшчэ. Не, маёр не прамахнуўся. Ён на міг спыніўся над забітым, пачакаў, пакуль цела білася ў канвульсіях, а на снег выплыў яркі струменьчык крыві, задыміўся, астываючы.

Падышоў да намесніка, ірвануў яго ватоўку так, што пасыпаліся гузікі. Мала. Схапіў за каўнер, разадраў. Мала. Драпнуў ногцямі сплюснуты нос, раздзёр да крыві.

— Ён напаў на цябе.

— Так точна, таварыш маёр. Ён напаў на мяне.

Капітан Брагінскі адчуваў сябе вельмі блага. З нечаканымі падскокамі тэмпературы, з болем, які раздзіраў цела, ён звыкся. Але ў той дзень балелі не толькі раны — балела сэрца, білася арытмічна; ён задыхаўся, не хапала паветра. Здавалася нясцерпна душна, зямлянка гняла, што труна.

У прысутнасці людзей, таварышаў ён мужна пераносіў гэтыя пакуты, умеў прагнаць змрочныя думы. Аднаму зрабілася

страшна. Стане зусім кепска —нікога не даклічашся, лагер апусцеў. А жыць хацелася. Дажыць бы да перамогі.

Падняўся з тапчана, трымаючыся за сцяну, дабраўся да дзвярэй, адчыніў іх, прагна ўдыхаў марознае паветра, жмурыўся ад снежнага святла. Пачуў недалёкі пісталетны стрэл. Але ў стральбе тут практыкуюцца часта. Спачатку стала лягчэй. А потым пачалося спаўзанне, як з гары, у тую страшную яму, якую ён ужо добра ведаў і якой баяўся — ці вылезеш назад? Ледзьве паспеў вярнуцца на тапчан. Лёг. І панесла яго, як на арэлях,— угору-ўніз, угору-ўніз. Тужыўся спыніць гэтае гушканне, ад якога заходзілася сэрца, горла сціскалі спазмы ташнаты. Паляцеў уніз, у бездань, і на нейкі момант застаўся там у непрытомнасці, дзе і боль адступіў, адпусціў са сваіх капцюроў мозг. Але праз нейкі час — не ўзлётам на арэлях, а як бы плывучы, пачаў узнімацца на паверхню, абліты халодным потам. Вярнуўся боль, але ён радаваў, бо адчуванне болю — зварот да жыцця.

Увайшоў Золатаў, занепакоіўся:

— Ты што дзверы адчыніў? Не хапала табе яшчэ запалення лёгкіх? З тваім здароўем.

— Хтось стрэліў ці мне здалося? Я зноў правальваўся...

— Шпіён напаў на Іванова.

— Шабовіч?

— Адно гестапа ведае, як сапраўднае яго прозвішча.

— І што?

— Капітану варта ведаць, што бывае з тым, хто нападае на каравульнага.

— Вы забілі яго? Вы забілі яго! Без дазнання, без суда. Гэта забойства! Гэта забойства!

— Навум, я люблю цябе, як сына...

— Не трэба мне любоў забойцы! Я патрабую суда над вамі! — Брагінскі закашляўся, на вуснах выступіла чорная кроў.

Золатаў аслупянеў. Ад гневу. «Я да яго з любоўю, а ён суда патрабуе. Шчанюк!»

Але мацней за гнеў ударыў страх — да звону ў вушах, да памутнення ў вачах. Такі страх перажыў дагэтуль двойчы. За невялікую памылку крычаў на яго Цанава, што выганіць з органаў. А ён добра знаў, чым канчаецца выгнанне з органаў. Другі раз — калі адчыніліся дзверы самалёта і трэба было сігануць у чорную пустэчу. Ён не зрабіў гэтага сам, яго піхнуў Іваноў і... ўратаваў — ад ганьбы і суда.

Абпякла думка: калі гэты дахадзяга, з якім ён, здавалася, меў поўнае паразуменне, патрабуе суда, то Ман, які баіцца яго і ненавідзіць,— абавязкова ўчыніць такі суд. Ды і праведнік камісар будзе за суд. А чым можа кончыцца такі суд — ілюзіі не было, ведаў ён суды, нізкія і высокія, і там не вельмі ўнікалі ў сутнасць, а тут, на вайне, пры партызанскай стыхіі, анархіі...

Уявіў, як паставяць перад строем. І ніхто цябе не ўратуе. Ні Іваноў, ні рацыя, ні радыст, ні Цанава, ні сам Берыя. І не пакараюць пасля нікога. Хто стане разбірацца! Вайна. Ды і што яму з таго пакарання? У храбрага маёра памлелі ногі.

— Навум...— паклікаў і не пачуў уласны голас.

А Брагінскі закрыў твар рукамі і... плакаў. Кашляў і плакаў.

Кроў на яго пальцах выклікала ў Золатава агіду, брыдкасць і разам з тым пачуццё сваёй выключнасці — што ён умее зрабіць і робіць тое, чаго не ўмеюць усе смяротныя, што поўзаюць па зямлі, чапляюцца за жыццё. І яшчэ адно пачуццё з'явілася — неабходнасць выканаць свой абавязак, частку яго ён ужо выканаў сёння. Не дзеля ўласнага выратавання. Для перамогі. Такое ён адчуваў на Магілёўскай шашы, дзе на цэлы ўзвод здраднікаў стала менш, і два дні назад, калі з радасцю расстраляў паліцэйскага. Хіба гэта не заслуга? Толькі такія, як ён, могуць ратаваць дзяржаву ад ворагаў. І ад маладушных... ад такіх вось... што разлагаюцца зажыва і атручваюць атмасферу.

Увагу Золатава прыцягнула кабура на сцяне. Яго, Брагінскага, пісталет. У нагах вісіць. Ва ўсіх іх так вісяць пісталеты. Падхопішся па трывозе — зброя перад вачамі, пад рукой.

На насочках ступіў у той бок, нячутна выцягнуў пісталет з кабуры. Брагінскі, пэўна, пачуў шчаўчок узвода і адняў рукі ад твару. Убачыў нацэленае на яго дула пісталета. Вочы яго напоўніліся жахам. Але крыкнуць ён не паспеў.

Залатаў пастаяў над ім у бяздумнай прастрацыі, бадай, спалоханы, што ў шчыліне на гімнасцёрцы, якую зрабіла куля, не з'яўляецца кроў. Але цела ўміг выцягнулася і апруцянела. Бяскроўны, ці што?

Спалохана азірнуўся на дзверы, паклаў пісталет на падлогу, туды ж скінуў яшчэ гарачую руку капітана.

Выскачыў з зямлянкі, закрычаў асіплым ад перажывання голасам:

— Таварышы, браткі! Брагінскі застрэліўся! Навум застрэліўся!

Першая прыбегла Матрона. Ускочыла ў зямлянку і тут жа падалася назад, перахрысцілася.

— Адмучыўся, нябога.

Падыходзілі партызаны гаспадарчага ўзвода, дзяды, якія бачылі нямала смерцяў. Матрона падышла да мёртвага, загаласіла, быццам асмялела пры сваіх.

— А вочкі мае ненаглядныя! Якія ж яны прыгожыя ў цябе былі! Што сліўкі ў ранішняй расе,— націснула пальцамі на павекі, каб закрыць вочы.— Мужчыны, пятачкоў ні ў кога няма?

— На, патроны палажы.

— Патроны — грэх.

Скрыжавала рукі нябожчыку на грудзях яго. А пісталет апаслівa і агідліва засунула нагой пад тапчан.

Золатаў плакаў. Наўзрыд. Шчыра плакаў. Толькі ў пачатку сваёй работы ў органах ён перажываў вось гэтак, калі ўчыніў несправядлівасць — прысудзіў да смерці невіноўнага, раскайваўся і плакаў над падзеннем сваім. Пасля, акрамя страху і лёгкіх пакут сумлення, такія стрэсавыя эмоцыі не ўзнікалі. Душа яго зачарсцвела.

Партызаны спачувалі Золатаву: як любіў маёр раненага хворага капітана, які, нягледзячы на стан здароўя, да драбніц планаваў і распісваў нямала нечаканых адмысловых аперацый. Ман і партызаны бераглі яго светлую галаву і самога начальніка штаба на спланаваныя ім аперацыі не бралі, хіба перад нападзеннем на гарнізоны выязджаў ён на разведку і рэкагнасцыроўку. Ігар нярэдка выказваў захапленне сур'ёзным жартам:

«Будзеш ты, Навум, генералам».

Золатаў успамінаў гэта і многае іншае і... плакаў.

Ман і Ігар з конным узводам вярнуліся позна ўвечары. Дзядзюля пацвердзіў. Аксана казала пра мужа свайго Станіслава Шабовіча і папярэджвала, што ў выпадку правалу яе ў горад можа прыйсці або ён, Стась, або камандзір групы Піліп Станулін, толькі ім яна расказала дарогу.

Устрывожыўся Цімох Пятровіч, што сувязная яго раненая і ляжыць непадалёк у Задвор'і. Тут жа накіраваў у вёску разведчыкаў. Таму і затрымаліся, што чакалі іх звароту. Аксану не знайшлі.

— Трохі бянтэжыць прозвішча гаспадыні, якое назваў ваш госць. Не задворскае. Але калі яна тут, паўраёна перавярну, а Аксану знайду. На Дзядзюлю можна спадзявацца, не падвядзе; каго любіць — жыцця за таго не пашкадуе, а сувязную сваю, па ўсхваляванасці яго відаць, любіць, як дачку.

Шабовіч нешта цямніць. Трэба не спадзявацца на Золатава, пагаварыць самім, у душу яго заглянуць. Якія прыёмы ў асабіста — ён, Ман, ведае, на ўласнай скуры выпрабаваў.

Трэба не допыт — размова чалавечая. Так яны гаварылі ў дарозе, гойдаючыся ў сёдлах. Асудзілі сябе, што далікатную справу — устанаўленне асобы падпольшчыка даручылі чалавеку з комплексам следчага. Што з таго, што ён начальнік асобага аддзела. Лічылі, што не трэба ім такая пасада. Навошта? Без яго яны не абароняцца ад шпіёнаў, не выявяць здраднікаў? У іх цэлы атрад следчых, і суд вышэйшы — партызанскі, народны.

Падзеі ў атрадзе ашаламілі і камандзіра і камісара. Аляксей Іванавіч анямеў і аглух — нічога не хацеў слухаць, ні пра што не выказваў сваё меркаванне. Толькі аддаваў кароткія каманды, катэгарычныя як ніколі, асякаючы кожнага, хто, як раней, спрабаваў паразважаць: а можа, так лепш?

Ігар у першыя хвіліны разбушаваўся.

— Я застрэлю гэтага бандзіта Іванова! Крымінальная морда!

Золатаў плакаў над целам Брагінскага. Золатаў не абурыўся на гэтыя словы, спакутаваным слабым голасам нагадаў:

— Іваноў — работнік органаў, мой намеснік.

Ман выштурхнуў з зямлянкі, дзе пахла крывёй і прывялай елкай, свайго гарачага камісара. Пад соснамі строга загадаў:

— Каб я не чуў такіх слоў! — а потым папрасіў: — Пры ім не гавары нічога падобнага. Не давай волю сваім эмоцыям. Нікога ты не застрэліш. А цябе застрэляць. А табе трэба жыць. Нам з табой трэба жыць, Ігарок, чалавек ты мой дарагі. А вакол ворагі, вакол фашысты... І ў нас не ўсё так проста, як табе здаецца.

Але раніцою Ігар зноў сутыкнуўся з Золатавым. Прапанаваў пахаваць іх у адной магіле, Брагінскага і Шабовіча. Вот тут Золатаў злосна абурыўся. Крычаў, што гэта знявага камандзіра Чырвонай Арміі, камуніста, пагразіў, што выступіць перад партызанамі і давядзе... фактамі давядзе — у яго інтуіцыя, чуццё чэкіста,— хто такі чалавек, які напаў на вартавога; сапраўдны падпольшчык не стаў бы такім чынам уцякаць з атрада, пастараўся б даказаць, хто ён, з чым прыйшоў.

Аляксей Іванавіч панура маўчаў. Сурова маўчаў. Нават Золатаў не адважыўся аспрэчваць, калі камандзір загадаў атрадным цеслярам зрабіць дзве труны.

Брагінскага пахавалі ў цэнтры лагера каля камандзірскай зямлянкі. Самую доўгую і прачулую прамову сказаў Золатаў; развітваючыся, цалаваў нябожчыку лоб, рукі.

Грымеў салют.

Труна з целам Шабовіча доўга стаяла за ровам на прасецы на паваленых бярвеннях. Да яе — паказалі сляды — нават падыходзілі галодныя ваўкі; ды, відаць, блізкая страляніна спалохала іх. На пахаванні прысутнічалі Ігар, Баслычыха ды чацвёра партызан, што капалі магілу і апускалі ў яе труну. Камісара-атэіста да слёз расчуліла Матроніна малітва. Але паказаць байцам свае слёзы ён не меў права, адварочваўся, глядзеў у неба. Снег перастаў ісці, неба ачысцілася ад хмар і ззяла, што вымытае, мацнеў мароз. Неба дало адчуванне няспыннасці, дало прагу жыцця. Хаваў ён сяброў раней, хаваў блізкіх — не плакаў. А гэтага хлопца ён упершыню ўбачыў два дні назад. Чаму ж вочы наліліся слязамі? Ад малітвы? Не раскісай, камісар! Табе трэба ваяваць і... жыць. Успомніліся словы камандзіра.

«Нам з вамі трэба жыць, дарагі Аляксей Іванавіч. Для людзей...»

Зрабілі памінальны абед — па Брагінскім. Строгі камандзір, былы цвярозы ўпраўляючы спірттрэста, дырэктар завода, які з ашчаднасцю скупога гаспадара ахоўваў недатыкальны запас «гаручага» — для медыцынскіх патрэб, першы раз дазволіў партызанам выпіць.

Золатаў напіўся. Упершыню на людзях, не тоячыся. І зноў плакаў. Гэта ўражвае, калі плача мужчына. Яму спачувалі.

На другі дзень у яго балела галава, ён пахмяляўся. Пад вечар ужо, як бы ўспомніўшы, хоць у сапраўднасці гэта не выходзіла і з п'янай галавы (смерць Брагінскага перашкодзіла яму зрабіць гэта ў першы дзень, у адсутнасць камандзіра і камісара), Золатаў сказаў Ману:

— Дай фурманку, камандзір. Паеду забяру падпольшчыцу.

Аляксею Іванавічу што над вухам стрэлілі, ён не адразу паверыў пачутаму.

— Каго?

— Яго напарніцу.

— А вы ведаеце, дзе яна?

— Я ўсё ведаю.

— Дзе?

— Недалёка. Пад бокам у атрада. Работалі сінхронна. У Макрыцы. У Ганны Прыхач.

— У ка-го?

І сцяўся ўвесь — што спружына, каб не выдаць свайго здзіўлення.

Ганна Прыхач — яго сувязная. Яго. Асабіста. Не атрада. Пра гэта ведалі толькі Ігар і Матрона. Кухарка прыносіла ад Ганны звесткі пра дзейнасць акупацыйных улад у навакольных вёсках, пра паліцэйскіх, пра карныя часці. Сама Ганна ў атрад не прыходзіла. Але сынок яе, Міколка, высачыў неасцярожную Баслычыху і з'явіўся ў атрад: прыміце яго ў партызаны. Адаслалі назад пад аховай двух партызан. З'явіўся ў другі раз. Прыйшлося Аляксею Іванавічу самому адвозіць малога да маці. У сядле.

— Пра што задумаўся?

— Я сам паеду.

Золатаў абурана падхапіўся.

— Зноў не давяраеш? Зноў! Мне?!

— Я давяраю. Але я адказваю за тваё жыццё! Што мне скажа Цанава, калі я не ўпільную такога разведчыка?

— Не іранізуй.

— Я не іранізую. Якая можа быць іронія? Не да яе.

— Вось іменна — не да іроніі. Але не думаю, што ў такой аперацыі неабходна прысутнасць нас двух.

— Неабходна!

Спыніліся за гародамі ў хмызняку. Золатаў не разумеў, навошта такая асцярожнасць, ведаў, што ў гэтай невялічкай вёсачцы, двароў на дваццаць, ніводнага паліцэйскага няма. Але на гэты раз вырашыў ва ўсім падпарадкоўвацца Ману, бо той ведае тут кожную сцяжыну і людзей, іх псіхалогію. Ды і не тое здзівіла, дзе спыніліся, а тое, як пайшоў камандзір, з якой упэўненасцю, ведае, выходзіць, дзе хата гэтай Ганны.

Гаспадыні дома не было. Сустрэў іх у двары Міколка — калоў дровы. Здзівіўся і ўзрадаваўся. Але камандзір даў яму знак — прыклаў палец да вуснаў,— і хлапец ні словам, ні рухам не выдаў сваё знаёмства з партызанамі.

Ман спытаў:

— Дзе твая госця?

Міколка адказаў не адразу.

— Аксана.

— У хаце.

Увайшлі ў хату. Хлопец вачамі паказаў на бакоўку. Ман заглянуў туды. Спалохаў жанчыну. Яна сядзела без кофтачкі,

пэўна, ёй нядаўна перавязалі плячо — закручана ў адбеленае палатно.

— Адзявайся. Паедзем.

— Куды.

— Да Стася твайго,— сказаў Золатаў, заглядваючы праз плячо Мана.

Камандзіру здалося, што асабіст ударыў яго ў патыліцу — так зазвінела ў галаве.

«Здзекуецца, падлюга! Да Стася... Не, яе ты не адашлеш...»

— Ой, дзядзечка, родненькі! — па-сялянску, па-дзявочаму выявіла Аксана сваю радасць.

— Хадзіць можаш?

— Ды я скакаць магу, калі да Стася. А трэба — на жываце папаўзу. Міколка! Памажы мне адзецца!

Але ў левы рукаў не надзела ні кофтачкі, ні паліто — балела яшчэ. Аднак па хаце хадзіла ледзьве не прыскокам.

— Міколачка, брацік мой, дай я цябе пацалую. Мамку пацалуй і Міцьку. Скажы: кланяюся я ёй нізка, у ногі кланяюся.

Міколка шмаргнуў носам. Ды калі Золатаў выйшаў першы з хаты, Аляксей Іванавіч абняў хлопца, падбадзёрыў:

— Не бядуй, партызан. Трымай хвост трубой.

— Патрымаеш тут, калі даюць па хвасце.

— Хто?

— Хто?! Матка.

— Хіба маміны плескачы ў залік? Радуйся ім, дзівак. Вырасцеш — дзякаваць будзеш.

Але ўсё роўна хлопец што медаль атрымаў, калі камандзір ад свайго імя падзякаваў яму і маме.

— Да саней не ідзі, не трэба, каб убачылі, як ты праводзіш нас. У людзей доўгія языкі.

Прыехалі на двух санях. На першых — ён, Ман, сам за фурмана, Золатаў, целаахоўнік яго Іваноў, на другіх — двое партызан. Цяпер, калі ў сані села Аксана, Іванову прыйшлося перасесці, хоць зрабіў ён гэта неахвотна.

Нікога не здзівіла, калі камандзір развярнуў фурманку ў другі бок. Ехалі сюды — ледзьве перабраліся цераз не замерзлую яшчэ рэчку, намачылі сена, на якім сядзелі, ледзьве не набралі вады ў халявы, стоячы ў санях.

Паркі лепшых коней ішлі ўгалоп, выбіваючы падковамі не толькі не спрасаваны яшчэ снег, але і мёрзлую зямлю, яна ляцела фурману ў твар.

Ман стаяў на каленях у перадку і лейцамі сцябаў па конях, бясконца нокаў. Аксана сядзела побач, трымаючыся за яго. Золатаў — у задку.

Праз колькі часу фурман задніх коней, мясцовы партызан, здзівіўся:

— Куды яго нясе! Куды яго нясе! У Каменку. Там жа гарнізон! Ашалеў камандзір! — і інстынктыўна прытармазіў.

Але, ашалеў... Коні віхрам уляцелі на вуліцу вялікага сяла. Быў сіні адвячорак. Сонца села за лес. Дыміліся коміны. На вуліцы з перападамі ўзгоркаў і лагчын каталіся на санках дзеці. Кінуліся ў двары з крыкам: «Партызаны!»

Ускочылі на цэнтральны ўзгорак, дзе стаялі школа і будынак сельсавета.

Ціха.

Ман паваліў Аксану на калючае змёрзлае ўжо сена, выхапіў з кішэні пісталет і стрэліў у бок школы, прытармазіўшы трохі коней.

Выскачылі з будынка паліцаі, трое, з вінтоўкамі. Кулі ціўкнулі над санямі. Золатаў стаў на калені, павярнуўся тварам назад, выхапіў пісталет і стрэліў у далёкіх ужо паліцэйскіх. Стрэліў тройчы.

І раптам Ман таксама паваліўся побач з Аксанай, перакуліўся на спіну і... моцна ўдарыў ботам Золатаву ў спіну. Той перакуліўся цераз нізкі задок саней. Узнімаліся на новы круты ўзгорак, і Золатаў пакаціўся па слізкай дарозе ўніз, пісталет яго паляцеў убок.

Аксана закрычала з жахам і абурэннем.

— Што вы зрабілі? Вы спіхнулі чалавека? Вы спіхнулі чалавека! Спыніце коней!

Ман павярнуўся на бок, моцна абхапіў жанчыну рукой, прыціснуў да сена, забыўшыся на яе раненае плячо.

— Маўчы! Гэта не чалавек! Гэта не чалавек! Ён забіў твайго Стася.

Аксана на міг змоўкла, потым закрычала:

— Стася няма? — асэнсаваўшы самае страшнае для яе паведамленне, сама сабе ціха адказала: — Стася няма. Стасічак, родненькі... Я адчувала... я адчувала... пазаўчора. Я задрамала, і мне ўдарыла ў сэрца. Як балела маё сэрца! — яна роспачліва заплакала.

— Паплач, дачка, паплач.

Аляксей Іванавіч падняўся на калені, лёгка тузануў лейцы, не сцёбнуў больш коней. Сказаў ім ласкава, як дзецям:

— Но, родненькія, но! Вось так, Золатаў, вось так. А як ты хацеў? Усіх караць?

Услухаўся ў вячэрнюю цішыню. Аўтаматныя стрэлы не прагучалі. Значыцца, задняя фурманка ў сяло не ўехала: разлікі яго апраўдаліся.

— Паплач, Аксанка, паплач. Я свае слёзы выплакаў. Но, родненькія, но. Не падвядзіце!

# *ЭПІЛОГ*

На аўтобуснай станцыі раённага цэнтра было бязлюдна — паўза паміж прыбыццём і адыходам сталічных аўтобусаў. Нават касірша пакінула душнае памяшканне і ў скверыку вязала кофтачку. Там жа на лаўцы спаў пасажыр, што забыўся, у які бок яму ехаць. І там жа, у скверы і на плошчы каля станцыі, хадзіла пажылая жанчына, гады яе выдавалі сівыя валасы, а постаць стройная, абцягнутая элегантнай сукенкай, цяжкаватай, не па пагодзе. Стаяў май, у скверыку расцвіла чаромха, але дзень быў па-летняму спякотны, хоць сонца ўжо і схілілася на вечар, вісела над затуманенымі дымкай квецені садамі.

Па вуліцы паўз сквер зрэдку праходзілі грузавікі, узнімалі пыл. Касірша сказала жанчыне:

— Ідзіце дадому, Аксана Паўлаўна. Што вам пыл каўтаць? У мяне — служба. Да наступнага рэйса — без малога гадзіна. Прыедзе ваш Ігар Арцёмавіч.

— Прыедзе, канешне. Але я пачакаю. Так мне спакайней. І я люблю глядзець, як людзі прыязджаюць. У Мінску, калі вучылася, я часта хадзіла на вакзал. Інстытут побач. Сяброўкі смяяліся: каго ты чакаеш? Нікога я не чакала. Ігар тут працаваў. Божа! Як даўно гэта было!

Прайшлі дзве маладзіцы. Ветліва павіталіся:

— Дзень добры, Аксана Паўлаўна.

— Добры дзень.

Адышоўшы, жанчыны гаварылі паміж сабой.

— Доктарка мужа сустракае. Кожны раз — як з далёкай паездкі. А ён — яе. Як маладажоны.

— Але, старамодная пара. У наш час такія рэдкасць. Вунь мой, зараза, сустрэне хіба? Чакай — пасівееш. Вочы чарнілам залье — роднай жонкі не бачыць.

— Распусціліся мужыкі. Ды і бабы не лепшыя. Калі памруць такія, як наш дырэктар, хто дзяцей дабру-розуму навучыць?

Аксана Паўлаўна, праводзячы жанчын позіркам і адчуваючы, што яны гавораць пра яе, стоена ўздыхнула, сказала касіршы:

— Расце наш горад. Я многіх ужо не ведаю. У твар ведаю, а — хто гэта, дзе працуе...

— Дзіва што! Дванаццаць тысяч народу!

Доктар пасміхнулася. Маладая жанчына сказала пра дванаццаць тысяч так, як быццам гэта была бог знае якая лічба —

мільён. А яна ледзьве не асуджала сябе. Пражыла тут трыццаць пяць гадоў, калі пачала працаваць урачом пасля інстытута, праз год-два ведала ўсіх, старых і малых, як у роднай вёсцы. Цяпер жа з многімі страчаецца як з незнаёмымі.

— Ды вы прысядзьце хоць. У бальніцы ж таксама на нагах.

— На нагах. Але там я не стамляюся. Я дома стамляюся.

— З унучкай?

— З унучкай? Не, Клава. Быць з унучкай радасць.

— Радасць-то радасць, але некаторыя вас асуджаюць: што вы малых ад бацькоў забіраеце, спачатку сынавых дваіх вырасцілі, цяпер даччына...

— Разумею, што гэта нядобра. Але жыць без Стаські не магу. Халодным потам абліваюся, калі падумаю, што ўвосень яе забяруць, у школу яна будзе хадзіць там, у ваенным гарадку, у бацькоў.

— Хто ваш зяць? Лётчык?

— Лётчык.

— На звышгукавым?

— Іншых цяпер няма.

— Нізавошта не пайшла б замуж за лётчыка. Калаціся перад кожным палётам.

— Да ўсяго, Клавачка, прывыкае чалавек.

— А вось жа вы... чаму вы так перажываеце? Хіба першы раз ваш Ігар Арцёмавіч едзе ў Мінск, калі загадчыкам райана быў, то штодня, можа, ездзіў.

— Цяпер ён хворы чалавек. У яго быў інфаркт.

— А вы не пускайце яго.

— Пра што ты кажаш, Клава! Не пусціць яго нельга. Для такіх людзей, як мой Ігар, бяздзейнасць — самае стрэсавае становішча.

Аксана Паўлаўна радавалася, што дзяўчына, якой пры яе камплекцыі варта было б не сядзець з вязаннем, а бегаць, памагае скараціць ёй час. Няпраўда, што яна любіць станцыі, вакзалы. Можа, некалі і любіла, калі самую цягнула кудысь паехаць — пабачыць свет. А цяпер нікуды ёй не хочацца. А чаканне блізкіх ператвараецца ў пакуты. Толькі цяпер яна зразумела жанчын, маці, якія пасля вайны выходзілі за сёлы свае і гадзінамі стаялі на дарогах, чакалі мужоў, сыноў.

Прыйшоў мінскі аўтобус.

Аксана Паўлаўна прагна ўзіралася ў вокны, шукаючы Ігара, праводзіла вачамі кожнага мужчыну, быццам за дзень Ігар мог пераўтварыцца да непазнавальнасці.

Выйшаў з аўтобуса высокі лысы стары ў парусінавым касцюме, трымаючы ў руцэ кепку і пацёрты да дзірак партфель. Пільна агледзеў яе, ажно неяк нядобра стала ад такой увагі — усё роўна што прасвяціў рэнтгенам.

Муж не прыехаў і гэтым аўтобусам.

У вялікай усхваляванасці пайшла на пошту, пазваніла ў Мінск сыну.

— Стась, бацька не заходзіў?

— А што, не прыехаў? Ды ну? Загуляў стары, загуляў. Я так і ведаў. Вясёленькі ён у мяне быў, архітэктарак маіх смяшыў.

— Сур'ёзна ты можаш гаварыць?

— Зрэдку магу.

— Во гэта праўда — вельмі рэдка.

— Мама, без такіх, як я, людзі скіслі б ад сумоты. Плесенню пакрыліся б, як гуркі ў бочцы, калі гаспадыня не змывае. Я адмываю людзей ад плесені. Паглядзела б ты на маіх архітэктарак — свецяцца.

— Дзе бацька?

— А я доўга стаю на дарозе,— праспяваў за сто вёрст ад маці Стась, бо ведаў, дзе яна чакае іхняга бацьку.

— Балбатун.

— Во гэта меткае пападанне. Здаюся і паведамляю з сур'ёзнасцю ТАСС... Твой дарагі супруг не ўзяў білета на аўтобус. Баявы партызан, а штурмам нічога не ўмее браць. І зброю не выкарыстоўвае, якую мае. Я з такімі дакументамі «Волгу» купіў бы.

— А карацей ты можаш?

— І пасадзіў я заслужанага пенсіянера на падарожную. Гадзіну назад. Так што не турбуйся, праз паўгадзінкі падкоціць татуля з вецярком, толькі ты не вельмі раўнуй, калі ўбачыш, хто за рулём. Ка-ра-ле-ва!

— Давядуць цябе твае каралевы.

— Давядуць,— уздыхнуў сын.

— ПерадВаляй павініся.

— Вінюся. Штодня. Ды ў тваёй нявесткі твая натура.

— Пацалуй яе ад мяне.

— Пацалуеш яе...

— Малайчына яна ў цябе.

— Ды ўжо ж!.. Атэла ў спадніцы. Стараверка! Трыццаць пяць гадоў бабе, а заводзіцца, як новы «жыгуль».

Супакоеная Аксана Паўлаўна засмяялася.

— Цалую цябе, сын.

— Цалую, мама.

Можна ісці дадому. Не, не пайшла. Пастаяла, падумала і скіравалася на магістральную шашу. Пакуль стаяла там, зноў успомніла многа і зноў адчула нейкую неасэнсаваную трывогу. Дакарала сябе: гэта ўжо нервы, недаверлівасць. А ў жыцці яна магла лёгка расплакацца, але недаверлівай ніколі не была. Такім робіцца Ігар, употай лічыць пульс, колькі разоў бачыла, і гэта яе трывожыць. Ігар усе тры з палавінай дзесяткі гадоў, як яны разам, ніколі не думаў пра сваё здароўе, хоць двойчы ранены. Няўважлівасцю гэта не назавеш, проста моц жыцця, тая сіла, калі чалавеку здаецца, што ён бессмяротны.

Каля яе затармазіў чырвоны, што велікоднае яйка, «жыгулёнак». За рулём сапраўды каралева, жанчына з моднай прычоскай, нафарбаваная. Ды Аксана Паўлаўна ведала гэтую красуню — намеснік дарэктара запаведніка, доктар навук.

З задняга сядзення, па-старэчы крэкчучы, вылазіў Ігар Арцёмавіч з паўнюткім партфелем і такім жа поўным цэлафанавым мяшком.

— Дзякую вам, што падвезлі майго пенсіянера.

— Я падвязу вас дадому.

— Не, не, дзякую, мы пройдзем,— запярэчыў Кіпень.— У мяне ногі ацяклі, трэба размяць.

— Усяго добрага вам. Прыязджайце ў запаведнік.

— Прыедзем па ягады.

«Жыгулі» весела фыркнулі.

— Зноў стаяла,— папракнуў Ігар Арцёмавіч жонку.

— Аднаго больш не пушчу.

— Хе, прыгразіла. Весялей будзе з табой.

— І нагрузіўся, як мяшочнік.

— Дык у нас жа гэтага не купіш. Людзі спецыяльна ў сталіцу едуць. На аўтобуснай станцыі — не прабіцца. Натоўпы моладзі.

— І ты зноў пасаромеўся выкарыстаць сваё пасведчанне?

— Інваліда? Пасаромеўся.

Яны паспрачаліся, каму што несці. Аксана Паўлаўна паважыла, што цяжэй, і забрала ад мужа партфель.

— У цябе няправільная метода лячэння пасляінфарктніка. Мне трэба трэніравацца.

— Натрэніраваўся за дзень. Уяўляю.

— Знаеш, у чым бяда? Я не пасаромеўся. Я пабаяўся. Гэта мяне апошні час проста гняце, Аксюта. Для мяне гэта ганебна. Я вучыў іх, выхоўваў. І я цяпер баюся іх, сваіх вучняў. Можаш уявіць?

Даўно яшчэ, гадоў дзесяць назад, убачыў, калі вось такі малады, інтэлігентны, як наш Стась, узяў старога за каўнер і вывеў з чаргі. Тады я абурыўся, умяшаўся, але хутка забыўся — я ўмеў дараваць маладым іх грахі. А цяпер, калі трэба сунуцца з пасведчаннем, уяўляю сябе на месцы старога — і ў мяне ўзнімаецца ціск. Каб, крый бог, такое здарылася — гэта была б надзвычайная стрэсавая сітуацыя. А я баюся яе. Не за здароўе сваё баюся. За яго, за таго маладога, якога я вучыў. Здаецца, што адбылося б крушэнне ўсіх маіх ідэалаў, веры ў тое, што я трыццаць гадоў сеяў добрае, вечнае... А ўяўляеш, чаго варта адна думка, што ты пражыў дарэмна. Жах!

— Нельга абагульняць гэтак. Сам казаў: будзь гатова, што ў любы дзень ты можаш сутыкнуцца не толькі з дурнем, нахабнікам... які можа вывесці старога з чаргі... але і з больш подлым прадстаўніком рода чалавечага.

— Сказаў я за сваё жыццё многа высокіх і правільных слоў. Можа, ад таго я цяпер і бездапаможны, што жыў ідэалістам.

— Ды не, Ігар, не. Не прыніжай сябе. Які ты ідэаліст? Ты жыў змагаром. І цяпер... Як ты з'ездзіў?

— За білетам лезці з пасведчаннем я пабаяўся таму, што перад гэтым мне такі стварылі стрэсавую сітуацыю. У абкоме. Вучань мой. Такі прыемны з выгляду. Ветлівы. Ружовенькі. І слухаў уважліва. Нарэшце, думаю, знайшоўся чалавек, які разумее... І раптам ён кажа: «А хіба не ўсё роўна яму цяпер, адновяць яго ў партыі ці не адновяць». Аляксея Іванавіча! Як ударыла! Кроў у патыліцу. І я спалохаўся, Аксюта, я спалохаўся. Гэта ганебна: у такі момант думаць пра сябе.

Аксана Паўлаўна спынілася, паставіла партфель на зямлю.

— Адпачні.

Яна ўявіла, што перажыў муж, і спалохалася за тую сітуацыю, якая шчасліва мінула.

— Ганебна знаеш што? Што я не здолеў нават абурыцца. Не, я сказаў яму: мне не ўсё роўна... нам, сябрам яго, вучням... і сям'і яго. І да яго такі дайшло. Ён павёў мяне да старшыні парткамісіі. Новы. Немалады. Можа, і вайны захапіў. Зацікавіўся, здаецца, па-сапраўднаму. Здзівіўся і абурыўся: дваццаць гадоў як чалавек рэабілітаваны, а ў партыі не аднаўляюць. Чаму? Сапраўды, чаму? Ніхто не ўзяў на сябе адказнасці. Во ў чым наша няшчасце. Павёў мяне старшыня да першага. Во дзе я яшчэ раз паверыў у партызанскае наша брацтва. Іван Яўцеевіч сам партызаніў. Адвёў

я з ім душу. Весяльчак. Гумарыст. Расказваў, як яго Фёдараў... той, славуты... хацеў расстраляць. Прадстаўніка ЦК камсамола...

Ігар Арцёмавіч асекся: мімаволі падвёў да трагедыі Шабовіча. Спахапіўся.

— Пайшлі. Прагаладаўся я. Чым будзеш карміць?

Аксана Паўлаўна падняла цяжкі партфель.

— Твой ласунак. Каша грачнёвая.

— Няўжо з салам?

— З салам.

— Дзе ты крупы дастаеш? Я забыўся, калі бачыў грэчку на прылаўках.

— А я хабар бяру ад аднаго хворага толькі грэчкай, больш нічым,— засмяялася доктарка.— Ад старшыні райспажыўсаюза. Павел Іванавіч, грэчка будзе — гарантую сто гадоў жыцця. І што з Аляксеем Іванавічам?

— Выносяць на наступнае бюро. Памёр Ман камуністам — і будзе жыць камуністам. Хораша сказаў сакратар. Камуністамі мы паміралі і ў блакадным лесе, і на фронце, і ў Варкуце... Камуністамі павінны застацца...

У двары дома, драўлянага, угледжанага, іх сустрэла шасцігадовая ўнучка Стася. Хітрая лісічка. Кінулася на шыю.

— Дзядзюлечка прыехаў!

Выдумка дзядзькі Стася. Навучыў некалі свайго сына называць дзеда не дзядуля, а Дзядзюля; камандзір брыгады Цімох Дзядзюля ў тыя гады быў частым госцем у іх доме. І Дзядзюля пасля смяяўся: «Быў адзін Дзядзюля, сталі два. А ты кажаш — радзее наша брыгада».

Малая атрымала новую ляльку і машыну, пабегла хваліцца падарункамі.

— Даканаеце вы мяне цацкамі. Усюды цацкі: у доме, у двары, на градах. Нашэсце нейкае.

— Няхай цешацца дзеці, у нас з табой не было.

— Пацехі ім на адну гадзіну, а пасля валяецца...

За абедам Ігар Арцёмавіч сказаў:

— Ксюта, паедзем у выходны на магілу Стася, даўно не былі.

Колькі разоў за іх доўгае сумеснае жыццё сказаў ён гэтыя словы, і кожны раз яны расчульвалі Аксану гэтак жа, як і тады, калі сказаў іх упершыню яшчэ ў партызанах, пасля блакады. «Аксана, з'ездзім на магілу Стася». Яна тады ледзьве не задыхнулася пад абвалам пачуццяў, вельмі складаных. Яны не

былі яшчэ мужам і жонкай. Ман не адпусціў іх адных, даў для суправаджэння дзесятак лепшых коннікаў.

Памаўчаўшы, Аксана Паўлаўна паклала сваю руку на мужаву:

— Дзякую табе, Ігарок.

— Ну, што ты,— збянтэжыўся ён, так бянтэжыўся кожны раз.

Прыбраўшы са стала, сказала з гаспадарчай будзённасцю:

— Ты адпачні, а я прапалю цыбулю. Дружная вясна ў гэтым годзе.

Ігар Арцёмавіч сеў на канапу, па-дзіцячаму падкурчыўшы босыя ногі, уключыў «Спідолу» і пад ціхую музыку непрыкметна заснуў.

Прачнуўся ад адчування, што на яго нехта глядзіць, чужы. Расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой лысага чалавека з маршчыністым тварам, але дзябёлага яшчэ ў паставе.

Заходзіла сонца. Біла ў вокны. І лысіна ў незнаёмага была ненатуральна ружовая.

Нейкі нядобры халадок штурхнуў у сэрца. Але ён папракнуў сябе:

«Што гэта ты, людзей пачаў баяцца?»

Спусціў ногі, пашукаў тапкі на падлозе, не адразу намацаў іх.

— Здароў, камісар,— фамільярна гукнуў незнаёмы.

— Добры дзень... вечар... але, ужо вечар, я заснуў...

— Пастарэў і ты. Не пазнаеш?

— Не пазнаю.

— Золатаў. Помніш?

«Золатаў!!! Сню я? Адкуль? З таго свету?»

Кроў ударыла ў патыліцу, зазвінела ў вушах. Моцна забалела галава. А сэрца... як адарвалася ад сасудаў і кідаецца ва ўсе бакі, балюча б'ецца аб сценкі грудной клеткі. Так нядоўга і да інфаркту. А другі трагічна канчаецца, ён добра гэта ведае, пражыў з урачом.

Ігар Арцёмавіч спалохаўся.

«Прэч, нячыстая сіла! Аксана! Аксана! Дзе ты? Хутчэй сюды! Уратуй мяне ад гэтага чалавека! Толькі ты, толькі ты можаш ўратаваць».

Не, Аксану нельга клікаць! Аксана не павінна бачыць забойцу Стася!

Хацеў падняцца, але сілы не хапіла.

— Пастарэў ты. Няхай я... А ты дзетак вучыў... спакойная работа.

— Што табе трэба ад мяне?

— Што мне трэба ад цябе? — Золатаў узяў каля стала крэсла, паставіў пасярод пакоя, сеў на яго трывала, яўна разлічваючы на доўгую гаворку.

— Што ты так нявеtліва? Адразу ў лоб. Так старых знаёмых не сустракаюць. Чаю прапанаваў бы. Спякотны дзень...

Не, ратунак ад гэтага чалавека адзін — моўчкі падняцца і выйсці ў сад, да Аксаны. Бліжэй да Аксаны! Даць зразумець, што гутарыць з ім не намераны і бачыць яго не жадае. Няхай ідзе прэч! Няхай згіне з вачэй!

Сабраў сілы, падняўся. Але Золатаў загарадзіў дарогу да дзвярэй. Раскінуў доўгія ногі. Глядзеў нахабна, здзекліва, з ухмылкай, задаволены, што ашаламіў сваім з'яўленнем. Напэўна, думаў: вы мяне пахавалі, а я... вось я, любуйся, камісар!

Ігар Арцёмавіч не адважыўся прайсці міма яго, усё роўна як баяўся зачапіцца за яго ногі. Адступіў у бок ад канапы, на якой сядзеў, да дзвярэй у спальню.

«А што гэта я баюся яго? Няхай ён баіцца! Ён павінен баяцца мяне! Забойца і здраднік! Кіну яму ў твар! Але спакойна, Ігар. Спакойна. Табе нельга хваляваацца. Тваё жыццё — у спакоі».

Глядзеў на выхадныя дзверы. Не хацеў, каб Аксана ўбачыла гэтага чалавека. І хацеў, каб яна ўвайшла, тут жа яна, побач, на гародзе. Толькі яна можа ўратаваць, неаднойчы ратавала.

— Дык што табе трэба?

— Не палохайся. Нямнога мне трэба. Тваё пацвярджэнне, што я быў у атрадзе. Я ваяваў... А потым прайшоў усе кругі пекла. Лагер нямецкі... Лагер савецкі...

Ігар Арцёмавіч адчуў, што яго павяло, калыхнуліся зялёныя кветкі на шпалерах, расплыліся. Ён абапёрся рукой аб касяк дзвярэй.

— Ты ваяваў? З кім?

— Як гэта — з кім? А-а, ты пра палон? А ты ведаеш, хто адаслаў мяне туды? Бандзюга з нямецкім прозвішчам. Ён спіхнуў мяне ў Каменцы з саней. Ударыў нагой. Гэта ты ведаеш?

— Гэта я ведаю. Аляксей Іванавіч сказаў...

— Сказаў? Тады ж?

— Ён не сумняваўся, што Шабовіча — азірнуўся на дзверы — не пачула б Аксана! — ты застрэліў. Твой Іваноў пацвердзіў гэта. Больш таго — сказаў, што і Брагінскага ты... Завошта?

— І вы паверылі ўгалоўніку?

— Не было б пацвярджэння. Праз тры дні немцы блакіравалі лагер. Ты выдаў! Ты! Ты прывёў іх! — не вытрымаў, сарваўся на крык.

У галаве звінелі званы. Разумеў, што ціск падскочыў да неверагоднай лічбы, прасіў сам сябе:

«Супакойся, калі ласка. Прашу цябе. Скажы спакойна. Растапчы яго спакоем. Выкінь і забудзь».

— Але не такія мы дурні былі, як табе здавалася. На дапамогу паклікалі Дзядзюлю. Зрабілі лавушку фашыстам. Ты і твае новыя начальнікі не разлічвалі на такія сілы. Далі мы вам па мордзе. Палажылі... Колькі? Ты больш дакладна ведаеш. Канешне, і сваіх людзей страцілі. Адзінаццаць чалавек. Матрона загінула... Мяне раніла... Але дзіўна... зараз мне дзіўна, што і пасля гэтага ты ацалеў. Не шлёпнулі цябе. Цэнны ж ты для фашыстаў чалавек быў! Што ты прадаў яшчэ? Як расстрэльваў у трыццаць сёмым? На табе ж кляйма няма дзе ставіць, так ты абліты крывёю. Лагер, кажаш? Нямецкі... пасля савецкі? А чаго ты хацеў — узнагарод? Цяпер прыйшоў за ўзнагародай?

Золатаў падняўся. Лысіна яго з ружовай стала сіняй. Грэбліва скрывіўся.

— Стукнуў бы я цябе, ды час не той...

— Стукні! Я апошні, каго ты можаш стукнуць! Цяпер я ведаю, хто пасадзіў Аляксея Іванавіча. Ты! Яго абвінавацілі ў сорак шостым ў выдачы немцам атрада НКУС. Каго ён выдаў? Цябе? Ты і адтуль, з лагера, забіваў нашых. Мы пайшлі да Цанавы. Пяць камандзіраў... Дзядзюля павёў. Нарком выгнаў нас, пагразіў пасадзіць. «Вы ўсе выдавалі мае атрады». Яго атрады! Яны слаба рыхтаваліся. І такія камандзіры, як ты, пасылалі людзей на смерць.

«Навошта я кажу яму гэта? Ён па-ранейшаму нахабна ўсміхаецца. Але няхай ведае, няхай ведае... І не ходзіць за пацвярджэннямі. Але што гэта са мной? Я не бачу яго. Ён расплыўся... І ўсё плыве...»

Так, усё паплыло. Апошняя свядомая думка: вярнуцца на канапу. Абапіраючыся рукамі аб сцяну, ён дабраўся да канапы. Здолеў сесці асцярожна. Але тут жа праваліўся ў бездань. Галава адкінулася на спінку канапы. З горла вырвалася хрыплае булькание.

Золатаў наблізіўся, надзеў акуляры, уважліва разгледзеў былога камісара, які нейкі час захапляўся ім, чэкістам, крыва

пасміхнуўся, прысеў, выцер доўгія рукі аб парусінавыя штаны, калені пацёр і... нячутна ступаючы, выйшаў.

Праз нейкі момант у пакой ускочыла малая Стася, гукнула:

— Дзядзюля! — але тут жа пагразіла сабе пальчыкам.— Ш-ша, спіць.— Ды пачула дзіўны ненатуральны храп і спалохана кінулася на гарод.

— Бабулечка! Дзядуля памірае.

Аксана адразу, па сінюшнасці лба, шыі, вызначыла: інсульт. Дзейнічала без панікі, як урач. Пазваніла ў «Хуткую». Зрабіла ўкол.

Ігар Арцёмавіч на нейкі момант апрытомнеў. Але ў яго адняло мову, паралізавала левую палавіну цела.

Прыехалі ўрачы «Хуткай». Аказвалі першую дапамогу. А ён лавіў Аксаніну руку і паказваў на яе пярсцёнак. На гэта звярнулі ўвагу.

— Ён хоча нешта сказаць, што звязана з вашым пярсцёнкам, Аксана Паўлаўна.

— Ігарок, родны мой? Што? Што табе мой пярсцёнак? Не магу зразумець.

Тады сказала спалоханая Стаська, якая зашылася было ў куток за шафу і плакала там:

— Дзядулечку забіў Фантамас.

— Які Фантамас? — і тут жа перад вачамі паўстаў лысы, што выйшаў з аўтобуса і ад позірку якога ёй стала нядобра.— Пра каго ты кажаш, Стасюлік?

— З дому выйшаў лысы такі, страшны...

— Золатаў! — крыкнула Аксана Паўлаўна, здзівіўшы калег.— Золатаў! Яго забіў Золатаў!

Магчыма, Ігар Арцёмавіч пачуў жончыны словы, бо выпусціў яе рукі і заплюшчыў вочы.

Праз два дні ў абласной газеце з'явіўся некралог: «Раптоўна памёр персанальны пенсіянер...»

І маладыя нават не чыталі скупыя радкі біяграфіі партызанскага камісара. І нікога не цікавіла прычына яго смерці: усе старыя паміраюць раптоўна.

# ДРАМА

*Аповесць*

## *I*

На заводзе аўтапрычэпаў выбіралі дырэктара. Такія выбары былі першыя ў горадзе, хоць, безумоўна, не першыя ў рэспубліцы, у вобласці. Эксперымент перабудовы, дэмакратыі. Таму на сходзе прадстаўнікоў цэхаў, службаў прысутнічала сама Ала Уладзіславаўна Наліцкая, першы сакратар гаркома. Чалавек яна ў горадзе новы, усяго два месяцы выбрана, пераведзена з усходняй вобласці, дзе апошнія тры гады працавала старшынёй выканкома гарадка невялікага, але прыгожага — над Дняпром, угледжанага і да яе, а пры ёй проста расквітнелага; усесаюзны семінар па добраўпарадкаванні, па азеляненні ў ім праводзілі. І гэтым Алачка, як яе называлі калегі-старшыні, са шчырай мужчынскай ласкавасцю, праславілася, паднялася ў рэспубліканскім спісе рэзерву кадраў на ступень вышэй.

Гэты горад разы ў чатыры большы, прамысловы, але... запушчаны, такое было яе першае ўражанне. Праўда, пазней катэгарычнасць яго паменшылася: не тое што не ўгледжаны, а нейкі неарганізаваны — раўнінны, бязводны. Кажуць, князі былі добрымі дойлідамі. Князь, што заснаваў гэты горад, яўна не вызначаўся асаблівым талентам, ды і архітэктары, якія будавалі яго пазней, у тым ліку і ў савецкі час, не былі ні Шчусевымі, ні Карбюзье. З гэтай нагоды ў яе ўзніклі арыгінальныя думкі, якія яна выказала на пленуме, на сесіі гарсавета, думкі яе зацікавілі партыйны і савецкі актыў, і яе, як кажуць, лёгка прынялі, нягледзячы на маладосць. «Баба з галавой»,— даходзіла да яе грубаватая мужчынская пахвала.

На такім сходзе Наліцкая прысутнічала ўпершыню і адчувала, як пільна і з цікавасцю яе разглядаюць не толькі мужчыны — у мужчын усюды гарэлі вочы, калі яны глядзелі на яе, але тут — і жанчыны. Ад гэтай павышанай увагі Ала Уладзіславаўна трохі чырванела, але разам з тым і «іграла на публіку» — уменнем трымацца за сталом прэзідыума.

«Пекная кабета наш першы сакратар,— падумаў не адзін малады інжынер з мясцовых, якія лічылі сябе палякамі і мелі шляхетныя манеры.— Адразу відно — нашага паходжання».

Беларускія шляхціцы лічаць, што прыгажэйшых, чым іх шляхцянкі, жанчын у свеце няма, але ў апошнія гады пачалі прывозіць сабе жонак з усяго Саюза, ажно да Якуціі дабраліся.

Сапраўды слуцкая шляхцянка Наліцкая выглядала эфектна, асабліва побач са старшынёй заўкома Зояй Булат, якая штучна маладзілася. Але Уладзіславаўне ніхто не даваў яе трыццаці шасці гадоў. «Такі сакратар! — прыемна паглядзець. Во пайшлі кадры, не тое што аблезлы кот Рагацюк — былы першы».

Сярэдняга росту, стройная — «што маладая сасонка», элегантна, з густам адзетая, модна прычасаная. І нават вялікія модныя акуляры не псавалі яе па-майстэрску вытачаны бацькамі твар, наадварот, надавалі яму нейкую таямнічасць, пікантнасць.

Эксперымент Наліцкую трохі хваляваў, але звыкла — так яна хвалявалася за кожную новую ідэю. Аднак зусім не сумнявалася, што ўсё пройдзе па сцэнарыі, які сачыніла, не, не яна адна — распрацоўвалі калегіяльна: другі сакратар Піліп Баброўка, вопытны кадравік, старшыня выканкома Воблікаў, сівы зубр, нюху якога можна даверыцца — сем разоў адмерыць, раней чым адрэжа.

На дырэктара напрасіўся, па ўласнай ініцыятыве, намеснік старшыні гарвыканкома Мікалай Шатохін, інжынер-энергетык. Спачатку Наліцкая насцярожылася: ці не хоча Воблікаў такім чынам пазбавіцца ад свайго першага намесніка, з якім, кажуць, на пасяджэннях выканкома неаднойчы драпаўся?

Да завода першы сакратар не адразу дабралася і лічыла яго другарадным: падумаеш — нейкія прычэпы! Ёсць авіяматоры, электроніка — яны вызначаюць аблічча горада, яны ўкладаюць значную долю ў яго развіццё. Завод нярэдка не выконваў план. За гэта, уласна, і знялі былога дырэктара. Перад бюро Наліцкая не магла не наведаць завод. А пабыла там — і змяніла сваю думку. Прычэпы, але якія! Ад дзіцячых калясак — да тых платформ, на якіх возяць панелі, фермы і «сігары»; платформы такія яна бачыла на ваенным парадзе ды ў ракетнай часці, што стаяла недалёка ад прыдняпроўскага гарадка. Ад хатніх маразілак да рэфрыжэратараў. І тады яна паверыла, што Шатохін сапраўды просіцца сам: ёсць куды! Гэта не гарадская каналізацыя і цепласетка з іх бясконцымі аварыямі.

Кандыдатуру Шатохіна ўзгаднілі і ў абкоме, і ў міністэрстве. Цяжэй было з сапернікам яму. Дэмакратыя вымушае даць не пешку супраць ферзя, якую могуць збіць да галасавання. Але кадравая палітыка патрабуе, пры самай шырокай дэмакратыі,

гнуткасці, каб правесці ўзгодненага чалавека. Стыхіі не можа быць. Так разумела малады сакратар гаркома. Бо інакш у чым жа сэнс партыйнага кіраўніцтва?

Зноў падказаў хітры Піліп: галоўнага інжынера завода Галубятніка, Міхаіла Юзафавіча. Вопытны работнік. З былым дырэктарам вёў вайну, і партарганізацыя падтрымала інжынера: чалавек змагаўся і за план, і за якасць, і за абнаўленне завода.

Ала Уладзіславаўна спачатку здзівілася і, не раскрываючы сваю задуму нават другому сакратару, кінула яму папрок:

«Падстаўляеш ты, Піліп Іванавіч, Шатохіну ножку. Прагаласуюць за твайго Галубца».

Але пра Баброўку даўно гаварылі, што ён умее чытаць чужыя думкі.

«Не прагаласуюць».

«Чаму?»

«Па-першае, Галубятнік бывае грубым, можа пакрыць мацюком, прабачце... не рабочых,— начальнікаў цэхаў, майстроў. Асабліва не любяць яго планавікі і бухгалтары, ён высмейвае іх планаванне з яўрэйскай дасціпнасцю. Другое: у гадах інжынер, за пяцьдзесят, і на заводзе доўга — намазоліў вочы. Цяпер стаўка на маладых. І, нарэшце, трэцяе: пішацца палякам. А ці ёсць сярод палякаў хоць адзін Галубятнік?»

Гэта рассмяшыла Алу Уладзіславаўну.

«Галубятнікаў няма?»

«Галубятнікаў хапае. Прозвішча няма. А такіх, пярэхрыстаў, не любяць. Чаму ты скрываеш сваю нацыянальнасць? Чым яна горшая за іншую? Мы ж усе інтэрнацыяналісты».

Але Галубятніка прыйшлося ўгаворваць. Ажно на ўзроўні першага сакратара гаркома. Адмахваўся рукамі і нагамі. І ўсё разумеў: «Вам хочацца пад старасць выставіць мяне дурнем перад усім заводам? У мяне чацвёра дзяцей, і ўсе працуюць у гэтым горадзе. Унукі — школьнікі. Я перажыву. Яны не перажывуць ганьбы. І мая Соф'я Міхайлаўна. Яна з'есць мяне, старога кар'ерыста, і костачкі выплюне. Яна ў мяне такая...»

«Ды чаму ганьба? У прэзідэнты не праходзяць і не лічаць сябе зганьбаванымі».

«Дык тое ж у іх... у праклятых капіталістаў».

«Як жа вы адвучаны ад дэмакратыі!»

«А хто мяне прывучаў да яе?»

«А мне казалі: у сябе на заводзе вы — дэмакрат».

«Дык там я ганяю гультаёў і разгільдзяяў як сідаравых коз. Але хіба гэта дэмакратыя? Прабачце, я часам гну гэтыя самыя... як яны называюцца па-цэнзурнаму?.. каб не разанула ваша вушка...»

«Ну, ад гэтага лёгка адвыкнуць».

І тут інжынер пайшоў «у рожкі».

«Таварыш сакратар! Скажыце шчыра: вам жа хочацца правесці Шатохіна? А мяне вы падстаўляеце для, прабачце, дэмакратыі».

Цяжкая размова была. Але ўсё ж Але Уладзіславаўне ўдалося ўгаварыць старога недаверу.

«Ат, было не было. Праверу — якое яно, маё шчасце».

Наліцкая пасля гэтай размовы, якая нагнала ёй поту, доўга адчувала задавальненне сабой: умее пераканаць не толькі сваіх равеснікаў і маладзейшых, але і такіх упартых «Галубцоў». Памыліўшыся, упершыню пачуўшы гэтае смешнаватае прозвішча, Ала Уладзіславаўна і надалей у думках называла яго «галубцом», а часам — «галубчыкам».

...Вылучэнне прайшло, як па напісаным, хоць сцэнарыя з ходу не пісалі, ад чаго Зоя Булат, якая старшынствавала, адчувала сябе нязвыкла. Трэцяга не вылучылі, і гэта спрашчала задачу. Сакратар гаркома ўпэўнілася ў поспеху эксперымента. Праўда, далейшы ход яе трохі збянтэжыў.

Шатохіна прадставіў сакратар парткома Станіслаў Сліжэўскі. Грунтоўна расказаў пра яго Воблікаў з экскурсамі ў аспекты перабудовы, якая павінна адбыцца ў краіне і на заводзе.

Заводскія за Шатохіна не выступалі. А за Галубятніка гаварылі.

Ала Уладзіславаўна пыталася ў Зоі:

«Хто гэты Шымко?»

«Рабочы».

«А гэты? Як яго?»

«Карэц? Шафёр-выпрабавальнік».

Вось у гэтым найбольшая небяспека — што за інжынера выступаюць рабочыя. Але потым начальнік цэха шасі Ляховіч гэтага Галубятніка, як кажуць, «прапусціў праз мясарубку». Яму нават пляскалі. Праўда, у пярэдніх радах, дзе сядзелі ітээр. «Лепш было б, каб падтрымала галёрка»,— падумала Наліцкая.

І вось тады, калі Ляховіч закругляўся, у залу ўвайшоў Вася Ліхач. Для Алы Уладзіславаўны — Вася. Для ўсіх іншых — Васіль Васільевіч, дырэктар суседняга, праз дарогу, завода гандлёвага абсталявання.

З'яўленне Ліхача амаль спалохала Алу Уладзіславаўну — нядобрым прадчуваннем. Вельмі добра яна ведала гэтага ліхача і з вялікай, і з малой літары.

Ліхач прайшоў у першы рад, дзе былі свабодныя месцы, і адразу, як скончыў Ляховіч, папрасіў слова.

На дырэктара ён мала падобны: хлапчук — без пінжака, у касаваротцы з кароткімі рукавамі, у джынсах.

«Пад заходніка іграе Вася. Не мяняецца мой аднакурснік»,— падумала Ала Уладзіславаўна бадай ужо весела, з гумарам, чакаючы, што ён змарозіць, каго брыкне — Шатохіна ці Галубятніка. Сутыкаўся ж, безумоўна, неаднойчы і з намеснікам старшыні, ды і з суседам мог счапіцца — абодва задзірыстыя, гарачыя.

Ліхач адкінуў з ілба непакорлівыя, выцвілыя ад сонца валасы. «Не сядзіць у кабінеце. Так загарэў»,— з асуджэннем і зайздрасцю падумала Наліцкая і тут жа сцялася, быццам на яе абрынулася бэлька, ажно ў жываце захаладала. Што ён гародзіць? А Ліхач гаварыў сур'ёзна:

— Таварышы рабочыя, інжынеры, дарагія суседзі. Ведаю, чаго вы сабраліся. На вельмі адказны сход, першы такі... І я ўзышоў на гэтую трыбуну, каб прапанаваць сваю кандыдатуру на дырэктара вашага завода.

У зале, у розных месцах, сыпнулі смяшкі, але на тых, хто засмяяўся, зашыкалі. Аўдыторыя была сур'ёзная. І сітуацыя ўзнікала нечаканая.

Разгубленая Булат глядзела на сакратара гаркома: што рабіць? Але і Наліцкая не ведала, што рабіць,— выпадку такога не было ў яе практыцы. Але шмат чаго не было! Ох, нялёгкі лёс у партыйнага кіраўніка — у гэты незвычайны, няхай і цікавы, час дэмакратызацыі і галоснасці. Але ж і дэмакратыяй трэба кіраваць, а інакш яна можа перарасці ў анархію. Вася гэты, Васілёк, «мілы друг», як ласкава называлі яго студэнткі, і ў інстытуце адмочваў нумары, за якія даставалася ў камітэце ёй, камсоргу курса. Дык што ў даным выпадку — чарговы «конік», здзек з дэмакратыі ці сур'ёзны ўчынак? Паспрабуй згані яго з трыбуны. Па-першае, як прыме гэта сход? Безумоўна, выступяць за яго. І пляснешся што ў лужу. А потым яшчэ
Леанід Генадзьевіч далікатненька, але ўедлівенька высмее з трыбуны пленума абкома, «першы» ўмее гэта рабіць, не пасаромеецца выставіць «вялікай дэмакраткай» маладога сакратара.

Здаецца, выручае Воблікаў.

— Васіль Васільевіч! Сход падвёў рысу.

Не, і яго не ратаваў вопыт. Устарэлыя прыёмы не дзейнічаюць. З залы, з розных яе куткоў, закрычалі:

— Ніхто не падводзіў!

— Вы галасавалі за яе, за рысачку гэтую? Прывыклі рысы падводзіць.

— Тайнае галасаванне пакажа.

Ліхач з пераможнай усмешкай павярнуўся да прэзідыума.

— Дык, выходзіць, маю права. А, Міхал Паўлавіч?

— Гаварыце,—- паблажліва дазЗоліла Наліцкая.

— Дзякую, Ала Уладзіславаўна,— Ліхач галантна пакланіўся нахілам галавы.

Наліцкая ўнутрана паморшчылася:

«Не, не змяніўся. Усё такі ж паяц. Скамарох!»

— Каротка пра сябе. Тутэйшы. Нарадзіўся ў Капытках. Бацькі і цяпер у саўгасе.

Наліцкая ўпікнула сябе: пяць гадоў вучыліся ў адной групе, была яго камсамольскім кіраўніком і не ведала, што Ліхач з гэтых мясцін, ніхто ніколі не называў яго заходнікам, відаць, таму, што сам ён ніколі ні да якіх груп не прымыкаў. Гэта была, бадай, яго станоўчая рыса, можа, за гэта яго, шалапута, любілі, асабліва дзяўчаты, якіх на факультэце было не так многа.

— Скончыў машынабудаўнічы факультэт. Працаваў на Гомсельмашы. Выгналі...

У зале засмяяліся.

— Схапіў загрудкі начальніка цэха. Грубіян быў. Мантажнік.

«Ну, Ліхач — лаўкач! Як хітра пляжыць канкурэнтаў. Цікава, як праедзецца па Шатохіну?» — з усмешкай падумала Ала Уладзіславаўна.

— Рабіў інжынерам на оптавай гандлёвай базе. Не навучыўся красці — хацелі выгнаць.

Зноў смех.

— Але на гэты раз я дабраўся да першага сакратара абкома. Начальства базы ўспыхнула сінім полымем. А мяне Леанід Генадзьевіч паслаў дырэктарам гэтага заводзіка. Паверце, не сябе хвалю — калектыў: за тры гады завод стаў лепшым у сістэме. Вы бачылі: адзіны дырэктар на гарадской Дошцы гонару.

Наліцкая, здалося ёй, пачула, як раздзірае ён яе хітра-сплеценую задуму — што трывалае палатно, канец якога ён выхапіў. Колькі гэтага палатна застанецца ў яе руках? Шматок?

«Дошку гонару трэба зняць — устарэлая форма. Збудавалі ў скверы вароты на мармуровым п'едэстале!»

— Пра ваш завод, пра яго перспектыву скажу, калі ўключыце мяне ў спіс прэтэндэнтаў на дырэктарскае крэсла. А цяпер давайце пытанні. Адкажу, як на споведзі.

— Жанаты? — выгукнула з сярэдзіны залы маладзіца.

— Палез бы я на гэтую трыбуну, каб быў нежанаты. Хіба халасцяк можа кіраваць такім сур'ёзным заводам? Навошта яму такая зарплата? На прапой. А мне дзяцей трэба карміць.

Наліцкая сцялася, быццам ён сцёбнуў па ёй.

«Бестактоўны тып. Але дыпламат. Шатохіна не зачапіў».

— За зарплатай гонішся? — паважна, прыпадняўшыся, спытаў з першага рада галоўбух Яўтушка.

— Не толькі. Але што ў гэтым дрэннага, Павел Іосіфавіч? Мы з вамі добра ведаем прынцып сацыялізму...

— Гарэлку п'еш?

— П'ю. Калі даюць. Але ж не даюць — у горадзе поўная цвярозасць.

Зала выбухнула рогатам.

«Зноў па мне?» — ужо без злосці, паблажліва падумала Ала Уладзіславаўна: продаж спіртнога спынілі па яе прапанове на час сенакосу і ўборкі ўраджаю: горад актыўна памагаў сялу. Але чаму рагочуць? — во што ўстрывожыла.

— Чаму рогат? — спытала яна ў Воблікава.

— Бо няма яе, цвярозасці,— гоняць самагонку.

Воблікаў на бюро выступаў супраць поўнай забароны:

«Зарплату не будзе чым плаціць».

«Нічога, пераможам і гэтае зло».

«Дай бог».

Хітругай гэты Воблікаў: часцей за ўсё згаджаецца, а робіць пасвойму. І гарэлачку «выкінуў» да Дня вызвалення. Можна было б запісаць яму за парушэнне пастановы бюро, але не захацела заядацца на пачатку сумеснай работы.

А зала сыпала пытанні. Ліхач дасціпна адказваў. Ішла забава, вызначыла Наліцкая, такой тут, напэўна, ніколі не было, а народ любіць павесяліцца, нават робячы сур'ёзную справу.

— Чужых баб любіш? — дзіўна, што жаночы голас: во бессаромнае насенне!

— Яшчэ б! Такі малады!

— Люблю. Маладых і прыгожых. Але баюся жонкі. І так, бачыце, чупрына парадзела. Ого, зірні я на маладзіцу! — прыгожым жэстам адкінуў звіслыя на лоб валасы.

Магчыма, не сам адказ, а гэты яго жэст і ўся нейкая ж вельмі мужчынская пастава адключыла Алу Уладзіславаўну ад залы, ад выбараў дырэктара, ад усіх іншых клопатаў і ўміг перанесла ў мінулае — у Мінск, у студэнцкія гады, у інтымнае, пра што яна даўно не ўспаміналa — да прыезду ў гэты горад, да сустрэчы з ім.

Ліхача любілі, асабліва дзяўчаты,— такіх шалапутных заўсёды чамусьці любяць. І яна на першых курсах заглядалася на яго, гэта нават заўважылі суседкі па інтэрнацкім пакоі — калі яна захапілася Блокам і ўвогуле любоўнай лірыкай — да позняй ночы чытала. «Сохне Алка па Васю». А потым думкі яе скіраваліся на іншае. Здаецца, на трэцім курсе дзяўчаты са смехам расказалі, што Вася Ліхач лазіць у дзявочы інтэрнат па вяроўцы. Выкідваюць яму з акна вяроўчыну, і ён са спрытнасцю ката ўзбіраецца на трэці паверх. Ала, камсорг групы, абурылася і хацела разабраць яго ўчынак, які ганьбіць студэнта, камсамольца. Адгаварыла яе старэйшая ў групе Галя Бурэйка, жонка выкладчыка інстытута.

«Не рабі гэтага, Алачка, не раю. Ён стане героем, ты не знаеш псіхалогіі мужчын. Можа, у дэканаце і абурацца, але гэта ж не такая крамола, каб яго сурова пакаралі. Даўно ж, нават на сходах, смяюцца, што дзявочы інтэрнат ператварылі ў манастыр. Пасмяюцца з цябе, а не з яго. Павер майму вопыту».

Вопыту Галі яна не верыла, але становішча Бурэйкі — усе выкладчыкі да яе з павагай — вымушала згадзіцца. Аднак пра тых дзяўчат, што спускаюць вяроўку, яна доўга выказвалася з абурэннем. «Якая ты правільная ў нас, Ала!» — адны гаварылі гэта сур'ёзна, другія — з гумарам, а трэціх — не зразумець. Гэтых трэціх, што «ні вашым ні нашым» яна асабліва не любіла; сябе яна лічыла самым шчырым чалавекам і самым смелым: рэжа праўду ў вочы, нават дэкана на сходах крытыкавала і ганарылася гэтым.

А было яшчэ такое. У пачатку пятага курса яна прабірала Ліхача за вытворчую практыку — гуляка часта знікаў з завода. Студэнтам групы гэта не падабалася: гучала даносам, неэтычна выдаваць таварыша, тым больш што справаздача яго аб практыцы не горшая за тваю, пра гэта хтосьці і выгукнуў. Яна не адчувала варожасці аўдыторыі і распалялася, пранікалася зацятасцю, мнагаслоўна даказвала апраўданасць сваёй крытыкі: маўляў, дзеля яго ж карысці. Значна пазней зразумела, што для такой апантанасці не было падстаў — дробнае пытанне; яна ўмела

паглядзець на сябе і самакрытычна. (Праўда, заўважым наперад, амаль заўсёды са спазненнем.)

Ліхач слухаў уважліва, без заўсёднай сваёй скептычнай усмешкі, і гэта яе насцярожвала: такая сур'ёзнасць што зацішша перад навальніцай — чакай бліскавіцы жарту. І ён бліснуў, жарт. А калі гэта быў не жарт?

Вася падняўся і без усмешкі, на поўную сур'ёзнасць, перад усёй групай у трыццаць чалавек сказаў:

«Алка, выходзь за мяне замуж. Во пара будзе! Я — няправільны. Ты — правільная. Закон супрацьлегласці! А якія дзеткі ў нас будуць!»

Яна магла б прыняць жарт яго — прывыкла за чатыры гады — і не звярнуць увагі. Але дзяўчаты, дурніцы, закрычалі:

«Алка, згаджайся! Лаві момант! А то позна будзе. Такія хлопцы не валяюцца!»

Яна абразілася і са слязамі на вачах выскачыла з аўдыторыі, чаго не рабіла ніколі, нават калі размова даходзіла да сур'ёзных сутычак, да абвінавачвання яе ў кар'ерызме, а гэта часам рабілі. Дзіўна, Вася выйшаў следам і зноў-такі зусім сур'ёзна папрасіў прабачэння. І ёй стала сорамна за свае слёзы. А пасля ён быў уважлівы да яе, пачцівы, без смяшкоў. І ў яе — о, слабы пол! — часам з'яўляліся зусім бабскія думкі! Але яна праганяла іх: не на кухні і не ў пялёнках яе прызванне!

А потым здарылася гэтае... Недзе ў зімовыя канікулы. Яна позна затрымалася ў пакоі камітэта — выконвала абавязкі сакратара інстытуцкага камітэта, вызвалены сакратар быў на вучобе ў Маскве. У пакой увайшоў Вася Ліхач. Не павітаўшыся, спыніўся ля парога і пачаў дзіўна разглядаць яе — як убачыў упершыню. Яна адступіла ад стала да сцяны і таксама моўчкі глядзела на яго са страхам і... надзеяй. Божа! Якая ганьба — з надзеяй!..

І раптам ён павярнуўся і шчоўкнуў выключальнікам.

«Ала! Пагуляем у кошкі-мышкі?»

І яна не абурылася, не выставіла нахабніка прэч.

Яна ўсё з тым жа страхам чакала.

Калі трохі адаптавацца, знайсці чалавека ў зацемненым пакоі няцяжка — вуліца далекавата, але святло ліхтароў даходзіць.

І ён адразу знайшоў яе. Абняў, моцна прыціснуў, пачаў прагна цалаваць... у вусны, у шыю. І — о, жах! — ёй гэта было салодка. Потым яго рука дакранулася да калена і, гарачая, папаўзла ўгору, забралася пад трусікі да самага патаемнага месца і ласкава, да

неверагоднасці, да галавакружэння прыемна гладзіла гэтае месца. Сапраўды, яна згубіла галаву ў той, адзіны ў яе жыцці, міг. А ён асцярожна, па сантыметры, падводзіў яе да канапкі, што стаяла ў кутку за газетным столікам. О, гэты праклятый столік! Яны такі зачапіліся за яго, пахіснуліся, і ў яе зляцелі акуляры, з гучным звонам разбіліся. І тады яна адпіхнула яго і сказала: «Дурань!»

Васіль выпусціў яе, адступіў і — як растварыўся ў змроку; яна не бачыла яго і не чула нават дыхання, хоць, цалуючы, ён задыхаўся. Яна не чула, калі ён адступіў ажно да дзвярэй, да выключальніка. Калі нечакана ўспыхнула люстра на пяць вялікіх лямп, яна, заплюшчыўшыся, чамусьці вельмі спалохалася: чакала, што ён зганьбіць яе. Не, Вася меў, як ніколі з часу іх знаёмства, разгублены выгляд, такім не бачыла яго ні разу ні перад кім.

Ён нахіліўся, падняў пазалочаную аправу яе акуляраў, асцярожна палажыў на столік. Уздыхнуў — са шкадаваннем. Сказаў ціха, ветліва, прыстойна: «Прабач, калі ласка».

Ёй захацелася заплакаць, яна спалохалася і адвярнулася. Ён спытаў: «Да інтэрната без акуляраў дойдзеш? Ці праводзіць?»

Яна адказала раззлавана:

«Дайду без цябе!»

«Бывай здарова. Шчасця табе».

Гэтае «шчасця табе» не давала заснуць усю ноч. Не, не гэтае. Дотык яго рукі да мясцін, якіх кранался хіба што рука маці даўно, у яе маленстве; нават дактарам, жанчынам, яна ні разу не дазволіла на медаглядах мацаць у тым месцы, праўда, ніводная і не настойвала на гэтым: не ў сталоўках практыку праходзіць — на заводах. Толькі адна па-матчынаму ласкава пагладзіла яе жывот, ногі, пахваліла:

«Прыгожае ў цябе цела. Во будзе шчасце камусь».

Гэта яе ўсхвалявала мацней, чым усе заляцанні студэнтаў і нават выкладчыкаў.

Так, незвычайная была тая ноч, незабыўная.

Часцей — сорам! — яна замірала ад цеплыні яго рукі. Пасля, ацверазеўшы, гневалася: нахабнік, лавелас, марцоўскі кот! Гэта табе не па вяроўках лазіць. Не на тую натрапіў! І бадай супакоілася і заснула, калі адагнала ўспаміны пра ўласную слабасць і канчаткова пераканала сябе, што сапраўды не на тую натрапіў, што грэхападзенне не адбылося толькі дзякуючы яе стойкасці і высокім маральным прынцыпам. Адступілі ўсе староннія думкі, якія расслабляюць, і прыйшло задавальненне сабой: але, яна вось такая і такой застанецца! Самазадаволенасць

гэтая яшчэ больш вырасла, калі яна прыйшла ў інстытут і ўбачыла, што Ліхач вінавата адводзіць вочы. Праўда, праніклівая Галя Бурэйка спалохана прашаптала:

«Што гэта Вася на цябе баіцца глядзець? Пляснула па мордзе? Ці пабывала ў раі?»

Замужняя жанчына, маці дзіцяці, называе гэта раем? Што робіцца на свеце!

Але нішто не спыніла задаволенасці сабой. І няўцям дзяўчыне было, што такая самазадаволенасць, любаванне сваёй недаступнасцю аддаляе яе жаночае шчасце.

...Наліцкая ўздрыганулася, кроў ударыла... не ў галаву — у жывот, прычыніўшы моцны боль, на лбе выступіў пот. Яна ледзь не ўскрыкнула. Здалося немаведама што: быццам усе гэтыя людзі, пяцьсот чалавек, што сядзяць у зале, убачылі тое ганебнае, што магло адбыцца ў цёмным інстытуцкім пакоі дванаццаць гадоў назад і... засмяяліся. Не адразу дайшло, што засмяяліся з нечага, што сказаў Ліхач, яна не пачула — што, бо знаходзілася там — далёка...

Воблікаў спытаў:

— Што з вамі, Ала Уладзіславаўна? Вады даць?

Яна паглядзела на старшыню асуджальна — за тое, што ён такі ўважлівы да таямніц яе перажыванняў, да змены выгляду яе твару.

— Не трэба мне вады.

І прымусіла сябе слухаць прэтэндэнта на пасаду дырэктара. І віноўнік раптоўнага ўспаміну, страшнага сваім магчымым вынікам — праявай яе дзявочай слабасці, і яшчэ страшнейшага тым, што была ва ўспаміне гэтым нейкая сарамлівая прыемнасць, ад чаго ажно ў жывот ударыла,— ён, Вася, адразу што з калодзежа яе дастаў, вярнуў да рэальнасці, у асветленую залу, на цэнтральнае месца за сталом прэзідыума, да адказнага эксперымента.

Ён не жартаваў — гаварыў сур'ёзна і пра сур'ёзныя рэчы — пра прычэпы, рэфрыжэратары. Ён параўноўваў машыны, якія выпускае завод, з аналагічнай тэхнікай японскай, амерыканскай, нямецкай. Металаёмкасць, гарантыйны прабег. Адкуль узяў такія даныя? Выходзіць, загадзя рыхтаваўся да конкурсу. Чаму ж спазніўся на сход? Для эфекту? Ён і ў інстытуце ўсё рабіў эфектна, тэатральна. Акцёр!

Параўноўваць свае вырабы з сусветнымі ўзорамі стала амаль модай. Але, паколькі гэтыя параўнанні цалкам не на нашу карысць, Ала Уладзіславаўна прымала іх цяжка, насцярожана,

бадай з болем: навошта раздзяваць сябе дагала? Ну, ладна, тавары шырспажыву, мы ім мала ўдзялялі ўвагі... А цяжкая індустрыя? Тая, што сакрушыла ваенную машыну фашысцкай Германіі, на якую працавала ўся Еўропа. Хіба нашы самалёты, танкі былі горшыя ўжо тады, амаль паўстагоддзя назад? Што ж, мы ўсе гэтыя дзесяцігоддзі стаялі на месцы, калі яны, капіталісты, імкліва рухаліся? Неаднойчы ёй хацелася сказаць такім смелым выкрывальнікам тэхнічнага адставання сваёй краіны: «Што вы параўноўваеце японскія відэафоны з нашымі? Мы толькі пачынаем іх вытворчасць. Французскія чаравікі з мінскімі. Вы параўнайце ракеты, касмічныя караблі, падводныя лодкі».

Дзіўна, Ліхач параўноўваў і ваенную тэхніку — платформы, на якіх возяць ракеты. І марку назваў. А яна ж засакрэчаная. Ёй, сакратару гаркома, выпісвалі спецыяльны пропуск у цэх, каля якога стаіць ваенная ахова. Праўда, і ёй гэтыя строгасці здаліся непатрэбнай гульнёй. Але такая галоснасць з вуснаў, па сутнасці, староннягa чалавека спалохала Наліцкую. Хто яму даў такія факты, лічбы? Хто дазволіў? Аднак жа слухаюць яго ўсе вельмі ўважліва, моўчкі, у тым ліку і ваенны прадстаўнік — падпалкоўнік. Праўда, на сходзе ён у цывільным. Ала Уладзіславаўна знаёмілася з ім пры наведванні завода і запомніла: ён выказваў смелыя заўвагі кіраўніцтву завода.

— Машын нашага класа выпускаецца ў краіне...

«Нашага». Ужо — нашага. Чыста ліхачоўская самаўпэўненасць»,— усміхнулася Ала Уладзіславаўна і прапусціла лічбу.

— ...Праўда, даныя пяцігадовай даўнасці. Але для нагляднасці гэта не мае значэння. Для прыкладу. Уявіце, каб усе мы знізілі іх металаёмкасць да ўзроўню заходнегерманскага... на адну пятую... на дваццаць працэнтаў. Давайце падлічым. Можна без камп'ютэра падлічыць. Прыкінь, Павел Іосіфавіч!

— Іншы метал трэба,— кінуў рэпліку нехта з інжынераў, з першага рада.

— Правільна... Але калі не будзем патрабаваць ад металургаў новых профіляў, то калі яны з'явяцца? Не перабудуюцца да двухтысячнага года. Давайце абумовім у дагаворах. Не рабіць па прынцыпу: што даюць — і за тое дзякуй. На гіры — ганьбу нашу, рэч каменнага веку... мы ўсё яшчэ выпускаем іх — і то не ўсякі метал падыходзіць...

З гір засмяяліся, чамусьці асабліва весела. Воблікаў рагатнуў у вуха Але Уладзіславаўне. А ёй заўсёды рабілася брыдка, калі

мужчына зблізку дыхаў у твар. Яна зморшчылася. Аднак спазм твару зняў тупы боль у жываце. І яна з палёгкай уздыхнула.

— Падлічылі, колькі мы зэканомілі б металу? А цяпер аб хадавой часці, аб рэсурсах прабегу. Пра японскія я не мару — няскора дацягнем. Аднак каб мы здолелі павялічыць прабег хаця б працэнтаў на дзесяць-дванаццаць. Дух захоплівае, калі думаеш пра лічбы эканоміі і эфектыўнасці...

Калі гэта ж зробяць і аўтазаводцы — ухты-муфты!..

Гэта трэба ўмець — пра эканоміку гаварыць весела.

Ала Уладзіславаўна павярнулася да суседа злева, ёй падабалася, што ад Шатохіна пахне не тытунём, а тонкім адэкалонам; яна ў пачатку сходу нават са смяшком падумала: «Ці не п'е ён яго?»

— Вось як трэба рыхтавацца.

— Ды ўжо ж,— хмурна адказаў прэтэндэнт нумар адзін.

Ліхачу дружна пляскалі. Воблікаў яўна дэманстратыўна біў у далоні над самым вухам. Гэта раздражняла, і яна падумала, што за продаж гарэлкі на мінулым тыдні старшыні ўсё ж варта запісаць.

Бадай ўвесь час, пакуль выступаў Ліхач, яна не адкрыта, не рашуча — падсвядома думала, як не дапусціць уключэння яго ў спіс для тайнага галасавання. Апладысменты залы і... Воблікава канчаткова зруйнавалі яе тайны намер. Не, ніякіх хадоў, якія б абмяжоўвалі дэмакратыю! Урэшце, калі з абкома кінуць папрок, можна добрую долю яго зваліць на Воблікава, на Баброўку: яна, маўляў, чалавек новы тут, а яны старыя работнікі — павінны былі прадугледзець, падказаць.

У перапынку, пакуль друкавалі бюлетэні, пілі чай у пакоі прэзідыума. Столікі там нізкія, газетныя, крэслы мяккія. Наліцкая ніколі не любіла сядзець у такіх: не ведаеш, куды дзяваць доўгія ногі. А тут... у пакой заглянуў Ліхач, з нечым звярнуўся да Баброўкі. Аднак яна ўгледзела, як позірк яго спыніўся на яе каленях. І яе зноў кінула ў жар і зноў удар крыві не ў галаву — у жывот. Ніколі падобнага не было пры самых стрэсавых сітуацыях — прылівала да галавы. І зноў абдала гарачая... ці халодная? — не сцяміць — хваля непрыемнага ўспаміну. Але ці такі ўжо ён непрыемны? Во што, бадай, палохала.

Калі Ліхач выйшаў, Але Уладзіславаўне пачало здавацца, што ўсе маладыя мужчыны разглядаюць яе ногі, адзін хіба стары Воблікаў абыякавы. Раней гэта не бянтэжыла: мужчыны часта паглядвалі на яе прыгожыя ногі і ніколі ад гэтага чырвань не залівала твар.

Не дапіўшы чай, спаслаўшыся на духату, Наліцкая выйшла на вуліцу. Але і там прахалоды не было, хоць сонца і схавалася за блізкімі дамамі мікрараёна. Парыла. Падобна, на ноч збіралася навальніца. Гарком займаецца не толькі горадам, але і сельскім раёнам, савецкія органы раздзельныя. І яна з заклапочанасцю добрай гаспадыні падумала, што, калі пройдзе дождж, гараджанам, якія выедуць заўтра на суботнік у калгасы і саўгасы, не будзе фронту работы, бо стаяла задача ў гэтыя спякотныя дні падагнаць уборку сена. Трэба раніцою, не пазней як у шэсць, звязацца са старшынямі і дырэктарамі, высветліць абстаноўку і даць параду. Цяпер выступаюць супраць парад зверху. Але як без іх? У чым жа будзе заключацца партыйнае кіраўніцтва? Іншая справа, каб не было патрэбы пасылаць людзей з горада. Тады і колькасць званкоў можна было б абмежаваць. Давайце хлеб, давайце малако, мяса, а як вы іх вырошчваеце — ваша справа. Дык не выходзіць жа так.

І зноў — Ліхач. Як злы дэман, як прывід. Ён стаяў у акружэнні вялікай групы і, безумоўна, расказваў анекдоты, бо слухачы рагаталі.

«Дэмагог,— нядобразычліва падумала былая аднакурсніца.— Умее выгодна падаць сябе».

Убачыў яе, пакінуў сваіх слухачоў, пайшоў насустрач, прыветлівы, вясёлы, фізіяномія — што намаслены блінец.

Не даўшы яму першаму загаварыць — сказаў бы які-небудзь пошлы камплімент,— Ала Уладзіславаўна спытала ва ўпор:

— Навошта табе гэтае дырэктарства?

— Ха! Ала! Яшчэ Кутузаў сказаў: калі не падумаеш сам пра сябе, то хто пра цябе падумае? Я ведаю сабе цану.

— Высокая яна ў цябе.

— Не высокая, але і не нізкая. Ты добра ведаеш, што я здольны на большае, чым рабіць гіры.

— Адкуль гэта ты даныя такія выкапаў аб гэтай тэхніцы? — кіўнула яна ў бок завода прычэпаў, потым — у бок яго завода.— Не аб вагах сваіх.

— А мне Міша Стасюк прыслаў. Помніш яго? Ён у Маскве ў міністэрстве гэтым працуе.

— Ты з многімі нашымі перапісваешся?

— З хлопцамі — з многімі. Дзяўчат разгубіў — павыходзілі замуж. Сустрэў у Брэсце Наташу Рэнту, а яна, як качка, вядзе цэлы вывадак — трое пацаноў адзін у адзін. Во малайчына!

«А тактоўнасці ў цябе бракуе»,— падумала Наліцкая і спытала:

— У цябе многа дзяцей? — хоць добра ведала, колькі ў яго дзяцей, навяла даведку праз сакратаршу.

— Двое. Зайшла б у госці. Інстытуцкія таварышы...

— Жонка не прыраўнуе?

— Ха! — рагатнуў ён.— Да першага сакратара — не. Яна ў мяне разумная. Ды і я не дурань. Не расказаў ёй, што ты пяць гадоў сушыла маё сэрца.

Ала Уладзіславаўна з апаскаю азірнулася — ці не пачуў хто? Ціха, з паблажлівасцю старэйшай сказала:

— Балбатун ты, Вася. Якім быў...

— Такім і застаўся? — падхапіў ён запытальна і рашуча адмовіў: — Не! Ты не знаеш, які я сур'ёзны стаў.

— Пабачым.

З 447 чалавек, што ўдзельнічалі ў галасаванні, 276 падалі голас за Ліхача, 132 — за Галубятніка і толькі 39 за Шатохіна. Калі абвяшчалі вынікі, Воблікаў спытаў у Наліцкай — усё роўна як падслухаў яе патаемныя думкі:

— Дзве трэці не трэба?

Яна ўзлавалася: стары правакатар, добра ж ведае, што нідзе пра дзве трэці не запісана, ні ў адной інструкцыі, ні ў адной пастанове, дадзена поўная дэмакратыя — як вырашыць калектыў.

Аднак пакутліва думала: як далажыць у абком аб поўным правале ўзгодненага Шатохіна? На бюро не паклічуць, але падумаць могуць: слабаваты першы, не здолела арганізаваць як мае быць першае галасаванне, не разумее сутнасці дэмакратыі.

Калі выходзілі, Шатохін, бадай, непачціва і ўзлавана сказаў:

— Добры вы, Ала Уладзіславаўна, спектакль разыгралі. Выдатны рэжысёр! Аднакурснікаў цягнеце? Сваіх людзей...

Можна было абурыцца. Яна не абурылася. Пасля таго, як яе выбралі першым сакратаром, яе абурыў Ліхач, які прыйшоў за сцэну і па-панібрацку, залішне фамільярна павіншаваў: «Добра крочыш, Ала!»

А тут, пасля слоў Шатохіна, раптам узрадавалася. Усё ж атрымалася найлепшым чынам, сапраўды па-сучаснаму, у духу перабудовы. Хто-хто, а Леанід Генадзьевіч, безумоўна, ухваліць, Ліхача ён напэўна помніць, раз апальнага інжынера гандлёвай базы паслаў дырэктарам завода.

«Ліхача трэба падтрымаць,— цвёрда вырашыла Ала Уладзіславаўна.— Гэта мой выйгрыш, як кажа той жа Леанід Генадзьевіч».

## 2

Дзень быў душны, парны, але сонечны — на небе ні хмурынкі. «Мора сонца»,— пачула Ала Уладзіславаўна хлапечы голас раніцою — кагось з тых шчаслівых, што газавалі матацыкламі, збіраліся на раку. Учора стаяў такі ж дзень — з морам сонца, а скончыўся морам дажджу, ліўнем. У горадзе нарабіла бяды — затапіла падвалы, вада прарвалася ў аптэчны склад і папсавала лякарствы, якіх і без таго небагата. Першаму сакратару прыйшлося да поўначы займацца ліквідацыяй вынікаў «біблейскага патопу», як назваў лівень Баброўка. Зайздросны характар у другога, нічога яго не здзіўляе, не бянтэжыць, не выбівае з раўнавагі. А яна вось за ўсё хвалюецца. Паспала не больш як пяць гадзін і, як кажуць, па ранішняй расе — у калгасы. А там — спакой, як у Баброўкі. Старшыня калгаса «Партызан» Івіца толькі снедаў. Запрасіў і яе, але яна адмовілася, хоць пасля пашкадавала, бо дома выпіла кубачак кавы з зацвярдзелым сырам і пячэннем, хлеба нават не было, не паспела купіць учора.

Дзіўны гэты Івіца. Прозвішча чаго варта! А імя яшчэ больш дзіўнае, нейкае стараверскае — Фрол, а па-бацьку дык каталік — Эдуардавіч. І ўсё, што акружае яго, гэткае ж супярэчлівае. Дом — катэдж, на выгляд добра ўгледжаны, усярэдзіну яна не зайшла, але гардзіны і шторы багатыя. А перад домам, там, дзе павінны расці кветкі,— памідоры, не пасынкаваныя, не падвязаныя, разрасліся, ажно спляліся, каля плота — крапіва, на вуліцу лезе.

«Што ён, у калгасе памідораў не садзіць? Казалі ж: лепшы гаспадар. Дзе ж твой прыклад гаспадарання, калі ўласны гарод крапівай зарос?»

І сам — як Эдуард і Фрол: чысценькая маладзёжная сарочка, модная, імпартная, і зашмальцаваныя штаны, запэцканыя гумавыя боты. У ліпеньскі дзень з «морам сонца» — гумавыя боты! Так цяпер дзяды не адзяюцца. А ён жа — малады чалавек, хіба гады на тры старэйшы за яе.

У Алы Уладзіславаўны расла злосць на Івіцу. Уласна кажучы, настроенасць супраць яго з'явілася яшчэ да знаёмства, бадай, з учарашняга дня, калі складала маршрут сваёй паездкі па гаспадарках. Не магла ўспомніць гэтага Івіцу, выходзіць, за два месяцы яе работы ў таго не з'явілася патрэба наведацца да першага сакратара гаркома. Памочнікі, той жа Баброўка, інструктары, рапаўцы як забыліся на яго — не хвалілі, не ганілі ні на пасяджэннях бюро, ні ў прыватных размовах.

— Вы член гаркома?
— Ага.
— Прысутнічалі, калі мяне выбіралі?
— Быў.
Наліцкая здзівілася: у яе ж добрая памяць на твары, а такія рыжыя, па-шляхецку падкручаныя вусікі немагчыма не запомніць.
«Выходзіць, з тых, што не вылазіць наперад. Пасядзеў у кутку».
— Дождж многа напсаваў?
— Што вы, таварыш сакратарка! Хіба дождж можа зямлі напсаваць? Ячмені, праўда, трохі палажыла. А так — лета як па заказу.
«Што ён здзекуецца — «сакратарка»? Прастачком прыкідваецца?»
— А сенакос?
— А што сенакос? У нас — тры сушылкі.
— Сёння работай шэфаў забяспечыце?
— Шэфаў забяспечу, у нас з імі дагавор.
— Хто вашы шэфы?
— Завод аўтапрычэпаў.
— Ведаеце, што там выбралі новага дырэктара?
— Ліхача? Ён з нашага калгаса. За чатыры кіламетры яго вёска. У адну дзесяцігодку хадзілі, толькі я трохі старэйшы.
— Вунь як! — амаль здзівілася Ала Уладзіславаўна і пацешылася, што мае такое пільнае вока: узрост вызначала дакладна.— Колькі прыедзе шэфаў?
— Шаснаццаць.
— Колькі?!
— Чатыры машыны з прычэпамі. Па тры грузчыкі на кожны, плюс вадзіцелі. Да нас ахвотна едуць: мы добра плацім. І добра кормім.
Наліцкая дастала з папкі — дамскіх сумачак не любіла — спіс разнарадкі выезду гараджан на сельгасработы.
— Да вас прыедзе пяцьдзесят чалавек.
— Нам столькі не трэба.
Яна гнеўна пачырванела. Узлавалася не на Івіцу — на гаркомаўцаў, на кіраўнікоў РАПА: працуюць па-старому, фармальна, не ведаюць нават, якая дапамога патрэбна таму ці іншаму калгасу ці саўгасу. Можа, камусьці зусім не трэба. Не, пасылаюць. Там, у прыдняпроўскім раёне, дзе людзей у сяле значна менш і калгасы слабейшыя, такіх аўралаў не ўчынялі, панікі не рабілі, старшыню гарвыканкома не прымушалі

выязджаць з гараджанамі. Выходзіць, не яна кіруе, не яна ламае замшэлыя завядзёнкі, а яе падхапіла і нясе старая інерцыя. Ламаць! Ламаць старое! Старшыня райвыканкома Сіротка прыкідваўся казанскай сіратой: вымагаў разам з начальнікам РАПА як можна больш людзей. А дырэктары стагналі: час адпачынкаў, людзей у цэхах не хапае. Дырэктар хлебазавода сказаў ультыматыўна, што не забяспечыць горад і раён... два раёны!.. хлебам, калі рабочых адарвуць ад цестамяшалак і печаў.

«Перш-наперш трэба думаць, з чаго спекчы гэты хлеб»,— на нарадзе ў гаркоме Ала Уладзіславаўна была задаволена сваім адказам, а тут раздражнёна падумала: дырэктары добра ведаюць, што некаторых людзей вывозяць у поле дарэмна. Аднак на нарадзе пра гэта ніхто не сказаў. Увогуле ёй не падабаецца маўклівасць гарадскіх кіраўнікоў, сельскія больш гаваркія, патрабавальныя. Што гэта? Стыль застойнага часу? Ці маўклівае ігнараванне ўказанняў гаркома? Маўляў, у нас сваё начальства ёсць — міністэрствы. Калі так, то трэба і гэта ламаць.

— Гаспадарку пакажаце? — спытала ў старшыні.

— Калі ласка, таварыш сакратарка.

— Маё імя — Ала Уладзіславаўна.

— Зразумеў.

«Прыкідваецца мужычком. Боты нацягнуў...»

Наліцкая даўно, з абкома камсамола, не любіла такіх вось дамарошчаных акцёраў у кіраўніцтве, у калгасах іх больш, чым дзе, яны неаднойчы ставілі яе ў няёмкае становішча сваёй ігрой. Яна — шчыра, верачы ім, а яны падсоўвалі лухту, абракадабры. Сакратару абкома камсамола такіх жабак можна было пракаўтнуць, хоць і брыдка. А ўжо ў гарвыканкоме яна давала такім па носе. Ставіла на месца, навучыла павазе. Тым больш гэта трэба рабіць у яе цяперашнім становішчы.

— У вас якая адукацыя, Фрол Эдуардавіч?

— Ветэрынарны тэхнікум.

— Завочна не вучыцеся?

— Спрабаваў — не выцягнуў. Чацвёра дзяцей. І ад гаспадаркі не адарвешся. Дня не хапае. Дзяцей не бачыш.

«Трэба мяняць. Цяпер без вышэйшай адукацыі не кіраўнік,— цвёрда вырашыла Наліцкая.— Інстытут не выцягнуў. Як жа перабудову выцягне?»

— Што ў вас памідоры так зараслі?

— Цешча ў бальніцы.

— А жонка?

— Яна ў дзіцячым садзе робіць. А ў нас сад — з цямна да цямна,— і нявесела пажартаваў: — Жонку таксама няма калі пацалаваць.

Лужыну паміж веснічкамі і машынай Ала Уладзіславаўна абышла. А Івіца паплёхаў праз лужыну. Яўна знарок. Яна ледзьве не засмяялася, убачыўшы, як зірнуў на старшыню яе чысцюля Толік, шафёр; машыну і ўнутры, і звонку ён утрымлівае ў ідэальнай чысціні, паездка па палявой дарозе для яго трагедыя, на яе жарты нязменна з гонарам адказвае: «Я генерала вазіў». Яна ўсё намервалася заглянуць да шафёра дадому: цікава, які парадак у яго ў кватэры? Сябе яна часам папракала, што не заўсёды наводзіць чысціню ў кватэры — не хапае часу.

Павярнулася да Івіцы:

— Як думаеце перабудоўвацца?

— А мы даўно перабудоўваемся.

— Як даўно?

— Ды гадоў дзевяць. Як я прыйшоў сюды.

— Высокай вы думкі пра сябе.

— Чаму пра сябе? Пра людзей. Надойвалі мы тады тысяча восемсот, а цяпер — тры чатырыста...

— І вы лічыце гэта дасягненнем?

— Няхай усе па столькі дадуць — не будзе куды малака дзяваць. З нашым малаказаводам.

Заводам Наліцкая займалася, на бюро слухалі, хацелі ўляпіць дырэктару вымову, яна ратавала — не яго віна, былога міністэрства, цяперашняга ўпраўлення аграпрома.

— І ўраджайнасць. Было чатырнаццаць. А ў мінулым годзе — дваццаць сем. У гэтым, калі ніякай стыхіі не здарыцца, плануем... Хіба не перабудова?

«Такога не заменіш. Такога Леанід Генадзьевіч напэўна асабіста ведае. Паспрабуй сунься з заменай — будзеш тыдзень чырванець. Хіба што на павышэнне — у *РАПА*».

Вуліца гразкая, выбітая, з глыбокімі лужынамі. Толік ажно стагнаў — так шкадаваў новенькую чысцюльку «Волгу».

— Замасціць не можаце? Людзі ж ходзяць.

— Тры гады кланяюся дарожнікам. Памажыце. Гаспадарчым спосабам дарогу не намосціш.

— Памагу,— цвёрда паабяцала Наліцкая, хоць да дарожнікаў яшчэ не дабралася і магчымасцей іх не ведала. Але ж не турысткай яна сюды прыехала — справу робіць.

Не спытаўшы, з чаго пачаць агляд, Івіца скіраваў да свінакомплексу. Але не пад'ехаў да цэнтральнага ўвахода, каля якога, як пасля выявілася, была бетонная пляцоўка, а прымусіў Толіка ехаць паміж двума доўгімі і нізкімі хлявамі, дзе гразі было па каўпакі колаў. Праўда, спыніў каля дзвярэй, ад якіх ішла ў другі хлеў дашчаная кладка. Не прымусіў усё ж яе ступіць у чаравічках у гнойную жыжу. І за гэта дзякуй.

— Гразна ў вас.

— Дык тут жа свінні гуляюць. Канечне, не тое што на ставасьмітысячніку ў Хмяньках. Але наша свініна на трэць танней, чым у хваленага Валевіча. А потым я вам скажу... Пішуць многа пра Галандыю: во дзе культура! Ездзіў я туды. Заглянулі знянацку — мая прыдумка — на адну ферму. У свінарнік. Галоў на пяцьсот. У нас шэсць тысяч. Дык вы думаеце, там чысцей? Не сказаў бы. Свінарнік ёсць свінарнік. Але што мяне пеканула. У станку стаяла дзіцячая каляска. У ёй дзіцятка-немаўлятка. Пад накідкай. Але ўсё роўна мух — хмара. Ажно страшна зрабілася. І памеркла — для мяне — уся іх высокая культура. Каб у нас апературар прывезла сюды дзіця такое, я ў той жа дзень сам збег бы з калгаса. А вы кажаце: перабудовы няма...

Разгаварыўся старшыня, які напачатку здаўся насупай.

Вадзіў па свінарніку. Спыняўся каля клетак з пароснымі свінаматкамі, з ружовымі парасяткамі, тлусценькімі падсвінкамі. І нечакана мнагаслоўна расказваў пра нораў жывёл, пра работу апературараў, ні разу не назваў свінаркамі, што Але Уладзіславаўне падабалася. Гаварыў пра тэхналогію бадай з захапленнем, якому можна пазайздросціць. Але яна не зайздросціла. Здарылася незвычайнае. Не была яна гарадской чыстаплюйкай. Вясковая дзяўчына. Дома ў бацькоў карміла свіней, даўно, праўда, калі прыязджала на канікулы, памагала выкідваць гной з хлеўчукоў. А тут раптам ад свінога спецыфічнага смуроду яе пачало пудзіць — да балючых спазмаў у жываце, горшых, чым на сходзе. І яна не слухала Івіцу. Яна са страхам думала: «Толькі б не вытваніла. Толькі б не вытваніла». Якая ганьба будзе! Што пра яе падумае гэты хітры старшыня і жанчына ў белым халаце — апературка, што далучылася да іх. Чаго добрага, падумаюць, што яна цяжарная, такое, кажуць, здараецца ў цяжарных. Чамусьці яе найбольш страшыла, што падумаюць менавіта так. Здаецца, наадварот — лепшае апраўданне.

«Але ж ён, напэўна, ведае, што я незамужняя. Ці даведаецца».

Паскорыла Івіцу:

— Тэхналогію вырошчвання парасят я ведаю.

Прагна ўдыхала паветра, вільготнае яшчэ пасля ўчарашняга дажджу, але цёплае ўжо, нагрэтае яркім ліпеньскім сонцам.

Разумела, што нядобра віну за сваю слабасць — мала што здараецца! — звальваць на старшыню. Але здавалася, што Івіца бачыў яе стан — такі Хрол усё бачыць! — і знарок зацягваў знаёмства са свіннямі, раздражнёнасць супраць яго нарастала. Не хацелася гутарыць з гэтым хітруганам далей, хоць ехала з намерам унікнуць ва ўсе дэталі калгаснай вытворчасці, каб дасведчана, з фактамі выступіць на нарадзе работнікаў аграпрома — аб арганізацыі па-новаму блізкай уборкі ўраджаю. Але што значыць па-новаму? Аднак спытай у такога, як гэты Івіца, калі ён лічыць, што перабудоўваецца ўжо дзесяць гадоў. Занадта самаўпэўнены тып!

— Палі я сама пагляджу.

Івіца здзівіўся, бо, мабыць, настроіўся і далей прасвячаць сакратара гаркома. Такія «прафесары» — што азартныя гулякі, спыніцца не могуць.

У машыне Ала Уладзіславаўна зноў пачула свінячы дух — ад сябе. Гэта яе спалохала. Чаму раптам? Быццам упершыню наведала свінарнік. Няўжо прыйдзецца ездзіць з гэтым брыдкім адчуваннем цэлы дзень? Зірнула на шафёра: ці не цягне гэты чысцюля носам, ці не абнюхвае яе?

Адмовілася ад задумы наведаць комплекс — стотысячнік. Не, хопіць з яе свіней! А то і сапраўды яшчэ аскандалішся.

За вёскай спыніла машыну на мяжы поля буракоў і ячменю.

Пайшла па разоры.

Ячмень наліваўся і мяккімі сухімі ўжо вусікамі прыемна казытаў лыткі. А на лапушыстым лісці буракоў трымалася яшчэ буйная раса, гарэла вясёлкамі.

Ала Уладзіславаўна разула запэцканыя чаравікі, з грэблівасцю выцерла іх мокрым лісцем. Ім жа, лісцем, памыла рукі. Расцёршы, з асалодаю ўдыхала іх свежую, жывую духмянасць. Як чыста пахне расліна! Расцерла мяккія каласы ячменю, таксама панюхала. А ў няспелым зерні зусім чароўны пах. Ап'янець можна. Пайшла босая па разоры ў канец даўжэзнага поля, ажно да сасоннікаў. З незвычайнай прыемнасцю, з адчуваннем чалавека, які вярнуўся з пустыні ці з космасу, пагуляла па лесе. Пад соснамі і бярозкамі зямля была вільготная, пахла грыбамі. Купінкі ярка-жоўтых лісічак здаліся маляўнічым цудам, акварэлямі вялікага мастака. І тут нечакана для сябе яна паламала план свайго

суботняга дня. Урэшце, жывы ж яна чалавек, мае права на адпачынак, як усе; у гарвыканкоме выкарыстоўвала па два выхадныя, асабліва раней, да перабудовы, калі ўсе пасяджэнні праводзілі ў рабочы час. А тут яна дазволіла толькі адзін выхадны, ды і то калі атрымала кантэйнер з мэбляй і расстаўляла яе ў кватэры.

Нясцерпна захацелася пакупацца. Такі дзень! У Дняпры купалася штодня, да халадоў. А тут ні разу не выбралася, так і лета міне.

Даўно намервалася наведацца ў месца масавага адпачынку на Нёмане.

Шафёр, разамлелы ў нагрэтай сонцам машыне, салодка спаў, адкінуўшы галаву на сядзенне. Чамусьці яго бестурботны сон узлаваў Алу Уладзіславаўну. Яна рэзка рванула дзверцы машыны. Хлопец спалохана ўздрыгнуў, прачнуўся і пачырванеў, быццам захапілі яго з нечым недазволеным, ганебным.

— Мухі ў рот наляцяць, Толя,— упікнула за сон.

— Мух тут няма. А пчолы заляталі. Я ў сняданак чай з мёдам піў. Няўжо чуюць? Во дзіва! Праўда?

Толя сумленнейшы хлопец, але без пачуцця гумару, нават жарты прымае сур'ёзна.

Наліцкая цаніла нядаўняга сяржанта, які вазіў генерала, акуратнасць яго ва ўсім цаніла, не здагадваючыся, што сам ён перажывае душэўную раздвоенасць.

У гаркоме Толя працаваў да яе, вазіў гэтак жа акуратна былога сакратара, любіў вясёлага чалавека, балюча перажываючы, аднак, яго начныя паездкі ажно ў суседні райцэнтр — да жанчыны; з-за гэтага і пагарэў сакратар, бо развёўся з жонкай.

Толя ганарыўся новай гаспадыняй: прыгожая, маладая, далікатная і правільная, як генерал, ніякіх вольнасцей не дазваляе сабе. Але ў яго была нявеста, яны падалі заяву ў загс. Убачыла Данута новага сакратара побач са сваім жаніхом і — як з ланцуга сарвалася, а да таго ж была што майскі лісточак — духмяная, ліпкая.

«Не хачу, каб ты вазіў такую! Пераходзь у другую арганізацыю, інакш ніякага вяселля не будзе».

Шкада пакідаць гарком — пачэсна. Машыны найноўшай мадэлі, адзінай у горадзе, у генерала такой не было, таксама шкада. Але ж не расставацца з-за машыны з Данутай, не з такіх ён ветрагонаў; паабяцаў ёй знайсці новую работу. І не знаходзіў. І пакутаваў. Хацеў нават паскардзіцца Але Уладзіславаўне, але

разважыў, што нядобра гэта: Дануціна недарэчнае раўнівае падазрэнне напэўна ж абразіць строгую жанчыну, якая наконт адносін паміж палавінамі роду чалавечага нават не пажартавала ніколі, не тое што былы — расказваў такія анекдоты, ад якіх у Толіка валасы гарэлі.

Праехалі па шашы з кіламетр. З ветрыкам.

— Толя, ведаеш месца масавага адпачынку гараджан?

— На Нёмане?

— Так.

— Дык гэта ж у другім баку.

— Разварочвайся.

Здзівіўся хлопец. Раніцою яна выдала свой дзённы план. Ніякага Нёмана і блізка не было. Няўжо захацела адпачыць, пакупацца? Толя рэзка, чаго ніколі не рабіў, затармазіў, павольна, як нехаця, развярнуўся, адчуваючы, што ў яго макрэе майка на спіне. Яму ўсё роўна куды везці. Але туды... Туды збіралася са сваімі дзяўчатамі, работніцамі трыкатажнай фабрыкі, Данута і зрабіла яму цяжкую сцэну рэўнасці, калі пачула, что ён паехаць не можа, што ў яго субота рабочая. «Канечне, табе прыемней з ёй. Ну і катайся са сваёй мадамай. Катайся!» — і пакінула яго ў скверы аднаго. Што ж будзе, што будзе, калі Данута сустрэне іх на пляжы! Успацелі нават далоні, слізкімі сталі на шурпатай паверхні руля.

Пакуль даехалі туды — каля сотні кіламетраў адматалі, сонца паднялося ў зеніт, нават і на добрай скорасці машына нагрэлася. Але па шашы нічога, астуджала вецярком. А дарога ад шашы да ракі праз густы яловы лес — не дарога, а хутчэй ласіная сцежка, выбітая коламі машын, з бясконцымі лужынамі ад ліўню. Машыны паўзлі з хуткасцю чарапах, многа машын — «Жыгулёў», «Масквічоў». Ледзьве размінуліся з сустрэчным пустым аўтобусам, паўдзесятка машын, у тым ліку і іх даволі ўжо запэцканая белая «Волга», мусілі даваць задні ход на палянку, каб уступіць дарогу аўтобусу.

У лесе — што ў лазні, вільготна, душна. Толя цяжка дыхаў, як стары, пацеў. Наліцкую гэта занепакоіла.

«Ці ў парадку яго лёгкія?»

Яна саромелася прызнавацца самой сабе, але быў у яе своеасаблівы «комплекс»: яна баялася хворых; зрэдку нават адважвалася пажартаваць, што міласэрнай сястры з яе не атрымалася б.

«Я па сваёй псіхалогіі — міласэрны брат, улавіце розніцу»,— сказала яна неяк свайму былому сакратару райкома.

А яшчэ яна не любіла патлівых. Даўно, можа, гадоў пятнаццаць назад, калі яшчэ вучылася, маці пачала з ёй гаворку пра замуства: ці ёсць у яе жаніх? Па ўзросту варта мець. Не вельмі цнатліва яна адказала:

«Мне брыдка падумаць, што трэба класціся спаць з мужчынам. Ад іх потам пахне, тытунём і... гарэлкай».

Маці паглядзела на яе з трывогай, са шкадаваннем, як глядзяць на хворае дзіця, сумна паківала галавой:

«Дурная ты, дурная, Алька».

А ёй спадабаўся ўласны адказ, і яна бадай з гонарам, з маральнай перавагай паўтарала яго сваім аднакурсніцам, у якіх галавы былі начынены думкамі пра хлопцаў. Дзяўчаты весела рагаталі. А ўедлівая, бадай, злосная і зайздросная, можа, з-за сваёй непрыгожасці Жанна Шкаруба адказвала:

«Не слухайце вы яе. Яна самая большая грэшніца з усіх нас».

Жанна, кажуць, двух мужоў памяняла. І Але часам хацелася сустрэцца і гэтак жа ўедліва спытаць:

«Дык хто з нас грэшніца?»

Аднак пазваніць Жанне, калі наведвалася ў Мінск, баялася: на гэтае пытанне Жанна можа такое адказаць, што не парадуешся. Здзівілася: чаму ў гэтым душным лесе прыйшлі ў галаву такія мізэрныя, проста ганебныя для яе становішча думкі? Увогуле пасля сходу на заводзе, дзе выбіралі Ліхача, да яе часцей, чым раней, прыходзяць бабскія думкі. І яна злавала. На сябе. І на яго. На яго завошта?

Толя закашляўся.

«Трэба сказаць Баброўку, каб патрабаваў ад шафёраў медыцынскія даведкі».

Але тут жа зразумела, што гэта неразумна. Якая дзікая думка можа ўзнікнуць у другога сакратара, які любіць, праўда, даволі далікатна, памусоліць жаночую тэму. Дзіўна для яе: быццам людзі толькі гэтым і жывуць — каханнем, жаніцьбай, замуствам, узаемаадносінамі полаў. Яе гэта цікавіць толькі ў плане работы — клопатаў пра загсы, радзільныя дамы, яслі, сады.

— Што, Анатоль, кашляеш? Як дзед. Глядзі, машына закашляе.

— У мяне алергія на елку. З маленства. З-за мяне ў доме ніколі не ставілі ёлку. Праўда, у арміі ў лагеры мы жылі ў яловым лесе — і нічога. Армія ад усяго вылечвае. Наш начальнік медсанчасці казаў, што алергія — панская хвароба.

Ала Уладзіславаўна пачула зноў пах свінарніка і жорстка, з асуджэннем, падумала пра сябе:

«У цябе, дарагая, часам не панская хвароба?»

— Многа такой дарогі?

— Тры кіламетры.

— І нікому не прыйшло ў галаву выпраміць яе і замасціць? Хаця б гравій насыпаць.

— Дык другі ж раён.

— Раён другі, а людзі нашы. Дзелім горш, чым суседнія недружалюбныя дзяржавы,— і цвёрда вырашыла:— Дарогу мы тут зробім!

— Во людзі дзякаваць будуць,— узрадаваўся Толя, хоць не пакідала яго трывога за магчымую сустрэчу з нявестай.

Нарэшце выехалі з лесу на прырэчны прастор. І хаця ракі не было яшчэ відаць, але, здаецца, подых яе Ала Уладзіславаўна адчула высунутай з кабіны рукой. А ў сэрцы ажно зашчымела ад успаміну: такі дняпроўскі прастор бачыла яна штодня з акна кватэры ажно цэлыя тры гады. Бяскрайнасць неба, бясконцы паток вятроў, блізасць вады, стагі сена — як кінуць вокам, што старажытныя вартавыя вежы.

Тут, праўда, не луг — высокі бераг, пясчаны, але на ім такія ж адзіночныя дубы, лазняк у нізінах, як і там на высокім беразе за лугам. Прыбярэжжы вялікіх рэк падобныя і ў той жа час непаўторныя, кожнае запамінаецца нейкай адметнасцю.

Дарогу разбілі так, што пад узгоркам «Волга» забуксавала ў пяску. Ледзьве вылезлі. Злева пад дубамі стаяла добрая сотня машын. Далей хадзілі мужчыны і жанчыны ў плаўках і купальніках. І хоць з двух бакоў — як кінуць вокам — таксама стаялі адзіночныя машыны, уздоўж берага, безумоўна, Наліцкая вырашыла, што ёй лепш не ехаць туды, дзе напэўна паабапал дарогі ляжаць адпачываючыя.

Узышла на ўзгорак і ўбачыла тое, з-за чаго едуць сюды людзі за сорак вёрст.

Рака пракапала сабе новае рэчышча там, на лугавым беразе, пакінуўшы тую абмялелую, але чыстую, незарослую травой старыцу. Але, мабыць, самае прываблівае — даўгія палосы пяску і тут, пад абрывам, і на другім баку старыцы, на маляўнічым востраве паміж старым і новым рэчышчамі. Пясок надзіва чысты, як знарок намыты, буйны — што бітае шкло,— ажно іскрыўся на сонцы, сляпіў вочы праз акуляры; цёмных Ала Уладзіславаўна не насіла, не магла глядзець на затуманены свет; любіла ўсё натуральнае.

Востраў зарос вербамі, кустамі — не ўгледзець якімі, але адно відаць: даваў утульны цень. Там гарэлі кастры, і лёгкі вецер нёс з лугу, дзе стаялі стагі, пах сена і... шашлыкоў. Ды і тут — вось ён лес і на ўзлессі — машыны, кастры і голыя, што першабытныя, людзі.

Наліцкая, якая добра ведала прыдняпроўскія краявіды, адразу ацаніла: лепшага месца для адпачынку не прыдумаеш. Але ўсё роўна здзівіла колькасць людзей на пляжах, асабліва на астраўным; была першая палавіна дня, і людзі яшчэ не перагрэліся, не хаваліся ў кусты. Яна нават у першы міг асуджальна падумала: «На сельгасработы няма каго паслаць, кіраўнікі стогнуць, а тут... вунь колькі іх тут! — не адна тысяча з невялікага горада».

Але хутка ў ёй абудзілася руплівая гаспадыня. Яна задавала сваёй «кібернетычнай машыне» праграму. А як такая маса народу дабіраецца сюды? Не ва ўсіх жа машыны. Ці падумаў хто пра харчаванне? Як з вадой? Ці ёсць выратавальная служба? Купаюцца ж не толькі ў ціхай старыцы, але і ў хуткаплыннай вірлівай рацэ. Загадала сабе: не пазней аўторка-серады сабраць спецыяльную нараду кіраўнікоў усіх прадпрыемстваў і ўстаноў.

На пляжы, што ў лазні,— усе роўныя. Яна новы чалавек, і яе ніхто не пазнаваў. Таму дазволіла сабе зняць чаравікі, у якія набілася пяску, ішла босая па калючай траве і адчувала незвычайнае задавальненне — усё роўна як вярнулася ў сваё босае маленства. Нясцерпна хацелася пакупацца. Пашкадавала, што не захапіла купальніка. Некаторыя старэйшыя жанчыны, работніцы, пэўна, купаюцца ў трусах і бюстгальтарах. І ніхто не звяртае на гэта ўвагі. Дзіўныя пляжныя ўмоўнасці! З'явілася б жанчына ў такім убранні, напрыклад, на балконе сваёй кватэры — скандальная прыгода, а тут — хоць бы што. Але ёй пры яе ўзросце і становішчы — якраз і наскочыш на знаёмага — у такім выглядзе і на пляжы нельга паказацца, нават пры тым, што і ліфчык, і трусікі ў яе імпартныя, выглядаюць лепш за многія купальнікі, пашытыя мясцовай фабрыкай. Успомніліся адмысловыя, стракатыя купальнікі інтэрнацыянальнай публікі на Залатых Пясках, дзе яна адпачывала летась. Сёлета немагчыма будзе вырвацца ў адпачынак у купальны сезон, хіба ў кастрычніку, калі скончыцца ўборка, куды-небудзь у цёплы Батумі можна злётаць.

Прайшла група падлеткаў.

Ала Уладзіславаўна спытала:

— Рабяты, марожанае тут прадаюць?

Яны засмяяліся, не адказаўшы. Адышлі — і яна пачула наўздагон:

— Цётка з неба звалілася.

Нічога няма. Узлавалася на кіраўнікоў, якім па абавязку службы належыць клапаціцца пра людзей. Але на каго скіраваць гнеў? На Воблікава, старшыню гарвыканкома? Але, на Воблікава. Толя ж сказаў, што гэта тэрыторыя суседняга раёна, Сіротка тут не гаспадар. Ды і чаму сельскія ўлады павінны клапаціцца пра гараджан, ёсць у іх больш істотны клопат: хлеб, малако, мяса.

Яна ўмела жыць мірна і з начальствам, і з падначаленымі. Але з Воблікавым міру не будзе — ён праяўляе самастойнасць і залішнюю ініцыятыву там, дзе не трэба.

Мужчына з масіўным жыватом, у даўгіх ярка-зялёных трусах збянтэжана павітаўся з ёй; ёсць, выходзіць, тыя, хто пазнае. Гэтага, здаецца, яна бачыла на нарадзе дырэктараў і завучаў школ.

Прыпынілася.

— Скажыце... Вада тут бывае... напіткі?

— Не. Раней прывозілі піва. Цяпер забаранілі. Хоць скажу вам, таварыш сакратар, дарэмна. Ад піва ніхто не ап'янее. Эх, як піва праганяе смагу! — ён аблізнуў губы. Адчуваў ён сябе ніякавата перад сакратаром гаркома, жанчынай, але не праз тое, што стаяў голы, а праз жывот свой, падцягнуў яго, прыкрываў далоняй.

«Півам ты і наліў жывот»,— падумала Ала Уладзіславаўна і зноў прыгадала Воблікава — з якой рашучасцю той выступаў супраць скарачэння вытворчасці піва. Не ў духу часу, нават глупствам назваў такую антыалкагольную кампанію. Трэба праверыць... Калі не скарацілі, запісаць і дырэктару, і паважанаму Міхаілу Паўлавічу. Трэба рашуча патрабаваць выканання пастаноў, яе ўказанняў, інакш гэтыя... пузатыя адчуюць слабінку і сядуць на галаву, ім толькі паддайся.

— А што ж людзі п'юць? З ракі?

— Прырода шчодрая. Яна паклапацілася. Вунь там, каля таго дуба, пад абрывам струменіць добрая крыніца. Вадзічка, я вам скажу, цуд. Зубы зводзіць. І холад улівае ў цела моц. Хочаце? Я толькі прынёс цэлую бутлю...

— Не, дзякую. Шчасліва адпачываць.

— Якое шчасце! Унукаў пасу. Толькі адвернешся — яны ў вадзе, жэўжыкі. А ў мяне сэрца не на месцы. Сам цэлы дзень з вады не вылажу. Пасінеў.

— А служба выратавальная хоць якая ёсць?

— На рацэ дзяжураць хлопцы з АСВОДа. Праўда, маторка ў іх усяго адна, але і тое добра. А то ў маі тут дзяўчына ўтапілася.

Дзякуй богу, хоць да кіраўніка адной арганізацыі дайшло. А з астатніх трэба добрую стружку зняць, вырашыла Ала Уладзіславаўна. Падышла на край абрыву і ўбачыла тую крыніцу. Вада цякла па драўляным жолабе, варта дзякаваць той добрай душы, хто жалабок такі прыладзіў. Крыніца ёмкая, цэлы раўчак збягаў у старыцу. Але ўсё роўна каля жалабка стоўпілася чарга, чалавек дваццаць з пляшкамі, бітонамі. Дзеці пілі са жменяў, пырскалі адно па аднаго. Дзіўна, калі пузаты прапанаваў ваду, ёй сапраўды не вельмі хацелася піць, пагрэбавала, ці што. А тут страшэнна захацелася напіцца. І вось так — са жмені. Але будзеш выглядаць сярод гэтых «неграў» белай варонай у сваім блакітным плацці. Ды і бераг гліністы, мокры — на попе можаш праехаць, спускаючыся. І вакол жалабка размешаная нагамі гліна. Прыйдзецца абмываць ногі ў старыцы — вось так, адзетай. З перасохлым горлам рушыла далей, не губляючы надзеі знайсці бязлюдную мясціну і акунуцца. Далёка прайшла — да таго месца, але рака вярнулася ў старое рэчышча, бераг паніжэў, і на ім, не па-летняму зялёным ад густой свежай травы, рос маліннік, каліна. І рака тут для яе, добрай плаўчыхі, была асабліва прывабная — шырокая, але, бадай, з хутчэйшай, чым у Дняпры, плынню. Аднак і тут былі людзі. Не столькі, колькі на пляжы, але ледзьве не за кожным кустом — сям'я ці кампанія. Выпіваюць.

Наліцкая ўстрывожылася. Дзе бяруць гарэлку? Няўжо ў горадзе гандлююць ёй? У такім разе Воблікаву не запісваць трэба, а здымаць з пасады, а начальніка райхарчгандлю дык без лішніх размоў і ўшчуванняў.

Пад трыма маладымі бярозкамі за кустом крушыны звінеў вясёлы дзіцячы смех і пачуўся знаёмы голас. Вася Ліхач!

Першы парыў — абысці гэтыя бярозы па кустоўі ці зусім вярнуцца; у такі дзень да Балтыкі дойдзеш і не знойдзеш месца, дзе можна паплаваць без купальніка. Але перамагла чыста жаночая цікаўнасць: якая ў яго жонка, якія дзеці?

Абула чаравікі, паправіла прычоску, якая ад патлівасці кудлацілася. Наблізілася. Заглянула за куст.

Васіль ляжаў на спіне, задраўшы ногі, і з дзіўнай віртуознасцю перакідваў з ног на рукі і назад дзяўчынку годзікаў трох, зусім голенькую. Лавіў малую, што мячык, і цалаваў ёй ножкі, попку. Малая залівалася смехам. Побач сядзела белая пышнагрудая

жанчына ў мокрым купальніку. Вязала. Але адрывалася ад спіц, замілавана глядзела на мужа, на дачку. Дакарала:

— Вася, намардуеш гэтую ляпёху, ды яшчэ накупаеш, перагрэеш — зноў не ўкладзеш. Будзем да поўначы ката спяваць. Не забывай, што ў мяне начное дзяжурства.

Ала Уладзіславаўна ўспомніла, што Ліхач, здаецца, пры першай сустрэчы сказаў, што жонка яго медыцынская сястра. Не, інакш сказаў — міласэрная сястра, трохі, можа, і з гумарам (а што ён калі гаварыў без гумару?), але і з любасцю, бадай, з гонарам. Падумала, асуджаючы:

«З калектывам на сенаўборку пан дырэктар не паехаў, у кусты схаваўся».

Выйшла з-за куста, праўда, зрабіўшы выгляд, што не заўважае яго, а проста праходзіць міма. Але жонка, якая ўгледзела яе першая, здзівілася: ці то здагадалася, ці, можа, бачыла ўжо недзе сакратара гаркома. Паклікала:

— Вася!

Ён глянуў, падхапіўся.

— Ала?! Прабач, што я не ў форме. У такім выглядзе перад такой асобай...

— Пляжная форма,— сказала жонка, бадай, трохі раўніва, пэўна, за тое, што ён як бы просіць прабачэння за свой выгляд.

— Ды пляжная.

— На сена людзі паехалі?

Ён коратка рагатнуў:

— Ала! Ты і тут пра работу? Не забывайся, што маеш перад сабой самага прыкладнага дырэктара. Знаёмся лепш. Мая жонка — Даша. А гэта — Маша,— паказаў на малую.— Бачыш, якое дзіця чалавечае! Што з карціны Рафаэля. А сын — Саша, у піянерскім лагеры. Усе на *ша*. Адзін я на ся: Вася-парася.

— Маша і цябе называе Ваша,— сказала маці. Яна паднялася са сваёй коўдры. Павіталася кіўком галавы, але рукі не працягнула, аднак гэта не здзівіла і не пакрыўдзіла, бо і сама яна таксама рэдка пры знаёмстве з жанчынамі працягвае руку, з мужчынамі — справа іншая.

— А я вас пазнала па фатаграфіі. Вас там група. Пяць дзяўчын і адзін Ліхач, ляжыць каля вашых ног.

— Як верны пёс,— засмяяўся Васіль.

Ала не помніла такога студэнцкага здымка — дзе, калі? Хто іншыя дзяўчаты? Але тое, што Даша пазнала яе па фатаграфіі і сказала пра гэта проста — неяк нязвыкла прыемна пацешыла. І

яна аглядала гаспадыню больш прыязна, чым у першую хвіліну. Так, нізкаватая, паўнаватая, жывот рыхлаваты, з белаватымі пісягамі, але, кажуць, што такі жывот у большасці жанчын, якія нараджалі.

Збянтэжылася, калі затрымала позірк на былым аднакурсніку. У думках — ці не ўпершыню ацаніла так мужчыну? — адзначыла: прыгожы. Высокі, стройны, мускулісты, як спартсмен. Загарэлы. На студэнта так не глядзела, калі і выязджалі часам кампаніяй на Мінскае мора, гулялі ў валейбол. Студэнт ён быў як усе — худы, кастлявы, цыбаты. Зацікавіў яе хіба тады, калі сказалі, што ён па вяроўцы лазіць у дзявочы інтэрнат. Але глядзела яна тады на яго з абурэннем і агідай: кот. Цяпер жа хацелася любавацца ім, голым, а гэта спалохала: не сорамна, таварыш сакратар? А потым было амаль стрэсавае адчуванне. Падышла Маша, ласкава ўзяла яе маленькай ручкай за руку, ласкава пралепятала:

— Цёця халосая? Цёця пакупае Машу?

— Во хітрунння! — парадаваўся за дачку Васіль.— Цэлы б дзень сядзела ў вадзе.

Ці ўпершыню адчувала дзіцячую ласкавасць? У маленстве малодшую сястру няньчыла, пасля, перавёўшы сям'ю сястры ў прыдняпроўскі гарадок, памагала ёй гадаваць дзяцей, часта малодшую, Янку, забірала на ноч да сябе. Не мінала ясляў, дзіцячых садоў, школ не толькі па абавязку службы, бадай, ганарылася гаспадыня горада, што любіць дзяцей. Але ці адчула яна хоць раз вось такую іскру, такі душэўны разрад, як ад дотыку гэтай голенькай дзяўчынкі? Пазней у той дзень баялася прызнацца сама сабе, што бліснула ў яе кароткая, як маланка, думка: гэтае дзіцятка магло быць яе дачкой.

— Атабаруйся, Ала. Адпачні з намі. Паабедаем. Ёсць пляшка віна,— і ажно пацёр рукі, смакуючы наперад асалоду.

Яна ўсміхнулася: у наш час прызнацца ў гэтым можа толькі Ліхач.

— Не, дзякую. Мяне чакаюць.

— Хто цябе чакае? — прагучала крыўдна: маўляў, ніхто цябе не можа чакаць!

Яна кіўнула Дашы і пайшла неразумна (пасля гэта сцяміла) — не да ракі, а направа, у лес, у густы кустарнік. І там прымусіла сябе на хвіліну спыніцца: мела такую жаночую слабасць — паслухаць, што пра яе скажуць.

— Глядзіш ты, Вася, што кот на сала.

— У яе прыгожыя ногі. Праўда?

— Помніш анекдот? Наганяй, наганяй апетыт — вячэраць будзеш дома.

Ліхач весела зарагатаў.

— Салёныя анекдоты расказваюць твае ўрачы. Добра, што Маша не разумее.

— Скажы: чаму яна не замужам?

— Яна з той пароды жанчын, якія аддаюцца рабоце, а не мужчыне.

— Ну і дуры.

— Аднак каб я так рана не пакахаў цябе, я зрабіў бы з яе чалавека.

Ала Уладзіславаўна ўспыхнула гневам: толькі такі нахабнік, як Ліхач, можа сказаць такое жонцы і яшчэ прыкідваецца святым: «каб не пакахаў». Ці прызнаўся ты, як лазіў па вяроўцы?

— Скажы: ёй — чалавека.

— А гэта адно і тое ж. Пакуль жанчына не раджала...

Не, далей слухаць гэтага нахабніка, амаральнага тыпа немагчыма, бо можаш пачуць і не такое.

Вярнуўшыся дадому, адразу палезла пад душ. Змыць і свінарнік, і штосьці ліпучае, хоць і не такое брыдкае, што засталося ад падслуханай размовы мужа і жонкі. Дзіўныя адносіны ў гэтых людзей! Але нечым і прывабныя — такім вось даверам у самым інтымным, пры такім даверы, бадай, не можа быць фальшу, няшчырасці. І гэта варта псіхалагічнай увагі. Ала Уладзіславаўна лічыла, што яна ведае псіхалогію людзей; працуючы ў камсамоле і ў Савеце, прачытала гару кніг па псіхалогіі чалавека, калектыву, грамадства, магла прачытаць лекцыю не горш за прафесара.

Вада была халодная, апякала. У гарком дзён колькі назад званілі з абурэннем: чаму няма гарачай вады? А між тым гэта яе ўказанне: пакуль лета, зрабіць прафілактыку цеплацэнтралі. Ведала з вопыту, хоць там, у прыдняпроўскім гарадку, і не было цэнтралізаванага забеспячэння цяплом, што такі рамонт у летні час — гарантыя надзейнай работы зімой. Прымусіла Шатохіна выступіць у мясцовай газеце. Званкоў не стала. Цешылася: во прыклад таго, што людзям трэба гаварыць праўду, ва ўсім павінна быць галоснасць.

Прыняўшы душ, без халата выйшла ў пакой. Не знарок, а неяк непрыкметна спынілася насупраць трумо. Здалёк блізарукія вочы ўбачылі адлюстраванне ўласнага цела, як у тумане. Гэта прыцягнула ўвагу — што на палотнах імпрэсіяністаў. Наблізілася да люстра, агледзела сябе пільна, да радзімай плямкі на левай

грудзі. Ніколі так не разглядала сябе, голую. Залюбавалася. Сапраўды прыгожая! Якая дасканаласць форм! Мастакі мінулага былі не дурні, разумелі гэта, калі так многа пісалі голую натуру, жаночую. І Ліхач мае густ: не пабаяўся жонцы сказаць, што ў Алы прыгожыя ногі; у яго жонкі тоўсценькія. І тут жа прыгадала дробную дэталь: падняўшыся, ён непрыгожа паправіў плаўкі. Там яна сарамліва адвяла вочы. А тут... спачатку засмяялася. Але тут жа абурылася: якая нявыхаванасць! І ўявіла блізкасць з ім.

— Фу, якая брыдота! — і плюнула на люстра, у тое месца, дзе адлюстраваўся залацісты трохвугольнік.

## 3

Ліхач хадзіў па прасторнай прыёмнай міністра і разглядваў здымкі аўтамабіляў. Паўгадзіны таму назад, не ўзяўшы з першага заходу масіўныя дзверы кабінета, ён сказаў сакратарцы, даволі прыгожай татарцы ці башкірцы, ветлівай і дакладнай, як робат:

— Шыкоўна вы тут жывяце.

— Чым жа шыкоўна? — здзівілася жанчына, якая даўно навучылася нічому не здзіўляцца.

— Карцінак многа.

Трое наведвальнікаў — мужчын, што чакалі сваёй чаргі на прыём, засмяяліся правінцыяльнай наіўнасці знешне даволі элегантнага маладога чалавека, падобнага на бывалага прадстаўніка «Аўтаэксгхарту», што аб'ездзіў увесь свет.

Сакратарка пры ўсёй сваёй ветлівасці не здзівілася і не ўсміхнулася, наадварот, твар яе непрыгожа пасуровеў: яна зразумела, што гэты — глянула ў паперку — Ліхач з пароды тых... не, не прасіцеляў-дамагацеляў — выбівацеляў, ад якога пазбавіцца нялёгка. А гэтага яна не любіла, такая настырнасць здавалася спеставанай жанчыне нахабствам, а любую, нават хітра схаваную, некарэктнасць, непачцівасць да высокай установы і яе кіраўніка яна перажывала, як уласную абразу.

А прытым яшчэ гэты чалавек не сядзеў на месцы, як іншыя, нецярпліва крочыў ад сцяны да сцяны, спыняўся перад здымкамі, агледзеўшы іх раз, вяртаўся паўторна, доўга любаваўся чароўнай японкай на календары, не ўтрымаўся, пагартаў каляндар, да якога ніхто, акрамя яе, не дакранаўся, і не толькі разгледзеў яшчэ пяць гейш, але як бы спланаваў свой час да канца года, уголас прачытаў па-англійску дні тыдня і японскія паэтычныя выслоўі аб харастве кожнай пары года.

Тая акалічнасць, што наведвальнік валодае англійскай мовай, змякчыла сакратарчына зацвярдзелае сэрца, бо і сама валодала чужой мовай і ганарылася гэтым: не ва ўсіх міністраў такія сакратаркі, якія могуць пагутарыць ледзьве не з кожным замежным госцем — амерыканцам, японцам, афрыканцам. Падабрэўшы, яна вырашыла паспрабаваць угаварыць Сяргея Паўлавіча прыняць гэтага дырэктара невядомага завода; міністр так і сказаў, што ўпершыню чуе пра такі завод, ад таго, відаць, і прымаць не пажадаў. Для яе важна было не памагчы гэтаму ўвогуле сімпатычнаму мужчыну, а лішні раз праверыць свой уплыў на шэфа, скарыстаўшы, напрыклад, яго жарт: «Пры разгуле дэмакратыі прыходзіцца прымаць усіх».

Ліхач хвіліну пасядзеў на краі крэсла, больш уважліва паразглядаў жанчыну, жадаючы цікавасцю сваёй уздзейнічаць на яе, здзівіўся, што не можа вызначыць яе ўзрост, ласкава падумаў: «Во чортавы бабы, умеюць загрыміравацца. Мастачкі. Можна даць трыццаць, хоць, напэўна, сорак пяць».

Хутка падняўся і, як баючыся спазніцца, кінуўся да супрацьлеглай сцяны, дзе ўжо двойчы разглядваў узоры сусветнага аўтамабілебудавання.

— Скажыце, чыя мадэль поезд гэты?

Ніхто ніколі не задаваў такіх пытанняў, і сакратарка дакарыла сябе за сваю недасведчанасць: яна абавязана і фатаграфіі гэтыя ведаць, як сістэму сувязі, як кампозер, як усё іншае ў гэтай прыёмнай.

Пажылы чалавек з бародкай, у акулярах, падышоў і, зняўшы акуляры, агледзеў здымак.

— Канадская мадэль «Гтыым ов дыаз» — «аленевая запрэжка». Поезд для палярных перавозак.

— Здорава! Вось бы нам такі!

— Вы займаецеся прычэпамі?

— Я дырэктар завода. Але мяне выбралі ўсяго месяц назад.

— Выбралі? Галасаваннем? Цікава. Вас добра ведалі?

— Не. Я сам выставіў сваю кандыдатуру.

Другі раз сакратарка здзівілася, уласна, не таму, што ён сказаў, а, бадай, самой сабе — што праяўляе цікавасць да гэтага чалавека. Спытала:

— А кім вы былі да таго?

— Па адукацыі я машынабудаўнік. Але займаўся бог ведае чым, толькі не аўтамабілямі.

— Харашо мы выбіраем,— іранічна заўважыў грузін, які і тут, у прыёмнай, не выпускаў дыпламат, быццам насіў у ім залаты запас рэспублікі.

— Выбіраюць — як трэба,— адказаў Ліхач. Між іншым, яму даўно карцела пажартаваць наконт гэтага дыпламата — нагадаць, што ў некаторых развітых краінах дыпламаты і партфелі з каштоўнасцямі прыкоўваюць да рукі ланцугом з адмысловым замком — не вырве ніякі гангстэр, хіба з рукой адарве. Але ўладальнік дыпламата быў неўласціва для сваёй нацыі маўклівы і сур'ёзны.

У прыёмную ўляцеў імклівы чалавек, хоць далёка не малады — сівы, пэўна, са сваіх, бо без гальштука, у расшпіленай парусінавай куртцы, засвоіў стыль дзелавых клеркаў захаду і поўдня. Аднак свой-свой, але з тых, хто без даклада да міністра не ўваходзіць.

— Зоя Аліеўна, далажыце пра мяне.

— Сяргей Паўлавіч сказаў: да дванаццаці — нікога.

— Пільная справа. У мяне сядзіць прадстаўнік фірмы.

Сакратарка пэўна ведала, што аб такіх сітуацыях трэба дакладваць. Пайшла да дзвярэй.

— Далажыце, Зоя Аліеўна, што і я чакаю,— сказаў Ліхач.

— Вам жа сказалі, што вас прыняць не могуць. Ідзіце да начальніка ўпраўлення.

— Я буду сядзець да вечара. І ўсю ноч. Магу легчы вось тут перад дзвярамі. Няхай міністр пераступіць цераз свайго дырэктара. Зняць мяне з работы яму нялёгка — выбраў калектыў.

У сакратаркі расшырыліся вочы — сталі што чарнаслівы ў ранішняй расе. У гэтых сценах розныя здараліся сцэны, аднак такім тонам рэдка гаварылі, ва ўсякім разе, падначаленыя.

Але нечакана весела засмяяўся маўклівы і суровы грузін. І як падагнаў жанчыну і адначасова настроіў на... перабудову — на змяненне даўно ўсталяванага стылю: начальніку сваёй думкі не выказваць, толькі голую інфармацыю.

Міністр на міг адарваўся ад паперы, зірнуў на сакратарку і зноў схіліўся.

Зою Аліеўну даўно здзіўляла і, бадай, захапляла нечаканае спалучэнне ў адным чалавеку і сталасці, блізкай да старасці, і маладосці — не толькі ў паводзінах, псіхалогіі, але ў знешнім аблічча: маршчыністы твар з чорнымі ўкрапінамі, як у вуглякопа, і цыганская капа чорных да глянцавага бляску кучаравых валасоў, без адзінай сівой пасмачкі.

Сакратарка пачціва стаяла, чакаючы, калі міністр зверне ўвагу, і разглядвала яго не вельмі акуратна прычасаныя валасы і маршчыністае чало.

«Што ён, фарбуе іх, ці што?» — падумала соты раз.

Сяргей Паўлавіч урэшце адкінуўся на спінку крэсла, працёр кулакамі вочы, чытаў ён без акуляраў — яшчэ адна загадка прыроды. Зоя Аліеўна далажыла пра таварыша са знешнегандлёвай фірмы.

— Няхай пачакае,— перагарнуў паперы, вымераў па іх час,— мінут пятнаццаць. Дачытаю пастанову ЦК. Тут моцна запісана ў наш адрас,— уздыхнуў.— Зоя Аліеўна, сур'ёзная гэта справа — перабудова.

І ўглыбіўся ў чытанне пастановы. Праз хвіліну здзівіўся, што сакратарка не выходзіць: нешта новае.

— Там яшчэ гэты... Ліхач.

— Хто?

— Я дакладвала. Дырэктар з Беларусі.

— Я ж сказаў: да начальніка ўпраўлення.

— А ён кажа: лягу перад дзвярамі і буду ляжаць, няхай міністр пераступіць цераз мяне. І знаеце... я веру: такі ляжа.

— Вы што? Так і сказаў? — Сяргей Паўлавіч засмяяўся.— Ён што — нахабнік ці жартаўнік? Ці таго...— крутнуў пальцам каля скроні.

— З выгляду — дзелавы чалавек. Месяц назад яго выбралі дырэктарам тайным галасаваннем.

Мяккі да таго, рыхлаваты твар высокага кіраўніка пачарсцвеў, ён стоена ўздыхнуў:

— Ох, гэтыя мне дзелавыя людзі! У час дэмакратыі з імі вельмі нялёгка.

— Нялёгка,— пацвердзіла Зоя Аліеўна.

Міністр падняўся з крэсла.

— Давайце яго сюды,— і пажартаваў ёй услед: — Ад Ліхачова да Ліхача. Усё вышэй і вышэй.— Як яго імя, імя па бацьку?

Яна здзівілася, што ён нагадаў пра тое, што ўваходзіць у яе абавязак і што яна зрабіла пры першым дакладзе — падала паперку.

Спрытны імпарцёр падскочыў з крэсла, убачыўшы сакратарку, гатовы кінуцца ў кабінет. І быў ашаломлены, калі яна павярнулася да чалавека, якога ён ніколі не бачыў тут.

— Таварыш Ліхач, вы... міністр чакае...

Міністр паглыблена чытаў. Ліхач спыніўся пасярод кабінета і пачціва пачакаў. Паўза зацягвалася. Такая няўвага да наведвальніка непрыемна кранула, і Васіль Васільевіч вайсковым голасам, без гумару, далажыў пра сябе, падкрэсліўшы «новы дырэктар».

Міністр здзіўлена глянуў на яго і, як бы ўспомніўшы, хутка падняўся, выйшаў з-за стала, прыветліва пацiснуў руку.

— Ведаю, ведаю,— і сам сабе паверыў, што ведае, помніць гэтага чалавека па анкеце, хоць сакратарцы ўпачатку прызнаўся: «Першы раз чую пра такога дырэктара»; зацвярджэнне Ліхача адбылося на ўзроўні ўпраўлення, а загад падпісаў намеснік.— Сядайце,— і, калі дырэктар сеў, уважліва ўгледзеўся ў яго і застаўся задаволены: малады, з разумнымі вачамі, інтэлігентны, адным словам, сучасны кіраўнік — тое, што трэба.

— Ну, і з чаго вы рашылі пачаць?

— Дзе?

— На заводзе, канечне.

— З перабудовы.

— І па-вашаму, перабудова — гэта вось такі кавалерыйскі наскок на міністра?

— А па-вашаму, перабудова — гэта лёгкае жыццё для міністраў?

Сяргей Паўлавіч засмяяўся.

— А вы вясёлы чалавек. Рабочыя любяць вас?

— На ранейшым заводзе любілі. А тут больш скаргаў, чым прызнанняў у любові.

— На якім ранейшым?

— Гандлёвага абсталявання.

— Гэта вы вылучылі сваю кандыдатуру?

— Я.

— Смела.

— У наш час трэба быць смелым.

— Правільна. У вас якая прафесія?

— Машынабудаўнік.

— Аўтамабіліст?

— Станкабудаванне. Але станкі я не рабіў. Ведаеце, якія зігзагі бываюць пры размеркаванні маладых спецыялістаў.

— Любіце аўтамабілі?

— Люблю цікавую работу.

— На заводзе прычэпаў цікавая работа?

— Можа стаць такой.

— Пры ўмове?

— Мадэрнізацыі вытворчасці. Аднаўленне прадукцыі. Адстаём жа ад сусветных узораў.

— Адстаём,— міністр уздыхнуў, а ўвогуле быў задаволены сабою, што прыняў дырэктара малавядомага завода; спадабаўся яму гэты малады востры чалавек, некалі на заводзе ў рангу інжынера, начальніка цэха і ён быў, бадай такім, праўда, у крэсле дырэктара быў ужо іншым, можа, і гэта было прычынай цяжкаватага ўздыху, бо падумаў: «Напэўна, гэтак не адсталі б, каб не толькі я, але многія дырэктары даўжэй заставаліся такімі, як гэты Ліхач,— і зноў разгладзіў маршчыны, усміхнуўся. Ліхачоў быў такі ліхачом, таму застаўся Ліхачовым».

— І якая ў вас просьба? Толькі канкрэтна. Не расцякайцеся. У мяне мала часу.

— Мне трэба новае абсталяванне, напачатку хаця б для аднаго цэха — шасі. У нас, смешна сказаць, працуюць станкі пяцідзесяцігадовай даўнасці.

Міністр лёгка свіснуў.

— Вы думаеце, яно ляжыць у мяне пад сталом?

— То з чаго пачынаць перабудову?

— З перабудовы.

— Сяргей Паўлавіч, я фантазёр, але адначасова і прагматык і ніколі не любіў сафістыкі, нават у адносінах з дзяўчатамі, дзе трэба напускаць туман.

Міністр зноў засмяяўся.

— Сядзець вам гадоў праз дзесяць у маім крэсле.

— Сесці магу, але не ўсаджу. Выб'юць. Не ўмею я моцна трымацца за яго, за крэсла.

Маршчыны на твары Сяргея Паўлавіча, якія былі расплыліся і памаладзілі яго, раптам звузіліся і паглыбіліся. Пачарсцвеў бохан твару.

Міністр задумаўся.

Ліхач упікнуў сябе:

«Распусціў язык, дурань. Знайшоў перад кім дэманстраваць сваё вастраслоўе. Гэта табе не Ала Наліцкая. Ды і яна ў ролі першага сакратара кісла прымае такі тон».

Міністр павярнуўся да пульта селектара, націснуў кнопку. Адразу адгукнуўся густы барытон:

— Слухаю, Сяргей Паўлавіч.

— Андрэй Самойлавіч, у нас нямецкая лінія ў Брэжневе так і ляжыць?

— Ляжыць,— уздыхнуў барытон.

— І доўга будзе ляжаць?

— Думаю, год, не менш. Будзем рэалістамі. Падводзяць будаўнікі.

— Самае простае: усё валіць на будаўнікоў,— Сяргей Паўлавіч чамусьці раптам цяжка задыхаў, быццам у яго пачаўся прыступ астмы.

Мабыць, сэнс дыхання гэтага добра ведалі, нават калі яно перадавалася і па селектарнай сувязі.

— А што вы прапаноўваеце? — у Андрэя Самойлавіча барытон змяніўся на тэнар.

Голас міністра наліўся гарачай сталлю:

— Упакоўка згніла. Ржавеюць дарагія станкі. Псуецца праграмная сістэма...

— Яна якраз пад крышай.

— Ты супакоіць мяне хочаш? Нас з табой судзіць трэба!

— Гэта купляласся да мяне.

— Я купляў, чорт вазьмі! А ты павінен быў устанавіць. Год назад лінія павінна была працаваць! А ты мне абяцаеш — праз год. Праз год нас з табой не будзе тут, май на ўвазе...

— Не разумею вашага гневу,— голас Андрэя Самойлавіча перайшоў на піск.

— Перадайце лінію энскаму заводу! Сёння ж!

— Ка-а-му? — гэтае «каму» праспявалася з вялікім здзіўленнем.

— Табе што трэба — прэстыжны завод ці машыны?

— Прычэпы.

— А прычэпы — не машыны? У цябе яны лішнія? Няма каму працаваць? Перавытворчасць? Зараз да цябе зойдзе дырэктар завода. Аформіць без канцыляры! Усё! — і націснуў на кнопку пульта. На развітанне міністр сказаў проста, па-бацькоўску: — Ну, калі ты мяне падвядзеш — я з цябе штаны здыму.

— Не падвяду, Сяргей Паўлавіч. Не падвяду.

У прыёмнай намесніка Ліхач чакаў значна даўжэй. І нічога не рабіў, каб паскорыць прыём. Няхай самаўпэўнены Андрэй Самойлавіч астыне, перагаворыць з аддзеламі, пададдзеламі, можа, нават з Брэжневам — з нейкай там філіяй гіганцкага КамАЗа, якую ніяк не могуць дабудаваць. Сядзеў дырэктар ціха і пачціва. Нават не жартаваў з сакратаркай, хоць была яна намнога маладзейшая, чым Зоя Аліеўна.

З бліжэйшага паштамта (з міністэрства не стаў званіць, каб не выдаваць сваёй радасці) звязаўся з заводам, з галоўным інжынерам.

— Міхаіл Юзафавіч, я толькі што выбіў у міністра лінію. Заходнегерманскую.

Галубятнік расчаравана ўздыхнуў.

— За морам цяля — паўрубля... Але бяда не ў цане перавозу — у часе. Лепш свае, за рублікі, ды хутчэй.

— Не хныкай, стары! Лінія не ў Ліпштаце — у Брэжневе.

— Дзе?

— Горад ёсць такі на Каме... У гонар аўтара застою. У былых і, здаецца, будучых Набярэжных Чаўнах.

— З вамі не заснеш.

— А вы хацелі б паспаць?

— Я ні з кім не спаў.

— Знаю, што не спалі. Афармляйце банкаўскі крэдыт. Каля мільёна.

— Вылецім у трубу, Васіль Васільевіч,— застагнаў галоўны.

— Не вылецім! Вылецім са станкамі трыццаць шостага года — са спадчынай панскай Польшчы. Заказвайце платформы. Узнайце грузаёмкасць гэтай лініі. Запішыце яе «шыфр». Я пазваню Наліцкай і Леаніду Генадзьевічу, каб памаглі вам дамовіцца з упраўленнем дарогі. Па лінію паедзеце вы. Але перад гэтым я сам пабуду там,— і праспяваў: — «Горад на Каме — не дастаць рукамі». Дастанем. Дастанем! Сёння я штурмую міністэрства абароны, заўтра — шыннікаў у горадзе на Волзе. Як план?

— Цягнем.

— Міхаіл Юзафавіч! Не цягнуць трэба! Рвануць! Зрабіць запас на перыяд пераабсталявання і асваення. А то Ала нас з'есць і гузікі выплюне, калі не дамо гадавога. Спрабаваў я тут у планавікоў гаварыць аб карэкціроўцы — слухаць не захацелі. Во нетры, я вам скажу! Наша мясцовая бюракратыя — дзіцячы сад. А тут — прафесіяналы трагедыйнага тэатра.

— Толькі ім не кажыце пра гэта,— сур'ёзна папярэдзіў Галубятнік.

— Дрэнна вы думаеце пра свайго дырэктара. Я тут такія пернікі раздаю — пальчыкі аблізваюць. Адну старую сакратарку так зачараваў, што яна спатканне мне назначыла. Не выдавайце жонцы,— Ліхач рагатнуў і сур'ёзна параіў: — Дзейнічайце і вы гэтак жа. Кавалерыйскім наскокам.

— Куды мне да вас.

— Не пыхкайце, як стары паравоз. Пары ў вас яшчэ даволі. Абнімаю.

А праз колькі гадзін Ліхач пераканаўся, што бюракратыя штаба аўтабудаўнікоў таксама «дзіцячы сад», ненамнога вышэйшая, чым наша, свойская, у таго ж Воблікава — у аддзелах жыллёвым, аховы здароўя ці сацзабеспячэння. Непрыступнай цытадэллю аказалася ваеннае ведамства, куды ён вырашыў абавязкова трапіць: іх прадукцыя, пра якую не дазвалялася сказаць нават на пленуме гаркома, «садзіла» завод.

Дырэктар ведаў, безумоўна, не толькі паштовую скрынку, але і дакладны адрас, тэлефоны ўпраўлення, званне, прозвішча начальніка, з якім разы два ўдалося звязацца па тэлефоне. Але гэта мала памагала. Прыйшлося ісці і на лабавы штурм, і на абходныя манеўры толькі для таго, каб дабрацца да нейкага, яўна не першага, ад'ютанта, якому належала далажыць сутнасць справы, а гэта, разумеў Васіль Васільевіч, марная трата часу, бо сутнасць яго справы мог зразумець толькі высокі спецыяліст, дзяржаўны чалавек. У выкшталцонага капітана такая тоўстая браня, што не прабівалі яе ні «кавалерыйскія наскокі», ні жарты, на службе чалавек развучыўся ўсміхацца. «Не дазваляецца, ці што? Гэта, Вася, табе не Зоя Аліеўна! Наіўняк!»

Пасля добрых гадзін трох бою ўдалося дамагчыся, каб пра яго далажылі генералу, з якім Ліхач меў гонар гутарыць па тэлефоне са свайго заводскага кабінета. Аўдыенцыя была назначана на паслязаўтра. Васіль Васільевіч застагнаў так, што прымусіў капітана здзівіцца.

— Ды мне дарагая кожная гадзіна! У нас — перабудова! Пе-ра-бу-дова! Разумееце, што гэта такое? Мы не можам жыць па прынцыпу: салдат спіць, а служба ідзе.

Капітан зморшчыўся, як ад зубнога болю, яўна падумаў: «Які палітычна неадукаваны дырэктар завода».

Васіль Васільевіч пайшоў на «штурм», які лічыў ганебным для сябе і які дагэтуль нідзе не выкарыстоўваў,— прыпужнуць вышэйшым начальствам.

— Пайду ў міністэрства. Да міністра не траплю, але да намесніка яго...— і назваў прозвішча чалавека, які колькі гадоў назад камандаваў Беларускай акругай,— запэўніваю вас, траплю, няхай праз тыдзень, а траплю.

Але ад'ютанта такая атака не пахіснула. Не адразу нават сцяміў настойлівы прасіцель, чаму капітан вокам не маргнуў. Пасля зразумеў: не быў гэты намеснік непасрэдным начальнікам

яго генерала. Аднак пагроза ўсё ж падзейнічала. Увечары яго знайшлі ў гасцініцы, і ўжо другі голас, не ад'ютанцкі, больш цывільны, паведаміў, што генерал прыме таварыша Ліхача заўтра раніцою.

Яму дрэнна спалася пасля густа насычанага маскоўскага дня, галава была цяжкая, і ён ехаў на прыём, як кажуць, заведзены, праўда, разумеў, што дыскусіі аб дэмакратыі з генералам не атрымаецца, але пару шпілек усё ж вырашыў падпусціць. Але сустрэў яго чалавек зусім не генеральскага выгляду — маленькі, рухавы і... гасцінна прыветлівы. І гэтым абяззброіў. Загадаў падаць чай. І Ліхачу падабалася, што манументальны ад'ютант ператварыўся ў паслужлівага афіцыянта. Сапраўды, трымаў паднос, як добрая гаспадыня, лепш за Дашу. Размову генерал пачаў з актуальнага анекдота. «Учора мне расказалі забаўны анекдот. Вы бліжэй да мас. Скажыце: ёсць у ім зерне праўды? У сібірака спыталі: «Што такое перабудова?» — «Тайга».— «Чаму тайга?» — «Уверсе шуміць-шуміць, а ўнізе — ціха- ціха».

Анекдот барадаты. Ліхач чуў яго год назад і, між іншым, ніколі не падумаў пра нейкае там зерне праўды, для яго перабудова эканомікі стала аксіёмай, альтэрнатывы ёй няма, ён, інжынер, дырэктар заводаў, аднаго — мясцовага, другога — саюзнага, выдатна разумеў гэта. Справа іншая, што не ўсё ў эканамічнай рэформе яму падабалася, але шмат чаму з таго, што не падабалася, свайго рашэння ён не меў, спадзяваўся, што ёсць эканамічныя галовы непараўнальныя з яго галавой, у якой больш практычных ведаў, чым тэарэтычных. У інстытуце тэарэтыкам была Ала Наліцкая, няхай цяпер і вядзе яго, ёй, як кажуць, і карты ў рукі.

— Па-мойму, анекдот сачынілі тыя, каму хочацца спакойнага жыцця.

Адказ развесяліў генерала.

— А вам хачацца неспакойнага?

— Неспакойнага.

— І вы вырашылі пазбавіць сну мяне? Чым?

— Металаёмкасцю вашых платформ.

Твар весельчака пазмрачнеў, генерал не сказаў, якіх платформ, ён добра падрыхтаваўся да размовы з дырэктарам.

— Вы ведаеце, які груз мы возім на гэтых платформах?

— Таварыш генерал! Вы думаеце, амерыканская разведка не ведае, што вы возіце?

Генерал зноў засмяяўся.

— Дапусцім, ведаюць.

— Значыцца, амерыканцы ведаюць. А дырэктар завода, які вырабляе гэтыя платформы, не абавязаны ведаць? Цёмны выканаўца, так?

— Што гэта вам дасць?

— Заводу — эканомію металу, а ў выніку — зніжэнне сабекошту ў цэлым, павелічэнне прыбытку, павелічэнне фондаў на развіццё прадпрыемства, на зарплату, на сацбыт. Пераходзім на самафінансаванне. А вам дасць эканомію паліва. Хіба яно ў вас лішняе? У дзяржавы не хапае ні металу, ні паліва. У век галоснасці гэта ведае кожны школьнік.

— Што ж вы прапануеце?

— Я і нашы правінцыяльныя канструктары прапануюць зніжэнне вагі,— ён назваў марку машыны — літары і лічбы,— прыкладна на паўтары тоны.

— За кошт чаго?

— За кошт новай канструкцыі. Грузапад'ёмнасць — гэта не толькі маса. Гадоў пяць назад я ездзіў у Швецыю і быў ашаломлены грузапад'ёмнасцю крана, разы ў тры лягчэйшага за наш. Так і тут... У нас разлікі.

Ліхач дастаў з партфеля згорнутыя лісты чарцяжоў, добра зашмальцаваныя, у масляных плямах, быццам па іх ужо рабілі машыны.

Генерал здзівіўся:

— Што яны ў вас у такім выглядзе?

— Таварыш генерал! Мы ж выхаваныя на шпіёнскіх фільмах. Кожны з нас — дэтэктыў. Якому разведчыку трэба старыя чарцяжы.

— Аднак возіце ў партфелі...

— Ды тут — адны дэталі. Сам бог не разбярэ — ад якой яны машыны. А разлікі — вось яны, каля сэрца,— і дастаў з унутранай кішэні пінжака тоўсценькую запісную кніжку.

Генерал выклікаў падпалкоўніка, і яны абодва доўга і ўважліва, з прафесійнай дасведчанасцю, а таму з вельмі кароткімі заўвагамі, якія не заўсёды разумеў і Ліхач, праглядвалі чарцяжы, гарталі яго кніжку, да яго, каб патлумачыў, звярнуліся разы два-тры, не больш. Скончыўшы вывучэнне дакументаў, да яго звярнуўся не генерал — падпалкоўнік.

— Можаце злётаць са мной у наша канструктарскае бюро?

— Далёка?

Генерал назваў уральскі горад.

Ліхач лёгенька свіснуў: яшчэ адно падарожжа! І па тэлефоне не растлумачыўшы ні Але, ні міністэрскаму начальству. А на заводзе — завалы работы.

— Мы вам афармім камандзіроўку і дакумент, які апраўдае вашу «прагулку».

— Палячу. Дзеля справы на край свету палячу. Чаго не зробіш для перабудовы.

— А вы кажаце: унізе — ціха. Не! — задаволена пажартаваў генерал.

Тэлефонны званок разбудзіў гадзін у шэсць раніцы. Васіль з натугай адарваў галаву ад цвёрдай гасцінічнай падушкі. За тысячы вёрст пазнаў голас свайго галоўнага інжынера, хоць голас яго на гэты раз быў нязвыклы — раздражнёны, непачцівы:

— Дзе вы гуляеце? Да гадзіны ночы званіў, са станцыі, іншакш не дазвонішся, тэлефаністак цукеркамі абкарміў, каб набіралі... Я вам рахунак прад'яўляю... за цукеркі.

Апошняя фраза зняла трывогу, якая была з'явілася ад такога ранняга званка і ад голасу Галубятніка: значыцца, аварыі няма, калі сур'ёзны і строгі чалавек хоць змрочна, але пажартаваў.

Салодка пацягнуўшыся, Ліхач засмяяўся.

— Вам смешна, так? Вам смешна? А мне ўчора ваша патранеса так намыліла галаву, што і зараз свярбіць.

— Якая патранеса?

— Ха, якая! Наліцкая.

— Была на заводзе?

— Каб жа была, дык я адчуваў бы сябе больш упэўнена. У сваёй цытадэлі. У гарком запрасіла. А я ўсё жыццё баюся афіцыйных устаноў.

— За што яна?

— За вас.

— За мяне?

— Вы здзіўляецеся? Хтось з нашых напісаў, што дырэктар за кошт завода арганізаваў сабе турысцкае падарожжа, купаецца ў Азоўскім моры.

Васіль пачырванеў. Сапраўды, учора пасля абеду ўпершыню за два тыдні касмічных перагрузак — з пералётамі, цяжкімі размовамі, пакутамі з білетамі — ён дазволіў сабе адпачынак — парыбачыць, пакупацца; запрасіў намеснік дырэктара па збыту «Азоўсталі», павёз у мора на заводскім катэры.

— Ды вы хоць растлумачылі, чым займаецца турыст?

— Яна слухаць не захацела. Патрабавала, каб вы сёння ж былі на заводзе, а заўтра — у яе...

— Дзе яна жыве? На зямлі ці ў небе? Вы знаеце, як тут з білетамі?

Галубятнік раздражніўся да яўнай непачцівасці:

— Я нічога не хачу знаць! Я перадаю загад. І дадам: я таксама падбіўся, як стары конь. Мне не пад сілу цягнуць два вазы.

— Вылятайце ў Брэжнеў.

— Не палячу, пакуль не з'явіцеся вы! Пад пагрозай план.

— Добра. Заўтра я буду на заводзе.

Падрабязнасцей распытваць не стаў. Не развітаўся нават, як звычайна. Кінуў трубку, падскочыў з ложка. Сапсавалі прыемнае ўражанне ад учарашняга адпачынку. Узлаваўся і на Алу, і на галоўнага інжынера.

«Нагнала яна табе страху, стары галубятнік».

Ала такая! Яе і студэнты, бадай, баяліся. Ён таксама аднойчы адчуў нешта падобнае на боязь, калі паставілі ў план работы камітэта камсамола яго справаздачу. Таму і пасягнуў на яе нявіннасць. Грубы і дзёрзкі ўчынак, але ён не каецца — ёсць апраўданне: Ала сапраўды-такі падабалася, і ў яго было шчырае жаданне такім чынам прымусіць дзяўчыну выйсці за яго замуж. Груба, але надзейна.

Прыгадаўшы пад халодным душам студэнцкія пачуцці свае, загарэўся спакуслівым жаданнем, адначасова чырванеючы перад жонкай. Засмяяўся і вылаяў сябе.

Аднак жартаў Ала не любіць. Не паглядзіць, што яны аднакурснікі. Здыме такую стружку, што доўга будзеш чухацца, і прыклеіць такі ярлык, што не адмыешся. Трэба ляцець. Але як замяніць білет? Нават службы такога гіганта, як «Азоўсталь», дасталі яму білет толькі на аўторак, а сёння субота. Наліцкая чакае яго ў нядзелю. Не дае Алачка адпачынку ні сабе, ні іншым.

«Ах, любоў мая, любоў»,— Васіль сумна ўздыхнуў.

## *4*

Пасля глабальных пытанняў, звязаных з перабудовай на заводах, у калгасах, у гандлі, перайшлі да персанальных спраў.

Людзей у цеснаватай зале аказалася больш чым трэба, супрацоўнікі гаркома бадай усе. Наліцкая спачатку хацела «пачысціць» аўдыторыю: няхай працуюць, а не «балеюць» за п'янюгу. Але потым вырашыла: няхай застаюцца, можна будзе

выявіць, калі не па выступленнях, то па рэпліках, па вачах, па ціхім рэагаванні, як хто ставіцца і да ўчынку Булаўскага, і да яе рашучасці на яго прыкладзе навучыць усіх іншых. А сабраліся ж яўна на яго персаналку — свайго чалавека, не на загадчыка фермы з калгаса Кірава Адама Гулевіча, які, як высветлілася, у вайну быў дэзерцірам, хоць сама гэтая справа непараўнальна больш значная, можна сказаць, палітычная справа. А Будаўскі... Эдзіка сапраўды шкада. Наліцкая ведала настрой гаркомаўцаў, яны прыходзілі да яе дэлегацыямі, нават шафёры, машыністка і бібліятэкарка прасілі за яго. Але яна заставалася няўмольнай. Ніякага лібералізму ў барацьбе з п'янствам не дазваляць! Ніякага паслаблення ні сабе, ні іншым, ні віноўнікам, ні плакальшчыкам за «хлопчыка, які праслізнуўся».

Эдуард Будаўскі ледзьве не самы малады работнік гаркома, загадчык аддзела прапаганды, паэт, музыка, спявак, жартаўнік. Яго любілі ў горадзе, у раёне — забаўнік. І яна, першы сакратар, высока цаніла: работнік эпохі перабудовы, не сухар, не фармаліст, памочнік, які трэба ў наш час на такім важным участку — ідэалагічным. І на ж табе... Быў у гасцях, выпіў, добра, відаць, выпіў і нічога разумнейшага не прыдумаў, як сесці ў скверы насупраць гаркома і... заснуць. Соннага і прыхапіў пільны намеснік начальніка гарадской міліцыі Мігун, не паглядзеў, што гаркомавец.

Большай роспачы Ала Уладзіславаўна не перажывала, бадай, за ўсю сваю камсамольскую, савецкую, партыйную дзейнасць. Кіпела гневам на Булаўскага: які ідыёт, так зганьбаваў сябе, так падвёў яе! Скланяла, як толькі дазваляў яе ранг і пол, Мігуна: фармаліст, чыноўнік, дзяржыморда, не мог ціха завезці хлопца дадому ці іншым чынам «спусціць на тармазах». Мог бы зразумець, што ганьба не аднаму Булаўскаму — гаркому, а больш за ўсё таварыству цвярозасці: Эдзік — намеснік старшыні. Рагочуць усе п'янюгі, добра, што гарэлку не прадаюць і чэргі не збіраюцца.

Не, няхай яе не ўпрошваюць. Літасці не можа быць. Ды і ў абкоме ўжо ўзгадніла: зняць з пасады, выключыць з партыі. Баброўка кажа: вышэйшая мера для маладога чалавека. Але, вышэйшая. І па-жаночаму ёй шкада гэтага дурня. Але інакш з небяспечным злом ніколі не скончыць.

Супраць Гулевіча гаварылі каротка, гнеўна, прапанавалі аднадушна. Але ў самой Наліцкай такога гневу, як супраць Булаўскага, на дэзерціра не было. Каб нехта знайшоў хоць ускоснае апраўданне... Дэзерцірства было не прамое. Можна,

бадай, паверыць тлумачэнню старога чалавека, што гады ён зменшыў у часе акупацыі, каб гітлераўцы не пагналі ў Германію. Для гэтага была магчымасць. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі да пачатку вайны бацька яго рабіў старшынёй сельсавета, і, калі прыйшлі немцы, сыны закапалі кнігі былой польскай гміны аб рэгістрацыі нараджэнняў і смерцяў. За тры гады людзі забыліся, каму колькі гадоў, а хто і помніў — баяўся пікнуць і ў вайну, і пасля яе. І толькі вось цяпер мясцовы летапісец, з маладых і пільных, праверыў даўнюю вясковую легенду па касцельнай кнізе, раскапаў яе ажно ў Вільнюсе.

— Ну, добра, ад немцаў схаваць гады былі падставы. А калі нашы прыйшлі і вашы аднагодкі пайшлі ў ваенкамат. Вы пайшлі туды? Кнігу выкапалі?

— Не.

— І ваеннага трыбунала не баяліся?

— Баяўся.

— На што ж вы спадзяваліся? Калі што — шмыгнуць у лес, да бандытаў?

— Не. Мама плакала. Бацька не вярнуўся з партызанаў...

— Бацька загінуў як герой. А сынок — дэзерцір. І пасля ў вас хапіла нахабства пралезці ў партыю? Дзе ваша сумленне?

— Вінаваты.

— Ды яшчэ як вінаваты!

— А што мы цягнем такое яснае пытанне? Іншай думкі не можа быць!

Праўда, не можа. Аднак бескампраміснай Але Уладзіславаўне чамусьці хацелася, каб хто-небудзь хоць паразважаў, што ў сорак чацвёртым хлопцу было васемнаццаць, а зараз шэсцьдзесят адзін, столькі ж, колькі яе бацьку, дзеці сталыя, унукі — школьнікі. На ўсіх лажыцца кляймо. Не, ніхто пра гэта не сказаў. Да дэзерціра літасці не мелі і тыя, хто вайну ледзьве помніць, як Сіротка, як Баброўка, і тыя, што нарадзіліся пасля вайны. Не выступаць жа ёй з такімі развагамі ды яшчэ перад разборам учынку Булаўскага.

Пра ўчынак загадчыка аддзела гаварылі падоўгу і строга. (Строга, але не гнеўна, адзначыла Наліцкая.) І тут жа падпускалі гумар, жартачкі, амаль кожны выклікаў калі не смех, то ўсмешачкі. Сур'ёзныя людзі — члены бюро — гавораць пра сур'ёзную барацьбу, ад вынікаў якой у значнай ступені залежыць перабудова, і раптам такія несур'ёзныя кепікі. Гэта абурала Алу Уладзіславаўну. Сапраўды размагнічваюць адзін аднаго, так можна дагаварыцца да... даравання. Вунь куды верне Баброўка: з

Эдзіка можа вырасці добры паэт. І — хто ў яго ўзросце не спатыкаецца? І дагаварыўся — да вымовы без занясення ва ўліковую картку. Вунь на колькі ступеняў спусціўся! Хоць лепш, чым хто, ведае думку аддзелаў абкома. У першага сакратара ажно ўчасціўся пульс, на шыі выступілі непрыгожыя плямы, яна шпарка занатоўвала тэзісы на паперы, каб даць водпаведзь кожнаму з гэтых жартаўнікоў-лібералаў. Яна таксама пажартуе, але яе жарты будуць іншага адцення.

Жнівень гарачы. Добры прыпар — радуе штодзённая зводка па ўборцы ўраджаю. Усе тры акны ў зале адчынены, а ўсё роўна душна. Мужчыны паздымалі пінжакі. А яна вельмі рана ездзіла па калгасах і не паспела змяніць шарсцяны касцюм на лёгкае плацце. Жакет, праўда, і яна скінула, але пад поясам спадніцы пацела паясніца, ногі; дыскамфорт такі даваў адчуванне забруджанасці, адрываў думкі ад справы. Яна злавала на сябе: «Чыстаплюйка, баба! Пра сцёгны свае думаеш. Сорам!» — і запісала тэзіс з выступлення начальніка міліцыі Пацеркі, які таксама хітра выгараджваў Булаўскага. «Намёк на дурноту твайго намесніка зразумелы. Але выдам я табе, ахоўнік парадку, галоўны змагар за цвярозасць, па самую, як кажуць, завязку. Не ратуюць цябе твае салдацкія жартачкі. Сам ты ці не ад гэтай гары пажаўцеў?» Худы падпалкоўнік пацеў, як ніхто, і Наліцкай стала непрыемна глядзець на яго. Павярнулася да акна і... устрапянулася, перастала слухаць, што гаворыць начальнік міліцыі. Пасярод плошчы стаяў Вася Ліхач. Побач з ім дзве маладыя жанчыны. Ён нешта расказваў, і жанчыны весела смяяліся. І ў Алы Уладзіславаўны варухнулася незнаёмае пачуццё, нядобрае — гэта яна ведала пэўна, але не ведала, як яно называецца. Няўжо рэўнасць? Смешна. Раўнаваць чужога мужа? Раздражнялася супраць яго зусім за іншае. За доўгую адлучку, хоць у ананімку, што ён купаецца ў моры, не паверыла — не той дырэктар, Васіль сядзіць на заводзе больш, чым яна ў гаркоме. Днюе і начуе. За выгляд яго раздражнілася. Ідзе ж у гарком, а надзеўся, як для загараднай прагулкі: джынсы, сіняя сарочка.

«Трэба табе прачысціць мазгі».

Ах, Ала, не хітруй сама з сабой. Усё больш складана. І таямніча. Пра такое сапраўды хіба сама сабе ўначы ў бяссонніцу прызнаешся. Узбунтавала яе душэўны спакой тая неспадзяваная сустрэча ля Нёмана з ім, з яго сям'ёй. У наступную ноч сасніла дзіця, такога ж узросту, як яго Маша, толькі не дзяўчынку — хлопчыка. Падкідвала яго, што мяч, лавіла, цалавала яго ножкі,

хлопчык заліваўся смехам, і яна таксама рагатала, і было ад гэтай гарэзлівасці незвычайна прыемна. Сон гэты не даваў засяродзіцца на рабоце. А на другую ці трэцюю ноч яшчэ горш: яна спала з мужчынамі, адразу з двума, адзін з аднаго боку, другі з другога,— Толя, вадзіцель, і ён, Ліхач. Сарамата якая! І брыдота. Пасля, удзень, з'яўлялася проста-такі страшнае адчуванне: мужчыны ведаюць пра яе ганебны сон і аглядаюць да абразлівасці пажадліва.

Незвычайныя сны ў розных варыяцыях паўтараліся і выбівалі яе са звычайнай жыццёвай каляіны, добра наезджанай за дванаццаць гадоў кіраўнічай работы. Нельга сказаць, што раней яна не думала пра асабістае, чалавек ёсць чалавек,— пра тое, што варта неяк уладкаваць сваё жыццё, не лепшы гэта лёс застацца векавухай, ды і нелагічна з яе знешнасцю — лепшым пасагам, што маглі падараваць бацькі. Думала пра дробязі — што купіць, што пашыць, тут яна захоўвала пачуццё меры, але ад моды ніколі не адставала, гардэробам сваім забяспечвала сястру, пляменніцу, маладых суседак, калі наведвалася да бацькоў. Аднак такія клопаты ніколі не перашкаджалі рабоце; пабочныя думкі — добрыя паўзы для адпачынку.

Уласна кажучы, выбілі яе з усталяванага рытму не сны — бяссонніца ад гэтых сноў, думкі. Сны — ліха з імі, яны бываюць самыя нечаканыя, фантастычныя, снілася, напрыклад, што яна хадзіла па Месяцы — жахлівыя пейзажы. А вось думкі... Яны заўсёды зямныя, прывязаныя да людзей, да спраў, да планаў, розных планаў, у тым ліку і асабістых.

І чым далей, тым горш. Пацягнула Алу Уладзіславаўну ў радзільны дом. Наведвалася ж разоў колькі і там, у дняпроўскім горадзе, ведала, што гэтыя нечаканыя «налёты» старшыні выканкома добра падцягваюць людзей, трымаюць, як кажуць ваенныя, у баявой гатоўнасці. Але там ніякіх асабістых эмоцый радзільня не выклікала — звычайная неабходная ўстанова, як бальніца, сталоўка, лазня. А тут адбылося сапраўды-такі штосьці незвычайнае. Можа, таму, што трапіла сакратар гаркома якраз тады, калі маці кармілі дзяцей. Якую палату ні адчыніць — поўныя белыя грудзі маладых матак і смоканне ружовенькіх роцікаў. Як спрытна гэта дзеці робяць. Суткі-двое пражыло, а ўжо шукае, калі згубіць сасок. І маці ўсе нейкія дзівосныя. Мадонны! І пахла ад іх малаком.

Дні два выява гэтая стаяла перад вачамі, перашкаджала працаваць. Гутарыць з дарослым, часам барадатым чалавекам, а

бачыць яго маленькага — уяўляе, як ён смактаў матчыны грудзі. Проста насланнё нейкае. Бадай, ненармальны псіхічны зрух.

А потым пачаў паўтарацца адзін і той жа сон: дзіця смокча яе грудзі. Праз тыдзень Ала Уладзіславаўна пачула ў грудзях боль. Гэта моцна спалохала. Звярнулася да ўрача-тэрапеўта. Тая паслухала, памацала грудзі і павяла да анколага. Анколаг — мужчына, і ёй стала непрыемна, што той будзе камечыць яе грудзі пракуранымі жоўтымі пальцамі. Але ён толькі ласкава павадзіў далоняй па яе грудзях і павёў на рэнтген. Уважліва глядзеў разам з рэнтгенолагам.

«Абсалютна чыста,— заключыў, прынёсшы ёй заспакаенне, але тут жа спытаў: — Вы ў гінеколага былі?»

«Не. А навошта?»

«О не! Зараз жа пойдзем да гінеколага. Думаю, што вашы нядужасці — па іх часці».

Анколаг займаў пасаду намесніка галоўнага ўрача і добра ведаў, хто пацыентка, і Ала Уладзіслаўна яго помніла — па нарадах.

Яна не любіла гінеколагаў, агляды іх абражалі яшчэ ў інстытуце, і гадоў сем ужо не наведвалася да гэтага спецыяліста, ды і ўвогуле да ўрачоў звярталася хіба толькі калі грыпавала, а так не мела патрэбы, здароўе ў яе было выдатнае, і перастарэлая дзяўчына пераканала сябе — не хварэе таму, што вядзе ідэальна правільнае жыццё.

Па дарозе ў жаночую кансультацыю — намеснік галоўурача палічыў сваім абавязкам суправаджаць высокую пацыентку — Наліцкая збянтэжана папрасіла:

«Не кажыце, калі ласка, хто я».

Ён прыпыніўся, агледзеў яе.

«Вы што, цяжарная? — і здзівіўся: — Дык што ж тут такое...— пашукаў слова,— недазволенае? Ала Уладзіславаўна!»

Яна пачырванела.

«Ведае ён, што я незамужняя? Ведае, безумоўна, гэтую рысу маёй біяграфіі, бадай, увесь актыў ведае. І лічыць, што і пры такой сітуацыі ў цяжарнасці нічога ганебнага няма».

Такая філасофія ўрача неяк дзіўна заспакоіла, ледзьве не ўзрадавала: усё ж прасцей, чым ёй здаецца.

Гінеколаг, сівая поўная жанчына, за сваю доўгую практыку чула і бачыла тысячы драматычных і трагічных сітуацый, нават камічныя здараліся. Здзівіць яе нічога не магло. Аглядала яна няспешліва, ляніва, здавалася, абыякава, можа, не падабалася ёй,

што пацыентку прывёў намеснік галоўнага: падумаеш, персона! Зрабіўшы такі вывад, Ала Уладзіславаўна трохі забаўляласяназіраннем за ўрачыхай, іграючы гэткую ж абыякавасць і звыкласць да агляда ў. Але і праз шкло двух акуляраў, сваіх і бабуліных, убачыла ў пэўны час у вачах урачыхі здзіўленне. Але на словах гінеколаг яго не выказала.

Скончыўшы працэдуру агляду, гэтак жа няспешліва памыла рукі, села, падсунула бланкі рэцэптаў, але тут жа бадай раздражнёна адсунула іх. Сказала катэгарычна: «Нарадзіць вам трэба! Баліць у вас не тут,— прылажыла руку да грудзей, пасля перанесла да галавы, запусціла пальцы ў сівыя пасмы,— а вось тут».

«Бесцырымонная бабуля»,— падумала Наліцкая, але падзякавала шчыра, узрадаваная: урачы, усе трое, развеялі яе анкалагічны страх.

Аднак ненамнога і ненадоўга стала лягчэй. Знік страх. Але ўзнікла праблема, ад якой раней яна лёгка адмахвалася, нават калі пра гэта пачынала сур'ёзную гаворку маці, ад знаёмых проста ўмела аджартавацца. Нельга, безумоўна, сказаць, што не думалася пра магчымасць адзіноцтва, якое можа наступіць; цяпер ніколі не адчувала яго, таму не баялася. Але з кніг, з расказаў людзей ведала, што гэта цяжкі пакутлівы стан, і, як бы яна ні навучылася пазбягаць яго, адзіноцтва, старасць будзе бязрадасная — гэта яна добра разумела. Але ў такія гады старасць яшчэ здаецца далёкай абстракцыяй. Калі яна наступіць! Да яе ў жыцці можа адбыцца многа нечаканага. А пакуль жыві тым, што цябе грэе. Падабаецца многім няньчыцца з дзецьмі — няхай нараджаюць дзяцей. А яна будзе аддаваць сябе працы дзеля таго, каб дзецям гэтым шчасліва жылося — у камунізме. Кожнаму — сваё. А карацей кажучы, з-за працы проста не хапала часу філасофстваваць на гэтую тэму. Спала добра, сніла featuring рознае — без такіх паўтораў, як цяпер,— і сны гэтыя забываліся пры першай жа сустрэчы з людзьмі на лесвіцы дома, дзе жыла, ці ў прыёмных выканкома, гаркома.

А тут раптам, пасля звароту да ўрачоў, у бяссонную ноч з'явілася незнаёмае — як нечаканы цяжар — адчуванне сваіх трыццаці шасці гадоў і прыйшла думка: не агледзішся, як наступіць той фізіялагічны ўзрост, калі нарадзіць ужо не здолееш, нічога нечаканага за гэтыя пяць-сем гадоў не здарыцца, як не здарылася дагэтуль.

Але лёгка сказаць: нарадзіць трэба. А як гэта зрабіць, мудры доктар? Выйсці замуж... За каго — з пасагам яе гадоў і пры яе

становішчы? За таго начальніка будтрэста, якому на мінулым бюро запісалі вымову за развод з жонкай? Хто з такіх адважыцца зрабіць ёй прапанову? Спакусіць Толю? Спакусіць можна — пазірае на яе калені пажадліва. Але такі маральны чысцюля здольны пакаяцца перад маладой жонкай, і, калі тая ўзніме лямант, а напэўна ўзніме, за такую амаралку зляціш з высокага крэсла,што футбольны мяч. А Ала Уладзіслаўна больш за ўсё баялася на нечым спатыкнуцца так, што за гэта могуць без парашута, як жартуюць яе калегі, спусціць з тае вышыні, на якую яна ўзнялася не за прыгожыя вочы, не з дапамогай пратэкцый, а старанняй сумленнай працай у камсамоле, у гарсавеце. Яна ганарылася, што дамаглася сваіх пасад сама — нікога не паіла каньяком, ні з кім не цалавалася, хоць некаторыя начальнікі квапіліся, рабілі нахабныя намёкі, і ні перад кім, бадай, не падхалімнічала. Пачцівай была, паслухмянай, дысцыплінаванай — асабліва начальству не пярэчыла, аднак свой погляд, сваю пазіцыю па пытаннях прынцыповых умела адстойваць далікатна, без шуму, без «ігры на публіку». Разумела, што за гэта яе цэняць — за ўмераную паслухмянасць, пры якой Ала Уладзіслаўна, аднак, умела не прыніжаць сябе. І гонар яе жаночы, лад жыцця ўхвалялі і кіруючыя мужчыны, і нават іх жонкі, бо ў паездках з ёй на нарады, па раёне не баяліся за мужоў: Наліцкая ніякіх «жартачкаў» не дазволіць. Такая слава, як і ўсялякая іншая, кружыла перастарэлай дзяўчыне галаву. Яна ўпэўнілася, што валодае адзіна правільным спосабам жыцця, што жанчыне — партыйнаму кіраўніку, каб не страціць аўтарытэт, толькі гэтак і трэба паводзіць сябе.

І вось упэўненасць яе рушыцца. Хіба толькі так можна пражыць? І асудзіць сябе на адзіноцтва ў старасці? Само жыццё, уся практыка роду чалавечага, сама прырода даводзіць, што сэнс толькі ў тых законах, па якіх жыве большасць людзей — дзевяноста дзевяць працэнтаў іх. У якую ж мізэрную меншасць яна залічыла сябе. І пры гэтым прэтэндуе на ролю кіраўніка, знаўцы, дарадцы, суддзі ўсіх чалавечых адносін, наладчыка гэтай самай складанай машыны — жыцця.

Пасля доўгіх, пакутлівых, саромных і нявінных, посных і скаромных разважанняў Ала Уладзіслаўна пераканала сябе: трэба нарадзіць. За сувязь з такім, як Толя, сапраўды можна пагарэць. А калі нарадзіць так, каб ніхто не ведаў — ад каго, то... ніхто з калег, з начальства яе не асудзіць, ніхто персанальнай справы не створыць. Дзякуй богу, у гэтым плане грамадства

далёка адышло ад дзікай дамастроеўшчыны. Цяпер нават у глухой вёсцы не асуджаюць маці-адзіночку. Большасць ухваляюць — тых, хто нараджае без разбэшчанасці, ад жадання мець дзіця.

Праўда, палохала думка, што на некаторы час, на паўгода мінімум, прыйдзецца перапыніць работу. А за гэты час там, уверсе, могуць падумаць: жанчына з малым дзіцем — не той «першы» ў напружаны час перабудовы; у прафсаюз яе кудынебудзь ці на завод — інжынер па адукацыі. Гэтага баялася і пасля халодных цвярозых разваг адступала ад свайго намеру.

«Не губляй галавы, Алька, а то пакоцішся ўніз».

Але цвярозасці хапала хіба на дзень, калі празаічныя справы засланялі фантастычныя ўяўленні. А ўначы ўсё пачыналася спачатку.

Не, нарадзіць! Вырашана і запісана — так любіла гаварыць на пасяджэннях, завяршаючы абмеркаванне чарговага пытання. Перабірала мужчын — ад каго? Ішла ў адзін бок — у мінулае, у маладосць, у другі — у сучаснасць. Колькі іх, мужчын, самых розных! І бадай ніхто не пагрэбуе ёю — ведае яна гэтах кабялёў, толькі міргні, дай зачэпку. Але ў тым і загвоздка, што не ўмее яна міргаць, не навучылася, ды і крэсла перашкаджае. І ўсе тайныя будучыя бацькі адсыпаліся па самых розных прычынах: з адным ёй брыдка легчы ў ложак, другі — балбатун... Перад вачамі стаяў адзін. Куды б ні плылі думкі, круг іх замыкаўся на ім. Толькі яму магла б сказаць... у пэўных умовах:

«Вася, я хачу дзіця... ад цябе».

Але менавіта — у пэўных умовах. А якія яны, гэтыя ўмовы? Як іх стварыць? Першыя бяссонныя гадзіны яна гнала яго прэч:

«Згінь з маіх вачэй. Нахабнік! Брыдкі тып! Памяло!»

А пад світанне прасіла:

«Здагадайся сам — прыйдзі. Не прымушай мяне прыніжацца. Я ж — жанчына. А нават у раманах... у старых раманах гераіні ніколі не прасілі дзіця».

...Ліхач развітаўся з жанчынамі і ішоў да гаркома. Убачыў Наліцкую праз адчыненае акно, прыветліва памахаў рукой. Натуральна, што яна не адказала — трэба весці пасяджэнне. А то проста вылецела б з залы — так апанавалі думкі. Не любіла такой рассеянасці, калі думкі пра адно, а слухаць і гаварыць трэба зусім іншае. Дзіўна, што і такое не ардынарнае, не дзяжурнае пытанне, як персанальная справа маладога выпівакі, адышло за празрыстую, але глухую сцяну: глядзела на людзей і не чула іх —

жыла патаемнымі начнымі перажываннямі. Гэта ўжо проста заскок нейкі. Зноў успыхнуў гнеў на Ліхача: во прычапіўся, назола!

Выступаў Воблікаў і сказаў нешта такое, што ўсе засмяяліся. Нават у вінаватага Булаўскага посная фізіяномія павесялела. Што сказаў старшыня, які ўмее падладзіцца да маладых? Хітруган. Хоць зараз усе падладжваюцца да маладых. Паўзе, як ляднік, змена пакаленняў. Старэйшыя баяцца, што адламаецца глыба і абрушыцца на іх. Хаваюцца за спіны маладых.

Ала Уладзіславаўна заглянула ў парадак дня. Работы яшчэ на добрую гадзіну. Ліхачу прыйдзецца чакаць яе. І хоць кальнула паганенькая рэўнасць ад думкі, што будзе фліртаваць з Янінай, сакратаркай, какетлівай рагатунняй, ёй раптам зрабілася суцешна і бадай весела. Яна стала добрая.

— Дык што ты прапануеш, Міхаіл Паўлавіч? Я не чула.

— Вымову.

— З занясеннем?

— Без занясення,— сказала Марыя Казіміраўна Тапыга, сакратар па ідэалогіі: ратавала свайго падначаленага, а можа, і больш, чым падначаленага.

Ала Уладзіславаўна на пачатку сваёй работы тут пасябравала з Марыяй; дзве жанчыны будуць цягнуць адзін воз, і лёс у іх аднолькавы — незамужнія, праўда, Тапыга разведзеная. А пасля начных перажыванняў амаль узненавідзела сваю каляжанку, што тая не жыве манахіняй і ніхто на яе не паказвае пальцам. І з гэтым прыгажуном Булаўскім у яе, напэўна, не толькі службовыя адносіны, таму стараецца ўратаваць яго, тры дні ўпрошвала не караць жорстка. І ў яе зноў успыхнуў ранейшы гнеў на супрацоўніка, які ў разгар антыалкагольнай барацьбы заснуў перад гаркомам. За адну такую дурноту трэба гнаць не толькі з работы! Але прымусіла сябе накінуць наморднік на сабаку гневу.

— Добранькія мы.

— Ала Уладзіславаўна! Нават Біблія вучыла: авечку, якая заблукалася...

— Табе, Піліп Іванавіч, папом трэба быць. Бразоўскі! Вакантнага прыходу няма? А то парэкамендуем мітрапаліту.

— Царква пустуе.

— За папа ў нас Марыя Казіміраўна.

— Яна ж каталічка.

— Лепшы прапаведнік Саша. Толькі слязу не пускай. Алілуя заводзь.

— Вось за гэта і запішам яму: за разыходжанне слова з дзелам. Хто за вымову з занясеннем?

Прагаласавалі дружна. Наліцкая зразумела: узрадаваліся мяккасці пакарання, бо ведалі яе непрымірымасць і рашучасць дамагчыся выключэння. Пашкадавала, што так раптам падабрэла. З-за чаго? Ліхача ўбачыла? Цьфу! Сябе перастанеш паважаць з-за такой амплітуды настрою. Дадала Булаўскаму стальным голасам суддзі:

— Пойдзеце інструктарам у райвыканком. Узніміце культуру на сяле. Можаце быць свабодным.

Забылася, што ён член бюро і рашэння пленума не адбылося. Аднак ніхто не паправіў яе.

Здзівілася, што яго няма ў прыёмнай. Здзівілася і ўстрывожылася. Няўжо не дачакаўся заканчэння пасяджэння і пайшоў? Аднак у Яніны не спытала, куды знік Ліхач. І ад гэтага зрабілася сорамна — ад боязі выдаць сваю павышаную цікавасць і нецярпенне бачыць яго. А яно такі было, нецярпенне, быццам з яго прыходам вырашыцца яе лёс. А што? Мажа, і вырашыцца. І Ала Уладзіславаўна забылася на ўсе справы, а іх было бездань, і напружана ўслухоўвалася ў прыглушаныя галасы за двайнымі дзвярамі. Баялася, што зойдзе нехта з тых, хто заходзіць без дакладу, напрыклад, Марыя Тапыга, і сваёй балбатнёй адцягне сустрэчу з ім. Але сказаць Яніне, што яна нікога не прымае, акрамя... не магла. Менавіта гэтае «акрамя» і стрымлівала.

Па залівістым Яніным смеху зразумела, што ў прыёмнай з'явіўся Ліхач. І не вытрымала, паднялася, выйшла з-за стала. Чакала, як высокага госця, са страхам слухаючы ўдары сэрца і адчуваючы, як непрыемна перасыхае ў роце, у горле, быццам абязводжваўся арганізм.

Дзверы размашыста адчыніліся, у гэтыя дзверы мала хто так заходзіў.

— Можна, Ала Уладзіславаўна?

— Заходзь.

Божа, што гэта ў яе за голас?! Хіба такім голасам гаспадыня кабінета павінна запрашаць наведвальніка, якога паклікала, каб паўшчуваць?

Васіль прычыніў дзверы і застаўся стаяць ля парога, бесцырымонна аглядаючы былую аднакурсніцу.

Ала пачула, што загарэліся шчокі, але, бадай, не ад таго хвалявання, з якім чакала яго,— хутчэй ад страху перад яго

бесцырымоннасцю — як паводзіць сябе! — і ад стоенага абурэння: «Няўжо чакае, што першая я павінна падысці, каб павітацца? Нахабнік!»

Не, падышоў. Рука яго была мяккая і гарачая. Такога ласкавага поціску яна не помніла. Закружылася галава, зазвінела ў вушах. І ёй захацелася неверагоднага — страціць прытомнасць. Каб ён падхапіў яе на рукі. Каб ведаў, куды пакласці. Даў вады. І тады ёй лягчэй было б сказаць:

«Вася, я хачу дзіця — ад цябе».

Але тут жа пасміхнулася са свайго бабскага глупства. Не без гумару падумала: а праўда — куды ён паклаў бы яе? На даўгі стол? А раптам паклікаў бы на дапамогу? Ускочыла б Яніна... Урэшце, нічога дзіўнага, каб ёй зрабілася блага — спякотны дзень, парыць, яўна перад навальніцай, напружанае пасяджэнне... і нечаканае жаданне як бы спакваля вярталася. Не запрашаючы сядаць, спытала:

— Дзе гэта ты загараеш, гуляка?

— Ала! Я ж званіў... Якую я лінію выбіў... Заходнегерманскую. Праграмную... Зраблю завод — капіталісты здохнуць ад зайздрасці...

— Здаецца, лінію ты выбіваў не ў Жданаве.

— На «Азоўсталі» я выбіваў сталь. Ты знаеш, як рэжуць нас пастаўкі металу.

— На цябе напісалі, што ты за кошт завода наладзіў сабе турысцкае падарожжа і... курорт.

— Хто напісаў?

— Заводскія, безумоўна.

— Ты не хочаш сказаць хто?

— Прозвішчаў не разабраць.

— Слухай! Ты дагэтуль сур'ёзна прымаеш ананімкі! Плюнь ты на іх! Хіба я падобны на гультая? Я мог сачкануць у інстытуце. Але на рабоце — ніколі. Даша сказала, што я пахудзеў за гэтае падарожжа. Ажно прыраўнавала. Добранькі курорт! Ты ведаеш, як я дабіраўся са Жданава? Калі Галубятнік пазваніў, што ты разнесла яго... за мяне, я зразумеў, што ты кіпіш.

— Не вельмі твайго Галубятніка разнясеш. Па-мойму, беспартыйны тып...

— Ды не! Партыйнасці ў яго ажно занадта, калі тычыцца справы... Ды ты паслухай, як я дабіраўся з гэтага «курорта». Білетаў, канечне, няма. Але ў нас усюды працуе падпольны сіндыкат. Усюды «жучкі». Адразу сцямілі, калі я кідаўся па

аэрапорце, што мне во як трэба ляцець. «Ёсць білет».— «Да Мінска?» — «Не».— «Да Вільнюса?» — «Да Таліна. Ды там жа пехатой можна дайсці да твайго Мінска». Гумарысты, чортавы дзеці! Грошай у мяне не хапае. Чакаць, пакуль здам свой білет, не хочуць. Ледзьве ўмаліў, каб узялі грошы, якія меў, і білет да Мінска. Трохкратная цана. Якая бухгалтэрыя аплаціць? А ты кажаш: за кошт завода. У Талін прыляцеў — у кішэні сорак сем капеек. І ніводнага тэлефона. А дзень выхадны, установы зачынены. Пачаў на вакзале электронны гадзіннік прадаваць. Але каму трэба наша дзярмо? Каб японскі! Міліцыянер пачаў за мной цікавaць: жулік. Тады я да яго. Так і так. Вазьмі гадзіннік у залог. Дай на білет хоць да Вільнюса. Гадзіннік у сем раз даражэйшы. Во так... А ты кажаш, я анархіст. Не, я — перабудоўшчык. Сапраўдны менеджэр. Толькі гандляваць не навучыўся, а рабіў у гандлі. Гадзіннік не здолеў прадаць. Двое сутак не еў.

Так яны і стаялі адно перад адным. Здавалася, гаспадыня кабінета слухае госця са шчырай увагай. Гэта яго натхняла. Захоплены сваімі дарожнымі прыгодамі, дырэктар не думаў пра штось пабочнае і не так пільна ўглядаўся ў былую аднакурсніцу, каб адчуць, зразумець усю складанасць і супярэчлівасць яе пачуццяў. Упачатку толькі падумаў, убачыўшы чырвань на яе шчоках: «Прыгожая ўсё- такі баба». Аднак не пашкадаваў, што яго студэнцкія заляцанні засталіся марнымі. А яна ўзіралася ў яго твар і слухала ўдары ўласнага сэрца, таемна жадаючы, каб яно, сэрца, неяк выдала яе пачуцці — каб ён зразумеў, настроіўся на яе просьбу. А магло выдаць, бо білася арытмічна — то прыглушана, то моцна да звону, так, што ажно пульсавала ў горле. Ала адчувала, чула гэтыя ўдары і чула, што шчокі гараць, а рукі халодныя. Упачатку падумала, што добрую долю сваіх прыгод Васіль сачыніў — помніла з інстытута, які сачыніцель. Але потым амаль не слухала, што ён расказвае. Глядзела праз акуляры ў яго вочы, бачыла, што яны пачырванелыя — відаць, сапраўды не спаў,— і думала адно:

«Зараз я скажу... зараз скажу... Вася, я хачу дзіця. Ад цябе».

Пры ўсім хваляванні ўявіла, як ён здзівіцца. І няхай здзівіцца, няхай мацней здзівіцца, з ашаломленым лягчэй размаўляць. Гэта будзе як запозненая помста за яго «Пагуляем у кошкі-мышкі?». Пагуляем, Вася, пагуляем. Але ты гэта хацеў зрабіць, патушыўшы святло, а я — пры ззянні летняга дня, адкрыта, шчыра, галосна для дваіх. Хто ж цяпер будзе кошка, а хто мышка?

Не стрымалася — усміхнулася думкам сваім.

— Смяешся? Не верыш?

— Амаль веру.

— Здзекуешся? Ты мне ніколі не верыла. А я, між іншым, сур'ёзны чалавек.

— Між іншым.

Васіль рагатнуў.

— З табой небяспечна гаварыць. Але скажу табе па-сяброўску: скептыцызм, які ты выпрацавала ў сабе, якасць не лепшая... для тваёй пасады і... для нашага часу.

«Вася, я хачу дзіця — ад цябе».

І тут яе ўдарыла да аглушэння, да звону ў вушах. Яна ажно адхіснулася. А калі ён зарагоча ёй у твар? Ён можа. Пераможна зарагоча, здзекліва. Сыты ж, як кот, правёўшы ноч са сваёй «пампушкай» пасля паўмесячнай адлучкі. Возьме і скажа, ды яшчэ на поўны голас: «Не, Ала, позна. У мяне — жонка, дзеці».

Як яна ўнізіцца, зганьбіцца!

У кабінеце і ў сцен ёсць вушы. Спалохана азірнулася на стол, на тэлефоны, быццам яны здольныя пачуць не толькі словы, але і думкі. І пайшла за стол, бо толькі там, у крэсле за сталом, адчувала сябе ўпэўнена і... спакойна — як за каменнай сцяной. Сказала амаль афіцыйна:

— І ўсё ж ездзіць два тыдні ў такі гарачы час — гэта, прабач, легкадумнасць.

— Але ж я зрабіў за два тыдні тое, чаго, седзячы ў кабінеце, не зрабіў бы і за два гады.

— Добра. Лінію ты атрымаў. Але ж яе трэба ўстанавіць.

— Установім!

— І выканаеце план? — іранічна спытала Ала Уладзіславаўна.

— Ух, план! — Ліхач зморшчыўся, як ад зубнога болю, і пашкроб патыліцу; сеў у крэсла для наведвальніка.— Карэкціроўку не прабіць. Такія бюракраты! Я дакладваў табе па тэлефоне. Скажаш пра план — як у панцыр лезуць. Во дзе трэба ламаць...

— Што ламаць?

— Псіхалогію чыноўнікаў. Дайце мне вырашаць, гаспадару!

— Ты такі ж служачы, як і яны. У грамадстве. Вырашай, для гэтага табе дадзены ўсе правы. Але план — закон, дзяржаўны. Ніякім галасаваннем, ні адкрытым, ні тайным, яго нельга змяніць.

«На што ты намякаеш? Табе не падабаецца, што мяне выбраў калектыў? Паламалі твой план аб выбранні Шатохіна?» — ужо ўзлавана падумаў Ліхач. І яшчэ падумаў: варта было б сказаць гэтай самавітай жанчыне ў высокім крэсле, што калі яна

выклікала яго дзеля таго, каб зрабіць такую банальную праборку, то дарэмна траціць час, ён залішне таўстаскуры для такіх дамскіх ушчуванняў. Але разумеў, што гэта сапсуе іх адносіны. А навошта яму псаваць адносіны з першым сакратарам гаркома? Студэнцкае сяброўства можна добра выкарыстаць для справы. І нават сваё даўняе заляцанне. Можа, аднавіць яго? Платанічнае. Не засохла ж яна зусім. Наадварот, набыла больш жаноцкасці, формы акругліліся. Памаўзліва заглянуў у прарэз плацця.

«Такая гульня магла б уратаваць ад лішніх сінякоў за план».

Але засмяяўся са сваіх юрлівых думак. Студэнцкія забаўкі — не для сталага чалавека.

— Ад чаго табе смешна?

— Ад плана. Выканаем мы яго... з дапамогай гаркома.

Наліцкая адказала сур'ёзна:

— Але, бачу, гаркому прыйдзецца сур'ёзна памагаць табе, каб выцягнуць план пры тваіх навацыях.

— А як жа інакш перабудоўвацца?

— Не думай, што адзін ты перабудоўваешся.

— Далібог, не думаю так, Ала Уладзіславаўна!

## *5*

За два гады работы на «заводзе гір», як Ліхач жартаўліва называў той завод, дзе працаваў раней, у яго не ўзнікала ніякіх праблем. Поўнае ўзаемаразуменне з калектывам, з парткомам, з заўкомам. Яго любілі, і Васіль Васільевіч ганарыўся гэтым. Ніводнай ананімкі ні ў якую інстанцыю! Камунікабельнасць яго, вясёлая дэмакратычнасць даходзіла да рабочых суседняга завода, таму, напэўна, і выбралі яго, можна лічыць, трыумфальна.

Здаецца, і тут знешне ўсё добра. Рабочыя, інжынеры паважаюць новага дырэктара, і Ліхач даражыў іх даверам. Яны ішлі за ім, як за добрым камандзірам, упэўненыя, што бой гэты, штурм вышыні — не дарэмная трата сіл, што гэта звенні, з якіх скуецца ланцуг пераўтварэнняў, перабудовы.

Але вельмі хутка, не паспеўшы, як кажуць, разгарнуцца, выявіць свае якасці, станоўчыя і адмоўныя, Васіль адчуў, што існуе сіла, нейкая таемная глыбінная плынь, якая скіравана супраць яго. Хто гэта? Чаму? З якой прычыны? Не мог сцяміць і недаўменна здзіўляўся. Разумеў: гэта небяспечна, калі не бачыш праціўніка...

Яшчэ да ананімак за яго камандзіроўку паступіла ажно ў абком ананімнае пісьмо за самачынную арганізацыю суботніка па навядзенні парадку, без аплаты гэтага паўдня вясёлай працы, калі сам дырэктар сцягваў цяжкі металалом, які зарос пад плотам травою. Яго радавала, як людзі рабілі. І раптам — абухом. Праўда, міма. Ён таксама не прастачок — дамогся сумеснага рашэння парткома і заўкома, згоды выбраных органаў не на словах, а на паперы.

Справаздачу па камандзіроўцы правяралі тры камісіі. Жах. І смех. Выедзенага яйка не варта. Прычапіцца не было за што. Але прычапіліся. Ашаламіла, што сур'ёзныя рэвізоры з сур'ёзнай фінансавай установы могуць сур'ёзна падазраваць у махінацыях з камандзіроўкай дырэктара завода. Што робіцца!

Меў ён глупства паставіць на камандзіровачным пасведчанні пячатку паштовай скрынкі, а білетаў туды не было: ляталі на ваенным самалёце.

Распаўнелая ад сядзячай працы жанчына ўчыніла допыт:

«Што гэта такое — ПЯ нумар...»

Нельга было тлумачыць чалавеку, далёкаму ад спецыфікі завода, што гэта такое, і Ліхач паспрабаваў жартаваць:

«Скрыначка. Вось такенькая. Але жалезная».

«Дзе яна?»

«Вісіць на дубе ля сіняга мора».

Жарт быццам падхапіла, але па-свойму:

«І вы ездзілі туды?»

«Лятаў».

«За чый кошт?»

«За свой».

«Па якой патрэбе?»

«Салаўя паслухаць».

Дурная баба так і запісала ў акт рэвізіі, з чаго пасмяяўся не толькі ён сам, але і бухгалтары завода.

Другая камісія прычапілася да квітанцый аплаты за маскоўскую гасцініцу: дарагі нумар.

«Але ж я атрымаў не больш таго, што належыць».

Усумніўся на гэты раз рэвізор-мужчына, даволі інтэлігентны з выгляду:

«А тры чвэрці плацілі са сваёй кішэні?»

Гэта абурыла.

З трэцяй камісіяй Ліхач адмовіўся размаўляць. Узлавана пазваніў Наліцкай. Ала Уладзіславаўна таксама абурылася. Ён паабяцаў не жартам:

«Пішы мне загадзя суровую вымову. Калі хто-небудзь яшчэ з'явіцца з такой праверкай, нават з міністэрства майго, узвалю на аўтакар і вывезу ў той роў, куды мы высыпаем смецце».

«Не блазнуй, Васіль».

«Ты мяне дрэнна ведаеш».

«Я цябе вельмі добра ведаю».

Так, яна яго ведала, бо думала пра яго і ўдзень і ўначы. Ён жа ўспамінаў яе толькі на рабоце, калі трэба была дапамога гаркома.

Званок дырэктара завода навёў першага сакратара на думку: прыняць пастанову, якая забараняла б камісіям любых інстанцый рабіць праверкі заводаў, устаноў без згоды гаркома.

У даверлівай размове з галоўным інжынерам Ліхач паскардзіўся на дзіўную атмасферу, якой ніколі не адчуваў на тым заводзе, што праз вуліцу.

Галубятнік не здзівіўся, яго ніколі нішто не здзіўляла.

«А ты думаў — ён пакіне цябе ў спакоі?»

«Хто?»

«Каго не выбралі».

«Цябе не выбралі, Міхаіл Юзафавіч».

«Я запасным іграком ішоў — для дэмакратыі».

«Шатохін?!»

«У яго на заводзе поўна сваякоў. Ён жа некалі рабіў тут галоўным энергетыкам. А чаму, думаеш, іграўся сюды? Свае людзі вакол».

Вунь як! Вось табе і далікатны Мікалай Свірыдавіч! А ён, Ліхач, выходзіць, наіўны ідэаліст. Цікава, хто ж яны, сваякі цяперашняга намесніка старшыні гарвыканкома? Распытваць у Галубятніка палічыў няёмкім; увогуле адносіны яго да галоўнага інжынера — як у сына да бацькі: сын можа перарасці па адукацыі, па пасадзе, але бацька застаецца бацькам.

На падазронасць Ліхач ніколі не хварэў, і цяню яе не было, верыў людзям. Гэта нярэдка падводзіла. Падвяло і тут. Размову аб сваяках Шатохіна пачаў са сваёй сакратаркай, Рэгінай Адамаўнай. Жанчына падабалася яму акуратнасцю, камунікабельнасцю і дасведчанасцю ў заводскіх справах: у першыя тыдні яго работы яна амаль гэтак жа «адукоўвала» яго, як Галубятнік. І ён давярыўся ёй. Расказваў усё, нават тое, чаго, магчыма, і не варта было ёй ведаць. Расказваў пра свае сямейныя справы, больш пра дзяцей —

Машу і Сашу. І не падумаў, што яна таксама сваячка Шатохіна, няхай і далёкая,— сястра яго свацці. Проста да слоў Галубятніка ён не думаў пра Шатохіна.

Балаціраваўся чалавек — не прайшоў. То і што? Застаўся на сваёй, не ніжэйшай, чым дырэктар, пасадзе. Прыдзірак якіх-небудзь з яго боку не было. Ды і за што? За ваду? За каналізацыю? Дык у гэтым плане ў завода больш прэтэнзій да гарадскога Савета. Праўда, ачыстныя збудаванні дапатопныя, але на заводзе ўсё дапатопнае. Ды і не зліваюць яны адпрацаванае масла ў раку — няма яе. А хіміі тут — толькі цэх афарбоўкі ды лабараторыя.

Дзіўна, чаму Галубятнік не папярэдзіў наконт Рэгіны? Няўжо і сам не знаў? Але пра гэта Ліхач не паспеў даведацца.

Рэгіна паведаміла, што сваякоў у Шатохіна зусім не поўна, перабольшыў галоўны інжынер,— усяго адзін: намеснік начальніка планава-эканамічнага аддзела Самалёў — сват яго.

Можа, пераканаўшыся, што дырэктар асабліва не ўнікае ў гэтыя справы — спытаў так, дзеля цікавасці,— Рэгіна скрыла сваё сваяцтва, а галоўнае, змоўчала наконт Зоі Іванаўны Булат, старшыні заўкома, якая таксама звязана з Мікалаем Свірыдавічам тым далёкім сваяцтвам, якое не перашкодзіла б ёй займаць прафсаюзную пасаду і тады, калі б дырэктарам выбралі Шатохіна. Таму Рэгіна і не сказала. Не прыдала значэння? Падумаеш, сваяцтва: дзесятая вада на кісялі!

Ліхач і на інжынерава паведамленне «поўна сваякоў» адрэагаваў спакойна. А сакратарка зусім заспакоіла яго. Глупства ўсё! У некаторай калгаснай брыгадзе паўвёскі сваякоў. І што? А тут адзін чалавек... ну, няхай два-тры з дзвюх тысяч... Абы працавалі сумленна. А Самалёў якраз талковы эканаміст, што цяпер вельмі важна. Ананімкі? Іх маглі напісаць зусім іншыя людзі. Развялося пісараў. Выкідаць іх трэба ў кош, гэтыя ананімкі, што ён і параіў Але Наліцкай.

Пра галоўнага, можа, упершыню падумаў трохі нядобразычліва: «Навошта старому спатрэбілася палохаць мяне?»

Драбнюсенькі эпізод, у той жа дзень забыты. Нават Дашы не расказаў пра высвятленне сваяцтва сваіх падначаленых, хоць амаль пра ўсё іншае, вартае ўвагі, расказваў, акрамя, безумоўна, таго, што звязана з ваеннымі заказамі.

Лавінай навальваліся праблемы завода і вытворчасці. Прыйшла лінія. Аб'явілі аўрал па ўстаноўцы яе. Рэканструкцыю цэлага завода, асноўнага, трэба зрабіць так, каб гэта не вельмі адбілася на выкананні плана. За што, за што, а за правал плана

дадуць па лысіне — і партыйныя органы, і міністэрства. Тым больш што ваенныя з незвычайнай аператыўнасцю змянілі сваіх «панелявозаў» і паспяшалі з асваеннем навінкі.

Спецыяльных мантажнікаў на ўстаноўку лініі атрымаць вось так, з наскоку, без уключэння ў план, немагчыма. Усё належала зрабіць сваімі сіламі. А дзе іх узяць, сілы? Рабочых і без таго не хапае. Мясцовыя бацькам сена косяць.

Галубятнік параіў адмяніць адпачынкі — усім, нават заводаўпраўленню. Праблемка. У жніўні! Паспрабуй адмяніць — звальняцца пачнуць. Адказнасць дырэктара, як у камандуючага арміі перад рашучай аперацыяй. Усё ўлічыць: і матэрыяльныя рэсурсы, і маральны дух людзей.

Вось тут у яго і адбыўся першы канфлікт з Зояй Іванаўнай. Яна рашуча выступіла супраць адмены адпачынкаў: парушэнне працоўнага заканадаўства. Правяла рашэнне на заўкоме амаль аднагалосна, адзін галоўны інжынер, член заўкома, да хрыпаты змагаўся за сваю ідэю. Ліхач у гарачай спрэчцы непаважліва адазваўся аб прафсаюзах: дзе трэба памагчы, заўкома няма, а пашкодзіць вытворчасці пад дымавой заслонай клопату пра рабочых такія дзеячы, як Булат, могуць. І нешта заўважыў — сам не помніў што — аб жаночых здольнасцях ці аб тым, што эмансіпацыя нясе не адно дабро.

Булат паскардзілася ў гарком.

Наліцкая паклікала яго.

— Што гэта ты не ладзіш з прафсаюзамі? Недаацэнкай іх ролі ставіш сябе перад рабочымі ў цяжкае становішча.

Астылы за два дні дырэктар спакойна растлумачыў сутнасць канфлікту.

Ала Уладзіславаўна згадзілася з ім: перабудова, мадэрнізацыя завода патрабуе рэвалюцыйных дзеянняў і адступленняў ад некаторых заплеснелых інструкцый.

Ліхачу варта было парадавацца падтрымцы першага сакратара гаркома. Але штосьці яму не падабалася ў яе згодзе, магчыма, адсутнасць пафасу, з якім Ала заўсёды гаварыла пра справы, яшчэ ў інстытуце, нават пра тыя праблемы, з якіх такія скептыкі, як ён, пасміхаліся. А тут пра клопат, што быў сэнсам яго жыцця, Ала гаварыла, здалося яму, без належнай увагі, бадай, абыякава,— так згаджаецца з усім кіраўнік, які ведае, што заўтра ён за гэты ўчастак ужо не будзе адказваць.

Як было здагадацца, што засяроджанай размове з ім Але Уладзіславаўне перашкаджала неадчэпная думка пра яго, як пра

адзіна магчымага бацьку свайго будучага дзіцяці. Уласна, не сама думка, а неспакой ад таго, што знікла рашучасць сказаць: «Вася, я хачу дзіця — ад цябе». Пераканала сябе, што гарком не месца для такой размовы, ці што?

— Ала Уладзіславаўна,— тут, у кабінеце, і ён станавіўся пасталаму афіцыйны.— Растлумач ты гэтай упартай жанчыне, што яна дрэнна ведае мяне. Адна ты ведаеш. Я склікаю агульны сход калектыву на заводскім двары і пастаўлю пытанне аб даверы ёй як старшыні. Можа, і не правалю, але ціск, на які яна скардзіцца, наганю. Невясёлую гадзінку перажыве прафсаюзны лідэр.

— Дагаварыцеся самі. Я вам не нянька.

— Ды не ўмею я дагаворвацца з бабамі.

— Раней ты добра ўмеў.

Васіль прыняў яе словы як жарт і характэрна, знаёма са студэнцтва, каротка рагатнуў.

— Раней умеў. Цяпер развучыўся. Даша развучыла.

«Гэта праўда — развучыла»,— падумала Ала Уладзіслаўна, і ўпершыню яе кальнула пачуццё, якога яна яшчэ не ведала,— рэўнасць да яго жонкі, якую іранічна называла «міласэрнай сястрой» і «прэснай пампушкай».

Сход ён склікаў. Праўда, не агульназаводскі мітынг, як пагражаў, а сход прадстаўнікоў прафсаюзных груп. Сход праходзіў цяжка. Але ўвогуле яго парадавала актыўнасць людзей — не маўчалі і не баяліся сказаць шчыра. Асабліва парадавала, што за адмену адпачынкаў дзеля хуткай устаноўкі лініі выступілі рабочыя асноўных цэхаў. Глуха маўчалі — ні вашым ні нашым — інжынерныя службы, людзі з заводаўпраўлення. Горача выступалі за рашэнне свайго заўкома — Зоіна рашэнне — усе падсобкі. Сапраўднай прычыны не называлі, і ён, дырэктар, не раскрываў яе, хоць добра ведаў: лабаранты, кладаўшчыкі, кантралёры, вахцёры баяліся, што прыйдзецца ім «адпачываць» у падшэфных калгасах, а іх два.

Давялося пайсці на кампраміс: адпачынкі перанесці толькі тым, хто непасрэдна заняты на дэмантажы старых станкоў і ўстаноўцы новай лініі. І, аднак, усё роўна з'явілася камісія рэспубліканскага прафсаюзнага камітэта. Прыйшлося апраўдвацца, а гэта прыніжала — не для сваёй жа выгады зрабіў. Злаваў на Зою. Магла б хоць папярэдзіць.

Спрабаваў дамовіцца з Баброўкам, які «вёў» сяло, каб менш пасылаць людзей у калгасы. Куды там! Цяжкае жніво — ішлі дажджы, палажылі багаты ўраджай.

Ліхач гэта разумеў, але выйсця не было: вырашыў, што за ўборку ў калгасах удараць мякчэй, чым за катастрафічны зрыў заводскага плана. Але, як толькі абмежаваў колькасць людзей, пасланых у калгасы,— тут жа выклікалі на бюро. Здзівіўся ўзлаванасці, з якой выступаў добры і, здавалася, разумны Піліп Баброўка і Антон Сіротка, старшыня райвыканкома, які ўсяго паўгода займаў гэтую пасаду, вырас з агранома саўгаса. Ды і галоўны ідэолаг «раздзімала мяхі» кавальскія, паддавала жару, як толькі вуголле астывала. Праўда, спачатку агонь скіравалі на сакратара парткома завода Паўла Шур'яка. А той не вельмі ўмеў адбівацца — пацеў і вінавата ўздыхаў. Тады Ліхач кінуўся абараняць яго.

— Таварышы члены бюро! І гэта вы называеце самастойнасцю, пра якую столькі шумім?

— Пра чыю вы самастойнасць?

— Пра нашу. Завода. Саўгаса, якім нядаўна кіраваў Сіротка. Хутка ты перабудаваўся, Антон.

— Эх, як узвіліся! — Чамусьці асабліва абуралася Марыля Тапыга.

— Не, вы чулі? Чулі? Ён зараз пачне чытаць палітграмату! Хлеб яму не трэба! Мяса не трэба! Няхай іншыя дбаюць.

— Па-мойму, курс партыі на тое, каб кожны адказваў за свой участак. Ды ўся логіка гаспадарання...

— Ну, вось, не казала я вам! Давайце прачытайце лекцыю нам, мы не ведаем курса гісторыі партыі.

— Мне трэба прычэпы. Заўтра вы паставіце мяне на гэты дыванчык за план завода.

— І паставім!

— Цяпер зразумела, хто разводзіць анархію. Не Шур'як, а Ліхач.

— На тое ён і Ліхач.

— Думаю, што вымова астудзіць яго, як добры душ.

— І спусціць на зямлю. Узнёсся чалавек. Да нябёсаў...

Тут не да жартаў.

А Наліцкая маўчала. Дзіўна маўчала. Зусім не ўласціва ёй такое маўчанне ў час вядзення пасяджэння; звычайна яна перапыняла прамоўцаў рэплікамі, пытаннямі, падштурхоўвала на большую рашучасць ці спыняла таго, хто перабіраў меру.

«Шкадуе мяне»,— падумаў Ліхач. Але нічыё шкадаванне яму непатрэбна! Яно абразіла б. Тым больш яе — ведаюць жа, што яны аднакурснікі.

Аднак трэба абараняцца. А то сапраўды запішуць. А чыстае месца ва ўліковай картцы трэба берагчы — вельмі непажадана, каб па ёй шкрабала пяро інструктара з-за калгаса, наперадзе — справы больш сур'ёзныя.

— Таварышы дарагія! Ды хто-небудзь з вас быў на заводзе? Бачыў, якую мадэрнізацыю мы там разгарнулі? Зробім — дэлегацыі будзеце вадзіць. Во дзе перабудова не на словах — на справе.

Прыціхлі. Утаймаваліся. Гатовы былі, бадай, закругляцца. Але Ліхач дапусціў тактычную памылку. Даўно вядома: не лезь у чужую парафію. А ён палез.

— Скажу пра калгасы. Не пра ўсе. Пра «нашы». Вывучаў я там становішча. І скажу з усёй адказнасцю... Хапае там людзей, гэта не Віцебшчына. Гаспадароў там не хапае... Асабліва ў «Прамені». Слабы прамень... Не свеціць... Не грэе.

Выклікаў агонь на сябе.

— Вы чулі? Ён і там усё вывучыў. Ён адзін ведае становішча лепш за гарком, за райвыканком... І прамень у яго не свеціць. І ніхто яго не грэе.

«А вы што — багі?» — трохі не ўскіпеў ён, але Ала падала знак — прыклала палец да вуснаў: маўчы.

Магчыма, незразумелая пазіцыя першага сакратара збіла з панталыку вопытнага Баброўку — ён сцішыўся, усё роўна як змарыўся ад запалу. А Сіротка ўпарта дамагаўся вымовы — і дырэктару, і сакратару парткома.

Наліцкая сказала кароткую, але выразную прамову аб тым, што літасці нікому не будзе — тым, хто зрывае заданне гаркома аб дапамозе калгасам. І прапанавала строга папярэдзіць Ліхача і Шур'яка. Васіль з палёгкай уздыхнуў: на гэты раз пранясло, словы няхай будуць самыя суровыя, абы без запісу. Біяграфію робяць запісы.

А на другі дзень Ала Уладзіславаўна з'явілася на заводзе знянацку. Без званка. Сама пайшла па цэхах. Здзівілася, як многа разварочана, выкінута станкоў. Усведамляла, што ад машынабудавання за час камсамольскай работы адстала, але ж не настолькі, каб не ўбачыць, што Ліхач пачаў рэканструкцыю, якую не зрабіць за тыдзень, за два. І гэта яе ўстрывожыла — за план. Спытаюць з яе — за гарадскі план. І нічым не апраўдаешся, ніякай мадэрнізацыяй, хоць усе прызнаюць неабходнасць яе. Пашкадавала, што паверыла Ліхачу на слова, не ўнікла ў аб'ёмы работы. Усю віну на яго не ўзваліш, бо, па-першае, узгадняў з ёй, а па-

другое, кожнаму, нават далёкаму ад праблем перабудовы, зразумела, што дырэктар робіць карысную справу. Але якім чынам, якімі сродкамі!

З'явілася дваістае пачуццё. А яна не любіла няпэўнасці ў сваіх думках і пачуццях, ёю заўсёды валодалі яснасць і катэгарычнасць. Або-або. А хваліць Ліхача і злаваць на яго — гэта, здавалася, не да твару кіраўніку такога рангу, як яна. Гэта яна можа дазволіць сабе толькі як жанчына. А як у жанчыны ў яе не проста раздвоенае пачуццё, а... расколатае на многія часткі, як разбітае люстра, і з кожнага кавалка выглядае яе таемная сутнасць, як дакор.

Так, агледзеўшы завод інкогніта, яна і хацела адбыць — няхай і ён паламае галаву над такім загадкавым візітам. Але з'явіліся Ліхач і Галубятнік — папярэдзілі іх; галоўны інжынер ажно задыхаўся, Ліхач знаёма вясёлы, насмешлівы.

— Нарабіла ты спалоху ў заводаўпраўленні. Рэгіна ў поце выкупалася, шукаючы свайго любімага дырэктара. Як табе падабаецца наш аўрал?

— Ён мне спадабаецца, калі ў зводцы выканання дзевяцімесячнага плана вы будзеце стаяць ну... калі не першыя, то, ва ўсякім разе, не ў апошніх радах.

— Будзем стаяць у першых.

— Самаўпэўнены ты.

Вялі яе там жа, дзе яна ўжо прайшла, і, перапыняючы адзін аднаго, бадай з захапленнем тлумачылі, што будзе пасля ўстаноўкі новай лініі. Але слухала Наліцкая няўважліва. З асуджэннем сябе, але і з прыемным хваляваннем адчувала, што ператвараецца з афіцыйнай асобы ў... бабу, у звычайную бабу (знарок, як бы помсцячы сабе за слабасць, гэтак груба і называла), і не робіць намагання вярнуцца ў пачэснае афіцыйнае званне. Яе раздражняў Галубятнік, высокі, сутулы, з сівымі неахайнымі вусамі, у зашмальцаваным берэце і ў халаце, ад якога пахла машынным маслам і гарачай стружкай. Ёй хацелася застацца адзін на адзін з Васілём. Здалося, што толькі тут, у ляскаце і грукаце, калі трэба нахіляцца да вуха адно аднаго, каб пачуць, яна магла б сказаць тыя словы, што не даюць засынаць уначы з ранейшай дзіцячай бестурботнасцю і спакойна працаваць удзень, не раздвойваючы думкі, свой усталяваны характар.

Галубятнік не адступіў ад іх, і Ала Уладзіславаўна развіталася паспешліва і холадна.

Канфлікт з Зояй — чамусьці ўсе называлі старшыню заўкома Зояй, рэдка па прозвішчы — расшыраўся. Пакуль што

расшыраўся — не паглыбляўся. Знешне здавалася, што гэтыя двое вясёлых людзей закаханы адно ў аднаго. Справы вырашаюць — як гуляюць, з жартамі, са смехам. Але пасля гісторыі з адпачынкамі ў Ліхача з'явілася здагадка, што сігнал аб яго камандзіроўцы пайшоў ад яе. А ён усё мог дараваць, толькі не ананімкі. А Зою падазрона насцярожыла яго высвятленне сваяцтва на заводзе. З якой мэтай?

І раптам адкрыты канфлікт.

Прыйшоў да дырэктара на прыём інжынер Шпілеўскі. Інжынер з непрыкметных, Ліхач нават яго не помніў добра, не давялося дагэтуль пагутарыць адзін на адзін, хоць з інжынерамі, як і з эканамістамі, ён добра пазнаёміўся ў першыя ж тыдні сваёй работы. На прыёме Шпілеўскі таксама зрабіў дзіўнае ўражанне. Бываюць людзі ціхмяныя, сарамлівыя, але гэты як бы зацюканы, спалоханы. Прасіў ён самае натуральнае, што просяць многія,— паляпшэння жыллёвых умоў. Але рабіў гэта так, быццам прасіў чагосьці недазволенага, такога, што магло яго зганьбіць. Адно толькі і растлумачыў як мае быць — што ў яго трое дзяцей, нават прасвятлеў і ажывіўся, калі пра дзяцей загаварыў.

Ліхача — пасля саромеўся — раздражняў гэты чалавек сваёй такой далёка не сучаснай прыніжанасцю. «Які ты да д'ябла інжынер, камандзір вытворчасці? Як ты размаўляеш з рабочымі?»

— Што вы маеце?

— Два пакойчыкі. У старым драўляным доме, без выгод.

— Людзі і гэтага не маюць.

— Так-то яно так,— нібыта згадзіўся інжынер і пачырванеў, здалося, гнеўна, ва ўсякім разе, Ліхач падумаў: «Не такі ты ўжо бяззубы» — і тузануў сябе: «Размаўляй з чалавекам не фармальна». І Шпілеўскі як бы пачуў змену ў настроі дырэктара.

— Гэта праўда: людзі і таго не маюць. Але ж дзеці. З імі нялёгка. Валодзьку тры годзікі...

— На чарзе вы даўно стаіце?

— Не. Усяго год.

— Цяжкі выпадак.

— Цяжкі,— згадзіўся Шпілеўскі.

— Добра. Я скажу Зоі, каб падумала, як памагчы вам.

Інжынер цяжка ўздыхнуў і — больш ні слова.

А дзён праз колькі прыйшла да Ліхача цэлая дэлегацыя — ажно чатыры работніцы, адна майстар у цэху афарбоўкі. Ад іх Васіль Васільевіч пачуў невясёлую гісторыю з жыцця Шпілеўскага. Паколькі пра гісторыю гэтую ведаў увесь завод, інжынер, відаць, быў упэўнены, што ведае і дырэктар, таму і змаўчаў пра сітуацыю,

якая склалася ў яго сям'і. Жонка, буфетчыца, піла, гуляла, здраджвала мужу адкрыта, не тоячыся. Дзеля дзяцей ён доўга цярпеў, хоць пра яе паводзіны ведаў ледзьве не ўвесь горад. Але пасля аднаго дзікага выпадку, калі яна прывяла мужчыну на кватэру, пры дзецях, Шпілеўскі падаў на развод. Папрасіў суд дзяцей пакінуць яму, суд задаволіў яго просьбу, і жонка лёгка згадзілася з гэтым — развязала сабе рукі. Але вызваліцца вызвалілася, а кватэры не пакідала, больш таго — нахабна выжывала мужа з дзецьмі.

Жанчыны і выйсце падказалі: ёсць жа кватэра, тры месяцы стаіць пустая. Але, кватэра была. Яшчэ да яго засялілі невялікі дом — на шаснаццаць кватэр, збудаваны гаспадарчым спосабам. Адна кватэра, трохпакаёвая, заставалася ў рэзерве, яму растлумачылі, што пакінулі на той выпадак, калі новы дырэктар будзе прысланы з іншага горада. З-за гэтай кватэры яму абівалі парогі, таму і Шпілеўскі раздражняў больш за жанчын, што істэрычна плакалі ў кабінеце, і за шафёра-выпрабавальніка, які хрысціў начальства трохі не мацюкамі і пагражаў паехаць у Маскву да самога Генеральнага сакратара.

Ліхач патрабаваў ад парткома і заўкома, каб далі кандыдатуру — не па-гаспадарску гэта, што кватэра пустуе. Зоя дала спіс прэтэндэнтаў — пяць чалавек з ліку тых двухсот, што стаялі на чарзе. Маўляў, гэтыя маюць найбольшае права. У прыватнай размове Булат хітра і асцярожна даводзіла, што самая пэўная кандыдатура Трыфан Самалёў, планавік: мае чалавек старэнькі, збудаваны пасля вайны, уласны дамок, а ў доме тым жанаты сын, замужняя дачка, іх дзеці, старым засталася адна ўцепленая верандачка, на якой зімой немагчыма жыць.

Васіль Васільевіч бадай ужо згадзіўся. Але калі даведаўся, што Самалёў — сват Шатохіна, даў стоп. Вырашыў сам агледзець «старэнькі дамок», ды і да астатніх першачаргавікоў паслаць сваю камісію, аб'ектыўную, якой можна паверыць.

Сумненні не ўзнікалі наконт падказкі жанчын: кватэру трэба аддаць дзецям Шпілеўскага!

Правёў узрадаваных жанчын у прыёмную і там жа прадыктаваў Рэгіне распараджэнне.

А праз пяць мінут у кабінет уляцела расчырванелая, раз'юшаная Зоя Іванаўна.

— Вы аддаяце кватэру Шпілеўскаму?

— Дзецям яго, што засталіся без маці.

— Без рашэння заўкома?

— Не сумняваюся, што заўком падтрымае мяне. Там жа гуманныя людзі.

— Не іранізіруйце. Я касцьмі лягу...

— На дарозе ў дзяцей? Зоя Іванаўна!

— Гарвыканком не выдасць ордэр Шпілеўскаму.

— Выдасць.

— Не выдасць!

— Вы так упэўнены? Я ўсялю дзяцей без ордэра. І ўсяліў.

І пайшло-паехала. Зноў камісіі. Тлумачэнні...

## *6*

Лінію ўстанавілі па-ўдарнаму, хутчэй, чым планавалі дырэктар і галоўны інжынер. Ліхач радаваўся: сур'ёзная мадэрнізацыя праведзена і план, бадай, можна яшчэ выцягнуць — да канца квартала засталося тры тыдні. Але асабліва радавалі людзі, іх энтузіязм. З такімі людзьмі можна ўсё перабудаваць. Ніякі «клопат» Зоі Іванаўны не перашкодзіў ім працаваць па дванаццаць гадзін і ў выхадныя дні. Але пасля радасці наступіла расчараванне. Лінію не здолелі пусціць. Не маглі прачытаць электроннай схемы, хоць усе інструкцыі былі на рускай мове. Нічога не зрабілі запрошаныя з завода аўтаматычных ліній наладчыкі.

Ліхач паляцеў у Маскву, прывёз спецыялістаў вышэйшага класа. Але і яны распісаліся ў сваёй бездапаможнасці.

«Во праклятыя буржуі! Недабітыя фашысты!— абураліся рабочыя.— Знарок, мабыць, зашыфравалі так, каб нашы вучоныя да сэнсу не дайшлі».

Трэба запрашаць прадстаўнікоў фірмы. Але лёгка вырашыць, а як гэта зрабіць? Ліхач зноў паляцеў у Маскву. На гэты раз ледзьве прабіўся да намесніка міністра. Той адаслаў яго да людзей, якія ажыццяўлялі закупкі абсталявання за мяжой.

Бачыў Ліхач бюракратыю ў самых розных яе праявах — грубых, утончаных, далікатных, крыклівых. Але з такой, як у «імпартным» упраўленні, не сустракаўся. Гэтых людзей нічым нельга было прабіць — ні слязамі, ні смехам. Аўтаматы. Без эмоцый. Яны літаральна футболілі яго, што мяч, з аддзела ў аддзел, з паверха на паверх, з пакоя ў пакой. Яны лёгка заключалі мільённыя кантракты на абсталяванне, якое пасля гадамі, як гэтая лінія, ляжала на складах. А капеечную справу з наладкай станкоў ніхто не хацеў вырашаць — не прадугледжана інструкцыямі.

Лінія ўстанаўлівалася столькі часу, што гарантыі фірмы скончыліся, спецыялістаў за свой кошт яна не можа паслаць. Плаціце. А для гэтага трэба валюта. Хто адважыцца даць дазвол на такую не прадугледжаную лімітамі трату валюты?! Але праблема заключалася не толькі ў валюце — у самім факце запрашэння заходнегерманскіх інжынераў. Хто запрашае? І ці можна іх увогуле запрашаць у той беларускі горад, на той завод? Патрабаваліся ўзгадненні з шматлікімі органамі і ў рэспубліцы, і ў Маскве — у міністэрствах абароны, знешняга гандлю, фінансаў, у Камітэце дзяржбяспекі і г. д., і г. д. Ліхач быў ашаломлены. Як жа тут людзі перабудоўваюцца? Новыя інструкцыі — асабліва па валюце — не пашыралі, а абмяжоўвалі правы тых, хто павінен купляць падобныя лініі. Але самае крыўднае было, што, калі такое дарагое абсталяванне разладзіцца ці сапсуецца, яго, выходзіць, трэба выкідаць у металалом. І выкідалі, як ён даведаўся,— расказалі па сакрэту тыя, чые сімпатыі яму, чалавеку камунікабельнаму, удалося заваяваць. Во дагаспадарыліся! Ганьба! Яго за камандзіроўку, за адсутнасць білета ад Масквы да Урала сем камісій правярала. А тут мільёны ляцяць, ды і не папяровыя — залатыя.

Ніводная камандзіроўка так не знясільвала. Нагнала бяссонніцу, дала нервовы цік века, чаго ніколі не ведаў.

Наладчыкаў ён нарэшце выбіў. Але, пакуль яны прыехалі, план згарэў.

— Націскай, Толя.

— Націснем у сваім раёне, Ала Уладзіславаўна. Там свая ДАІ. І так сотню трымаю. А куды вам спяшацца? Дзеці плачуць, ці што?

Наліцкая сцялася, быццам на яе замахнуліся. Узлавалася на шафёра, акуратнасцю якога захаплялася. Псуецца хлопец. Фамільярнічаць пачынае, непачцівасць выяўляе. Выходзіць, не на карысць яму жаніцьба пайшла. Рысачкі нахабнасці з'яўляюцца.

— А ты не спяшаешся да маладой жонкі?

— Спяшаюся. Але... цішэй едзеш — далей будзеш.

— Ад таго месца, куды едзеш. Што лепш: халастому жыць ці жанатаму?

— Жанатаму, канечне.

— Во як! Чым жа яно лепш? Свабоды няма.

— А якая мне свабода трэба? Мне цеплыню дай, ласку. Каб родны чалавек побач. Адзін я не знаў, да каго прытуліцца.

Ала Уладзіславаўна стоена ўздыхнула і тут жа спалохалася, што выдае свае перажыванні: павяла размову, дурніца! І зноў узлавалася на Толю: ён як бы знарок пачаў сыпаць соль на яе рану. Раней праяўляў рэдкую для хлопца тактоўнасць і паважлівасць.

Машына імчала праз асенняе поле. Пустынна, гола і... сумна. На ўсходзе згушчаўся змрок. Ала падумала, што яна спяшаецца ў ноч. А навошта? Ночы яе сталі пакутлівымі. Шафёр таксама доўга маўчаў. Нязвыкла. Ён жа быў гаваркім, ніколі не даваў драмаць. У машыне, заўсёды своечасова і да месца, пачынаў размову, часам Наліцкая здзіўлялася: як прачытаў яе думкі. Так здарылася і тут, па дарозе з абласнога цэнтра.

— Вы нейкая, Ала Уладзіславаўна,— падумаў, як найбольш далікатна выказаць: — не такая сёння.

— Чаму не такая? — бадай спалохалася яна.

— Усхваляваная... невясёлая...

— Хіба я калі-небудзь спявала ў машыне?

Толя засмяяўся, мабыць, уявіў, што першы сакратар гаркома раптам магла заспяваць.

— Не. Калі вы і маўчыце, я ўсё роўна чую, што вам весела, радасна...

І ў яе нечакана для самой вырвалася прызнанне:

— У мяне, Толя, адна радасць — работа. А працую я ад сну да сну.

— Вас крытыкавалі сёння?

— Крытыкавалі.

— Цяжкая ў вас работа.

— Нялёгкая.

Змоўклі зноў.

Ала з цяжкім пачуццём успомніла перажыты дзень. Сапраўды яе сурова крытыкавалі на бюро абкома: прамысловасць горада не выканала план. Яшчэ ў камсамоле яна прывыкла да крытыкі і навучылася ставіцца да яе, як казаў адзін рэспубліканскі кіраўнік, з «дзелавым гумарам». Але сёння ёй было крыўдна. Тыдзень назад за поспехі ў сельскай гаспадарцы раёну ўручылі пераходны сцяг. На ўрачыстым сходзе актыву гаварыліся кранальныя прамовы, іграў аркестр, выступалі піянеры. І раптам з цёплага — пад халодны душ.

«Сэрцы ў вас абраслі мохам, на пенсію вам даўно пара»,— узлавана падумала пра членаў бюро, людзей у гадах, у тым ліку і пра першага, якім да гэтага дня захаплялася. Але і на сябе злавалася — не магла дараваць слабасці. Упершыню гэта

здарылася за яе кіраўнічае жыццё. Выйшла з залы пасяджэнняў, пайшла ў туалет і расплакалася там, як дзяўчынка. Ганьба! Доўга не магла выйсці на людзі — нос чырвоны, а пудру яна, дзелавая жанчына, ніколі не насіла з сабой.

З абкома пазваніла да сябе, назначыла пасяджэнне бюро на заўтра. І цяпер, у машыне, настройвалася на яшчэ больш бязлітасную, чым гаварылі з ёй, размову з дырэктарамі, якія паставілі горад у такое ганебнае становішча.

Найбольшы правал плана — на заводзе прычэпаў у яго. О, з ім яна пагаворыць, як ні з кім! Але разам з рашучасцю апасалася, каб не страціць уладу над сабой, не выдаць гневам свае пачуцці.

А якія яны, яе пачуцці? Хацела пераканаць сябе, што ненавідзіць гэтага *ліхача.* Як ён узбунтаваў яе жыццё, як раздвоіў пачуцці, пераблытаў, пакамечыў і... топча, топча!.. Ён ганебна ўніжае яе. Прымушае ўніжацца. Штоночы. Яна грашыць з *ім.* У сне. Ах, каб толькі ў сне! І грэх такі, лічыць яна, прыніжае яе да... бог ведае каго — да разбэшчанай дзеўкі, бязвольнай, хоць не ўтаптанай у гразь яшчэ, той, што ўначы грашыць, а ўдзень каецца. А пакаянне прыніжае перад людзьмі, ёй здаецца, што гаркомаўцы здагадваюцца пра яе грэх, пасміхаюцца, і яна губляецца, траціць ранейшую ўпэўненасць, цвёрдасць, непахіснасць у вырашэнні глабальных пытанняў жыцця іншых людзей. Ці так яна вырашае, калі свайго жыцця не ўмее наладзіць?

Праўда, у апошнія дні яна знайшла маленькае суцяшэнне. Цяпер сталі выдаваць нямала сексалагічнай літаратуры. Раней яна ніколі не цікавілася ёю. Пачала чытаць спачатку з агідай, пасля з цікавасцю, не разумеючы, не адчуваючы, што гэта яшчэ больш распальвае яе пачуцці і ўскладняе перажыванні. Некаторыя аўтары лічаць, што ў тым, чым яна займаецца, няма недаравальнай заганы, на псіхіку і фізічны стан гэта не ўплывае.

Аднак галоўнае не гэта, у кожнага чалавека ёсць інтымнае. Галоўнае — як дзіця нарадзіць? Яе спальваў запознены інстынкт дзетанараджэння. Цяпер на дзіця яна гатова была памяняць сваю пасаду, на атрыманне якой патраціла столькі энергіі. Такая перамена ў псіхалогіі і радавала, і палохала: з такімі думкамі можна апынуцца каля разбітага карыта.

У бяссонныя ночы яна хадзіла ўздоўж кароткіх і доўгіх шарэнг знаёмых мужчын; каго з іх можна выбраць у бацькі дзіцяці свайго? Ці стане ён мужам — гэта не мела значэння. І нікога не магла выбраць, акрамя *яго.* Але разам з кожнай сустрэчай

раставала, як лядзяш у змрочную адлігу, упэўненасць, што калі-небудзь яна ўсё ж скажа яму пра сваё жаданне і ён пачуе — не можа не пачуць — кліч яе крыві, яе кахання, яе матчынага інстынкту.

За слабасці гэтыя ненавідзела і сябе, і... яго. Старая, як свет, сітуацыя: зліццё кахання і нянавісці ў адзін сасуд. Што пераможа — ад гэтага залежыць, што настоіцца: жыццядзейны нектар ці смяртэльная атрута.

Першым выклікалі «на кавёр» Ліхача.

Увайшоўшы ў малую залу, ён адзначыў, што і Ала, і ўсе іншыя члены бюро больш засяроджаныя, строгія, чым на мінулым пасяджэнні, калі яго пясочылі за ўборку. Падумаў: «Быццам надзелі мундзіры». Такі і надзелі. У жніўні некаторыя сядзелі ў сарочках, першы сакратар у лёгкім плацці, расслабленыя ад спякоты, добрыя ад летняга настрою. А цяпер кастрычнік. Ала ў карычневым шарсцяным касцюме, мужчыны ў гальштуках. Настрой асенні. За акном з клёна злятае залатое лісце, асфальт плошчы мокры ад нядаўняга дажджу. Палошчуцца на ветры сцягі, вывешаныя да Дня Канстытуцыі.

Наліцкая заглянула ў паперу і перад тым, як вымавіць чарговы пункт парадку дня, глынула паветра, быццам яго не хапала. Хто іншы, можа, і не заўважыў гэтага, Ліхач убачыў, у яго была незвычайная здольнасць бачыць усё ў адзін міг. Дома ён любіў гульню з Дашай, Машай і Сашам: набраць употай дзесяць розных прадметаў, накрыць салфеткай ці хусткай, потым на міг адкрыць, зноў закрыць — і назаві, што ўбачыў. Ён часта называў усе дзесяць і цешыўся, смяяўся, што трохгадовая Маша называла больш, чым яе мама.

— Дакладвайце, таварыш Ліхач.

«Ух ты, як афіцыйна!» — падумаў Васіль.

Ён разумеў, што хвалу яму не выдадуць. Хоць асабіста ён за тое, што зроблена, пахваліў бы людзей, не сябе — рабочых, інжынераў, у тым ліку нямецкіх. Але гэтага ён, вялікі рэаліст, не чакаў, аднак добра прадумаў свой даклад, насыціў яго такімі фактамі, лічбамі, развагамі, якія, здавалася яму, у атмасферы эканамічнай рэформы павінны зрабіць уражанне. Не зрабілі. Не паспеў ён, праўда, не без гумару, нарысаваць, што ўяўляла з сябе вытворчасць прычэпаў да мадэрнізацыі завода, расказаць пра вызначэнне прычэпаў у аўтаперавозках (у яго меліся даныя па

рэспубліцы, па краіне, па капіталістычных краінах), як Наліцкая перапыніла:

— Карацей можна?

— Можна. Але не будзе таго эфекту.

— У нас тут не спектаклі, і вы не акцёр.

— А я думаю, кожны кіраўнік мусіць быць трохі акцёрам.

Воблікаў спытаў:

— Іграць на публіку?

— Хутчэй — на начальства.

Баброўка засмяяўся. Наліцкая паглядзела на сакратара з асуджэннем. Кінула бадай злосна Ліхачу:

— І вы прыйшлі сюды, каб пацешыць нас? Паказаць сваю ігру?

— Не. Расказаць пра сур'ёзныя праблемы, якія хвалююць калектыў.

— Вось і расказвайце.

— А я гэта і раблю. Калі мне не перашкодзяць...

На міг Ала Уладзіславаўна адчула няёмкасць за сваю раздражнёнасць. Пры яе пасадзе так нельга, ніколі такога не дазваляла сабе. А такую строгасць і афіцыйнасць у адносінах да Ліхача могуць няправільна вытлумачыць, бо ўсе ж ведаюць, што яны аднакурснікі і заўсёды былі на ты. Не паставіць бы сябе ў становішча, калі пачынаюць сачыняць легенды, небылі.

Ліхачовы выкладкі ў сувязі з пераходам на гаспадарчы разлік і самафінансаванне зацікавілі. Граматна, доказна. Не ўсе члены бюро дайшлі да тонкіх эканамічных мудрасцей, некаторыя так даўно вучылі палітэканомію і так забыліся на яе асновы, што шмат якія далёка не новыя палажэнні, пра якія гаварыў малады дырэктар, здаваліся адкрыццямі.

Наліцкая адчула гэтую зацікаўленасць калег і занервавалася: і перапыняць не хацелася, аднак і дапусціць нельга, каб гэты гаварун заваражыў дзелавых мужчын, як некалі заварожваў студэнтак. Успамін пра Ліхачовы даўнія прыгоды чамусьці як ніколі настроіў супраць яго, да разгневанасці, быццам ён быў тады яе мужам і адна яна мела права на яго ўвагу і... каханне.

Непакоіла і яшчэ адна акалічнасць, не новая па зместу, але новая па адчуванні, якое засталося з ночы. Яна зноў сніла дзіця, яно смактала яе грудзі. Але ніякага болю не з'явілася, жыло цэлы дзень адчуванне прыемнага раздражнення, ад чаго хацелася памасіраваць грудзі. І яна баялася, што забудзецца і зробіць гэта перад членамі бюро, мужчынамі. Сядзела ў незвычайнай напружанасці, шмат што з таго, аб чым гаварыў Ліхач,

прапускала. Думала, што ёй не варта заходзіць у радзільны дом. Што яе пацягнула туды, трэці раз? Праўда, яе наведванні навялі добры парадак, не толькі ў раддоме, але і ў бальніцы, у паліклініках. Пра яе ўвагу медустановам і гандлю хадзілі легенды. Да школ не хапае часу дабрацца, верасень з'елі сельскія справы.

— Вы што, Ліхач, намераны прачытаць нам даклад?

— А хіба не цікава членам бюро паслухаць аб праблемах буйнейшага ў горадзе калектыву?

— Членам бюро цікава паслухаць, што з планам.

— Што з планам — вы ведаеце. З-за плана я і стаю тут.

— Як вы збіраецеся выканаць яго — во што нас цікавіць.

— Пастараемся выканаць, калі... лінія не падвядзе.

— Лінія, лінія! Прамая? Крывая? На старых станках завод даваў план! — узлавалася Наліцкая.

— Што ж, па-вашаму, трэба было заставацца ў мінулым стагоддзі?

— Не іранізуйце, Ліхач. Але не стаўце нас у залежнасць ад буржуазных спецаў. Колькі яны ў вас будуць корпацца?

— Немцы не бралі сацабавязацельстваў.

— Ну, знаеце! Жартуйце, але ведайце дзе і з чым! — абурылася Марыля Тапыга.

— Ім добрыя камандзіровачныя плацяць. Чаго ім спяшацца? — пасміхнуўся Воблікаў.

— І каньяк прадаём. Ікру... Хто з нас есць ікру? А яны па кілаграму бяруць. Бюргеры! — зноў абурылася ідыёлаг.— У рэстаране зрабілі агульны парадак: нікому спіртнога не падаваць — ні сваім, ні чужым. З Мінгандлю ўказанне: немцам даваць.

— Вы, Ліхач, пастараліся?

— Я пастараўся. Няхай ведаюць нашу гасціннасць.

— Няхай ведаюць гасціннасць сынкі тых, што тапталі нашу зямлю! — ажно расчырванелася Марыя.

— А вы разам з імі не дэгустуеце каньяк? Не прыкладваецеся? — з брыдзенькім смяшком спытаў Шатохін.

Калі ўвесь нечаканы дыялог Васіль Васільевіч прымаў з пэўнай доляй гумару, то за гэтае пытанне ўзлаваўся: яўная правакацыя!

— Уявіце, Шатохін,— не прыкладваюся! Вам цяжка ўявіць?

За намеснікам старшыні меўся грэх, пра гэта ўсе ведалі. Таму ён узлавана запунсавеў.

Наліцкая добра ведала Ліхачоў характар: узлуецца — літасці не дасць самому пану богу. А гэта не на карысць будзе яму ж. Узлуюцца людзі, калі ён пачне вось так шпіляць іх. Ёй хацелася

іграць ролю добрага педагога: і пакараць, і пашкадаваць. Спытала памяркоўна, без раздражнёнасці:

— Ды што будзем рабіць з планам, Васіль Васільевіч?

— Не выканаем у гэтым годзе — перавыканаем у наступным.

Што ён гаворыць? Якая бяздумная бесклапотнасць! Не, такога шкадаваць нельга! Яе на бюро абкома не шкадавалі, не паглядзелі на прыналежнасць да слабога полу.

Знікла жанчына, зніклі ўсе жаночыя думкі і адчуванні, застаўся кіруючы работнік — той, строгі, прынцыповы, якім яна заўсёды была, калі не дазваляла сабе ніякай расслабленасці і не шкадавала для справы ні сіл, ні асабістых радасцей.

— Хто жадае выступіць?

Першы адгукнуўся Баброўка.

— Канечне, таварыш Ліхач нямала зрабіў для перабудовы...

Наліцкая асекла яго, здзіўлена і бадай узлавана.

— Якой перабудовы? Да перабудовы — як да неба,— спахапілася, што залішне абагульніла, удакладніла: — Дырэктару прычэпаў...

Паднялася і пачала гаварыць энергічна, рашуча. У запале і злосці дагаварылася да таго, што дзеянні Ліхача па мадэрнізацыі завода — без карэкціроўкі плана — назвала анархічнымі і нават авантурыстычнымі.

Васіль знаёма рагатнуў.

— Ну, сячэш ты, Ала,— трэскі ляцяць. То растлумач: што ж такое перабудова? Рэвалюцыйная!

Яго фамільярнасць яшчэ больш разгневала першага сакратара, але — як бы знясіліла, збіла з пафаснай хвалі. Зрэзала час на завяршэнне характарыстыкі дзейнняў дырэктара. Села і, забыўшыся, пагладзіла-такі грудзі, але прысутныя падумалі, што ў яе забалела сэрца, і паспачувалі: такая маладая! во да чаго даводзіць партыйная работа!

— Якія прапановы? — спытала аслабелым голасам.

— Запісаць! — каротка прапанавала Тапыга, не без злараднасці хітра нагадваючы, што ў мінулы раз — за ўборку — не запісалі з-за ліберальнасці Наліцкай. Марыя, маючы вопыт, не верыла, што ў былых аднакурснікаў чысценькія платанічныя адносіны — не той мужчына Ліхач, сама на яго заглядалася, і да свербу хацелася развянчаць «Алаччыну святасць», злавіць іх хоць на пераглядванні.

Запісалі. Супраць прагаласаваў Баброўка, здзівіўшы і збянтэжыўшы Наліцкую: другі сакратар звычайна не скупіўся на спагнанні.

Ліхач абурыўся:

— Буцу скардзіцца. У абком. У ЦК.

— Ваша права,— адказала Ала Уладзіславаўна, знешне быццам абыякава, а ўнутрана — і са злосцю на яго, і са страхам, з адчуваннем незадаволенасці сабой. «Не тое. Не так. Не тое я думаю. Не так раблю. Мяне нясе стыхія. Не паддавацца ніякім пачуццям. Не паддавацца».

А Воблікава Ліхачова пагроза чамусьці абурыла. Ён ажно падскочыў.

— Вы падумайце! Ён нас яшчэ палохае! Бюро гаркома палохае! Мала мы табе запісалі, Ліхач! Мала! Страгача трэба! Страгача!

— Запішуць і вам, Міхаіл Паўлавіч. Не хвалюйцеся.

— Які нахабнік! Які нахабнік! — прадаўжаў абурацца старшыня гарвыканкома, калі за Ліхачом зачыніліся дзверы.

Астатнія члены бюро маўчалі — вочы ў паперы, «вывучалі» даўно вядомыя пункты парадку дня.

## 7

— Надзеў ты на сябе, Вася, хамут.

— Дашок! Няўжо ты хочаш, каб я ўсё жыццё гіры вырабляў?

— Чаму ты прыніжаеш сябе і завод? Не гіры ж там робяць.

— Абсталяванне. Гандлёвае. Пячэрныя людзі больш складаныя вагі мелі. Я, дарагая мая жонка, запраграмаваны на вялікія справы. Праз пяцёрку гадоў я займу пасаду генеральнага дырэктара МАЗа ці БелАЗа. Стаў высокія мэты!..

— Ну і хвалько! Як Машка.

— А што! Яна — у мяне. Лідэр у групе, у садзіку.

— Ды ўжо ж лідэр! Выхавацелька плача ад яе лідэрства.

— Фармалістка яна атлусцелая, твая выхавацелька, якую такія мамы, як ты, шакаладкамі перакармілі. Што ёй хочацца — каб дзеці толькі адно і ведалі: за ручкі ўзяўшыся, па кругу хадзілі. Я Машку навучу...

— Не рабі глупства. А чаму яна ўз'елася на цябе?

— Хто? Ала? Гэта не «ўз'елася», Даша. Гэта больш складана. Ведаеш, у чым яе трагедыя? У трыццаць шэсць гадоў яна старая... састарэлая, зацвілая... У яе мысленне старое. Выбіць план любой цаной — для яе вяршыня кіраўніцтва. Я так і напісаў сакратару абкома...

— А па-мойму, яна не можа дараваць, што ты не ажаніўся з ёй.

Васіль засмяяўся.

— Бабскае ў цябе ў галаве. З ёй немагчыма было ажаніцца. Не, яна не з тых, каго некалі называлі «сіняй панчохай». Яна горш. Пры жаноцкай знешнасці, пры ўменні прыгожа адзецца ў яе нейкая генеральская псіхалогія. Ты знаеш, гэта нават кар'ерызмам не назавеш. Яе задавальняе толькі адно: каб усе маршыравалі. І сама таксама. Але каб яна наперадзе. І з шабляй на плячы. Аць-два. Аць-два.

— Прызнайся. Цалаваўся ты з ёй... у інстытуце?

— Хацеў адзін раз пацалаваць. Але яна крутнулася. Разбіла акуляры. І назвала мяне дурнем. Гэтага я не мог дараваць. Хіба дурні такія?

— Ды ўжо ж. У дурняў такога спрыту няма. З кім ты толькі не цалаваўся?

— Не заводзь сваю рэўнасць.

— Каб я цябе не раскусіла, то ў мяне даўно палопаліся б усе завадныя спружыны.

— Разумная жонка ў мяне.

— Не падхалімнічай. Я табе вымовы не запішу.

— Ты можаш запісваць кожны дзень. Горш, калі гарком запісвае. Дарэчы, пра Наліцкую. Забыўся табе расказаць. Пазаўчора адплаціў ёй. Нагнаў чырвані на яе шчокі і вушы.

— Зноў адмачыў якое-небудзь глупства?

— Ну, вось і ты туды ж мяне залічваеш — у дурні. Паміж глупствам і жартам істотная розніца, мой верны таварыш. Запомні. Ала праводзіла эканамічныя заняткі. З дырэктарамі, кіраўнікамі ўстаноў, якім належыць перайсці на гаспадарчы разлік. Падрыхтавалася яна грунтоўна, працуе яна заўсёды сур'ёзна. Але, ведаеш, калі чалавек свабодна не валодае прадметам, калі вывучыў чужое, то, якім бы ён ні быў прамоўцам, выкладаць чужыя думкі будзе сумна. Карацей кажучы, напала на мяне пазяханне. Ведаеш жа, ёсць у мяне такі грэх.

— Ты вырашыў так адплаціць?

— Ды не ж, далібог, не падумаў. Проста само. Пазяхаю — хоць засні. На каго іншага Ала, можа, не звярнула б увагу. А маё пазяханне, канечне, зачапіла за жывое. «Вы чаму пазяхаеце, Ліхач? Не цікава?» А я падняўся, як школьнік, прыкінуўся вінаватым. «Прабачце, Ала Уладзіслаўна, але ў нас кажуць: хто зявае ўдзень, той не зяваў уначы».

Цяпер засмяялася Даша.

— Ох, і язык у цябе. Ох, і язык! Урэжуць яго табе.

— А зубы навошта? Язык за зубамі... Аўдыторыя зарагатала. А Ала ўспыхнула полымем. І вочы яе сыпанулі такія іскры, як на аўтазварцы. А потым яна раптам дзіўна змянілася. Знаеш, як ты з Машкай: ад узлаванасці раптам пераходзіш да пяшчоты. Наблізілася, палажыла ўказку мне на галаву. І на *ты*, па-студэнцку: «У тваёй галаве што іншае ёсць?» — «Ёсць,— кажу.— Як выканаць план». Дырэктар «Электрона» Асецкі віскнуў па-бабску: «Ну, і Ліхач! Ну, і хахмач!» Ала зноў пачырванела і адвярнулася да схем.

Даша на апошнія словы не зрэагавала. Васіль змоўк, прыслухаўся да стоенага жончынага дыхання. Штосьці ёй не падабалася. Ці штосьці устрывожыла. Што?

— Чаму ты змоўкла?

— А хіба я гаварыла?

— Мы размаўляем.

— Думаю. Што так адразу змяніла яе настрой. Да пяшчоты.

— Якой пяшчоты! Пяшчота ў цябе — да Машулі. Не тое параўнанне я ўжыў. Выкінь ты з галавы дурную падазронасць.

— Якую? Да каго? Калі ты яе бачыў? — Даша павярнулася на бок тварам да мужа, гарачае яе дыханне прыемна ўсхвалявала.— А я сёння таксама пасмяялася. Ты здзівішся — з каго. Чытаючы сур'ёзную газету. «За рубежом». Апыталі бельгійскіх жанчын: на які занятак колькі часу яны трацяць. На кухню. На тэлевізар. На размовы... А на тое, пра што звычайна не гавораць? Адгадай, што адказала большасць?

— Ну?

— Дзве-тры мінуты.

Васіль гучна зарагатаў.

— Цішэй ты. Дзяцей разбудзіш. У нас з табой не так? Праўда?

Даша горача абняла яго, соладка пацягнулася і заціснула вуснамі яго вусны — няхай не смяецца.

## *8*

Сабраўся выканком гарадскога Савета.

Воблікаў любіў пашыраныя пасяджэнні, не келейныя, і цяпер хваліўся: маўляў, у яго заўсёды была галоснасць, ніякіх сакрэтаў ад грамадскасці. Мала хто сядзеў у калідоры, чакаючы свайго пытання.

Прысутнічала, як заўсёды, Наліцкая, лічыла, што ў яе багаты вопыт савецкай работы. А на гэты раз да таго ж цэнтральнае пытанне ў парадку дня прапанавана ёю: аб падрыхтоўцы гаспадаркі да зімы. Яна асабіста праверыла некаторыя службы і забіла трывогу, хоць бацькі горада пераконвалі, што ўсё добра і ёсць час да маразоў падцягнуць слабыя мясціны.

Настроена Ала Уладзіславаўна была ваяўніча. Перад пасяджэннем добра распякла Воблікава, загадчыка аддзела харчгандлю Сака, намесніка начальніка міліцыі Мігуна за... рэцыдыў ганебнай з'явы. Гуляла ў мінулую нядзелю па вуліцы, было каталіцкае свята — Барбары ці Міколы? — і на цэнтральнай вуліцы ёй сустракаліся не адзіночныя падвыпіўшыя, а цэлыя кампаніі залішне вясёлых людзей. Жанчыны, якія лічылі сябе набожнымі каталічкамі, заводзілі песні, ледзьве не «Шумел камыш».

Наліцкую даўно абурала пазіцыя старшыні выканкома: Воблікаў адносіўся да выпівак паблажліва, са смяшкамі.

— Ад рэлігіі колькі гадоў адвучваем? А ў касцёл цягнуцца не толькі бабулі.

— Бо і антырэлігійную кампанію мы вялі гэтак жа, як зараз вядзём антыалкагольную.

— Гэта праўда, змагаліся з іконамі — выкідвалі на сметнік, а цяпер збіраем у фонд культуры.

— Не іранізуйце, Міхаіл Паўлавіч. Пляшкі збіраць не будзем.— І да Сака: — Дадзіце даныя аб рэалізацыі гарэлкі ў суботу. Калі ён перавысіў дзённы ліміт, майце на ўвазе... размова будзе сур'ёзная. Не ўздумайце ліпу падсоўваць.

— У банку грошай няма. Хутка зарплату людзям не дамо.

— Развівайце паслугі.

— Развіваем па-слугі,— яўна блазнаваў Воблікаў.— Але з чым служыць, каб грошы ў банк вярнуць?

Ала Уладзіславаўна кіпела, але ўмела стрымліваць сваю выбуховую энергію — перад Воблікавым заўсёды: сівы чалавек, равеснік яе бацькі. Не магла не ацаніць яго вопыту. Але неаднойчы ўжо думала: «Здзекуецца, чортаў дзед, з маёй маладосці. Трэба развітвацца з такім паплечнікам. Не па плячы».

Перанесла агонь на міліцыю:

— А наша доблесная міліцыя...

Мігун, поўны, чырванатвары маёр, па ўсім відаць, не дурань выпіць і закусіць, падскочыў, «рукі па швах», што таксама не падабалася: на здзек не падобна, але навошта такое выцягванне перад сакратаром гаркома? Не генерал жа яна.

— Колькі вы чалавек затрымалі ў той вечар?

— Дваіх.

— Дваіх! Ордэны вам трэба выдаць за такі подзвіг. Паўгорада п'яных...

— П'яныя для вас не *ЧП?*

— У нас культурныя людзі, Ала Уладзіславаўна,— зноў падпусціў іронію Воблікаў.— Мы зарплату без касіраў выплачвалі. Яшчэ трохі — і ў магазінах касіраў адмянілі б.

— П'яны для вас не *ЧП*?

— Улічым.

— Трэба не ўлічваць, а працаваць па-новаму, як патрабуе перабудова.

— Рады старацца.

— А з вашай іроніяй, Міхал Паўлавіч...— Наліцкая зморшчылася што ад зубнога болю: з кім прыходзіцца рабіць круты пералом! Адзін — нігіліст, скептык, другі — бяздумны аўтамат. Не хацелася ўжываць больш важкага слова — не дазваляла становішча. Але «завяла» яе не паслухмянасць

міліцыянера, не проста гумар старшыні, а яго яўна хітрая, з падвохам, прапанова:

— А вы, Ала Уладзіславаўна, на выканкоме выкажыце сваю думку актыву... Няхай паслухаюць.

Зноў, бадай, здзекаваўся, бо добра ведаў, што ў кожнай сваёй прамове перад любой аўдыторыяй яна не прамінала, каб не сказаць, горача, пафасна, пра барацьбу з «зялёным змеем».

...Заняўшы сваё старшынскае месца ў тарцы доўгага стала, за якім сядзелі члены выканкома, Воблікаў весела агледзеў залу — сваіх супрацоўнікаў, запрошаных. Спыніў позірк на Булат.

— Зоя Іванаўна, дзе Ліхач?

— Катэгарычна адмовіўся паехаць. Сказаў, што ў гэтым пытанні для яго няма пытання.

Калі да папрокаў Наліцкай за нядзельных п'яных Воблікаў аднёсся з іроніяй, то адсутнасць Ліхача, ды яшчэ такая яго заява, абурыла. Добры месяц супраць Ліхача яго настройвалі — Шатохін, Булат, загадчык жыллёвага аддзела Лежань. З-за кватэры Шпілеўскаму. Спачатку ён адмахваўся. Але яго пераканалі, што развод у Шпілеўскіх фіктыўны — абы вырваць кватэру. Маці, якую суд пазбавіў права на дзяцей, ходзіць да іх і — бачылі — даволі мірна размаўляе з былым мужам. Ордэр Шпілеўскаму не выдалі, перадалі справу ў суд на яго высяленне. І суд пастанавіў: выселіць. Але зноў умяшаўся Ліхач: у Мінску зайшоў да пракурора рэспублікі і апратэставаў рашэнне суда. Праўда, пракурор не вынес афіцыйнага пратэсту, а пазваніў Воблікаву і параіў выдаць ордэр. Але ўсё роўна — «пстрычка па носе». Зайгралі амбіцыі і ў Воблікава. А Шатохін, Булат і Лежань падлівалі масла ў агонь. Прызналі сваю памылку ў адным — што не правялі рашэння аб высяленні праз выканком. Папраўляліся — уключылі пытанне ў парадак чарговага пасяджэння. Не сумняваліся, што прапанова кіраўніцтва будзе ўхвалена, калі не аднагалосна, то абсалютнай большасцю. Няхай пракурор апратэстуе рашэнне калегіяльнага савецкага органа! Але прыйшлі да агульнай думкі, што на пасяджэнні абавязкова павінен прысутнічаць дырэктар, які адзінаўладна, без прафсаюза, без грамадскасці выдаў кватэру. Няхай пабачыць аднадушнасць членаў выканкома, павучыцца дэмакратыі, можа, працверазее. Але Ліхач другі раз не з'явіўся на пасяджэнне.

Воблікаў выказаў сваё абурэнне, звяртаючыся да першага сакратара:

— Ала Уладзіславаўна! Што ў нас робіцца? Ліхач проста ігнаруе Савет. Уявіў сябе пупам зямлі, шышкай... Думае, што калі дэмакратыя, то ўсё яму дазволена. Можна не выканаць план, можна не з'яўляцца на пасяджэнні. Да чаго такая ўсёдазволенасць нас давядзе?

Наліцкай здалося, што гэта папрок і ёй: маўляў, з-за яе патурання, з-за яе асобых адносін да Ліхача, якія праніклівы старшыня мог угледзець — у такога зубра вока набітае,— ён вось так ігнаруе ўсіх, не лічыцца ні з кім, ні з якімі мясцовымі ўладамі. З'явілася злосць і на Воблікава, і на «мілага друга».

— А што вы апялюеце да мяне? У Савецкай улады няма ўлады? Дастаўце яго сюды.

— Даставіць? — сумеўся старшыня выканкома.

І яна рашуча загадала:

— Шатохін! Мігун!

Мігун падхапіўся.

— Слухаюся.

— Зрабіце ласку дырэктару завода прычэпаў. Дастаўце яго на пасяджэнне выканкома пад ганаровым эскортам.

— Ёсць даставіць! — маёр стукнуў абцасамі.

Шатохін падняўся нехаця, паглядам просячы ў свайго старшыні пазбаўлення ад незвычайнай місіі. Але Воблікаў не глядзеў на яго, ён, здавалася, з захапленнем ці здзіўленнем разглядваў Наліцкую, адкрыўшы новую яе якасць. Больш таго, ён, стары ліс, бадай, узрадаваўся, бо разумеў, што на такой акцыі можна паслізнуцца, як на апельсінавай корцы.

У калідоры Шатохін незадаволена сказаў Мігуну:

— У цябе — служба... А мне на чорта такое заданне? — не ўспомніў, што сам першы заварыў гэтую кашу з-за кватэры, якую Ліхач выхапіў у яго свата, а значыцца, і ў яго дачкі; на сямейнай нарадзе былі разыграны ўсе хады, як на шахматнай дошцы,— усе замены, у выніку якіх і старыя, і маладыя ўладзяцца найлепшым чынам, а ён, намеснік старшыні выканкома, застанецца чысценькім, бо цяпер не той час, каб памагаць блізкім адкрыта. Ды і раней ён груба не дзейнічаў — заўсёды далікатна, тонка, не так, як іншыя яго калегі. Уладай трэба ўмець карыстацца.

Рэгіна сказала, што Васіль Васільевіч паехаў у вёску — праведаць хворага бацьку.

Шатохін узрадаваўся, гатовы вяртацца назад.

Мігун таксама ўзрадаваўся, але зусім па іншай прычыне. У яго ажно ноздры раздзьмуліся, як у таго ганчака, што ўчуяў здабычу. Заглядваў ён неяк з Ліхачом да яго бацькі, да пастановы яшчэ. Стары выставіў, можа, дзесяць настоек на розных травах, карэнні, ягадах. Такі спакуслівы ласунак — адна адной смачней. Ды яшчэ ў адмысловых замежных пляшках, безумоўна, прывезеных сынам. Ад выгляду адных пляшак — слінкі цяклі. Начаставаліся яны тады — праз два гады прыемна ўспомніць. І цяпер, як кажуць, на ўсе сто Мігун быў упэўнены, што прыкладзецца ў роднай хаце Ліхач да якой-небудзь траўнічкі, напэўна, у старога чарадзея ёсць і такія, што паху не даюць; не паедзе ж ён ад бацькі і маці не паабедаўшы. Знарок паехаў да абеду, а цяпер ужо чацвёртая гадзіна, сакратарка сказала, што паабяцаў вярнуцца пад канец змены. А змена вунь яна — ідуць рабочыя! Во ўдача дык удача! Сама лезе ў рукі. Толькі б правільна паставіць капкан! Во будзе падаруначак Наліцкай, якая бязлітасна карае членаў партыі за адзін учуты душок.

Адным словам, Мігуну, не ў прыклад Шатохіну, не тое што не хацелася вяртацца на пасяджэнне, але ён гатовы быў хоць да раніцы сядзець у засадзе ў дырэктарскім кабінеце, абы не ўпусціць здабычу. Ён выказаў сваю здагадку Шатохіну. І план: прывесці Ліхача на выканком цёпленькага. Шатохін зморшчыўся — непрыемна, самі не бязгрэшныя,— але змаўчаў, бо ў цэлым план спадабаўся, «спусціць» Ліхача яму хацелася мацней, чым Мігуну.

Рэгіна адчыніла кабінет: не могуць жа такія паважаныя госці сядзець у прыёмнай, і «паляўнічыя» размясціліся з камфортам. Знайшлі на падаконніку дарожныя шахматы, селі гуляць.

Аднаго ў шчырай размове Мігун не растлумачыў старому сябру — па якой прычыне ў яго такая службовая стараннасць. Але Шатохін здагадаўся сам.

Два месяцы хварэе начальнік міліцыі, ляжыць у шпіталі, і ўсе супрацоўнікі, не гаворачы на гэтую тэму, ведаюць, што ў палкоўніка Пацеркі тая хвароба, пра якую ў некралогах пішуць «пасля цяжкай і працяглай». Пры такой сітуацыі Мігун спаў і бачыў сябе начальнікам міліцыі. А за кар'еру ён гатовы бацьку роднага прадаць, не тое што нейкага Ліхача. Напляваць яму, што яны некалі разам ездзілі на паляванне. Змяніўся час, абставіны — змяніліся і людзі. Ты вунь не пасаромеўся сам выставіць сваю кандыдатуру на дырэктара буйнейшага ў горадзе завода. А я — што? Горшы? Хочаш, каб я, стары служака, выцягваўся перад нейкім маладым фендрыкам? Многа іх цяпер такіх скакуноў, што

дарастаюць да палкоўнікаў у трыццаць гадоў! Прышлюць такога — і будзе ён цябе ганяць, што ардынарца. Пацерка хоць чалавек быў. Каго няма, тыя ўсе добрыя былі.

Мігун добра ведаў кадравую палітыку — ад каго будзе залежаць яго назначэнне. Ад гаркома — у першую чаргу. Вось таму трэба паказаць Наліцкай сваю стараннасць і ўменне, загладзіць усе прамашкі.

Рэгіна адарвала іх ад шахмат:

— Прыехаў.

Мігун, падцягнуўшы пры жанчыне штаны, кінуўшы Шатохіну «хвіліначку», пайшоў у туалет — аблягчыцца перад адказнай і, магчыма, зацяжной аперацыяй, калі і адлучыцца не будзе як.

Рэгіна па-сваяцку даверліва сказала Шатохіну:

— Дзядзя Коля, дырэктар сюды не прыйдзе. Я адкрыю вам нашу маленькую тайну. Васіль Васільевіч так не любіць камісій, што зрабіў сігналізацыю... Над акном кабінета лямпачка... бачыце, гарыць?.. Я ўключаю, калі яго хтось чакае тут. А потым ён звоніць па ўнутраным сюды, у кабінет, і я дакладваю — хто. Зараз пазвоніць...

Сапраўды зазваніў тэлефонны апарат. Рэгіна падняла трубку, каротка паведаміла:

— З гарвыканкома. Зразумела,— паклала трубку, перадала дзядзьку: — Сказаў: яго няма. З такімі гасцямі сустракацца не жадае.

— Стрэнецца.

— Калі яго не будзе ў механічным цэху, загляніце ў гараж, у бокс, дзе легкавая стаіць. Там у яго кабінет — вынаходніцкі. Чарцёжная. Ён там з шафёрамі нейкі новы прычэп канструюе.

Атрымаўшы ў калідоры ад Шатохіна ўсю інфармацыю, што перадала сакратарка, Мігун пошук дырэктара ў цэхах выключыў з аперацыі, адразу накіраваўся ў гараж, у яго быў добра развіты нюх сышчыка.

Вароты ў гараж зачыненыя. Але праз шчыліны прабівалася яркае святло.

Мігун стукнуў кулаком раз, другі.

— Ліхач! Адчыняй! Мы ж ведаем, што ты тут. Сакратарка сказала.

Шатохін у думках вылаяўся: навошта, дурань, выдае Рэгіну, ёй працаваць з дырэктарам.

Ліхач адчыніў не адразу, чым умацаваў Мігунову здагадку, ведаў міліцыянер, чаму зачыняюцца ў гаражах, сам неаднойчы зачыняўся.

Нарэшце ляпнула засоўка.

Перад імі стаяў Ліхач, весела ўсміхаючыся, быццам разыграў іх. Адзеты ў кажушковую душагрэйку, але без шапкі, у руках трымаў рэйсшыну і каранддаш.

Машыны ў гаражы не было. Прасторны бокс сапраўды нагадваў чарцёжную. На сценах фатаграфіі аўтамабіляў і прычэпаў, незнаёмых мадэляў, на доўгай паліцы — лялечныя макеты гэтых жа машын. У левым куце — адкідны чарцёжны стол, да дошкі прышпілены кнопкамі ліст ватману з першымі лініямі будучага чарцяжа.

Але гэта ўбачыў Шатохін, ён павітаўся з Ліхачом за руку і спыніўся ў варотах. Мігун, не павітаўшыся, імкліва прайшоў у глыбіню памяшкання, бо ўбачыў не макеты, не чарцёж, а тумбачку ў другім куце і на тумбачцы пляшку «Сталічнай», напалавіну выпітую. У спрытнага дэтэктыва ажно вочы загарэліся. Во ўдача дык удача! Рэчавы доказ. Дурань, не паспеў і схаваць. Аднак няўжо п'е без закусі? Алкаголік! Такіх Мігун зневажаў.

— А гэта мы прыхопім з сабой.

— Давай, давай,— весела адгукнуўся Ліхач.— Толькі ж мала табе будзе аднаму. Табе вядро трэба, як добраму каню.

— Пажартуем пасля,— буркнуў Мігун.

Ліхач адвярнуўся ад Шатохіна, і той у адзін міг знік, што праз зямлю праваліўся: учуяў чалавек, што ў місіі іх з-за стараннасці міліцыянера запахла смажаным. А наліха яму ўлазіць у брудную гісторыю! Далей ад яе!

— Мікалай Свірыдавіч, засведчыў Коля! Дзе ты?

Мігун вярнуўся да варот, выглянуў на двор.

— Дзе ён? Куды знік?

— На неба ўзнёсся,— засмяяўся Ліхач, убачыўшы ў руках маёра пляшку: яна, пляшка, дала разгадку, чаму спалохаўся намеснік старшыні выканкома.

Аднак чаму мільтон так разышоўся? Вылаяўся на Шатохіна:

— Чыстаплюй! З такім у разведку не пойдзеш,— і да гаспадара:
— Збірайцеся, Ліхач, паедзем.

— Куды? — тое, што былы сябра па паляванні і па застоллі раптам на «вы», насцярожыла, але і заінтрыгавала яго, аматара прыгод, мастака на жарты і розыгрышы.

— Там убачыш — куды.

— Андрэй, не тлумі галаву.

— Я магу быць вам Андрэем на адпачынку, а тут я пры выкананні службовых абавязкаў. Не забывайце.

— Дурны ты службіст.

— За абразу... Во курва, Шатохін, уцёк, мог бы пасведчыць. Загадваю: паехалі! Інакш паклічу панятых — вашых рабочых!

Ліхач глядзеў шырока расплюшчанымі вачамі на чалавека, якога добра ведаў і лічыў нармальным — умеў пагуляць, пажартаваць. Глядзеў спачатку няўцямна — што сталася з чалавекам? — пасля з разуменнем. Але, дайшло — хто перад ім. Чалавек, якому нельга служыць у органах, бо ён п'янее ад улады над людзьмі.

«Цяпер ён на мне праяўляе гэтую ўладу. Але дзеля чаго? Даказаць, што я выпіваю? Дык разам выпівалі. Хто яго паслаў? Воблікаў? Ала? Разумная ж баба...»

— Паехалі.

З дурнем лепш не задзірацца, а то яшчэ праўда наробіць шуму, з агульнага гаража, што за сцяной, прыбягуць шафёры і ўбачаць гэтую злашчасную бутэльку ў яго ў руках. «Што там Павел пакінуў? Няўжо гарэлку? Як я не звярнуў увагі на яе?»

Зачыняючы вароты бокса, сказаў Мігуну:

— Бутэльку схавай.

Той зрабіў ласку.

— Схаваю,— і сунуў пляшку ў кішэню штаноў.

«Канарэйка» стаяла каля пад'езда заводакіраўніцтва. Ліхач адразу юркнуў на задняе сядзенне — не хацелася ўсё ж, каб свае варажылі: куды дырэктар паехаў на міліцэйскай машыне?

Мігун перад тым як сесці ў машыну — дзверцы яму адчыніў шафёр,— дастаў бутэльку, паказаў яе ўсім вокнам, пасля акуратна паставіў на сядзенне.

«Во свіння! Пачакай жа, я зараз нагадаю пра тваю «святасць». Шафёр усё роўна знае пра твае прыгоды».

Машына кранулася з месца.

— Куды, Андрэй Сямёнавіч? — спытаў шафёр.

— У цэнтр.

— А помніш, Андрэй, як ты паддаў у ляснічага пасля таго, як упалявалі дзіка? Так паддаў, што пачаў хапаць лесьнічыху за каленкі. А ляснічы ўгледзеў гэта і надзеў табе на галаву міску з капустай. Ты — за пісталет... Ледзь я развёў вас...

Шафёр, малады хлопец, заліўся пісклявым смехам, адкінуўшы галаву на сядзенне.

У Мігуна карак наліўся крывёю. Ніколі яшчэ ніхто гэтак не падрываў яго аўтарытэт перад падначаленымі.

— На дарогу глядзі! — злосна кінуў ён шафёру.— Задраў галаву! Развесіў вушы!

У той міг ці, можа, раней яшчэ, ва ўсякім разе, не пазней, змяніў ён план дзеяння. Прывезці Ліхача на выканком і выставіць на стол недапітую бутэльку — не, неразумна. Не стане ж яго Наліцкая нюхаць, калі ён адмовіць. Дакуменцік, дакуменцік трэба! Мед- заключэнне. Вось тады не адкруціцца.

— У паліклініку.

— У якую?

— У тую. Не ведаеш — у якую!

Ліхач зразумеў, з якой мэтай вязе яго «сябра» ў паліклініку. Абурыўся. Але, паколькі баяцца яму няма чаго, вырашыў блазнаваць, каб давесці дзікую задуму міліцыянера да абсурду і выставіць яго дурнем.

Урач, флегматычны, барадаты мужчына, ведаў добра і міліцэйскага начальніка, і дырэктара завода і на патрабаванне ахоўніка парадку даследаваць Ліхача на алкаголь балюча скрывіўся: да чаго дайшлі!

Сястра, жанчына сталых гадоў, таксама рыхтавала працэдуру са змрочнай маўклівасцю, аднолькава дрэнна думаючы пра абодвух наведвальнікаў: сур'ёзныя людзі, а займаюцца глупствам.

Ліхач дыхнуў у трубку весела, з цікавасцю — упершыню сустрэўся з такім прыборчыкам, засмяяўся, праўда, трохі раздражнёна, злосна.

— Чыста,— сказала сястра.

— Не можа быць! — расчаравана здзівіўся Мігун.

Ліхач выхапіў у сястры трубку і сунуў пад нос маёру.

— А цяпер ты дыхні! Толькі, баюся, трубка не вытрымае, лопне ад тваіх пароў.

І тады сур'ёзная з выгляду сястра залілася смехам. Весела зарагатаў і ўрач. Абое яны падумалі, што наведвальнікі — дасціпныя жартаўнікі, паспрачаліся і выпрабоўваюць адзін аднаго. А Ліхача смех іх абпёк варам уніжэння. Не тую гульню пачаў ён з гэтым ідыётам, хутчэй прэч ад яго, пакуль нервы заціснутыя ў кулак. Ціха падзякаваў медыкам і пайшоў.

Мігун успомніў, што ў Ліхача жонка медсястра, напэўна, тут працуе, і пагразіў пальцам медыкам, збянтэжыўшы і жанчыну, і спакойнага барадача. Уподбег дагнаў на ганку сваю ахвяру. Той, не азірнуўшыся, павярнуў у другі ад машыны бок.

— Сядай у машыну! — суровым воклічам спыніў яго Мігун.

— Пайшоў ты...— і назваў тое адмысловае месца, куды і варта было падацца такому шчыраму служку.

Маёр ляпнуў далоняй па шынялі, дзе той адтапырваўся — ад кабуры. Словы яго пачалі страляць:

— Не з тым жартуеш, Ліхач! Са мной жарты дрэнныя! Вунь стаіць паставы, а ў яго ў кішэні наручнікі. Я не спыняюся і перад такой мерай.

Кроў ударыла ў галаву да звону ў вушах. Васіль агледзеўся. Тут, у цэнтры — насупраць ГУМ,— нямала людзей, бліжэйшыя пешаходы ўжо азіраюцца на іх, пачуўшы ці адчуўшы, што ў адносінах паміж афіцэрам і цывільным адбываецца нешта незвычайнае. Не хапала яшчэ, каб яму тут, на вуліцы, надзелі наручнікі. А гэты ап'янелы ад улады «вартавы парадку», падобна, і такое здатны зрабіць. Васіль Васільевіч павярнуўся і ўскочыў у машыну. Гэтак жа спрытна, не марудзячы ні хвіліны, ускочыў на пярэдняе сядзенне і Мігун.

— У гарком! — крыкнуў Ліхач.

— У шпіталь! — пераможна, захлынаючыся ад задавальнення, праспяваў гаспадар машыны. Цяпер ён не сумняваўся, што ў паліклініцы Ліхачовы знаёмыя, сябры, а ў шпіталі ў яго, Мігуна, свае людзі.

— У які шпіталь? — здзіўлена спытаў шафёр.

Мігун узарваўся:

— Табе памяць адбіла? Колькі ў нас шпіталяў?!

У горадзе адзін шпіталь — інвалідаў вайны.

Машына сарвалася з месца. Але пакрыўджаны за сваю памяць вадзіцель своеасабліва адплаціў:

— А ў бутэльцы — вадзічка... святая, дыстыляваная. Для акумулятараў...

— Замяніў? — па-бычынаму зароў начальнік.— П'янюга! Выгарадзіць свайго хочаш?

— Ад п'янюгі чую.

— Сёння ж вылеціш з работы!

— А напляваў я на вашу работу! Падумаеш — работа! Ні дня ні ночы спакою. На свае рукі я ўсюды баранку знайду.

Шафёр злосна газануў, машына набрала хуткасць, дазволеную хіба што «міргалцы». І раптам дзіка завішчалі тармазы, хоць перад машынай нікога не было. Мігун балюча стукнуўся лбом у шкло — як толькі не высадзіў.

— Ты што робіш, ідыёт?

— Сам ідыёт! Чалавека згубілі! Чалавека! — спалохана закрычаў вадзіцель і выскачыў з машыны.

Мігун азірнуўся. Задняе сядзенне было пустое, дзверцы адчынены. З машыны ён не здолеў выйсці: даўгі цвік праткнуў сэрца, прыбіў яго грувасткае цела да спінкі сядзення.

Болю не было. Быў правал. Як у сне. Сніў неаднойчы: вывальваўся з самалёта і вольна плаваў у космасе. Бачыў чорнае неба і блакітную зямлю. Усё наадварот. Адчуванне страшнае і... незвычайнае, такога на яве не перажываў — нейкае звышрадаснае захапленне палётам, калі ажно дыханне спыняецца, а ўдары сэрца запаўняюць усю істоту — са звонам б'юць у вушы, у жывот, у рукі, у ногі.

Страх з'явіўся, калі ён пачуў над сабой людзей. Чалавечы гул. Як прыбой, які набліжаўся. Спачатку страх ад таго, што гул захлыне яго, змые і панясе... не ў космас, не... А потым праз гул паляцеў крык злосці, абурэння: «Міліцыя! Міліцыя выкінула з машыны чалавека. Во гады! Біць іх!» І тады страх стаў усвядомлены — за чалавека... за Мігуна. Трэба сказаць, што той не вінаваты, што ён сам... Сам... Усё ён рабіў на хаду... сігаў з воза, з трамвая... сігануў у космас...

А потым былі арэлі. Ён гушкаўся з Машай. Дачка залівалася звонкім смехам. І ён стараўся гушкнуць як мага вышэй. Шырока, як парус, напіналася яе чырвонае плацце.

Пачуў страшны Дашын крык: «Спыніся, Вася! Спыніся!»

У гэты міг Маша, бы пушынка, зляцела з арэляў і... паляцела ўгару. А ён застыў на месцы і заварожана глядзеў, як у чорнае неба ўзлятае ярка-чырвоная зорка. І не было ў яго страху. Было здзіўленне.

...Хірург пачуў за спіной жаночы крык. Не азірнуўся. Паглядзеў на прыборы. Стрэлкі паўзлі ўлева...

Ала сядзела не за пісьмовым — за доўгім сталом, пустым — ніводнай паперкі, бліскучым, як узлётная паласа пасля дажджу. Сядзела нерухома, боязна было паварушыцца, павярнуцца да акна, за якім глуха шумеў горад, здавалася, любое фізічнае дзеянне наблізіць страшнае, чаго яна баялася. А нерухомасць — як бясконцасць, вечнасць. Аднак вочы ўтрапёна са страхам уставіліся на дзверы. Не, нікога яна не чакала. Наадварот, хацела, каб ніхто не прыйшоў. Загадала Яніне нікога не пускаць, ні свайго, ні чужога. Сакратарка, хоць і ведала пра здарэнне, прыняла гэта

натуральна: Ала Уладзіславаўна нярэдка вось так зачынялася — калі рыхтавала даклад, лекцыю, усё рабіла сама, на памочнікаў не спадзявалася, нават найбольш важныя пастановы пісала сама.

Хацелася, каб і думкі не варушыліся. Але яны — што зблытаны клубок нітак, «барада», якую разблытаць немагчыма, можна толькі парваць. Але і парваць гэты клубок не мела сілы. Ды і што парвеш? Што зменіцца?

На пісьмо Васіля ў абком — на скаргу за несправядлівую вымову — Леанід Генадзьевіч вымавіў ёй мякка, па-бацькоўску: «Што ты там Ліхача тузаеш? Дай чалавеку свабоду. Няхай эксперыментуе. Думай, што ён разумней за нас, ва ўсякім разе, не дурней».

«Я дам табе свабоду, Вася. Я дам табе свабоду...»

Здалося, што сказала гэтыя словы ўголас, і азірнулася: ці не пачуў хто?

Праз двайныя дзверы чутно кляпанне машынкі. Што цвікі забіваюць. Ніколі машынка так не раздражняла. Што там такое тэрміновае ў гэтай бестурботнай і гультаяватай Яніны? Нічога тэрміновага няма. Нікуды не трэба спяшацца. Чакаць, чакаць... Чаго?

Яна ўздрыганулася. Нічога не трэба чакаць. Усё будзе добра. Воблікаў пазваніў, што... Вася ў бальніцы. Яна ніколі не ляжала ў бальніцы, баялася туды трапіць. Але ж бальніца — ратунак.

Чаму такое неадчэпнае ўяўленне з таго летняга дня, калі ўбачыла, як акрабатычна ён кідаў голенькую малую з рук на ногі, а дзіця залівалася смехам. Як імя яго дачкі? Даша? Не, Даша — жонка. Саша? «Усе на «ша», адзін я на «ся».

Чаму яна не пайшла да яго ў госці? Запрашаў жа неаднойчы. Баялася выдаць сваё жаданне?.. О божа, які сорам! Ці не дазволіла становішча першай асобы ў горадзе? Якое глупства! «Я прыйду да цябе ў госці, Вася. Прыйду»,— абяцала цвёрда, бадай з радасцю, што пераадолела ўсе недарэчныя ўмоўнасці.

Зазваніў тэлефон, прамы, падобна — міжгародні. Яна не паднялася, не азірнулася на апарат, толькі ўціснула галаву ў плечы, непрыгожа сцялася, як бы ратуючыся ад цяжкай лавіны.

«Я дам табе свабоду. Я прыйду ў госці. І ў мяне хопіць смеласці сказаць, што я люблю цябе. І — больш нічога. Больш нічога...»

І ўпершыню ўстрапянулася:

«Што робіцца ў маёй галаве? Пра што я думаю!..»

Дзверы адчыніліся як ад удару ботам. Грукат іх здаўся выбухам бомбы.

Воблікаў прычыніў за сабою дзверы спіной і так застаўся стаяць прытулены, як бы не ўпускаючы кагосьці невядомага, хто ішоў за ім.

Ала адкінулася на спінку крэсла так імкліва, што ў патыліцу ўдарыў боль. І зноў застыла, зноў баялася паварушыцца. Глядзела на старшыню нерухомымі вачамі, у якіх адбівалася адно — надзея. Воблікаў таксама глядзеў на яе. Але — о, жах! — якія ў яго халодныя і... пустыя вочы. Ды не ж, не, гэта так здалося ад страху. Вочы яго пацяплелі і як бы запацелі. Ён ступіў да стала, сеў у другім канцы — насупраць яе, і ў гэтай пастаўе, здалося ёй, апынуўся далёка-далёка і — як у тумане. Зняў капялюш, правёў ім, мокрым, па твары і з-за капелюша, як з далечы, глуха і бязлітасна жорстка сказаў:

— Скончылася, Алка, наша з табой кар'ера. Вымятайся! — і вылаяўся, як ніколі не дазваляў сабе пры жанчыне.— Але што — кар'ера! Чалавека шкада. Які ідыёт гэты Мігун! Прымусь дурня богу маліцца...

Ала ўпала тварам на стол, пракусіла сваю руку, з надрыўным стогнам зарыдала.

— Не, гэта — я... я...

# СТРАТЭГІЯ

*Гістарычныя сцэны*

*ЧАСТКА ПЕРШАЯ*

I

**Гісторык.** Жнівень 1917 года. Пасля ліпеньскіх падзей урад Керанскага перайшоў у контррэвалюцыйнае наступленне на пралетарыяў, на салдат, на бальшавіцкую партыю, якая ўзначальвала рэвалюцыйныя сілы народа. Меншавіцка-эсэраўскія Саветы сталі на шлях адкрытых памагатых буржуазіі.

Урад двойчы ўжо аддаваў загад аб арышце Леніна. Закрыў бальшавіцкія газеты. Але яны прадаўжалі выходзіць пад змененымі назвамі.

Падвальнае памяшканне газеты «Пролетарий». Рэдакцыйны пакой. За сцяной стук друкарскай машыны. Якаў Свярдлоў перадае Наборшчыку невялікія лісткі паперы.

**Свярдлоў.** Тэрмінова ў нумар. Разбіраеце почырк?

**Наборшчык** (бярэ лісткі). Ленін?! Не першы раз. Адзін я і разбіраю. (Чытае.) «Аб выступленні Каменева ў ЦВК наконт Стакгольмскай канферэнцыі». Растлумачце мне, таварыш Свярдлоў, а чаму мы супраць гэтай канферэнцыі. Селі б за адзін стол...

**Свярдлоў**. З кім? З сацыял-шавіністамі? Туды ж паедуць Чарноў і Цэрэтэлі, Каўцкі... Яны ж таксама лічаць сябе сацыялістамі. Ды Ленін усё растлумачыў. (Бярэ лісткі.) Вось тут. Ён... Каменеў... «змаўчаў аб тым, што там будуць удзельнічаць сацыял-імперыялісты, што мець сувязь з гэтакімі ганебна для рэвалюцыйнага сацыял-дэмакрата». І далей. «Ісці на нарады з сацыял-імперыялістамі, з міністрамі, з пасобнікамі катаўства ў Расіі — ганьба і здрадніцтва. Аб інтэрнацыяналізме тады няма чаго і гаварыць».

**Наборшчык**. Ленін і сваім не дае літасці.

**Свярдлоў**. Калі яны хістаюцца. Як Каменеў.

**Наборшчык**. А мне ён здаўся самым рэвалюцыйным. Тут ён са Сталіным спрачаўся. Абвінавачваў яго ў нерашучасці. Дык у гэты ж нумар «Пралетарыя»?

**Свярдлоў**. Абавязкова ў гэты. Зараз паглядзім, замест чаго можна паставіць.

Наборшчык ідзе ў друкарню. Свярдлоў садзіцца за стол, завалены рукапісамі і адбіткамі газетных палос. Паглыблена акунаецца ў чытанне.

З'яўляецца Каменеў.

**Каменеў** (як быццам здзіўлена). О, Якаў Міхайлавіч! Вы — усюдыісны. Куды ні прыйду, там вы і Урыцкі.

**Свярдлоў**. Трэці Каменеў. У нас агульная рыса.

**Каменеў** (смяецца). Вы мне ліслівіце, Якаў Міхайлавіч. Што будзе гваздом у нумары?

**Свярдлоў**. Пісьмо Леніна.

**Каменеў**. Аб выступленні Дана? Керанскага?

**Свярдлоў**. Аб выступленні Каменева наконт Стакгольма.

**Каменеў** (змяняецца з выгляду, натапырваецца, прабягае па пакойчыку). Зноў Ленін? У кожным нумары Ленін! У яго што там — сіндыкат?

**Свярдлоў**. У яго — галава.

**Каменеў**. Члены рэдкалегіі ведаюць пра пісьмо?

**Свярдлоў**. І члены ЦК.

**Каменеў**. Я — член ЦК.

**Свярдлоў**. Таварыш Каменеў! І вы ведаеце. З-за гэтага вы прыйшлі сюды ў такі позні час.

**Каменеў.** Дык я вам скажу. Ленін памыляецца ў сваёй бескампраміснасці. Мы жывём у час кампрамісаў. Мы з вамі ў гушчы мас. А Ленін... Дзе ён? У кустах?

**Свярдлоў** (жорстка). Ільіч вымушаны быць у падполлі.

**Каменеў**. Так, так, у падполлі. Я разумею. Між іншым, дзе ўсё ж Ленін цяпер? Вы былі на сувязі з ім, калі ездзілі ў Разліў? Дзе Зіноўеў — я знаю. А дзе Ленін? Ненармальна, што ад мяне, члена ЦК, скрываюць... Два каўказцы — Арджанікідзе і Сталін, памойму, іграюць у канспірацыю. Хто ім даручыў?

**Свярдлоў** (жартаўліва, з грузінскім акцэнтам). Дарагі таварыш Каменеў! Гэта вельмі нармальна. Канспірацыя тонкая штука. Я скажу жонцы, вы скажаце сябру... Якая будзе канспірацыя? (Натуральна.) Я трымаў сувязь з Разлівам, але цяпер і я не знаю, дзе Ільіч. І гэта натуральна.

**Каменеў**. Калі ўлічыць, як хутка да яго дайшло маё выступленне, то недалёка. Я адкажу на яго пісьмо. І дакажу, што ён памыляецца. Я мог бы адказаць сёння. Але я стомлены. Мы працуем, як валы.

**Свярдлоў**. Працуе Ленін. А мы пацеем.

**Каменеў** (бадай узлавана). Мы пацеем? У вас, прабачце, адсутнічае гонар.

**Свярдлоў**. Які? Гонар, як шмат што, катэгорыя класавая, Леў Барысавіч. Нам нямала прыйдзецца папацець, каб вытравіць з сябе наш местачковы, дробнабуржуазны гонар. Аднак я пайшоў у друкарню...

Свярдлоў выходзіць. Каменеў садзіцца на яго месца. Піша. Уваходзіць Літаратар — з тых, хто за сабраныя звесткі мае двайны ганарар. Каменеў здзіўлены.

**Літаратар**. Вы думалі, што можна схаваць цэлую друкарню? Ад каго? Ад юнкераў можна. Ад свайго брата газетчыка гэта немагчыма. Мы ж, літаратары, што Шэрлакі Холмсы. Аднак ахова ў вас пільная. Ледзь даказаў пралетарыю, што я свой.

**Каменеў**. Карэспандэнт эсэраўскай газеты свой у бальшавіцкай рэдакцыі?

**Літаратар**. Леў Барысавіч, мы ж з вамі культурныя людзі. Мы належым да розных партый, але ж сацыялістычных. Да таго ж у нас павінна быць прафесійная салідарнасць. Літаратарская. А калі яшчэ ўлічыць, што мы з вамі землякі і добрыя знаёмыя... Аднак — добры вечар. (Вітаецца за руку. Садзіцца каля стала.) Што будзе гваздом у чарговым нумары «Пралетарыя»?

**Каменеў.** Пісьмо Леніна супраць Каменева.

**Літаратар** (смяецца). І вы пра гэта так спакойна паведамляеце? Вясёлыя вы людзі, бальшавікі. Уяўляю, што было б, калі б Спірыдонава выступіла супраць Керанскага ці Чарнова. А між іншым, адкуль ён піша, Ленін?

**Каменеў.** Вы што — лічыце мяне хлопчыкам? Ваш Керанскі аддае загад арыштаваць лідэраў нашай партыі — Леніна, Зіноўева... ды і мяне, Троцкага садзіў у турму. І вы хочаце, каб я выдаў...

**Літаратар**. Я ж не пытаю ў вас дакладны адрас... дом, кватэру... У мяне прафесійная цікавасць. І я мог бы нажыць журналісцкую славу, паведаміўшы, дзе Ленін,— у Расіі, у Швейцарыі, у Германіі... Усе мы, Леў Барысавіч, славалюбівыя. Ды і лішні рубель у наш галодны час не зашкодзіць.

**Каменеў** (падхопліваецца, мітуслівасцю падкрэслівае абурэнне). Ах, як вам хочацца, каб Ленін апынуўся ў Германіі! Каб пацвердзіць гнюсны паклёп, што ён нямецкі шпіён... Паклёп, ад якога эсэры мусілі адмовіцца, каб не сесці ў лужыну. Вы ж адзін з тых, хто ў ліку першых выказаў сумненні наконт гэтай бязглуздай хлусні.

**Літаратар**. Я не паверыў у гэта з самага пачатку. Я ведаю бальшавікоў, сядзеў разам у турме. Я — аб'ектыўная сведка і летапісец рэвалюцыі. А вы так дрэнна падумалі пра мяне, западозрылі, што я агент генерал-пракурора, які шукае Леніна.

**Каменеў** (астывае). Прабачце, Павел...

**Літаратар**. Антонавіч. У вас добрая памяць, Леў Барысавіч. (Паднімаецца, прыкрывае дзверы ў друкарню, набліжаецца да Каменева, становіцца тварам у твар, гаворыць паніжаным голасам, па сакрэту, даверліва.) А я вас шукаў цэлы дзень. Супраць вас рыхтуецца бомба. Куды страшнейшая за пісьмо Леніна. Жандарскі палкоўнік Балібін даў паказанні, што ў Кіеве вы былі агентам ахранкі.

**Каменеў** (з абурэннем). Гнюсны паклёп! Правакацыя!

**Літаратар**. Я прапаную вам здзелку. Зараз жа перадаю вам паказанні Балібіна. Магчыма, гэта не ратуе вас ад апублікавання ў чарнасоценных газетах. Але гэта дасць вам магчымасць падрыхтавацца да абвяржэння. Член ЦВК Савета, вы здолееце папярэдзіць публікацыю ў газетах урадавых партый... Але за гэта вы скажаце мне, канфідэнцыяльна, дзе Ленін...

**Каменеў** (гнеўна). Пайшоў прэч! Аб'ектыўны літаратар!

**Літаратар** (адступае). Ах, пан Разенфельд, пан Разенфельд! А я лічыў вас дзелавым чалавекам. (Выходзіць.)

Каменеў утароплена глядзіць на дзверы.

**Свярдлоў** (з'яўляецца ў дзвярах друкарні). Каго гэта вы так пужнулі, Леў Барысавіч?

**Каменеў**. Ды тут адзін знаёмы літаратар з «Дела народа»... Выпытваў, дзе хаваецца Зіноўеў. Правакатары!

**Свярдлоў**. О, гэтыя газетчыкі! Няма больш небяспечных даносчыкаў! А «свабода» друку дае ім для гэтага неабмежаваны прастор. Чалавека па яго публікацыі садзяць у турму, а паклёпнік ходзіць героем — «памог» рэвалюцыі. Паклёпнікі карыстаюцца ў нас прывілеяй недатыкальнасці.

## *2*

Кватэра шведскага сацыял-дэмакрата Блумквіста ў Гельсінгфорсе. Сціпла і проста абстаўлены пакой. Крэслы, канапа, этажэрка, падаконнік завалены газетамі, але так, што відаць: газеты не проста складваюцца пасля прачытання, з імі пастаянна працуюць. На невялікім стале газет нямнога.

За сталом Ленін — у святле яркага пражэктара знаёмы воблік. Але барада і вусы толькі пачалі адрастаць.

Ленін працуе.

**Голас Леніна** — яго думка. Голас думкі своеасаблівы, ён павінен быць адметным ад жывой ленінскай размовы з людзьмі і нават ад яго развагі адзін на адзін у часе працы[2].

«Паўстанне Карнілава ёсць надзвычай неспадзяваны (у такі момант і ў такой форме неспадзяваны) і прама-такі невераемна круты паварот падзей...» Ленін падымаецца, ходзіць па пакоі.

**Ленін** (разважае, цяпер голас яго натуральны). Але, як усялякі круты паварот, ён патрабуе перагляду і змянення тактыкі. І, як з усялякім пераглядам, трэба быць архіасцярожным, каб не ўпасці ў беспрынцыповасць, у хістанні. А некаторых бальшавікоў ужо моцна хістае вецер падзей. Як Валадарскага. Звярнуць увагу членаў ЦК, што ў беспрынцыповасць упадаюць тыя, хто скочваецца да абароннiцтва ці да блока з эсэрамі, да падтрымкі Часовага ўрада. Такая пазіцыя архіняправільная.

Ленін садзіцца за стол, моўчкі піша, хутка піша — думка выкрышталізавалася.

Зноў гучыць ленінская думка:

«І падтрымліваць урад Керанскага мы нават цяпер не павінны. Гэта беспрынцыповасць... Мы будзем ваяваць, мы ваюем з Карнілавым, як і войскі Керанскага, але мы не падтрымліваем Керанскага, а выкрываем яго слабасць. Гэта розніца. Гэта розніца даволі тонкая, але архіістотная і забываць аб ёй нельга».

**Ленін** (разважае). У чым жа змяненне нашай тактыкі пасля паўстання Карнілава? У тым, што мы відазмяняем форму нашай барацьбы з Керанскім...

Задумваецца, як бы пражэктарам высвятляе аснову новай тактыкі.

Але, толькі так! Ні на ёту не аслабляючы варожасці да яго, не адмаўляючыся ад задачы звяржэння Керанскага, мы ўлічваем момант і звяргаць зараз Керанскага не станем. Мы інакш паставім задачу барацьбы з ім: растлумачым народу, які змагаецца з Карнілавым, слабасць і хістанні Керанскага. Гэта мы рабілі і раней. Але цяпер гэта стала галоўным. Цяпер галоўным стала ўзмацненне агітацыі за частковыя — будзем іх называць так, у двукоссі,— «частковыя патрабаванні» да Керанскага: арыштуй Мілюкова, карнілаўцаў, узброй піцерскіх рабочых, пакліч

---

[2] Лічу, што думка — цытата з твораў павінна гучаць у запісе — з глыбіні сцэны, як з глыбіні часу.

кранштацкія, гельсінгфорскія войскі ў Піцер, арыштуй Радзянку, узаконь перадачу памешчыцкіх зямель сялянам, увядзі рабочы кантроль. Але гэта патрабаванні не столькі да Керанскага. Гэта патрабаванне да рабочых, салдат, сялян, узнятых барацьбой з Карнілавым. Весці іх далей, заахвочваць збіваць генералаў і афіцэраў, што пайшлі за Карнілавым, настойваць, каб салдаты, сяляне патрабавалі зараз жа перадачы зямлі. Наводзіць на думку аб неабходнасці арышту Радзянкі і Мілюкова, разгону Дзяржаўнай думы... Напісаць таварышам, каб не думалі, што мы далей адышлі ад задачы заваявання ўлады пралетарыятам. (Запі свае.)

Гучыць думка:

«Не. Мы надзвычай наблізіліся да яе, але не прама, а збоку. І агітаваць трэба зараз не столькі прама супраць Керанскага, колькі ўскосна, супраць яго ж, але ўскосна, іменна: патрабуючы актыўнай і актыўнейшай,ісцінна рэвалюцыйнай вайны з Карнілавым. Развіццё гэтай вайны адно толькі можа нас прывесці да ўлады, і гаварыць у агітацыі аб гэтым менш трэба... »

**Ленін** (развважае, голас натуральны). Вось так тонка, дыялектычна супярэчліва: і агітаваць і маўчаць. Умела растлумачыць гэта агітатарам. Не ў друку. Ні ў якім разе не ў друку! У пісьмах — да рэўкомаў. На каленях агітатараў. Такая агітацыя — майстэрства, роўнае майстэрству паўстання. Мы не пабаімся змены нашай тактыкі са зменай падзей. Але сёння — толькі так! Цяпер час справы, вайну супраць Карнілава трэба весці рэвалюцыйна, уцягваючы масы, запальваючы іх. А Керанскі баіцца мас, баіцца народа.

Мінула колькі дзён. Да Леніна прыходзіць Густаў Ровіа — малады прыгожы фін з мяккімі жаночымі рысамі твару. Ён уваходзіць без стуку — так дамоўлена. Ленін адрываецца ад працы, імкліва паднімаецца насустрач.

**Ленін** (радасна). Густаў Сямёнавіч! Добры вечар! Добры вечар! (Нецярпліва.) Газеты?

**Ровіа** (збянтэжана). Я не сустрэў петраградскі поезд.

**Ленін** (расчаравана). Таварыш Ровіа!

**Ровіа**. Поезд спазніўся. Што зробіш. У такі час паязды спазняюцца нават у Фінляндыі. Газеты прынясе Ахмала.

**Ленін**. Вы добры паліцмайстар, але слабы канспіратар.

**Ровіа** (смяецца). Я праходжу навуку ў вас.

**Ленін**. Нельга Ахмала ператвараць у гарадскога паштальёна. Страта такога чалавека, як таварыш Кэсі, для нас была б катастрофай. Лепшага сувязнога, як начальнік паштовага вагона,

знайсці немагчыма. Скажыце... многа ў горадзе шпіёнаў Керанскага?

**Ровіа.** О, каб я мог іх палічыць!

**Ленін.** Аднак арыштаваць вы іх не можаце.

**Ровіа**. На жаль, не магу. Фінляндыя ўсё яшчэ княства імперыі Расійскай... Прабачце, рэспублікі...

**Ленін**. Вы ў мяне просіце прабачэння за рэспубліку Керанскага, якая ў адносінах малых народаў, па сутнасці, прадаўжае палітыку царызму? Фінляндыя павінна атрымаць самастойнасць!

**Ровіа**. Гэта адбудзецца тады, калі прэм'ерам стане таварыш Іваноў, Канстанцін Пятровіч.

**Ленін** (пасміхаецца). Вы вясёлы чалавек, Ровіа. Але шпіёнаў Керанскага ўсё ж выяўляйце. Гэта патрэбна не толькі для бяспекі таварыша Іванова, але і для вашай барацьбы за незалежнасць. Гэта злейшыя ворагі фінскіх сацыял-дэмакратаў. Яны не проста будуць вынюхваць бальшавікоў, яны будуць цягнуць вас у эсэраўска-меншавіцкае балота. Агенты Керанскага больш небяспечныя, чым агенты царскай ахранкі. Тыя знішчалі рэвалюцыянераў фізічна. Гэтыя ўпырскваюць атруту згодніцтва з буржуазіяй...

**Ровіа**. У нас складанае становішча. Фінскі сейм у большасці сваім буржуазны. А савет слабы.

**Ленін**. Я раіў таварышу Війку і вам цясней звязацца з рэўкомамі рускіх часцей. У Фінляндыі размешчаны самыя рэвалюцыйныя часці. Балтыйскі флот — апора рэвалюцыі.

**Ровіа** (уздыхае). У фінаў накапілася замнога недаверу да рускіх. Нават у рабочых...

**Ленін**. Заразную інфекцыю пакідае нам смярдзючы труп старога свету. Але мы, інтэрнацыяналісты, знішчым гэтую інфекцыю. Лозунг, напісаны Марксам, «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» — не проста заклік. Гэта — вялікая праграма. Удалося вам сустрэцца са Смілгам? Арганізуйце мне спатканне з ім. Двое членаў ЦК, адзін нелегальна, па волі Керанскага, другі легальна, знаходзяцца ў Гельсінгфорсе. Ненармальна, што мы не сустракаемся.

**Ровіа**. Эйно Рах'я перадаў ад таварышаў з Петраграда аб магчымасці вашай сувязі з Жамчужным. Я сустракаўся з Барысам. Энергічны марак.

**Ленін** (задумваецца). Думаю, нам можна сустрэцца тут, на кватэры. Калі не будуць пярэчыць гаспадары...

**Ровіа**. Што вы, Уладзімір Ільіч! Блумквісты — дабрэйшыя людзі.

**Ленін.** Выдатныя людзі. І ведаеце, які адбываецца феномен? Псіхалагічны. Я, на жаль, не ведаю шведскай і фінскай моў. Таварыш Эмілія не ведае рускай, нямецкай, французскай. Але мы выдатна разумеем адно аднаго. У нас большае ўзаемаразуменне, чым у мяне (смяецца) з Зіноўевым ці Троцкім, вялікім лінгвістам. Троцкі лічыць сябе знаўцам усіх навук. Але ў марксізме блукае, што ў лесе. Добра. Рускія газеты вязуць. А што пішуць у фінскіх?

**Ровіа** (сур'ёзна). У Петраградзе арыштавалі Леніна.

**Ленін** (спыняецца пасярод пакоя, глядзіць на Ровіа, пэўна, здзіўлены яго хітрай сур'ёзнасцю. Перапытвае з той жа сур'ёзнасцю). Арыштавалі-такі?

**Ровіа**. Арыштавалі. Паведамленне Петраградскага тэлеграфнага агенцтва.

**Ленін**. Ах, няшчасны Ленін! Няшчасны Ленін! Мне шкада яго. Як мне шкада яго!

Весела смяецца; так смяяцца мог толькі Ленін. Уваходзіць гаспадыня кватэры Эмілія Блумквіст з падносам, на ім шклянкі з чаем, талерачка з самаробным пячэннем. Такі бадай дзіцячы смех сур'ёзнага кватаранта яе здзіўляе і бянтэжыць.

**Эмілія** (пытае ў Ровіа). Чаму смяецца Канстанцін Пятровіч?

**Ровіа.** Арыштавалі Леніна.

**Эмілія** (ашаломленая). І ён?..

Аднак уміг асяняецца, азораная раптоўнай здагадкай. Глядзіць на кватаранта шырока расплюшчанымі вачамі. Ленін ажно бянтэжыцца ад гэтага позірку. Робіцца сур'ёзным, ідзе па пакоі, хмыкае, звыклым рухам гладзіць бародку, якой няма. Эмілія пераводзіць позірк на Ровіа, закрывае рот далонню. Ровіа прыкладае палец да вуснаў: так, поўнае маўчанне!

Прыемнага апетыту. (Выходзіць.)

**Ленін** (спыняецца перад Ровіа). Я казаў, што вы няважны канспіратар.

**Ровіа.** Уладзімір Ільіч! Вы самі выдалі сябе. Нельга так смяяцца з глупства шпікоў Керанскага.

**Ленін** (сур'ёзна). Не, з глупства ворага можна смяяцца. Нельга смяяцца з яго розуму. Што яшчэ ў газетах?

**Ровіа**. Керанскі арыштаваў Карнілава. Галоўнакамандуючым назначаны генерал Аляксееў.

**Ленін**. Што ж, гэта я прадбачыў, як толькі атрымаў звестку аб разгроме карнілаўцаў рэвалюцыйнымі салдатамі і рабочымі

атрадамі. Карнілавец Керанскі ратуе сябе. Лагічна. Але выдае сваю слабасць. Сітуацыя змянілася. Рэвалюцыя ў Рассіі перайшла ў новую стадыю. (Бярэ са стала спісаныя лісткі.) Таварыш Ровіа! Як вы адносіцеся да кампрамісаў?

**Ровіа**. Мяне называюць лібералам.

**Ленін**. Вы ставіце гэта сабе ў заслугу? Калі ласка, не блытайце згодніцтва з кампрамісам, з палітычным кампрамісам. Гэта розныя рэчы. Палітычны кампраміс — сур'ёзны тактычны прыём. Я выказваўся пра гэта раней. І сёння, пасля ўчарашніх газет. (Чытае.) «Кампрамісам называецца ў палітыцы ўступка некаторых патрабаванняў, адмаўленне ад часткі сваіх патрабаванняў з прычыны пагаднення з іншай партыяй.

Звычайнае ўяўленне абывацеляў аб бальшавіках, якое падтрымліваецца друкам, узводзячым паклёп на бальшавікоў, заключаецца ў тым, што бальшавікі ні на якія кампрамісы не згодны, ні з кім, ніколі».

Такое ўяўленне прыемна для нас... Нават ворагі вымушаны прызнаць нашу вернасць асноўным прынцыпам сацыялізму і рэвалюцыі... «Задача ісцінна рэвалюцыйнай партыі не ў тым, каб абвясціць немагчымым адмаўленне ад усякіх кампрамісаў, а ў тым, каб праз усе кампрамісы, паколькі яны непазбежныя, умець правесці вернасць сваім прынцыпам, свайму класу, сваёй рэвалюцыйнай задачы, сваёй справе падрыхтоўкі рэвалюцыі і выхавання мас народа да перамогі ў рэвалюцыі». І я зрабіў сёння вывад. Цяпер наступіў такі круты і такі арыгінальны паварот рускай рэвалюцыі, што мы можам, як партыя, прапанаваць... звернем увагу — прапанаваць! — добраахвотны кампраміс, праўда, не буржуазіі, а нашым бліжэйшым праціўнікам, дробнабуржуазным дэмакратычным партыям, эсэрам і меншавікам, якія трымаюць уладу.

**Ровіа**. Вы зрабілі з мяне бальшавіка. Таму я не разумею, што гэта дасць нам.

**Ленін**. Таварыш Ровіа! Вы не ўніклі ў абстаноўку, якая склалася ў Піцеры, у Маскве, дзе ў Саветах прагаласавалі за бальшавікоў. Кампрамісам з'яўляецца з нашага боку наш зварот да ліпеньскага патрабавання: уся ўлада Саветам, адказнасць перад Саветамі ўрада з эсэраў і меншавікоў. Адказнасць! Зразумейце! Цяпер, і толькі цяпер, можа быць, усяго на працягу некалькіх дзён ці аднаго-двух тыдняў такі ўрад мог бы стварыцца і ўмацавацца цалкам мірна. Толькі ў імя мірнага развіцця рэвалюцыі, што бывае вельмі рэдка ў гісторыі і што незвычайна

каштоўна — бяскроўная перамога! — толькі ў імя гэтага бальшавікі, прыхільнікі рэвалюцыйных метадаў, могуць і павінны, на маю думку, ісці на такі кампраміс. Каб зберагчы жыцці людзей. Наша ўмова простая: поўная свабода агітацыі і скліканне Устаноўчага сходу без новых адцяжак, у самы кароткі тэрмін.

Гэта сур'ёзныя думкі, таварыш Ровіа. І гэта самы сур'ёзны кампраміс. Можа быць, гэта ўжо немагчыма? (З іроніяй.) Маючы інфармацыю толькі аб тым, што арыштавалі Леніна, цяжка рабіць такія сур'ёзныя вывады. Але калі ёсць хоць адзін шанц з сотні, то яго абавязкова трэба выкарыстаць. Шанц гэты — рашэнне эсэраў і меншавікоў не ісці ва ўрад разам з кадэтамі — партыяй буржуазіі.

**Ровіа**. Складана ў вас.

**Ленін**. А ў вас?

**Ровіа**. У нас у сейме пакуль што гавораць. Самыя доўгія прамовы за гісторыю Фінляндыі. Фіны ніколі не гаварылі так доўга. У нас пераважаюць анекдоты аб маўклівасці фінаў.

**Ленін**. Калі меркаваць па вас, то фінаў не назавеш маўклівымі.

**Ровіа** (смяецца). Ва ўласнай сям'і я быў выключэннем. Маці затыкала вушы, калі я пачынаў гаварыць.

**Ленін**. Наладзьце мне спатканне з таварышамі Манерам і Куусіненам. Я мушу ведаць, чым жыве фінская сацыял-дэмакратыя.

Далікатна пастукаўшы, уваходзіць гаспадыня.

**Эмілія** (да Ровіа). Канстанціна Пятровіча пытае руская сялянка.

**Ровіа**. Вас пытае нейкая сялянка.

**Ленін** (здагадваецца). Надзя! Вядзіце сюды.

Эмілія разумее без перакладу — па радаснай узбуджанасці пражывальца. Уваходзіць Крупская, апранутая пад тагачасную работніцу — у хусціне, завязанай на патыліцы, у чорнай сацінавай кофтачцы. З вузлаком у руках. Уладзімір Ільіч бярэ жонку за руку.

Надзя! Ах, якая ты малайчына, Надзя! (Да гаспадароў — фіна і шведкі.) Таварышы, гэта мая жонка — Надзежда Канстанцінаўна. (Аглядвае яе ўбранне, смяецца.) А канспіратарка ты лепшая, чым я. Лепшая! Усё натуральнае — і такое пераўтварэнне. Як ваша імя, цётачка?

**Крупская**. Агаф'я Атаманава. (Змрачнее.) На жаль, сапраўднай Агаф'і няма ўжо на свеце. Гэта цётка Мікалая Аляксандравіча Емяльянава. Яна жыла ў Райвола, на фінскай старане.

**Ленін** (радасна ўзбуджаны). Праўда, канспіратарка ты выдатная.

**Крупская**. Не зусім. Калі праяўляла твой тайнапіс, то падпаліла край пісьма, нумар кватэры. Добра, што нумар дома ўцалеў. Прыйшлося паблукаць. Пыталася па-французску. А хіба я падобна ў гэтым адзенні на француженку?

**Ленін** (весела). Падпаліла? Калі мы зробім рэвалюцыю, то напішам з табой пра свае канспіратыўныя паходжанні. Чціва будзе больш займальнае, чым у Конан Дойла. І табе раскажу, як два дэтэктывы таварыша Ровіа везлі мяне з хутара Ялкала сюды, у Гельсінгфорс.

**Ровіа**. Дэтэктывы не мае — дэпутата Війка.

**Ленін**. Два акцёры. Забаўныя, вясёлыя хлопцы. Яны загрыміравалі мяне пад лютэранскага пастара. А ехалі начным поездам. Я заснуў на верхняй паліцы. А было душна. Спацеў. І парык мой адклеіўся, фарба пацякла па лбе, па шчоках. Добра, што, калі развіднела, гэта першы ўбачыў нядрэмны Каарло Куусело. Як ён спалохаўся! Разбудзіў мяне, а ў самога вочы — во, па яблыку. І як ён варажыў нада мной, ляжачым, праводзіў аперацыю на маёй галаве, на твары, каб пасажыры, калі прачнуцца, пазналі вячэрняга пастара. А яшчэ я напішу, Густаў Сямёнавіч, як мы гулялі з вамі. Ён расказвае мне анекдоты па-фінску, я ніводнага слова не разумею, а рагачу. Шчыра я рагачу?

**Ровіа**. Рагочаце вы шчыра. А вось калі замест «так» часта адказваеце «не» ці наадварот — такая канспірацыя магчыма хіба толькі з начальнікам паліцыі.

**Ленін** (смяецца). Надзя, ты чула, якія кур'ёзы здараюцца? Як у Зіноўева ў палітыцы. Дзе трэба сказаць «так», ён гаворыць «не». А ці чула ты, каб бальшавіка асцерагаў паліцмайстар? Я жартаваў, таварыш Ровіа, калі сказаў, што вы дрэнны канспіратар. Вы вясёлы канспіратар.

**Ровіа**. Прабачце, Уладзімір Ільіч. Жонцы вашай трэба адпачыць з дарогі.

Далікатны Ровіа выходзіць.

**Ленін**. Як я рады, Надзя, што ты прыехала. Як я рады! Даехала без прыгод, калі нё лічыць падпаленага пісьма?

**Крупская**. Без прыгод. Але...

**Ленін** (устрывожана). Што але?

**Крупская**. Быў момант, калі я спалохалася. Не, не за сябе. За цябе.

**Ленін**. Чаму раптам за мяне?

**Крупская**. Ехаў у вагоне нейкі буржуй. Прачытаў у газеце, што цябе арыштавалі...

**Ленін**. І ты паверыла?

**Крупская**. Не. Глупства гэтае я чытала яшчэ ў Петраградзе. Спалохала іншае. Тып гэты пачаў разглагольстваваць, што ён зрабіў бы з табой, каб яго воля была. Вымазаў бы дзёгцем, выкачаў бы ў пер'і і правёў бы па Піцеры, каб кожны прыстойны чалавек плюнуў у твар. А пасля, жывога, залажыў бы ў берагавую пушку і выстраліў на мора. Каб і праху на зямлі не засталося. Якая жывёльная нянавісць, Валодзя! Хіба не страшна?

**Ленін**. А ты чаго хацела ад буржуа? Каб яны перамаглі, то распялі б нас на крыжах. Ад Піцера да Камчаткі. Утварылі б гіганцкую Апіеву дарогу.

**Крупская**. Але потым я парадавалася. У купэ ехалі матросы. Выслухалі пана моўчкі. А пасля адзін кажа... ведаеш, спакойна гэтак і сур'ёзна: «Братва, а ці не выкінуць нам гэтага тыпа з вагона?» І пачаў адчыняць акно. Ох, пабачыў бы ты, як ён спалохаўся. Пабялеў. Закалаціўся. «Матросікі, браточкі, я ж пажартаваў. Хіба на мне крыжа няма, каб такое падумаць».

**Ленін** (весела смяецца). Тыповы буржуа. Газеты прывезла?

**Крупская**. Толькі «Новую жизнь», «Живое слово» і «Новое время».

**Ленін**. Правільна! Перш-наперш трэба ведаць, што думаюць ворагі і нейтралы. Што ў Піцеры?

**Крупская.** О, пабачыў бы ты, як узняліся рабочыя на бой з Карнілавым. Атрады ішлі на пазіцыі дзень і ноч. А ў апошнія дні з усёй Расіі паступае паток рэзалюцый з патрабаваннем спынення ганенняў на пралетарскіх рэвалюцыянераў, каб даць магчымасць Леніну легальна кіраваць барацьбой рабочага класа. Маняша прысутнічала на мітынгу рабочых металічнага завода. Вярнулася ўсхваляваная. Восем тысяч чалавек аднадушна патрабавалі вызвалення рэвалюцыянераў, спынення паклёпаў на Леніна. Гэтага ж патрабавалі трыццаць сем часцей Петраградскага гарнізона. Патрабуюць перадачы ўлады Саветам. А ЦВК Савета сялянскіх дэпутатаў выражае давер Керанскаму. Якія згоднікі!

**Ленін** (у задуме). Ці не спазняецца мая прапанова з кампрамісам?

**Крупская** (разбірае вузел). Што? Я прывезла табе новую бялізну. У Піцеры нялёгка яе купіць. Саша Калантай дастала. Саша ўсё умее. Зноў паехала ў Швецыю.

**Ленін**. Гэта архіважна, што там будзе Калантай. Саша ўсё ўмее. Саша талент. Ідзі ўмывайся. Хутка Эмілія пакліча нас вячэраць.

Крупская выходзіць. Ленін садзіцца за стол, разгортвае адну газету, другую... Прабягае вачамі. Нейкі артыкул чытае ўважліва. Хмыкае. Падкрэслівае алоўкам. Вяртаецца Надзежда Канстанцінаўна.

**Крупская**. Гаспадыня ўзрадавалася, што я ведаю колькі шведскіх слоў.

**Ленін** (ляпае далонню па газеце). Не, дарога мірнага развіцця мінула! Кампрамісы немагчымыя. Бальшавікі павінны ўзяць дзяржаўную ўладу.

**Крупская** (ласкава). Валодзя! Ты можаш хоць мінуту без палітыкі?

**Ленін**. Не, Надзя, гэта не проста палітыка! Гэта — стратэгія партыі на бліжэйшы час!

## *3*

**Гісторык**. Ленін і ўдалечыні, у падполлі, у Гельсінгфорсе адчувае лепш, чым некаторыя ў Петраградзе, нарастанне рэвалюцыйнага ўздыму рабочых, сялян. Ленін рыхтуе ўзброенае паўстанне. Але паколькі адкрыта пра яго яшчэ нельга сказаць, піша працы, якія нібыта носяць тэарэтычны характар, але ў сапраўднасці ставяць сур'ёзныя практычныя мэты і вучаць высокай алгебры рэвалюцыі. Сярод гэтых прац асаблівае месца займае «Пагражаючая катастрофа і як з ёй змагацца».

Ленін пісаў: «Расіі пагражае немінучая катастрофа... А між тым дастаткова самай невялікай увагі і размышлення, каб пераканацца ў тым, што спробы барацьбы з катастрофай і голадам ёсць, што меры барацьбы зусім ясныя, простыя, у поўнай меры ажыццявімыя, поўнасцю даступныя народным сілам і што меры гэтыя не прымаюцца толькі таму, выключна таму, што ажыццяўленне іх закранае нечуваныя прыбыткі жменькі памешчыкаў і капіталістаў».

«Вось гэтыя галоўнейшыя меры:

1. Аб'яднанне ўсіх банкаў у адзін і дзяржаўны кантроль над яго аперацыямі або нацыяналізацыя банкаў.

2. Нацыяналізацыя сіндыкатаў, г. зн. буйнейшых, манапалістычных саюзаў капіталістаў (сіндыкаты цукровы, нафтавы, вугальны, металургічны і г. д.).

3. Адмена камерцыйнай тайны.

4. Прымусовае сіндыкаванне (г. зн. прымусовае аб'яднанне ў саюзы) прамыслоўцаў, гандляроў і гаспадароў наогул.

5. Прымусовае аб'яднанне насельніцтва ў спажывецкія таварыствы ці заахвочванне такога аб'яднання і кантроль за ім».

Ленін падрабязна разбірае, што дало б краіне здзяйсненне гэтых мер. Нібыта тэарэтычныя палажэнні марксізму з вострай крытыкай буржуазнага і эсэраўска-меншавіцка-кадэцкага ўрада, якія абмяжоўваліся бюракратычнай ігрой у рэформы. Але Ленін ідзе далей, Ленін падрыхтоўвае свядомасць мас да неабходнасці ўзяцця ўлады пралетарыятам.

**Ленін** (яго думка). «Трэба перайсці рашуча, беспаваротна, не баючыся рваць са старым, не баючыся будаваць смела новае, да кантролю над памешчыкамі і капіталістамі з боку рабочых і сялян».

«Імперыялістычная вайна ёсць пярэдадзень сацыялістычнай рэвалюцыі».

**Гісторык**. Як ні добра была наладжана сувязь з Петраградам, звесткі з яго ў Гельсінгфорс даходзілі са спазненнем. А падзеі нарасталі з хуткасцю снежнай лавіны. Да таго ж некаторыя бальшавікі дапускалі памылкі. Ленін нелегальна пераязджае з Гельсінгфорса ў Выбарг, ад якога да сталіцы пяць гадзін язды і дзе размяшчаўся вялікі і самы рэвалюцыйны гарнізон арміі і флоту.

Дом фінскага журналіста Юхані Латука на ўскраіне Выбарга. Перад домам карэльскія сосны і залатыя бярозы. Ад іх святла ў пакоі нейкая асаблівая ўрачыстасць.

Лююлі Латука старанна прыбірае ў пакоі, але з пачцівай асцярожнасцю — каб не закрануць газеты, кнігі госця, або паперы на стале. Ёй памагае муж, па-мужчынску, робячы другарадную неабавязковую працу — прымярае з фінскай акуратнасцю, як лепш паставіць колькі простых крэслаў, быццам рыхтуючыся да прыёму незвычайных гасцей.

**Лююлі**. Юхані, наш госць сёння нечым усхваляваны. Баюся: можа, я нешта не так зрабіла.

**Латука**. Не бойся. Для хваляванняў у яго ёсць больш важкія прычыны.

**Лююлі**. Божа! А колькі ён піша! Мы, фіны, працавіты народ, але я ніколі не бачыла, каб хто-небудзь з нас столькі працаваў. Ты — журналіст. І сябры твае. Але хто-небудзь з вас калі столькі пісаў? Хаця б на працягу аднаго дня. Самага гарачага... У сакавіку ці ў ліпені.

**Латука**. Прыраўняла!

**Лююлі** (падыходзіць да мужа, амаль шэптам, азіраючыся на адчыненае акно). Хто ён?

**Латука**. Іваноў, Канстанцін Пятровіч.

**Лююлі** (па-жаночаму пакрыўджана). Ты размаўляеш са мной, як з маленькай.

**Латука**. Не, Лююлі, наадварот. Я размаўляю з табой, як з вельмі сталай жанчынай. Ты ж у мяне — разумніца. Я ўсё давяраю табе.

**Лююлі** (зусім шэптам). Гэта ён... Ленін?

**Латука**. Лююлі!

**Лююлі**. Мы з табой — фіны. А фіны ўмеюць не толькі працаваць, але і маўчаць. Хіба ты не пераканаўся, што я ўмею маўчаць?

**Латука** (смяецца). Але фінскія жанчыны, як усе жанчыны ў свеце, залішне цікаўныя. Скажы Хільдур, каб яна нічога не гаварыла сваім сяброўкам пра нашага кватаранта.

**Лююлі**. Я папярэджвала яе. Хільдур вельмі любіць гаварыць з Канстанцінам Пятровічам. Яна не так ведае рускую, як мы з табой. Але паслухай, што яна мне сказала. Гэты чалавек, кажа, выпраменьвае цеплыню абаяльнасці. Я сама адчуваю гэтую цеплыню, калі гавару з ім. Сястра яшчэ сказала, што сталыя людзі звычайна не ўмеюць гаварыць з маладымі, нават бацькі з дзецьмі. Часта не разумеюць адзін аднаго. А яна ўсё разумее, што гаворыць Канстанцін Пятровіч. Разумніца яна, праўда?

**Латука**. Ты ўлюбёна ў сваю сястру.

**Лююлі**. Яна тыповая фінка — маўклівіца, ты ж ведаеш. І я вельмі здзівілася, якой яна красамоўнай бывае з ім, не саромеецца нават сваёй рускай мовы. Праўда, я вымушана была вымавіць ёй. «Чаго вы баіцеся, што гуляеце толькі позна ўвечары? — спытала яна ў яго.— У свабоднай Фінляндыі няма чаго баяцца!» Дзяўчо верыць, што мы ўжо свабодныя. Ведаеш, можа, таму Канстанцін Пятровіч пайшоў сёння на прагулку раніцою. У лес пайшоў. І гуляе доўга.

**Латука**. І гэта мяне непакоіць. Тваёй Хільдур трэба даць папругі. Фінка, называецца! Распусціла язык! Папярэдзь яе, калі ласка. Каб яна без панібрацтва. Параўнялася. Пасля самой будзе сорамна...

**Лююлі**. Пасля чаго?

**Латука**. Пасля таго. (Як бы спахапіўшыся.) Лююлі! Ты выцягваеш з мяне больш, чым я ведаю.

**Лююлі**. Ведаеш ты многа — гэта я ведаю. Але я маўчу. Я — фінка. А за Хільдур не хавайся. Адчуваць цеплыню абаяльнасці —

гэта зусім не панібрацтва. Гэта так хораша. Я веру, што некалі людзі ўсе стануць такімі — будуць дарыць адзін аднаму цеплыню.

**Латука**. А ты фантазёрка.

**Лююлі**. Жонка сацыял-дэмакрата абавязана быць фантазёркай. Ды яшчэ калі ёй даверана такая тайна!

**Латука**. Пра тайну, калі ласка,— не на поўны голас. (Зачыняе акно.) А вось і Канстанцін Пятровіч. Нарэшце.

Уваходзіць Ленін. Ён без звыклай бародкі, у той жа фуражцы, якую мы ведаем па фатаграфіі ў пасведчанні на імя Іванова.

**Ленін**. Дзень добры, таварыш Латука. А з вамі, Лююлі, мы бачыліся! Ах, як хораша я пагуляў! Пачатак кастрычніка, а такая цеплыня! У лесе — што ў казцы. Даўно я не гуляў па лесе з такой асалодай. У Швейцарыі лясы не такія. Не, не такія! Хіба ў гарах. Я забрыў на край вялікага балота. І, ведаеце, там растуць журавіны. Поўна журавін. І я еў іх. Моршчыўся, як ад прамоў Цэрэтэлі і Чарнова (смяецца). Але еў з непараўнальна большым задавальненнем. Еў з асалодай. Не выпацкаўся, як дзіця?

**Лююлі**. Не, Канстанцін Пятровіч. Журавіны — не чарніцы і не маліны. Яны не фарбуюць.

**Ленін**. Усё жыццё, Лююлі, я буду ўспамінаць ваша малінавае варэнне. Па дарозе я сустрэў рускіх матросаў. Вельмі хацелася пагаварыць з імі! Але я не дазволіў сабе такой раскошы. Не мог дазволіць. Непрыемная рэч канспірацыя, але законы яе трэба ведаць. Можа здарыцца, што і вам, фінскім рэвалюцыянерам, прыйдзецца хавацца ад сваёй буржуазіі.

Пачалася палітыка — і далікатная гаспадыня выходзіць.

**Латука**. Жонка сказала, што вы, Уладзімір Ільіч, былі нечым усхваляваныя.

**Ленін**. Раніцою? Я не ўсхваляваны быў, таварыш Латука. Не! Я абураны, прачытаўшы ранішнюю почту. Калі фінскі сейм не падпарадкаваўся загаду Керанскага аб яго роспуску, я вітаў гэта ўсёй душой. Знаю, што ў сейме большасць месц належыць буржуазіі, але пратэст фінаў — крок у развіцці дэмакратычнай рэвалюцыі, у атрыманні народам незалежнасці. Калі ж карнілавец Керанскі для падману рабочых, салдат, сялян склікае нараду, якую па-жульніцку называе «дэмакратычнай», і на гэтую смярдзючую прынаду клююць вядомыя бальшавікі, ідуць туды і ўдзельнічаюць у камедыі — хіба можна заставацца спакойным? Скажыце, калі ласка.

**Латука**. Вы выказвалі мне гэтыя думкі тры дні назад. Але мне здалося, што тады вы гаварылі больш спакойна. Я паспрабаваў, як

здолеў, выкласці іх у нашай газеце. Без ссылкі. Самую сутнасць. Я заняўся плагіятам... перапісаў вашы думкі. Прабачце...

**Ленін**. Вы правільна тлумачылі фінскаму чытачу ідэю байкоту Нарады і Прадпарламента. А паглядзіце, як гэта робіць орган бальшавіцкай партыі «Рабочий путь»! Я напісаў артыкул «Аб героях падману і аб памылках бальшавікоў». І што яны публікуюць! У якім абразным выглядзе. Сам загаловак... толькі — «Аб героях падлогу». І ні слова пра памылкі бальшавікоў... пра памылку Каменева і Зіноўева, якія цешацца сваімі ролямі ў гэтым свінушніку, які назвалі «прадпарламентам». Народ... рабочыя адразу ахрысцілі яго «предбанником». Трапна, праўда? Вельмі трапна! Там раздзяюцца героі падману перад тым, як прыемна пасцёбаць адзін аднаго венічкам. Але абурае мяне, не толькі, што апушчана ўся частка пра памылкі бальшавікоў. Хто рэдагаваў? Каменеў? Напэўна, ён. Ці Троцкі, вялікі майстра па часці рэдагавання марксізму. Вы глядзіце, як па-халуйску кланяюцца банапартысту Керанскаму і бандзе Ліберданаў — Цэрэтэлі! Я ўсё называў сваімі імёнамі, хлеў — хлевам, хамаў — хамамі. Я звяртаў вашу ўвагу на выступленне Заруднага. І вы правільна тады спыталі: хто ж ён — дурань ці хам, які здзекуецца з народа? І я пісаў: «Што хамы здольны весела рагатаць, калі «іх» міністр, які вызначаецца рэдкай наіўнасцю або рэдкай тупасцю, дакладвае ім, як Керанскі ганяе міністраў (каб за спіной народа і «без лішніх вачэй» дагаворвацца з карнілаўцамі), гэта натуральна. Што хлопцы маўчаць, калі «іх» міністр, які прыняў быццам бы ўсур'ёз усеагульныя фразы аб міры, які не зразумеў іх крывадушнасці, прызнаецца, што яму нават не адказвалі на пытанні аб рэальных кроках да міру, гэта нядзіўна».

І нехта гэта выкрэслівае! Падумайце! Хто? У рэдкалегіі ж Свярдлоў, Сталін... Не, таварыш Латука, я сёння ж пішу ЦК, што маё месца ў такі час у Петраградзе...

**Латука**. Такое пісьмо можна пасылаць толькі з вельмі надзейным сувязным.

**Ленін**. Я спадзяюся, што сёння, не пазней заўтра, такі чалавек прыедзе.

Далікатна пастукаўшы ў дзверы, уваходзіць Лююлі.

**Лююлі**. Прашу прабачыць, калі перашкодзіла. Запрашаю вас на перадабедзенны чай.

**Латука**. У маёй жонкі — англійскія манеры. Адкуль?

**Ленін**. Дзякую, Лююлі. Мы зараз жа будзем.

**Лююлі**. Вы, Канстанцін Пятровіч, акуратны чалавек. А фін Латука самы неакуратны ў свеце муж.

**Латука**. Жонка заўсёды крытыкуе мяне.

**Лююлі**. А хіба можна без крытыкі?

**Ленін**. Правільна. Без крытыкі нельга. А чай — з бруснічнікам?

**Лююлі**. З бруснічнікам.

**Ленін**. Якое гэта вынаходства — чай з бруснічнікам!

Лююлі выходзіць

Ну што ж, таварыш Латука, хадземце вып'ем чай. (Здымае фуражку. Адразу робіцца падобным на Леніна. Зашпільвае пінжак — рыхтуецца да чаю. Але, праходзячы каля стала, бярэ «Рабочий путь». Праглядае. Хмыкае. То незадаволена, то памяркоўна.) Нават маю крытыку Каменева знялі. За яго недарэчную пастаноўку смешнага пытання аб давер'і ці недавер'і ўрада. Яўна — карандаш самога Каменева. Абуральна! Добра, што хоць такое пакінулі. «Дзесяць пераканаtable салдат ці рабочых з адсталай фабрыкі варты ў тысячу разоў больш, чым сотня падтасаваных Ліберданамі дэлегатаў ад розных дэлегацый». Але без крытыкі памылак бальшавікоў павісае вельмі важнае ў даны момант тактычнае палажэнне: ісці ў масы, на заводы, у вайсковыя часці, а не займацца гаварыльняй. Сто трыццаць шэсць адукаваных бальшавікоў два тыдні сядзелі на нарадзе. А там хапіла б двух для сувязі (Зноў незадаволена хмыкае. Абураецца.) Якое нізкае ўгодніцтва! Знялі нават маё сатырычнае меркаванне, што мог бы запісаць у сваю кніжку Цэрэтэлі аб Зарудным. А ён, напэўна, запісаў бы: «Гэткі ёлуп, Зарудны! Такому дурню гной бы вазіць, а не міністрам быць. Абаронца кааліцыі, а рэжа яе горш сотні бальшавікоў. А гэта так! Члены Часовага ўрада не ўпершыню выдаюць свой крэцінізм.

**Латука**. Стыне чай, Канстанцін Пятровіч.

**Ленін**. Так, чай. З бруснічнікам. (Весела.) Хільдур мне сказала, што вы, Юхані, пішаце вершы.

**Латука** (збянтэжана). Яна нагаворыць...

**Ленін** (сур'ёзна). Напішыце оду бруснічніку. Аднак Лююлі чакае нас. Ах, які гэта цуд — чай з бруснічнікам!

Імкліва выходзіць. Латука акуратна складвае кінутую Леніным газету на стол. Пачціва, як каштоўнасць, бярэ з крэсла фуражку, вешае на ласіныя рогі. Ідзе следам.

### *4*

Ленін працуе. Голас Леніна — яго думка з важнейшай тэарэтычнай працы «Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу?». «У чым

згодны ўсе накірункі, ад «Речи» да «Новой жизни» уключна, ад кадэтаў-карнілаўцаў да паўбальшавікоў, усе, за выключэннем бальшавікоў. У тым, што бальшавікі адны або ніколі не адважацца ўзяць усю дзяржаўную ўладу ў свае рукі, або, калі адважацца і возьмуць, не здолеюць утрымаць яе нават на працягу самага кароткага часу!» «Я працягваю стаяць на тым пункце гледжання, што палітычная партыя ўвогуле — а партыя перадавога класа ў асаблівасці — не мела б права на існаванне, была б недастойна лічыцца партыяй, была б вартым жалю нулём ва ўсіх сэнсах, каб яна адмовілася ад улады, калі маецца магчымасць атрымаць уладу».

**Ленін** (паднімаецца з крэсла, размінае ногі). Тут дамо вытрымку з кадэцкай «Речи». Дзе яна? (Хутка знаходзіць газету ў невялікім стосе падрыхтаваных для працы газет.) Вось яна! Рэдакцыйная перадоўка. (Чытае.) «Рознагалосіца і разбор панавалі ў зале Александрыйскага тэатра, і сацыялістычная прэса адлюстроўвае тую ж карціну. Пэўнасцю і прамалінейнасцю вызначаецца толькі погляд бальшавікоў. У Нарадзе гэта погляд меншасці. У Саветах — гэта плынь, якая ўсё ўзмацняецца». Шчыра пішуць панове кадэты! Карысна чытаць буржуазную прэсу. Але ж у іх хапае назіральнасці і ні на грам няма палітычнай дальназоркасці. Не, і тут яны маюць рацыю, калі слухаюць Каменева. «Але, нягледзячы на ўвесь слоўны запас, на выхавальныя фразы, на дэманстрацыю самаўпэўненасці, бальшавікі, за выключэннем нямногіх фанатыкаў, храбрыя толькі на словах». Не, панове, такіх «фанатыкаў» вельмі многа — дзвесце сорак тысяч. І за імі масы! «Лепшым спосабам на доўгія гады вызваліцца ад бальшавізму, выкінуць яго, было б уручэнне яго правадырам лёсу краіны». (Смяецца.) Паспрабуйце, панове. Мы бяром адказнасць за лёс краіны. І вам пасля ніколі нас не звергнуць. Варта пазнаёміць чытачоў і з вывадамі «мілых сяброў» нашых — эсэраў. (Бярэ другую газету.) І яны нас палохаюць. Але іх ацэнка пазіцыі паўбальшавікоў вычарпальная. Вось. «І няхай яны не робяць бескарысных намаганняў схавацца за тэорыі, што хутка ствараюцца, аб немагчымасці ім узяць уладу». Гэта вам, Каменеў! Не ў брыво — у вока. Але яшчэ больш выразныя тыя, што сядзяць паміж двух крэслаў,— новажызненскія чвэрцьбальшавікі. Тут ужо сапраўды не палавінны набытак, а чацвяр- цінкавы. (Чытае з «Новой жизни».) «Аднак не лепшым, а яшчэ горшым выхадам са становішча, уласна не выхадам, а проста правалам,— было б утварэнне другога тыпу аднароднага кабінета, урада

«пралетарыяту і бяднейшага сялянства». Такі лозунг, праўда, нікім і не выстаўляецца, акрамя як у выпадковых, нясмелых заўвагах «Рабочего пути», якія сістэматычна пасля тлумачацца». Хлусня! І гэта пішуць сур'ёзныя публіцысты! Але і да іх трэба прыслухоўвацца і рабіць вывады. «Рабочий путь», які выразае з майго артыкула крытыку бальшавікоў, якія лезуць у прылазнік, не баявы орган рэвалюцыйнай партыі. Трэба дамагчыся, каб газета ўмела, вельмі ўмела, не выдаючы ворагу галоўнага, агітавала за паўстанне. Менш тэарэтычнага барматання!

Ленін садзіцца за стол, углыблена, хутка піша.

Голас Леніна — яго думка: «Саветы гнілі і разлагаліся жывымі пад кіраўніцтвам Лібераў, Данаў, Цэрэтэлі, Чарговых.

Развіцца сапраўдным чынам, разгарнуць поўнасцю свае задаткі і здольнасці Саветы могуць, толькі ўзяўшы ўсю дзяржаўную ўладу, бо інакш ім няма чаго рабіць, інакш яны або простыя зародкі (а занадта доўга зародкам быць нельга), або цацкі. «Двоеўладдзе» ёсць параліч Саветаў».

Уваходзіць Лююлі, насцярожаная.

**Лююлі**. Нейкі фін пытае, ці тут Іваноў.

**Ленін** (імкліва паднімаецца). Рах'я! Безумоўна, гэта ён. Нарэшце!

**Лююлі**. А калі шпіён?

**Ленін** (смяецца). На шпіёна ў нас ёсць рэвальвер. (Бачыць, што гаспадыня здзіўлена і ўстрывожана.) Не бойцеся. Я жартую.

Лююлі выходзіць. Уваходзіць Эйна Рах'я.

Уладзімір Ільіч радасна вітаецца з ім.

Як я рады, Эйна Абрамавіч, што вы прыехалі. Вы не ўяўляеце, як пакутліва чакаць. Тыдзень назад мне абяцалі, што прыедзе Шотман.

**Рах'я**. Шотман паехаў на Урал.

**Ленін**. Выдатна, што ёсць вы! Незамянімы канспіратар. Прывезлі рашэнне ЦК аб маім пераездзе ў Петраград?

**Рах'я**. Не, Уладзімір Ільіч.

**Ленін** (вельмі здзіўлена). Не?

**Рах'я**. Мяне паслала Надзежда Канстанцінаўна. Яна прасіла перадаць, што таварышы выказаліся супраць вашага прыезду ў Петраград.

**Ленін**. Хто так асцярожнічае?

**Рах'я**. Думаю, большасць. А можа, правільна, Уладзімір Ільіч? Нашы даведаліся, што начальнік Петраградскай міліцыі паўторна

паслаў тэлеграму аб неадкладным арышцe Ульянава-Леніна. Кажуць, што гэта загад самога Керанскага.

**Ленін**. Не, таварыш Рах'я. Няхай яны рассылаюць сто тэлеграм. А я ў такі час павінен быць у Петраградзе. Калі ЦК запярэчыць, няхай прышлюць мне пісьмовую пастанову. Тады я самайстойна прыму рашэнне. Так і перадайце Свярдлову. ЦК прыслаў адказ на маё пісьмо?

**Рах'я** (паціскае плячамі). Наконт гэтага Надзежда Канстанцінаўна нічога не казала. Але я сустракаўся з Сярго. Ён сказаў: перадай, калі ласка, Ільічу, што ў ЦК няма адзінадушнасці наконт галоўнага пытання, якое ён паставіў.

**Ленін** (абурана крочыць па пакоі). У іх няма адзінадушнасці аб узяцці ўлады бальшавікамі? Зноў апазіцыя? Каменева — Зіноўева — Троцкага? Так? А вы кажаце, што мне трэба заставацца ў Фінляндыі!

**Рах'я**. Сярго сказаў пра Троцкага. Ён лічыць, што трэба чакаць з'езда Саветаў, што пры цяперашніх суадносінах сіл у Саветах з'езд уручыць уладу бальшавікам.

**Ленін** (абурана). Не, вы падумайце, які ідыятызм! Троцкі лічыць, што яму паднясуць уладу на залатой талерцы. Не! Тысячы разоў не! Уладу можна ўзяць толькі ўзброеным паўстаннем! Калі мы гэтага не зробім на працягу бліжэйшых тыдняў, буржуазія рукамі Керанскага задушыць нас з такой жорсткасцю, якой яшчэ не знала сусветная гісторыя. Керанскі рыхтуецца. А што робім мы? Што робіць бальшавіцкі ЦК? У краіне расце сялянскае паўстанне. Пры ўрадзе эсэраў і меншавікоў! Але чаму здзіўляцца, калі пры нечуваных бедах, якія прычыняюць народу зацягваннем імперыялістычнай вайны, пачалося і разрастаецца сялянскае паўстанне? Зразумела само сабой, што калі ў сялянскай краіне пасля сямі месяцаў дэмакратычнай рэспублікі справа дайшла да сялянскага паўстання, то гэта неабвержна даказвае агульнанацыянальны крах рэвалюцыі, крызіс яе, падыход контррэвалюцыйных сіл да апошняй мяжы. Крызіс наспеў! Крызіс наспеў, дарагі таварыш Рах'я! А ў ЦК ёсць плынь, думка за чаканне з'езда Саветаў, супраць неадкладнага ўзяцця ўлады, супраць неадкладнага паўстання. Трэба перамагчы гэтую думку! Інакш бальшавікі зганьбяць сябе навекі і ператворацца ў нішто як партыя. Я чытаў: з'езд аднесены на 20 кастрычніка. Так?

**Рах'я**. Так. Ёсць рашэнне ЦВК.

**Ленін**. Рашэнне Лібераў, Данаў і Цэрэтэлі. Чакаць бальшавікам з'езда ёсць поўны ідыятызм, бо гэта значыць прапусціць тыдні, а

тыдні і нават дні рашаюць цяпер усё. Рашаюць лёс народа, краіны! Не ўзяць улады цяпер, балбатаць у ЦВК, абмежавацца барацьбой за з'езд — значыцца загубіць рэвалюцыю. І ў такі час ЦК пакідае нават без адказу маё патрабаванне не гаварыльняй займацца, а дзейнічаць. Цэнтральны орган выкрэслівае з маіх артыкулаў указанне на такія абуральныя памылкі бальшавікоў, як ганебнае рашэнне ўдзельнічаць у Прадпарламенце. Як я гэта павінен разумець? Як нежаданне ЦК абмеркаваць гэтае пытанне? Як намёк на зацісканне рота? Дзіўна, што Надзя не зразумела маўчанне ЦК. Але добра, што яна накіравала вас да мяне.' Сувязь... тэрміновая, надзейная мне патрэбна ў два бакі.

**Рах'я**. У які другі бок?

**Ленін**. У Гельсінгфорс. Эйна Абрамавіч! Зараз я папрашу Лююлі, каб яна напаіла вас чаем. Хоць вы і фін, але, запэўніваю вас, такога, чаю вы не пілі. Цудоўны дар фінскага лесу. А потым вы пагуляеце гадзіны дзве-тры. У вас знойдуцца справы, я ведаю. Схадзіце да матросаў. Абавязкова — да матросаў. Вам можна. А я за гэты час напішу два вельмі важныя пісьмы.

## *5*

На авансцэне — Ленін і Рах'я ў паставе людзей, калі адзін праводзіць другога ў дарогу.

**Ленін**. Абавязкова знайдзіце Смілгу і перадайце яму пісьмо. Гэта архіважна. Пакуль у Петраградзе прымаюцца рэзалюцыі, мы павінны дзейнічаць. У старшыні абласнога камітэта арміі, флоту, рабочых Фінляндыі вялікія магчымасці. Ён той член ЦК, які практычна можа рыхтаваць узброеныя сілы для звяржэння Керанскага. На той выпадак, калі пісьмо прыйдзецца знішчыць, перадайце вусна... Дарэчы, і Смілзе скажыце, каб пісьмо спаліў, азнаёміўшы з ім самых надзейных бальшавікоў. Перадайце галоўнае. Паездка Керанскага ў Магілёў у Стаўку — гэта яго змова з Аляксеевым, з карнілаўцамі, як задушыць рэвалюцыю. Яны рыхтуюць здачу Петраграда немцам, як здалі Рыгу. Чакаць нельга. Партыя павінна паставіць на парадак дня ўзброенае паўстанне. Гісторыя зрабіла карэнным палітычным пытаннем пытанне ваеннае.

**Рах'я.** Рабочыя разумеюць гэта. Атрады Чырвонай гвардыі патрабуюць зброі. У нас на заводзе...

**Ленін.** А некаторыя бальшавікі забываюць пра гэта, спадзяюцца, што змесці Керанскага можна словамі.

**Рах'я.** Я перапыніў вас, Уладзімір Ільіч. Прабачце.

**Ленін**. Галоўнае — аб ролі Смілгі, фінляндскага камітэта. Скажыце яму. Адзінае, што мы можам мець у сваіх руках і што мае сур'ёзную і вельмі сур'ёзную важную сілу,— гэта войскі, размешчаныя ў Фінляндыі, і Балтыйскі флот. Няхай ён выкарыстае сваё высокае становішча, зваліць з сябе на памочнікаў усю драбязу, не траціць час на рэзалюцыі, а ўсю ўвагу аддасць ваеннай, падкрэсліваю, ваеннай падрыхтоўцы войск і флоту. Стварыць тайны камітэт з надзейных ваенных! Сабраць дакладнейшыя даныя аб саставе і размяшчэнні войск пад Піцерам і ў Піцеры, аб пераводзе войск з Фінляндыі ў Піцер, аб перамяшчэнні флоту...

**Рах'я.** У фінскіх газетах многа пішуць аб вывадзе рускіх войск. Маўляў, з наступленнем восені небяспека нямецкага дэсанта знікае.

**Ленін**. Гэта хітры манеўр Керанскага. Я пішу пра гэта. Ні ў якім разе не дазволіць вываду войск з Фінляндыі! Ні ў якім! Гэта тая сіла, што будзе супрацьстаяць казакам, якіх Керанскі і Аляксееў хочуць рушыць на Піцер з Заходняга фронту. Дарэчы, пра казакаў. Керанскі і кампанія выводзіць іх з Выбарга, баючыся «бальшавізацыі».

**Рах'я**. Я назіраў сёння вывад палка. Спытаў куды. У Перк'ярві.

**Ленін.** Далей ад бальшавіцкіх прапагандыстаў — матросаў. Таму я і пішу Смілзе. Вывучыць усе звесткі аб размяшчэнні казахаў і паслаць да іх агітатарскія атрады з лепшых бальшавікоў.

**Рах'я**. Усё вы прадугледзелі, Уладзімір Ільіч.

**Ленін**. Дарагі Эйна! Яшчэ Маркс сказаў: да паўстання трэба адносіцца як да высокага майстэрства. Скажыце і Смілзе, і сваім таварышам у раённым Савеце, заводскім камітэце. Трэба пусціць у зварот такі лозунг: улада павінна неадкладна перайсці ў рукі Петраградскага Савета, які перадасць яе з'езду Саветаў. Няма чаго цярпець яшчэ тры тыдні вайны і «карнілаўскага наступлення» Керанскага.

**Рах'я**. Рабочыя гатовы выступіць хоць заўтра.

**Ленін**. Час мы выберам па законах ваеннага майстэрства. Я пішу Смілзе, што хачу сустрэцца з ім. Няхай прыедзе найхутчэй. Толькі няхай папросіць Ровіа пазваніць па тэлефоне сюды, у Выбарг, Хутанену. Я магу паехаць нечакана.

**Рах'я** (устрывожана). Уладзімір Ільіч! Я прашу: без мяне ў Піцер не ехаць. Так і Надзежда Канстанцінаўна прасіла. І Сярго сказаў.

**Ленін**. Без вас не паеду. Абяцаю. Але вяртайцеся хутчэй. Шчасліва вам.

**Рах'я.** Шчасліва вам, Уладзімір Ільіч. Холадна, а вы лёгка адзеты. Вяртайцеся. Латукі будуць хваляваца. Да пабачэння. (Моцна паціскаюць рукі.)

## *ЧАСТКА ДРУГАЯ*

### *6*

**Гісторык**. Крызіс наспеў. У Саветах большасць у бальшавікоў. Пралетарскія масы падтрымліваюць ленінскія лозунгі і заклікі. Ленін, нягледзячы на небяспеку, якая значна ўзрасла, арышту і нават забойства, нелегальна, з дапамогай Рах'я і машыніста Ялавы, і з тым жа пасведчаннем на імя Іванова, пераязджае з Выбарга ў Петраград.

Гісторыкі і дагэтуль спрачаюцца аб даце пераезду. Выходзіць, пры жыцці Крупскай, Рах'і, Шотмана, Фофанавай ніхто з нашага брата не паклапаціўся ўстанавіць дакладную дату. У дваццатыя гады, пасля смерці Ільіча, некаторыя з блізкіх Зіноўева і Троцкага «пусцілі версію», што Ленін вярнуўся толькі 22 кастрычніка, за тры дні да штурму Зімняга. Апублікаванне пратаколаў ЦК РСДРП абвергла гэтую ліпу. Дзесятага кастрычніка Ленін выступіў на пасяджэнні ЦК з двухгадзінным дакладам, у якім давёў неабходнасць узброенага паўстання. Неадкладна.

«Прамаруджванне смерці падобна». Члены Цэнтральнага Камітэта, частка з якіх праяўляла раўнадушнасць да паўстання, перакананыя логікай доказаў Стратэга Рэвалюцыі, прынялі Ленінскую Рэзалюцыю, якая заканчвалася словамі:

«Прызнаючы такім чынам, што ўзброенае паўстанне непазбежна і зусім наспела, ЦК прапануе ўсім арганізацыям партыі кіравацца гэтым і з гэтага пункту гледжання абмяркоўваць і вырашаць усе практычныя пытанні (з'езда Саветаў Паўночнай вобласці, вываду войск з Піцера, выступлення масквічоў і мінчан і г. д.)».

Супраць рэзалюцыі галасавала двое.

Падпольная кватэра Зіноўева на станцыі Удзельная, дзе яго са жніўня, з прыезду з Разліва, не маглі «адшукаць» агенты Керанскага. Зіноўеў і Каменеў. Гаспадар мерзне — ходзіць па пакоі ў накінутым кажушку. Каменеў апрануты па-летняму — у добрым касцюме і выглядае элегантным інтэлігентам. Зіноўеў спыняецца каля стала, заглядвае ў паперы, пацірае рукі — ад задавальнення ці холаду.

**Зіноўеў**. Не, Лёва, гэтым пісьмом я задаволены. Шкадую, што такой аргументацыі нам не хапіла на пасяджэнні ЦК. Няхай ЁН паспрабуе аспрэчыць.

**Каменеў**. Ён можа ўсё аспрэчыць. У яго віртуозная логіка. Часам, здаецца мне, парадаксальная.

**Зіноўеў**. О, не! У пытанні паўстання ў яго жалезная логіка. Што датычыць тэорыі. Але, седзячы тры месяцы ў Фінляндыі, ён адарваўся ад жыцця, не ўяўляе расстаноўку сіл на даным этапе рэвалюцыі. Ён што азартны ігрок — не можа спыніцца. Не можа ўзважыць сілы і магчымасці праціўнікаў.

**Каменеў**. Аднак пераканаць большасць ён умее. Растлумачце гэтую унікальную здольнасць яго. Сядзець недзе ў Фінляндыі і... сагітаваць сто трыццаць бальшавікоў пакінуць Прадпарламент. Але (з гонарам) не лічу сваім паражэннем, што я застаўся там адзін. Гісторыя ацэніць гэта.

**Зіноўеў**. Мы не выступаем перад гісторыяй, як нявесты на кірмашы. Але на свае месцы яна паставіць кожнага.

Каменеў. У вас пасіўная пазіцыя, Яўсей Аронавіч. Не яна паставіць.. Мы яе створым і зоймем месцы, якія нам належаць.

**Зіноўеў.** На жаль, так не заўсёды бывае. Гэтая цётка бывае і капрызнай і няўдзячнай.

**Каменеў**. Вы робіцеся песімістам.

**Зіноўеў**. Мяне страшыць безвыніковасць дыскусіі, якую мы пачалі. Леніна пераканаць немагчыма. (Нервова ходзіць па пакоі.) І астатнія... Жаданне схапіцца з ворагам — сляпое жаданне. Наркотык, які туманіць розум. Толькі мы з табой разумеем, што гэта палітычная авантура. Ленін тэарэтычна супраць бланкізму. А сённяшняя практыка яго — чысцейшы бланкізм.

**Каменеў** (ён, у супрацьлегласць песімістычнаму тону хаўрусніка, гаворыць весела, гулліва, як бы несур'ёзна, пра самыя сур'ёзныя рэчы). Усе яго памылкі — ад яго ідэі... як можна прыйсці да такой ідэі?.. Што пралетарская рэвалюцыя можа перамагчы ў адной краіне... У Расіі! Ха! Мяне гэта заўсёды забаўляе! Калі я гляджу на пралетарыяў, што ўмеюць лічыць да дзесяці... Калі ўяўляю, як у сацыялізм паедзе барадаты мужык на худой клячы, на возе з драўлянымі восямі і коламі, змазанымі бярозавым дзёгцем. У гэтай краіне ўсё бярозавае. Дубцы, якімі ўчора яшчэ секлі сённяшні перадавы клас...

**Зіноўеў**. І шыбеніцы, на якіх новы Карнілаў павесіць нас... калі падавяць паўстанне.

**Каменеў**. У вас сапраўды такі цяжкі настрой, Яўсей Аронавіч. Не паддавайцеся. Гэта ў вас ад доўгага сядзення ў падполлі. Выходзьце.

**Зіноўеў**. Каб сесці ў турму?..

**Каменеў.** Мы ж з Троцкім... два Львы (смяецца) пасядзелі па месяцу — і гэтым толькі узнялі сваю папулярнасць. Колькі гарачых прамоў сказалі ў Саветах і на заводах у нашу абарону! Керанскі мусіў даць задні ход. У Расіі сёння дэмакратыя вышэй французскай.

**Зіноўеў**. А Ленін імкнецца да ўлады адной партыі. Гэта ж — грамадзянская вайна. Патокі крыві. Ты ў сваёй кіпучай дзейнасці не задумваешся, што гэта такое. (Тэатральна хапаецца за галаву.) Жах! Узнімуцца ўсе цёмныя сілы. Пагромшчыкі. Дзікія дывізіі...

**Каменеў**. Я ваш аднадумец цалкам. Але не будзем палохаць сябе. Нешта доўга Троцкага няма.

**Зіноўеў**. Лёва не ўпершыню прымушае чакаць сябе.

**Каменеў**. Падпіша?

**Зіноўеў** (упэўнена). Падпіша.

Як кажуць, лёгкі на ўспамін, уваходзіць Троцкі, рухавы, вясёлы, распранае паліто, фуражку, характэрна кудлачыць бародку, здымае і працірае пенснэ. Пацірае рукі.

**Троцкі**. Цёпла ў вас. А на дварэ дождж. Піцерская восень. Доўгая і змрочная, як гісторыя Расіі. Калі ўзыдзе сонца сацыялізму? (Іранізуе.) Адзін Ленін ведае.

**Каменеў**. Доўга вы дабіраліся, Леў Давыдавіч.

**Троцкі**. Мне здалося, што я цягну «хвост», таму прыйшлося добра памясіць гразь.

**Зіноўеў**. Чаго вам баяцца?

**Троцкі**. Я ж не за сябе. За вас. І за Леніна.

**Зіноўеў** (незадаволена). Не іранізуйце, Леў Давыдавіч. Я не схільны да жартаў.

**Троцкі**. Дарэмна. Мы з вамі — сацыяльныя аптымісты. Хіба не так? Я сапраўды падумаў, што вы запрасілі ядро ЦК.

**Каменеў**. Каго вы лічыце ядром? Свярдлова? Сталіна? З імі кашы не зварыш. Ядро — гэта мы з вамі.

**Зіноўеў**. Мы запрасілі вас, каб пераканаць, на якую авантуру штурхае нас усіх Ленін. Мы напісалі пісьмо членам ЦК, Петраградскай, Маскоўскай, другім арганізацыям...

Падае лісткі машынапісу. Троцкі чытае, стоячы, удумліва, уважліва, хаця і хутка. Зіноўеў прылёг на канапу, гладзіць пад

кажушком хворую печань. Каменеў прытуліўся спінай да цёплай грубкі і мурлыкае, як кот, ад задавальнення.

**Троцкі** (уголас паўтарае асобныя фразы). «Усе тэрміны сышліся цяпер так, што, калі гаварыць пра такое паўстанне, яго прыйдзецца ўжо прама назначаць, і прытым на бліжэйшыя дні». (Каменціруе.) Правільна. Такой думкі большасць ЦК.

**Каменеў**. Пад націскам ленінскай логікі.

**Зіноўеў**. Не перашкаджай, Леў Барысавіч.

**Троцкі**. «Шанцы нашай партыі на выбарах ва Устаноўчы сход выдатныя»... Мда... Лагічна. Хоць, хоць... «Устаноўчы сход плюс Саветы — вось той камбінаваны тып дзяржаўных устаноў, да якога мы ідзём». Так. Але ці дойдзем? «...якім-небудзь непрадуманым выступленнем, якое ставіць увесь лёс рэвалюцыі ў залежнасць ад неадкладнага паўстання, пралетарская партыя штурхае дробную буржуазію ў абдымкі Мілюкова надоўга...» Надоўга — курсіў. Правільна. Мілюкоў з абдымкаў не выпусціць... Пераацэньваць сілы вельмі шкодна... І гэта праўда. «Калі мы зараз, паставіўшы ўсю ігру на карту, пацерпім паражэнне,— мы нанясём суровы ўдар і міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі...» Мы пахаваем яе! «...Пакуль выбар залежыць ад нас, мы можам і павінны цяпер абмежавацца абароннай пазіцыяй». Курсіў наш. Хм...

**Каменеў**. Не хмыкайце скептычна.

**Троцкі**. Я хмыкаю вельмі сур'ёзна. Які скепсіс! Гэта моцна сказана. І вельмі сур'ёзна. «Перад гісторыяй, перад міжнародным пралетарыятам, перад рускай рэвалюцыяй і расійскім рабочым класам мы не маем права ставіць цяпер на карту ўзброенага паўстання ўсё будучае». Вельмі сур'ёзна!

**Зіноўеў** (катэгарычна). Падпісваеце?

**Троцкі** (спакойна дачытвае да канца, уголас паўтарае апошнюю фразу). «Супраць гэтай згубнай палітыкі мы паднімаем голас перасцярогі». Харошае пісьмо.

**Каменеў**. Падпішыце!

**Троцкі**. Не. Не падпішу.

**Зіноўеў** (расчаравана). Чаму?

**Троцкі**. Я галасаваў пазаўчора за ленінскую рэзалюцыю.

**Зіноўеў** (зрываецца з канапы, кажушок валіцца на падлогу). Вы ніколі не былі дагматыкам! Вы ж творчы марксіст! Вы ж выказалі асобую думку, блізкую да нашай: чакаць з'езда Саветаў.

**Троцкі**. Але, чакаць з'езда! І з'езд уручыць уладу нам.

**Каменеў**. Геніяльна! Але вы забыліся, што вам адказаў Ленін. «І Керанскі на залатой талерцы паднясе вам уладу?» Ці не так вам здаецца?

**Троцкі**. Не, так не здаецца. Керанскі — хоча ён ці не хоча гэтага — як дэмакрат, падначаліцца большасці.

**Каменеў**. Нашаму галасаванню?!

**Зіноўеў**. Пакуль мы будзем паднімаць рукі, ён падніме армію, нямала ёсць часцей, верных ураду. Ён выкліча казакаў. І гэтая апора манархіі... пагромшчыкі, майце на ўвазе, перш за ўсё... раней, чым Сцяпанаву ці Антонаву, Джугашвілі, паказыча шаблямі нашы бародкі... Бранштэйна і Розенфельда...

**Троцкі**. Грыгорый, вы панікуеце. Вы не адышлі ад страху перад царскімі казакамі. Мы жывём пры самай шырокай дэмакратыі.

**Каменеў**. Так, калі не ваюем. Калі гаворым прамовы. Але як толькі прагучаць першыя стрэлы грамадзянскай вайны — ад дэмакратыі вашай застануцца рожкі ды ножкі. Вось ад чаго мы перасцерагаем сваім пісьмом.

**Зіноўеў**. Падпішаце?

**Троцкі**. Не.

**Зіноўеў** (са стоеным гневам). Вы здзіўляеце мяне, Леў Давыдавіч.

**Каменеў**. Вы забываеце, што папулярнасць вам стварылі мы.

**Троцкі**. Вы?! У каго? Папулярнасць у каго?

**Каменеў**. І ў пралетарыяце. І ў буржуазіі, калі хочаце. Кадэцкія, эсэраўскія, нават меншавіцкія газеты, пішучы, сур'ёзна ці з гумарам, пра магчымы бальшавіцкі ўрад, называюць яго ўрадам Троцкага і Леніна. Троцкага! На першым плане вы!

Троцкі. І ты лічыш, што гэта твая заслуга, Лёва? Памыляешся. Гэта жаданне разумных людзей, каб на чале ўрада быў я.

**Каменеў** (здзіўлена). А Ленін? Якую ролю вы адводзіце Леніну?

**Троцкі.** Леніна мы выберам старшынёй ЦВК. Ці старшынёй Устаноўчага сходу. Па французскім узоры.

**Зіноўеў**. Вы раздзялілі партфелі?! І, ап'янелыя гэтым, вы штурхаеце партыю на авантуру! Вы мяне здзіўляеце, Леў Давыдавіч. За кім вы ідзяце? За Леніным?

**Троцкі** (сур'ёзна). Я іду адзін.

**Каменеў**. Адзін? Як гэта разумець? (Разгублена.) А мы?

**Троцкі.** Я іду наперадзе сусветнага пралетарыяту.

**Зіноўеў** (глядзіць на Троцкага здзіўлена, але, бадай, пачціва). Прабачце, Леў Давыдавіч, што патурбавалі.

**Троцкі**. Я рады быў сустрэцца з вамі. (Бярэ са стала пісьмо, яшчэ раз праглядае, круціць галавой, пасміхаецца.) Уяўляю, які агонь адкрые па ім Ленін. Вялікі палеміст. Нават я так не ўмею. Але пісьму давайце ход. Подпісы такіх вядомых рэвалюцыянераў прымусяць шмат каго задумацца над доказамі, што бальшавікі ўтрымаюць уладу. Узяць можна. Утрымаць — во звышзадача. Поспехаў вам. (Зіноўеву.) Траўку папіце, траўку. Маці мая лячыла нас, дзяцей і работнікаў маёнтка, стэпавымі травамі. О, якая гэта была жанчына! Гатовая сацыялістка. А бацька — эксплуататар. Новы памешчык. І ведаеце, яны добра ўжываліся. Яны любілі адно аднаго. Бывайце. Мне яшчэ выступаць у Нарвскім Савеце. А рамізнікаў няма. Авёс з'елі людзі.

( Выходзіць.)

**Каменеў** (узлавана). Лезе ў Напалеоны.

**Зіноўеў** (нацягвае кажух, адказвае не адразу, задумліва). Напалеон, кажаце? Няхай будзе наш сацыял-дэмакратычны Напалеон. Мы павінны памагчы Лёве стаць ім.

## *7*

**Гісторык**. На пасяджэнні ЦК 16 кастрычніка Зіноўеў і Каменеў зноў выступілі супраць рашэння аб узброеным паўстанні, прынятым дзесятага абсалютнай большасцю галасоў, акрамя іх. Леніну зноў прыйшлося выступаць многа разоў, каб разбіць аргументы баязліўцаў ды і растлумачыць становішча ў краіне і марксісцкае вызначэнне паўстання як майстэрства,— некаторым з тых прысутных, што хісталіся і дакладвалі аб сітуацыях на месцах не аб'ектыўна, а залежна ад свайго настрою і ўплываў поглядаў песімістаў. Зіноўеў і Каменеў збівалі людзей з панталыку. Леніну было цяжка. Пасяджэнне было пашыранае, на ім акрамя членаў ЦК прысутнічалі прадстаўнікі раёнаў Петраграда, Масквы, флоту, Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Не наспеў час выдаваць усе дэталі паўстання, але апаненты вымушалі на гэта.

У размове адзін на адзін Зіноўеў паабяцаў Леніну не размнажаць і не рассылаць шырока яго з Каменевым пісьмо. Але ў канцы пасяджэння, якое скончылася ў шэсць гадзін раніцы, Бокій і Калінін перадалі Леніну лісткі пісьма Зіноўева — Каменева, якія ім сунулі людзі Каменева.

Адпачыўшы гадзіны дзве-тры, Ленін сеў за «Пісьмо да таварышаў». Больш за трыццаць старонак незвычайнага па глыбіні тэарэтычнай думкі тэксту. Два дні нечалавечай па напружанасці

працы. Каменя на камені не застаецца ад патуг абываценяў, якія спалохаліся выступлення пралетарыяту, якія, груба кажучы, баяліся за свае шкуры.

**Ленін** (за рабочым сталом. Узлёт яго думкі перадаецца і ўсёй паставай і словамі, якія кладуцца на паперу).
«Довады, з якімі выступалі гэтыя таварышы, да таго слабыя, гэтыя довады з'яўляюцца такім здзіўляючым праяўленнем збянтэжанасці, запалоханасці і краху ўсіх асноўных ідэй бальшавізму і рэвалюцыйна-пралетарскага інтэрнацыяналізму, што нялёгка падшукаць тлумачэнне такім ганебным хістанням. Але факт у наяўнасці, і паколькі рэвалюцыйная партыя цярпець хістанняў па такім сур'ёзным пытанні не мае права, паколькі пэўную смуту гэтая парачка таварышаў, растраціўшых свае прынцыпы, унесці можа, то неабходна разгледзець іх довады, ускрыць іх хістанні, паказаць, наколькі яны ганебныя».

**Ленін** (адрываецца ад пісання, заглядвае ў лісткі). Які ж ваш першы довад, на якім я спыніўся? «У нас няма большасці ў народзе...» Панове, вы або ашуканцы, шулеры, што тасуюць карты, або педанты, якія хочуць, не лічачыся з рэальнай абстаноўкай, атрымаць гарантыі, што ва ўсёй Расіі бальшавікі маюць роўненька палавіну галасоў плюс адзін. Не, бальшавікі маюць большасць у шмат якіх Саветах. У Піцеры — што самае важнае. У Маскве... Гэта дакажам! І зробім вывад. А ён адзіны. Пакуль эсэраўска-меншавіцкія здраднікі народа бурчаць, пагражаюць, пішуць рэзалюцыі, абяцаюць накарміць галодных склікannем Устаноўчага сходу, народ па-бальшавіцку — падкрэслім гэта — прыступіць да вырашэння пытання аб хлебе паўстаннем — толькі паўстаннем! — супраць памешчыкаў, капіталістаў і скупшчыкаў. Толькі так, панове хліпакі! (Выходзіць з-за стала, праходзіць па пакоі. Смяецца сваёй думцы.) А хораша вам, Зіноўеў, адказаў Скрыпнік на ваша сцвярджэнне, што Саветы павінны быць рэвальверам, прыстаўленым да віска ўрада. «Рэвальвер без кулі?» — спытаў наш украінскі таварыш і выклікаў смех. Так і запісаць! Калі рэвальвер без кулі, то гэта прамы пераход да Лібердаў, якія тысячу разоў абвяшчалі Саветы «рэвальверам» і тысячы разоў падманвалі народ, бо Саветы пры іх панаванні былі нулём. Вынікі доказу: «Або пераход да Лібердаў і адкрытая адмова ад лозунга «Уся ўлада Саветам», або паўстанне. Сярэдзіны няма!»

**Ленін** (зноў паглыблены ў працу. Гучаць яго бессмяротныя словы). «Альбо скласці непатрэбныя рукі на пустых грудзях і чакаць, кленучыся «верай» ва Устаноўчы сход, пакуль Радзянка і

К[0] здадуць Піцер і задушаць рэвалюцыю,— альбо паўстанне. Сярэдзіны няма...» «Ці ад таго, што мы, бальшавікі, абвясцім веру ў скліканне Устаноўчага сходу, ад гэтага голад згодзіцца пачакаць?» (Адрываецца ад паперы, заглядвае ў лісткі апанентаў, злосна ляпае па іх, абурана.) А гэта ўжо чорт ведае што! Дзіцячае разважанне! Каб карнілаўцы пачалі яшчэ раз, во тады мы паказалі б ім. А пачынаць самім — навошта рызыкаваць! Ах, як пераканаўча! Як рэвалюцыйна! Смех! А калі карнілаўцы другога прызыву навучыліся сяму-таму? Калі яны дачакаюцца галодных бунтаў, прарыву фронту, здачы Піцера, не пачынаючы да таго часу? Што тады?
Ленін засяроджана запісвае свае думкі. У іх усё істотна. Але ёсць ударныя акорды, якія гучаць з асаблівай сілай.

Акорд тэзіса дзесятага: «Прамаруджванне ў паўстанні смерці падобна — вось што трэба адказаць тым, хто мае сумную «мужнасць» глядзець на рост разрухі, на блізкасць голаду і адгаворваць рабочых ад паўстання (гэта значыць раім ім пачакаць, яшчэ пакласціся на буржуазію)». (Ленін зноў чытае лісткі, смяецца.)

А гэта ўжо з «Сатырыкона». Пра такое ў народзе кажуць: адзін дурань можа ў дзесяць разоў больш задаць пытанняў, чым дзесяць мудрацоў здольны адказаць.

Што будзе, калі мы возьмем уладу, а не атрымаем ні перамір'я, ні міру? Атрымаем! Не хвалюйцеся, панове! Прапанаваны намі дэмакратычны мір могуць не прыняць некаторыя ўрады, але народы прымуць усё!

Аб ваеннай змове... Марксізм вельмі глыбокае і рознабаковае вучэнне. І я не здзіўляюся, што ўрыўкі цытат з Маркса заўсёды сустракаеш сярод довадаў тых, хто рве з марксізмам. Вы, панове, парвалі з марксізмам, калі не разумееце розніцы паміж мастацтвам узброенага паўстання і ваеннай змовай, вартай асуджэння. Любезныя таксама марксісты! Праспявайце нам супраць «ваеннай змовы».

**Гісторык**. Калі «Пісьмо да таварышаў» было напісана, позна ўвечары Ленін атрымаў меншавіцкую газету «Новая жизнь», у якой прачытаў, што па горадзе ходзіць лісток, у якім два вядомыя бальшавікі выказваюцца супраць паўстання. Дык вось яна цана зіноўеўскага абяцання! Раскольнікі не спыняюцца.

І Ленін піша »Пасляслоўе» да «Пісьма да таварышаў», у якім кажа, што пісьмо «пісалася не для друку, а толькі для гутаркі з членамі партыі па перапісцы». Але, калі агітуюць супраць паўстання, тады маўчаць нельга. Трэба агітаваць і за паўстанне!

«...Я прашу таварышаў, у рукі якіх гэтае пісьмо не можа трапіць раней паўдня ў сераду, надрукаваць яго, як мага хутчэй».

Пісьмо было надрукавана ў «Рабочем пути» 19, 20, 21 кастрычніка — за тры дні да пачатку Вялікай сацыялістычнай рэвалюцыі. Нашчадкі могуць уявіць яго ўздзеянне на рабочых і салдат Расіі! Ленін вельмі ўсхваляваны ходзіць па пакоі, у нерашучасці спыняецца перад дзвярамі, як бы не адважваецца адчыніць іх. Але, падумаўшы, шырока адчыняе.

**Ленін** (кліча). Маргарыта Васільеўна!

Уваходзіць гаспадыня кватэры Ф о ф а н а в а.

Я прашу прабачыць, але сярод тых газет, якія вы прынеслі, няма «Новой жизни».

**Фофанава**. Больш за ўсё вы лаеце гэтую газету, больш чым «Біржайку».

**Ленін**. Гэта паўменшавіцкая базарная баба. Але таму, што яна баба і таму, што базарная, да таго ж чартоўскі беспрынцыпная — пазаўчора новажызненцы галасавалі за бальшавікоў, учора за меншавікоў, заўтра... можа, за Керанскага і Радзянку — менавіта ў сілу гэтага хістання яна часам выкрывае сакрэты. І Керанскага, і нашы. На жаль, і нашы, бо знайшліся людзі...

**Фофанава**. Позна, Уладзімір Ільіч. Дзе дастаць? Навокал жывуць рабочыя. Наўрад ці выпісвае хто-небудзь «Новую жизнь».

**Ленін** (заклапочана). Мне вельмі патрэбны гэты нумар газеты. Мне пазванілі, што ў ёй выступілі Каменеў і Зіноўеў. Гнюсна выступілі. Я пішу пісьмо ЦК.

**Фофанава** (спалохана). Уладзімір Ільіч! І Свярдлоў і Надзежда Канстанцінаўна прасілі вас не падыходзіць да тэлефона. Я прашу...

**Ленін.** Не бойцеся. Я не падвяду вас.

**Фофанава**. Прабачце, я не тое сказала. Газету я вам дастану. Зараз жа. Ёсць тут сусед, які заўсёды чытае яе.

Выходзіць. Ляпаюць дзверы. Праз колькі хвілін — умоўны стук у дзверы.

Ленін прыслухоўваецца. Пазнае. Ідзе адчыняць. Вяртаецца з Рах'я.

**Ленін**. Выдатна, што вы прыйшлі сёння, Эйна Абрамавіч!

**Рах'я**. Зноў кудысь ісці? У такі час?Наляцім мы з вамі на шпікаў.

**Ленін**. З вамі не наляцім. Вы — народжаны канспіратар. І разведчык. Палітычны. Сёння вы мне патрэбны як разведчык. Пазаўчарашнія справаздачы з месц на пасяджэнні ЦК аб становішчы ў раёнах не задаволілі мяне. Уражанне такое: мы лепш ведаем сілы

праціўніка, чым уласныя. Што на заводах? Які настрой? Бокій дакладваў: на Васільеўскім востраве баявога настрою няма. І ў Охценскім дрэнна. Так гэта?

**Рах'я**. За Охту — не скажу. А наконт Васілеўскага ў мяне думка іншая. Там — лепшыя чырвонагвардзейскія дружыны. І вучацца па-армейску.

**Ленін**. Што значыцца — па-армейску? Вучацца пазіцыйнай вайне? Не тое гэта, таварыш Рах'я, не тое. Трэба вучыць вулічным баям. Майстэрству паўстання. Наладзіце мне заўтра сустрэчу з кіраўнікамі Ваенкі. Трэба паслухаць іх... не на шырокім партыйным сходзе, як пазаўчора. Дзе яшчэ ўдалося вам пабываць?

**Рах'я**. Больш за ўсё парадавалі мае, сестрарэцкія. У рабочых баявы дух. І зброя ёсць. Дзе толькі здабылі столькі зброі! Кулямёты. Марціра нават. Яны гатовы выступіць хоць заўтра.

**Ленін**. Не, заўтра рана.

**Рах'я**. У пуцілаўцаў нібыта ўсё добра. Ёсць атрады, ёсць зброя. Але...

**Ленін**. Што — «але»?

**Рах'я**. Муціць там нехта ваду.

**Ленін**. Эсэры?

**Рах'я**. Не толькі. Тых ведаюць і неаднойчы зганялі з трыбуны. З'явіліся анархісты. Іграюць на голадзе. Крычаць: буржуазія схавала прадукты. Заклікаюць зрабіць узброеную рэвізію складаў і падвалаў.

**Ленін** (усхвалявана). Вы заўважылі вельмі істотную правакацыю буржуазіі. Штурхнуць несвядомую частку рабочых на пагромы, на рабаўніцтва вінных скляпоў. І скампраметаваць паўстанне, скампраметаваць рабочых, даць козыр Керанскаму. (Падыходзіць да стала, робіць нататкі.) Кінуць лепшыя партыйныя сілы! Развянчаць анархістаў! Нейтралізаваць! Што ў Маскоўскім раёне? Што значыцца «настрой бесшабашны? Выйдуць па закліку Савета, а не партыі». Так сказаў Бокій. Якога Савета? ЦВК, дзе ўсё яшчэ верхаводзяць згоднікі і абывацелі? Чарновы, Цэрэтэлі ды наш блытанік Каменеў, які баіцца паўстання як чорт ладану? Вы не ўяўляеце, на што яны пайшлі, ён і Зіноўеў. Але пра гэта пасля. Такі ЦВК не дасць кліч да паўстання. З'езд? Хто працягвае ідэю Троцкага? Сам ён часта выступае перад рабочымі?

**Рах'я**. Часта. І яго слухаюць. Ён — з гаваруноў.

**Ленін**. Та-ак... Выходзіць, гэты праводзіць сваю ідэю інакш, чым Каменеў. Трэба паслаць і да васільеўцаў надзейных бальшавікоў. Аднаго з членаў ваенна-рэвалюцыйнага цэнтра. Каго? Ста-

ліна? Не. Лепш Бубнова. Я напішу Свярдлову. (Запісвае коратка думку для памяці.) Дзе яшчэ ўдалося вам пабыць?

**Рах'я**. Кароткі дзень, Уладзімір Ільіч.

**Ленін**. Кароткі? Насуперак прыродзе падоўжым яго. У мяне таксама дзень кароткі. Але я падаўжаю яго. Шкада — часта выключаюць электрычнасць і прыходзіцца карыстацца газоўкай. Ад яе баліць галава. Але гэта дробязь. Якая ваша агульная думка аб настроі мас?

**Рах'я**. У цэлым настрой баявы. Масы гатовы да паўстання. Чакаюць лозунга і зброі. Каб хапала зброі, рабочыя былі б ужо на вуліцах, бо наступленне голаду і контррэвалюцыі ўжо ідзе. Яго не трэба чакаць. Песімізму няма, як казалі некаторыя пазаўчора. Ёсць іншае, Уладзімір Ільіч,— страта даверу да кіраўнікоў. Рабочыя... У Сестрарэцку, ва ўсякім разе... лічаць, што слоў многа, а спраў мала... Патрабуюць баявога лозунга.

**Ленін**. Калі так лічаць рабочыя — сігнал, варты ўвагі. Але калі крычыць Каменеў, што за тыдзень ЦК нічога не зрабіў — гэта беспардонная дэмагогія і паклёп на таварышаў. Нічога не зрабіў Каменеў, бо нічога і не хоча рабіць. Ён здольны выдаць ворагу тайну. А мы зрабілі нямала. Але што ў пэўнай часткі кіраўнікоў ёсць разгубленасць — гэта рабочыя правільна адчулі. Мяне таксама ўстрывожылі некаторыя пазаўчарашнія справаздачы з месц. Калі Шляпнікаў заяўляе, што чуткі аб бальшавіцкім паўстанні выклікалі ў металістаў паніку,— я гэтаму не паверыў. Вы верыце?

**Рах'я**. Не. Металісты — баявы народ.

**Ленін**. Наведайце вы металістаў. Як мне хочацца асабіста выступіць перад рабочымі!

**Рах'я**. Вам нельга.

**Ленін**. У тым і бяда, што нельга. Керанскі думае, што загнаў мяне ў бярлогу.

**Рах'я**. Не думае ён так. Інакш не аддаваў бы чацвёрты раз загад аб вашым арышце. Усе сілы падключыў. Армейскія часці...

**Ленін** (смяецца). Палкі і дывізіі — на аднаго «двараніна Ульянава»? Вы заўважылі, як націскаюць кадэцкія і эсэраўскія газеты на тое, што Ульянаў — дваранін? Гэта ход. Не выйшла з нямецкім шпіёнам — паспрабуем з дваранінам. Хіба не варта смеху?

**Рах'я**. Рабочыя цяпер ведаюць, хто ёсць хто. Вы паслухалі б, якія частушкі сачыняюць пра «важдзей народа» ліберданаў і чарновых. Не смею паўтарыць.

Уваходзіць Фофанава.

**Фофанава**. Калі ласка, Уладзімір Ільіч, «Новая жизнь».

**Ленін** (нецярпліва бярэ газету). Дзякую, Маргарыта Васільеўна. Колькі я задаю вам клопатаў!

**Фофанава**. Што вы!

**Ленін**. Але гэта не дзеля мяне. Дзеля рэвалюцыі.

**Фофанава**. На дварэ добра падмарозіла. Не холадна вам?

**Ленін** (ён ужо ўглыбіўся ў газету). Не. Нічога.

**Рах’я**. Не, Рыта. Халаднавата.

**Фофанава**. Я запалю печку. (Уздыхае.)

**Рах’я** (разумее гаспадыню). Я прывязу вам дровы.

**Фофанава** (радасна). Добрую справу ты зробіш, Эйна. (Выходзіць.)

Ленін чытае — твар яго робіцца суровым, гнеўным.

**Ленін** (абурана камечыць газету, кідае на падлогу, але тут жа паднімае, размахвае ёю, шпарка ходзячы з кутка ў куток). Якая подласць! Якая подласць! Гнусная здрада! Перабежка ў стан ворага! На фронце за такое расстрэльваюць! Не, вы пачытайце, таварыш Рах'я! Пачытайце! (Працягвае газету.) Паглядзіце на іх нізасць! Адшчапенцы! Спалоханыя абывацелі! Унікніце, што яны зрабілі! З верасня ў партыі абмяркоўваецца пытанне аб узброеным паўстанні. У легальнай газеце. Тэарэтычна. Каб падрыхтаваць партыйныя кадры, масы да неабходнасці ўзяць уладу, да пераканананасці, што бальшавікі могуць утрымаць уладу. Да разумення таго, што паўстанне — гэта не стыхійнае выступленне, гэта мастацтва, майстэрства. Тады Зіноўеў ляжаў у сваім «падполлі» на дыване і... маўчаў. А Каменеў краса- моўнічаў у ЦВК у кампаніі Ліберданаў ці выбіваў сабе месца ў Прадпарламенце, створаным Керанскім і кампаніяй для зману народа. А цяпер, калі ЦК абсалютнай большасцю галасоў, за выключэннем іх двух, прынімае рэзалюцыю аб узброеным паўстанні, якую мы павінны трымаць у тайне ад урада, ад буржуазіі, двое членаў ЦК выдаюць наш план ворагу. Глядзіце, што заяўляе Каменеў ад сябе і ад Зіноўева: «Не толькі я і таварыш Зіноўеў... (каму таварыш?), але і шэраг таварышаў — практыкаў (якіх практыкаў?) знаходзяць, што ўзяць на сябе ініцыятыву ўзброенага паўстання ў сучасны момант, пры цяперашніх суадносінах грамадскіх сіл, незалежна (ад каго? Ад Керанскага?) і за некалькі дзён... за некалькі дзён (падумайце!) да з'езда Саветаў было б недапушчальным, гібельным для пралетарыяту і рэвалюцыі крокам». Хіба не выдача планаў ворагу? Хіба не поўны састаў штрэйкбрэхерства! Зіноўеў і Каменеў пайшлі супраць ЦК. І я пішу... Я напісаў, як толькі мне перадалі па тэлефоне змест іх выступлення... «Я лічыў бы ганьбаю для сябе, ка-

лі б з-за ранейшай блізкасці да гэтых былых таварышаў я пачаў хістацца ў асуджэнні іх. Я гавару прама, што таварышамі іх абодвух больш не лічу і ўсімі сіламі і перад ЦК і перад з'ездам буду змагацца за выключэнне абодвух з партыі». Толькі так, таварыш Рах'я! Толькі так! Французы гавораць: здраднікам можа стаць толькі свой чалавек. Калі ж да таго здраднік займае «віднае месца, тым больш абавязкова гнаць яго прэч. Вы згодны?

**Рах'я**. Цалкам згодзен, Уладзімір Ільіч.

**Ленін**. Цяжка вымераць адразу шкоду, якую штрэйкбрэхеры нанеслі партыі, планам паўстання. Шкода вялікая. Але мы не адступім. Здраду трэба нейтралізаваць. Ворага перахітрыць. Абавязкова мая сустрэча з членамі В РК! Але з вузкім колам. Канкрэтна: Падвойскі, Антонаў, Неўскі. Падбярыце надзейнае месца. У Смольным мне нельга. Людзі тыпу Каменева могуць выдаць і мяне.

**Рах'я**. Я падумаў ужо пра такую кватэру. Тут. Побач. У рабочага Паўлава.

**Ленін**. Выдатна, і яшчэ просьба. Я не скончыў пісьмо да членаў ЦК партыі... Зараз я скончу яго. Зайдзіце раніцою да Надзежды Канстанцінаўны... толькі як мага раней... яна рана ўстае і ідзе ў райком... каб заўтра яна прыслала надзейнага чалавека для сувязі з ЦК, са Свярдловым. Магчыма, мне прыйдзецца пісаць не адно пісьмо.

**Рах'я**. Усё зраблю, Уладзімір Ільіч. Спакойнай вам ночы. Хоць які спакой! Адчуваю: не будзе ў вас ночы.

**Ленін**. Не будзе... Але... Надзі пра гэта не гаварыце. І Маняшы... Марыі Ільінічне. Вам добрай ночы.

Паціскае госцю руку на развітанне. Ленін за сталом.

Гучаць, як заключны акорд, радкі яго пісьма: «Цяжкі час. Цяжкая задача. Цяжкая здрада. І ўсё ж такі задача будзе вырашана, рабочыя згуртуюцца, сялянскае паўстанне і крайняя нецярплівасць салдат на фронце зробяць сваю справу! Цясней згуртуем рады,— пралетарыят павінен перамагчы!»

## *8*

Ленін і Рах'я на кватэры ў Паўлава. Ленін загрыміраваны пад старога настаўніка ці букініста: сівы парык, чужая барада, зашмальцаваны сурдут. Яны стаяць ля акна, углядаюцца ў вуліцу.

**Ленін**. Дык, кажаце, масты пад надзейнай аховай юнкераў?

**Рах'я**. Так, і Неўскі паўпусты.

**Ленін**. Керанскі і абываценлі, напалоханыя буржуазнымі газетамі, чакалі нашага выступлення сёння,— у дзень адкрыцця з'езда. І мы мусілі былі выступіць да з'езда. Але ці былі мы гатовыя ў ваенным плане? А тут яшчэ подлая здрада штрэйкбрэхераў. ЦК праяўляе лібералізм і адцягвае іх выключэнне.

**Рах'я**. Учора я заглядваў у рэдакцыю. Зіноўеў публікуе ў «Рабочем пути» пісьмо. Заяўляе, што ў палеміку не ўступае і што яго погляды на спрэчныя пытанні далёкія ад тых, якія аспрэчвае таварыш Ленін.

**Ленін**. Фарысейства! Чарговы спалох абываценля.

**Рах'я**. І ёсць прыпіска ад рэдакцыі... Наборшчыкі сказалі, што яе напісаў Сталін. Маўляў, гэтай заявай Зіноўева і Каменева ў Савеце пытанне можна лічыць вычарпаным.

**Ленін**. Лёгка яны вычэрпваюць галоўнейшае пытанне стратэгіі.

**Рах'я**. Сталін піша, што рэзкасць тону артыкула таварыша Леніна не мяняе таго, што ў асноўным мы застаёмся аднадумцамі.

**Ленін**. Тыповы ўзор беспрынцыповасці! З боку Сталіна. Хто з кім аднадумцы? Я не магу быць аднадумцам з Каменевым. Шкада, што мне яшчэ не прынеслі сённяшняга нумара. (Дастае з камізэлькі гадзіннік.) Аднак ваенныя нашы затрымліваюцца. А час ляціць. Часу мала. У нас катастрафічна мала часу... да перамогі рэвалюцыі.

**Рах'я** (узіраецца ў акно, амаль спалохана). Што яны робяць?

**Ленін**. Хто?

**Рах'я**. Ваенныя. Яны падкацілі на аўтамабілі. Канспіратары, называюцца!

**Ленін** (зазірае ў акно, пацірае рукі). А знаеце, таварыш Рах'я, гэта ж выдатна, што нашы савецкія генералы ездзяць па Піцеры на аўтамабілі. (Смяецца.) Пад вокнамі ў Керанскага. Факт, што ўрад выпускае дух. Хто можа спыніць прадстаўнікоў Савета? І пралетарыят павінен, як мага хутчэй, выкарыстаць разгубленасць урада. Пакуль Керанскі не сабраў сілы.

Уваходзяць Падвойскі, Антонаў-Аўсеенка, Неўскі. Пытаюць у Рах'і, якога добра ведаюць:

— Ільіча няма яшчэ?

Ленін здымае парык. Прадстаўнікі ВРК здзіўленыя і ўзрадаваныя.

— Уладзімір Ільіч!

— Добры дзень, Уладзімір Ільіч!

**Антонаў**. Сорамна, што мы не пазналі вас. Ужо прабачце.

**Ленін**. Дрэнны з мяне быў бы канспіратар, каб вы адразу пазналі. Жыццё навучыла. Аднак за справу, таварышы. Не будзем траціць часу. Яго ў нас мала. Вельмі мала. Прашу.
Усе садзяцца вакол стала. Рах’я выходзіць — яму належыць ахоўваць правадыра. Падвойскі дастае з планшэта і раскладвае на стале планы Петраграда.

Ленін глядзіць план і разгортвае свой.

У мяне больш падрабязны. Прашу адзначыць на сваім узгодненыя пункты. Я — на сваім. Умоўна. Каб разумелі мы з вамі, больш ніхто. Першае пытанне ваенна-палітычнае. Якая абстаноўка сёння у горадзе — на думку Генеральнага штаба?

**Неўскі**. Якога?

**Ленін**. Рэвалюцыйнага. Вы — Генеральны штаб паўстанцкіх сіл. Толькі так я вас разумею, з разуменнем гэтай вашай ролі буду мець размову з вамі.

**Падвойскі**. Для Генштаба нам шмат чаго не хапае. Ленін. Чаго? Будынка? Хутка вы зоймеце яго. Антонаў. Ваеннай адукацыі.

**Ленін**. Вы атрымаеце яе ў рэвалюцыі. Дык што ў горадзе? Я не маю магчымасці праехаць на машыне. Хаджу па завулках. З барадой антыквара.

**Антонаў**. Керанскі яўна нервуецца. Але і насцярожаны. На вуліцах юнкеры. І казакі.

**Неўскі**. Урад чакаў нашага выступлення ў дзень з'езда.

**Ленін**. Безумоўна, рыхтаваўся. Асабліва пасля таго, калі два штрэйкбрэхеры выдалі яму план паўстання.

**Падвойскі**. Так, Керанскі баяўся. Недарэмна ён мусіў прасіць ЦВК перанесці дату адкрыцця з'езда на дваццаць пятае.

**Антонаў**. Контррэвалюцыя хоча выйграць час, каб падрыхтавацца.

**Ленін**. Вось іменна — каб падрыхтавацца. Але час павінен працаваць на нас. Мы павінны выкарыстаць яго. Скажыце шчыра: гатовы ўзброеныя сілы рэвалюцыі выступіць сёння?

**Неўскі**. Не, Уладзімір Ільіч.

Падвойскі. Усё залежыць ад сітуацыі. Каб урад пачаў выводзіць войскі з Петраграда на фронт, гэта магло б стаць прычынай узрыву. Гарнізон паўстаў бы. Каб аб'яднаць нашы сілы, падрыхтавацца як мае быць, нам бы яшчэ дзянькоў дзесяць, Уладзімір Ільіч.

**Ленін**. Таварыш Падвойскі! У нас няма і пяці дзён! Была б марнай тратай часу, энергіі і сілы бясплодная дыскусія з эсэрамі і меншавікамі на з'ездзе, падлікі галасоў, як таго патрабуе Троцкі.

Партыя павінна ўзяць уладу і ўручыць яе з'езду для ўтварэння Савецкага ўрада, прыняцця дэкларацыі аб міры і зямлі.

**Антонаў**. Значыць, выступаем да з'езда?

**Ленін**. Абавязкова да з'езда.

**Падвойскі**. Калі? Засталося чатыры дні.

**Ленін.** ЦК назначыць дзень. Але падказаць час павінны вы. Вы — наш Генеральны штаб. Паўстанне — майстэрства. Высокае майстэрства. Мастацтва. Як і добра падрыхтаванае наступленне на фронце, яно павінна быць нечаканым для ворага. Найвышэйшая арганізацыя! Ніякіх стыхійных выступленняў!

**Антонаў**. Мяне асабліва трывожыць нядзеля, дваццаць другое. ЦВК абвясціла яго днём Саветаў. Даклады, канцэрты, маніфестацыі. Мірныя. А ўрад назначыў хрэсны ход казакаў да Казанскай Багамацеры для асвячэння зброі. Не хітрасць гэта? А калі не хітрасць, то ўсё роўна магчымы стыхійныя сутычкі, яшчэ невядома, у што яны перарастуць. Як у ліпені.

**Ленін** (задумваецца). Паўтарэнне ліпеня — гэта смерць рэвалюцыі. Уступіце з урадам у перагаворы. Ад імя ЦВК. Прасіце адмяніць шэсце казакаў. Менавіта па гэтай прычыне, што Савет баіцца паўтарэння ліпеньскіх падзей. Урад можа пайсці на гэта. Керанскі спалоханы. Здаецца, перанос даты з'езда трохі заспакоіў яго, хоць ваенныя сілы ён, безумоўна, рыхтуе. «Мірныя» перагаворы аб казаках прытупяць яго пільнасць. Ворага трэба перахітрыць.

**Неўскі**. Разумная ідэя. Казацкі ход чырвонагвардзейцы прымаюць як хітрасць урада. І рыхтуюць зброю.

**Ленін**. І будуць стыхійныя выступленні. А іх, паўтараю, нельга дапусціць. Толькі ўсеагульнае паўстанне.

**Падвойскі**. Абавязкова, Уладзімір Ільіч, мы здзейснім вашы парады. Бяру на сябе размову з начальнікам гарнізона Палкоўнікавым. Учора я гаварыў з ім. Мы прынялі рашэнне накіраваць у кожную вайсковую часць камісараў Ваенна- рэвалюцыйнага камітэта. Мы паслалі іх. Але мы хочам большага — правесці іх загадам па гарнізоне. Каб іх распараджэнні былі абавязковымі і для камандзіраў.

**Ленін**. Выдатнае рашэнне! Узор марксісцкай падрыхтоўкі да паўстання. Рэвалюцыйны кантроль над войскам, якое можа хіснуцца. Само па сабе гэта перамога. Каменеў крычыць, што ЦК нічога не зрабіў. Зіноўеў і ён заяўляюць, што мы недаацэньваем сілы праціўніка, што сілы гэтыя большыя, чым нам здаецца, што значная частка на баку ўрада. Ударная сіла ўрада — казакі. Ледзьве не ўся артылерыя веерам размешчана вакол Піцера. Што

ЦВК паможа ўраду прывесці войскі з франтоў. І яшчэ адзін аргумент: ва ўрада — штаб, арганізацыя. Вось якое значэнне надаюць штабу нават спалоханыя штрэйкбрэхеры. Якія звесткі пра сілы ворага і свае мае рэвалюцыйны штаб?

**Падвойскі**. Гарнізон — сто пятьдзесят тысяч чалавек. Большасць яго пад уплывам бальшавікоў, але цалкам могуць выступіць толькі Паўлаўскі, Кексгольмскі, Валынскі, Літоўскі палкі... Яшчэ больш дакладна — адзінаццаць рот. Другая частка гарнізона займае нейтральную пазіцыю. Яны супраць урада, але «страляць у братоў сваіх» не жадаюць. Такія могуць хіснуцца ў той ці іншы бок... У залежнасці ад сітуацыі.

**Ленін**. Самых надзейных камісараў накіруйце ў арсеналы. Каб патроны і снарады выдаваліся толькі па іх распараджэнні. Хто ж ваша ўдарная сіла?

**Антонаў**. Дваццаць тысяч узброеных чырвонагвардзейцаў.

**Ленін**. Мала. Войска — войскам. А наша апора — пралетарскія чырвонагвардзейскія атрады.

**Неўскі**. У ходзе паўстання гэтая сіла абавязкова падвоіцца...

**Ленін**. Вы ўпэўнены?

**Неўскі**. Упэўнены. Выйдзе бадай увесь пралетарыят.

**Ленін**. З каменнем у руках? Думайце, таварышы, каб было як мага менш ахвяр. Сваіх — само сабой. Але і ў войску праціўніка... там тыя ж салдаты. Больш агітацыі! І ультыматумаў! Скажыце... самая рэвалюцыйная сіла — матросы Балтфлота. Можна ўвесці ў Няву цяжкія караблі?

**Неўскі**. Не. Нельга.

**Ленін.** Чаму?

**Антонаў**. Мы агалім фронт перад немцамі... Матросы гэта не зразумеюць.

**Падвойскі.** Не дазволіць фарватэр...

**Неўскі**. І галоўнае... Трэба пачаць з паўстання на флоце... арыштаваць афіцэраў. А хто павядзе караблі? Хто з матросаў умее чытаць карты мінных палёў? Матросы не правядуць караблі праз мінныя палі... І матросы не здолеюць імі камандаваць у выпадку бою.

**Ленін** (задумліва). М-да. Аргумент пераканаўчы. А колькі за два-тры дні можна перавезці матросаў па чыгунцы з Гельсінгфорса, з Выбарга?

**Падвойскі**. Тысячы дзве-тры.

**Ленін** (зноў задумваецца). Мала. Таварыш Неўскі, сёння ж едзьце ў Гельсінгфорс і прывязіце матросаў, скажыце Дыбенку,

Смілзе — самых баявых. І як можна хутчэй. А цяпер падлічым сілы праціўніка. Што ён мае?

**Неўскі**. Колькасна менш.

**Антонаў**. Без тых часцей, якія можна перакінуць з фронту...

**Ленін**. Не даць Керанскаму кінуць на пралетарыят Піцера ніводнай контррэвалюцыйнай часці! Як не далі Карнілаву. Паслаць на ўсе франты, ва ўсе арміі надзейных бальшавікоў! Перадайце гэта ў ЦК, Свярдлову.

**Падвойскі**. Такую пасылку пачалі...

**Ленін**. Не пачынаць... Завяршаць! Сёння ж адаслаць лепшых прапагандыстаў. Даручым гэтую справу вам, Уладзімір Аляксандравіч, і ў палітычным плане. І ў ваенным. Вашы задачы: у дзень паўстання і пасля перамогі не прапусціць у Піцер ніводнай часці, вернай Часоваму ўраду. А што мае Керанскі ў Піцеры?

**Падвойскі**. Сем тысяч юнкераў.

**Антонаў**. Узброеных да зубоў. Фанатычна верных ураду ў сілу свайго сацыяльнага становішча. Тут мае рацыю Зіноўеў... Гатовых біцца да апошняга...

**Ленін**. Але ж гэта — юнакі. Нельга іх хаця б нейтралізаваць? Каб менш крыві.

**Падвойскі**. Не. Гэта фанатыкі. У іх паталагічная нянавісць да бальшавікоў, да прасталюдзінаў. Лягчэй гаварыць з афіцэрамі генштаба. Але разам з афіцэрамі ваенных вучылішчаў генштаба — вялікі рэзерв каманды, якога няма ў нас. Тысячы афіцэраў, якія прайшлі фронт,— гэта сур'ёзная сіла, сярод іх нямала выхадцаў з народа.

**Антонаў**. Дзяцей кулакоў. Будуць біцца, як юнкеры. Толькі больш умела.

**Ленін**. Вы не запалохваеце сябе?

**Падвойскі**. Праціўніка трэба ацэньваць рэальна...

**Ленін**. Правільна. Але ў нас павінна быць пяці... не, дзесяцікратная перавага ў сілах. У тым майстэрства паўстання. І толькі так можна дасягнуць перамогі малай крывёю. А цяпер далажыце ваш план наступлення.

**Падвойскі**. Што вы маеце на ўвазе, Уладзімір Ільіч?

**Ленін**. Перш-наперш генеральную экспазіцыю, размяшчэнне сіл, напрамкі ўдараў...

Члены Ваенкі пераглядваюцца паміж сабой. Яны збянтэжаныя.

**Неўскі**. Вы, Уладзімір Ільіч, патрабуеце ад нас, як ад сапраўднага Генеральнага штаба.

**Ленін**. У вас больш складаная задача. Старыя генштабы маюць аналагі, узоры. Мы іх не маем. Канкрэтна. Хто займае Варшаўскі вакзал? Охцінскі мост? Тэлефонную станцыю? Хто штурмуе Зімні?

**Падвойскі**. Такой распісанай экспазіцыі мы не маем.

**Неўскі**. Яна ў нашых галовах.

**Ленін**. Дрэнна. Мы маглі пачаць учора. У нас засталося два-тры дні. ЦК назначае вас, таварыш Падвойскі, камандуючым усімі сіламі паўстання. У вас будзе сто пасыльных. Так, не менш. Каго куды вы пашляце? Вы помніце ўсе атрады, усіх камандзіраў?

**Антонаў**. Будуць раённыя штабы.

**Ленін**. Так. Але павінна быць агульная каардынацыя. Ніякай стыхіі. Нішто не павінна выйсці з-пад каманды ВРК. Асабліва рабочыя дружыны, атрады Чырвонай гвардыі. Хто там камандзіры? Ведаюць яны тактыку вулічнага бою? Якая іх сувязь з раённым штабам, з заводам? Якую пазіцыю займае раённы Савет? Ці ўсюды кіруюць бальшавікі? У раённых думах нямала буржуазіі. Гэта нельга не ўлічваць. Пры пэўнай сітуацыі буржуазія стане рэзервам Керанскага.

**Антонаў**. Гэта мы разумеем. І ўлічваем.

**Ленін**. І яшчэ адно. Як вы ўяўляеце ролю ВРК?

**Падвойскі**. Як пашыранае бюро ваенных арганізацый пры ЦК партыі.

**Ленін**. Вось гэта і няправільна. Ні ў якім разе не бюро. Бюро створана асобна. ВРК — паўнамоцны, але беспартыйны орган паўстання, які звязаны з самымі шырокімі масамі рабочых і салдат. Не дапускаць дыктатарства ваеннай арганізацыі ў ВРК. Там залішне многа людзей, далёкіх ад ваеннай справы. Галоўная задача ваеннай арганізацыі ЦК сачыць, каб ВРК не ўхіляўся ад бальшавіцкай пазіцыі. Гэта ў першую чаргу палітычны орган паўстання. А ўсімі баявымі аперацыямі павінен кіраваць ВРК. У выніку пераможнага паўстання дзяржаўная ўлада пяройдзе ў рукі ВРК — органа Петраградскага Савета. Вы перадасце яе з'езду Саветаў, які ўтворыць першы Савецкі ўрад. Такі ваенна-палітычны план.

**Падвойскі**. Я сказаў бы стратэгічны план. Вы нам праяснілі і палітычныя і ваенныя аспекты.

**Неўскі**. Ваша ўпэўненасць у перамозе натхняе.

**Ленін**. Кампліменты будзем гаварыць пасля перамогі. А без упэўненасці не варта пачынаць маленькі лакальны бой, а не толькі вялікую рэвалюцыю. Сацыялістычную. Рабоча-сялянскую. Трымайце сувязь са Свярдловым, Дзяржынскім, Урыцкім, Сталіным.

Крытычна стаўцеся да ўказанняў старшыні Петраградскага Савета Троцкага. Ён вельмі актыўны чалавек. Але ў яго дзеяннях не заўсёды прысутнічае цвёрдая бальшавіцкая лінія. Троцкі здольны зрабіць самы нечаканы зігзаг.

**Падвойскі**. Уладзімір Ільіч, а ці не мэтазгодна надрукаваць мільённымі тыражамі дэкрэты аб зямлі, аб міры, аб Савецкай рэспубліцы? Да паўстання.

**Ленін** (весела смяецца). Моцна я вас пераканаў. Не. Спачатку пераможам, а потым будзем друкаваць дэкрэты. Што ж — у добры час. (Паднімаюцца па-ваеннаму.) І яшчэ адна парада. Штаб ВРК перанясіце ў Смольны. На выпадак, калі Керанскі нападзе першым. Смольны, дзе ЦВК, які з Керанскім згоднічаў, куды збіраюцца дэлегаты з'езда, яны штурмаваць не адважацца. Займіце лепшыя пакоі і тэлефоны! Некалькі апаратаў! І караблі ў Няву ўвядзіце. Тыя, якія можна...

**Неўскі**. У дзень паўстання ўвойдуць крэйсер «Аўрора» і эсмінцы.

**Ленін**. Мяне шукайце праз Свярдлова ці Сталіна. Я мушу ўсё яшчэ хавацца.

**Антонаў**. Сёння вас зноў арыштавалі! Чыталі?

**Ленін** (смяецца). У чацвёрты раз. Ах, як шкада таварыша Леніна!

Смяюцца ўсе. Пацiскаюць Леніну руку.

## *9*

Смольны. Пакой ВРК. Тэлефонныя апараты на сталах. Члены ВРК, камісары, сувязныя. Яны ўваходзяць і выходзяць. Крэслаў не хапае. Большасці, сядзяць на падлозе. Тут жа Троцкі, Каменеў— гэтыя людзі імкнуцца быць у цэнтры падзей. Троцкі шчыпае бародку і ходзіць па пакоі з выглядам галоўнакамандуючага.

**Антонаў-Аўсеенка** (гаворыць па тэлефоне). Маскоўскі-Нарвінскі! Маскоўскі-Нарвінскі! Кацюбінскага! Юрый? Няма твайго атрада. Выйшаў? Слухай! Падкінь нам роту кулямётчыкаў. Як дзе ўзяць? Ты ж камісар палка! Камендант раёна! Вазьмі ў сямёнаўцаў! У егераў! Не, нас не атакуюць. Але нам толькі што даставілі загад Керанскага аб арышце Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Май на ўвазе гэта. Яны могуць пачаць з раёнаў. Да вас не сунуцца. На Царскасельскі прыбываюць юнкеры з Паўлаўска? Аддаў каманду заняць вакзал? Чакай, параімся.

**Падвойскі** (на другім тэлефоне). Таварыш Скрыпнік? Так, так, Падвойскі! Тыраж «Рабочего пути» надрукавалі? Развозіце? Не хапае машын? Звярніцеся ў аўтамабільны дывізіён! Там нашы хлопцы! На кожную машыну — узброеных чырвонагвардзейцаў! Што рабіць, калі спыняць юнкеры? Страляць!

Каменеў (узбуджана). Якія каманды вы аддаяце? У каго страляць?

**Падвойскі**. У юнкераў. У Казакаў.

Каменеў. Але ж гэта правакацыя. Гэта сігнал ураду — перайсці ў рашучае наступленне.

**Антонаў**. Урад перайшоў у такое наступленне, калі раніцою разграміў нашу газету. Юны прапаршчык Кацюбінскі правільна гаворыць аб неабходнасці захопу Царскасельскага вакзала, каб не даць Керэнскаму перавезці юнкераў з прыгарадаў.

Каменеў. Менавіта — юны. Захапляецеся, таварышы, захапляецеся. Рэвалюцыя не робіцца бязвусымі юнакамі.

**Падвойскі**. А па-мойму, марудзім. Ільіч патрабаваў у першую чаргу заняць масты і вакзалы. Раз'яднаць сілы праціўніка, паралізаваць. А мы топчамся на месцы.

**Троцкі**. Ленін незразумела спяшаецца. Заўтра адкрываецца з'езд Саветаў. ЦВК вядзе перагаворы з урадам. Засядае Прадпарламент. З'езд прымусіць Керанскага і кампанію перадаць уладу Саветам. У нас абсалютная большасць. Мы правялі рэгістрацыю дэлегатаў. Цяпер усё залежыць ад з'езда. Адзін ратунак — цвёрдая палітыка з'езда. Арышт Часовага ўрада не стаіць на парадку дня як самастойная задача...

**Матрос** (сядзіць у кутку на падлозе). Растапырвай кішэню шырэй. Так табе і паложаць уладу туды. Загад аб арышце ВРК — гэта што, мірная перадача ўлады Саветам? (Да Падвойскага.) Таварыш камандуючы! Давай указанні флоцкаму экіпажу.

**Антонаў**. Выйсці на подступы да Генеральнага штаба і Дварцовай плошчы!

**Каменеў** (узбуджана да Троцкага). Леў Давыдавіч! Па-мойму, гэтыя людзі гуляюць у паўстанне. Як дзеці. Вывесці матросаў да Зімняга, гэта повад для ўрада штурмаваць Смольны. А мне казалі таварышы з ЦВК, што для такога штурму падрыхтаваны пяцьдзесят батальёнаў.

**Матрос** (зняважліва). У страха вочы вялікія.

**Падвойскі**. ЦВК панікуе. Па-першае, дзе ў Керанскага столькі батальёнаў? А па-другое... З ваеннага пункту гледжання гэта абсурд — штурмаваць адзін будынак пяццюдзесяццю батальёнамі. Даволі — двух...

**Каменеў**. Вось-вось — даволі двух, пяці. А што ў нас? У нас нават няма апорнага пункта на «Аўроры» ці эсмінцы, як дамаўляліся.

**Матрос** (у дзвярах папраўляе партупею, з іроніяй). А вы што, сабраліся ўцякаць? У Швецыю?

**Каменеў** (абурана). Таварыш, маё становішча не дазваляе мне адказаць на ваша, прабачце, хамства.

**Матрос**. Рабом быў. А хамам не быў. Да вашага ведама, пан харошы.

Камісары пасміхаюцца. Каменеў яўка адчувае сябе няўтульна.

Троцкі (таксама ўсміхаецца бадай пераможна). Леў Барысавіч! Прытрымайце свае эмоцыі. Наперадзе многа вострых момантаў.

Уваходзіць чырвонагвардзеец з чырвонай стужкай на шапцы, з вінтоўкай, падпяразаны патроннай лентай. Адразу да Падвойскага.

**Чырвонагвардзеец**. Мікалай Ільіч! Загад Палкоўнікава... перахапілі хлопцы... да шаснаццаці нуль-нуль развесці масты. (Перадае паперу.)

**Падвойскі** (чытае загад). Дакуменцік сапраўдны. (Да Антонава-Аўсеенка.) Што скажаш, Уладзімір Аляксандравіч?

**Антонаў**. Гэта сігнал. Яго дае праціўнік.

**Каменеў**. Сігнал да чаго?

**Падвойскі**. Да агульнага наступлення. Па ленінскім плане.

**Троцкі**. Без рашэння ЦК? ВРК — не орган паўстання, ён орган аховы рэвалюцыі.

**Падвойскі**. Рашэнне прынята тыдзень назад. Вы галасавалі за яго. Таварыш Каменеў не галасаваў. І не толькі не галасаваў... Таму выбар моманту для наступлення прадастаўлены Ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту.

**Антонаў** (круціць ручку аднаго тэлефона, другога). Тэлефоны адключаны!

Людзі, што сядзелі на падлозе, як па камандзе падхопліваюцца.

**Падвойскі**. Спакойна, таварышы! Праціўнік хоча раз'яднаць нашы сілы. Не даць развесці ніводнага моста! Лашэвіч! Бяры наш аўтамабіль! Атрад чырвонагвардзейцаў. Прабівайся да сваіх кексгольмцаў! Не даць развесці Мікалаеўскі мост! Калі ўжо разведзены — навесці! Там блізка ад вас «Аўрора». Няхай падыдзе да моста. Яе пушкі працверазяць юнкераў. Пятроў! У Петрапаўлаўку! Няхай бяруць Троіцкі мост. Охцінскі мы ахоўваем надзейна. Там першы запасны полк. Хто ў нас у ім камісар?

Быкаў? Перадайце яму: з Охцінскага раёна каб контррэвалюцыйная мыш не пралезла. Хто з «Арсенала»? За імі — Ліцейны!..

**Каменеў** (Троцкаму). Я патрабую склікання ЦК.

**Антонаў**. Вы ж выйшлі з ЦК.

**Троцкі**. Таварыш Каменеў забраў сваю заяву. К дэмакратычнай партыі могуць быць розныя думкі.

**Падвойскі**. У Генеральнага штаба павінна быць адна думка.

**Каменеў**. Дзе Свярдлоў? Дзе Дзяржынскі? Яны — ваенны цэнтр... (Выходзяць.)

**Антонаў** (Падвойскаму). А што з вакзаламі? Ленін асаблівую ўвагу звяртаў на вакзалы.

**Падвойскі**. Пакуль што пашлём ва ўсе часці загад аб баявой гатоўнасці. Таварышы камісары! Рыхтуйце сувязных!

Камісары акружаюць стол старшыні ВРК.

**Антонаў**. Гэтыя двое... а калі яшчэ і Зіноўеў тут... будуць муціць ваду. Шкада — Ільіча няма. Чаму няма Ільіча?

**Падвойскі**. Я ўжо думаў: а ці не паслаць нам атрад рабочых на аўтамабілях? І прывезці Леніна ў Смольны. Трэба пагаварыць з Дзяржынскім, ён — чалавек дзеяння.

**Фляроўскі.** Даручыце мне з маімі матросамі. Гарантую правадыру рэвалюцыі поўную бяспеку.

**Лацыс.** А я паслаў бы рэзерв камісараў. Давай каманду, Мікалай Ільіч.

**Падвойскі.** Без ЦК не магу. Ды і кватэры не знаю. (Да Бокія.) Глеб Іванавіч! Ідзі пагавары з таварышамі з ЦК, ты там свой чалавек.

Штаб ВРК працуе. Прыходзяць і выходзяць камісары. Зноў паяўляюцца Каменеў і Троцкі.

На авансцэне Крупская і Свярдлоў.

**Крупская** (перадае Свярдлову пакет). Ільіч даручыў тэрмінова перадаць гэтае пісьмо вам і просіць неадкладна пазнаёміць з ім членаў ЦК. Ільіч абураны, што ЦК не дазваляе яму перайсці сюды, у Смольны. Я адчуваю, што нам не ўтрымаць яго. Баюся, што ён ужо ў дарозе. А ў горадзе ўсюды юнкерскія раз'езды. Добра, калі Рах'я застане яго. Прыдумайце што-небудзь, Якаў Міхайлавіч.

**Свярдлоў**. Мы дапусцілі памылку, што не зрабілі гэтага ўдзень. Ільічу трэба быць тут. (Чытае пісьмо.) Ён і адтуль, з Сердабольскай, бачыць, што робіцца ў горадзе і як хістаюцца некаторыя нашы таварышы. Як кажуць, не ў брыво, а ў вока. (Чытае пісьмо.) «...становішча надзвычай крытычнае. Ясней яснага, што цяпер ужо сапраўды прамаруджванне ў паўстанні смерці падобна.

Нельга чакаць! Можна страціць усё!» Ах, як гэта справядліва! Надзежда Канстанцінаўна, перадайце Ільічу, што зробім усё, як ён патрабуе.

**Крупская**. Ён не застанецца ў такі час у падполлі. Ён рвецца сюды.

**Свярдлоў.** Папрасіце пачакаць трохі. Мы пашлём да яго надзейных людзей. Перадайце: ЦВК пакінуў Смольны і прыняў рэзалюцыю ў падтрымку ўрада. Што Ільіч думае пра гэта? Няхай напіша.

**Крупская** (уздыхае). Каб мне толькі паспець.

Шуміць пакой РВК. Прыходзяць і выходзяць пасыльныя. Перадаюць пісьмовыя данясенні. Каротка аддаюцца каманды.

**Пасыльны.** Мікалай Ільіч! Міхайлаўцы ачапілі Фінляндскі вакзал. Ёсць сігнал ад чыгуначнікаў, што чакаюць поезд з казакамі.

**Падвойскі**. Разбіся ў блін, а тэлеграфуй па лініі — у Белавостраў, у Сестрарэцк: поезд затрымаць! Фляроўскі! Ляці з атрадам ў Маскоўскі рэзервовы. Ачысціць вакзал ад юнкераў!

**Фляроўскі**. З боем?

**Падвойскі**. Па магчымасці, бяскроўна. Шкада гэтых бязвусых дурняў.

**Троцкі.** Правільна. Занімаць пазіцыі бяскроўна. Усё іншае — вырашыць з'езд.

**Антонаў**. На вайне так не бывае. Калі адкрыюць агонь па нас — мітынгаваць мы не будзем.

**Каменеў**. Юнкеры не адважацца страляць.

**Падвойскі** (з іроніяй). Вы так думаеце?

Імкліва ўваходзіць Свярдлоў з пісьмом у руках.

**Свярдлоў**. Таварышы! Во адказ Ільіча на хістанні некаторых з нас. (Чытае.) «З усіх сіл пераконваю таварышаў, што цяпер усё вісіць на валаску, што на чарзе стаяць пытанні, якія не нарадамі вырашаюцца, не з'ездамі (хаця б нават з'ездамі Саветаў), а выключна народамі, масай, барацьбой узброеных мас».

**Уншліхт**. Вось гэта па-ленінску!

**Каменеў**. Каму адрасавана пісьмо?

**Свярдлоў**. Членам ЦК.

**Каменеў**. Я патрабую пасяджэння ЦК.

**Свярдлоў**. Сакрэту ад народа Ленін не робіць. Такое пісьмо варта было б прачытаць усім чырвонагвардзейцам, усім рэвалюцыйным салдатам. Во што піша Ленін: «Трэба, каб усе раёны, усе палкі, усе сілы мабілізаваліся зараз жа і паслалі неадкладна дэлегацыі ў Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, у ЦК бальшавікоў,

настойліва патрабуючы: ні ў якім разе не пакідаць улады ў руках Керанскага і кампаніі да 25-га, ніякім чынам; рашыць справу сёння абавязкова ўвечары ці ўначы».

**Лацыс.** А ўжо вечар. А мы чухаем патыліцы. Камандуй, Падвойскі! Людзі рвуцца ў бой!

**Свярдлоў** (чытае). «Гісторыя не даруе прамаруджання рэвалюцыянерам, якія маглі перамагчы сёння (і напэўна перамогуць сёння), рызыкуючы страціць многа заўтра, рызыкуючы страціць усё. Узяўшы ўладу сёння, мы бяром яе не супраць Саветаў, а для іх». (Паказвае на Лацыса.) Таварыш правільна сказаў. Чухаць патыліцы, мітынгаваць няма калі. Камандуйце, таварышы ваенныя! Уладу павінны ўзяць вы! Час настаў! Вось як Ільіч заключае сваё пісьмо. «Урад хістаецца. Трэба дабіць («дабіць» Ленін падкрэслівае трыма рысамі) у што б там ні стала. Прамаруджанне ў выступленні смерці падобна!»

**Чырвонагвардзеец.** Гэта сапраўды па-ленінску! Здорава!

**Троцкі.** Я падтрымліваю ідэю агульнага выступлення.

**Каменеў** (вельмі здзіўлены). Леў Давыдавіч!

**Троцкі**, Леў Барысавіч! Мы павінны ісці наперадзе мас, а то апынёмся ў хвасце.

**Падвойскі**. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт аддае загад аб агульным наступленні. Таварышы камісары! Перадайце задачу сваім пасыльным! Усе — у атрады і палкі.

Камісары і пасыльныя хутка выходзяць. Людзей у пакоі ВРК менш, але ўсё ж нямала. Падвойскі і Антонаў схілены над планам Петраграда. Адзначаюць карандашамі і сцяжкамі пункты і маршруты; працуюць, як належыць камандуючым у час наступлення. Уваходзіць Ленін. Ён у парыку, у кепцы — той жа Канстанцін Пятровіч Іваноў. На яго нейкі час не звяртаюць увагі. Мог бы не звярнуць і Антонаў-Аўсеенка, каб ў дзвярах не з'явіўся Рах’я. Антонаў узіраецца ў «Іванова».

**Антонаў** (здзіўлена і ўзрадавана). Уладзімір Ільіч? Вы? Якім чынам?..

**Ленін**. Ды вось уласнымі нагамі. Самае цяжкае было прайсці ў Смольны. Але скажу вам, таварышы ваенныя, калі будзе такі «парадак» пры ўваходзе ў штаб рэвалюцыі, да вас могуць прабрацца шпікі.

**Падвойскі** (таксама ўзрадаваны, да ўсіх). Таварышы! З намі Ленін!

Хто сядзеў на падлозе і не адразу сцяміў, з кім пачаў размову Антонаў, падхопліваюцца, акружаюць Леніна.

— Уладзімір Ільіч!
— Вы ішлі па Піцеры?
— Як жа вы загрыміраваліся!
— З намі — Ленін!
— Ура — таварышу Леніну!

**Ленін**. Таварышы! Кампліментамі будзем абменьвацца пасля перамогі рэвалюцыі. А зараз за справу! (Падыходзіць да стала, да карты.) Што зроблена ВРК за гэты час?

**Падвойскі**. Намі ўзяты пад кантроль масты…

**Ленін.** Бачыў я, як яны ўзяты. На адным беразе чырвонагвардзейцы, на другім — юнкеры.

**Рах'я.** Юнкерскія раз'езды двойчы спынялі нас.

**Ленін.** Архідрэнна, што цэнтральныя вуліцы пад кантролем урада. Недапушчальна! У нас жа шматкратная перавага ў сілах. Што з вакзаламі?

**Падвойскі**. Фінляндскі мы ўзялі. Толькі што былі веставыя.

**Ленін.** Царскасельскі? Варшаўскі? Ні ў якім разе не дапускаць прыбыцця казацкіх часцей з фронту!

**Антонаў.** Загад пасланы, Уладзімір Ільіч. Чакаем пасыльных. На Варшаўскім наш камісар.

**Ленін** (паказвае на апараты). А тэлефоны навошта?

**Падвойскі**. Тэлефоны адключаны.

**Ленін** (абурана). Як? Да гэтага часу вы не ўзялі станцыі? Недаравальна! Таварышы кіраўнікі РВК! Мы ж з вамі дамовіліся: тэлефон і тэлеграф у першую чаргу ўзяць! Галоўны закон паўстання, неажыццяўленне якога можа дорага каштаваць. Станцыю ўзяць неадкладна! Тэлефоны падключыць! Тэлефоны Зімняга адключыць!

**Падвойскі**. Тэлеграф узяты. Там камандуе Ляшчынскі. Логвінаў! Тут Логвінаў?

**Матрос**. Я!

**Падвойскі**. На крыллях ляці да сваіх! Штурмам бярыце тэлефонную! Толькі далікатна з тэлефаністкамі, а то яны вам наўключаюць.

**Матрос**. Ёсць — узяць тэлефонную станцыю! (Казырае, шчоўкае абцасамі, паварочваецца.)

**Антонаў**. Чакай! Перадай свайму экіпажу, чырвонагвардзейцам! І ўсе, таварышы, перадайце… Паўстаннем кіруе Ленін. Ленін — у Смольным!

**Галасы**: — Правільна!
— Народ павінен ведаць!

— Калі з намі Ленін...

**Ленін**. Будзем рабіць рэвалюцыю без непатрэбных маніфестацый. Поспех паўстання вырашаюць ваенныя сілы. Хто сочыць за дзеяннямі Керанскага?

**Падвойскі**. Свярдлоў ад ЦК. І камісары ВРК. Лазімір, Пэтэрсан...

**Ленін**. Што ў Зімнім?

**Антонаў**. Апошнія паведамленні. На Дварцовай плошчы з'явіліся юнкеры Паўлаўскага і Уладзіміраўскага вучылішчаў. Перахоплена тэлеграма: прыбыць Пецяргофскай і Гатчынскай школам прапаршчыкаў...

**Ленін**. Керанскі сцягвае сілы. А мы? Не маем поўнага кантролю над вакзаламі. Яшчэ раз паўтараю: ніводнага контррэвалюцыйнага эшалона ў Піцер не прапусціць! Ці акружаны Зімні? Якія маем сілы ў гэтым раёне?

**Падвойскі**. Сцягваем лепшыя атрады Чырвонай гвардыі, маракоў.

**Ленін**. Марудна. Час штурмаваць. Ёсць план штурму? Хто дасць сігнал?

**Антонаў**. Петрапаўлаўка — святлом ліхтара. Ці ў выпадку туману — «Аўрора» стрэлам гарматы.

**Ленін**. Тактычныя планы трэба выконваць з ваеннай дакладнасцю! Марыінскі палац і Зімні ўзяць у бліжэйшыя гадзіны! Керанскага і яго міністраў арыштаваць! Таварыш Антонаў! Даручаем гэта вам. Выязджайце да часцей. (Схіляецца над картай.) Пачынайце са штурму штаба ваеннай акругі! Вазьміце яго! Гэта дасць магчымасць захапіць прамыя правады са Стаўкай і штабамі франтоў. Папярэдзьце штабы, што контррэвалюцыйныя часці будуць сустрэты агнём салдат гарнізона і рабочых. Перанясіце ў штаб акругі ваш штаб. І адтуль... адтуль, не са Смольнага — Смольны далёка — камандуйце штурмам Зімняга. І — абавязкова ўзяць банк. Не дапусціць памылкі Парыжскай камуны.

**Антонаў**. Слухаюся, Уладзімір Ільіч. Таварышы камісары! За мной!

Выходзяць. Уваходзіць Свярдлоў.

**Свярдлоў**. Уладзімір Ільіч! Мне сказаў Дзяржынскі: Ленін у Смольным. Я не паверыў. Якім чынам? ЦК усяго гадзіну назад паслаў вам дазвол прыбыць сюды.

**Ленін** (незадаволена). Позна паслалі, Якаў Міхайлавіч. Позна. Маё месца — даўно тут. Члены ЦК у Смольным?

**Свярдлоў.** Большасць тут. Мы яшчэ раніцою прынялі пастанову: без асобага дазволу са Смольнага не выходзіць.

**Ленін**. Каму? (Паказвае на Падвойскага і камісараў ВРК.) Ім?

**Свярдлоў**. Не. Членам ЦК, дзеля іх бяспекі. Керанскі патрабаваў у сваёй прамове ў Прадпарламенце ўсіх арыштаваць — ВРК, бальшавіцкі цэнтр. І ў мэтах аператыўнага збору. Засядае фракцыя з'езда...

**Ленін** (углыблена вывучае план Петраграда, робіць паметкі карандашом. Падвойскі разумее яго без слоў, ківае галавой, згаджаючыся). Так, так, для бяспекі. Гэта правільна. Людзей трэба берагчы. (І як бы схамянуўся.) Не выходзіць — каб кіраваць фракцыяй? Але спачатку пераможам у паўстанні. Гэта — самае галоўнае на бліжэйшыя гадзіны, а не спрэчкі ў фракцыях. А ЦК збярыце, Якаў Міхайлавіч. Абавязкова збярыце. Мы скончым з таварышам Падвойскім распрацоўку аператыўнага плана, гэта справа неадкладная, і я прыйду. У якім пакоі?

**Свярдлоў**. У трыццаць першым, на першым паверсе.

**Ленін** (усміхаецца). Правільна. У гушчы народа. Там, у калідорах, немагчыма прабіцца. (Да Падвойскага.) Мікалай Ільіч! Выводзьце людзей на вуліцу. Ачысціце ад юнкераў раён Смольнага. Ад Ліцейнага нас двойчы спынялі юнкерскія раз'езды. Чаго добрага, яны пачнуць штурмаваць Смольны.

Пустая бакоўка ў дальнім кутку Смольнага. Уваходзяць Ленін і Троцкі. Троцкі нясе салдацкі шынель і невялікую падушку.

**Ленін** (з вясёлай іроніяй). Дзе гэта, Леў Давыдавіч, вам удалося дастаць падушку?

**Троцкі** (гэтак жа весела). Вы забыліся, што мы — у інстытуце «благародных дзявіц».

**Ленін**. Практычны вы чалавек.

**Троцкі**. Падушка для вас, Уладзімір Ільіч.

**Ленін** (збянтэжана). Што вы! Ні ў якім разе. Дзякую, што знайшлі гэты пусты пакой.

**Троцкі**. Падушку раздабыў не я. Стасава. У каменданта Смольнага. Так і сказала: для Ільіча. Нам такі трэба адпачыць хоць гадзіну. Наперадзе — цяжкі дзень.

Рассцілае шынель на падлозе, кладзе на яго падушку.

**Ленін** (ходзіць па пакоі). Наперадзе — шчаслівы дзень. Дзень перамогі рэвалюцыі.

**Троцкі**. Так. Безумоўна. Мяне захапляе ваша ўпэўненасць.

**Ленін**. А я ўсё ж асуджаю вашу пазіцыю. З выступленняў таварышаў у ЦК я зразумеў, чым былі збіты з панталыку... чаму

праяўлялі нерашучасць члены ВРК. Вашым і Каменевым выступленнем у Петраградскім Савеце і ў фракцыі бальшавікоў, што ніякага паўстання няма і што да пачатку з'езда ніякага выступлення не будзе. Калі вы ўводзілі ў зман праціўніка пасля таго, як Каменеў і Зіноўеў выдалі план паўстання,— гэта было апраўдана. А цяпер, калі паўстанне пачалося, нарастае... выступаць так перад Саветам, у якім большасць бальшавікоў,— значыцца дэзарганізоўваць людзей, дэмабілізоўваць іх.

**Троцкі**. Уладзімір Ільіч! Гэта доўгая дыскусія, а нам трэба спаць. Я не лічу сваё выступленне памылковым. Але цяпер я згодзен з вамі, што ўрад трэба арыштаваць да адкрыцця з'езда, каб не даць Керанскаму сабраць сілы.

**Ленін**. Мне здаецца. Каменеў гэтага так і не зразумеў.

**Троцкі** (лажыцца на краі шыняля, накрываецца палітом). Кладзіцеся, Уладзімір Ільіч. Калі заведзены, як механізм, не адчуваеш... А лёг — і пачуў смяртэльную стомленасць.

**Ленін** (спыняецца над ім). Леў Давыдавіч! Вы добры дыпламат...

**Троцкі**. Гэта камплімент ці папрок?

**Ленін**. Лічыце кампліментам. Падключыцеся да перагавораў з левымі эсэрамі. Пераканайце іх — вы гэта ўмееце — каб на з'ездзе яны ўступілі ў кааліцыю з бальшавікамі.

**Троцкі**. Я гаварыў з Камковым. Залішне дыпламатнічае. Перагавару са Спірыдонавай... Але будзе дзень — будуць справы. Кладзіцеся.

Ленін скідае з плеч паліто, сядае на шынель.

**Ленін**. Так, паспаць трэба. Але гадзінку — не больш.

**Троцкі**. Рэвалюцыі не праспім.

**Ленін**. А, ведаеце, маглі праспаць.

**Троцкі** (смяецца). Пазнаю ваш гумар, знаёмы з Парыжа.

Паўза. Троцкі паварочваецца тварам да Леніна.

Ленін не лажыцца — сядзіць.

Уладзімір Ільіч! У другой палавіне пасяджэння ЦК мы абмяркуем склад урада. Так?

**Ленін**. Так. Урада і ЦВК. Архіцяжкае пытанне. Урад мы прапануем бальшавіцкі. А Выканаўчы камітэт... Перад выбарамі ва Устаноўчы сход мы не можам не лічыцца з іншымі партыямі...

**Троцкі**. Я прапаную на пасаду старшыні ЦВК Каменева.

**Ленін** (перасмыкаецца). Штрэйкбрэхера?

**Троцкі**. Хто з нас не памыляўся!

**Ленін**. У правядзенні палітыкі партыі нельга памыляцца! ЦК прыняў рашэнне, а два яе члены... Іх здраду мы адчуваем і сёння. Я буду галасаваць супраць Каменева. І заклікаю таварышаў.

**Троцкі** (пасля паўзы, цяжка ўздыхнуўшы). У такім разе мы вымушаны будзем выйсці з ЦК і не ўваходзіць ва ўрад.

**Ленін** (з рашучым гневам). Хто мы?

**Троцкі**. Зіноўеў, Каменеў, Іофе... Я кажу і ад іх імя.

**Ленін** (працягла і цяжка маўчыць). Гэта што — ультыматум?

**Троцкі** (пераможна). Не, гэта даверлівая таварыская размова. Калі хочаце — прапанова кампрамісу. Каменева падтрымаюць дэлегаты іншых партый... Гэтага нельга не ўлічваць.

**Ленін** (стомлена). Я ніколі не ішоў на такія кампрамісы.

**Троцкі** (зноў пераможна). Іншы час. Мы—не ў эміграцыі. Мы бяром уладу.

**Ленін** (перадае Троцкаму падушку). Спіце. А я пайду папрацую. Над дэкрэтамі аб зямлі.

Імклівы паднімаецца. Накідвае паліто на плечы. Выходзіць. Троцкі сядзіць на падлозе. Глядзіць услед Леніну, на твары яго — незразумелая ўсмешка.

**Гісторык**. Прабыў Каменеў на высокай пасадзе старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саветаў роўна два тыдні. У крытычны момант наступлення Керанскага, юнкерскага мяцяжу ў сталіцы і жорсткіх баёў у Маскве Вікжэль (саюз чыгуначнікаў), пагражаючы забастоўкай, ультыматыўна патрабаваў стварыць новы ўрад з удзелам усіх дэмакратычных партый — «ад бальшавікоў да народных сацыялістаў уключна». Гэта значыла.— з удзелам меншавікоў, правых эсэраў і ўсіх тых, што памагалі контррэвалюцыі, Керанскаму. І «бальшавік» у двукоссі — Каменеў, Зіноўеў, Разанаў, Ракаў, Нагін падтрымалі гэтае патрабаванне, выступілі за стварэнне так званага «аднароднага сацыялістычнага ўрада». Меншавікі і эсэры, акрыленыя падтрымкай згоднікаў, патрабавалі спыніць супраціўленне войскам Керанскага, утварыць урад без Леніна і... Троцкага.

Што датычыць Троцкага, то гэта было не што іншае, як тактычны ход. Сам Троцкі і яго сябры рабілі ўсё, каб імя Троцкага звязвалася з Леніным. Такім чынам Троцкаму стваралася папулярнасць у рабочых і сялян.

Ленін, ЦК партыі бальшавікоў рашуча выступілі супраць контррэвалюцыйнага плана згоднікаў. Апазіцыя пагарэла. У гэты раз Каменеў вымушаны быў выйсці з ЦК. На пасаду старшыні ЦВК Ленін прапанаваў Свярдлова.

Пакой Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Раніца 25 кастрычніка. Камандуюць Падвойскі і яго памочнікі. Звіняць тэлефоны. Снуюць людзі.

Уваходзіць Ленін.

**Ленін**. Зімні ўзялі?

**Падвойскі**. Не, Уладзімір Ільіч. Але палац поўнасцю абкружаны чырвонагвардзейцамі, матросамі, салдатамі. Юнкеры выціснуты з Дварцовага моста. Як бачыце, тэлефонная станцыя ў нас. Банк таксама. І галоўная электрастанцыя сталіцы. Толькі што пазваніў Антонаў: заняў Адміралцейства. «Аўрора» падышла да Мікалаеўскага моста. Гарматы яе нацэлены на Зімні.

**Ленін**. Што думаеце рабіць?

**Падвойскі**. Мы можам узяць Зімні ў бліжэйшыя гадзіны. Але... біць з гармат па Зімнім... Не магу, Уладзімір Ільіч! Такі помнік...

**Ленін** (задумліва ходзіць па пакоі). М-да... помнікі трэба зберагчы.

**Падвойскі**. А потым яшчэ гэтыя жанчыны... Зімні абараняе жаночы батальён... Перастраляць іх?!

**Чырвонагвардзеец.** Дакаціліся. Прыкрываюць сябе бабамі.

**Ленін**. М-да... Гэта апошняя нізасць Керанскага.

**Падвойскі**. Я прапаную прад'явіць ураду ультыматум.

**Ленін**. Быломуураду. З гэтага моманту дзяржаўная ўлада знаходзіцца ў руках Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. (Перадае Падвойскаму ліст паперы.) Прачытайце. Падпішыце гэты гістарычны дакумент. І дзейнічайце, таварыш Падвойскі, з усёй адказнасцю за паўнату ўлады, якую вы ўзялі ў свае рукі.

Звініць тэлефон. Матрос перадае трубку Падвойскаму. Той моўчкі выслухоўвае.

**Падвойскі** (Леніну). З Дварцовай плошчы. У Зімні прайшла машына амерыканскага пасольства. Пытаюць: што рабіць?

**Ленін** (адрываецца ад паперы). Амерыканскага? Няма сумнення: сусветная буржуазія шукае магчымасць, як ўратаваць свайго стаўленіка. Не выключаю, што на гэтай машыне ўцячэ Керанскі.

**Камісар**. Не пакіне ён Зімні. У яго многа гонару.

**Ленін**. Гонар у чалавека, які гнаў на смерць мільёны людзей, які ўвёў смяротную кару? Не, у буржуа няма гонару! Але... таварыш Падвойскі, дайце... абавязкова дайце ўказанне: пасольствы ахоўваць, пасольскія машыны не спыняць! Нікому не даць падставы кінуць цень на сацыялістычную рэвалюцыю, на пралетарыят.

**Падвойскі**. Раённым РВК такое ўказанне дадзена. Імкліва ўваходзіць маладзенькі чырвонагвардзеец.

**Юнак** (ад дзвярэй, па-дзіцячаму шумна). Хто тут галоўны?

**Падвойскі**. А ў чым справа, таварыш?

**Юнак.** Тэлефонную станцыю мы ўзялі, а тэлефаністкі хочуць абвясціць забастоўку. Іх двое сутак не кармілі.

**Ленін** (Падвойскаму). Мікалай Ільіч! Хто ў нас займаецца харчаваннем? Мілюцін? Я напішу вам, таварыш, запіску. Тэлефаністак накорміць абавязкова. (Хутка піша. Перадае чырвонагвардзейцу.)

**Юнак** (з цяжкасцю, амаль па складах, павольна чытае). «Падацелю сяго адпусціць пяцьсот буханак хлеба... два мяшкі цукру, два фунты чаю. У. Ленін». (Страшэнна здзіўлены.) Ленін? Вы Ленін?! (Паварочваецца, па-хлапецку падскоквае. Адчыніўшы дзверы, крычыць на ўвесь Смольны.) Таварышы! Ленін! Тут Ленін! У мяне пісьмо Леніна! Ленін (пасміхаецца). Наша будучыня.

Ленін, Свярдлоў, Падвойскі ў суседнім пакоі ля тэлеграфнага апарата. За апаратам — матрос.

**Ленін** (Падвойскаму). На «Аўрору» пашліце пасыльнага. Каб перадалі зварот па радыё. (Да тэлеграфіста.) Перадавайце... па ўсіх лініях. У Маскву. Ва ўсе губерні. Фронту. Усім. Усім. Дыктую. «Да грамадзян Расіі!

Часовы ўрад звергнуты. Дзяржаўная ўлада перайшла ў рукі органа Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў — Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, які стаіць на чале петраградскага пралетарыяту і гарнізона. Справа, за якую змагаўся народ: неадкладная прапанова дэмакратычнага міру, адмена памешчыцкай уласнасці на зямлю, рабочы кантроль над вытворчасцю, стварэнне Савецкага ўрада, гэтая справа забяспечана.

Няхай жыве рэвалюцыя рабочых, салдат і сялян!»

Стук мноства тэлеграфных апаратаў. Паволі іх заглушае музыка «Інтэрнацыяналу». Яна нарастае.

# БЕЗ ПРАВА НА АДПАЧЫНАК

Не ведаю, як у іншых, а ў мяне такое адчуванне, што некаторы час хочацца нічога не чытаць. Настолькі моцнае ўражанне ад аповесці «Ахвяры», так кранула яна душу сваёй непрыхаванай, аголенай праўдай, што, здаецца, па сіле свайго ўздзеяння нешта падобнае ў літаратуры знайсці проста немагчыма.

Зразумела, пра сталінізм, яго спланаваную, прадуманую сістэму знішчэння не толькі асобных людзей, а і нават цэлых народаў у апошні час напісана нямала. З'явілася аповесць Васіля Быкава «Аблава», успаміны тых, хто на ўласным лёсе адчуў, што такое няміласць «правадыра ўсіх народаў» і яго акружэння. Але ў гэтых творах расказваецца пра мірны час. Таксама страшны, але ўсё ж мірны. У аповесці ж Івана Шамякіна — вайна, барацьба ідзе не на жыццё, а на смерць з фашызмам, вырашаецца, быць ці не быць сацыялізму, існаваць краіне ці знаходзіцца пад ярмом, а тут яшчэ сталінска-берыеўскі апарат з гэткай жа паслядоўнасцю, жорсткасцю, замест таго каб выкрываць гітлераўцаў, знішчае партызан, падпольшчыкаў. Калі злачынства было ў трыццатыя гады, дык у пачатку саракавых злачынства ўдвая, утрая большае.

Цяжка, немагчыма было б у падобнае паверыць, каб пра гэта не сведчылі архівы. Каб пра гэта не расказаў І. Шамякін. Нетаропка размотваючы клубок людскіх лёсаў, заглыбляючыся ў псіхалогію, як абаронцаў Радзімы, так і тых, хто, прыкрываючыся гучнымі словамі аб рэвалюцыйным абавязку, класавым падыходзе, пільнасці, на самой справе вяршыў зло. Супраць фактаў не пойдзеш: Золатаў, засланы ў тыл са спецыяльным заданнем, самы што ні ёсць вораг. Нават больш страшны, чым фашысты. Знаходзіцца поруч, у самім партызанскім атрадзе Аляксея Іванавіча Мана. Сочыць ледзь не за кожным крокам, віжуе... Прагне неабдымнай улады...

Наколькі можа адстойвае праўду і справядлівасць Ман — чалавек выключнай чысціні, абаяльны дабрынёй, якая так і лучыцца ад яго. Вобраз гэты — не толькі мастакоўская ўдача І. Шамякіна, а і дасягненне ўсёй беларускай літаратуры, якая дагэтуль вельмі ж прывыкла паказваць ледзь не «звышгерояў». Аднак, здавалася б, зусім не гераічны Ман — адзін з многіх партызанскіх камандзіраў, на кім, уласна кажучы, і трымаўся народны дух, бо людзі, падобныя Ману, менш за ўсё дбалі аб асабістых выгодах. Галоўным для іх была баяздольнасць атрада.

Золатаў, хоць і спрабуе падначаліць сабе Мана, адчувае, што яму трапіўся моцны арэшак. Асечка атрымалася ўжо тады, калі энка- вэдыст паспрабаваў узяць кіраўніцтва атрадам у свае рукі. На бок Мана адразу стаў Брагінскі.

Сам Аляксей Іванавіч, праўда, прамаўчаў, але «холад манаўскіх вачэй спалохаў Золатава: усё-такі за Манам семдзесят чалавек, а ў яго, Золатава, чацвёра засталося...».

Асечка, ды яшчэ якая! «Якаў Міхайлавіч ненавідзеў псіхалагічныя тонкасці, людзей ненавідзеў, якіх цяжка «раскусіць», расшчапіць на клеткі». З боку ж Мана — не тое што непавага, а адкрытае супраціўленне. Выкрываючы «псіхалагізм» аднаго з прываднык рамянёў сталінскай машыны насілля, І. Шамякін паказвае, што Золатаў і яму падобныя скоўвалі дзейнасць партызанскіх атрадаў і падпольных груп, знішчалі, як правіла, самых мужных і адданых байцоў.

Аповесць пастаянна трымае ў напружанні. Сюжэт скампанаваны проста па-майстэрску. Прыгодніцкія элементы, аднак, не перашкаджаюць пісьменніку заставацца тонкім аналітыкам, псіхолагам. І сама напружанасць у творы псіхалагічная. Гэта ў немалой ступені тычыцца і дзейнасці падпольшчыка Стася Шабовіча, які і стаў ахвярай Золатава.

Аповесць «Ахвяры» — з твораў, якія выклікаюць на роздум. І не толькі на звычайны чытацкі роздум, што ўзнікае пасля знаёмства з новым творам, а роздум, я б сказаў, грамадска-сацыяльнага, палітычнага зместу. Разам з І. Шамякіным хочацца шукаць і шукаць адказ, як і чаму здарылася, што ў вайну людзі гінулі не толькі ад кулі ворага...

Для кожнага сапраўднага пісьменніка, безумоўна, не бывае і не можа быць тэм «старых» і «новых». І ўсё ж асаблівай павагі (пры наяўнасці таленту як першаасновы) заслугоўваюць літаратары, якія выступаюць першапраходцамі, смела ступаюць на жыццёвы цалік. Гэта якраз і зрабіў І. Шамякін у аповесці «Ахвяры». Другая яго аповесць «Драма» — таксама аператыўнае пісьменніцкае слова па надзённых праблемах. Яна напісана пад знакам абнаўлення, актыўнага ўмяшання літаратуры ў сучаснасць.

«Драма» — калі не памыляюся — першая беларуская аповесць аб перабудове. Хоць сёння нямала знаходзіцца тых, хто мяркуе, што мастацкія творы не павінны пісацца, як нейкі водгук на канкрэтныя падзеі, няма сумнення — яны, калі сапраўды высокамастацкія, патрэбны. Аповесць жа «Драма» да такіх твораў і належыць. Напісана яна не па сацыяльным заказе, а заказе,

вобразна кажучы, сумлення пісьменніка, які, не чакаючы, не адкладваючы на заўтрашні дзень, сказаў сваё слова аб тым, што яго найбольш хвалюе.

Слова І. Шамякіна і на гэты раз і публіцыстычна-страснае, і засяроджана-аб'ектыўнае, і пранікнёна-шчырае, калі ён гаворыць, як павевы часу ўрываюцца ў лёсы людзей, прымушаючы іх многае перайначваць і ў сваіх поглядах, і ў ранейшых пазіцыях. Хоць у аповесці нямала персанажаў, падзеі, што адбываюцца ў ёй, у асноўным згрупаваны вакол двух герояў — Васіля Васільевіча Ліхача і Алы Уладзіславаўны Наліцкай, якія знаёмы яшчэ з часоў студэнцтва, нават калісь мелі адно да аднаго сімпатыі.

Аднак калі Ліхач, які хоць цалкам і не пазбавіўся ў сваёй дзейнасці валявых метадаў, разумее значнасць змен, што адбываюцца ў жыцці грамадства, дык Наліцкая, розумам успрымаючы важнасць іх, застаецца ранейшым адміністратарам. Дарэчы, пра яе дакладна сказаў той жа Ліхач: «...у яе нейкая генеральская псіхалогія. Ты знаеш, гэта нават кар'ерызмам не назавеш. Яе задавальняе толькі адно: каб усе маршыравалі. І сама таксама. Але каб яна наперадзе».

А гэта прызнанне самой Наліцкай: «Ох, нялёгкі лёс у партыйнага кіраўніка — у гэты незвычайны, хоць і цікавы, час дэмакратыі і галоснасці. Але ж і дэмакратыяй трэба кіраваць, а інакш яна можа перарасці ў анархію». Ліхач, вылучыўшы сваю кандыдатуру, становіцца кіраўніком сучаснага прадпрыемства, узваліўшы на свае плечы ўвесь цяжар адказнасці. Адказнасць Наліцкай часта не ідзе далей звычайнай лозунгавасці.

Відаць, не адна з апошніх прычын рацыяналізму Алы Уладзіславаўны — дыктатарства ва ўзаемаадносінах не толькі з падначаленымі, але і з таварышамі, у тым, што яна абдзелена шчасцем у асабістым жыцці. Трыццаціпяцігадовая Наліцкая нагадвае сабой кветку, якая пакуль што прыгожая, але ўжо нельга не заўважыць, як яна пачынае вянуць.

І. Шамякін падрабязна ўзнаўляе пра перажыванні сваёй гераіні, імкнучыся спасцігнуць сутнасць унутраных перажыванняў так званай дзелавой жанчыны, хаця, месцамі, магчыма, залішне пераносіць увагу на інтымнае, чаго Наліцкай у жыцці якраз і не хапае. Але ж, як кажуць, супраць самой прыроды не пойдзеш. Нават «жалезная» Наліцкая ў хвіліны перажыванняў, калі застаецца сам-насам са сваімі думкамі, з пачуццём, якое не знаходзіць узаемнасці, нагадвае звычайную жанчыну, якой хочацца, каб побач знаходзіўся каханы чалавек, была сям'я, дзіця.

Да гэтых твораў хораша стасуецца «Стратэгія», жанр якой пісьменнік пазначыў, як «гістарычныя сцэны». І. Шамякін не ўпершыню звяртаецца да вобраза Уладзіміра Ільіча Леніна. Правадыру рэвалюцыі, яго саратнікам ён прысвяціў некалькі апавяданняў, аповесці «Першы генерал», «Браняпоезд «Таварыш Ленін», кінааповесць «Эшалон не прайшоў». На поўную моц тэма Леніна, рэвалюцыі загучала і ў рамане «Петраград — Брэст», у якім аўтару, як нікому да яго, удалося псіхалагічна-заглыблена, гістарычна-дакладна спасцігнуць падзеі першых гадоў рэвалюцыі, найперш тыя, што тычыліся падпісання Брэсцкага мірнага дагавору.

На фоне гэтых твораў «Стратэгія» не губляецца. Думаецца, невыпадкова, у час рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства, І. Шамякін зноў звярнуўся да Леніна. Не сакрэт, што сёння сярод літаратараў знаходзіцца нямала ахвочых прынізіць ролю Леніна ў кастрычніцкіх падзеях 1917 года, ды і падзеі гэтыя — даходзіць і да падобнага кашчунства — падаць ледзь не выпадковымі, а то і непатрэбнымі.

«Стратэгія» напісана як бы ў супрацьлегласць падобным «звышрэвалюцыйным» творам. Застаючыся верным аб'ектывізаванай манеры пісьма, аўтар не збіраецца адыходзіць ад Леніна, нават з самых лепшых намераў не асучаснівае яго. Для І. Шамякіна — галоўнае самі факты. Таму часта выкарыстоўвае ён дакументы рэвалюцыйных гадоў.

Новай кнігай народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін (нарадзіўся 30 студзеня 1921 года ў вёсцы Карма Добрушскага раёна) сустракае сваё сямідзесяцігоддзе. За спіной яго нямала пройдзеных жыццёвых дарог, у тым ліку Вялікая Айчынная вайна, у час якой І. Шамякін спачатку камандаваў гарматай, а потым быў камсоргам дывізіёна, удзельнічаў у баях пад Мурманскам, у вызваленні Польшчы, дайшоў да Одэра. Падзеі гэтыя знайшлі адлюстраванне на старонках рамана «Зеніт». Пасляваенны час — таксама напружаныя будні. Настаўнічаў у вёсцы Пракопаўка былога Церахоўскага раёна і адначасова завочна вучыўся ў Гомельскім педагагічным інстытуце.

Пасля заканчэння Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КПБ І. Шамякін рэдагаваў альманах «Советская Отчизна» (цяпер часопіс «Нёман»). З 1954 года працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў Беларусі, у апошні час з'яўляючыся першым сакратаром праўлення СП БССР. Ды і цяпер пасада ў І. Шамякіна надзіва турботная — ён галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Да ўсяго ж

пісьменнік прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. З'яўляецца членам ЦК КПБ, доўгі час быў старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

Вядома, усё гэта адбірала ды і цяпер адбірае шмат часу. Аднак, нягледзячы на занятасць, І. Шамякін працуе вельмі плённа. На яго рахунку дзесяткі кніг, выдадзеных як на беларускай мове, так і ў перакладах на мовы народаў СССР, замежныя мовы. Як на беларускай, так і на рускай мове выходзілі Зборы твораў у шасці тамах. Пачынаючы з першага надрукаванага апавядання «У снежнай пустыні», пісьменнік, як правіла, асноўную ўвагу звяртае на выключныя сітуацыі, разумеючы, што менавіта ў іх чалавек раскрываецца сваімі асноўнымі якасцямі.

Важкія набыткі І. Шамякіна ў асэнсаванні тэмы вайны. У першай ужо аповесці «Помста» ён глянуў на перажытае народам у маральным аспекце. Галоўны герой твора маёр Раманенка, які ў павержанай Германіі знайшоў сям'ю каменданта, забойцу яго жонкі, не можа выканаць прысуд. «Для мяне дзеці ёсць дзеці, хоць яны і дзеці ката» — за гэтымі словамі Раманенкі сапраўдны савецкі гуманізм, не растрачаны і на лютых дарогах вайны.

З'явай у пасляваеннай літаратуры стаў раман «Глыбокая плынь» — адна з першых старонак мастацкага летапісу барацьбы беларускага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Аб значнасці твора яскрава сведчыць тое, што ў 1951 годзе трыццацігадоваму аўтару за гэты твор была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Шамякінаўскае разуменне вайны — гэта і пенталогія «Трывожнае шчасце» — найбольш аўтабіяграфічны твор пісьменніка, і аповесці «Шлюбная ноч», «Гандлярка і паэт», ужо згаданы раман «Зеніт», і некаторыя апавяданні. Аднак ваеннае водгулле гучыць і ў шмат якіх творах І. Шамякіна аб сучаснасці. Напрыклад, у рамане «Сэрца на далоні», у якім пісьменнік адначасова адным з першых у беларускай літаратуры звярнуўся да асэнсавання культу асобы Сталіна.

Раман з'явіўся ў 1963 годзе, калі паступова адліжныя хрушчоўскія вятры слаблі, але цікавасць да тых падзей была вялікая. Рэзананс твора быў вялікі. Многія памятаюць, як за гэтай кнігай І. Шамякіна ля цэнтральнай кнігарні ў Мінску выстрайваліся доўгія чэргі, як паўсюдна праходзілі чытацкія канферэнцыі. Актыўна на раман адгукнулася крытыка, у тым ліку ўсесаюзная, адзначаючы высокае майстэрства аўтара.

«Сэрца на далоні», аднак, было не першым словам пісьменніка пра хвалюючую яго сучаснасць. Яшчэ ў рамане «У добры час» (1952) І. Шамякін праўдзіва адлюстраваў пасляваенную рэчаіснасць, адмовіўшыся ад лакіроўкі, так характэрнай для літаратуры тых гадоў. Вобраз Максіма Лескаўца стаў увасабленнем партыйца, па-сапраўднаму звязанага з жыццём народа, які выступаў, па сённяшніх меркаваннях, супраць камандных метадаў кіраўніцтва. У наступным рамане «Крыніцы» (1957) І. Шамякін выкрыў такую ганебную з'яву, як барадкаўшчына. Адзін з персанажаў твора першы сакратар райкома партыі Арцём Захаравіч Барадка — сацыяльны тып свайго часу. Менавіта Барадка і яму падобныя падрывалі сваёй амаральнасцю асновы сацыялізму, дыскрэдытавалі яго як сацыяльны лад.

Востра сучасным атрымаўся і раман «Атланты і карыятыды», у якім пісьменнік закрануў праблемы горадабудаўніцтва. Аднак праблемы праблемамі, а на першым плане ў пісьменніка неардынарныя лёсы, тое, чым жыве сучасны горад. Як заўсёды, у І. Шамякіна — вострыя сітуацыі, нечаканыя сюжэтныя калізіі і тая шматгранная абмалёўка характараў, калі чалавек паўстае буйным планам. Не, не станоўчым героем, як таго доўгі час хацелася крытыкам, а самым што ні ёсць звычайным чалавекам — як у жыцці, як у паўсядзённасці.

У тэатрах краіны ідуць спектаклі, пастаўленыя па п'есах І. Шамякіна «Экзамен на восень», «І змоўклі птушкі», «Дзеці аднаго дома» і іншых. Па яго сцэнарыях зняты мастацкія фільмы. Няблага выявіў сябе пісьменнік і ў галіне публіцыстыкі — кнігі «Размова з чытачом», «Карэнні і галіны».

Здавалася б, і адпачыць крыху можна, ды І. Шамякін па-ранейшаму і ў жыцці, і ў творчасці нястомны, няўрымслівы. На яго рабочым стале — старонкі чарговага рамана. Задума з'явілася пасля таго, як пісьменнік неаднойчы пабываў у мясцінах, якія адчулі на сабе ўздзеянне чарнобыльскай трагедыі. Хто, калі не ён, пра гэта можа расказаць, каму, як не яму — улюбёнаму ў роднае Палессе, ва ўсю Беларусь- маці — сказаць тут сваё, па-шамякінску прынцыповае і сумленнае слова.

Заканчваецца раман... Прыспешвае і час, прыспешваюць і новыя задумкі.

Сапраўдны талент не мае права на адпачынак.

Алесь Марціновіч

# З М Е С Т



Шамякін І.

Драма: Аповесці, гіст. сцэны.— Мн.: Маст. літ., І 990.— 334 с.: іл.

ISBN 5-340-00444-9.

Шамякин И. Драма: Повести, ист. сцены.

Новую кнігу народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна склалі аповесці «Ахвяры», «Драма» і п'еса «Стратэгія». У «Ахвярах» расказваецца пра трагічны лёс падпольшчыка Шабовіча, які трапіў у рукі сталінскага энкавэдыста. «Драма» — пра складанасці перабудовы, пра ломку псіхалогіі людзей ва ўмовах дэмакратыі і галоснасці. У цэнтры «Стратэгіі» — рэвалюцыйныя падзеі ў Петраградзе напярэдадні перамогі Кастрычніка.